Г. Ф. ЮРЧАНКА

# І КОЦІЦЦА І ВАЛІЦЦА

## УСТОЙЛІВЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ Ў ГАВОРЦЫ МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ





ВЫДАВЕЦТВА „НАВУКА І ТЭХНІКА“ МІНСК 1972

Ю83
4с(Бел.)

Рэдактар
кандыдат філалагічных навук
А. А. КРЫВІЦКІ

**Юрчанка Г. Ф.**

Ю83 І коціцца і валіцца (Устойлівыя словазлучэнні ў гаворцы Мсціслаўшчыны). Мн., «Навука і тэхніка», 1972.

288 с. 1100 экз. 70 к.

У кнізе падаюцца і тлумачацца ўстойлівыя словазлучэнні (фразеалагізмы), сабраныя ва ўсходняй частцы Магілёўскай вобл.— на Мсціслаўшчыне, на мяжы непасрэдных кантактаў сучасных рускіх і беларускіх гаворак. Кожнае словазлучэнне прыводзіцца ў кантэксце. Усяго пададзена звыш 5300 устойлівых адзінак, з іх 1330 рэестравых. У канцы змешчан слоўнік дыялектных слоў з ілюстрацыйных прыкладаў.

7-1-5
61-72

4с(Бел)

# ПРАДМОВА

**І коціцца і валіцца...** На параўнальна невялікай тэрыторыі бытуе гэта выслоўе. Далёка не кожны беларус адкажа, што яно азначае. А на Мсціслаўшчыне гэты выраз можна пачуць досыць часта. *А чаго ім беспакоіцца дужа, жывуць — у іх і коціцца і валіцца ўсяго чыста. Што ж ты,— мадзееш, з быка на індыка перабіваешся, вун у суседа і коціцца і валіцца: рукі прылажыць умее. Ні разу не праспаў, не пралежаў, пра сям'ю думаў, адтаго і коціцца і валіцца ўсяго ўсякага.* Выраз гэты азначае поўны дастатак, матэрыяльную незалежнасць і ўжываецца звычайна з адзнакай добрай зайздрасці, адабрэння ці пахвалы. На Мсціслаўшчыне, як і ўсюды ў нас, на Беларусі, любяць яркае, трапнае слова, дасціпны выраз. У дзелавой размове і ў жартах, за святочным сталом і на калгасным сходзе, у пахвале і асуджэнні, у гневе і радасці мсціслаўцы не абыходзяцца без такіх важкіх і ёмістых выслоўяў, якія ў навуковай лінгвістычнай літаратуры атрымалі назву фразеалагізмаў. Гутарка мясцовых жыхароў літаральна перасыпана вобразнымі характарыстыкамі, жывымі і яркімі словамі і іх спалучэннямі. Пра жанчыну, якая ўмее дасціпна адгукнуцца на любыя закіды і ў адказ на кожнае адрасаванае ёй слова пашле дзесяць уласных, скажуць, што яна *і сячэ і паліць* (у вымаўленні *і сякець і паліць*). Жартоўнае *купіла прытупіла* азначае, што ў некага «купілы», гэта значыць грошай, няма ці не хапае якраз у патрэбны момант. Дабрадушны, лагодны чалавек, які хоча паказацца грозным, неўтаймоўным,— гэта ў іранічным або жартоўным вызначэнні не хто іншы, як яшчэ *мікалаеўскі бандыт*. Пра хітруна, што прыкідваецца працяком, пачуеш, што яму *мазкі не адбіла.* Няроўныя ўмовы жыцця розных людзей характарызуюцца так: *каму годзя, каму глодзя.* Калі ў некага штосьці не атрымліваецца ў справах ці жыцці, значыць, у яго *не куецца і не плешчацца* або *не куецца,*

*толькі плешчацца.* Той, хто надта шкадуе, раскайваецца, перажывае, *есць губы і зубы.* Зусім слабы, хворы—*не жыцель не радзіцель.* Абсалютнае няведанне вызначаецца выразам *ні сном ні духам.* Той, хто прыкметна паспытаў спіртнога, безумоўна, *на пробку наступіў.* Калі камусьці ніяк нельга дагадзіць, значыць яму ўсё *ні ў чэсць ні ў ласку* ці *не слава богу.* Калі моцна сарамацяць, дык *б'юць па вачах.* Хоць мацярынства наогул паважаецца глыбока, але калі *пуза на нос дзярэцца,* гэта ў адрас будучай маці, асабліва незамужняй, гучыць надзвычай непахвальна. Пра зусім бесталковага з рэзкім асуджэннем скажуць, што ў яго хапае здатнасці толькі *на пень брахаць, на калоду тукаць.* І пэўна ж ніхто не захоча, каб, чакаючы або ўспамінаючы яго, *званілі ў разбіты лапаць.* Добрая, спрытная танцорка *б'е дробі*; нехлямяжы з выгляду, але разумны *не кыш варона;* настырныя, напорыстыя *бяруць бацьку за бараду* і нават могуць *узяць бога за бараду*; дзяўчына, што выйшла замуж па-суседску ці ў сваёй вёсцы, *і ў двары і замужам;* неспакойны сядзіць *як на вінтах;* жанчына-няўмека *не шые, не порыць*; аматар да спіртнога *не пралье;* зламыснік *грэе грэнку,* а ў распусніка *рогі параслі.*

*Дух раняць, хадзіць ханалём, не вярста, не ў часці, пацалаваць у прабой, кожа гарыць, на карон, не чорт бяды, ні то ні два, ні ў голавы ні падасланы, елькіна ахрана, на след не наступаць* і шмат іншых не менш яркіх, вобразных, каларытных выразаў гучаць літаральна на кожным кроку.

Тут змешчаны фразеалагізмы, што занатаваны галоўным чынам у вёсках Чырвонагорскага сельсавета Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Многія з іх, відаць, вузкамясцовыя, рэгіянальныя. Але ёсць і больш або менш агульнавядомыя. Адсеяць, адабраць толькі мясцовае ў бытуючай фразеалогіі той ці іншай гаворкі зараз яшчэ досыць цяжка. Ды і калі ўважліва прыглядзецца да вядомых фразеалагізмаў і іх ужывання ў гутарцы мясцовых жыхароў адзначанага кутка Мсціслаўшчыны, можна заўважыць нямала новага, арыгінальнага і цікавага. Агульнавядома, напрыклад, устойлівае словазлучэнне *галаву кружыць.* А між тым тут яно выступае ў многіх варыянтах, некаторыя з якіх, магчыма, невядомы ў іншых месцах: *галаву закружыць, галаву ўскружыць, галаву пакружыць, галаву накружыць, галаву дакру-*

*жыць.* Апрача таго, дзеяслоў *кружыць* часта замяняецца сінонімам *круціць,* які ў сваю чаргу дае тыя ж прэфіксальныя ўтварэнні. Вядомы фразеалагізм *ездзіць на чужой шыі* дае адзінкі *паездзіць на чужой шыі, ад'ездзіць на чужой шыі, наездзіць на чужой шыі, наездзіцца на чужой шыі, даездзіць на чужой шыі, даездзіцца на чужой шыі.* Кампанент фразеалагізма назоўнік *шыя* ў сваю чаргу замяняецца назоўнікам *спіна.* У фразеалагізме *грэць змяю на грудзях* дзеяслоў дае ўтварэнні з прыстаўкамі *са-*, *пры-*, *па-*, *ата-*, *на-*, *да-*. Вялікую колькасць форм з дэрыватыўнымі варыянтамі дзеяслоўных кампанентаў маюць фразеалагічныя адзінкі *вадзіць за нос, ваўком выць, віляць хвастом, выбівацца ў пень, глядзець бальшымі вачамі, глядзець у бутылку, драць кожу, дрыжэць за сваю шкуру, ездзіць вярхом, забягаць перад* і шмат якія іншыя.

Усё гэта гаворыць за тое, што трэба больш уважліва прыглядацца да аднаго з багацейшых пластоў вуснай народнай мовы, якім з'яўляюцца фразеалагізмы.

Фразеалогія — гэта экспрэсіўна-эмацыянальны фонд мовы, сродак моўнай стылістыкі. Вобразна-выяўленчая выразнасць, эмацыянальна-экспрэсіўная насычанасць, прастата граматычнага афармлення абумоўліваюць даўгавечнасць гэтай багатай і вельмі прадуктыўнай скарбніцы сродкаў мовы.

У аснове фразеалагізма ляжыць, як правіла, звычайнае словазлучэнне. Сінтаксічная ўстойлівасць узнікае ў выніку метафарычнага пераасэнсавання свабодных словазлучэнняў, калі яны набываюць абагульненае пераноснае значэнне. Пры гэтым у пераважнай большасці выпадкаў той сэнс, на які абапіраецца метафара, у падобных словазлучэннях захоўваецца, гэта значыць адны і тыя ж злучэнні слоў могуць выступаць то як фразеалагізмы, то як свабодныя спалучэнні: *адліваць пулі* — прамы сэнс 'выраблягь кулі' і пераноснае значэнне 'рабіць або гаварыць надзвычайнае'. Тое ж выразна прагладае ў спалучэннях *глядзець у бутылку, недалёка адысці, вінціка не хватае, зматываць вудачкі, прышчаміць нос* і інш. Але сустракаюцца фразеалагічныя ўтварэнні, якія не маюць адпаведных аманімічных свабодных словазлучэнняў: *глядзець у душу, запасць у душу, паміраць са смеху, стрэляны верабей, малоць чуш, гарадзіць чапуху.* Такія спалучэнні слоў не ўжываюцца ў прамым значэнні. Асоб-

ныя фразеалагізмы ў якасці свабодных словазлучэнняў выступаюць толькі аказіянальна.

Фразеалагізмы валодаюць радам толькі ім уласцівых прызнакаў, па якіх яны дакладна вызначаюцца: сэнсавая цэласнасць, невывадзімасць іх значэння з «сумы» значэнняў слоў, раздзельнааформленасць, устойлівасць, узнаўляльнасць, пераасэнсаванасць (пры наяўнасці непераасэнсаваных аманімічных адпаведнікаў), неперакладальнасць, вобразнасць, экспрэсіўна-эмацыянальная выразнасць. Яны нярэдка будуюцца як гіпербалы, літоты, паронімы, эўфанізмы, антытэзы, аксюмараны і іншыя сродкі паэтычнай выразнасці. Некаторыя з іх заснаваны на ігры слоў, каламбурах, сінанімічных паўторах, алагічных спалучэннях. Пэўную ролю адыгрывае акцэнтуацыя. Ім уласцівы самыя разнастайныя эмацыянальныя адценні — гумару, жартоўнасці, насмешлівасці, гневу і інш.

Фразеалагізмы — гэта самастойныя, гатовыя адзінкі мовы са сваім лексічным значэннем. Для іх характэрна непадзельнасць на часткі. Іх устойлівасць закладзена ў семантычнай сутнасці словазлучэння, бо фразеалагізм не проста гатовае цэлае, а адзінае цэлае. Ён не арганізуецца ў працэсе моўных зносін па волі гаворачага, а ўзнаўляецца ў гатовым выглядзе, як клішэ, у якім строга фіксаваны лексічны састаў, структура і значэнне.

Вывучэнне дыялектнага фразеалагічнага матэрыялу — адна з актуальных задач беларускай лексікалогіі. Наш народ мае багацейшыя запасы гэтага матэрыялу. Зафіксаваць, вывучыць яго — святы абавязак кожнага пакалення, бо ў гаворках побач з няспынным папаўненнем іх ідзе інтэнсіўны адваротны працэс: шмат што са старога дыялектнага інвентару забываецца, беззваротна знікае. Тое, што не запісана сёння, заўтра можа быць страчана назаўсёды. А гэта ж неацэннае народнае багацце, выпрацаванае практыкай і вопытам многіх і многіх пакаленняў. Без вывучэння фразеалогіі жывой народнай мовы нельга вывучаць фразеалогію мовы літаратурнай, бо яны цесна ўзаемазвязаны. Вывучэнне дыялектнай фразеалогіі дасць каштоўны матэрыял для выяўлення агульных заканамернасцей утварэння і бытавання сінтаксічна непадзельных адзінак.

Тут зроблена спроба даць апісанне фразеалагічнага матэрыялу, які бытуе на абмежаванай тэрыторыі — у сучаснай гаворцы жыхароў часткі аднаго раёна. У гэтай

гаворцы сустракаюцца самыя розныя па свайму паходжанню фразеалагізмы. Сярод іх нямала такіх, якія яшчэ ніколі не фіксаваліся і не былі ў навуковым і літаратурным ужытку. Вусная форма гаворак абумоўлівае шырокае вар'іраванне фразеалагізмаў. У гаворцы яны часцей выяўляюць свае граматычныя магчымасці. Дзеяслоўныя, напрыклад, значна часцей ужываюцца ў абодвух трываннях. Так, у літаратурнай мове не маюць закончанага трывання *капціць неба, тачыць лясы, тоўч ваду ў ступе, тачыць зубы, цягнуць каніцель*. А на Мсціслаўшчыне скрозь гавораць: *адкапціць неба, патачыць лясы, патоўч ваду ў ступе, дацягнуць каніцель* і г. д. Часцей мяняюцца лік і час дзеясловаў. У гаворцы досыць часта ўжываюцца ў фразеалагізмах дзеясловы ў будучым складаным часе, значна часцей мяняюцца стан і лад дзеясловаў, значна шырэйшае змяненне па асобах: *вума не прыкладзеш, у толк не возьмеш, далёка зойдуць*.

У гаворцы вельмі распаўсюджаны дэрыватыўныя формы — вытворныя фразеалагічныя адзінкі, у якіх адзін з кампанентаў адрозніваецца словаўтваральнымі афіксамі ці іншымі форма- і словаўтваральнымі сродкамі. Рэдка сустракаецца ў фразеалагізмах замена дзеяслова назоўнікам, у той час як у літаратурнай мове гэта з'ява распаўсюджана значна шырэй. *Пераліванне з пустога ў парожняе, тропка* (*трапанне*) *нерваў* — такія адзінкавыя прыклады пры значнай агульнай колькасці аддзеяслоўных назоўнікаў у гаворцы.

Дыялектныя фразеалагізмы маюць большую тэндэнцыю да шматзначнасці. У іх больш рухомы парадак кампанентаў. Агульнаадмоўныя, якія ў літаратурнай мове ўжываюцца толькі з адмоўем *не*, у гаворцы амаль усе ўжываюцца без адмоўя, праўда, з адмоўным значэннем.

Пры падрыхтоўцы працы з-за нявырашанасці шматлікіх агульных пытанняў узнікла нямала цяжкасцей: што лічыць загалоўнай адзінкай, якімі павінны быць тлумачэнні, паметы, лексікаграфічная апрацоўка, будова артыкула, стылістычная характарыстыка, гісторыка-этымалагічныя даведкі, падбор ілюстрацыйнага матэрыялу і інш. Яшчэ далёка не высветлена пытанне аб размяшчэнні фразеалагізмаў. У «Фразеалагічным слоўніку рускай мовы» (1967) вызначаецца апорнае слова і фразеалагічныя адзінкі даюцца столькі разоў, колькі ў іх знамяналь-

ных слоў. Гэта выклікала шэраг нараканняў. У друку выказвалася меркаванне, што такая падача абцяжарвае слоўнік і не заўсёды мэтазгодна. Шмат хто з даследчыкаў фразеалогіі лічыць найбольш мэтазгодным іменна алфавітнае размяшчэнне фразеалагізмаў. У той жа час існуюць думкі, што алфавітнае размяшчэнне — гэта размяшчэнне па неістотнай прыкмеце. Але якія б думкі не існавалі, а праца павінна быць зручнай пры карыстанні. На думку ўкладальніка, алфавітная падача больш, чым іншыя віды яе, гэту зручнасць забяспечвае, хоць тут таксама ёсць пэўныя цяжкасці з-за таго, што шмат якія фразеалагізмы маюць вельмі няўстойлівы парадак кампанентаў.

У данай працы прынят алфавітны парадак размяшчэння фразеалагізмаў у іх зыходных формах.

Фразеалагізмы, якія дапускаюць перастаноўку кампанентаў, падаюцца ў той форме, у якой яны найбольш ужывальныя. Асабліва частую перастаноўку кампанентаў дапускаюць дзеяслоўныя фразеалагізмы. У іх звычайна на першае месца ставіцца дзеяслоў. А калі ён першае месца займаць не можа, тады фразеалагізм даецца з такім парадкам кампанентаў, які замацаваўся ў ім: *адпускаць вожкі, браць на мушку,* але: *зубы лупіць.*

Адваротныя варыянты (з перастаноўкай кампанентаў) не паказваюцца, але прыклады прыводзяцца з рознымі варыянтамі парадку кампанентаў.

Варыянты фразеалагічных адзінак для зручнасці карыстання і для таго, каб не паўтараць тлумачэнне і не прыводзіць па некалькі разоў паметы, падаюцца ў адным артыкуле. Замяняльныя кампаненты прыводзяцца ў дужках: *зжываць (зганяць) са свету.* Варыянты падаюцца толькі адзін раз пры асноўнай фразеалагічнай адзінцы. У іншых месцах (па алфавіту) яны не змяшчаюцца. Разам даюцца тыя варыянты, у якіх не заўважаецца істотных адрозненняў. А калі такія адрозненні выяўляюцца, фразеалагізмы прыводзяцца асобна.

Не зводзяцца ў адзін артыкул дзеяслоўныя і намінатыўныя фразеалагізмы аднаго ўтварэння. Але ў адным артыкуле падаюцца іменныя ўтварэнні ад дзеяслова. Марфалагічныя варыянты падаюцца ва ўсіх выпадках, фанетычныя — толькі ў некаторых. Факультатыўныя кампаненты даюцца ў прамых дужках: *зарубіць* [*сабе*] *на насу.*

Найбольш складаная падача дзеяслоўных фразеалагізмаў, што абумоўлена багаццем граматычных катэгорый дзеяслова, яго форма- і словаўтваральных сродкаў. Гэтыя фразелагізмы даюць найбольшую колькасць варыянтаў, толькі ў іх магчымы дэрыватыўныя ўтварэнні.

У загаловак, як правіла, выносіцца фразеалагізм з дзеясловам незакончанага трывання, за выключэннем тых выпадкаў, калі фразеалагізм з дзеясловам незакончанага трывання зусім не ўжываецца або незакончанае трыванне з'яўляецца вытворным ад закончанага.

Парныя па трыванню фразеалагізмы падаюцца разам, паколькі яны абазначаюць адно і тое ж дзеянне і з'яўляюцца відавымі формамі адных і тых жа лексічных адзінак. Толькі ў адзінкавых выпадках у залежнасці ад трывання мяняецца значэнне фразеалагізмаў. У такіх выпадках фразеалагізмы падаюцца на сваіх месцах па алфавіту: *валяць дурака* і *зваляць дурака.*

Для зручнасці карыстання і эканомнасці ў адным артыкуле з зыходнай формай даюцца дэрыватыўныя ўтварэнні без тлумачэння, але з сэнсавай паметай. Толькі ў тых выпадках, калі мяняецца колькасць значэнняў, усе формы і ўтварэнні ў артыкуле тлумачацца асобна.

У асабовых фразеалагізмах у адрозненне ад інфінітыўных указваецца час: *аж за вушамі трашчыць, цяп., пр., буд.*

У некаторых выпадках паказваюцца змены ў ліку. Гэта робіцца тады, калі змены ў ліку нясуць якое-небудзь дадатковае сэнсавае адценне, *гл. дух дрыжыць, дух вылазіць, з пустымі карманамі.*

Калі недзеяслоўны фразеалагізм мае кампанент-дзеяслоў, які змяняе трыванне, то змяненне трывання не паказваецца, а толькі пазначаецца: *незак.* і *зак.*

Пры неабходнасці даецца граматычная характарыстыка, паказваюцца розныя абмежаванні. Даецца стылістычная характарыстыка, прыводзяцца розныя паметы сэнсавага і эмацыянальна-экспрэсіўнага характару. Зрэдку паказваецца прыналежнасць да розных гістарычных пластоў мовы (*уст.* і інш.).

У неабходных выпадках паказваецца сувязь з кантэкстам: *перамываць косці* (*каму*), *зарэзаць без нажа (каго).* Пранікальнасць фразеалагізмаў не паказваецца.

Да асобных фразеалагізмаў (мясцовага паходжання) даецца іх гісторыя.

Каб падмацаваць значэнне, паказаць сінтаксічныя сувязі, апраўдаць стылістычную кваліфікацыю, фразеалагізмы падаюцца ў кантэксце. З мэтай эканомнасці прыводзіцца звычайна па аднаму прыкладу на фразеалагізм. А ў значных па аб'ёму артыкулах асобныя аднатыпныя фразеалагізмы падаюцца без прыкладаў.

У гаворцы агульнаадмоўныя фразеалагізмы часта ўжываюцца без адмоўя. Апошнія формы падаюцца без тлумачэння ў гэтым жа артыкуле пасля ілюстрацыйнага матэрыялу.

У кнізе змяшчаюцца фразеалагізмы з рэестравымі адзінкамі на літары А—З, што складае каля палавіны ўсяго сабранага матэрыялу. Варыянты і іншыя формы сустракаюцца на літары ўсяго алфавіту. Поўны алфавітны паказчык мяркуецца даць у заключнай частцы працы.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

Тут прыводзяцца ўсе граматычныя і лексіка-семантычныя паметы, якія сустракаюцца ў фразеалагічнай частцы і дадатку-слоўніку. *Абв.*— абвесны лад; *абмеж.*— абмежавана; *абраж.*— абражальнае; *адз.*— адзіночны лік; *адзінк.*— адзінкава; *адм.*— адмоўнае; *аднакр.*— аднакратнасць; *асудж.*— асуджальнае; *буд.*— будучы час; *він.*— вінавальны склон; *вульг.*— вульгарнае; *гл.*— глядзіце; *груб.*— грубае; *гумар.*— гумарыстычнае; *жарт.*— жартоўнае; *зак.*— закончанае трыванне; *законч.*— закончанасць; *звыч.*— звычайна; *зніж.*— зніжальнае; *іран.*— іранічнае; *кніжн.*— кніжнае; *лаянк.*— лаянкавае; *мн.*— множны лік; *множн.*— множнасць; *н.*— небудзь; *наз.*— назоўнікавае ўтварэнне; *неадабр.*— неадабральнае; *неалаг.*— неалагізм; *незак.*— незакончанае трыванне; *нездав.*— нездавальненне; *непаўн.*— непаўната дзеяння; *пагардл.*— пагардлівае; *параўн.*— параўнайце; *пачын.*— пачынальнасць; *перан.*— пераноснае значэнне; *пр.*— прошлы час; *прам.*— прамое значэнне; *працягл.*— працягласць; *працягл.-фінальн.*— працягла-фінальнае значэнне; *рапт.*— раптоўнасць; *рэдкаўж.*— рэдкаўжывальнае; *рэзульт.*— рэзультатыўнасць; *спец.*— спецыяльнае; *сучасн.*— сучаснае; *узмацн.*— узмацняльнасць; *ум.*— умоўны лад; *усеаг.*— усеагульнасць; *уст.*— устарэлае; *цяп.*— цяперашні час; *шматкр.*— шматкратнасць; *час.*— часовасць.

**Абайціцца** (стаць, выйціць, уляцець) **у капейку** (капеечку, капейчыну). *Каштаваць вельмі дорага.* Я ны тваём месьці ні рызмáхывыўся б на еткыю стройку: іна можыць у такую капейку абыйціцца, што астáнісься гол як сакол. А ці мы ж табе ні кызалі, што задýма твыя у такую капеічку абойдзіцца, што ахніш. Пальто, я сыма віджу, харошыя, зато ж яно мне абыйшлося ў капейчыну. Хата мне стáла ў капейку: і то купі, і ета дыстань, і там дыплаці, і тут пірілацí, а ў мяне ж кузьні на грошы німа, з мызыля́ жыву. Свадзьба стала ў капеічку, стольке ж роду ды знакомых, друзей нада було сызвáць чуць ні сы ўсяго сьвету. Думылі, таго-сяго трошку возьмім — во й вечыр, а як пычалí браць, і тоя нада, і ета — дык трухтувáньня у лáдныю капейчыну стáла. Пяцісьценку разьвёў аршын на тріццыць, і сенцы хуць скач, і клець бальшэнныя, усё пыд аднý зьвязь— грошы ў яго, канешня, ёсьць, ну такея харомы выйдуць у капейку ні абы́якую. Як ты зыгáдывыў, ну дурня́к свадзьбу ні справіш, выйдзіць у капеічку, ішчэ, хочыш, і ў даўгí ўлезіш. Ежылі такея грошы зы кáжныю палку бухыць, дык адна асáда, знáіш, у якую капейчыну выйдзіць. Уляцела ў капейку пастройка, ні знаю, як з даўгоў вы́лізьць. А ніхáй яе і пýню еткыю, ці ты знаіш, у якую капеічку іна ўляцела мне, ны адных лісьнікоў пашло ні сышчытáць сколька. Уляцелі мне іхнія гулі ў такую капейчыну, што луччы ні спрáшывый. *Незак.* **Абхадзіцца** (станавіцца, выхадзіць, улятаць) **у капейку** (капеечку, капейчыну). Зрáзу траіх учыць ды ў рáзных гырыдах — знаіш, у якую капейку апходзіцца. Каб табе апхадзілыся у капеічку, як мне, ета карова кáжын год, ты б тады пустога ні гывäрыў. Сыдзіржáць чылавека адзьдзельна аць сям'і апходзіцца ў капейчыну — двайнэя расходы. Дровы мне ў капейку становюцца: сілы німа, наймí і прівезьць, і пыпілíць і рыска-

лоць прасі́, а хвастом жа пірі́д людзямі ні накры́ісься. Другея заві́дыюць: ай, у горыдзі, у горыдзі жывець, а ў горыдзі што ні вазьмі, ўсё купі, жыць там, знаіш, у якую капеічку становіцца. А ты думыіш, ні становіцца карова ў капейчыну прі бяскорміцы? — становіцца, ды яшчэ як становіцца, кажыцца б, зьняў пасьледній пінжак за клок сена. Трі гады мне выхадзі́ла ў капейку нынімáць ім квацеру ды карміць на дзьве сям'і. Ну што ж, з дочкымі і з малымі клопыт, і з бальшы́мі ня меншый, адны свадзьбы у капеічку выходзюць. Як дзіржалі дваі́х у горыдзі, выхадзіла у капейчыну, ну цяперь, праўда, адзін сотню, другей сотню і прішлюць, і прішлюць. Ты знаіш, у якую капейку улітáюць мне твае ныряды. Пастройкі нам улітаюць у капеічку, расходыў хвытаіць. Што вы пычынáіця аб'ісьняць, ці мы сáмі ні знаім, што гулю́шкі улітаюць у капейчыну усігдá.

**Абайціцца** (стаць, выйціць) **у тры дарагі́** (пяць дарагоў). *Каштаваць надзвычай дорага.* Лу́ччы за Сож куды схадзіць ды ныпытáць гатовыю хату, а купляць пáлкымі — яно табе у трі дырагі́ абойдзіцца. Мы ж думылі, каб яно як луччы, як дзішавей, дык ета дзішавей абыйшлося у пяць дырагоў. Луччы б я купіў первыя пупáўшыя пальто ня думыўшы, а пакуль пашыў, яно мне стала у трі дырагі́. Ці паўмі́лі вы галовымі сваімі, што так купляць вам у пяць дырагоў станіць і пасьледнію кыравёнку пыцягніця з двыра. Ці я ні гываріў, што еткыя купля выйдзіць табе у трі дырагі́. Кызáлыся, што вы́гыдыім і йшчэ сыканомім троху, а як плаціць, выйшла у пяць дырагоў.

**Аббіваць** (убіваць) **парогі,** *асудж. Надакучаць частым наведваннем.* К каму — к каму́, а к табе аббіваць парогі я ні стану і дáйжа ў тэй бок ні разу ні пыгляджу, айдзе ты жывеш. Ніхай жывуць, як знаюць, ні мішáць, ні парогі ўбіваць я ім ня буду, ета ў мяне саўсім і ў гылаве ні стыя́ла. *Зак.* **Аббіць** (убіць) **парогі.** Нешта кума ўчора ны свадзьбі нымікáла, што ты саўсім аббіў парогі ў яе суседкі. Ні гывары ўжо, ні гывары, Марья табе парогі яшчэ нісколічка ні аббіла. Ці мы ўжо табе парогі дужа ўбілі? Я ім парогі ні ўваб'ю, ніхай за ета ні біспакоюцца. *Усеаг.* **Пааббіваць** (пааббіць, паўбіць) **парогі.** У сваёй дзяреўні ты ўжо ўсім пыаббівáла парогі, што людзі дайжа дзьвері зыпіраюць, увідзіўшы цябе, дык цяперя сюды зырядзіла. Пыаббіла парогі і цёткым, і дзядзькым, ныда-

ела ўсім хужы горькія редзькі. Мы вам парогі ні пыўваб'ём, ні нада быяцца. *Працягл.-фінальн.* **Нааббіваць** (наўбіваць) **парогі**. Ну што ты пустоя гаворіш, ныаббівалі яны вам парогі,— можа раз у год і то ці зыхадзілі. Ныўбівала я вам парогі і даетуль, а цяперь і ныга мыя к вам ня ступіць. Вы дужа быіцёся, што Пёкла вам парогі ныўбіваіць?

**Абвадзіць кругом пальца.** *Падманваць з лёгкасцю.* Любіў ба ты абвадзіць кругом пальца, ды не, са мною ў цябе так ня выйдзіць і ні палучыцца. *Зак.* **Абвесць кругом пальца.** Пітрачок ні чылавек, а злыйдух нейкій, ён каго хочыш кругом пальца абвядзець. *Множн.* **Паабвесць** (паабвадзіць, паабваджываць) **кругом пальца.** Едзьця, ды глядзіця: там жыва могуць пыабвесьць кругом пальца, што й ні аглініцёся. Пашлі вырынят, там пыабводзюць кругом пальца, і ні ш чым вернуцца. Як жа іх усіх пыабваджывылі кругом пальца, ай-яй-яй. *Працягл.-фінальн.* **Наабвадзіць** (наабваджываць, наабвадзіцца, наабваджывацца, даабвадзіць, даабваджываць, даабвадзіцца, даабваджывацца) **кругом пальца.** Столькіх ныабвадзіў кругом пальца, што й аткуля ў яго што бралыся. Ныабваджывыіш ты кругом пальца, сам так пупадзесься, што ня будзіш знаць, як вылізьць. Вун Ільлюшоньк ныабвадзіўся кругом пальца, і табе ета самыя будзіць. Ныабваджыісься калі-небудзь кругом пальца і кругом двух пальцыў, як палучыш пы карку. Ты луччы рыскажы, як Мыкар дыбвадзіў гырыччань кругом пальца. Ён дыбваджыіць кругом пальца, што сыбяруцца, згаворюцца і атпяруць. Во відзіш, як ты дыабвадзіўся кругом пальца, ці я табе ні гываріла, што етык будзіць, палучыш сваё. Відзіш, як Сярёжка дыбваджывыўся кругом пальца,— усё, бувала, хваліўся: я любога прывяду.

**Абеімі рукамі.** *Цалкам; моцна, горача, ахвотна; з вялікай зацікаўленасцю.* Зы швыгря абеімі рукамі, ого як рыскрічаліся зы яго. Дзяржыся абеімі рукамі зы Ісака, ён ні ў чом ні пыдвядзець. Я пытпішуся абеімі рукамі, вы толька сыстаўця хырашо. Ніхай пріі жджаюць, бяруць, сколька хочуць, мы абеімі рукамі аддадзім. Ну, думыю, ўзяліся абеімі рукамі, скора сыставюць, ажно зы два дні астылі, і стаіць вун стальгом.

**Аб'есца** (наесца, пад'есць) **блёкату** (беляны). *З'ехаць з глузду, здурнець.* Ці ты блёкыту аб'еўся, што вярзеш

німаведыма што, я ж тых резьвіныў ду́хым ня чуў і ў вочы ня відзіў. Во, знаць, біляны́ аб'еўся такую лухту перць, я там нагою ні была. Відна, ты, чылавек, наеўся блёкыту, што еткыю трілюду преш ніізьвесна чаго і навошта. А ніхай ты біляны наеўся с тваімі рызгаворымі. Лухту́ гародзіш, як блёкыту пад'еў. Усё дно як біляны́ пад'елі ўсе троя, толку ат іх ні даб'еська. *Усеаг.* **Пааб'ядацца** (панаядацца, пааб'есца, панаесца) **блёкату** (беляны). Пыдыйшла́ я к ім, спрасіла па-чылавечыскі, дык яны ўсё роўна што пыаб'іда́ліся блёкыту, як дуракі якея. Во, знаць, біляны пыаб'ідаліся, як ш чырця́мі, зь імі толку ні даб'еська. Ходзюць, што блёкыту пыныіда́ліся. Плятýць, як біляны пыныідаліся усе разым. Блёкыту нада пыаб'есца, каб ету трілюду пычаць несьць. Ці яны та́мыцька пыаб'еліся біляны, ці што зь імі творіцца? Можа вы самі блёкыту пынаеліся большы нас. Усё рыўна, што пынаеліся біляны людзі тэя, а большы што пра іх ска́жыш ці толк якей-небудзь найдзіш.

**Абліваціа** (заліваціа, умываціа) **слязамі.** *Горка, няўцешна плакаць.* Ні мужык пупа́ўся, а горя: абліва́іцца сьлізамі і днём, і ўноччы. Калі, бува́ла, ні зайду к Пуўлючыхі, усё абліваіцца сьліза́мі пы сваіх, як чу́ла, што абоя голывы злажы́лі. Пышла́ замуж зы быга́ства і сьлізамі зылівалыся ўвесь век. Ні заві́дый яе жы́зьні: сьлізамі умыва́іцца каторый год. *Зак.* **Абліцца** (заліцца, умыцца) **слязамі.** Гля́нула я: абліла́ся сьлізамі, ну, ду́мыю, нішча́сьця нейкыя случылыся, — ажно чую: пырасёнка нехта акалечыў,— во жа́днысьць у чылавеку! Калі ні зайду́ к Пыра́скі, усігда як зальлецца сьлізамі, усё Пітрыка свайго ўспыміна́іць. Скыза́ла ты Ганьні, ска́жыш во Пёклі, а што Пёкла?—умы́іцца сьлізамі і большы нічога. *Множн.* **Паабліцца** (пазаліцца, паабліваціа, пазаліваціа) **слязамі.** Ну што вы ўжо так пыблілі́ся сьлізамі, можа йшчэ усё хырашо абойдзіцца. Ай, ні гывары́ ўжо і ні пыміна́й, узноў пызальлю́цца сьлізамі. Бува́ла, сядуць, пычану́ць адна другой сваё горя рыска́зывыць, пыблівáюцца сьлізамі. Як пріні́сла́ пышта́рька ізьвяшчэнія, яны там на месьці пызыліваліся сьлізамі. *Працягл.* **Набліваціа** (наўмываціа) **слязамі.** І нутушнува́лыся, і нутужы́лыся, а сколька іна сьлізамі ныаблівалыся — ніхто ня відзіў тольк. Усё ны нашых вычах прыісхадзі́ла, толька нікому ні гывар́лі, сколька яны ныўмыва́ліся сьлізамі.

**Абліваць граззю.** *Знеслаўляць, нагаворваць гнюснасці.* Пірістáнь-ка ты грязьзю людзей абліваць, можа б луччы ны сябе пыглядзець нада. *Зак.* **Абліць граззю.** У Сьціпана ўжо натура тыкáя: пряма ня можыць, каб каго ні абліць грязьзю. *Узмацн.* **Паабліць** (паабліваць) **граззю.** Пыаблíць грязьзю — ета ім раз-двá, ета яны ўмеюць. Во сім'я дык сім'я, кылі ім хто хуць настолька ні ўгадзíў, січас пыаблівáюць грязьзю з ног ды гылавы. *Працягл.-фінальн.* **Нааблівацъ** (нааблівацца, дааблівацъ, дааблівацца) **граззю.** Ныблівáла, жýржа, грязьзю, пулучы́ла сыма пы пя́тыя числó. Харошыя была цаца, і нычарнíлыся, і наблівáлыся грязьзю людзей — хвáціць. Хочыш ты нейкыга пуцьця́ с Хадосычкіныя дачкі, ну грязьзю іна дыблівáіць, ны сваё нарьвецца. Дыаблівáісься грязьзю, пыглядзíш, што дыаблівáісься, як зыя́вюць ды упякýць штрáху, будзіш знаць.

**Абмываць** (абчышчаць, абтрасаць) **поршы** (шолудзі). 1. *гумар. Багацець.* Усё жыў — куска хлеба ны стале ні було, а цяперь стаў абмувáць поршы. Ну, што ты, абмувáіш троху шолудзі, рыжжывáісься? Сьціпыня́ты апчышчáюць поршы, ужо касьцюмы пуспруўля́лі лáдныя. Во відзіш, і Домна апчышчаіць шолудзі: пырасёнка прівізлá з бызáра, пацьцёлык пугуля́ў ужо. Аптрісáй-ка ты поршы троху, цяперíцька работыючы жыць можна. Нада ж аптрісаць шолудзі пымалу, ны цябе ж пасьледнія дзеўка ні гляніць. 2. *Даглядаць, прыводзіць у належны выгляд* (*каго-н., сябе*). Я б, забí, ні стáла, як Анька, поршы ім абмувáць, самі ня хворы. Ты ж хвірюбíну спыласнýць лянíсься, век табе то сістрá, то нявестка і абмувáлі шолудзі. Мне ўжо ныдаела вам поршы апчышчáць, большы я ны вас дайжа ні гляну. Не ўжо, апчышчáць зы каго-небудзь шолудзі я ні стану. Аптрісáй, кылі хочыш ім поршы, а яны яшчэ прысьміхáць бýдуць. А вы хацелі, каб вам да веку хто-то шолудзі аптрісáў? *Зак.* **Абмыць** (абчысціць, абтрэсць) **поршы** (шолудзі). 1. Рызадзелыся, ўся ў шыўкáх, ці даўно абмы́ла поршы. Во, сам ба ён дужа абмы́ў шолудзі, ета яму дзядзькі з Масквы пымаглí. Вун Кузьма апчы́сьціў поршы, дык хвíгыю носа у яго ні дыстáць стала. Пастой, ніхай апчы́сьцюць шолудзі, тады зразу увíдзіш, што зь іх будзіць тварíцца. Відзіш, як Зьмітрачонкі аптрясьлі поршы, ідуць і ну людзей ні глідзяць. Трошку аптрясьлі шолудзі і шчытáюць ужо сябе фонбарóнымі. 2. Ждуць, каб хто ім абмыў пор-

шы,— ды чаго рызьлянелі людзі. Ідзі ў ба́ню схадзí, хуць шолудзі абмы́іш троху. Ета цётка апчы́сьціла табе поршы, а каб ня цётка, дык ба хадзіў — і кызя́ўкі пы ла́пцю поўзылі. Шолудзі нада троху апчысьціць, ты ж ужо ны чылавека ні паходж стаў. Пріехыла сістра́, дык хуць дзіцям аптрісла́ поршы, ато ж зыкарелі, ма́ткі ж за гу́лімі некылі. Кылі чужэй хто на́йдзіцца добрыя душа, аптрясець шолудзі, а пы маткі ніхай пыкареюць. *Усеаг.* **Паабмыць** (паабмываць, паабчысціць, паабчышчаць, паабтрэсць, паабтрасаць) **поршы** (шолудзі). 1. Каб поршы пыабмыць, нада меншы гульта́йствывыць. Нябось, як пычалі троху рукі пріклâдывыць к рабоці, дык пыабмы́лі шолудзі. Ежылі будуць стыря́цца, то пыабмувâюць поршы. Айдзе Мільянёнык пыабмува́іць шолудзі, кылі ён паліц ап паліц уда́ріць ляні́цца. Есьлі пірістáнуць ляніцца, дык пыапчы́сьцюць поршы, чорт ня возьміць. Пыглядзі-ка, як ма́лыя зічыча́ні пыапчы́сьцілі шолудзі. Чорт іх ні бярець, поршы пыапчышча́лі ўжо, нічога жывуць. Тут гла́ўныя есьлі мâтка бу́дзіць гылавою ду́мыць, то шолудзі троху пыапчышча́юць. Стыльмышыня́ты пыптрясьлí поршы, рызадзеліся, што й ні скажыш: Стыльмышыняты. Вам даўно ўжо можна було пыаптресьць шолудзі, па-лю́дзку жыць. Як за розум узялі́ся, дык пыптрісáлі поршы. Не, нябосьця вы, і Зыйчыня́ты пыаптрісâлі шолудзі, дзеўкі дык вун у шыўкáх кругом. 2. Пакуля у той пся́рні пыабмы́іш поршы, ду́ху дасі́ся. Сям'ішча — дзьвіна́ццыць душ, хвыта́іць, паку́ліцька пыабмы́іш шолудзі ка́жныму. Пыабмувайця поршы хуць з большыга, ні цíга́йціся атря́хымі. А мне, ду́мыіш, лёхка було пыабмува́ць шолудзі с тымі ніря́хымі? Можа хто на́йдзіцца і Трыхімінятым пыапчы́сьціць поршы. Папчысьці ім шолудзі, а яны будуць ны баку́ ліжаць ды пысьміха́цца. Пыпчышча́йця поршы свае, ні хадзіця як ста́рцы якея. Перш, як прішла́, пыапчышча́ла шолудзі, а тады ж нада було ішчэ троху к пыря́дку іх пріўча́ць. Нубуту́ісься, паку́ліцька пыптрясеш поршы гультуя́м тым. Ці я ні знаю, на што іду: нада шолудзі пыаптресьць — хва́ціць дзялоў, а кажный жа дзень нугутува́ць ды нугутува́ць нада. Каб там Лісавета ні пыптрісáла ім поршы, пыкарелі б, у грязі пудушы́ліся б. Ета блыгыда́рнысьць ёй, што пыаптрісáла шолудзі ды ў людзі пымыгла́ выйціць. *Працягл.-фінальн.* **Наабмываць** (наабчышчаць, наабтрасаць) **поршы** (шолудзі), *звыч. іран. Надаглядацца.* Ныабмува́ла

я поршы каму й стоіла, а хто й капейкі ні варт. Пыдажджы́ця, пры́дзіць нявестка, іна вам нубмува́іць шолудзі,— іна к вам рук ні прікладзець. Чаго ня бу́дзіць, а поршы ныпчышча́іць, тыка́я сямейка да́сца ёй. Ты ўжо ныпчышча́ла шолудзі, пы табе б усе там зырасьлі́ і зыкарелі ад гря́зі. Каму толька іна за свой век ні ныапчышча́ла шолудзі. Каб ты ныптріса́ла столька поршы, сколька я, тады б іна́чы запела. А ты зьдзелый, як Сашка ныптріса́ла сваім поршы: ша́йку вады пыста́віла, усё тряп'ё туды, туды, а тады зыка́сывыйці-ка, мужык і сьвёкыр, рука́вы ды мыйця свае кыря́ўкі, кылі зупусьці́лі. Дыжджыцёся, Хру́зычка вам ныптріса́іць шолудзі, бу́дзіця чы́стыя аж бліщчэць. Ныаптріса́лі шолудзі, хва́ціць, у бытракі к ім ніхто ні ныйма́ўся.

**Абмываць і абшываць.** *Ажыццяўляць догляд.* Пышла́ ны сямейку дзевіць душ, бу́дзіць да веку абмува́ць і апшыва́ць. *Зак., рэдкаўж.* **Абмыць і абшыць.** Ты яго абмый і апшый, а ён табе дайжа спасіба ні скажыць. *Усеаг.* **Паабмываць і паабшываць** (паабмыць і паабшыць). Я прішла, дык усё було запу́шчына, кінута зы пакі́дзішча, нада ж було усіх пыабмува́ць і пыапшыва́ць. У-у, пакуля я іх пыабмы́ла і пыапшы́ла, хваці́ла мне, далося. *Працягл.-фінальн.* **Наабмываць і наабшываць** (наабмывацца і наабшывацца). Сколька я ўжо ныабмува́ла і ныапшыва́ла, далося мне ў знакі дык далося. Ныабмува́лыся і ныапшыва́лыся я за свой век, і горя ця́пнуць німа́ла пришлося.

**Абразаць** (рэзаць) **крылле.** *Пазбаўляць магчымасцей дзейнічаць.* Чаго табе так хочыцца абріза́ць Зьмітраку кры́льля етыю хлю́ндрыю, ён жа чылавек і спакойный, і тылкаві́тый. Ты ж етым самым ня толька Івана прузунту́іш, а й свякрові режыш крыльля. *Зак.* **Абрэзаць крылле.** Крыльля Міхалку абрезылі, ён цяперя як сам ня свой ходзіць. *Множн.* **Паабразаць** (паабрэзаць) **крылле.** Пыбріза́лі хлопцым крыльля, нічога яны цяперя ні ста́нуць дзелыць. Пішыця, раз хочыця пабрезыць крыльля.

**Абрастаць** (зарастаць) **граззю,** *асудж. Пакрывацца брудам.* Абрыстаюць дзеці грязьзю і ніхай сабе абрыста́юць, дайжа і ў тэй бок ні глядзі́ць, пыдыва́й ёй толька мужукоў новых — і ўсё. Як астаўся адзін, саўсім апусьціўся, пряма стаў зырыста́ць грязьзю. *Зак.* **Абросць** (заросць) **граззю.** І сьцены абрасьлі́ грязьзю, і столь

чорныя, як у бáні, у такой хаці ня то што жыць, а зыхадзíць туды стыдна. Настолька хата зырыслá грязьзю, што хуць ломым калí ды кускамі вынасí, а дамы́цца там ні дамы́ісься. *Усеаг.* **Паабрастаць** (пазарастаць, паабросць, пазаросць) **граззю**. Нада ж так пыбрыстáць грязьзю, што ні дамы́цца ні за што на сьвеці. Тут ужо хуць і грязьзю пызырыстáлі, маўчы́ця, ні пíкніця, бульбу ды дажджоў нада вы́хвыцíць. Пыабрасьлí грязьзю, што хуць гыльнíком шуру́й. На месіц як паеду — пызырасту́ць грязьзю большы некуды: ніхто за імі ні глядзіць.

**Абрастаць** (зарастаць) **мохам,** *іран. Апускацца.* Сідзяць у сваёй халу́піні, абрыстáюць мохым, вачэй на лю́дзі ні пыкáзыюць. Віджу, што саўсім зырыстáюць мохым, дык дывай троху ту́ркыць: прігледзьця сябе. *Зак.* **Абросць** (заросць) **мохам**. Аброс мохым і вочы грязьзю зуплулí, ны каго ты, чылавек, паходж стаў, як табе ня стыдна так на лю́дзі пыкáзывыцца. Саўсíм зарос мохым, пряма ні мушчы́на, а чу́чыла нейкыя. *Усеаг.* **Паабрастаць** (пазарастаць, паабросць, пазаросць) **мохам.** Айт, што пра іх кызáць, пыбрыстáлі мохым, ходзюць атря́хымі пасьледнімі. Пызырыстáюць мохым, што нада нядзелю прівадзíць сябе ў божыскій від. Ці ета ж так мыладым мушчы́ным пыабросьць мохым? Ні дагледзь іх, ні пріпуці, і бу́дзіць і ні дагледжына, і ні пріпу́чына, мохым пыабрасту́ць.

**Абсалютный ноль** (нуль). *Нішто, поўная нікчэмнасць.* Ніхай длі цябе Сідыр нешта нейкыя, а мне ён апсалю́тный ноль, і ду́мыць я яго ні хачу. Длі нас твой Кузьма апсалютный нуль і большы нічога.

**Абуць** (падбуць) **у лапці,** *іран. Падмануць значна, выкарыстаўшы даверлівасць або недасведчанасць.* У тоя скрысеньня лоўка Максіма абулі ў лапці: усучы́лі старый тулу́п, а ўзя́лі за новый. Ні зырікáйся, нойдуцца атлёты, так падбу́юць у лапці — дзівíцца бу́дзіш. *Незак., рэдкаўж.* **Абуваць** (падбуваць) **у лапці.** Ты думыў, увесь век і кáжныга будзіш абуваць у лапці і ўсё табе схадзíць з рук бу́дзіць? Мікіцёнык быў — тэй умеў пудбувáць у лапці, а ты не, ня тоя, ня сьпец яшчэ. *Працягл.-фінальн.* **Наабуваць** (нападбуваць, наабувацца, нападбувацца, даабуваць, дападбуваць, даабувацца, дападбувацца) **у лапці.** А ты ці многа ныабуваў у лапці Пісырівых? Ну ты, канешня, каго толька ні нупу́дбувáў у лапці. Глядзі,

хлюст, і ў лапці ныабуваісься, і ў бацінкі, ці можа сам бысяком пыбягіш. Ты нупудбуваісься ў лапці, як Зыбрік Хрісьцінку. Ці чуў, як Лісейчык дыабуваў у лапці — у адной сарочкі прібег,— і табе ета самыя будзіць. Што, дупудбувалі ў лапці, самі ў дуруках асталіся? Кіріла дыабуваўся ў лапці, зьезьдзіў у Тытаршчыну, як дурак. Яны дупудбуваюцца у лапці, саміх хто-небудзь так падбуіць, што аглянуцца ня ўсьпеюць.

**Абы з рук** [збыць]. 1. *Абы-як, вельмі нядбайна.* Усігда дзелыюць абы з рук, а тады хадзі ўсьлед ды пірядзелывый. Відзіш, ускопына абы з рук збыць: айдзе пырянута, айдзе не. 2. *Каб пазбавіцца (з він.).* Яму абы з рук етыя клопыты с хатыю, большы б ён тут ні мінуты ні сядзеў. Мне абы з рук збыць Хадоскіныга мульчугана, а тады я вольныя птушка.

**Абы рад здаць.** 1. *Абы-як, вельмі нядбайна.* І бацька з бухты быр́ахты, і сын абы ряд здаць. 2. *Каб толькі лічылася.* Ікая там дужа работа, схадзілі абы ряд здаць.

**Агулам базар,** *неадабр. Бяздумна, безразважна.* Што ж ты зьбіраісься купляць агулым бызар еткыю пастройку-махіну, тут нада падумыць ды падумыць. Я ні браў ба агулым бызар столька гуркоў: звыляюцца, пыгніюць, а саліць ішчэ рана.

**Ад бальшога вума,** *асудж. Ад празмернай самаўпэўненасці ў сваёй беспамылковасці.* Ета ад бальшога вума ты пашоў рызгыняць вечыр,— ну й правільна, што вярёўкымі успакоілі. Ад бальшога вума ляпнула пры стырікоў, — усе на хохыт пыднялі.

**Адбівацца ад двара** (хаты). *Рабіцца бадзяжным.* Адну ноч німа, цірізь нядзелю яшчэ нейдзі начуіць, віджу, што ўжо стаў адбівацца ад двыра—я дзьвері ны зывал: ідзі, аткуль прішоў. Стала аўца ад двыра адбівацца, думыю, саўсім зблудзіцца, дык я злавіў ды па горлу, во й крошка мяса ёсьць. Раз быран, то што ж ты хочыш, будзіць адбівацца ад двыра, нада було зьліхваць вясною. Не, Шуляк ні такей, каб адбівацца ат хаты, ета Сідарёнык біс цыря ў гылаве: сяньня бярецца строіцца, а нызаўтріга прапіць усё можыць. Такей жа быў ладный кыцянок — кошычка серінькыя, а посьлі стала і стала адбівацца ат хаты, цяперя саўсім некуды сыйшла. *Зак.* **Адбіцца ад двара** (хаты). Во так во адбіўся ад двыра і ад-

біўся, зблукуня́ўся саўсі́м, а ежылі і за́йдзіць калі — што зьдзелыць і ў тэй бок ні глядзі́ць. Ігня́ты неік адбіліся і адбіліся ад двыра, зразу ні пагледзіла ў тубунку́, а пазьней хвацілыся шукаць — вазьмі́ тря́сцы. За ета сваё нычáльствывыньня адбіўся ат хаты, айдзе днюіць, айдзе начу́іць, гарелішчы жрець — вочы ні прысыха́юць. Харошый быў такей кацёнык, а во неік адбіўся ат хаты, нада айдзе другога шукаць. *Множн.* **Паадбівацца** (паадбіцца) **ад двара** (хаты). Што ж ета вы зы ба́бы такея, што ў вас мужукі́ пыдбіва́ліся ад двароў. Месіц ні пыбыла́, дык і грязьзю ўсё зырасло, і скот пыдбіва́ўся ад двыра — цялёнык прібі́ўся к калхозным, воўцы ў суседкі нучува́лі. Луччы ўжо рызвадзіціся, чым так жыць — пыдбіва́ліся ат хаты, нічога ні глідзя́ць, а хызяйства ніхай гініць. Сколька було тых ціплят, і тэя пыдбіваліся ат хаты, адзін вун цы́ўкыіць нейкій нягеглый. Так ты сям'ю вядзеш, што ў цябе дзеці ад двыра пыадбіваліся. З дурнэя зь нейкія пароды воўцы: як на поля — пытаб'юцца ад двыра, ніза́шта ні зыгна́ць. Глядзі́ця, пытыб'іцёся ат хаты, рыссыба́чыцціся і пропыдым прыпыдзіцё. Сь ціпля́тымі так: пусьціш — пытаб'юцца ат хаты, тады ходзіш, слухыіш, сыбіраіш.

**Адбівацца ад дзярэўні** (зямлі). *Пакідаць вёску, пакідаць займацца сельскай гаспадаркай.* Молыдзіж **г** зямле цяперь ня дужа хіліцца, адбіваіцца адзь дзяреўні. Мыладэя глідзяць, каб у горыд, каб у горыд, адзь зямлі адбіваюцца. *Зак.* **Адбіцца ад дзярэўні** (зямлі). Колю ня дужа цягнула **г** зямле, троху ны дарогі пыработыў, тады ў горыдзі нешта дзелыў, а посьлі саўсім адбіўся адзь дзяреўні. Бацька твой быў первый сьпіцыяліст пы хызяйству, а вы адбіліся адзь зямлі ныўсігда́. *Множн.* **Паадбівацца** (паадбіцца) **ад дзярэўні** (зямлі). Пыдбіваліся адзь дзяреўні, гаворюць, нызад ужо і ні цягніць. Пыдбіва́іціся адзь зямлі, а ў родныю мясьціну усё роўна бу́дзіць цягну́ць. Кіреівы усе пыадбіліся адзь дзяреўні, каторыя ў Ленінгра́д зьехылі, ста́ршый ну Уралі ны заводзі. Вы́рыстуць, рысьця́гнуцца па сьвету, пытаб'юцца адзь зямлі, пріедуць **г** бацьку — і кыня запрежч ня ўмеюць.

**Адбівацца ат рук.** *Рабіцца непаслухмяным.* І мае як пыдрасьлі́, сталі адбівацца ат рук, тваe такея ж самыя будуць. *Зак.* **Адбіцца ат рук.** Змалку за ім ні глядзелі і ні глядзелі, дык пазьней ён і саўсім ат рук адбіўся.

Атаб'юцца ат рук — нукуку́ісься, лу́ччы зма́лку патворства ні дывай. *Множн.* **Паадбівацца** (паадбіцца) **ат рук.** Саўсім рызба́лывыліся, пыдбіва́ліся ат рук, што ні скажы — дайжа вухым ні вяду́ць. Падбі́ліся ма́льцы ат рук, ніякыга зла́ду німа, а ты ўсё шчыта́іш іх ціхінькімі.

**Адбівацца рукамі і нагамі.** *Рашуча адмаўляцца.* Ныліла гырла́чычык мылыка, ба́нычку сьмітаны ныла́жы́ла: вазьмі, зынясі́ дзіцям і самі патрошку зьясьцё — айдзе там пынясець, рукамі і ныгамі стаў адбівацца, нізашто ні ўзяў. *Зак., рэдкаўж.* **Адбіцца рукамі і нагамі.** Так пріча́пілыся Ганна к Хвядосу — ны свадзьбу разым завець, што тэй ня можыць адбіцца рукамі і ныгамі. Як прі́ста́лі, як нықыса́ліся, дык чуць адбіліся рукамі і ныгамі.

**Адбіваць ад двара** (хаты). *Прымушаць пакінуць сялібу.* Ты сыма адбіва́іш яго ад двыра — іна варі́ць ня бу́дзіць, ды ёй мыць ня хочыцца,— плюніць і пойдзіць, такую на́йдзіць усігда. Па́сынык ні па́сынык, а ні дбівай ат хаты, можа і ён калі прігадзі́цца. *Зак.* **Адбіць ад двара** (хаты). Знаіш, чым ты яго адбіла ад двыра?— ду́рысьцю сваёю. Адбілі курей ад двыра, усё камлы́жкымі ды камлы́жкымі, ніізьвесна айдзе нясуцца. Ну ладна, атаб'еш ты яго ат хаты, а самой жа нада жыць неік? *Множн.* **Паадбіваць** (паадбіць) **ад двара** (хаты). Ты ж сам пыдбіваў ад двыра, усё с палкыю і с палкыю, як радзіміц нейкій, а цяперь: авец на двор ні ўзганю́. Ні пірістаніш так гыняць, ну й пыдбіваіш к чорту ат хаты, ныпра́сна гудува́ў бу́дзіць. Нада ж так пыадбіць ад двыра, к чужым ахотній ідуць, чым к сабе. Так і ат хаты пыадбіць нядоўга.

**Адбіваць ад дзярэўні** (зямлі), *рэдкаўж.* *Вымушаць пакідаць сельскую гаспадарку.* Гаворіця, што мыладэя ня хочуць астывацца ны зямле, а самі ж адбіваіця адзь дзяреўні. Нарошня адбіваюць адзь зямлі, каб куды зьехыў. *Зак.* **Адбіць ад дзярэўні** (зямлі). Пычалі́ гыня́ць то туды, то сюды, сяньня адно, заўтря другоя, і адбілі адзь дзяреўні, узяў і пашоў ны кымбіна́т. Атаб'юць адзь зямлі і другога, заверніцца і паедзіць.

**Адбіваць ахоту.** *Пазбаўляць жадання; адвучваць.* Не, я сваім ніда́ўна адбіва́ла ахоту бегыць у тую моркву. *Зак.* **Адбіць ахоту.** Маўчы, ні рыска́зывый, ато атаб'еш ахоту жані́цца. Ты дажджэсься, атаб'ю я табе ахоту пы грідах лазіць. *Множн.* **Паадбіваць** (паадбіць) **ахоту.**

Як рыскызáлі еткія слýчыі, дык пыдбівалі ахоту ехыць. Пупадýць вас хлопцы Пынасывы ў саду, яны вам пытаб'юць ахоту ат яблык.

**Адбіваць памяць** (розум, галаву), *асудж. Пра няпамятлівасць.* Як ну дурноя што, дык і паміць яму ні дбівáіць. Ці табе розум адбіваіць, што ты пустоя трепіш. Яму, знаць, гылаву адбіваіць, мудряцý етыму, учора адно гываріў, сяньня пірядýмыў. *Зак.***Адбіць памяць** (розум, галаву). Пáміць ня дбіла, помніць, чые кынапелькі мяў. Ці табе пáміць адбіла, куды ехыць, што ты верніш у равы́. Калі што ня хочыць зьдзелыць, дык ты гыварі, а яму як розум атаб'ець. Ці табе гылаву адбіла, учора ж ты саўсім другоя пеў. Жджы, Хадосычкі атаб'ець гылаву. *Усеаг.* **Паадбіваць** (паадбіць) **памяць** (розум, галаву). Во, відзіш, паміць людзям пыдбівáла: як прасíлі пазы́ч — знáлі, а аддывáць — зубувáюць. Ны работу — прікíдыюцца дуручкáмі, а на што-небудзь дык розум ні пыдбівáла. Што нада ўзя́тыя прінесьць воўрíмя, ім галовы пыдбівала, нічога яны ні знаюць. Можа вам паміць падбіла, што пазы́чыныя нада аддывáць. А што, ці ім розум пыадбіла лезьць у балота, яны пу сухом з грáбількымі пройдуць. Дажджэсься, пытаб'ець ім галовы ехыць у сумёт, ці яны ні знаюць, што ты прівязеш.

**Адбіваць** (перабіваць, адбіраць) **хлеб.** *Пазбаўляць заробку.* Што йта за совісьць у чылавека адбівáць хлеб у свайго дзірявенца, ды яшчэ суседа. Ідзі сьмела і дзелый, я ў цябе пірібіваць хлеб ні стану, а калі прагонюць — ны сябе нырікáй. Хто табе скызаў такую лухту, каб я стаў адбіраць у цябе хлеб, устроіўся і работый ны здароўя. *Зак.* **Адбіць** (перабіць, атабраць) **хлеб.** Што ты ахыіш, ета ж, кажыцца, дваю́рыдный брат хлеб у цябе адбіў. Кызалі, Хліманёнык думыў пірябіць у іх хлеб, а цяперя ны дарогу кім-то пуступíў. Нешта буўталі, нібыццым ба Сямён у Дзім'яна зьбірáіцца хлеб атыбраць.

**Адбіраць у старца кіёк** (торбу). *Забіраць апошняе, што ўжо не мае каштоўнасці.* Судзіцца з Мыланкыю за тую халупіну — ета ж адбірáць у старца кіёк, тут жа нада саўсім пыцірáць совісьць. І хочыцца ж Мікіцёнку торбу у старца адбіраць, зы бáнчыну вылакíту ўзьнімаіць, у яго ж усяго ўся́кыга з горла прець. *Зак.* **Атабраць у старца кіёк** (торбу). Ні знаіш ты Цімохывый совісьці, ён гатоў у старца кіёк атыбраць. Нашто табе тэй

трісьцен, ты ўжо хочыш атыбраць у старца пасьледнію торбу. Хомка і так ня жыціль быў, а цяперя, як адбяруць у старца торбу — ету хаччыну, ён астаніцца гол як сакол, хуць плач, хуць скач.

**Адбіць** (адсадзіць) **духі** (пячонкі, глузды). *Пабіць вельмі моцна, з пашкоджаннем унутраных органаў.* Самі зывізаліся біцца, дык большыму адбілі духі, пыкархыў, пыкархыў і пашоў на тэй сьвет. Палезь, палезь, рызбырынятый, пячонкі атаб'юць, тады нырызбырыняіш. Злавілі, пыдзіржалі ў руках, глузды адбілі, так і ня выкычыўся. Чаму ні наўчыўся, а духі ацсадзіць умеіць, на ета і ўчыць ні нада. Пайдзі ўлезь і ты яшчэ, ні ацсадзілі пячонкі, дык ацсодзюць тэя баньдзіты. Некылі дыбяруцца ды цябе, ацсодзюць глузды, тады ўнімісься і ўспакоісься. *Незак., адзінк.* **Адбіваць** (адсаджываць) **духі** (пячонкі, глузды). Любіў ба ты адбіваць духі каму-небудзь, толька пыбірягі свае. Лавілі каго-зря і адбівалі пячонкі нізашто ніпрашто. Нашто яму адбіваць глузды, ён і так чуць ліпіць. Былі зьвярі, ацсаджывыць духі умелі. Ты будзіш пячонкі ацсаджывыць, а ны цябе, думыў, маліцца стануць? А што, ацсаджывыў глузды, пакуля ні ўхайдошылі. *Множн.* **Паадбіваць** (паадбіць, паадсадзіць, паадсаджываць) **духі** (пячонкі, глузды). Нейдзі зы Сажом пыдбівалі духі, зычапіліся зь нейкімі атлётымі. Кылі ні пыдбівалі пячонкі, дык пыдбіваюць, пыглядзіцё, што пыдбіваюць. Зы такея выдзілкі вам ужо даўно нада було пыдбіваць глузды. Айдзе-небудзь пытаб'юць духі, дывалочыціся у ноч у поўныч. Пячонкі пыадбілі, во й дыскыкаліся, усё ўхадору ні було. Пытаб'ець ён табе глузды, тады будзіш знаць, як з дураком зьвязывыцца. Пыацсодзюць духі — добря й чынюць, ня будзіця такея храбрыя. На што-небудзь другоя ніспасобны, а пыцсадзіць пячонкі могуць. Пыцсадзілі нейдзі духі, нырваліся ны сваіх. Ім ужо даўно зьбіраліся пыцсаджывыць духі, толька ўремя пыдбіралі. Гыварілі, што пыцсаджывылі пячонкі ў Дуброві, нейкія аттуль, с-пыт Хіславіч, жулікі. Ім даўно нада було пыцсаджывыць глузды, злудзюганым такім.

**Адбою няма**, *цяп., пр., буд. Ніяк не адвязацца, не адмахнуцца.* Во нугудуваў Арьхіп дачок: ац сватоў адбою німа. Нехта тріпануў, што прыдаю іструб, а людзям жа нада і верюць, дык німа адбою, усё ідуць і спрашыюць. Хата як лялька і ны харошым дужа месьці, ат купцоў

адбою ні було, ну як цану пачу́юць, ацступа́юцца жыва. Такея ва́лінкі толька вынісь ны бызар, ат купцоў адбою ня будзіць.

**Адбываць прынуду** (прынудзілаўку). *Выконваць прымусовую або нялюбую работу.* Спра́шывыіш, айдзе Мікіта? — адбува́іць прíну́ду трецьцій год. У Воршы, кызалі, адбува́ў прінуду, а тады некуды яшчэ пыгналі. Ныдаелі хужы горькія редзькі ямы етыя, адбуваю во трецьцію нядзелю прінудзілыўку. Што ты кыпа́ісься, як прінудзілыўку адбува́іш. *Зак.* **Адбыць прынуду** (прынудзілаўку). Ні так даўно вярнуўся, адбыў прінуду, пулучы́ў жа трі гады. І прінуду адбыў, а ўсё дно́ свайго ня кідыіць, як і раншы, места німа. Каб скарей мне адбыць ету сваю прінудзілыўку ды паехыць. Адбылí-тыкі прінудзілыўку, вольныга свету ня відзілі, заўтря сыбіраімся к поізду.

**Ад гаршка два вяршка.** *Зусім малы ростам па гадах ці з прыроды.* Ны ліцо б ён нічога, а толька ростым ад гыршка́ два віршка́, зь ім і на людзі нялоўка вы́йціць. Ад гыршка два віршка, а ўжо бярецца ўка́зывыць, ды й кыма́ндывыць хочыць.

**Аддаваць богу душу.** *Канчацца, паміраць.* Кылі я, ку́мычка, буду богу душу аддываць, ты ж хуць прідзі, хуць пыгляджу́ ны цябе пасьледній раз. *Зак.* **Аддаць богу душу.** Во і Сенька дыжда́ўся ўремя, аддаў богу душу. *Множн.* **Пааддаваць богу душу.** Сколька ўжо стырікоў пыддывала богу душу, відна, і наша ўремя пыдбіра́іцца.

**Аддаваць канцы,** *вульг. Паміраць.* Прішла, знаць, пыра і Хомку аддыва́ць канцы, во зносу ні було чылавеку, толька за ету зіму пыда́ўся. *Зак.* **Аддаць канцы.** Што, жджэш, пакуль родзіч адда́сць канцы, хатка дужа прішлася пы ныра́ву?

**Аддаваць** (класць, лажыць) **душу.** *Горача заступацца.* Тыкая ніразлу́шныя дружба — адзін зу другога аддаюць душу. Клаў, клаў ён душу зы Пісклячонкыў — і на́ табе, дру́жба ўрозь. Іх було вадою ні разьліць, адзін зу другога душу лажылі. *Зак.* **Аддаць** (пакласць, палажыць) **душу.** Ён такей чылавек—зу друзей душу адда́сьць. Яны ўсе за свой род душу б пыклалі. Душу пылажыў ба, каб толька яго зь бяды вы́бывіць. *Працягл.-фінальн.* **Нааддаваць** (дааддаваць) **душу.** Ныддаець ён душу за тую

ляньцёху, іна прыда́сьць яго ў любу́ю мінуту. Табе ж гыварілі, якей ён друг, во ты й дыаддыва́ў душу за чорта. Прідзіць уремя, сам рызьбярець, каму дыаддываў душу і ці варты яны былі дайжа добрыга слова.

**Аддаваць** (класць, лажыць) **жызню** (жызінь, жысць). 1. *Гінуць.* Ці хацелыся яму еткім мылады́м, у дваццыць гадоў, аддыва́ць жы́зьню. На фронці аддывалі жы́зінь, дык знали за што. Нашы сылдаты ні дырма аддывалі жысьць. Як пачуіш: то там б'юцца, то там стріляюць, кладуць людзі жызьню. Каму йта хацелыся класьць жызінь? Узноў гыварілі пы ра́дзіву: пірястрелкі, узноў кладуць жысьць, і калі якое зыміренія бу́дзіць. За тоя бысяччо ніхто ні станіць жызьню лажыць, ніхай іх хуць пызыбіва́юць. Як жа було цяжола жызінь лажыць, яму ж толька дваццыць трі гады. Што ты завеш яго жысьць лажыць, а дзяцей карміць ты́ будзіш? 2. *Горача заступацца.* Чаго б ета Лявон зы Ткычынят так жызьню аддаець? Ты б толька паслухыла, што Хомычка гываріў, ён жа пряма жызінь аддываў зы Хвядотывых. Адзін зу другога жысьць аддаюць — так сьпеліся. Во ў каго дружба была — адзін зы днаго жызьню клалі. Пятрок зы Сярьгея жызінь кладзець. Так ужо апста́івылі яго усім кыга́лым, пряма жысьць клалі. Раз пызва́лі, другей раз ныпаі́лі, дык цяперь жызьню за іх ложыць. Я так ба жызінь зу гультаёў тых ні лажыў. Ён жа на сходзі зы Высілёнка жысьць лажыў, што луччы таго й на сьвеці німа. *Зак.* **Аддаць** (пакласць, палажыць) **жызню** (жызінь, жысць). *Загінуць.* Аддаў жызьню так, ныпра́сна, чыряз ду́рысць сваю, а мог ба жыць ды жыць, здароўя було нямерныя. Твайго гарелка зьвіла ў магілу, а мой на хроньці аддаў жызінь. Есьлі ўжо аддаць жысьць, то нада знаць за што, а ні так, як Хвядула — зы гарелку. Канешня, горя бабі: такея хлопцы жызьню пыклалі. Васіль пыклаў жызінь, як калхозы гырнізува́лі: знайшлі з разьбі́тыю гылавою. Жысьць пыкласьць нядоўга і па ду́рысьці. Во й тває пылажылі жызьню, не́ к кыму цяперя і гылавы́ пріхіну́ць. Пісалі мы, шукалі — ну што: прыпаў бізь вясьцей, відна, у первыя дні ны граніцы пылажыў жызінь. Прішоў інвалідым, ну хуць жысьць ні пылажыў. *Множн.* **Пааддаваць жызні** (жысць). *Загінуць.* Столька людзей пыддыва́ла жызьні, с аднае нашыя дзяреўні сколька лягло! Усе знали, што могуць пыддыва́ць жысьць, а йшлі,— а хто ж ба вуюва́ў.

**Аддаваць** (класць, лажыць) **здароўе.** *Рабіць, працаваць са шкодай для здароўя.* А нашто табе ны каго-то аддываць здароўя, будзіш бутува́цца — і спасіба ні пачуіш. Ахотычка ж табе дзень прі дні зыдарым класьць здароўя. Ложыць здароўя і ложыць: ай, усё каб большы,— ці ў магілу будзіш браць с сабою быга́ства? *Зак.* **Аддаць** (пакласць, палажыць) **здароўе.** Аддасі здароўя — на чорта ты каму тады будзіш. Сколька я на іх здароўя пыкла́ў! Пылажыў здароўя, ціга́ючы лес, цяперіцька толька **ходзіць ды ка́рхыіць.** *Множн.* **Пааддаваць здароўе.** Пыаддыіцё здароўя — будзіця ліжаць ды глядзець, каб хто кружку вады пыдаў.

**Ад даскі да даскі** (ад доскі да доскі). *Ад пачатку да канца, поўнасцю (прачытаць).* А мой жа прінёс во такую таўшчэнную і за нескылька вічароў прычытаў ад даскі ды даскі. Сколька кніжык ні ныбярець, усё прычытаіць ад доскі да доскі.

**Аддувацца сваімі бакамі.** *Расплочвацца за чужую віну.* Не, брат, я табе ні засту́пнік, знаў, што дзелыў, дык аддува́йся сваімі быка́мі. *Зак.* **Аддуцца сваімі бакамі.** Што ты, аддуўся сваімі быкамі зы Іванывы вы́дзілкі. *Множн.* **Пааддувацца сваімі бакамі.** Не, за іх ніхто атвічаць ня будзіць, пыаддува́ліся сваімі быкамі, хуць і вы́кылытырілі паўсвета.

**Аддувацца чужымі бакамі.** *Расплочвацца за кошт іншага.* Што ня вы́твырюць, а аддува́юцца чужымі быка́мі. *Зак.* **Аддуцца чужымі бакамі.** Любіш ты, каб аддуцца чужымі быкамі зы свае гряхі. *Множн.* **Пааддувацца чужымі бакамі.** Нытваріліі там ладна, а во ві́дзіш жа, пыаддуваліся чужымі быкамі. *Працягл.-фінальн.* **Наадувацца** (дааддувацца) **чужымі бакамі.** Ныаддува́ўся чужымі быкамі, зь любой пятлі выкру́чывыўся. Ты дыддува́ісься чужымі быкамі, так улі́пніш кылі-небудзь, што луччы некуды.

**Ад жылеткі рукава,** *іран. Абсалютна нічога (не атрымаць, не мець).* Я ац сваіх пулучы́ла адж жылеткі рукыва́, і ты ац свайго, верна, палучыш тоя самыя. Пріехыў рызадзетый, ну, думыю: паможыць, дасьць,— дык даў, адж жылеткі рукыва́. У Трэбычкі возьміш адж жылеткі рукыва, іна б і чужоя зыгрібла́ пыць сябе.

**Ад зары да зары.** *Увесь дзень.* Здароўя нада ні абыякоя — ка́мінныя, каб адз зарі ды зарі састоіць у касе, як Дзінісёнык стыяў.

**Адзержываць верх,** *звыч. гумар. Перамагаць.* Можа, аднаго-двух і піряборіiш, а ныт кажным адзержывыць верьх табе ні ўдасца. *Зак.* **Адзяржаць** (адзержаць) **верх.** Адзін раз ты там адзіржа́ў верьх, дык дужа многа ета зна́чыць. Айдзе табе, слыбаку́ еткыму, адзержыць верьх нат Колію, ён здыравіла, а ў цябе ж сілы, што ў кымыра. Адзержыць верьх ныд намі нікому ні ўда́сца.

**Адзін аднаго** (другога) **стояць** (стоіць), *іран., цяп., пр. Аднолькавыя.* Як тэй, так і другей адзін аднаго стоюць. І Ляксей, і Пятрок адзін другога стоюць, так і глідзяць, каб айдзе што пытхваці́ць. Рысказывый ты мне, хвалі сваіх пудлужа́нь, там кажный адзін аднаго стоіць. Ні гыварі ты ўжо, ні гыварі, там адзін другога стоіць. Адзін аднаго стоілі, што меншый, што большый. Халеры ла́дныя былі, адзін другога стоілі. Усе яны былі дужа ладныя, адзін другога адзіна́кыва стоіў. Порыўну пулучы́лі? — ну й ладна, у іх адзін другога стоіў.

**Адзін** (адна) **душою.** *Без блізкіх і ўтрыманцаў.* Во так ні жаніўся, астаўся і астаўся, жывець адзін душою. Ці думыла ты, сястрі́ца, ці гыда́ла, што адна душою будзіш век дыжыва́ць.

**Адзін** (адна) **як перст.** *Зусім адзінока.* Дочкі — што ім, замуж вы́скычылі і рызьляцеліся, адна ў Мурмынску, адна ны Дымба́сі, астаўся я адзін як перст у хаці. Старога майго ўжо німа, сяджу во адна як перст, відна, прі́дзіцца к сыну пірібіра́цца — і міша́ць ба ім там ні хацелыся.

**Адзін адным.** *Зусім адзінока.* Каб ты пажыў адзін адным чатырі гады, як я, тады б знаў, што ета такоя. Аста́нісься адзін адным — ныгарю́ісься.

**Адзін бог** (гасподзь, госпад) **знаець,** *уст., цяп., пр. Ніхто не ведае.* Адзін бог знаіць, сколька мне чаго піряжы́ць прішлося. Ніхай ужо адзін гасподзь знаіць, што там у іх було і чаго ні було. Адзін госпыд знаіць, як нам пріхадзі́лыся цярьпець. Адзін бог знаў, як мы там пірідрыжэлі і пірікылаці́ліся. Адзін гасподзь знаў усю іх бяду і горя. Што ў іх тварі́лыся усе гады́, адзін госпыд знаў.

**Адзін к аднаму.** *Аднолькавыя (звыч. добрыя па якасці).* Ны прыда́жу атыбра́ла кычанкі́ адзін к ыднаму́, а што было хужэйшыя, сабе пасекла. Быракі сёліта адзін к ыднаму, хуць на вы́стыўку. Ніхай, што ў дзецтві заму́рзыныя бегылі,— цяперя вы́рысьлі хлопцы адзін к ыднаму, ніхто загу́ны ні дасьць. Адзін кы днаму злудзюга́ны.

**Адзін канец.** *Усё ро́ўна (з безнадзейнасцю).* Яму ўжо ці яешні гатоў, ці бульбы няскобліныя нывары́ — адзін канец. Едзь, ня едзь — адзін канец.

**Адзін на адзін.** *Без сведак, без удзелу іншых.* Завець мяне: выйдзі ў сенцы, я табе хачу нешта скызаць адзін ны адзін,— я ні пышла́: лухту якую зьвярзець. Прі людзя́х я зь ім брацца ня буду, ну адзін ны адзін як-небудзь сустренуся.

**Адзін пад адзін.** 1. *Амаль роўныя па ўзросту.* Зайшоў я, глянуў ціріс парог — тамыцька мальгвы́ і такея, і такея, і во такенічкія адзін пыд адзін, шчытаў, шчытаў і зьбіўся: ці восіміра, ці дзісяціра. 2. *Моцныя, дужыя.* Бувала, як выйдуць хлопцы адзін пыд адзін упіцяры́х, ніхто зь імі ні спра́віцца.

**Адзін пачот,** *іран. Пра аднолькавасць падыходу, адносін, ацэнкі.* У Мікі́пыра усім адзін пачот. Сколька ты чаго ні прівылакі́ к такой сьвякрові, адзін будзіць пачот.

**Адзін перад адным** (другім). *Старанна, хвацка.* Адзін пірід адным гонюць пакосы, тэй: я быстрей, а етый: нет, я. Купіла двух пырасёнычкыў, так жа ладна ядуць: поўныя кары́цца нальлю́, ста́нуць цок-цок-цок адзін пііда дным, аж хвыта́юць,— зы мінуту чыста. Яны ўсігда адзін пірід другім усё дзелыюць, каб пыкыза́ць сябе. Вы́йдуць на лён — адна пірід адною: каторыя скарей узматы́чыць. Тоцька с Хвенькыю як возьмуцца адна пірід другою, радзі́міц у іх сядзі́ць. Як сталі адны пірід адныміі: мы первыя, нет, мы первыя, во рёгыту було. Што зь іх толька там дзеілыся, адны пірід другімі хвыта́лі: чыя первыю дыгрябець, а копы абы-як валі́лі.

**Адзін радзімец** (прыпадак), *груб. Пра аднолькавасць, тоеснасць прадметаў, выніку.* Мне адзін радзі́міц, ці ты пойдзіш, ці аста́нісься. Табе, канешня, адзін радзіміц, каго там пыста́вюць, а нам ні адзін. Па-мойму, дык і Шулянок адзін радзіміц, што тэй пріежджый. Быў тэй—ніхай тэй, будзіць другей — адзін пріпа́дык.

**Адзін у адзін.** *Аднолькавыя, вельмі добрыя па якасці.* Адзін у адзін кулі́, іх толька у рукі харошыму ма́сьціру, здзелыіць крышу — сто гадоў стыяць бу́дзіць. Хлопцы адзін у адзін, як дубы, ім усякыя работа паць сілу.

**Адзін у аднаго.** 1. *Аднолькавыя.* Мушчы́ны што нада, адзін у аднаго, узяліся за йструб — зы пуўдня ські́дылі, а к вечыру зыряшэцілі. Бысякі́ адзін у аднаго, што хочыш атпа́люць. 2. *Вельмі падобныя.* Пыглядзела ны яе мальцыў: адзін у аднаго, пряма ні пызна́ць, айдзе каторый, па росту толька і рызьбяреш.

**Адзін чорт,** *неадабр.* *Пра аднолькавасць, тоеснасць прадметаў, вынiку.* Нам адзін чорт, хто зь іх будзіць правіць, абы ня піў. Лісей быў дужа харош, і Крайчоных адзін чорт.

**Адзін чорт маляваў,** *неадабр.* *Аднолькавыя.* Што Бырысёнкыва, што Хныкоўка, абея хырашы: як сьпічкі, адзін чорт мулюва́ў.

**Адзін шаг.** *Вельмі блізка.* Адзін шаг табе ды таго мыгазі́на, у любоя ўремя падбегла і купіла, што нада. Ці раз мне було адзін шаг ад гібілі.

**Адзін шчот.** *Пра адсутнасць усякай карысці з прадмета, асобы або яе дзеянняў.* Адзін шчот, што хызя́ін, кылі ён двору пріходзіць раз у нядзелю. Ікая тут куртка, адзін шчот, што адзежына, жывога места німа, усюдых дзі́рька на дзірькі.

**Ад зямлі не відна** (чуць відна, не атрос). *Пра вельмі малога ростам.* Ну й прістыря́лыся ты сабе ныпа́рніка: адзь зямлі ня відна. Якей жа ты гулец, цябе ж адзь зямлі ня відна. Во, чылавека таго — адзь зямлі чуць відна, зыда́ч, праўда, ны пыўдзяреўні хваціць. Адзь зямлі яго чуць відна, а ўжо й ён у тэй бок глядзі́ць, каб з большымі хлопцымі г дзеўкым бежч. Ну, есьлі жонка нізінькыя, то яшчэ так-сяк, а калі мужык адзь зямлі чуць відзін, дык што йта зу мужы́к. Адзь зямлі чуць відны, а йдуць с пыпіроскымі, як бальшэя, і дымя́ць. Ніхай сабе адзь зямлі ні атрос, а любая работа гаріць у руках, і пыня́тлівый такей: на што ні гляніць — мымінта́льна паймець. Адзь зямлі ні трысла, а ўжо спруўляй ёй і ыріджа́йця яе, а йна, хочыш, у пыста́ньні прінясець, ца́цкыйціся.

**Адкалоць** (выкінуць, атмачыць) **номер** (штуку). *Зрабіць надзвычайнае.* Ці чу́ла ты, якей номір аткалоў учора

большый Сярьгеіў: напіўся і дывай зы дзіцямі гыняцца па вуліцы. Ніхай толька у чарку нюхнуць, такую атколюць штуку, што і ўва сьне ня ўвідзіш. Кудрічáні вы́кінулі раз у Зяціцы номір: клубок нітык у каго-то ўзялі і пірімытáлі быльшак ат хаты к хаці па ўсёй дзяреўні. Ета што, ён табе другей раз і ні такую штуку вы́кініць. Ці чуў, якей номір атмачы́лі яны ў Бялішчыні — пастой, Куліна січас рыскáжыць. Хрітон, бувала, як атмочыць штуку, дык усе зы жываты́ хвытáюцца. *Незак.* **Адкалываць** (выкідаць, атмачываць) **намяра** (штукі). Як успомніш, якея мы аткáлывылі ныміра́, ажно січас сьмех бярець. Аніс любіў аткáлывыць штукі, а тады, бувáла, стаіць збоку і толька пысьміхáіцца. У молыдысьці мы выкідалі ныміра́, ня то што цяперішнія мыладзёж. Ты, знаць, бяресься выкідаць штукі, як Холда, не, таго ні пірясковыш. Мы сь Пітраком хадзілі пы вічарі́нкых, атмачывылі ныміра́. Бувала, сыбяруцца гурьбою і пашлі атмáчывыць штукі, — такоя дзелылі, што табе і ўва сьне ні прісьнілыся б. *Працягл.-фінальн.* **Наадкалываць** (навыкідаць, навыкідываць, наатмачываць, даадкалываць, давыкідаць, давыкідываць, даатмачываць) **намяра** (штукі). Ну, вы там, канешня, ныаткáлывылі ныміра́, можа сядзелі і пікнуць быяліся. Мы ў тэй год, як пріїжджáў Аксён, ныткáлывылі штукі. Нывыкідáіця ныміра́, палу́чыця сваё—і большы нічога. Пыглядзі́ш толька, яны ішчэ нывыкідвáюць штукі. Летыся тут нывыкі́дывылі ныміра́, яшчэ сёліта іх пымінáюць. Нывыкі́дывыіш ты штукі, калі-небудзь так пы загрі́ўку хто заедзіць, што дзіві́цца будзіш. Ну, ныатмáчывылі ныміра́, ці я ні гывaріў, што так кончыцца. Яны сябе пыкажуць: нытмáчывыюць штукі. Вы дыаткáлывыіця свае нымяры́, што вас і зу людзей весьць ня будуць. Дыткáлывылі яны сяньня штукі: апсьмія́лі, што некуды було вочы дзівaць. Ты пулучы́ў—і ён дывыкідáіць ныміра. Дывыкідáлі штукі, што іх узялі ды саміх вы́кінулі за дзьвері. Яны скора дывыкі́дывыюць свае ныміра́, што ку́мільгым будуць у мяне каці́цца. Дывыкі́дывыў Арьхіпёнык штукі: апхыхытáлі — большы некуды. Ты ў мяне дыатмáчывыіш нымяры́, ой, дыатмáчывыіш, нулуплю́, сколька ўлезіць. Мы ж кызалі, што дытмáчыіць ён свае штукі, так і пулучы́лыся.

**Адкалоць** (выкінуць) **каленца**. *Зрабіць надзвычайнае.* Ну й сядзіць жа ў **чы**лавеку радзі́міц: як атколіць каленца, дык век ба думыў — ні прідумыіш такога. Вы́кінулі

каленца ўчора зы Сажом у Дубрыўкі ладна — ныпіліся, біцца палезьлі, а тады некыму вокны пывысáджывылі.

*Незак.* **Адкалываць** (выкідаць) **каленцы**. 1. *Рабіць надзвычайнае.* Што цяперь,— во раншы мы аткáлывылі каленцы, будзь здароў. Я помню, як вы каленцы выкідáлі с Хомкінымі хлыпцамі. 2. *Лоўка, па-майстэрску танцаваць.* Як выйшлі адзін пірíда дным, як дывай аткáлывыць каленцы,— айдзе там нашым, і ў падмёткі тым ні гыдзяцца. Схадзі і ты глянь, як Моціны госьці выкідáюць каленцы, ім там Лыўрянок іграіць. *Працягл.-фінальн., рэдкаўж.* **Наадкалываць** (навыкідаць, навыкідываць, даадкалываць, давыкідаць, давыкідываць) **каленцы.** *Нарабіць надзвычайнага.* Відзіш, як ты ныаткáлывыў каленцы. Яны сябе скора пыкáжуць, нывыкідáюць каленцы. Во зырічáнцы нывыкíдывылі каленцы — ета да! Дыаткáлывыіць ён каленцы етыя свае, нарьвецца ны сваё. Дывыкíдыіш ты каленцы, што возьмуць ды атпярýць столька, сколька ўлезіць. Во відзіш, як яны дывыкíдывылі каленцы, дужа былі хрыбряцы́, уходу ні знаді.

**Адкінуць хвост,** *жарт.* 1. *Легчы, разлегчыся.* У пýні ны саломі аткінуў хвост, ідзі-ка будзí, ніхай вячэріііць ды к конім сыбірáіцца. 2. *Памерці.* Пыдажджы́, во аткіну хвост, дам табе волю, пыжывеш адзін, пыкрасýісься. *Незак.* **Адкідаць** (адкідываць) **хвост.** *Паміраць.* Што ета ты злёг, ці ні сыбраўся ўжо хвост аткідаць? Чаго ляжу? — думыю ўжо хвост адкíдывыць. *Множн.* **Паадкінуць** (паадкідаць, паадкідываць) **хвасты.** 1. Я пыдыйшлá — пыаткінулі хвасты, храпýць. Што яны там пут кустамі пыткідáлі хвасты,— косы нада кліпáць. Пыаткíдывылі хвасты у плятнёўкі, а што ім посьлі вічарíнкі. 2. Пры днаго спрáшыю, пру другога, пра трецьціга, а ўжо, гаворюць, пыаткінулі хвасты. Пыткідáюць стырікí хвасты, тады ўжо будзіця хызяйнічыць, як сáмі знáіця. Можа і нас успымяніця, як пыаткíдывыім хвасты.

**Адкладаць** (адкладываць) **у доўгій яшчык**. *Пераносіць на няпэўны далёкі час.* Ні нада табе атклыдáць у доўгій яшчык зь естымі спрáўкымі, зáўтря схадзі у сільсавет, а тады посьлізáўтріга можа у горыд атвернісься,— ніхай пуд рукою бýдуць. Я ні стаў ба атклáдывыць у доўгій яшчык, дукументы луччы ймець зыблыгаўремінна. *Зак.* **Адкласць** (атлажыць) **у доўгій яшчык.** Аткладзеш у доўгій яшчык, забýдзісься, дык ні нада так дзелыць, а

сядзь дый ныпішы́. Атложыцця ў доўгій яшчык — пішы прыпала. *Працягл.-фінальн.* **Наадкладаць** (наадкладацца, наадкладываць, наадкладывацца, даадкладаць, даадкладацца, даадкладываць, даадкладывацца) **у доўгій яшчык.** Нытклыда́іш у доўгій яшчык, што яно ўсё ў цябе глу́мым пойдзіць. Вот відзіш, як ты нытклыда́ўся у доўгій яшчык. Ыаткла́дывыюць яны ў доўгій яшчык свае зборы, што нада будзіць ехыць, а ўсё ні ў пырядку. А ці вам жа людзі ні кыза́лі, што дыткла́дывыіціся ў доўгій яшчык, схва́цііціся ў пасьледній мамент. Дытклыда́юць яны ў доўгій яшчык, што будуць локці самі сабе грызьць. Во так во ікраз, як ты, і Лісяёнык дытклыда́ўся у доўгій яшчык с ку́плію. Ну што, дыаткла́дывылі у доўгій яшчык, за ўсё зразу цяперя ні схва́цііціся. Усё ні сьпяшыў: заўтря схаджу, посьлізаўтря, а тут ціліграма, дык зыхадзі́ў,— во дыткла́дывыўся ў доўгій яшчык. *Наз.* **Адклад** (адкладанне, адкладыванне) **у доўгій яшчык**. Атклад любога дзела ў доўгій яшчык пользы ні прінясець. Атклыда́ньня ў доўгій яшчык — ета толька лішнія вылакі́та. Каб ні тнае вы́мудры ды ні аткла́дывыньня ў доўгі́й яшчык, то й мы б, як людзі, у хату **г** за́мырызкым улезьлі.

**Ад коркі да коркі**. *Усё, ад пачатку да канца (прачытаць).* Я ўжо даўно твае казкі ат коркі да коркі прычытаў, цяперя дай мне што-небудзь другоя.

**Адкрываць Амерыку,** *неадабр.; адз., мн. Паведамляць пра даўно вядомае.* Ты думыіш, што аткрываіш Амеріку, як бісь цябе ніхто нічога ня чуў і ні знаіць. Вы ўсігда ўсім аткрываіця Амерікі. Я етыя вашы новысьці даўно забыў. *Зак.* **Адкрыць Амерыку.** Ты мне Амеріку ні аткрыў, я сам усё відзіў і пынімаў, толька сквілу ні хацелыся пыдніма́ць ды пары́ ды часу. Думыіш, ты аткрыў Амерікі, мы ўсю ету тріл́юду даўно чулі,— нехта тріпану́ў ізыком — і пашло: лах-лах-лах-лах. Ты ўзноў мне хочыш Амерікі аткрыць з лухтою ніпыцьсіваныю.

**Адкрываць** (раскрываць) **вочы.** *Дапамагаць правільна зразумець.* Ці табе хто должын вочы аткрыва́ць на ўсё ўсякыя, ці ты сам ня відзіш, што ў цябе ў ха́ці дзелыіцца. Марка як быў, тэй рыскрываў Зьмітраку троху вочы, а як паехыў, етый ні на што ні глядзіць. *Зак.* **Адкрыць** (раскрыць) **вочы.** А я нічога ні зымічаў і ні пыдызрівáў дáйжа, пакуля яны ні аткрылі мне вочы на ўсю ету карціну. Як раскрылі яму вочы на ўсе іх прадзелкі, дык ён

**Адкуль вецер дмець** (дуець), *асудж.* *Пра таго, хто беспрынцыпова паводзіць сябе ў залежнасці ад абставін.* Усігда нюхыіць, аткуль вецір дмець, а сам сабою нічога ня зьдзелыіць і ні скажыць нічога. Прахор узнаў, аткуль вецір ду́іць, есьлі так гываріў, і́нычы б зь яго шчыпця́мі слова ня вы́цігнуў пра іх.

**Аднаго поля ягады** (ягадкі), *неадабр., іран.* *Аднолькавыя па дрэнных паводзінах і ўчынках.* Што Анька, што Хрісьцінка — аднаго поля ягыды, што хочыш тріпануць і вокым ні змаргнуць. Хто іх ні знаў, аднаго поля ягыдкі былі. Пыдыбраліся ягыды аднаго поля, відна, хваціла чорту сыбірацць іх да кучы,— нада ж еткіх зьвесьць.

**Адна кожа.** *Вельмі худы.* Ну Кузьмянку́ адна кожа, як толька ён ціга́іць ногі.

**Адна кожа асталася,** *пр., буд.* *Пра вельмі худога.* Устреціў я Сямёна, глянуў — ажно страшна: адна кожа аста́лыся,— што балезьня дзелыіць, быў жа мушчы́на, як гром. Ны Га́ўріку адна кожа астыла́ся, а йдзець — чуць толька ныгамі дзьві́гыіць. Во ня будзіш слухыць, ня будзіш нічога есьць, дык адна кожа астанецца. Пыжывеш так месіц-другей — адна кожа аста́ніцца. *Незак.* **Адна кожа астаецца,** *цяп., пр.* Летым жа есьць ні загоніш, вы́сыхнуць, вы́пітріюць, адна кожа астаецца. Калі йта, летыся, кажыцца, у а́ўгусьці ат'іжджа́лі мы, дык на іх адна кожа астыва́лыся. *Множн.* **Адна кожа пааcталася** (пааставалася), *пр., буд.* На іх там на ўсіх адна кожа пыста́лыся. Нада ж так схуднець—адна кожа пыстыла́ся. Праседзілі трі нядзелі ў лесі, на іх там адна кожа пысты-ва́лыся. Дугульта́йнічыюцца, што есьць нечыга будзіць, адна кожа пыастаецца, тады пышавелюць мызка́мі. Бува́ла, зы вясну так вы́сыхнуць — адна кожа пыста́ніцца.

**Адна ласка** (міласць, шана), *іран.* *Пра аднолькавасць падыходу, адносін, ацэнкі.* Ці прывыля́йся дзень, ці ў доску разьбі́ся касі́—усігда адна ласка. Як ні стыря́йся, як ня рьві жы́льля, у яго ўсігда адна мілысьць: во, што ты там зьдзелыла. Угыжда́ла ім, угыжда́ла, ажно адна ша́на, ласкі ня вы́служыла.

**Аднаму богу** (госпаду) **ізвесна,** *уст.* *Ніхто не ведае.* Аднаму толька богу ізьвесна, што тама зь імі случы́лыся. Нічога ні сыбшча́юць і ня пішуць, аднаму госпыду ізьвесна, ці жывы хуць яны там.

ажно а́хнуў: а я думыў, яны самыя чэсныя людзі. *Працягл.-фінальн., іран.* **Наадкрываць** (нараскрываць, даадкрываць, дараскрываць) **вочы.** Ты ўжо там ныткрыва́іш ім вочы, аднаго цябе яны толька і ждуць. Ныаткрыва́іць іна вочы, як Санька Сьціпану: етый слухыў, слухыў, а тады вы́сьпіткым. Нырыскрыва́ла Домна вочы: мыцірі-ка́ пулучы́ла і пышла. Тэй дыткрыва́ў вочы, і етыму січас тоя са́мыя бу́дзіць. Дырыскрываіць іна вочы, чаго ёй лезьць, куды ня просюць.

**Адкрываць** (раскрываць) **душу** (серца). *Шчыра расказваць пра што-н. асабістае.* Дужа б я ста́ла піряд імі аткрываць душу́, вогірі такея-то найшлі́ся. Матру́ніна не, ня с тых, серца іна дужа аткрываць ні ста́ніць. Многа яны зыхацелі, твае роднінькія, каб я пірід кажным устречным-пыпяречным рыскрывала душу́. Так ужо, так стыря́іцца, пряма серца ім рыскрываіць, ці ня меціць каторыга ў зяці. *Зак.* **Адкрыць** (раскрыць) **душу** (серца). Ні зыхацеў ён аткрыць мне душу, ні зыхацеў, а пы ўсяму відна: дужа хацелыся рыскызаць. Усё ім серца аткрыла, пра ўсё чы́сьцінька рыскыза́ла сыма, я дужа й ні дапы́тывылыся. Душу ён, канешня, ні раскрыў, ну толька рыскызаў пры сябе дужа многа. Во калі Лаўрін раскрыў серца. *Працягл.-фінальн.* **Наадкрываць** (нараскрываць, даадкрываць, дараскрываць) **душу** (серца). Скызаць ты скажы, толька ні ныаткрыва́й так душу́, як Танька Сьціпанідзіна. Нырыскрываіш ты душу пыразі́тым етым. Ныткрывала ты дураку серца: ходзіць пы дзяреўні, усім рыска́зыіць і рягочыць. Я б ім нырыскрыва́ла серца, дыжда́ліся б яны. Яны цябе прысьмяюць як мілінькыга, во й дыаткрыва́іш ты душу. Нада веріць, ды глядзець каму, ато дыаткрыва́іш серца. Каму ж ён паверіў, мылахольным тым, дырыскрываў душу. Дырыскрываў Коля серца, пыднялі на сьмех.

**Ад крышкі да крышкі**. *Усё ад пачатку да канца (прачытаць).* Якую кні́жышчу ні пупадзець, пакуля ат крышкі да крышкі ні прычыта́іць — з рук ня вы́пусьціць. Во чытаньня: за вечыр ат крышкі да крышкі прычытаў.

**Адкуль** (адкуля, адкуліцька) **ні вазьміcь.** *Нечакана, раптоўна.* Мы былі вы́прывіліся ў Лырья́нывa, а тут аткуль ні вазьміcь Коля, гаворіць, там нічога німа. Сяджу, пірякýсыю, а заіц аткуля ні вазьміcь жыг лі мяне. Атку́ліцька ні вазьміcь бягіць, крічыць: «Спыса́йся!»

**Адна нага тут, другая там,** *жарт. Вельмі шпарка, хутка.* Ты бягі, ды так бягі, каб адна ныга тут, а другáя там. Сашка ні пыдвядзець, ён усігда бягíць адна ныга тут, другая там.

**Адна** [толька] **назва**. *Пра неадпаведнасць назвы сутнасці.* Адна назва, што бáня стаіць, ужо год у ёй ня мы́ліся: дух нісколька ні дзяржы́цца. Якея там грібы, адна нáзва, што грібы, дырмá ногі зьбілі. Адна толька назва, што зáмужым, іна ў бацькі ўсё ўремя сядзíць.

**Адна чарка,** *гумар. Пра аднолькавасць падыходу, адносін, ацэнкі.* Ці стáрінькій там ніхай будзіць, ці мáлінькій, у яго ўсім адна чáрка.

**Адно за другое заходзіць,** *цяп., пр., буд. Пра запаслівасць.* Лявоніха сьціпла жывець, у яе ўсігда адно зу другоя заходзіць. Я дужа нічым ні раськíдывылыся, у мяне ўсігда адно зу другоя зыхадзíла. Відзіш, акыпірувáліся і пыднімáюць тряхольля, у іх ужо адно зу другоя пычынáіць зыхадзíць. *Зак.* **Адно за другое зайшло,** *пр., буд.* У іх ба хуць ны сяньня було што ў рот уклáсьць ды зьмянíцца посьлі бані, а ня то што, каб адно зу другоя зайшло. Ты пыаканом так, як я, і ў цябе адно зу другоя зáйдзіць. Як хвáціцца за розум, дык ня то што ні хваціць, а й адно зу другоя зойдзіць.

**Адно званне.** *Пра амаль поўную страту прадметам ці асобай сваіх вартасцей.* Званьня адно, што ён у хаці, нічога ні глядзіць, толька б ат кніжкі вачэй ні твадзíў. Адно званьня шуба, ціплá зь яе ні на грош.

**Адной** (аднае) **масці,** *жарт. Вельмі падобныя.* Усе троя адной мáсьці, кажный пызнáіць, што Сярьгеіва прíрода. Во ўжо хто аднае мáсьці — ета Хлімынáты, пряма ні рызьлíчы́ш, айдзе каторый. Як Рыгазёнык, так і Даніла адной масьці, толька і глядзіць, што айдзе блізка ляжыць. Земскій усё ўремя краў, а разьві Лявон ні аднае масьці быў злодзій?

**Адно к аднаму.** *У адно цэлае.* Сьпірва біс пырасёнка асталіся, а цяперя карова так пыдвіла, і адно купі, і другоя,— етык адно к аднамý і выходзіць. Нешта адно кы днаму ўсё бяс толку. Адно кы днамý, адно кы днамý, дык яно й ёсць.

**Адно** [толька] **названіе** (празваніе). *Пра неадпаведнасць назвы сутнасці.* Ікая там маліна, адно нызвáнія

маліна, можа дзесіць ягыдзін сядзі́ць. Адно прызва́нія, што Трыхімёнык, хызя́йства, як Трыхыміняты, ні глядзі́ць, вы́піць, пугуля́ць — большы нічога. Адно толька нызва́нія, што лажок, травы на ём у самыя лу́ччыя гады ні хваробы ні бува́іць. Вот прызва́нія толька адно чылавек, у яго нічога чылавечыскыга ні ста́лыся, усігда ходзіць як воўк.

**Адно ў адно.** *Адборнае, добрае.* Нывыбіра́ў яблык адно ў адно, пывязу́, гаворіць, унукым, ніхай паспробыюць сваіх, ні куплёных.

**Адно ўважэніе,** *іран. Пра аднолькавасць падыходу, адносін, ацэнкі.* Хуць у нітку вы́цігніся, у Грібыча́ адно уважэнія: гы-ы, мацьпіріма́ць, мала зьдзелыла. Усю жы́зьню ві́дзіла адно уважэнія — добрыга слова ня чула.

**Адною душою.** *Зусім адзінока.* Сыбра́ўся і едзь, плакыць дужа ні стану і ўсьлед ні пыбягу́, прыжыву́ і адною душою.

**Адны вочы.** *Вельмі худы.* Думыю, ці ні бальнэй ён чалавек: адны вочы, а ўвесь ажно хістаіцца.

**Адны вочы асталіся,** *пр., буд. Пра вельмі худога (чалавека).* Во носіцца і носіцца днямі, гатоў і ноч бегыць, адны вочы асталі́ся. Зьбегыіцца, што адны вочы астану́цца, а тады ўжо я пытка́рмлію. *Незак.* **Адны вочы астаюцца,** *цяп., пр.* Глянь-ка ты, у яго ж адны вочы астаю́цца, ці ні зыбалела што ў сярёдку. Я думыў, ён і ня вы́жывіць, летыся ў яго адны вочы астыва́ліся. *Множн.* **Адны вочы паасталіся** (пааставаліся), *пр., буд.* Там ужо і глядзець не́ ны кыга, адны вочы пыаста́ліся. Высыхлі вун на шчэпку, адны вочы пыстыва́ліся. Уві́дзіш, якея зьдзелыюцца за лета, адны вочы пыстану́цца. Глядзець іх тама некыму будзіць, дык у іх адны вочы пыастаю́цца.

**Адны вочы блішчаць,** *цяп., пр. Пра вельмі бруднага.* Увалі́ўся ў хату, зь яго і цякець і плувець, адны вочы блішча́ць. Ты б толька глянула, ны каго ён быў паходж: як чорт, адны вочы блішчэлі.

**Адны вуглы асталіся,** *пр., буд. Усё ўкрадзена.* На́ дзінь жа хату кініш, ріні́ш і пыбягі́ш, ну й дыкіда́ліся: прішлі́ ў суботу, глянулі — замок зьбіт, зайшлі ўсярёдык — адны вуглы аста́ліся. Хочыш — калі адны вуглы

астану́цца, есьлі так ня будзіш глядзець. *Незак.* **Адны вуглы аставаліся.** У мяне ўжо два разы адны вуглы астыва́лі́ся, а ўчора ўзноў чуць ня пчы́сьцілі. *Множн.* **Адны вуглы паасталіся** (пааставаліся), *пр., буд.* Глядзіця, каб адны вуглы ні пысталі́ся, хрыбряцы́ еткія, улезуць і вы́біруць усё. Тожа так ні глядзелі, храбрі́ліся, а як пыстыва́ліся адны вуглы, куса́юць сабе локці. Кылі адны вуглы пыстану́цца, хва́ціціся вума. Так глядзеўшы, калінебудзь адны вуглы пыстаю́цца ува ўсіх траіх.

**Адны галавешкі асталіся,** *пр., буд. Усё згарэла.* Прібегла, рукамі ўсплясну́ла, куку́іць, ну што, куку́й—ні куку́й, кылі адны гылавешкі аста́ліся. Во так есьлі будзіш гру́бку другей раз кіда́ць, дык ат хаты адны гылавешкі астану́цца. *Незак., рэдкаўж.* **Адны галавешкі аставаліся.** Яны ж трі разы гарелі, ды як гарелі — адны гылавешкі астыва́ліся. *Множн.* **Адны галавешкі паасталіся** (пааставаліся), *пр., буд.* Ніхто ні забу́дзіць, як дзяреўня ў сорык трецьцім кіпела, адны гылавешкі пысталі́ся. Пакуля набеглі людзі, пычалі́ тушы́ць, адны гылавешкі пыстыва́ліся. Хва́цісься за розум, як адны гылавешкі пыстаю́цца. Бірягі́ціся людзі: еткыя сухмень і яшчэ зь віцярком, ніхай і́скырка — і ат пасёлка адны гылавешкі пыста́нуцца, гыласіця тады, кукуйця ці яшчэ што хочыця дзелыйця.

**Адны косці** (робры). *Вельмі худы.* Учора ві́дзіла я Хрітынка́: дужа плахей від, адны косьці. Жы́ціль зь яго ніва́жный, адны рёбры, вот, лі двыра трошку топыіць.

**Адны косці** (робры) **асталіся,** *пр., буд. Пра вельмі худога (чалавека, жывёлу).* Зьесьць чаго-небудзь нізашто ні прісі́ліш, вы́сых, вы́пітріў, адны косьці асталі́ся. Адны рёбры аста́ліся, а ўсё з-зу дуроў, з-зу гульні пад'есьць некылі. Ссохніш, што адны косьці аста́нуцца, і я бегыць зы табою ня буду: зьеж, сыночык, тоя, зьеж ета. Ны саломкі пыўзімы як пыста́іць, к вясьне адны рёбры астану́цца. *Незак., рэдкаўж.* **Адны косці** (робры) **астаюцца,** *цяп., пр.* Адны косьці астыва́ліся — такей быў худзю́шчый. Былі ўжо саўсім адны рёбры астыва́ліся, а глянька ты, атклія́ў. Што вы будзіця гыня́ць яго, у яго і так адны косьці астаю́цца. Знаіш, к вясьне ж корм кынча́іцца, дык у каровы адны рёбры астаюцца. *Множн.* **Адны косці** (робры) **паасталіся** (пааставаліся), *пр., буд.* Адны косьці пыасталі́ся, а дуроў сваіх ні кідаюць. Як пыкарміў нядзелю сам, дык адны косьці пыстыва́ліся. Пыстаю́цца

адны косьці — і ніхай, я лавіць вас ды карміць ня буду. Ну бубна́х жа на тых травінычкі глыдану́ць німа, адны косьці у скыта пыстану́цца. Што ты вы́біріш, есьлі на іх на ўсіх адны рёбры пысталіся. Як яны пы зямле ходзюць, у іх адны рёбры пыстыва́ліся. Зь зімы скот як выйдзіць с пуні, адны рёбры пыста́юцца, а тады ат’есца. Едзь ты ды зыбярі́ іх к сабе, глядзець іх там ніхто ня будзіць, адны рёбры пыста́нуцца.

**Адным вокам.** *Мелькам (бачыць, убачыць, паглядзець і г. д.).* Бегла, адным вокым гля́нула на тэй бызар, гырлачы́ відзіла, што былі, а ла́тык ні пагледзіла, некылі було дужа прігліда́цца. Відзіў адным вокым, ка́жыцца, Коля стыяў з Ганныю. Ты ж ба хуць адным вокым пыглядзеў, там жа зазно́ба сядзі́ць.

**Адным вухам.** *Крыху, мімаходам (слухаць, чуць, пачуць і г. д.).* Адным ву́хым чуў: нешта пыміна́лі Бальшэй Кот — ці то пірівазі́ць аттуля зьбіра́ліся, ці капу там укра́лі. Мінутычку прістоіў, адным вухым паслу́хыў — так, тріпа́ліся ат нечыга дзелыць. Пастой, пастой, я тожа пра ета адным вухым чуў.

**Адным духам.** *Адразу, у адзін прыём.* Адным духым апыражні́ў лыха́нчык, а там жа ня меншы, як кварты чатырі мылыка́.

**Адным заходам.** *У адзін прыём.* Лу́ччы було б, каб адным заходым купіць і солі і сахыру і дзіцям пы машы́ных што пыглядзець. Хочыш адным заходым двух зайцыў забіць?

**Адным махам.** *Хутка, шпарка, адразу.* Што яму, адным ма́хым піряки́нуў тоя сена. Далёка тут да тых Сьлёзык, адным ма́хым зьбегыіць. Сіла нямерныя, адным ма́хым рыссадзі́ў еткыю калодзішчу. Адным махым забіў семсот мына́хыў.

**Адным мірам мазаны,** *іран. Аднолькавыя па якасцях, паводзінах.* І Пятрок харош, і Андрей дужа ла́дзін, абоя адным мі́рым ма́зыны.

**Адным пальцам.** *Проста, лёгка, не прыкладаючы намаганняў.* Я б іх тама адным па́льцым рашту́рьхыў. К табе датронься адным пальцым, ты й пыляці́ш. Ну й сіла ж — пряма нямерныя, ён жа Сьцёпку адным пальцым пыкла́ў.

**Адным словам.** 1. *Карацей кажучы.* Дыгываріцца яны там, адным словым, ні дыгываріліся. Адным словым, сяньня я, відна, нікýды ні пайду. 2. *Коратка і ясна.* Скажы яму адным словым, каб ні ждаў асобыга пріглашэнія, ато ўжо як дыбярýся, бýдзіць харош.

**Адпаліць номер** (штуку), *часта асудж. Зрабіць вельмі надзвычайнае.* Во хто атпаліў номір, дык атпаліў, папробый прідýмыць такоя. Хочыш, такую штуку атпáлюць—ува сьне ні сасьніш. Цюхіліня́ты табе такей номір атпáлюць, што дзівіцца будзіш, яны на ўсё спасобны. *Незак.* **Адпаліваць намяра** (штукі). Помніш Саўкіныга зяця, во быў масьцір атпáлівыць нымірá. Ці рыскызаць, якея мы атпáлівылі нымірá у двыццáтых гыдах, як дзяреўня пу хутурах рыспыўзлáся. Атпáлівылі штукі, як бандыю хадзілі, німáла людзей ат іх пыплáкыла. *Працягл.-фінальн.* **Наадпаліваць** (даадпаліваць) **намяра** (штукі). Нытпáлівылі нымірá, такоя тварілі, што як іх зімля дзіржáла. Зьехыліся, сыбрáліся ўзноў, цяперь нытпáліюць штукі аравыю. Во дытпáлівыў нымірá, ну й добря, так і нада, ато ж праходу ні було. Ніхай сабе абыйшлося, ну калі ж небудзь дытпалівыюць штукі, нарвуцца ны сваё. *Гл.* А д к а л о ц ь н о м е р.

**Адпраўляцца** (іціць) **на тэй свет.** *Паміраць.* Атпрыўля́юцца стырікі паціхіньку на тэй сьвет. Ніхай якей ні старэй, а йціць на тэй сьвет нікому ня хочыцца. *Зак.* **Адправіцца** (пайціць) **на тэй свет.** Раз Трахім атпрáвіўся на тэй сьвет, то мне й бог вялеў сыбірáцца, ён жа здароў быў, як гром. Рана пашоў на тэй сьвет і ўсё так, ціріс сваю глýпысьць.

**Адпраўляць на тэй свет.** *Забіваць; даводзіць да смерці.* Любіў ба ты атпрыўля́ць людзей на тэй сьвет, глядзі, каб сымаго ні схваціліі ды ні тпрáвілі. *Зак.* **Адправіць на тэй свет.** Вы мяне скора сваімі дурáмі атпрáвіця на тэй сьвет. Зь імі толька зьвяжы́ся, хочыш — пікану́ць, а не — дык пыцьсьцірягýць і на тэй сьвет атпрáвюць. *Множн.* **Паадпраўляць на тэй свет.** Ты нас на тэй сьвет зьбірáісься пытпрыўля́ць, — ня вы́йдзіць, можыш сам скарей туды пупáсьць. *Працягл.-фінальн.* **Наадпраўляць** (наадпраўляцца, даадпраўляць, даадпраўляцца) **на тэй свет.** Во ізьвірьг быў, нытпрыўля́ў людзей на тэй сьвет. Адзін нытпрыўля́ў на тэй сьвет і другей скора ета самыя палýчыць. Нытпрыўля́ліся яны людзей на тэй сьвет, лі

Цёмныга лесу, кызáлі, пылажы́лі многа. Во, дытпрыўля́лі народухну на тэй сьвет, насы́цілiся кроўю. Дытпрыўля́ўся людзей на тэй сьвет, па ім тыкі даўно пітля́ плáкыла.

**Ад прыроды** (прыроддзя). *З нараджэння ці па спадчыне.* У іх кыртавысьць ат пріроды, матка мáлінькыя, бувáла, як пычанець турлы́чыць, забі, ні рызьбяреш ні слова, а пыдрастýць — і нічога нулумáюцца гываріць. Ён ат пріродзьдзя такей спасобный, у іх у раду глумакоў ні було. Ат пріродзьдзя гультай, нягож ач чаго.

**Ад пуза,** *груб. Уволю.* Быгаценную свадзьбу спрáвілі, усяго ат пýза було. Ныпікла сваім пірагоў: ежця ат пýза, хуць рысьпіряжы́цiся.

**Адпускаць вожкі.** *Змяншаць кантроль, даваць крыху волі.* Ні нада було атпускаць вожкі, зразу ляхчэй дзіржáць у руках. *Зак.* **Адпусціць вожкі.** Раз атпусьцíла вожкі, другей раз атпусьцíла, а на трецьцій яны і вухым ні вядýць. *Множн.* **Паадпускаць вожкі**. Што ж я скажу, пыатпускáлі вожкі, а цяперь áйкыіця. *Працягл.-фінальн.* **Наадпускаць** (даадпускаць) **вожкі**. Відзіш, як ты нытпускáў вожкі, што зь естыга вы́йшла. Во як дытпускáлі вожкі, ці лёхка цяперя пірідáчы насíць. *Гл.* Аслабляць вожкі.

**Адпускаць** (пускаць) **душу жывою** (жывую), *часта жарт. Праяўляць спагаду пасля мардавання.* Атпускáй ты ўжо яго душу жывою, ніхай скарей бягíць,— к машы́ні спозьніцца. Ну што ты, ужо і душу маю ня хочыш атпускáць жывýю. Ды во дýмыю, ці пускаць, ці ні пускаць тваю душу жывою. Пускайця вы яго душу жывую, нашто ён вам. *Зак.* **Адпусціць** (пусціць) **душу жывою** (жывую). Атпусьцí ты маю душу жывою, нічога я аць цябе ні хачу і ні прашу. Нейкія бысячýгі злавілі, атыбрáлі ўсё, што нёс, касьцю́м зьня́лі, тýхлі, толька душу атпусьцілі жывую. Ці вы пусьціця маю душу жывою, ці ня пусьціця? І ні хацелыся б пусьціць тваю душу жывую, ну ладна ўжо, ідзі.

**Ад сілы.** *Самае большае.* Тут аць сілы трі хýнты ўсяе квасолі, а ты мне хочыш зы два кілыгрáмы ўперць. Нізашто ні нылівáй многа, я аць сілы пяць ложык зьем.

**Ад слова да слова.** *Усё поўнасцю.* Пірідáлі ац слова да слова усё чы́сьцінька і дайжа прібáвілі, пра што я духым ні знаў і ня чуў.

**Ад случая к случаю**. *Несістэматычна.* Я ў сваіх у Пыстырнáкых редка буваю, так, ац слýчыя к слýчыю зыхаджý калі.

**Адставаць ат ног.** *Стамляцца ў час хадзьбы.* Як пройдзіш підзьдзісят вёрст, ат ног, бувала, ацстывáлі. *Зак.* **Адстаць ат ног.** Столька вы́хыдзіць, ні хыця ацстáніш ат ног. *Усеаг.* **Паадстаць** (паадставаць) **ат ног.** Мы ж пряма ат ног пыцстáлі — столька прайціць ды з ношкымі. Я знаю, што пыцстаю́ць ат ног, Шамыва ня блізкій сьвет.

**Адставаць ат рук.** *Стамляцца працуючы.* І ў хáці хвытаіш, і ны дваре нада зьдзелыць, і ны грідах ня поліна — зá дзінь ат рук ацстаеш. *Зак.* **Адстаць ат рук.** Сколька чаго пірядзелыіш — ацстаць ат рук можна. *Усеаг.* **Паадстаць** (паадставаць) **ат рук.** Пакуля зьвеілі ды ў мяшкі ссы́пылі — там жа дзьве машы́ны — ат рук пыацстáлі. Пыцстывáлі ат рук лі кынбáйна — і пыднасíць, і атнімáць, і адгрібáць нада зразу.

**Ад** [усёй (чыстай)] **душы**. 1. *Адкрыта.* Пысядзелі, ад душы пыгыварíлі, ён мне пра ўсю сваю жызьню рыскызáў. Не, я віджу, што ён ат усёй душы гаворіць. Каб жа ета гыварíлыся ач чы́стый душы, ато ж не. 2. *Радасна, шчыра.* Зайдзі-ка, зайдзі к куме, іна цябе пычастуіць ад душы. Ат усёй душы прінімала гасьцей. Каго ні сустрюкáюць, дык усігда ач чы́стый душы. Яны так ужо блыгыдарíлі ач чыстыя душы, ну, што мы дзевычку прівязьлí.

**Ад усяго** (чыстага) **сэрца.** 1. *Адкрыта, чыстасардэчна.* Я ж нічагенічка ні хувáла і ні скрывáла, я ж ат усяго серца гыварíла: што було, то було. Васіль ня тэй чылавек, ач чы́стыга серца гыварíць ня дужа разгоніцца. 2. *З найлепшых пабуджэнняў.* Бярі, раз даюць ат усяго серца. Мы ж бізь нічога нія́кыга, ач чыстыга серца вам, а яно вун што пулучáіцца.

**Адходчывае серца.** *Пра незлапомнасць, адходлівасць.* Ай, ні бядуй ты, у Шуркі атхоччывыя серца, рáзым уськівіцца, а тады атойдзіць і як нічога ні було.

**Ад цямна да цямна.** *Поўны дзень.* Цэлых дзьве нядзелі петыліся лáдна, аць цімна ды цімна тыпары́ з рук ні выпускáлі.

**Аж** (ажно, што) **за вушамі трашчыць,** *цяп., пр., буд. З апетытам, з задавальненнем (есці).* Нылілá па міскі

капу́сты, а тады пу куску́ быра́ніны пылажы́ла, дык яны нываліліся, сталі есьць, аж зу вушамі тряшчы́ць. Вы́бігыліся ладна, умiна́юць усё пыдряд, ажно зу вуша́мі тряшчы́ць. Ядуць, што зу вуша́мі тряшчыць, прыгылыда́ліся зы такую дарогу. Зразу атка́зывыліся, а тады міскі пыць сябе пыцьцягну́лі, сталі есьць, аж зу вушамі тряшчэла. Мылаці́лі усё пыдряд, што зу вушамі тряшчэла. Ніхай вы́бігыюцца, будуць есьць, ажно зу вушамі тряшчэць будзіць. Прытрясу́цца, то возьмуцца зы яду, што тряшчэць зу вушамі будзіць.

**Аж** (ажно, што) **нос гнецца,** *цяп., пр., буд. З апетытам, з задавальненнем, ахвотай.* Есьць сы сма́кым, аж нос гнецца. Ядуць усё пыдряд адзін пірід адны́м, ажно насы гнуцца, яны ніпірябі́рлівыя. Апліта́іць кылбасу з булкыю, што нос гнецца. Так цірябі́ў капусту, аж нос гнуўся. Прачу́хыліся, дык жралі, што насы гнуліся. Вы́хыртыюцца, то ня будуць пірібіра́ць, а будуць есьць аж насы будуць гнуцца. Прібіга́ць зь леса, апся́дуць міску, ажно насы будуць гнуцца,—так ім пойдзіць усё пыдряд.

**Азяліць** (адурыць) **галаву** (галовухну). *Вельмі надакучыць, атлуміць.* Пыдняхверься, пыдняхверься астацца, ён табе за дзень азеліць гылаву, што ні рада будзіш і пла́ты тае атрякесься. Азялі́ла ты маю галовухну сваёю трілю́дыю, як толька табе язык ні зыбалі́ць несьць лухту ніпыцьсіва́ныю. Саўсім гылаву адурілі гылыгаленьнім, ні адной мінутычкі спакойна ні пабу́дуць. Адурі́ў жа ты мне галовухну, худзь ба быў уталон якей-небудзь.

**Азяліць і адурыць,** *асудж. Вельмі надакучыць, атлуміць.* Утраіх як рысхадзі́ліся — ні ўняць, азялі́лі і адурілі, і ні за што ні да́лі ўзяцца. *Усеаг.* **Паазяліць і паадурыць**. Другея ж дзеці як дзеці, а етых радзі́міц іх знаіць, што у іх твары́цца, пыазялі́лі і пыадурі́лі.

**Айдзе бог дасць.** *Дзе прыйдзецца.* Пайду, піріначую айдзе бог дасьць, цяперя лета, капу́ пупа́ў і сьпі, у сені дайжа здыравей на вольным воздухі.

**Айдзе наша не прападала**. *Пра гатоўнасць рызыкнуць.* Канешня, Сапры́нывічы ня блізкій сьвет, ну там ба мы хырашо гульну́лі,— дывай пайдзём, айдзе наша ні прыпыда́ла. *Зак., адзінк.* **Айдзе наша не прапала.** Купім? — айдзе наша ні прыпа́ла, плаці́ грошы.

**Айдзе ракі замуюць,** *цяп., пр. Пра пагрозу цяжка пакарадь.* Я чыкыцца доўга ні люблю, у мяне скора пызнаіш, айдзе ра́кі зімуюць. Мы яму січас пыка́жым, айдзе ракі зімува́лі.

**Акалачываць** (выкалачываць) **парогі,** *асудж. Надакучаць частым наведваннем.* Работыць ні пріговіш і ні прітýркыіш, а так во пы ха́тых зь дня ў дзень акыла́чывыіць парогі. Ні за што рукою ўзяцца ня хочыць еткій лабрэціна, выкыла́чывыў ба і выкыла́чывыў парогі, ды, знаць, ня дужа хочуць у хаты пуска́ць. *Множн.* **Паакалачываць** (павыкалачываць) **парогі.** Як пашлі з ра́ньня, пыакыла́чывыюць парогі ува ўсіх, усё ізыкамі лах-лах-лах. Зы адзін дзень пывыкыла́чывыіць парогі у пыўдзяреўні. *Гл.* Аббіваць парогі.

**Ані гу-гу**. *Ціха, спакойна.* Сяньня я вы́йшыў, сонца толька зьбіра́лыся ўсхадзіць, усюдых ані гу-гý, ажно кропна неік.

**Ані** (ні) **ў зуб**. 1. *Нічога (не разумець, не ведаць).* Ані ў зуб нічога ні знаюць, аткуль жа ім знаць, кылі ды цімна́ у мя́чыка носюцца. Стала тулма́чыць ёй кросны: ты ж во так глядзі і во так кіда́й, дык ні ў зуб ні пыніма́іць. 2. *Нічога (не есці, не піць).* Сулíла я і крупені, і кашы зыбіля́ныя, і крошку вокырка атрезыла — ані ў зуб ні ўзяў. Я ні знаю, нешта Адарка дужа слабыя, ні ў зуб нічога ня хочыць: ні магý, ні дыва́йця, атвяжы́ціся.

**Ані** (ні) **ў зуб нагою**. *Нічога (не разумець, не ведаць).* У плотністві ён ані ў зуб нагою ня смы́сьліць. Дывай я спра́шывыць, што сяньня учылі, што ўчора прыхадзілі, спрасіў пы гісторіі, пы гіягра́фіі — ён жа ні ў зуб нагою ні знаіць, а ета ж сёмый клас.

**Ані подступу** (падступіцца). *Ні ў якім разе.* Хацела я пыгывáріць зь ім, як ш чылавекым, рыспрасíць, што, як случы́лыся — айдзе там, ані поцступу. Сядзіць туча-тучыю, ані пуцступíся; скызалі, што дренна работыў лі стога.

**Апасная гульня**. *Небяспечная справа.* Зьвя́зывыцца з зысыжа́нцымі — ета апа́сныя гульня. Ні зывадзíця апасныю гульню, пупыдзіцёся і пыса́дзюць, як чарцей якіх. Дыныра́вюцца табе калі твае апасныя гульні.

**Апрастаць** (аслабаніць) **рукі.** *Вызваліць, памёршы пасля працяглай хваробы.* Наму́чылыся сы стыріком:

ліжаў, ні пыднімáўся большы паўгода, пакуль апрыстáў рукі. Сы днаго боку аслыбаніла рукі, а з другога ж і пымыгáла трошку хуць кыла печы. *Незак.* **Аслабаняць рукі.** Ай, ныжылася, хваціць, нада ўжо рукі аслыбынáць мылады́м.

**Апускацца на дно**. *Траціць годнасць чалавека.* А так во апускáіцца на дно і апускáіцца, ніхто ні глядзіць за ім, а сам узяцца зы сябе ня здоліць. *Зак.* **Апусціцца на дно**. Апу́сьціцца на дно, сап'ецца і прыпадзець ні за нюх тыбáкі. *Множн.* **Паапускацца** (паапусціцца) **на дно.** Самі так пупускáліся на дно, гарелка зьвілá, што ну людзей ні паходжы. На дно пыапу́сьцюцца, будуць на іх глядзець, як ну глумакоў якіх.

**Апускаць** (вешаць) **галаву** (нос). *Сумаваць; прыходзіць у адчай.* Ні апускай гылаву, дзяржыся, ніхай ідзець, ты сабе яшчэ ня еткыю нáйдзіш. Пасьледнія ўремя і Стыльмашонык нешта пычаў апускаць нос. Будзіш во так вешыць гылаву, ну й трясцы палу́чыш, ідзі і дыбівáйся. Ня вешый нос,— утрата-то тыкая. *Зак.* **Апусціць** (павесіць) **галаву** (нос). І ты апусьціў ба гылаву, каб такоя случы́лыся. Во й Лёнька што-то апусьціў нос, відна, нешта выйшла ні пы яго. Прідзі́сь табе такоя, і ты павесіў ба гылаву. Што вы, хлопцы, павесілі насы, нада глядзець пітухáмі. *Множн.* **Паапускаць** (паапусціць) **галовы** (голавы, насы). Усё храбріліся: нікога ні баімся, а тут пыапускáлі галовы. Дужа ні асьмелівыйціся, пупускáіця насы і сьмелысьць айдзе дзеніцца. Во калі пыапусьцілі голывы, ато ўсё ім места нійдзе і ні разу ні було. Што вы пыапусьцілі насы, як мокрыя куріцы глідзіцё.

**Апускаць** (вешаць) **вушы.** *Губляцца, адчайвацца.* Што йта вы апускаіця вушы, вун відзіця, як другея дзіржáцца. Канешня ж, такоя дзела ніпрія́тна, толька вешыць вушы ні нада. *Зак.* **Апусціць** (павесіць) **вушы.** І ты апусьціў ба вушы, каб ні сяньня-заўтря ждаў павесткі на суд. Павесіў Ільля вушы, відна, чуствыіць, што так дзела ня бойдзіцца, прідзіцца атвічáць. *Множн.* **Паапускаць** (паапусціць) **вушы**. Ну, пры свайго як пачуюць, пыапускáюць вушы. Вушы цяперіцька пыапу́сьцюць, тут ім ні ду гулю́шык.

**Апускаць вожкі**. *Даваць залішне волі.* Што ж апускáіш вожкі, як рыспадзецца, тады нáныва склáдывыць

плоха. *Зак.* **Апусціць вожкі**. Апусьціў вожкі — яно й пашло укрі́ў і ўкось. *Множн.* **Паапускаць вожкі.** Нешта яны пыапуска́лі вожкі, ці ні зьбіра́юцца рыспрыдыва́цца. *Працягл.-фінальн.* **Наапускаць** (даапускаць) **вожкі.** Ныапуска́іця вожкі, як і с хызя́йства сыб'іцёся, і с паездкыю нічога ні палу́чыцца. Дыапуска́юць вожкі, што біс куска хлеба аста́нуцца.

**Апускаць вочы.** *Саромецца.* Чаго ж табе апускаць вочы, ты ж ні ўкраў і ні атыбра́ў, сваё нясеш, зароблiныя. *Зак.* **Апусціць вочы.** Дужа хра́бра біз Матруны дзіржа́ўся, а як іна прішла, зразу апусьціў вочы. *Множн.* **Паапускаць** (паапусціць) **вочы**. Зразу ого як, на́ўгрудкі кідыліся, а як стала Марья страміць, пыапуска́лі вочы. Пыапусьці́лі вочы, стыдна ста́ла ўсім траім.

**Апускаць рукі.** *Траціць запал.* Адзін ацступі́ўся, другей ні бярецца і трецьцій, ві́джу, апуска́іць рукі, дык я думыю: дывай-ка сыма вазьму́ся ды дывяду́ ды кынца́. *Зак.* **Апусціць рукі**. Ныпра́сна ты рукі апусьціў, нада було дзела зьдзелыць, а тады ўжо ехыць. *Множн.* **Паапускаць** (паапусціць) **рукі.** Уві́дзілі, што дзела ня вы́пыліць, і рукі пыапуска́лі. Што ж яны рукі пыапусьцілі, тут, ныбарот, нада скарей дывадзі́ць ды ла́ду ўсё.

**Апяць дваццаць пяць,** *неадабр.* *Зноў тое ж самае.* Я гыварю, бягі скарей, спозьнісься, а ён апяць дваццыць пяць, сваё трілюдзіць.

**Арашацца** (рашацца) **вума.** *Вар'яцець, прам., перан.* Зь ёю пычало нешта тварі́цца, стала вума арiша́цца, тады сыгряблі́ і зывязьлі́ ў Мугулеў. Нагледзілыся я, як вума рішаюцца, ета ж з маёю цёткыю ны маіх вычах усё ста́ла. Ні арішайся, чылавек, вума, яй-богу, ні арішайся, дзелый, што табе гаворюць. Ці ты вума ріша́ісься, ці дзяці́нісься саўсім, што с табою, як з малю́тычкыю, гываріць нільзя. *Зак.* **Арашыцца** (рашыцца) **вума.** Прібеглі, глянулі — кіпіць пастройка, дык ён нічога, зубамі зыскріпеў, а сыма на месьці вума арішы́лыся. Ад горя ні зыріка́йся ат ніякыга, во ці ду́мыла, ці гыда́ла баба, што сын вума рішыцца. Ну ці ты арішыўся вума выпрыўля́цца ў дарогу еткім надворыім, калі сыбаку с хаты нільзя вы́гныць. Не, знаць, ты саўсім рішылыся вума,— айдзе ж ты будзіш хадзіць пы нізнакомыму горыду і спра́шывыць Хутулёнка. *Множн.* **Паарашацца вума.** Пырішалiся вы,

людзі, вума: ета ж падўмыць толька: ім ужо нічога ні нада, ніхай прыпыдáіць.

**Арду ўзнімаць** (паднімаць, падымаць, пачынаць, усчынаць). *Пачынаць крык, сварку, лаянку.* Ні ўзьнімáй ты ардў зу пустатў, цэла бўдзіць твыя дзіхцярка, прінясўць. Кáжніténькій дзень арду пыднімаюць, ціха ні аднаго часу ні абыйшлося. Во сядзіць у бабі халера, узноў арду пыдымаіць, чуіш, пымінáіць нейкія снапы. Пірістань, адўмыйся, ні пычынáй яшчэ арду пу-суседзку. Як жыць зь ёю, як быць — пряма сам ні знаю: зы нішто ніякынькыя арду ушчынáіць кáжын дзень. *Зак.* **Арду ўзняць** (падняць, пачаць, усчаць). Узьнялі арду на полі, зы пяць вёрст чўтна. Арду паднімуць — ні стыдá у людзей, ні сырымá. Ты паслухый-ка, якую арду пычалі Манька с Просію, во ўжо горлы, дык горлы. Зычапі толька адным словым, січас арду ушчанўць,— злыйдўх сядзіць у бáбых.

**Арціст на гляніпічах,** *іран. Хлюст, задавака.* Ці відзілі вы таго арціста ны глянішчых, што абізьянкі ны гáльштуку. Вун явіўся арціст ны глянішчых, пулюбўйціся ны яго, ажно сіяіць, толька грязь зыкарела пад носым.

**Арціст пагарэлага цяятра,** *іран. Неімаверны хвалько.* Вот ён, арціст пыгарелыга ціятра, пыд'явіўся, січас пріставўленія пычанецца. Мы тут ня відзілі еткіх арцістыў пыгарелыга ціятра.

**Аслабляць** (паслабляць) **вожкі**. *Змяншаць кантроль, даваць крыху волі.* Аслыбляць вожкі тут ні ў якім рáзі нілізя. Стань пыслыбляць вожкі хуць троху, тады ўжо ў руках ня ўдзержыш. *Зак.* **Аслабіць** (паслабіць) **вожкі**. Чуць аслáбіў з малымі вожкі — і пышлá распўста. Як вожкі пыслáбіш, пуця ня жджы.

**Аставацца з носам**. *Аказвацца без ніякага прыбытку.* Ну й астывáйся з носым, раз ня хочыш слўхыць, што табе гаворюць, як чылавеку. *Зак.* **Астацца з носам**. Дзім'янёнык астаўся з носым, айдзе яму с Пракопым цігацца. *Множн.* **Пааставацца** (паастацца) **з носам**. Бўдзіця ждаць — і палўчыцца з вашыга ждыньня, што пыстыіцёся з носым. Ніхай, яны тожа пыстáнуцца з носым.

**Аставацца на бабах.** *Апынацца без нічога.* Ты прідўмый-ка еткыя дзіва: усё зыбярўць яны, а ты астывáйся ны быбáх. Табе ўсігда пріходзіцца ны быбáх астывáцца, а ўсё з-зы таго, што шчытаіш сябе рузумнейшым за ўсіх.

*Зак.* **Астацца на бабах.** Ныляцелі, як выраньнё, усё рысхвыта́лі, рысхвыта́лі, а ты, родныя дычка, аста́лыся ны быба́х. *Усеаг.* **Пааставацца** (паастацца) **на бабах.** Яны ўсё чы́ста зыгряблí, а мы пыстыва́ліся ны быбах. Глядзі што, Кузьмовічы пыста́нуцца ны быба́х.

**Аставацца ў баку.** Не прымаць удзелу. Мне тожа астывацца ў баку нялоўка було. *Зак.* **Астацца ў баку.** Усігда лыцна́іць, каб астацца ў баку. Ляксей Зьмітракоў ні аста́ніцца ў баку.

**Аставацца ў выйгрышы.** *Аказвацца з прыбыткам.* Відзіш, думыў: ужо астаецца ў вы́йгрышы, а тут на табе — усё ўверьх тырма́шкымі. *Зак.* **Астацца ў выйграшы.** Ты саўсім случа́йна астаўся ў выйгрышы, ета табе проста пыдвязло.

**Аставацца ў дзеўках.** *Не выхадзіць замуж.* Ну што ж мне дзелыць есьлі ніхто ні бярець, прі́дзіцца астыва́цца ў дзеўкых. *Зак.* **Астацца ў дзеўках.** А якой ета хочыцца астацца ў дзеўкых, ка́жныя глядзі́ць, каб сям'ю імець, свой ву́гыл. Луччы ў дзеўкых астацца, чым іціць зы каго зря. *Множн.* **Пааставацца** (паастацца) **у дзеўках.** Нашых гадоў многа ў дзеўкых пыстыва́лыся, зы каго ж було выхадзі́ць, калі з вайны ні пываро̀чыліся. Ну й што, кылі ў дзеўкых пыстанёмся, а табе што?

**Аставацца ў дураках.** *Аказвацца ў недарэчным становішчы.* Хто што айдзе ня зьдзелыіць, а ты ўсігда ў дурука́х астаесься. Няўжэлі табе дужа аньціресна астывацца ў дуруках? *Зак.* **Астацца ў дураках.** Ох, якея мудряцы́: яны будуць муўчаць і толька пасьмі́хывыцца, а ты вы́ступі і аста́нься тады ў дурука́х. *Множн.* **Пааставацца** (паастацца) **ў дураках.** Во так во стыялі, глядзелі пырызя́віўшы раты і пыстыва́ліся ў дуруках. Глядзіця, можыця пыаста́цца ў дурука́х бы́йстра.

**Асыпаць** (засыпаць) **золатам.** *Адорваць багаццем.* Ты мяне ўжо ці ні чацьвёртыю асыпа́іш золытым? Ны слыва́х зысыпа́іюць золытым, толька ў жызьні капейку ці пріжджэш калі. *Зак.* **Асыпаць** (засыпаць) **золатам.** Ён асы́піць золытым, будзіць асы́пына, ніхай ба хуць сябе прыкармі́ў. Пріедзіць — дык зразу золытым засы́піць, усіх ныградзі́ць.

**Асядаць на зямле.** *Пераходзіць да сталага занятку земляробствам.* Ён мне зразу скызаў, што асіда́ць ны

зямле і ня думыіць, і ні зьбіра́іцца. Ні мае ўжо гады, каб асідаць ны зямле, я ног цігаць ня ўздолію. *Зак.* **Асесць на зямле**. Яго пра́дзід неік лі карчмы́ прівіва́ўся, адно ўремя, знаць, сам дзіржа́ў, а дзед тады купіў кусок поля у па́ні, кустоў троху, цірябілі там, так і аселі ны зямле. *Множн., рэдкаўж.* **Паасесць** (паасядаць) **на зямле**. Былі пыаселі ны зямле, папробывылі, ды не, ні смашна, цяжол мужы́цкій хлеб. Ніхай троху паезьдзюць, тады пысіда́юць ны зямле, нікуды яны ня дзенуцца.

**Ат Адама.** *Здалёк (пра гаворку).* Ты мне ні зывадзі́ ат Адама, а рыскажы́, як там було і што. У Жэнькі ўсігда тыка́я прівы́чка: кылі пычына́іць што рыска́зывыць, то абіза́цільна ат Адама.

**Аталлюцца кату мышкіны слёзы,** *жарт., буд., рэдка пр. Пра непазбежнасць адплаты.* Пулучы́ла Верка дзьве ты́січы і вы́рвылі тэя грошы, ну нічога, атальлю́цца кату мы́шкіны сьлёзы. Во пы́рьхыў і дыскыка́ўся, атліліся кату мышкіны сьлёзы.

**Аталлюцца слёзы,** *буд., рэдка пр. Пра непазбежнасць адплаты.* Атальлю́цца сьлёзы, нягож ні атальлю́цца, век жа віріду́ва́ць ня будзіць. Ніхай табе мае сьлёзы атальлю́цца ўдзіся́ціра. А ета ж людзкея сьлёзы атліліся.

**Атвадзіць вочы**. 1. *Адцягваць увагу, падманваць.* Ты едзь, ды глядзі, ато жулікі на́йдуцца — адзін будзіць вочы атвадзі́ць, а другея с калёс усё вы́цігнуць і зьнясу́ць. Ета, рыска́зывылі, руса́лкі умелі вочы атвадзі́ць — атвяду́ць вочы каму і тады куды хочыш зыцягнуць,— дык ета пріду́мывылі, можа, каб дзяцей пужа́ць. 2. *Не глядзець, саромеючыся.* Што, цяперя атводзіш вочы, а як ла́іцца ўчора пы-ўся́кыму дык дужа ладна ўмеў? *Зак.* **Атвесць вочы.** 1. Глядзі, ня будзь вароныю, там жыва атвядуць вочы і так аблапошуць, што агледзіцца ня ўсьпеіш. Дзед рысказывыў, што раншы ў лесі нібытта нехта мог атвесьць вочы і цэлыю ноч вадзі́ць, а к ра́ньню атпуска́ў. 2. Я йшла міма, дык абея атвялі́ вочы і дзелыюць від, што мяне ня ві́дзюць: стыдна, як су́чкым. *Множн.* **Паатвесць** (паатвадзіць) **вочы**. 1. *рэдкаўж.* Яны каму хочыш вочы пытвядуць. Пыдыйшлі́ к выза́м, дывай усякыю трілюду несьць, пытвадзі́лі тым вочы, а самі шлеі пыбрізалі. 2. Чаму ж ня стыдна, пытвялі вочы, ні глідзяць. Пыатводзюць яны вочы, пыдажджы́ трошку, ім німа ніякыга ні стыда́ ні сырыма́.

**Атвадзіць душу**. 1. *Суцешваць, супакойваць.* Я ціразь дзень, ціріз два хаджу, атваджу ёй душу,— а так усё сядзіць, ташнуіць. 2. *Суцешвацца, супакойвацца.* Пыпарюся то ны гародзі, то на бульбі, а то лі двыра топыю, трошку атваджу душу. Гаворіць, атвадзіць душу пайду. *Зак.* **Атвесць душу.** 1. Пыгывapі-ка ты зь ім, рузуверь, атвядзі яму хуць троху душу. 2. Схадзіла, пыбыла ў Пынасывых трошку, хуць атвіла душу, ато як сяджу ў хаці, як ныбяру ў гылаву, дык ні знаю, што б дзелыла.

**Ат вады** [не] **атабрацца.** *Пра нязмерную прагу да вады.* Што ты такоя зьеў, што ат вады ні адбяресься. Ці адбяруцца яны сяньня ат вады? Кажыцца ж, нямножка і зьела — хвост сялёдкі, праўда, трошку сылінывaтыя, і ўвесь дзень ат вады атыбрацца ні магу.

**Атварачываць** (вярнуць) **морду** (рыла), *груб. Адмаўляцца, выражаць нязгоду.* Яму прідлыгаюць як чылавеку вазьмі, а ён яшчэ морду атвырачыіць: ні пы ныраву нешта. Чаго ты атвырачывыіш рыла, што, я табе тарелычкі пызалочыныя буду выпісывыць? — во пыставіла міску — і жрі. Іна і так, і етык: Пітрачок, чаго ж ты, ну рыскажы што-небудзь, а тэй Пітрачок верніць морду. Ні вярні рыла, а сядзь ды напургыйся, пан то еткій. Што ты ўсігда атвырачывыіш морду, як ён табе працівін.— А нягож ні працівін, і ты б рыла вярнула, каб ціряз ноч у дваре нучываў. *Зак.* **Атвярнуць морду** (рыла). Ты яму гывapі, дукуй яго, а ён атверніць морду і ноль унімания тваім слывам, дайжа вухым ні вядзець. Чаго ты атвярнуў рыла, я ж доўга чыкыцца с табою ня буду, у мяне раз-два і зыгаворіш, і паслухыіш. *Множн.* **Паатварачываць** (паатвярнуць) **морды** (рылы). Пыглядзіш на іх, як пытвырачывыюць морды. Пытвырачывылі рылы і сідзяць: ікая іда біз гарелкі. Ну й ніхай пытвярнулі морды, мне што да етыга. Надуюцца, патвернуць рылы і сідзяць, глядзі, січас зарюхыюць. *Працягл.-фінальн.* **Наатварачываць** (даатварачываць) **морду** (рыла). Што, нытвырачывыў морду, пулучыў ласку? — і другому ета самыя будзіць. Нытвырачывыіць рыла, ой, нытвырачывыіць, хваціцца калі за розум. Як дыбяруся ўжо з вожкымі, дык ты ў мяне дытвырачывыіш морду. Есьлі с Анькыю ты дужа сьмел, то ў мяне мігым дытвырачыіш рыла.

**Атварачываць** (вярнуць) **нос,** *іран. Адмаўляцца, выражаць нязгоду.* Іна піряд ім і так, іна піряд ім і етык, а

ён атвыра́чыіць нос. Хва́ціць вярну́ць нос, кажыцца ж, ня дужа з бальшы́х паноў. *Зак.* **Атвярнуць нос.** Чаго ён там атвярнуў нос, жджэць асобыга пріглашэнія? *Множн.* **Паатварачываць** (паатвярнуць) **насы.** Ну што насы пытвыра́чывылі, што ні пы ныраву? А мне дык дужа важна, есьлі яны патвернуць насы. *Працягл.-фінальн.* **Наатварачываць** (даатварачываць) **нос.** Нытвыра́чыіш нос, дажджэсься прісма́кыў, во кіну, ріну — і будзіш галодный сядзець. Дытвыра́чывыіш нос, што вы́лізіш із-зы стыла зыпла́кыўшы і пойдзіш ня еўшы.

**Ат варот паварот.** *Катэгарычная адмова.* Ну што, пысва́тыўся, пулучыў ат варот пыварот? А па-мойму, дык суседка табе дыла́ ат варот пыварот.

**Ат веку.** *Здаўна.* Ета ат веку було: толька пірякоцісься ціріз быльша́к — і шчыплі́, і шчыплі ягыды; а не — дык толька зыкаці́ся сюда, як Ісай жыў,—тут жа сосны, сосны былі ат веку,— узноў ягыд ні тыбра́цца.

**Ат ветру валіцца** (хітацца, хістацца, шатацца). *Быць вельмі слабым.* Зьмітрок яшчэ ў прошлым гаду ат ветру валі́ўся, пряма ўстыя́ць ны ныгах ня мог. Якей зь яго жы́ціль: ідзець і ат ветру хіта́іцца, а есьць скуліндý, і то калі пысаміцца што. Такей ужо ён слабый, такей слабый, проста ат ветру хістаіцца. Летыся ат ветру хістаўся, а сёліта, глянь, нічога чылавек стаў. Чаго ты ня лечысься, ты ж чуць ны ныгах стаіш, ат ветру шыта́ісься. Ня дзіва столька атвыля́цца пы ўсякіх бальні́цых ды лызаретых, ні хыця будзіш ат ветру шыта́цца.

**Атвешываць** (развешываць, адтапырываць) **губы,** *іран. Крыўдзіцца вельмі моцна.* Як пычанець атвешывыць губы, дык ны нядзелю крі́ўды хвыта́іць. А ты сыма ці даўно пірістáла разьвешывыць губы ат ка́жныга слова. Чаго ня ўмеіць, а губы аттапы́рівыць умеіць, ні кажы ёй ні слова, ні паўслова і ні гывапі́. *Зак.* **Атвесіць** (развесіць, адтапырыць) **губы.** Ікая ня ёсць карміна, сыламі́на, мя́кніць, а ён губы атвесіў і сядзіць: ні так глянулі ны яго. Чуць што ні пы яго, нізашто — забі́ — ня возьміць, губы разьвесіць і будзіць сядзець. Вун твой хлюст, аттапы́ріў губы: нешта ні так скызалі. *Узмацн.* **Паатвесіць** (паатвешываць, паразвесіць, паразвешываць, паадтапырыць, паадтапырываць) **губы.** Ай, ні абрышча́й уніма́нія, пыатвесюць губы — ета ў іх ужо ў кроў увайшло. Вун яны сідзяць зы ста́вымі, пыатвешывылі губы. Ты гляну-

ла б на іх, як яны губы пыразьвесюць, цэлыя указэя. Ну, раз пыразьвешывылі губы, тут толку ні даб'есься. Чаго пыттапы́рілі губы, пірід вамі ны каленкі стынаві́цца ніхто ня будзіць. А ня трогый, ні дражні́, яшчэ губы пыттапы́ріюць. *Працягл.-фінальн.* **Наатвешываць** (наразвешываць, наадтапырываць, даатвешываць, даразвешываць, даадтапырываць) **губы**. Ныатвешыіць ён губы, што пойдзіць ні ш чым. У мяне іна бы́стра губы ныразьвешывыіць: зу ручонку ды ў хату. Ну, ныттапы́рівыў губы, пулучы́ў і дзьве, і пяць кні́жык. Ты ў мяне так ужо дыатвешывыіш губы, што луччы некуды будзіць. Абоя дыразьвешывылі губы. Дыаттапы́рівыюць губы, што з рёвым пойдуць ні глідаючыся.

**Ат відна да відна.** *Усю ноч.* Як сыбяру́цца гурьбою, пойдуць і ціга́юцца нейдзі ат відна́ ды відна́, с сонцым пріходзюць.

**Атвячаць галавою.** *Браць на сябе поўнасцю адказнасць.* Я гатоў атвіча́ць гылавою, што Сьціпан ні пыдвядзець, у яго ўсігда слова сьвя́та. Глядзі́, каб ні прішлося атвічаць гылавою за етыя тваe прадзелкі, цяперя с такімі дзіла́мі строга. *Зак.* **Атвеціць галавою.** Папомніш, што зы такія вы́дзілкі можыш атвеціць гылавою. Я гатоў атвеціць гылавою, што зы два дні трактыр будзіць атріманці́рывын і стыяць, што новінькій. *Множн.* **Паатвеціць галовамі** (голавамі, галавамі). Ніхай толька яны пупаду́цца ў рукі, пыатвецюць галовымі зы сваё зьдзіка́цільства. Вірідува́лі-вірідува́лі, ды голывымі пыатвецілі. Пыдажджы́ця, так ні мінецца адурюва́ньня, гылыва́мі пыатвеціця за ўсе сваe вы́дзілкі. *Працягл.-фінальн.* **Наатвячаць галавою.** Нытвіча́іць ён гылавою: некуды зьбег, і ніхто ні знаіць куды, а пеньсіі людзя́м зымыта́ў.

**Ат (з) ніці да ніці.** *Усё (расказаць, выведаць).* Іна усюдых дасту́пныя, лі Пракопа ба́нным лістом пычыла́, а ён, як дурачок, усё ат ніці да ніці і вы́лыжыў. Я б так ні пышла́, я ат ніці да ніці пра ўсё рыспрасі́ла б. Як пычанець, усе падробнысьці пірібярець, зь ні́ці да ніці ўсё чы́сьцінька руссусоліць.

**Атлежч** (атайціць, атлігнуць) **ад душы** (серца, на душэ). *Пра наступленне палёгкі, заспакаення.* Як пачу́ла я, што яны хырашо зьезьдзілі, нійдзе ні пупаліся лісьніка́м, аж атлягло ад душы. Сходзі́, пыталку́й, рузуверь,

можа ў яе атляжыць трошку аць серца, успакоіцца. Ці атлягло ў цябе ну душэ посьлі піряпу́гу таго ў лясу, ці ўсё яшчэ баісься? Ты схадзі, прайдзі, зь людзямі пыгыварі — і атойдзіць ад душы́, чаго ж ты будзіш сядзець і тушнува́ць. Цяперь у цябе трошку атыйшло аць серца, ты пыспыкайнела. Ну-ка во вазьмі ча́рычку, ды мы с табою пыталку́ім хырашэнька, каб ну душэ трошку атыйшло, ато што ўсё бідува́ць ды бідува́ць. Ну, ці атлігну́ла ў цябе трошку ад душы, што ж ты так убіваісься. Худзь ба атлігну́ла аць серца ў яе ны міну́тычку, нісколька ня можыць успакоіцца. Гаворіць, ужо атлігну́ла ну душэ, ёй жа ныпіса́лі, што жыў, руку толька абыдра́ла.

**Атліваць ат яйца,** *неадабр. Здабываць неверагодна лоўка.* Можа толька атліва́ць ат ійца́ ні навучы́ўся яшчэ. У-у-у, была ма́хырька, ат ійца атліва́ла. *Зак.* **Атліць ат яйца.** Вы толька што ні зна́іця яе нявестку, іна ж ат ійца атальлець і вокым ні змаргнець.

**Атліваць пулі.** *Рабіць або гаварыць надзвычайнае.* Калі хто і ўмеў атліва́ць пу́лі, дык ета Сямён, бува́ла, што зьдзелыіць — нядзелю ходзюць усе, пыка́тыюцца со сьміху. *Зак.* **Атліць пулю.** Ці чуў ты, якую пулю атлі́ў Шурка учора ны вічары́нкі: прішоў п’яный, зы Ма́шку і дыва́й па кру́гу ціга́ць: я табе сь Пітраком жыць ні дам, усё ро́ўна ны табе жаню́ся. *Працягл.-фінальн.* **Наатліваць** (даатліваць **пулі.** Во ета ныатліва́ў пулі, во ета пулучы́ў! Калінебудзь дытліва́іць пу́лі свае, пойдзіць як памы́йкымі аблітый.

**Ат ліца** (імя), *неалаг. Па даручэнню.* Я гывары́о ні сам, а ат ліца́ Віктыра, а ён с табою шуці́ць ні сыбіра́іцца, ты сам ета луччы мяне знаіш. Пёкла прасі́ла ат яе імя скыза́ць, каб ты ўня́ўся з гарелкыю і сям’ю глядзеў як хызяін, а не — дык ня жджы, кылі іна ды цябе дыбярецца.

**Ат малага да вялікага.** *Усе, і малыя, і дарослыя.* У іхній дзяреўні дужа дру́жный народ, за што ні бяру́цца — усігда гу́ртым, а на луг высыпа́юць ат ма́лыга ды вялі́кыга, адны стырікі́ астаю́цца ў дваре, што хадзіць ня ўздоліюць.

**Ат мала да вяліка,** *адзінк. Усе, і малыя, і дарослыя.* Ай-яй, сколька іх там було, ат ма́ла ды вялі́ка дзьві́нулі, як цёмныя туча.

**Ат начала да канца.** 1. *Усё.* Зы два вічары́ прычытáў ат нычáла ды кынцá, дужа іньціресна. Прашоў дзяреўню ат нычáла ды кынцá, нійдзе німа. 2. *Увесь час.* Я там прытарчэў на той вічарінкі ат нычáла ды кынцá. Ат нычáла ды кынцá ён там ня вы́сідзіць.

**Ат нечага дзелаць.** *Пры адсутнасці занятку.* Пашлí ат нечыга дзелыць к Анькі, пыўдня́ прутрубілі. Ат нечыга дзелыць лы́ндыіць пы дзяреўні, пыт калодзіж нечыга пыцягну́ўся. Дзень сьвятэй, схадзіць дужа некуды, ат нечыга дзелыць зываліліся ў сяніцу і прыспалі.

**Ат ранне да змяркання.** *Усё жыццё.* Гурювáла ат рáньня ды зьміркáньня, усё зы быгáствым гнáлыся, зы работыю ні дня ні ночы ня ві́дзіла.

**Атрасаць рукі.** *Адмаўляцца.* Пыглядзеў я, што і длі чаго дзелыіцца, зрáзу стаў атрісáць рукі, ні хачу́ я ў гря́зныя дзела мішáцца. *Зак.* **Атрэсць рукі.** Рукі я атрёс ат тых яблык, зыбірáй ты іх, еж, я к ім і пáльцым большы ні прітронуся. Атрясí ты рукі, нашто табе ны я́кыя палкі тэя, сквíлу мáла було? Увідзіш, ікáя там сыбаторія — ат усяго рукі атрясеш. *Множн.* **Паатрасаць** (паатрэсць) **рукі.** Усе рукі пытрісáлі, а мне чаго аднаму́ мішáцца. Луччы пыатресьць рукі і ацступíцца, чымся слу́хыць такоя. *Працягл.-фінальн.* **Наатрасаць** (даатрасаць) **рукі.** Во нытрісáлі рукі: усім було нялоўка, а каб зразу ўмішáліся, і кончылыся б усё хырашо. Дытрісáлі рукі ўсе кругом, і свае, і чужэя, а цяперь áхыюць с усіх бакоў.

**Ат рукі.** *Уручную, без спецыяльнага інструмента.* Я ат рукí лу́ччы атлінею, чым ты зь лінейкыю. Што там доўга вазіцца, ці ета вытáчывыць нада, троху апцісáў, апцісаў ат рукі, зарубкі засек ну гужы, во й каромісьлік гатоў.

**Атрэзаны ломаць** (краец). *Той, які адасобіўся, пачаў жыць самастойна.* Раз паехыў, то ён ужо атрезаный ломыць, нызад яго і ны вярёўкых ні пріця́гніш. Жынáтый — ета атрезыный крáіц, яму ж нада сваю сям'ю глядзець.

**Ат языка к языку**, *неадабр. З вуснаў аднаго ў вусны другога.* Ягор скызáў так сабе, а тут ат ізыкá к ізыку́ пашло: ён зьбірáіцца тоя зьдзелыць, другоя зьдзелыць,— пра што тэй і ду́мыць ня ду́мыў. Вот ты скызáў ні паду́мыўшы, а ат ізыкá к ізыку́ пірідáсца, пыля́дзіш, пірідáсца.

**Аўчынка выдзелкі не стоіць.** *Пра нікчэмную справу.* Я, відна, ні вазьмуся за ета дзела, тут аўчынка выдзілкі ня стоіць. Зьвяжыська ты, уремя ўваб'еш многа, а аўчынка выдзілкі ня будзіць стоіць.

**Ацірайь бакі.** *Марнатравіць час.* Нечыга вам тут бакі аціраць, вун бульбу выпахывыць нада. *Непаўн.* **Пааціраць бакі.** Ні воддых, ні работа, так бакі месіц пыацірали. *Працягл.-фінальн.* **Наацірацъ** (даацірацъ) **бакі.** Ныціраіця вы мне тут бакі, пакуля вазьму тряпку ды с хаты папру. Што, дыцірали бакі лі Сыханкоў, хвацiліся вума, што бясь сена астыіцёся?

**Ачарця галаву.** *Бяздумна.* Ня кідыйся ачырця гылаву, сьпірва падумый, што зь естыга выйдзіць. Палез ты ачырця гылаву, упутыўся, а цяперя ні знаіш сам, як вылізьць.

**Баба разанская,** *неадабр. Няўклюда.* Сядзіць баба різанскыя, ні шылахніся лі яго. Ну ты, баба різанскыя, адзьдзьвіньса.

**Бабская памяць,** *абраж. Пра няпамятлівага.* У цябе ўсігда была бабскыя паміць, табе скажы, а тады дзесіць раз пухтарі. Ай, с тваёю бабскыю паміцьцю... нейкій расьсеінный урадзіўся.

**Бабскія казкі,** *неадабр. Выдумкі.* Ахота вам слухыць бабскія казкі, Пілька ўсігда чуш якую-небудзь нясець. Тваіх бабскіх казык ні ў век ні піряслухыіш, хуць год зь места ні схадзі.

**Базарная баба,** *асудж. Скандаліст.* Пыднілася бызарныя баба, папёрла свае трілюды, нясець, што на рыт лезіць. Ня будзь бызарныю бабыю, людзей пыстыдзіся, глідзяць усе.

**Бакі** (жывоцікі, жывот) **ірваць,** *звыч. неадабр. Смяяцца да знямогі.* Што йта яны тамыцька бакі ірвуць, ажно сьцены дрыжаць, верна, тэй лырьяныўскій нейкыю трілюду рысказыіць. Во ўжо рвалі сяньня жывоцікі, калі Вірькяёнчык стаў рысказывыць, як ён прістываў у зяці ў Ширкых. Чаго ты жывот ірьвеш, можа чылавеку ныпраўду дренна стала і нада паможч. *Зак.* **Бакі** (жывоцікі, жывот) **парваць** (нарвацъ). Як пычанець рысказывыць ды яшчэ, хочыш, і пыкажыць — бакі парьвеш. Ні

нырва́лі вы бакі свае, ці дос ужо лухту́ перць ніпыцьсіва́ныю. Там усе жывоцікі пырвалі, пряма пыка́тывыліся с хохыту. Ну, ка́жыцца, нырва́лі жывоцікі уволю, большы некуды. Пряма жывот пырва́ў, як пычалі́ ўсё ўся́кыя выдзелывыць. Паслухыйця яго трілю́ды, нырьвіцё жываты́.

**Ба́кі забіваць,** *іран. Загаворваць, упэўніваць падманам.* Устреціўся мне Баріс Хомкін, дыва́й ба́кі зыбіва́ць, перць мох з балота, усё роўна як я паверю яму. Ты мне ба́кі ні зыбіва́й, я пыня́ў, длі чаго ты ета гаворіш. *Зак.* **Бакі забіць.** Каму ты хочыш ба́кі забі́ць, ён жа даўно большы забы́ў, чым ты зна́іш. *Усеаг.* **Бакі пазабіваць** (пазабіць). Глядзіця, ба́кі пызыбіва́юць і апчы́сьцюць, як белык. Ба́кі ім пызабілі, а яны сідзяць, раты разі́нуўшы.

**Бакі падвадзіць** (падцягываць). *Адчуваць голад.* Як ніхай бакі́ ні падводзіць, а ніза́штычка нічога ні папросіць, во хра́кцір у чылавека. Садзі́сь-ка за стол ды піріхвацí троху, у мяне во і ма́лінькыя ёсьць, ато ўжо табе бакí пыцьця́гывыіць. Ста́ніць бакí пыцьця́гывыць, дык зьесьць. *Зак.* **Бакі падвесць** (падцягнуць). Віджу, віджу, табе ўжо бакі пыдвяло, січас буду нылíва́ць. Ня хочыць брàць, ніхай ні бярець, пыдвядзець бакі, тады пыжалеіць. Сядзь ды зьеж, ні ўпіна́йся, я знаю, бакі пыцьцягну́ла. Такей дзень сустоіць лі скыта́ ня еўшы — бакі пыцьця́гніць, чаму ні пыцьця́гніць.

**Бальная скула.** *Капрызнік.* Ну й быльна́я ж ску́ла твой меншый, і то яму ні так, і ета ня етык, усё яму ні ўгадзі́ш,— як ты толька годзіш.

**Бальное места.** *Тое, што непакоіць, хвалюе.* Са́мыя бальноя места ў мяне — ета меншыя — неік жы́зьня яе ні скла́лыся: зы днаго вы́йшла, цяперя з другім рызыйшла́ся, а троя ж ну руках. Ета мне́ паездкі бальноя места, а табе яны дайжа ні брыдзя́ць.

**Бальшая вада.** *Разводдзе.* Сёліта быльша́я выда ні прідві́дзіцца, якей тут сьнег. Пышла́ быльшая выда, ня скора куды вы́лізіш. Мне було неік гадоў дзесіць, дык помню бальшую ваду, дзяреўні лі рякі зылíва́ла.

**Бальшая** (вялікая) **песня.** *Працяглая справа.* Я зра́зу гывары́ў, што быльша́я песьня рышчына́цца с такою пу́нію, дык ён жа бяды́: спра́вімся, ішчэ да бульбы ўсё зьдзелыім — дык зьдзелылі: зызімувала рысьпя́тыя. Не,

ета вялíкыя песьня узяцца зы піцісьценку, рышчáцца лёхка, а калі ты што кончыш.

**Бальшое** (вялікае) **серца.** *Добры, спагадлівы, чулы.* Бальшоя серца ў Дзім'яна, што ён так церьпіць яе бáлыўства, другей ба за шкы́рку і носым ціріс парог: ідзі туды, айдзе цігáлыся. Дай бог кáжныму добрыму такога чылавека, якоя ў яго вялíкыя серца.

**Бальшэй** (вялікій) **бог будзіць,** *абв., ум. Пра малую верагоднасць падзеі.* Бальшэй бог бýдзіць, есьлі табе ся́нішнія прадзелкі з рук сойдуць. Калі ты ўспаленія ні схваціў, бальшы́й бог будзіць. Ну, калі толька ніхто нічога ні замеціць, вялікій бог будзіць. Бальшэй ба бог быў, каб лісьнікі ні пранюхылі, хто столька лесу вы́віз. Вялікій ба бог быў, каб ён стаў работыць, як усе людзі.

**Бальшэя** (бальшэнныя, вялікія, сумашэдчыя, бешаныя) **грошы.** *Надзвычай дорага.* Хата харошыя, ніхто й ня гýніць, ну толька ж грошы бальшэя зыламíў. Можа іна, твыя карова, і дужа лáдныя, ну такея бальшэнныя грошы нільзя плацíць. Вялíкія грошы вы́лыжыў, а жыць ні прішлося. Такея сумашэччыя грошы яму далі! Калі ў іх з горла прець, яны і бешыныя грошы заплоцюць.

**Банным лістом ліпнуць** (прыліпаць), *неадабр. Надакучліва прывязвацца, чапляцца.* Чаго ты бáнным лістом ліпніш, ты мне нада як ні знаю што. К табе ён, верна, г дзісятый во так во бáнным лістом пріліпáіць. *Зак.* **Банным лістом прыліпнуць.** Банным лістом пріліп к Просі, ны шаг ат яе ні атходзіць. *Працягл.-фінальн.* **Банным лістом дапрыліпаць.** Дыпріліпáў банным лістом, што аччытáла — красьнеў як рак.

**Банным лістом слацца,** *неадабр. Паддобрывацца з выключнай ліслівасцю і абыходлівасцю.* Пря́ма бáнным лістом сьцеліцца пірід зіця́мі. *Зак.* **Банным лістом паслацца.** Гатовы банным лістом пыслáцца, каб толька як падлезьць. *Працягл.-фінальн.* **Банным лістом наслацца** (даслацца). Ныслáўся Хнычонык банным лістом, ні пызвалі на ксьціны. Дасьцеліцца ён банным лістом, што мыціріка́ завернуць, каб ні ныдыідáў.

**Бараду задзіраць,** *жарт. Паміраць.* Ці ні сыбрáўся ты быраду́ зыдзірáць, што ляжыш і кэрхыіш, як Сашка Гулубчонык. *Зак.* **Бараду задраць.** Во-о, я думыў, ты ўжо быраду зыдраў, а ты яшчэ пы свытáх езьдзіш. *Множн.*

**Бороды пазадзіраць** (пазадраць). Пызыдзіра́юць тваe стырікі борыды — бу́дзіш адзін у комнытых крусува́цца. Пр́ідзіць уремя — і мы борыды пызыдзярём, нягож ні пызыдзярём.

**Барані** (крый) **бог.** 1. *Ні ў якім разе.* Быра́ні бог цябе дайжа паду́мыць такоя. Крый бог ня йдзі ў адны́м пінжачку́. 2. *Няхай, калі.* Быра́ні бог сыба́ку ўві́дзіць — аж трясецца: дывай яму сыбаку. Бырані бог ні пасьпеім пріехыць воўрімя, што яны там сытвыря́ць. Крый бог ды яе вушэй дойдзіць, іна ж цябе зьесьць і ні аблізьнецца. *Гл.* Божа ўпасі.

**Баўтануць** (збаўтнуць, трапануць, мелянуць) **языком,** *неадабр. Сказаць не падумаўшы, выказаць недарэчнасць.* Адзін буўтанець ізыком што, можа, нарошня, другея пытхва́цюць — і пышла́ гуля́ць пы дзяреўні ікая трілю́да. Аткуль жа я знаю, хто ета збаўтну́ў ізыком. І адна можыць тріпану́ць ізыком, і другая, абея дужа ла́дны. Калі хто з мушчы́н, дык ета Зайчонык міляну́ў ізыком, кромі яго некыму.

**Баўтацца** (круціцца, вярцецца) **на языку.** *Амаль прыпамінацца.* Ны ізыку́ буўта́іцца, а ў рот нія́к ні пупадзець, вот нешта ж хацеў скыза́ць і ня ўспомню што. Толька што круці́лыся ны ізыку, а ты тут сы сваёй лухтою — я і забы́ў. Што ета зы па́міць ста́ла: бу́дзіць што вярцецца ны ізыку́ — і ніяк ня ўспомню. Хацеў нешта скыза́ць, вярцелыся ны ізыку, ды вы́скычыла з гылавы. *Абмеж., рэдкаўж.* **Пабаўтацца** (пакруціцца, павярцецца) **на языку.** Што ты гаворіш, пубуўта́лыся ны ізыку, гывaрі скарей. Пукруці́лыся ны ізыку, ды я ні скыза́ў. Ны ізыке пывярцелыся і на́ табе, вы́скычыла.

**Баўтаць** (трапаць, малоць) **языком.** *Гаварыць попусту.* Каб ты буўта́ў меншы ізыком, многа б луччы було. Чымся ізыком тріпа́ць, палку б дроў рыськяпі́ў: закі́нуць нечыга. Малоць — мелюць ізыка́мі, а нашто і чаго, каб хто спрасі́ў. Адно ўмеіць — ізыком малоць, каб рукі так хадзілі. *Абмеж.* **Пабаўтаць** (патрапаць, памалоць) **языком.** Што яны тама дзелылі, пубуўта́лі ізыка́мі і рызыйшлі́ся. Ніхай сабе патрепіць ізыком і ўспакоіцца, а ты пысядзі, як ба й ні цябе кыса́іцца. Ім самыя галоўныя, каб айдзе пымалоць ізыкамі. *Працягл.-фінальн.* **Набаўтаць** (натрапаць, намалоць, набаўтацца, натрапацца, намалоцца, дабаўтацца, датрапацца, дамалоцца, дабаў-

тацьʼ, датрапаць, дамалоць) **языком.** Аўхім і нубуўтаў ізыком, большы хто б там мог. Чаго там нытріпалі ізыкамі, ты б тольқа паслухыла. А што есьлі яны яшчэ чаго намелюць ізыкамі, ты ўсяму будзіш веріць. Қалі ўжо вы нубуўтаіціся ізыкамі, як тольқа яны ні зыбыляць. Ці нытріпаўся ты ізыком с тою лахудрыю? Нымалоліся ізыкамі, ужо рысьцягывыюцца пы хатых. Тэй пулучыў — дубуўтаісься ізыком і ты, яй-богу дубуўтаісься. Абея дытріпаліся ізыкамі, сыстраміла іх Аксюта — большы некуды. Ты так скора можыш дымалоцца ізыком, што й ні агледзісься. Як жа ты ладна дубуўтаў ізыком, луччы некуды, можа хуць трошычку уціхніш. А што я дытряплю ізыком, а разьві я ніпраўду што гываріў? Дамеліця ізыком, што січас дождж хляніць і будзіця мокрыя хвытаць.

**Баш на баш.** *Рэч на рэч, без прыдачы.* Махнём баш ны баш? — мае тухлі ня хужы, чым твае сыпагі.

**Без аглядкі.** *Рашуча, без роздуму.* Есьлі ўжо я вазьмуся, то будзіця ляцець біз аглядкі, аж зыпяткі будуць тряшчэць. Нясьліся біз аглядкі, як пынтаныя, некуды, каб хто іх спрасіў, хто іх гнаў. Туріла хвырасьцінью з гарода біз аглядкі.

**Без адхлыну.** *Не адпачываючы.* Бутуваліся ныт пнямі нядзелю біз атхлыну, і рукі быляць, і сьпіна, ні шывяльнуцца, ні вурухнуцца.

**Без вума** (ума, памяці). 1. *Дурны.* Ці ты біз вума, чылавек, як жа ты тургуваў цёлычку, калі ета бычок. Қаб ты ня быў біз ума ды думыў трошку, дык ба такея дураты ні сытвыряў. Ну, калі біс паміці, то й ні бяріся зь людзьмі тулкуваць. 2. *У захапленні.* Лідыгышчанскія хлопцы біз вума ат астрейкыўскіх дзевык. Чумічоньк адзь зяціцкія Тайкі біз ума. Пряма ўжо біс паміці астаецца ац свае кралі. 3. *Вельмі моцна, горача.* Сярёжка ж Адарку біз вума любіў, а йна во як зьдзелыла. Хто табе скызаў, што біз ума любіць, ён ужо к Веркі г дзісятый пыткачыіцца. Іван за Хомычкінью пряма біс паміці.

**Без вылазу.** *Увесь час, пастаянна.* Усю зіму у Ільлёвых прысядзелі бяз вылызу, у карты резыліся. Сядзіць бяз вылызу ў Хвядотывых, днюіць там і начуіць, у зяці мецюць.

**Без гыкання.** *Спакойна, без грубасцей.* Худзь ба ж раз калі скызаў бяз гыкыньня, як чылавек, ато ўсё гы ды гы.

Ці ты бяз гыкыньня рызьясьніць ня можыш, што к чаму́. Во, відзіш, і бяз гыкыньня можна абыйціцца.

**Без душы.** *Жорсткі.* Бацька быў біз душы́ і сын еткій самый. Ці ты ўжо саўсім біз душы, што такея ірунды́ прасьціць ня можыш.

**Без задзержкі.** *Адразу.* Раз я скызаў, то будзіць зьдзелына біз задзержкі. У нас усігда біз задзержкі дзелыіцца.

**Без задніх ног.** *Без сіл і рухаў.* Ладна за́ дзінь зы скатом ныцігаўся ні прівы́кшы, сьпіць біз за́дніх ног.

**Без зазрэнія совесці.** *Бессаромна.* Па́сьвіць ня хочуць, а крічáць — крічáць біз зазренія совісьці. Такей ужо чылавек, ты яму пыкáзывый, што ета ніпраўда, а ён біз зазренія совісьці сваё цьвярдзіць.

**Без канца** [і краю]. *Вельмі доўга, увесь час.* Біс кынца́ серца ўзрываіць і ніякыга уталону німа. Нешта біс кынца тама трілю́дзілі, я міну́тку пыстыя́ў і паплёўся двору. Народ ішоў біс кынца́ і кра́ю.

**Без капейкі** (граша) [ў кармане]. *Не маючы сродкаў.* Паехылі, заробюць, хочыш — цірізь нядзелю прікоцюць біс капейкі. Што ж ты выбіра́ісься біз грыша́, пыдажджы́, заўтря пулучу́, хуць на первый слу́чый дам. Зайшлі́ мы — ён сядзіць біс капейкі ў кырма́ні. Што ж ты зьдзелыіш, есьлі явіліся біз грыша ў кырма́ні, дасі́, нійдзе ня дзенісься, свае ж дзеці.

**Без** (кроме) **шутак.** *Зусім сур'ёзна.* Па-мойму, ён табе бяш шу́тык гывары́ў, што нада скарей зьбіра́цца. Кромі шутык кажу уймíся, вазьмі́ ды набі кылячкоў у па́лку, резь нада резыць. *Параўн.* Кромі шутык ёсьць авечкі.

**Без лішніх слоў** (разгавораў). *Рашуча, коратка.* Ты скажы бязь лішніх слоў, а не — дык пільні́, каб шкура зыгарелыся. Сыбраўся і бязь лі́шніх рызгаворыў пашоў, ато будзіш рузмунды́кывыць, пірілівáць с пустога ў парожнія.

**Без меры.** 1. *Вельмі многа.* Так ужо бязь меры піць — аткуль жа тоя здароўя будзіць. Жрець бязь меры, напу́ргыіцца, тады сядзіць, чуць пы́шыць. 2. *Вельмі моцна.* Не к чыму так ба́лывыць бязь меры. Ён любіў бязь меры, а йна так, хвастом вярцела.

**Без нічога** [ніякага]. *Без прычыны, раптоўна.* Верна ж було за што, бізь нічога ж ба ні шумелі. Ён тыкая халеріна — прісука́іцца бізь нічога ніякыга і нізашто ні атвя́жысься. Ну як жа ж бізь нічога ніякыга і скыза́ць ны чылавека такоя. Бізь нічога ніякыга і болька ні ся́дзіць.

**Без перасадкі** (перасядкі), *часта жарт. Безастановачна, без супыну.* Во выбіра́йся ны быльшак і пряма кыта́й быльшаком бісь пірісадкі. Як пычанець, то ўжо бісь пірісядкі будзіць свае ба́йкі весьць. Пряма бісь пірісядкі каціў, нійдзе ні мінуты ні зыдзіржа́ўся. Ехыць хуць чым— ці поіздым, ці аўтобусым хырашо бісь пірісадык, каб раз сеў — і да места.

**Без прадоння.** 1. *Надзвычай глыбокі.* У горыдзі калодзіжы, знаць, біс прадоньня, гля́ніш — і вады́ ня відна, чорна і ўсё, як іх толька рылі. Вызяріна лі Ма́лыга Кыта́ нейкыя біс прадоньня. 2. *груб. Без меры.* Жрець біс прадоньня, айдзе толька што ў ім дзяецца.

**Без просу** (спросу). *Самавольна.* Ты ж глядзі, дзетычка, хырашо дзелый у цёткі, бяс просу нічога ні бярі, калі чаго захочыш — пыпрасі́. Ікая ета совісьць у чылавека брать так бяс спросу, худзь ба ж длі пріліку спрасі́ў.

**Без просыпа.** 1. *Не прачынаючыся.* Сьпіць бяс просыпа, калі ён толька вы́брюзьніцца. Прыспа́ў бяс просыпа поўныя судкі. 2. *Бесперапынна.* П'ець і п'ець, і п'ець бяс просыпа, і калі ўжо якей канец бу́дзіць, відна, абажрецца гарелішчы етый.

**Без прошыбу.** *Не памыляючыся.* Андрей абы-што дзелыць ні ста́ніць, ён за што ні бярецца, то за́гыдзя рышчыта́іць, каб бяс прошыбу.

**Без прыпасу ні часу.** *Пра запаслівасць.* Ета толька ў цябе вецір у гылаве гуля́іць, а Лістра́т біс пріпа́су ні ча́су ні жывець. Ніхай сабе зь віду такея нягеглыя, а нябось ты, біс пріпа́су ні ча́су, усё стыря́юцца, каб што прідба́ць.

**Без пуця.** 1. *Не так, як трэба.* Пашло і пашло у іх неік біс пуця́, ні пулучы́лыся жы́зьні. 2. *Не такі, які трэба.* Біс пуця́ ты, хлопіц, саўсі́м біс пуця́, так на сьвеці ні прыжывеш.

**Без роду і** [без] **племя.** *Адзінока, без родных і блізкіх.* Што табе, і ба́цька з ма́ткыю ря́дым, і сваі́х поўныя

дзяреўня, а я ж тут бяз роду і племя, адны́м адна. Прыжыла́ іна бяз роду і бяс племя, як гарох прі дарогі: хто ня йдзець, тэй скубанець.

**Без розуму,** *асудж.* 1. *Дурны.* Ці ты бяз розуму купля́ць мёрзлую бульбу, што ты зь ёю дзелыць бу́дзіш — прівязеш і вы́кініш? 2. *Неразумна, няскладна.* Як жа вы рышчына́лі первый вянец бяз розуму, крівэя вуглы пулучы́ліся.

**Без сучка і задорынкі.** 1. *Проста, без цяжкасцей.* Во ў мяне дзела пашло біс сучка́ і задорінкі — і вы́пісыў зразу, і пірявёз лес бы́йстра, і пыста́віў зы якей месіц. А ты хацеў, каб усю́дых біс сучка́ і задорінкі? 2. *іран. Добры.* Я знаю, у цябе ўсё дренна, адзін ты біс сучка́ і задорінкі.

**Без толку.** *Бессэнсоўна.* Ты будзіш сва́тыцца бяс толку, як тэй Ільля, што бег усьлед зы свыта́мі і кріча́ў: «Пустойця, пустойця, кулёсы дую́ць». Звылачы́ліся бяс толку ў тую Дуброву, там ужо ка́жный ку́сьцік піряпорін і піряшчу́пын, нійдзе ні арешыка.

**Без** (усяго) **усякага.** *Адразу, раптоўна.* Біз ус́якыга зы каўнерь узя́лі і торснулі ціріс парог — во й п'янка айдзе дзелыся, уміг прыцьвірязеў. Я паслу́хыў ба біз усяго ўся́кыга, чаго ні паможч чылавеку, раз нада. Як жа так біз усяго ўся́кыга прішлі, ла́зіюць, агліда́юць, я ж ні зьбіра́ўся прыдыва́ць. Нывіза́ўся біз усяго ўся́кыга: ты ўзяў мой тапор сы двыра́, а я на тым дваре і нагою ня быў.

**Без усякіх.** *Адразу, прама.* Іван біз ус́якіх паслу́хыіць, толька слова яму пріківнь. Я ім скыза́ў, і біз ус́якіх сыгласілісь. Я цябе ат'етуля біз ус́якіх пыпрашу́, толька ні ўнімі свой язык. Біз ус́якіх унялі шубуцілу.

**Без цара ў галаве,** *асудж. Дурнаваты.* Ну што ж ты зьдзелыіш, кылі біс цыря́ ў гылаве, свайго ж розуму ні ўста́віш. У цябе ўсё біс цыря́ ў гылаве, во ў тваёй гылаве, знаць, два ампіра́тыры.

**Без шчоту** (ліку). *Вельмі многа.* У іх усігда грошы бяш шчоту, што ім атходзіць. Там найшло ўсіх бяш шчоту, я ні палез. Радні́ бязь лі́ку, айдзе ты ўсіх зьмесьціш.

**Белыя мухі.** *Снег.* Рана сёліта белыя му́хі пыляцелі. Нада сьпяшы́ць з бу́льбыю, вот-вот белыя мухі пыліця́ць. Ні хачу я на тэй сьвет пад белыя му́хі.

**Бітый час**. *Вельмі доўга.* Бітый час і ўгывáрівылі яго, і ўпрáшывылі, і чаго ня дзелылі — упёрся: ні пайду і ўсё.

**Біцца аб заклад**. *Спрачацца на дамоўленасці.* Б'юся аб зыклáд, што ў любую ноч і куды хочыш пайдý. Аб зыклáд біўся, што ты сяньня ны вічарінку ня прідзіш, а я гыварю: «Прідзіць». *Зак.* **Пабіцца аб заклад.** Перша пабіліся аб зыклáд, а тэй, што прыйгрáў, аддывáць ня хочыць, тады біз зыклáду пабіліся.

**Біцца як рыба** (рыбіна) **аб лёд**. *Аддаваць усе сілы ў працы, клопатах, старацца.* Білыся я трі гады́ як ры́ба аб лёд, усё дýмыла: а можа што прідбáім, а можа абжывёмся — айдзе там, якую капейчыну ні пупадзець, усё прап'ець. Як ры́біна аб лёд б'ецца, каб што табе спрáвіць, а ты ж ня хочыш пынімáць етыга. *Непайн.* **Пабіцца як рыба** (рыбіна) **аб лёд.** Два гады пабілыся як рыба аб лёд, ну й што,— горы пірівярнýла? Паб'ецца як ры́біна аб лёд і кініць, ні ўжывець, нізашто ні ўжывець. *Працягл.-фінальн.* **Набіцца як рыба** (рыбіна) **аб лёд.** Хвацíла ім большы ні нада, набіліся як ры́ба аб лёд. Як ры́біна аб лёд наб'ецца, ні дня ні ночы ёй атхлы́ну ні бувáіць.

**Біць адбой**. *Адступаць ад намечанага.* Відзіць, што ні пылысá, дывáй біць адбой. Сілівон усё кіпяцíўся: ух, я ў суд пыдáм, ух, прувучý, цярьпець ні стану, а цяперя нызáд, б'ець адбой.

**Біць баклушы** (лынды), *асудж. Бяздзельнічаць, гультаяваць.* Жджы, ыработыюць, б'юць баклýшы дзень прі дні. Хвáціць біць лы́нды, пыра брáцца за дзела. *Абмеж.* **Пабіць баклушы** (лынды). А калі й паб'юць троху баклýшы, зіму ж яны і вяснý ні гулялі. Пабіў месіц баклýшы і дос, работы пыдыйшло па вýшы, упрігáйся.

**Біць дробі**. *Танцаваць па-майстэрску, з дробным прытопваннем.* Ого, як выйдуць аднá піріда дною дробі біць, што ў іх аткуля бярецца. *Непайн.* **Пабіць дробі.** Во пабіла ўчора Люська дробі, ды ўсё с пріпівáньнім, с пріпівáньнім. *Законч.* **Адбіць дробі**. Наша атыйшло, мы сваё адбілі дробі, скáцьця ўжо вы. *Працягл.-фінальн.* **Набіць** (дабіць) **дробі**. Набіла дробі, прішлá к мáткі с пýзым — жджы ля́льку, любýйся. Дабілі дробі, купіць ба што нада, дык незышта.

**Біць па вачах.** *Сарамаціць.* Пупáла яго неік ў дзяреўні, дывáй прінародня біць пы вычáх: ці помніш мае падýшкі — чорныя нáвылкі, а букеты па іх жоўтыя?

**Біць па карману.** *Наносіць страты.* А ты знаіш, як тває паездкі б'юць пы кырма́ну, ка́жный раз і дай, і дай, с пусты́мі ж рука́мі ня вы́прывіш. *Зак.* **Ударыць па карману.** Каровы ры́лыўцыў пыдвялі, крепка уда́рілі пы кырма́ну.

**Біць па руках.** 1. *Пагаджацца канчаткова.* Ну, б'ём пу рука́х, дыгывары́ліся? Відзіш, пуўдня́ тургува́ліся, а ўжо б'юць пу рука́х. 2. *Адвучваць.* Біў пу рука́х крепка— штрухува́ў, дні зьніма́ў, дык ні кра́лі. *Зак.* **Ударыць па руках.** 1. Стургува́ліся, уда́рілі пу рука́х і пашлі́ бырышы́ піць. Дык дыва́й ужо ўда́рім пу рука́х. 2. Новый стыршына ні ста́ніць іх крыньня́ цярьпець, скора уда́ріць пу рука́х, дый ладна ударіць з рызмаху, пачуствуюць.

**Біць сябе ў грудзі.** *Горача даводзіць.* Нечыга божкыць і біць сябе ў гру́дзі, нада було ра́ншы ду́мыць, што дзелыіш.

**Біць трывогу.** *Звяртаць увагу на небяспеку.* Ён жа даўно біў трівогу, дык ці яны паслу́хыюць. Нада було ра́ншы біць трівогу. *Зак., рэдкаўж.* **Ударыць трывогу.** Што ты ўда́ріш трівогу цяперіцька, а куды ты вясною глядзеў? *Пачын.* **Забіць трывогу**. Ты забіў трівогу, ды позна, нада було гыварі́ць пра ета яшчэ зь вясны́.

**Біць у адну точку.** *Накіроўваць усе сілы на дасягненне пастаўленай мэты.* Я знаю Стаха, ён за ўсё зразу хвыта́цца ня будзіць, ён усігда́ б'ець у адну точку. А я біў у адну точку, хадзі́ў, ныдыіда́ў і сварі́цца пріхадзі́лыся,— так і дабі́ўся.

**Біць у вочы**. *Рэзка выдзяляцца.* Дужа ж тває ныря́ды усім б'юць у вочы, надзелыся, як пупуга́й заморскій. Ты так дзелый, каб ета ня біла нікому ў вочы. *Зак., рэдкаўж.* **Ударыць у вочы.** Вы́рідзілыся, што абізья́на, проста ўсім уда́ріла ў вочы, аж ніпрія́тна було, як цябе рызгліда́лі.

**Біць у звон,** *асудж. Падымаць трывогу, растрывожваць людзей беспадстаўнымі чуткамі.* Што ны язык ні пупаду́ць, пашлі́ біць у звон, і прібыўля́юць па решыту. *Зак.* **Ударыць у звон**. Я помню, тады былі уда́рілі у звон: відзілі, відзілі Таньку сь Сярьгеім. *Непаўн.* **Пабіць у звон.** Дык што зьдзелылыся, калі яны нядзелю пабілі у звон. *Законч.* **Адбіць у звон.** Адбілі ў звон, сьці́хлі, ато доўга уся́кыю лухту нясьлі. *Працягл.-фінальн.* **Набіць** (набіц-

ца) **у звон.** Пры Васіных набілі у звон, чаго толька ні трілюдзілі. Яны ня толька ніхай увідзюць, а ніхай што пыкáжыцца, дык наб'юцца ў звон.

**Біць у нос.** *Востра пахнуць.* Што йта у клеці ў цябе так б'ець у нос, што ні прады́хыць? *Зак.* **Ударыць у нос.** Прівязьлі бочку, аткупорілі, а аттуля як удáріць у нос нечым саўсім тýхлым ці гнілы́м.

**Біць у точку.** *Дзейнічаць правільна.* Пынас усігда б'ець у точку, ета ты дзелыіш, як табе пыд ныстраенія падойдзіць.

**Біць у хамут** (дугу), *вульг. Капрызіць, рашуча не пагаджацца.* Айдзе ты Жэньку праводзіш, іна б'ець у хамýт, ніхто ні пытхадзí. Узноў б'ець у дугý, ляжыць і ні пыдымáіцца: ня бýду варíць. *Зак.* **Ударыць у хамут** (дугу). Ніхай прайдзí піряд ёю ні па той масьнíчыні, січас удáріць у хамýт. Відзіш, удáріла ў дугу, путніца дык путніца зыдылáся. *Непаўн.* **Пабіць у хамут** (дугу). Доўга большы у хамут ні паб'ець, там абразýюць скора. Летыся яны пабілі у дугу, цяперя, знаць, трошку ныспыкайнелі. *Законч.* **Адбіць у хамут** (дугу). Тая пыцішэла, адбíла ў хамут, і ны цябе нада еткыя вузьдзечка. Ня бойся, атаб'ець у дугу і ўлáшчыцца. *Працягл.-фінальн.* **Набіць** (дабіць) **у хамут** (дугу). Сколька іна набіла ў хамут: ніхто к ёй ні пытхадзí, ніхто ёй ня ровін. Наб'ець у дугу, мылыдáя, а як замуж нада будзіць, аціхніць. Відзіш, як абея дабілі ў хамут, цішэй ціхыга стáлі. У дугу дабíць скора даб'ець, і ўгамоніцца, і ўспакоіцца.

**Біць у цэль.** *Дзейнічаць мэтанакіравана.* Ты раз надýмыўся так зьдзелыць, то бі ў цэль, ні ацступай. Аўрам відзіш як б'ець у цэль, дайжа Марку спользывыў.

**Бледный від.** *Пра напалоханага, разгубленага, пакаранага.* Ты скора дыцяўкыісься, што будзіш імець бледный від. Посьлі пасежыньня у яго быў бледный від. Пыдзяржы́м у руках — будзіць бледный від.

**Бліжы к дзелу.** *Канкрэтна, па сутнасці.* Ты гыварі бліжы **г** дзелу, а казкі мы ўжо слýхылі. Бліжы, бліжы **г** дзелу, пру трусоў мы чулі, рыскажы, як курям голывы скрýчывылі.

**Блізка** (плоха, дрэнна) **ляжаць.** *Лёгка можна ўкрасці.* Так і ходзіць, усё рызглідáіць, айдзе што блізка ля-

жыць,—а ты ж ні клаў. Ніхай толька зьмеціць, айдзе што плоха ляжыць, толька тады й віdзіў, худзь ба што там було. Пупадзець, што дренна ляжыць, — мігым пытхваціць. Табе нада адно: каб што-небудь блізка ліжала. Німа — зна́чыць плоха ліжа́ла. Верна, дренна ліжалі твае вязёнкі, цяперя ішчы ветра ў полі.

**Блудлівая аўца,** *абраж. Легкадумны, валацуга, бадзяга.* Пашлі́ блудлі́вую аўцу́, ён ны быльшаку заблу́дзіцца. Там з зывя́зынымі вычамі дарогу на́йдзіш, а блудлівую аўцу нада зу рука́ў весьць.

**Бог абідзеў,** *часам іран. Пра нешчаслівага, калеку; пра няўдачу.* Абідзіў бог зра́ньня, будзіць гурюва́ць ды зьмірька́ньня. Якей жа цябе, к чорту, бог абідзіў, кылі ты зы сваю дурную гылаву ка́рствыіш. Ой, як жа цябе бог абі́дзіў, наверна, пымішаў яшчэ адну ношку сена ўкрасць.

**Богам абіджаный,** *часам іран. Нешчаслівы, скалечаны.* Васіль і так богым абіджыный, а тут яшчэ суседзі ныва́лі́ліся, нідырма́ гаворюць: ны каго бог, ны таго й людзі. Канешня ж абі́джыный богым, с такім калествым жызьню пражы́ць. Такей ты ўжо богым абі́джыный, што пряма самый нішчасьлі́вый ва ўсім сьвеці.

**Бог дасць.** *Пра магчымасць удачы, шчаслівага зыходу.* Бог дасьць буду ў ва́шых крыя́х, дык я зыскачу́ хуць ны міну́тычку, пыгляджу́, як вы акыпашы́ліся. Мыя карова пасьледнія дні дынашыіць, бог дасьць ча́рка мылыка іка́я бу́дзіць. На-ка во маёю ма́сьцю прікладзі́, бог дасьць скарей зажывець.

**Бог знаець** (ведаець). *Пра немагчымасць прадбачыць.* Бог знаіць, ці пріедзіць ён сяньня, ці можа зыначу́іць у Дуччычых. Бог ведыіць, як ім тама прі́дзіцца у тым судзе, худзь ба ж хырашо рызыбра́ліся.

**Бог знаець** (ведаець) **калі.** *Невядома калі, вельмі даўно.* Бог знаіць калі яны та́мыцька заселі — сідзяць, розбырышы п'юць. Ты ўжо ў нас быў бог ведыіць калі. Паехылі бог ведыіць калі, а ўсё німа́ і німа́.

**Бог знаець** (ведаець) **сколька.** *Невядома колькі, вельмі многа.* Явіўся Ма́рка, у восьпі, восьпі быў, адылжа́ў грошы пыд расьпіску,— у яго грошы було бог знаіць сколька. Яшчэ ны станцыі прі́дзіцца пысядзець бог знаіць

сколька. Бог ведыіць сколька яны там чаго грібанýлі. У іх грошы бог ведыіць сколька, нечыга ім стыгнáць.

**Бог мілаваў.** *Пра ўратаванне ад небяспекі.* Як бярном пыкацíла, дык аднаму нагу зразу пірілумáла, а другога бог мíлывыў, ні зычапíла.

**Бог не абідзеў,** *гумар. Пра здольнага, таленавітага, багатага.* Ня бойся, Марку твайго бог ні абíдзіў: дом аткацíў зяцю і сам хату прíбярець к восіні. Апіцíтым яго бог ні абíдзіў: што стреў, то й зьеў.

**Бог нясець.** *Пра нечаканае з'яўленне.* Аччыні, глянь, каго там бог нясець, кля́мку шукáіць, ды ніяк ні нáйдзіць. Я сяджý й думыю, ці ні Праскоўю ета бог нясець, ажно аччыня́іш дзьвері — і ты. Бог нясець, а чорт пыгыня́іць. *Зак.* **Бог прынёс.** Каго тут бог прінёс такою цеміньню?

**Богу грашыць.** *Крыўдзіцца, наракаць.* Сты́дна табе богу гряшы́ць, ты ні абíджын нічы́м. Грíшычку нечыга богу гряшыць, у яго чуць ні самыя лýччыя пáйка.

**Богу душою не вінават.** *Пра поўную, абсалютную невіноўнасць.* Чаго ты прічапíлыся смалою к чылавеку, можа ён богу душою ні вінувáт. Я богу душою ні вінувáт, што яны нығывáріюць.

**Божа ўпасі** (пасі, спасі, барані, сахрані). *Ні ў якім разе.* Божа ўпасí, каб я словічка там прыгыварíла ці ны цябе, ці ны каго другога. Божа пасí цябе йціць у адной рубáшкі, пірікалеіш і зразу звáлісься — цёпла ныдзівáйся. Тут нехта табе нытріпáў чаго зря, божа спасí, Хрýзычка нічога лíшніга ні мыглá скызáць, іна на етый шчот дужа строгыя. Я сваім ужо так прікáзыю, так дукую іх, божа бырані́, каб яны што айдзе ўзя́лі. Божа сыхрані цябе яшчэ так дзелыць, ета ж еткій страм і пазор на ўсю акрýгу будзіць. *Гл.* Б а р а н і б о г.

**Божжаю міласцю,** *звыч. іран. Як-небудзь.* Божжыю мíлысьцю неік цягну на етым сьвеці. Жыў твой Пятрок божжыю мíлысьцю ды яшчэ брігадзíрывыю лáскыю. Божжыю мілысьцю сыт ня будзіш.

**Бойкій на язык.** *Вынаходлівы пры размове, дасціпны, красамоўны.* Пынáська бойкій ны язык, ён муўчáць ня будзіць, ты яму слова, ён табе дзесіць у атвет. Ны язык бойкій, ды на рукі не.

**Бочка рыштантаў,** *асудж. Падазроная кампанія.* Цігаіцца пы дзяреўні бочка рыштантыў, што хочыш сьцягнуць — і ня ўгледзіш. Есьлі ні пырызгыняюць тую бочку рыштантыў, спакою яны ні дадуць.

**Брацца за розум** (вум). *Рабіцца разважлівым, сталым.* Нада табе, дзеўка, брацца за розум, ой, нада, вядзі сябе па-людзку, каб людзі ні сьміяліся. Ні станіш брацца за вум, астанісься чылавекым зы пакідзішча, самым пасьледнім на ўсю акругу. *Зак.* **Узяцца за розум** (вум). Не, ня возьмісься за розум — ні к чому пальцым ні прітронуся, і тапі, і варі, і гыспыдарь, і хуць ты тут тресьні. Вазьміся, маліц, за вум, яй-богу, вазьміся, кінь адурюваньня з гарелкыю.

**Брацца** (іціць) **аб** (у) **заклад.** *Спрачацца на дамоўленасці.* Бярўся аб зыклад, што я січас выйгрыю. Бярісся ў зыклад сьмела, што тут піряплысьць на тэй бок. А ён аб зыклад ішоў, што там нічога німа, во як буваіць. Ежылі іціць у зыклад, то нада знаць, што ў цябе выпыліць. *Зак.* **Узяцца** (пайціць) **аб** (у) **заклад.** С табою Ліксяёнык дужа хацеў аб зыклад узяцца. У зыклад вазьмуся, што нічога ты ня выхыдзіш. Чаго ж ты ні падзьдзержыў, ён гатоў быў пайціць аб зыклад. На што хочыш пайду ў зыклад, што я з вамі з двумя адным пальцым спраўлюся.

**Брацца** (іціць) **у трубку.** *Расці ў ствол (пра зерневыя культуры).* Сёліта вясна, што редка тыкая буваіць, калі йта було, каб так рана жыта бралыся ў трубку. Вот-вот ічмяні стануць брацца ў трубку. Ярі хырашо ідуць у трубку. *Зак.* **Узяцца** (пайціць) **у трубку.** Цяплынь, дажджы харошыя, іравыя жыва ўзяліся ў трубку. А што ты думыіш, уремя ня жджэць, я пыглядзеў учора — жыта пашло у трубку.

**Брацца на зорку.** *Ледзь-ледзь віднець.* Як бярецца на зорьку, так жа мароз пыцскакыіць — ні прадыхыць. *Зак.* **Узяцца на зорку.** Устань, сынок, ужо на зорьку ўзялося, бацька кыня запрёг.

**Брацца** (хватацца) **за жывот** (жывоцікі). *Моцна смяяцца.* Як стаў рыскозывыць, што ён выдзелывыў у Шырких, я аж браўся зы жывот. Жывэй ціятыр быў, усе зы жывоцікі браліся. Ажно зы жываты хвыталіся, такоя іньціресныя кіно було. Ідзі, паслухый, як Зыхар рыскозыіць, будзіш зы жывот хвытацца. Гляджу, чаго тут яны

зы жывоцікі хвыта́юцца, ажно етый і́дыл пріста́ўленьні сваё пыка́зыіць. *Зак.* **Узяцца** (схваціцца) **за жывот** (жывоцікі). Схадзі́ця, зы жываты́ возьміціся ат і́хных вымудря́ньніў. Зывядзі́, ніха́й паслу́хыюць, зы жывоцікі возьмуцца. Хвядот пры яе як ля́пнуў, дык усе зы жываты́ схвацііліся, пряма паехылі з рёгыту. Во якея тут буваюць указэі, зы жывоцікі схва́ціціся.

**Брацць бараду ў зубы,** *гумар. Рабіцца больш разважлівым.* Ну, высімна́ццыць гадоў ацьседзіў зы ба́цькывыю сьпіною, а цяперь сам бярі быраду́ ў зу́бы. Табе б ужо нада брацць быраду ў зубы, ні ма́лінькій. *Зак.* **Узяць бараду ў зубы.** Позна ты ўзяў быраду ў зубы. Воць цяперь я вазьму́ быраду́ ў зубы.

**Брацць бацьку за бараду,** *жарт. Рашуча патрабаваць, дабівацца.* Відзіш якей: з-зы стыла ня відна, а ўжо бацьку пробыіць брацць зы быраду́. *Зак.* **Узяць бацьку за бараду.** А што ж Пітрачок, віртыгла́з еткій, скора возьміць бацьку зы быраду́.

**Брацць бога за бараду,** *жарт. Выяўляць цвёрдасць, рашучасць, непахіснасць.* Мацьвей бярець бога зы быраду, ні на што ні глядзіць. *Зак.* **Узяць бога за бараду.** Яны доўга ня чы́кыліся, зразу ўзялі бога зы быраду. А што, даўно хочыцца ўзяць бога зы быраду́?

**Брацць верх.** *Захопліваць уладу, перамагаць.* Ежылі бярець верьх, тады даволін, а калі не — гатоў зубамі. Не, і́хній род цяперь ніхто і прізныва́ць ня хочыць, а ра́ншы, бува́ла, яны ўсігда́ бра́лі верьх. *Зак.* **Узяць верх.** Немцы ду́мылі узяць верьх, а відзіў, як уціка́лі біз агля́дкі. Узя́лі верьх і вірядуюць дзяреўнію, слова ім ні скажы́, а ска́жыш — ніхарош.

**Брацць голымі рукамі.** *Авалодваць проста, без цяжкасцей.* Любіў ба ты брацць голымі рукамі усё ўсю́дых. *Зак.* **Узяць голымі рукамі.** Голымі рукамі такей пень ня возьміш, лу́ччы паду́мый, як сюда́ вагу́ пыдбадзю́ліць. А ты ду́мыў узяць іх голымі рукамі? — ні такея там дурачкі.

**Брацць горлам** (глоткаю), *асудж. Дабівацца нахабным крыкам.* Хто ні зна́іць Дзімідзёнка, ён усю́дых горлым бярець, а ніхай брігадзі́р ны работу зыка́жыць — ні магу́. Га́ньнін красень усігда любіў глоткыю брацць. *Зак.* **Узяць горлам** (глоткаю). Думыў горлым узяць, ды ня

выйшла, дырма́ крічáў. Што, ўзноў хочыш узяць глоткыю? — не, ні палу́чыцца.

**Брáць грэх на душу** (сябе). *Рабіць незаконны ўчынак.* Ні зьвя́зывыйся ты ш чырця́мі, ні бярі́ гріхá ну душу́, ніхай яны самі дзелыюць як хочуць і што хочуць. Нашто б табе брáць грех ны сябе, ці сь цябе мáла яшчэ горя було. *Зак.* **Узяць грэх на душу** (сябе). Хто ета возьміць грех ну душу? Ніхай вазьму́ грех ну душу, ну цябе ухайдошу. Рішы́ў узяць грех ны сябе.

**Брáць** (забіраць, задзяваць, трогаць, закалупываць, закалуплівáць) **за жывое**. *Балюча закранаць.* Як пычанець яго браць зы жывоя Мыланка, ты тады пымяні́ яшчэ Пракопывыга пацьсьві́нычка, як паміж прочым. Знаць, пірістáла цябе зыбірáць зы жывоя, калі табе гаворюць пры Сывіня́т. Пылядзі́-ка, як зыдзівáіць Хлімынкá зы жывоя, кылі ныд Варкыю хто пысьмяецца. Нябось ты, Верка яго трогыіць яшчэ і сяньня зы жывоя. Ні зыкалу́пывый яшчэ ты зы жывоя, посьлі скрысеньня ён і так ніяк ні апомніцца. Усё нечым зыкалу́плівылі абеіх зы жывоя, толька дужа ні пыня́ў, чым. *Зак.* **Узяць** (забраць, задзець, тронуць, затронуць, закалупіць, закалупнуць) **за жывое**. І цябе б узяло зы жывоя, каб табе пымяну́лі стáрыю жонку. Ніхай хуць як зыбярець зы жывоя, ні разу віду ні пыкáжыць. Задзела зы жывоя, ну толька віду ні пыкáзыіць. Чым ты яго троніш зы жывоя, ён як бірьвяно бяшчу́ствінныя. А ты ні знáіш, чаго ён пашоў? — затронулі зы жывоя Мáрычкыю. Ві́дна, зукулупі́ла зы жывоя, што я рыскызáў пры атáву. Воць цяперіцька я віджу, што й цябе зукулупну́ла зы жывоя, ато сядзеў і атмоўчывыўся, як нічога ні ў чом ні було і ні случылыся.

**Брáць** (забіраць) **за душу** (серца). *Моцна хваляваць.* Чаму ж ня будзіць браць зу душу́, кылі я пра іх як дзень, так ноч ду́мыю. Ну што ўжо, ці брáла мяне за серца, ці ні брáла, ты етыга ня пойміш. Во так во зыбірáіць зу душу, як рызвалну́юсь, на сьвет ба ні глядзела. Што вас там узноў зыбірáіць за серца? *Зак.* **Узяць** (забраць) **за душу** (серца). Так яно неік узяло зу душу́, пря́ма ні знáю як. У гылаву сабе як ныбярець, яе як возьміць за серца, ні магу ўспакоіць. Луччы ты ні рыскáзывый, ні магу я пра еткія зьдзівáцільствы чуць, наслу́хыюся, тады як зыбярець зу душу́. А мяне, думыіш, ні зыбрáла за серца, ці я ж кáмінный.

**Брацць** (забіраць, набіраць, убіваць) **сабе ў галаву.** *Пераконваць сябе у чым-небудзь, многа, пакутліва думаючы.* Будзіш па ўсём плакыць, брацць так сабе ў гылаву, дык вума рішы́ся, ні нада будуць тады ні ха́ты, ні скот — нічога. Як стану ныбіра́ць сабе ў гылаву́, ажно кружэнія нейкыя дзелыіцца. Ні зыбіра́й сабе ў гылаву́, ты ж прайдзі́, зь людзя́мі пыталку́й, рузуверь сябе. Ста́ла зыбіра́ць сабе ў гылаву і ста́ла, а тады ўсё жа́лілыся: нешта ў гылаве дужа тру́дна. Я дык ба ні ста́ла так убіваць сабе ў гылаву усё ўся́кыя, ну, горя ня горя, а раз ні паможыш, то што ж. *Зак.* **Узяць** (забраць, набраць, убіць) **сабе ў галаву.** Узіла́ і ўзіла́ сабе ў гылаву́, стала як пынта́ныя, ёй гывары, а йна «А-а, а-а?» — пакуля дойдзіць ды яе. Зыбра́ў сабе ў гылаву́ і зыбра́ў, другей раз ідзець і ня помніць, куды ідзець і па што ідзець. Другей раз нічога, а другей раз як ныбяру́ сабе ў гылаву, як успомню сыноў, кажыцца, стыяць пірида мною як жывыя. Ныпра́сна ён убіў сабе у гылаву етыю чуш, нікога там ні було, ніхто ні пытхадзі́ў.

**Брацць** (забіраць) **свае словы назад** (абратна). *Адмаўляцца ад раней сказанага.* Дужа ж, дужа ёй ні хацелыся браць свае словы ныза́д і так, і етык выкру́чывылыся. Ніхай, я бяру свае словы абра́тна, а толька ўсё ета праўда, што я гывары́ў. А чаго мне зыбіра́ць ныза́д свае словы, што, я прідумыла ці ўва сьне сасьніла? Я й ня думыю зыбіраць свае словы абратна, ета ж праўда і ўсе знаюць. *Зак.* **Узяць** (забраць) **свае словы назад** (абратна). Як пріжа́лі к сьценкі: а ты ж дыкажы́, а хто йта відзіў, дык узяў свае словы ныза́д. Луччы вазьмі абратна свае словы, есьлі ня хочыш скві́лу. Ну, каб ні зыбра́ў свае словы ныза́д, ну й ныла́іў ба ж яго — сколька ўлезла б. Бубні́ць пад нос: я зыбяру свае словы абратна, я скыза́ў сьмехым,— і вачэй ні пыдыма́іць.

**Брацць** (забіраць) **у свае рукі.** *Прымаць на сябе кіраўніцтва, гаспадаранне; завалодваць, захопліваць.* Бяры́-ка ты ў свае ру́кі ды рукувадзі́, тут нечыга дужа глядзець. Нешта Аніс ня хочыць зыбіра́ць у свае рукі етыга хызя́йства, там-то, праўда, і брацць нечыга. *Зак.* **Узяць** (забраць) **у свае рукі.** Лявон быў зьбіра́ўся узяць усё ў свае рукі, ды нешта пірядумыў, гаворіць, ні хачу хызя́йнічыць, ніхай старэй вядзець. Усё гареў: зыбяру́ ў свае рукі, а зыбраў — дык аппёкся, дыва́й ныза́д.

**Брацъ за горла** (глотку). *Настойліва, нахабна прыставаць, дамагацца.* Піліп кылі стáніць брацъ за горла, то ні атвя́жысься, ня тэй чылавек. Паўлюк датуль браў Віктыра за глотку, пакуль ні дабі́ўся свайго. *Зак.* **Узяць за горла** (глотку). Яны ж такея бясстыжыя людзі, за горла возьмуць і ні ацстáнуць, аддасі пасьледнію рубáшку. Нысталі, нысталі, як узялі за глотку, рыскызáў усё — айдзе быў і сь кім піў і за што пілі́.

**Брацъ за жабры,** *жарт., рэдкаўж. Заклікаць да парадку.* Ці брацъ зы жáбры, ці ніхай пыдгаду́іцца, большы распу́сьціцца? *Зак.* **Узяць за жабры**. Ой, вазьму ж я вас зы жáбры, бу́дзіця круці́цца, папросіця піць ні раз. *Гл.* Б р а ц ь з а ж э б р ы.

**Брацъ за жэбры** (шкырку, шыварат, бок, шэлігі). *Заклікаць да парадку.* Бярі-ка ты етыга хлю́ста за жэбры, ато ўжо дужа яму ніякыга уні́му нім́а. Нада брацъ за шкы́рку, інáчы толку ня будзіць, рызбыся́тнічыіцца і ўсё. Напрей бярець сваіх за шы́вырыт, алі ж яны прі бацьку ціхія, а як вы́йшлі з двырá — твыря́ць, што хочуць. Ну, большы я ўжо цярпець ня буду, каб мне вамі вочы калолі, буду брацъ за бок. Кажыцца ж, і бяру зы бакі́, і дуку́ю, і вучу, а ўсё роўна ходзюць ны гылывáх. Ты іх ні бяреш за шэлігі, таго яны і распу́шчыныя. *Зак.* **Узяць за жэбры** (шкырку, шыварат, бок, шэлігі). Цярьпеў ён, глядзеў, думыў, сам аду́мыіцца — не, дык узяў крепка за жэбры. Калі ня возьміш за шкы́рку, будзіць так быся́тнічыць, ато й саўсім скру́ціцца. Доўга угывáрівыў — ня ймець, вазьму за шы́вырыт, што пішчэць будзіць. Узялі за бок, дык ні ырáвіцца, бурчы́ць: а што, я хужы другіх дзелыю? Помніш, як залетысь я узілá цябе за шэлігі, што ты шагу біз рызрішэнія ступі́ць ня мог?

**Брацъ за робры**. 1. *Заклікаць да парадку.* Бярі-ка ты свайго мылалетычку за рёбры, ато ён скора ны гылаве пойдзіць. 2. *груб. Рабіцца, тварыцца.* Што яго там бярець за рёбры, прістáўлю гаршчонычык і пыдыйду́. *Зак.* **Узяць за робры**. 1. Пычаў быў троху дурáчыцца, дык я скора ўзілá за рёбры. 2. Во, за рёбры ўзноў узяло, рызьдзірáіцца, ні так ступі́ў, скач ты піряд ім.

**Брацъ з паталка** (са столі), *неадабр. Вырашаць, сцвярджаць беспадстаўна.* Ты ні бярі с пытылкá, а пышчытáй і скажы, што пулучáіцца. Зы каго ж ты мяне шчытáіш, каб я са столі браў ці выду́мывыў што. *Зак.*

**Узяць з паталка** (са столі). Наш булга́кцір такей: с пытылка́ што хочыш возьміць і напішыць. С пытылка́ ж ба ён ні ўзяў, наверна ж, відзіў. Я табе са столі ні вазьму, сколька вы́рыбытыла, столька й запісына.

**Браць многа волі** (свабоды). *Сваволіць да самавольства.* Бяреш ты, я віджу, многа волі, ну толька я волю ету сь цябе жыва вы́гыню. Многа свабоды яны ў цябе сталі браць, прідзержывый патроху ў руках. *Зак.* **Узяць многа волі** (свабоды). У мяне вы многа волі ня возьміця, ня ў тэя рукі пупа́лі. Прыпадзеш ты зь ім, кылі ён многа свабоды сабе возьміць.

**Браць моду** (манеру, манер, прывычку). *Рабіць сістэматычна.* Мал, мал, алі ж да́лі волю, бярець моду ла́зіць пы паліцых, пы шка́пчыкых, айдзе яму саўсі́м ні нада. Ліксяёнык браў манеру руспуска́ць рукі, пакуль ні пупа́ла па іх. Ні бярі-ка ты манер ла́зіць пы кырма́ных, там ня ты клаў і бісь цябе возьмуць. Ні бярі прівы́чку пыдглідаа́ць, айдзе хто што дзелыіць. *Зак.* **Узяць моду** (манеру, манер, прывычку). Чаго йта вы ўзя́лі і ўзя́лі моду ка́жныя скрысеньня туды бегыць? Узяў манеру нікога ні прізныва́ць, ты яму гывары́, а ён гылаву́ атверніць, як ні яго кыса́іцца. Абоя ўзялі манер ні за чым у дваре ні глядзець, і ні глідзя́ць, хут ты ім што. Есьлі возьміць якую прівы́чку дурну́ю, тады дренна пірявучывыць, луччы цяпеpя глядзець. Чаго ён узяў прівычку лазіць ні ў сваё дзела, другей раз пряма стыдна становіцца.

**Браць на буксір,** *гумар. Аказваць дапамогу.* Бярём іх ну буксі́р, яны ацстаю́шчыя. *Зак.* **Узяць на буксір**. Каб ні ўзялі́ ну буксір, вы б яшчэ і сяньня упруўля́ліся з лу́гым.

**Браць на карандаш**. *Рабіць запіс.* А відзіла, тэй с партхвелім сядзеў і ўсё браў ны кырында́ш? Ну й бярі ны кырындаш, баюся я дужа ці што. *Зак.* **Узяць на карандаш**. Вазьмі́ ны кырында́ш, можа й прігадзіцца. Што с таго, што вы ны кырында́ш возьміця, толку ўсё роўна нія́кыга.

**Браць на понт**. *Правакаваць з мэтай выведаць, дабіцца прызнання.* З ла́скыю с такою патходзіць: ну, як там твой стырічок, ці патрошку бу́льбычку носіць? — ета браў мяне на понт. *Зак.* **Узяць на понт**. Доўга дужа ўзяць іх на понт, ду́мыіш? — адна шылымша́ нічога ня смы́сьліць і другей няўрёма ніскoлька ні сыбрыжа́іць.

**Брацьна прыцэл** (мушку). *Не выпускаць з-пад увагі, сачыць.* Я знаю, каго ты бяреш ны пріцэл — к рожыўскый Танькі клінкі пыдбіваіш. Васіль бярець на мушку новыга брігадзіра, думыіць пыткаціцца. *Зак.* **Узяць на прыцэл** (мушку). Яны твой сад даўно ўзялі ны пріцэл, толька ждуць, калі ты куды паедзіш. Ніхай возьмуць на мушку, ніхай на дзве, мне ні халодна ні жарка, а ўстречу — мыціріка палучуць.

**Брацьна пуп** (жылле), *неадабр. Дамагацца мэты сілаю.* Аўлас усё на пуп браў, хацеў быгаства зыгнаць. Чаго табе ірвацца, на жыльля брацць, пыдыйдзём і паможым. *Зак.* **Узяць на пуп** (жылле). Гріша ні разу на пуп ні ўзяў, за ўсю жысьць ні пірірваўся дужа. Ні дажджэсься, каб на жыльля ўзялі, усё глідзяць, каб айдзе збоку, айдзе ляхчэй.

**Брацьна пушку**. *Спрабаваць дабівацца хітрасцю, хлуснёй.* Паспробывылі брацьна пушку Ісая, ну нічога ў іх ні пулучылыся, тэй адзін хітрей за іх піцярых. *Зак.* **Узяць на пушку**. Цябе ж ета на пушку ўзялі, а ты думыіш і праўда. Колю хацелі на пушку ўзяць, ажно самі асталіся ў дуруках.

**Брацьна сілу**. *Дамагацца мэты сілаю.* Што ты бяреш на сілу, к сілі яшчэ гылыва нада. Ні бярі дужа на сілу, троху пыкашый ды аддыхні. *Зак.* **Узяць на сілу.** Ну што, узяў на сілу, а цяперя кычаіцца ўсю нядзелю сы сьпіною.

**Брацьногі ў рукі,** *жарт. Шпарка ісці.* Бярі-ка ты ногі ў рукі, ато на, што спозьнісься і прастудзісься яшчэ ў прідачу. *Зак.* **Узяць ногі ў рукі**. А тут нада ўзяць ногі ў рукі, ды Чарнілыва яшчэ вярсты ш чатырі, а дождж вот-вот можыць хлянуць.

**Брацьпад зашчыту** (абарону). *Аказваць заступніцтва.* Брацьпыдз зашчыту нас ніхто ні хацеў, а калі пісалі, як табе скызаць, кругавую паруку, Хралёнык зыкрічаў: «Што яго прінімаць, чым ён будзіць плаціць? Яго ні пріняць у парукі!» — і ні прінялі. Іх усігда брала пыд абарону Ксеньня. *Зак.* **Узяць пад зашчыту** (абарону). То-то і ёсьць, што пыдз зашчыту цябе ніхто ня возьміць. Як жа я цябе вазьму пыд абарону, есьлі ты кругом вінуват.

**Брацьпад крыло**. *Клапаціцца, аказваць заступніцтва.* Дужа б я стаў брацьпыт крыло гультуя етыга. Ты яго

бяры пыт крыло, а ён табе во як адзьдзя́чыць. *Зак.* **Узяць пад крыло**. Тэя узя́лі яго пыт крыло, і цяперь ён нікога ні баіцца. Возьміш пыц сваё крыло рышта́нта і рад ня будзіш.

**Браць прымер**. *Пaступaць па ўзору іншага.* Ты зь Якыва бяры прімер, якей ён вежлівый усігда і пытхва́тный. Нечыга з гультуя́ браць прімер, сам гультаём зьдзелыісься. *Зак.* **Узяць прымер**. Табе ўзяць прімер ёсьць с каго, дзелый так, як я, і ўсё.

**Браць** (прынімаць) **к серцу** (душэ). *Пакутаваць спачуваючы.* Ні нада вам так ка́жнаю мелыч браць к серцу. Як жа ты гаворіш ні бяры **г** душэ, калі ўсё було пріпу́чына, усё було зьдзелына, а цяперь толька да іх датронься, да вокын етых — і пасы́плюцца. Ты толька прінімáй к серцу,— тая ла́нка ду́мыць ны цябе забыла. Горя, канешня, горя, толька дужа ўжо **г** душэ ні прінімáй. *Зак.* **Узяць** (прыняць) **к серцу** (душэ). Яны тады абея дужа ўзялі́ к серцу і с тых пор ня могуць успакоіцца. Да не, Пракоп дужа **г** душэ ня возьміць, ён ні заботлівый чылавек. А вы зна́іця, як прініла́ я к серцу посьлі таго слу́чыя, на ўсё здароўя мне пыўліяла. Якыў ня с тых, што приміць **г** душэ, па ім хуць трыва́ ні расьці́, ён спакоін.

**Браць** (прынімаць) **у парукі**, *уст. Ручацца ў агульнай справе; сучасн., звыч., гумар. Ствараць групу, кампанію.* Многія сыглыша́ліся, а быгачы́ як вы́ступілі: ні браць яго ў пару́кі, ста́рца етыга,— і ні ўзя́лі. Усёю дзяреўнію прінімáлі ў парукі, а тады гырнізува́ліся і купля́лі у па́ні зямлю. *Зак.* **Узяць** (прыняць) **у парукі**. Усіх узя́лі ў пару́кі, хто дайжа бядней зы бацьку, а бацьку ні ўзя́лі. Што йта мы чулі: і цябе ні прінялі ў парукі, як жа так,— лу́ччыга друга. *Множн.* **Пабраць** (папрынімаць, папрыняць) **у парукі**. Дывай пыбярём іх у пару́кі, мы будзім касіць, а яны мух лавіць пут куста́мі. Каго ж вы тут сабе, каго пыпрінімáлі ў парукі? Яно б ня штука і ў пару́кі іх пыпріняць, толька ж хто вас усіх разым дыгліда́ць будзіць. *Працягл.-фінальн.* **Напрынімаць** (дапрынімаць) **у парукі**. Ныпрінімáлі Сярёжку ў парукі, падвёў чы́шчы некуды. Гультаёў дыпрінімáіця ў парукі,— будуць кыча́цца і пысьміха́цца.

**Браць** (прынімаць) **у разон** (рашчот, уніманіе). *Крыху слухацца, лічыцца.* Ай, ні гывары́, рызба́лывыўся, ці

сыма ні знаю, калі ён мяне і ў рязон ні бярець. Саўсім нікога ні бярець у рашчот. Дужа б я стаў браць яго у ўнімáнія, каб ні Райка,— ета пацсýнулыся: паслýхый, паслýхый. Вот ты чужэй саўсім, а цябе прінімáіць у рязон хут троху. Ні прінімáіць у рашчот нікога і нічога, ну пыкáіцца, толька позна тады будзіць. Што ж ета за сын, што дайжа вы ўнімáнія ні прінімáіць матку. *Зак.* **Узяць** (прыняць) **у разон** (рашчот, уніманіе). Худзь ба ж у чымнебудзь узяў у рязон, дык ні ў чым ні бярець дайжа во настолічка. Ты дýмыіш хрёсныга возьміць у рашчот? — ён жа вýхым ні вядзець, што родный скажыць. Кажыцца, узяў Кірея у ўнімáнія, а што мы гыварілі — саўсім ні дыхадзіла ды яго. Нада ж пріняць у рязон, табе ж дзела гаворюць. Прімí ў рашчот, што табе к яму ні раз прíдзіцца абраціцца. Я й так думыў і етык, ну прíняў у рашчот, што хызя́йства там крепкыя. Ня пріміш вы ўнімáнія, дык ня пріміш, сам жа сабе хужы зьдзелыіш.

**Браць сваё.** *Дасягаць мэты або належнага стану.* Мне ўжо браць сваё позна, якей я жыціль. Айдзе Анікын будзіць браць сваё, ён слова скызáць баіцца. Нябось ты, сядзела, сядзела бульба прікарю́злыя, а як пашлі дажды, стала браць сваё. *Зак.* **Узяць сваё.** Усё хваліўся: я яшчэ вазьму сваё, — во як узяў. Па бульбі ты дужа ні гарюй: дождж пройдзіць — і йна возьміць сваё.

**Браць сябе ў рукі.** *Дасягаць самавалодання.* Ня ўмеіш ты браць сябе ў рукі, кіпяціцца так саўсім нечыга. Бяри сябе ў рукі, ні сьмяшы́ людзей, толька хохыту надзелыіш. *Зак.* **Узяць сябе ў рукі.** Сьпірвá быў рызгареўся, во-во сарьвецца, а посьлі узяў сябе ў рукі.

**Браць у пугі.** *Сячы пугамі.* І тріножылі, і ў пýгі брáлі, і чаго ня дзелылі, як вы́йшла ў поля — ніякій пастух ня ўгледзіць. *Зак.* **Узяць у пугі.** Прівялí, спýтылі, пусьцілі; два разы скубнýла, гылаву зыдрáла, чмы́хнула і кытанýла (пута напыл), ну тады ўзя́лі ў пýгі, дáлі. Узя́лі ў дзьве пугі — уюном круціўся.

**Браць у работу** (абарот, пераплёт). *Даваць праборку, наганяй, ушчуваць.* Бяри ў работу свайго, яй-богу бяри: сап'ецца, збыся́тнічыіцца, чылавекым ня будзіць. Скольк а разоў ужо брала яго ў абарот: ні зьвязывыйся с тымі бысікáмі, а ён аж пря́гніць за імі. Ні знаіш, чаго яны ў цябе такея рызбáлывыныя? — у піряплёт ні бяреш. *Зак.*

**Узяць у работу** (абарот, пераплёт). Як узя́лі яго ў работу, як узя́лі — ён і пы́хыў, і красьнеў, зразу агрыза́ўся, а тады сьціх. Стыршына́ у абарот як возьміць — атрякесься і ат па́лык тых. Вазьмі́ свайго ў піряплёт ды крепка вазьмі, вы́пусьціш з рук — тады позна будзіць.

**Браць у рукі.** *Падпарадкоўваць сабе.* Паку́ля ня позна, бяры ў рукі, ато будзіш сыма сабе локці кусаць. Сам рызба́лывыў, у рукі ні браў, цяперіцька ні жа́льсея і ня войкый. *Зак.* **Узяць у рукі.** Брат пріехыў сы Сьвярдлоўска, памог узяць у рукі, да етыга саўсі́м зла́ду ні було.

**Браць усім.** *Мець выдатныя фізічныя і духоўныя якасці.* Усім бярець дзеўка — і зь ліца, і розумым, і прыцаві́тысьцю. *Зак.* **Узяць усім.** Твой маліц усім узяў, ніхайка такей другей хто на́йдзіцца, не-к, ні на́йдзіцца.

**Браць у толк.** 1. *Разумець.* Што ты ніяк ні бяреш у толк, тут жа усё прасьцей простыга. 2. *Слухацца.* Бацьку троху слу́хыіцца, а я ці гывары́ю, ці тэй вецір веіць — і ў толк ні бярець. Ты ж бяры у толк, раз табе гаворюць. *Зак.* **Узяць у толк.** 1. Пуўчыса́ біліся, аб'ісьня́лі, ну, кажыцца, ўзяў у толк, пашоў, а глянулі цiряс сколька ўремя — ідзець ныза́д, зублудзі́ўся. 2. Сколька ім тулкува́лі — ня едзьця, нашто вы ў тым горыдзі — чуць-чуць у толк узялі, аста́ліся.

**Браць у шоры.** *Моцна трымаць у руках, рашуча і жорстка абмяжоўваць ва ўчынках.* Між усёй дзяреўні серца адзін узрыва́іць, нада браць у шоры і як можна скарей. *Зак.* **Узяць у шоры.** Ты толька хвалі́ўся, што ўзяў у шоры сваіх галу́зьнікыў, яны ў цябе рызба́лывыліся хужы некуды.

**Браць** (хватаць) **быка за рогі.** *Дзейнічаць рашуча.* А ты зразу бяры бы́ка за рогі, тут нечыга сьцісьня́цца, ня пойдзіць — другую на́йдзіш. Лявон умеіць хвыта́ць быка за рогі, ён у любы́м дзелі дужа рішы́цільный. *Зак.* **Узяць** (схваціць) **быка за рогі.** Кру́та ж ён у́зя́ў быка за рогі, во й табе так на́да було. Во-о, ты б схваці́ў там бы́ка за рогі, зы цябе любу́ю мелыч ня зьдзелый — ня бу́дзіць зьдзелына.

**Браць цераз сілу.** *Працаваць празмерна.* Чаго мне браць цірясь сі́лу, ну кусок хлеба ў мяне ёсьць, а зыпа́сы зыгыня́ць я ні зьбіра́юся. Усё браў цірясь сілу, усё зь яго

ні хвыта́ла. *Зак.* **Узяць цераз сілу.** Узяць цірясь сілу яны ня возьмуць, ета ты, хочыш, ірьві́ся за іх.

**Бронь божа.** *Ні ў якім разе.* Глядзі́ця ж, дзеці, бронь божа ні бяри́ця сьпічык, а ты, ста́ршыя, дайжа ні пыка́зывый малым, айдзе ліжа́ць. Бронь божа цябе і ду́мыць ны Каці жані́цца ці йціць туды ў зяці́, зы каго ты там бу́дзіш? — зы па́рыбка.

**Броўю весць** (шаваліць, шавяліць), *звыч. з не. Звяртаць увагу, клапаціцца, думаць.* Як жыць, броўю ні вядзець, ду́мыіць, усё за мною сядзець будзіць. Гывары́ яму: хлеба куска́ німа, нада ў горыд бежч скарей, — ён броўю весьць ня ду́мыіць. Ні дроў палкі німа, ні бульбіны ня выкыпына, тут зы каровыю нада бежч, а ён сядзі́ць сабе і дайжа броўю ні шаволіць. Ляжы́ць, як вапе́рь, на сені, ні пра што ні клапоціцца, дайжа броўю ні шавеліць. *Аднакр.* **Броўю павесць** (пашаваліць, шавальнуць, пашавяліць, шавяльнуць). Ніхай ба ж броўю павёў, што там бізь яго дзелыіцца ны дваре, дык дайжа і ні паду́мыіць. Я ж пыпрасі́ла ўсё пы-харошыму, як нада, дык і броўю ні пывіла́. Броўю ляні́цца пышываліць, а ня то што пріту́ркыіш яго схадзі́ць ны Засожжа. Ці мы ні зна́ім Хутулёнка — сколька ні праcí, і броўю ні шывальнець. Ты ж хуць броўю пышывялі́, што тут і як, вы́йдзі ды глянь, ці ні дзяру́ць куры гарод, цялёнык можа атырва́ўся. Ніхай ляжы́ць, мя́кніць, гніець, ён дайжа броўю ні пышавеліць. Жджы, дажджэсься, Мільлянок шывяльнець табе і броўю, і дзьвюмя. Ні ўгаворы, ні прозьбы, ні грозьбы ня дзейнічыюць — броўю ні шывяльну́ла, як ня ёй сказына.

**Будзець на арэхі,** *буд., пр. Пра непазбежнасць пакарання.* Бу́дзіць табе за етыя дзялы́ ны арехі. Абоім було ны арехі, і большыму і меншыму. Ета блыгыдарі́ця бога, што мы вас на месьці ні засьпелі, було б вам ны арехі.

**Будзеш бедзен** (бледзен). *Пра непазбежнасць пакарання.* Толька ні ўнімі́ся с сваімі етымі дура́мі, будзіш бедзін. Бягом бягі і хвыта́й траві́цу ў капёшку, іна́чы бу́дзіш бедзін. Чаго йта я буду бедзін, ты глядзі, каб скарей сымаму́ ні пупа́ла. Вы ўпярёд будзіця бедны, чым мы. Есьлі б я зы цябе ўзя́ўся, ты быў ба бледзін.

**Будзь здароў.** 1. *Пажаданне добрага здароўя пры выпіўцы.* Будзь здароў, кум.— Зы тваё здароўя. Будзь зда-

рова, свыцьця.— Пі ны здароўічка. Бу́дзімця здаровы, госьцікі. Бу́дзьці-ка здаровы, вы сабе як хочыцця, а я вып'ю. Ну-ка, будзь-ка здароў, бярі ча́рку. 2. *Пра добрае, вялікае.* Толька ку́сьцікі тарчэлі, а цяперь будзь здароў які лес узя́ўся. Будзь здароў хлопіц, ня то што твой, зумухры́шка нейкій.

**Будзь спакоен.** *Пра добрае, вялікае, вялікую колькасць.* Жыву́ць яны будзь спакоін, ні так, як ты: што зарьвеш, то прап'еш. Сена ў іх нызыпа́шына будзь спакойна сколька. Прівылаклі́ ношкі будзь спакоін.

**Будзь што будзець.** *Пра гатоўнасць рызыкнуць.* Будзь што будзіць, паеду. Будзь што будзіць, а хату нада купля́ць, горыд — ета яшчэ вілымі пісына.

**Булкаю не заманіць** (не зацягнуць). *Пра немагчымасць спакусіць зайсці ці далучыцца да іншых.* Сходзіць, будзіць сходжына, ты яго ў Пыстырна́кі посьлі тэя сва́дзьбы бу́лкыю ні замоніш. Яму там ла́дна було, сыстрамі́лі, што большы некуды, цяперь яго к Ліпяцёнкым бу́лкыю ні зыця́гніця.

**Бухаць** (садзіць) **грошы.** *Плаціць дорага без патрэбы.* Я ні стаў бы грошы бу́хыць, ні паду́мыўшы. Ахота ж яму садзі́ць грошы у етых зяцёў, як у бяздонныю бочку. *Зак.* **Убухаць** (усадзіць) **грошы.** Грошы убу́хыць лёхка, а толк зь естыга ці будзіць, ці не. Во прыгарелі мы ны карові: грошы ўсадзі́лі, а мылыка́ німа.

**Быллём парасло.** *Пра забытае.* Раз быльлём пырасло, то нашто яго вурушы́ць. Айт, лу́ччы ні ўспымінай, што ні було — быльлём пырасло. Ны вяку́ многа було, ды быльлём пырасло.

**Было не было** (была не была). *Пра рашэнне рызыкнуць.* Було ні було — схаджу́, усё рыўна хужы ні ста́ніць. Було ні було, жаню́ся, ды якіх пор мне сымаму́ лі печы зь вілкымі стыяць. Была́ ні была́, паедзім.

**Быў конь, ды з'ездзіўся.** *Пра страту сілы, здароўя.* Што зь мяне цяперь возьміш: быў конь, ды зьезьдзіўся. Мітрыхва́н саўсім ня тэй, што ра́ншы, быў конь, ды зьезьдзіўся.

**Быць бяльмом на воку** (вачах). *З'яўляцца перашкодай; выклікаць зайздрасць.* Аўсей табе ўсігда́ быў бяльмом на воку. Быць у іх на воку бяльмом я ні зьбіра́юся.

Ім Стратоныва хата цяперіцька будзіць бяльмом ны вычáх.

**Быць у форме,** *жарт., іран. Прад'яўляць сябе належным чынам.* Ты ж глядзі, заўтря каб быў у формі. Відзіш, ён сяньня ў формі, пуччупуріўся што нада. Учора яны абоя былі у формі, чуць ны ныгáх дзіржáліся.

**Бядовая галава.** *Адчайны, смелы.* Ой, бядовыя гылыва етый зяць Хадосычкін, ён табе куды хочыш, толька скажы́, тую мінýту гатоў.

**Бяздонная бочка,** *груб. П'яніца, пражора.* Куды ўжо ета бяздонныя бочка і есьць, і п'ець. Як ты толька жратвы́ ныбірáісься на тую бяздонную бочку.

**Бярозавая каша.** *Лупцоўка.* Бізь бярёзывыя кáшы вы сяньня абоя ні абойдзіціся. Зуслужы́лі яны адно — ны бярёзывыю кашу. Нада табе бярёзывыя кашы, ой, нада.

**Бяры вышы,** *жарт. Пра неабходнасць больш высокай ацэнкі.* Якей табе сіржáнт, бярі вышы, ён трецьцій год стыршыною слýжыць. Ну да, вучоччык, бярі вышы, з брігадзíрыў зьляцеў — трошку гарелычка пыдвілá.

**Бярэць** (разбіраець) **злосць,** *цяп., пр. Злуе.* Ну чаго цябе злосьць бярець, кіпíш як халодный сумувáр. Яго с сáмыга рáньня злосьць рызьбірáіць, нешта ходзіць, кіпіць. Я віджу, што злосьць вас брала ні ныпрáсна. Чаго ж іх так рызьбірáла злосьць, хто там піряд імі прывініўся? *Зак.* **Узяла** (разабрала) **злосць,** *пр., буд.* Як пычáлі ныт Кацію сьміяцца, тады і яго злосць узілá. Каго хочыш злосьць ба ўзілá, каб такую сьвіньню пыдлажы́лі. Цяперя дзяржы́сь, Кузьму рызыбрáла злосьць ні на сьмех. Ну як жа так дзелыць, тут ні хыця злосьць возьміць любога. Чаму ж ні рызьбярець злосьць, каму ета аньціресна, што яго прысьміхáюць.

**Бярэць** (разбіраець) **смех,** *цяп., пр. Робіцца смешна.* Ён усігда дзелыіць так, што сьмех бярець. Сьмех вас рызьбірáіць сяньня ціряшчýр нешта. Што ета вас так сьмех брáў? Дужа ж, дужа сьмех рызьбірáў і адну, і другую. *Зак.* **Узяў** (разабраў) **смех,** *пр., буд.* Узяў іх нешта сьмех, што ня могуць зьдзержыцца. Абеіх сьмех рызыбрáў, аж дáвюцца. Ат еткія ўказэі і Сондычку сьмех возьміць. Саньку ня ўніміш, есьлі яго сьмех рызьбярець.

**Вадзіць за нос** (зá нас), *неадабр. Падманваць пэўны час, працяглы час не даваць пэўнага адказу.* Як брáлі грошы, тады кляліся, абішчáлі: вот аддадзíм ціpізь нядзелю, а посьлі як сталі вадзíць за нос, дык другей год водзюць. Нечыга зá ныс вадзíць, а раз абішчáў, то аддáй. Сколька яны вадзíлі зá ныс Мікіту, каб толька хто знаў! *Узмацн.* **Павадзіць за нос** (зá нас). Пывадзíлі за нос — хвáціць, месіцы трі бегыў туды-нызáд. Стрычынкá яны сьпіцыяльна паводзюць зá ныс, так ня тпýсьцюць. *Законч.* **Атвадзіць за нос** (зá нас). Атвадзíлі за нос дык атвадзíлі, ну бумáжкі духí ўбіў. Каб ты толька знаў, якей пастылый чылавек, з-зы ірунды атводзіць зá ныс, што кінуў ба ўсё і ацступíўся. *Працягл.-фінальн.* **Навадзіць** (навадзіцца, давадзіць, давадзіцца) **за нос** (зá нас). Нывадзíлі за нос большы некуды, ніхай іх самíх водзіць. К яму толька пупадзíся у рукі, наводзіць зá ныс. Што йта вы дзелыіця, пакуль ні наводзіціся за нос, пустэя бумáжкі ні патпíшыця. Нывадзíўся іх зá ныс уволю. Мяне так дывадзíлі за нос, што я на ўсё махнуў рукою і ні пашоў большы. Даводзіш ты мяне зá ныс, бюрократ етый, пайду ў райспалком, ніхай тáмыцька пішуць. Дывадзíўся за нос, што нылáілі, як пасьледніга дурукá. Пагонюць сь сільсавета мятлою — так ён даводзіцца зá ныс. *Наз.* **Ваджэнне за нос** (зá нас). Хужы ўжо німа етыга ваджэньня за нос. А мне, думыіш, такоя ваджэньня зá ныс ня збрыдзіла?

**Вадзіць за руку** (рукаў), *неадабр. Патвараць нежаданню дзейнічаць самастойна.* Сам ніхай вýчыцца дзелыць сымыстыяцільна, ці яго ж ды двыццацí гадоў зу рукý вадзíць. Хвáціць вадзíць зу рукáў, ніхай дýмыіць сваёю гылавою. *Непаўн., працягл.* **Павадзіць за руку** (рукаў). Столька пывадзíць зу рукý, як Пынáсіха сваíх, нашто іх і на сьвет пускáць тады. Быў пывадзíў зу рукáў, а тады не, думыю, жывí-ка ты сам. Што там гываріць, пывадзíлі зу рукáў ны сваю гылавý. *Законч.* **Атвадзіць за руку** (рукаў). І я свайго атвадзíла зу рукý, усё ж дýмыла малінькій, а г жызьні ні прівýчывыла. Яны атвадзíлі зу рукáў, ныбянтэжыліся зь імі. *Працягл.-фінальн.* **Навадзіць** (навадзіцца, давадзіць, давадзіцца) **за руку** (рукаў). Нывадзíў ён сваіх зу рукý, усё шчытаў нісмышлёнышымі. Наводзіця зу рукáў, самі бýдзіця кáіцца. Наводзіцца зу рукý, што вырысьціць, як дудá, ні к чаму ні

прівýчыный. Мільлянок нывадзíўся сваіх зу рукáў. Даводзіш зу рукý, што і ў дваццыць гадоў кыня ні зыпрягець. Даводзюць зу рукаў — будзіць як палка дроў, ні туды́ ні сюды́. Даводзюцца зу рукý сы сваімі малю́тычкымі, людзі будуць сьмія́цца. Дывадзíліся зу рукáў, што і ў тріццыць гадоў нада карміць хлебым. *Наз.* **Ваджэнне за руку** (рукаў). Як пычалося ваджэньня зу руку вы ўсякіх мелычых, тады ня жджы чылавека. С твайго ваджэньня зу рукаў усе кругом сьмяю́цца, як з малю́тычкымі зь якімі цáцкыіcься.

**Вадзіць кампанію** (канпанію), *звыч. неадабр. Сябраваць.* Ты знай, сь кім вадзíць кымпáнію, ато ў такýю шáйку пупадзесься, што ня вы́скрібісься. Вадзíў кынпáнію ш Чырінкáмі і дывадзíўся: самі селі і яго пысадзілі. *Узмацн.* **Павадзіць кампанію** (канпанію). Аўсяёнык пывадзíў зь імі кымпáнію, як субота, так, бувала, і п'юць, і п'юць. Доўга ён с Сумусіня́тымі кынпáнію ні паводзіць. *Законч.* **Атвадзіць кампанію** (канпанію). Васіль зь імі скора кымпáнію атводзіць. Атвадзíў-тыкі кынпáнію с Кындыбіня́тымі, рузлучы́ўся. *Працягл.-фінальн.* **Навадзіць** (давадзіць) **кампанію** (канпанію). Сядзь ты луччы ў хáці ды пысядзí, ато наводзіш кымпáнію, што ні раз пыжалеіш. Нывадзíлі кынпáнію, нешта дужа скора ў іх урозь пашло. Даводзіш ты кымпáнію с тымі бысікáмі. Дывадзíў кынпáніі з гáлкыўскімі хлопцымі, дáлі разым зь імі лі горыда.

**Вадзіць у бакі.** *Хістаць у хадзе.* Во сяньня вы́біўся, аж у бакí водзіць. Не, цябе лáдна водзіць у бакí, відна, хырашо нюхнýў у чáрычку. Я відзіў, як Мацьвеівыга вадзíла учора ў бакі. *Абмеж.* **Павадзіць у бакі.** Троху пывадзíла ўчора ў бакі, ну нічога, прыспáўся.

**Вадою не разліць.** *Пра моцнае сяброўства.* Так здружы́ліся, вадою ні разьлíць. Сонька с Хрісьціныю былі сьпеліся — вадою ні разьлíць, а тады: ты ны мяне гывар́іла і ты ны мяне гыварíла, — дос дружы́ць.

**Ваду муціць.** *Знарок заблытваць справу.* Дзямід пычаў ваду муціць, нягож хто. Муціла Каця ваду, муцíла і нічога ў яе ні пулучы́лыся. *Працягл.* **Ваду памуціць.** Яны абоя лáдна ваду пумуцíлі, даўно пырá гнаць у шыю. *Узмацн.* **Ваду намуціць.** Відна, Арцём ваду нумуцíў, хто ж ба другей такоя тріпануць мог. *Пачын.* **Ваду заму-**

**ціць** (узмуціць). Зумуціць ваду замуцюць, ну я тады ім рызьбірацца ні стану. Тут ішчэ нада падумыць, хто ваду ў етым дзелі ўзмуціў.

**Ваду ў ступе тоўч** (талоч), *неадабр. Займацца балбатнёй.* Сыбяруцца і пашлі ваду ў ступі тоўч. Ім ба толька адно зыняція — ваду ў ступі талоч з раньня да вечыра. *Абмеж.* **Ваду ў ступе патоўч** (паталоч). Сыбраліся, ваду ў ступі пытаўклі і рызыйшліся. Ці хто ні знаіць, вам нада ваду ў ступі пыталоч, во што вам нада.

**Вады не замуціць.** *Не зрабіць ніякай шкоды.* Іван Мархвін вады нікому ні замуціць, ета ня то што Пылагіны бэйбусы. Я яшчэ вады нікому ні зумуціў, а ня то стану ны чылавека нівісь што несьць.

**Вады ў рот набраць.** *Упарта маўчаць.* Ці ты вады ў рот ныбраў, што слова людзям скызаць ня можыш. Абоя сідзяць, што вады ў рот ныбралі. *Узмацн.* **Вады ў рот панабіраць** (панабраць). Вады ў рот пыныбіралі ці што, слова з вас ня выцігніш. Якога ты толку ў чарцей даб'есься, муўчаць, што вады ў рот пыныбралі.

**Ваенный савет,** *жарт. Нарада.* У вас тут ці ні ваенный савет сыйшоўся? Племя іхныя сыбіраіць ваенный савет, на ком Пуўлюка жаніць.

**Важная пціца** (птушка, шышка), *іран. Вялікае начальства.* Пытап важныя пціца: у другога намесьніка трецьцім памошнікым. Нейкыя ж важныя птушка пріехыла, відзіш, як забегылі ўсе. Ён стаў цяперя важныю птушкыю, можа, і зы мяне слова закініць. Ты, знаць, зьдзелыўся важныю шышкыю, к табе цяперь ні пуцступайся.

**Вайстрыць вушы,** *гумар. Уважліва прыслухоўвацца.* Ты там вайстрі-ка вушы, хто што будзіць гываріць. *Зак.* **Навайстрыць вушы.** Вушы нывайстріў і сядзеў, увесь вечыр слухыў. *Узмацн.* **Узвайстрыць вушы.** Сьпірва так-сяк, хіхікыў у вуглу, а як стаў Сямён гываріць, узвайстріў вушы. *Непайн.* **Падвайстрыць вушы.** А што, пыдвайстріў вушы, ці смашна слухыць?

**Вайстрыць лыжы,** *гумар. Намервацца пайсці.* Я ўжо віджу, што сяньня вы войстріця лыжы, нійначы як у Восьлінку. Некуды вайстрілі лыжы і што-то ў дваре асталіся. *Зак.* **Навайстрыць лыжы.** Свае дзеўкі ні ныравюцца, ны-

вайстрілі лыжы у Сьвітазерья. *Непаўн.* **Падвайстрыць лыжы.** Куды ж ён падвойстріць лыжы, толька ны Заречча.

**Вакно ў вакно.** *Вельмі блізка насупраць* (*жыць*). Мы с Аўсеівымі жылі вакно ў вакно, во так во на́ша хата, а тут во проця Аўсеіва.

**Валам валіць.** *Ісці натоўпам, масай.* Ну й людзей жа найшло ны кірма́ш, с усіх бакоў пря́ма ва́лым валі́лі. Быза́р сяньня бу́дзіць няві́дынный, толька з нашыга боку ва́лым ва́люць, а сыбяру́цца ж атусюля. *Пачын.* **Валам паваліць.** Мы глядзі́м і дзівімся, куды так ва́лым пываліслі, ажно чуім: во што случы́лыся.

**Валіцца** (вываліванца) **з рук.** *Не атрымлівацца з-за дрэннага самаадчування, настрою, стану.* Нешта ў цябе сяньня усё ва́ліцца з рук. У Сашкі і від нейкій дренный, і работа выва́ліицца з рук. І ў цябе б з рук усё выва́лівылыся, каб такую ныхлабу́чку пулучы́ў. *Зак.* **Выва́ліцца з рук.** Ні хыця ўсё з рук вы́выліцца, кылі біда́ тыкая, ці дзелыць, ці кіда́ць усё ды ехыць. *Усеаг., адзінк.* **Павываліванца** (павываліцца) **з рук.** Ты іншэ жызьні ні зна́іш, можа і ў цябе калі пывыва́ліицца усё з рук, будзіш хадзіць, што сам ня свой. Пачу́ла я — павы́вылілыся з рук і работа, і клапота,— як я цяперя буду жыць.

**Валіцца** (зваліванца) **з ног.** *Не трымацца на нагах ад бяссілля.* Так ужо вы́біліся ў лесі, пря́ма з ног валі́ліся к канцу дня. К вечыру іка́я там была работа, хадзілі і з ног зва́лівыліся. *Зак.* **Зваліцца з ног.** Кусок бальшэй, пагода нінадзёжныя, хвыта́лі, хвыта́лі, гряблі́, гряблі́, к канцу з ног звалі́ліся. Хадзіў, ні здыва́ўся, ду́мыў, піріхаджу, а ўчора звалі́ўся з ног. *Усеаг.* **Пазваліцца** (пазваліванца) **з ног.** Вазьміця торбычку, ні пыжалеіця, работа цяжолыя, ня еўшы з ног пызва́ліціся. Во крыхану́ла хвароба, столька людзей пызва́лівылыся з ног,— прасту́да ўсё.

**Валіць** (зваліваць, мяшаць, змешываць) **у адну кучу,** *неадабр. Блытаць, змешваць рознае.* Што ж ты ва́ліш у адну ку́чу і тоя, што летыся було, і што зьдзелына толька цяперя. Канешня ж, есьлі зва́лівыць у адну кучу і тоя, і другоя, то ўсё дыкыза́ць можна. А вы ні мішайця у адну кучу, што саўсім ня лезіць. Я ні такей, як твой дзя́дзя, я зьмешывыць у адну кучу усё ўся́кыя ні ста́ну. *Зак.* **Зваліць** (змяшаць) **у адну кучу.** Зва́люць у адну кучу ды

яшчэ прібáвюць чýшы нісусьветныя, што сь сямю гылывáмі ні рызьбярецца. Змішáлі у адну кучу і прáўду і бряхню́. *Усеаг.* **Пазваліць** (пазваліваць, пазмяшаць, пазмешываць) **у адну кучу.** Айт, Васіль твой пызвáлівыў у адну кучу усё ўся́кыя. Пызвáлівылі у адну кучу што хочыш, і канцоў ні дыбяресься. Пызьмішáць у адну кýчу ён так умеіць, што пяць прукурорыў ні расплýтыюць. Адна рыскáжыць так, другая етык, пазьмешыюць усё ў адну кучу.

**Валіць** (зваліваць) **з хворай галавы на здаровую.** *Перакладаць віну з віноўнага на невіноўнага.* Лю́біш ты валíць с хворыя гылавы ны здаровую. Валіў ба с хворыя гылавы ны здаровыю, каб толька ні атвічаць. Іўка ўсігда звалівыіць с хворыя гылавы ны здаровыю. *Зак.* **Зваліць з хворай галавы на здаровую.** Ты ўсігда глядзíш, каб зваліць с хворыя гылавы ны здаровыю, а сам як і ні прічом. *Усеаг.* **Пазваліць** (пазваліваць) **з хворай галавы на здаровую.** Пызвалíлі с хворыя гылавы ны здаровыю і дýмыюць, яны цяперя чы́сты. Ім каб толька пызвáлівыць с хворыя гылавы ны здаровую, каб хто-небудзь за іх і плацíў, і атвічáў. *Працягл.-фінальн.* **Назваліваць** (дазваліваць) **з хворай галавы на здаровую.** Яй-богычку, ты нызвáлівыіш с хворый гылавы ны здаровыю. Відзіш, як дызвáлівылі с хворыя гылавы ны здаровую, пашлí нылáіныя. Вун вíдзіў, Лісей дызвáлівыў с хворый гылавы ны здаровыю.

**Валіць з ног.** *Вымушаць легчы, падаць.* Я саўсім дзіцёнкым была, ну толька помню, як ціх валíў з ног усіх пыдряд у дзяреўні, тады і бáцька мой памёр. *Зак.* **Зваліць з ног.** Ён вылá звáліць з ног, ня то што Зыхара,— сіла нямерныя. Нейкыя ж халера прістáла, звалíла з ног, трецьцію нядзелю пластом ляжы́ць, гылавы́ ні пыднімáіць дáйжа. *Усеаг.* **Пазваліць** (пазваліваць) **з ног.** І гріб дужа халерный, як дыбярецца — цэлымі сем'імі пызвáліць з ног, кріцыю кычáюцца. Схадзі-ка, можа, глянь, што іх там пызвáлівыла з ног, а не дык кыня зыпрягí г доктыру. Нешта нывалілыся, пызвалівыла з ног, кычаюцца усе зразу, што й печ во нада бежч прукуріць.

**Валіцца** (каціцца) **со смеху** (са смеху). *Смяяцца да знямогі.* Каму сьмешна, тэй вáліцца сó сьміху, а нам ужо ета прієлыся. Пыглядзí ты на іх — са сьмеху валюцца ат трілю́ды Сідырывый. Як сыбярýцца вечырым, чаго ні

дытвыря́юць, а ат Пынасывых чу́дыў коцюцца со́ сьміху. *Пачын.* **Паваліцца** (пакаціцца) **со смеху** (са смеху). Як запеў ён, дык на месьці ўсе пываліліся со сьміху. Скольска людзей було, усе пыкаціліся со́ сьміху. Ніхто ўцерпіць ня можыць, і ты пыкаціўся б са сьмеху. *Гл.* В а л я ц ц а с о с м е х у.

**Валіць цераз пень-калоду.** *Рабіць абы-як, неахвотна і нядбайна.* Марка работнік ізьвесный: ва́ліць усігда́ цірясь пень-калоду. Дзелылі, айдзе яны дзелылі, валі́лі цірясь пень-калоду.

**Валоссе** [становіцца (паднімаецца, падымаецца)] **дыба** (дыбам), *цяп., пр. Ахопліваае страх.* Як толька падумыю, што ціряс тую німяреч іціць нада, дык валосься становіцца ды́ба. У цябе ац страху валосься ды́бым становіцца. Мне сьмешна, а ў яго валосься ды́бым пыдніма́іцца. Во баі́цца, аж валосься ды́ба пыдыма́іцца. Січас ён хва́ліцца, а тады ў яго валосься ды́бым стынаві́лыся. І ў цябе б валосься дыба пыдні́ма́лыся, есьлі б ны цябе такей зьверь бег. Січас вы сьміі́цёся, а тады ў вас валосься ды́бым пыдыма́лыся. *Зак.* **Валоссе** [стала (паднялося)] **дыба** (дыбам), *пр., буд.* Там нешта як загрі́міць, а тады як зырявець, дык у нас і валосься ды́ба стала. Ат такога страху ў любога б валосься ста́ла ды́бым. Ну, у вас, я ду́мыю, і валосься дыба пыдня́лыся — еткій іспуг быў. У любога б валосься дыбым пыднялося, каб з ваўком стреўся так бл́ізка, нос у нос. Ідзі, пыглядзі́, і ў цябе валосься ды́ба ста́ніць. Я магу такоя пыказа́ць, што ў цябе валосься ды́бым падні́міцца. Тут у любога хрыбріца валосься пады́міцца ды́ба. Я як увідзі́ў выўка, у мяне і валосься дыба. Гля́нула — а бык пря́ма ны мяне ляці́ць, у мяне і валосься дыбым: зыбадзець зра́зу.

**Валяцца** (качацца) **со смеху** (са смеху). *Смяяцца да знямогі.* Як пычаў прістыўля́ць ды пыка́зывыць, што ён дзелыў, усе пряма выля́ліся со́ сьміху. Абея выляліся са сьмеху. Нічога там дужа сьмешныга ні було, толька Вукулёнык нешта ўсё кыча́ўся со сьміху. Було там чаго кыча́цца са сьмеху, етыя яго ба́сьні ужо дзесіць разоў чулі. *Працягл.* **Наваляцца** (накачацца, паваляцца, пакачацца) **со смеху** (са смеху). Пакуля піряслу́хылі усю трілю́ду, нывыляліся со сьміху. Схадзі́, паслу́хый, нывыля́ісься са сьмеху. Пыглядзі, як яны пычану́ць сварі́цца,

а тады міріцца, ныкычаісься со сьміху. Лі іх можна пывыляцца со сьміху сколька хочыш. Уволю со сьміху пыкычаліся, знаць, за ўсю жысць еткыя первый раз відзілі. Тама ёсьць ач чаго са сьмеху пыкычацца.

**Валяцца** (качацца) **ў нагах.** *Прасіць прыніжана, вельмі настойліва.* Душа чарнела, гатоў быў у ныгах выляцца, каб прасьцілі. Ні стану ж я табе выляцца ў ныгах, я ж аб'ясьніў, што к чаму. Так ужо прасіла, так маліла, пряма ў ныгах кычалыся, дык у яго ж камінныя серца. *Працягл.-фінальн.* **Наваляцца** (накачацца) **ў нагах.** Ныпрасіліся, нывыляліся у ныгах у гадысьці той. І ў ныгах ныкычаліся, а сколька бузуваліся ны яго, асобінна ны жніве, каб у Гірманію ні атправіў.

**Валяць ваньку,** *вульг., рэдкаўж. Блазнаваць, дурэць, жартаваць; бяздзейнічаць; цягнуць час.* Што ты мне ваньку выляіш, гыварі як нада! Я табе выляць ваньку ні рызрішу, ні надзейся дайжа. Ты ваньку выляць кінь, я луччы цябе знаю, што мне дзелыць, што ня дзелыць. *Працягл.* **Праваляць ваньку.** Усё лета прывыляў ваньку, ні таршыны ні атрезыў, ні клыка сена ні прідбаў. *Непайн.* **Паваляць ваньку.** Ваньку пывыляў? — пывыляў, бакі атлежыў?— атлежыў, а цяперя вун лупатка, а вун я разьмеріў ямку на погріб. *Працягл.-фінальн.* **Наваляць** (даваляць) **ваньку.** Нывыляіш ты ваньку, што йна цябе каромісьлікым с хаты патуріць. Што, Сенька, дывыляў ваньку, можа, цябе ны кварціру узяць?

**Валяць** (корчыць, ламаць) **дурака,** *асудж. Блазнаваць, дурэць, жартаваць; бяздзейнічаць; цягнуць час.* Узноў выляіць дурука, як яму ні ныдыядуць етыя прістыўкі. Калі табе ныпыстылеіць выляць дурука, схадзі вун біряжок ат ячменю збрынкый: топчыцца. Можа б ты цяперь пірістаў корчыць дурука, а за дзела ўзяўся? *Працягл.* **Праваляць дурака.** Прывыялі дурука пасьці цэлый год, а посьлі хваціліся: німа таго ды німа етыга. *Непайн.* **Паваляць** (пакорчыць, паламаць) **дурака.** Яны туды толька і йдуць, каб пывыляць дурука. Троху дурука пакорчылі у кустах, во і ўся іхныя кызьба. Гуртым пулумалі дурука, пулумалі і рызыйшліся. Ці вы сыйшліся дурука пулумаць, ці цірябіць думыіця ныпраўду? *Законч.* **Атваляць** (адкорчыць) **дурака.** Дзелыць як дзелыць, дзела ні пытай, а дурука атвылялі уволю. Па-мойму, дурука аткорчыў, сколька хацеў, цяпер ба пыра і за

розум брацца, і зы работу. *Працягл.-фінальн.* **Наваляць** (накорчыць, наламаць, даваляць, дакорчыць, даламаць) **дурака.** Цяперя знаіш, як Паўлуша нывыляў дурука? Усе ўчыцьвярых накорчыця вы дурука, будзіця тады вярнуць адзін ны днаго. Ага, нулумаў дурука?— я ж гываріў, што йначы ня будзіць. Табе нядоўга дывыляць дурука, саўсім нядоўга, я ішчэ ні забылыся ны пызыўчырашнія. Дакорчылі дурука дужа ладна — схвацілі хлыбазіны, айдзе й корчыньня дзелыся. Сяньня ты ў мяне дулумаіш дурука, я хвытацца буду, а яму толька гігікі.

**Варонняя галава,** *асудж. Дурнаваты.* Ні хацела піряйціць у сваю хату, вароньнія гылыва, то цяперя пу чужых будзіш цігацца да веку.

**Варон пашчытаць** (палавіць), *неадабр. Страціць ратазейнічаючы.* Ну што, пышчытаў варон, нада ж було глядзець, цяперь во вазьмі трясцу, кашолкі рыбы німа. Паловіця варон, што скот ачынецца ў шкодзі, тады штрах заплоціця.

**Варон шчытаць** (лавіць), *неадабр.* 1. *Ратазейнічаць; упускаць добры выпадак.* Ты ж тут варон ні шчытай, дзелый, што нада. Усе бралі, а ён варон лавіў, ну й прінёс — дно закрыта. 2. *Бяздзейнічаць, гультаяваць.* Прістаў, ныстаў: ураз каб бралі малыю, а што ёй там дзелыць, варон шчытаць будзіць? Варон ба лавіў, большы яму дзелыць нічога ня хочыцца. *Працягл.-фінальн.* **Варон нашчытаць** (налавіць, дашчытаць, далавіць). 1. Нышчытаіць ён варон, што пріедзіць с пустымі калёсымі. Нылавіў варон?— такей пацьцёлык быў у руках. Дышчытаіць варон,— адзежу хто ўхваціць, і астаніцца біс тряпык. Варон дылавіла, будзіш зь лялькыю насіцца месіц, ісь сярпом нада глядзець ды глядзець. 2. Ніхай цягнуць аб адной бульбі, зато ж варон нышчыталі летым. Нылавіў варон, глядзіць, айдзе вазок сена купіць, а травы ж було хуць зываліся. Дышчытала варон, асталыся і біз бырыка і бяз морквіны, а капусту пы сьнягу секла. Ты даловіш варон, як Сахвея, што бегыіць пы хатых ды глядзіць, каб хто што даў.

**Варочаць** (паварачываць) **аглоблі,** *гумар. Вяртацца назад.* Дзялы тваe плохі, прідзіцца варочыць аглоблі ні ш чым. Відзіць, што ні пылыса, дывай пывырачывыць аглоблі нызад. *Зак.* **Павярнуць аглоблі.** А што яму асты-

ва́лыся дзелыць, хочыш, ня хочыш, паверніш аглоблі. Чаго ж ён, храбрец, пывярну́ў аглоблі.

**Варочаць** (перавварачываць) **уверх** (дагары) **дном** (нагамі, тармашкамі). 1. *неадабр. Раскідваць у беспарадку пры пошуках.* Нашто ты варочыіш уверьх дном пасьцель, хто зы табою пупруўля́ць будзіць. Пыглядзеў я ў вакно, там нехта варочыіць усё ўверьх ныгамі. Хто тут варочыў усё ўверьх тырма́шкымі? Дзелыць, знаць, нечыга — варочыіць дыгары́ дном рыгазьзё, тоя. Вун відзіш, пыча́ў варочыць дыгары́ ныга́мі. Якей зь естыга толк варочыць дыгары тырма́шкымі. Ніхай яно ляжыць, як ляжыць, будзіш ты пірівыра́чывыць уверьх дном. Нашто ён пірівыра́чывыіць уверьх ныгамі тоя быpaxло, яно ж хуць трошку було пріпу́чына. Відзіў і Сыўчынка́: пірівырачывыў уверьх тырма́шкымі усё ў ха́ці — нечыга шукаў. Нашто тут було пірівыра́чывыць дыгары дном надворья? Ні пірівыра́чывый дыгары́ ныга́мі, калі што нада—спрасі́. Пірівыра́чыіць хлам дыгары́ тырма́шкымі, дзелыць нечыга чылавеку. 2. *Рашуча змяняць.* Тут нада варо́чыць уверьх дном усё чыста. Ты ўсё ўверьх ныга́мі варочый, там нада харошый пырядык нывадзіць. Толька зьбіра́ўся варочыць пыря́дкі іхнія ўверьх тырма́шкымі, зьдзелыць нічога ня зьдзелыў. І дыгары дном пробывыў варочыць, і рукі апуска́ў, — цяжолыя дзяреўня. Каб ты стырікоў слу́хыў, то можна б варочыць дыгары ныга́мі дайжа ў Лідагошчы. Пірівыра́чывыць уверьх дном я ні бяру́ся, ну пырядык у вас нывадзі́ць нада. Тру́дна тут пірівыра́чывыць уверьх тырма́шкымі. Каб пірівыра́чывыць дыгары ныга́мі, нада знаць, за што сьпірва́ брацца. Што ён там пірівыра́чыіць дыгары тырма́шкымі, нада, каб падзьдзержка ла́дныя была.*Зак.* **Перавярнуць уверх** (дагары) **дном** (нагамі, тармашкамі). 1. Што ні ліжа́ла, пірівярну́лі уверьх дном, на двор ні ўзайці́ць. Уверьх ныгамі піряверніць, а пыправіць — па́ліц ап па́ліц ні ўда́ріць. Хто тут пірівярну́ў усё тряхольля уверьх тырма́шкымі? Бісь цябе ні быйшлося, толька ты мог так пірівярну́ць дыгары дном. Піряверніць дыгары ныга́мі і кініць, пупруўля́й ты. Што, бяресься узноў пірівярну́ць дыгары тырма́шкымі? 2. Мяне каб туды нызна́чылі, я б скора пірівярну́ў там усё ўверьх дном. Кісель быў цьвёрдый чылавек, а пірівярну́ць уверьх ныгамі ні пірівярну́ў, так, трошку пытпра́віў. Хвалі́ўся пірівярну́ць дыгары дном,

ды апсекся. Я пірівярну́ дыгары ныгамі, у мяне за месіц будзіць жалезный пыря́дык.

**Ваўком** (воўкам) **выць.** *Вельмі гараваць.* Хуць ваўком вый, хуць ня вый, паможч ужо нічога ні паможыш. Ета толька ніхто ні зна́іць, Жэнька воўкым вы́ла ат мужука́, іка́я там жы́зьня. *Пачын.* **Ваўком** (воўкам) **завыць.** Ат такея жызьні, як у Саркі, ні хыця ваўком завы́іш. Цярьпеў, цярьпеў дый воўкым завыў, канешня, зь імі нія́кій чорт ні ўжывець. *Непаўн.* **Ваўком** (воўкам) **павыць.** Павы́іць іна ваўком ат Мірёна. Мікілай воўкым павы́ў, пакуля некуды ня зьехыў. *Рапт.* **Ваўком** (воўкам) **узвыць.** Узвы́іць іна ваўком ні раз, прыклянець і дзень тэй, і час, калі сыгласі́лыся к такой сьвякрові пайці́ць. Узвы́ла воўкым, ды позна, зь ля́лькыю нікуды ня кініcься дужа. *Законч.* **Ваўком** (воўкам) **атвыць.** А разьві ма́ла яны ваўком атвы́лі? Атвы́іш ты воўкым за ўсё маё горя і зы пазор за мой. *Узмацн.* **Ваўком** (воўкам) **навыцца.** Гапка з дычкамі столька ваўком навы́лыся, што ніхто толька ні зна́іць. Цяперя адна воўкым навы́іцца, ця́пніць горя.

**Ва** (на) **ўсе вочы.** *Уважліва; здзіўлена (глядзець).* Ка́жыцца ж ва ўсе вочы глядзела, а як яны прышмыгну́лі — ні знаю. Мы патходзім, а Іван глядзіць ва ўсе вочы і ня можыць пызнаць. Пыдыйшоў, глядзі́ць на ўсе вочы: што тут такоя твары́цца.

**Ва ўсе лапаткі.** *Вельмі шпарка.* Ляцеў па вуліцы ва ўсе лупаткі. Дыгані́ папробый ды з маімі ныга́мі, калі кінуўся ва ўсе лупаткі.

**Ва ўсякім разе** (случае), *неалаг. Аднак.* Я б вы ўся́кім разі так ня дзелыў ба. Вы ўсякі́м слу́чыі Пёкла етыга ні скызала б і зывыльня́ць ба ні ў чом ні ста́ла.

**Вачам веры не даваць.** *Не верыць відавочнаму.* Гляджу й выча́м веры ні даю, няўжэлі ета ты стаў такей сі́вый. **Вачам веры даваць.** Во й дыва́й веры выча́м, тургува́ў — було ўсё хырашо, а купіў — ні к чорту годна. *Зак.* **Вачам веры не даць.** Я ж ба выча́м веры ні даў, каб ты ні зыгывары́ў, ніза́штычка ж ба ні паверіў, што Кірей так можыць зьмяніцца. Ці ета ты, я ж вычам веры ні дам. **Вачам веры даць.** Як жа я выча́м веры дам, кылі дваццыць гадоў цябе ня відзіў. Што ты выча́м веры даць ня можыш, цябе ж ніхто ні ста́ніць пыдмыня́ць.

**Вачамі лупаць,** *неадабр. Глядзець з неразуменнем.* Вычамі лу́пыіць і ні рызьдзяўбецца, што над ім сьмяюцца. *Пачын.* **Вачамі залупаць.** Як крікнула, нашто ты ета ўдвору ця́гніш, тады вычамі залу́пыў. *Аднакр.* **Вачамі лупнуць.** Будзіла я, будзіла, шту́рьхыла, шту́рьхыла — лупну́ла вычамі і ўзноў сьпіць. *Непайн.* **Вачамі палупаць.** Ну што ён пыстыя́ў? — вычамі палу́пыў дый пашоў.

**Вачамі свяціць.** 1. *неадабр. Прысутнічаць без патрэбы.* Відзіла, і Мільянок там стыяў бяс толку, вычамі сьвяціў. 2. *Адчуваць сорам.* Што, сты́дна сяньня пірід людзя́мі вычамі сьвяціць, а ўчора було моря пы калена. *Непайн.* **Вачамі пасвяціць.** 1. А якей толк, што яшчэ й ты вычамі тамыцька пасьвеціш. 2. Канешня, сты́дна було, вычамі пысьвяціў, толька ды яго дужа ні даходзіць.

**Вачэй** (вочы) **не паказываць.** *Не заходзіць, не наведваць.* Неік раз зайшоў ны мінутку, а большы вачэй ні пыка́зыіць. С тых пор вачэй ні пыка́зывылі. Мы ду́мылі, ты ўремя ат уремя і за́йдзіш, а ты дайжа вочы ні пыказыіш. **Вочы паказываць.** Ты ж хуць патроху вочы пыка́зывый, ні зубува́й, як тэя га́ўрікі. *Зак.* **Вачэй** (вочы) **не паказаць.** Што ж ты і к Сямёну, і к Просі заходзіш, а ка мне дык і вачэй ні пыка́жыш. Такоя горя було, чужэя прішлі, а ён, родный брат, вочы ні пыкыза́ў. **Вочы паказаць.** Нада б калі і ў Мідзькыўшчыну вочы пыкыза́ць, дык жа некыльства зыріза́іць.

**Вачэй не атвадзіць** (не звадзіць, не атрываць, не спускаць). *Глядзець з захапленнем, сачыць вельмі ўважліва.* Увесь вечыр ат Пашкі вачэй ні атвадзіў. Што вы с аднае Танькі вачэй ня зводзіця, ці вам дзевык большы німа. Глядзелі рот разінуўшы, вачэй ні атрыва́лі. Во пупа́ўся ты ў крепкія рукі, іна сь цябе вачэй ні спуска́іць. *Зак.* **Вачэй не атвесць** (не звесць, не атарваць, не спусціць). Во іньціресный канцэрт пыка́зывылі, вачэй ні атвесьць було. Тут і ста́рыму вачэй ня зьвесьць, ня то што дзіцям. Там жа так аньціресна, вачэй ні атырва́ць. За ўвесь вечыр вачэй зь яго ні спусьціла.

**Ваша сястра.** *Жанчыны наогул.* Так толька ва́ша сістра́ можыць зьдзелыць, мушчы́на ні даду́мыўся б. А ні зуступа́йся ты ўжо, ваша сістра тожа дужа ла́дна.

**Ваш брат.** *Мужчыны наогул.* А ваш брат, што, лы́кым шыт? Зразу відна: вашыга брата работа. Ваш брат

і ні такоя можыць ляпнуць. Каб ваш брат пабува́ў у нашый шку́рі хуць дзень, тады б вы другоя запелі.

**Век векаваць.** *Жыць усё жыццё.* Пріходзіцца адной век вікуваць. *Зак.* **Век звекаваць.** Век зьвікува́ў, а такея аторвы ня відзіў. *Непайн.* **Век давяковываць.** Дывяковывыю век адзін, што ж ты зьдзелыіш, раз сім'я сьцёрлыся. *Законч.* **Век давекаваць.** Дывяку́ю я век у сваёй хаці, чаго ж мне іціць пу чужых вуглах.

**Веку няма,** *цяп., пр., буд. Пра здаровае, моцнае.* Яму ж пад восімдзісят пыдбіра́іцца, а яшчэ веку німа— так здароў. Каб ня немцы, тэя пыразіты, на́шый ба хаці веку ні було. Дуб крепкій-крепкій, а яшчэ аппаліў сухей,— етым штындарым веку ня будзіць.

**Вераю і праўдаю.** *Чэсна, сумленна.* Служы́ў-служы́ў Анікын Бу́дку верыю і пра́ўдыю і ні ш чога ні зь якыга ніхарош стаў.

**Весць броўю.** *Звяртаць увагу.* Ла́дна ты вядзеш броўю, дысла́цца куды — нервы жалезныя нада. Пычанеш гываріць — броўю ні вядзець, ішчэ гы́кніць: нашто ты гаворіш. *Зак.* **Павесць броўю.** Сколька ні гываріlі, дайжа броўю ні павёў. Матрунін пывядзець броўю, дажджэсься.

**Весць вайну,** *неадабр. Спрачацца, лаяцца.* Кінь ты весьць вайну с тымі мылахольнымі, што ты ім дыка́жыш. Каця ўсё вядзець вайну с суседзімі, усё ёй міру німа́.

**Весць вокам.** *Глядзець, звяртаць увагу.* Ня хочыць Коля ны Таньку дайжа вокым весьць. Нешта твой дырагей і вокым у твой бок ні вядзець. *Зак.* **Павесць вокам.** Пывядзець ён вокым і двумя́, дужа ты яму нада цяперя. Прыйшла́ міма, а ён і вокым ні павёў.

**Весць вухам.** *Крыху слухацца.* Ну як яны вядуць вухым: захочуць — паслу́хыюць, ні захочуць — не. *Зак.* **Павесць вухам.** Угыва́рівыла, прасіла: схадзі́, сыночык, дык етый сыночык і ву́хым ні павёў. Ніхай сабе што, папросіш кру́жку вады пыда́ць — дайжа вухым ні пывядзець.

**Весць двор.** *Гаспадарыць.* Двор усігда вядзець жонка, а мужы́к — ета прішоў, пад'еў і пашоў. *Пачын.* **Павесць двор.** Прішла́ нявестка — саўсім іна́чы пывіла́ двор, і пыря́дку большы ста́ла. *Працягл.-фінальн.* **Навесць** (давесць) **двор.** Так нывіла́ двор, што хут ты с хаты уціка́й

ста́ла: і сьві́ньні сьцены грызу́ць, і карова рявець, і печ ня топліна, а сыма, як квакýха, кыпáіцца лі гырлачоў. Давёў двор, што есьць зварі́ць не ш чыга.

**Весць сябе.** *Паступаць пэўным чынам.* Ня ўмеіш ты весць сябе ну людзя́х. Ліза вядзець сябе строга, ніхто пры яе плахога слова ні ска́жыць. *Пачын.* **Павесць сябе.** Сь первых дней павёў сябе хырашо, і ўсе яго увыжа́юць.

**Ветрам падшытый.** *Лёгкі, які не абараняе ад холаду (пра адзенне).* Ціплá ў тваім пінжачкý німа ніякыга, увесь ён ветрым пачшытый. Кýртычка ета ветрым пачшы́тыя, наверьх нада пулушýбык нырпянýць.

**Ветраная галава,** *неадабр. Легкадумны, несур'ёзны.* Ты мне табун ускры́іш, ветріныя гылывá.

**Ветраная мельніца,** *неадабр. Пустазвон, балбатун.* Во ўжо ветріныя мельніца, кажыцца, што далеіць, то дурнеіць. Ветріныя мельніца ля́пніць што хочыш.

**Вецер гуляіць** (свішчыць) **у** (па) **карманах,** *цяп., пр., буд. Пра адсутнасць грошай.* У Чубука вечна веціp гуля́іць у кырмáных, што ж ты хочыш, што ні заробіць — прап'ець. Як жа ты дýмыіш жыць, раз у цябе веціp гуля́іць пы кырмáных. І ў аднаго веціp сьві́шчыць у кырмáных, і ў другога тоя самыя. Што ён табе паможыць, есьлі у сымаго веціp сьві́шчыць пы кырмáных. Сколька жыў, у яго веціp гуля́ў у кырмáных, капейкі зу душою ні було. Вун помніш Грі́шкіныга зяця, у таго вечна веціp сьвістáў пы кырмáных. Есьлі ня бýдзіш хуць троху прібірігáць, усігдá веціp будзіць гуляць пы кырмáных. Нічога ні разу ты ня бýдзіш імець, толька веціp будзіць сьвістáць у кырмáных.

**Вецер** [ходзіць (гуляець)] **у галаве,** *цяп., пр., буд. Пра вельмі легкадумнага.* Што с табою саветывыцца, кылі ў цябе веціp у гылаве. У Мыланкі усігдá веціp ходзіць у гылаве. Во і ў сястры ў твае, дырагея, як і ў цябе, веціp у гылаве гуля́іць. У Кындрацёнка усігда веціp хадзі́ў у гылаве. Каб веціp гуляў у гылаве, то ня жыў ба так, ён толька зь віду нідапечыный. Есьлі веціp будзіць хадзі́ць у гылаве, як цяперь, жыць ты на сьвеці ня будзіш.

**Вечная гісторыя,** *кніжн. Заўсёды адно і тое ж.* Сь Пітраком вечныя гісторія: усё ўсю́дых зубувáіць, хут ты яму сваю гылавý прістыўля́й.

**Вешацца** (чапляцца, віснуць) **на шыю,** *асудж. Прыставаць навязліва і непрыстойна з каханнем.* Вадзі́ўся зь Нінкыю, пріва́джывыў яе двору — ніхай, я к яму вешыцца на шыю ні ста́ну. Ці помніш, як Нінка чыпля́лыся Колю на шыю, чаго толька ня дзелыла, падушку г жывату прівя́зывыла. Ты яму саўсі́м ні нада, і ныпра́сна ты ві́сьніш на шыю. *Зак.* **Павесіцца** (пачапіцца, павіснуць) **на шыю.** Бясстыдныя дзеўка, павесіцца хлопцу на шыю і ні ацста́ніць. А ты зьдзелый, як Алёна: пычапі́ся к яму на шыю, што ён зьдзелыіць. Паві́сла у Сярьгея на шыі і ні атвя́зыіцца, таму і дзіва́цца некуды. *Працягл.-фінальн.* **Навешацца** (начапляцца, давешацца, дачапляцца) **на шыю.** Навешыісься ты на шыю, як Нінка, што бегыла ў Равы радзі́ць. Нычыплялыся на шыю, што з брю́хым аста́лыся, а ён паехыў. Хырашо давешылыся на шыю, і добря зьдзелыў бацька, што вожкымі прувучы́ў. Я цябе дычыпля́юся на шыю — зьдзяру́ ўсе транты, дам вун андра́к ірва́ный, тады чыпля́йся.

**Вешаць** (чапляць) **сабак,** *асудж. Нагаворваць, паклёпнічаць.* Якіх толька сыбак на іх ня вешылі, ды нічога ня зьдзелылі. Ны мяне ўжо чыпля́лі сыбак, а я сыма сабе ду́мыю: за́ бык ні глыдыніцё. *Зак.* **Павесіць** (пачапіць, пачапляць) **сабак.** Мала што ён табе ні ыра́віцца нечым, дык ны яго нада павесіць сыба́к? Гатова ўсіх сыбак пычапі́ць ны чылавека. Толька зьвяжы́ся зь нячыстыю сілыю, пычыпля́іць усіх са сьвету сыбак. *Множн.* **Навешаць** (начапляць, панавешаць, паначапляць, панавешываць, паначэплівадь) **сабак.** Яны ж такея ізыка́тыя, навешыюць сыбак ні за што ні пра што. Нычыпля́лі ны Мыкара сыбак, а ён чылавек якей тылкаві́тый. Папробый сто раз угадзі́, а раз ні ўгадзі́ — пынавешыюць сыбак с усіх бакоў. Доўга ім умеючы сыбак пынычыпля́ць. Пынавешывыць сыбак яны мысьціра́ хуць куды. Ён на сходзі нешта скызаў, дык пыначэплівылі ны яго сыбак, як на кол асі́нывый.

**Відаць віды.** *Пабываць у складаных і цяжкіх абставінах.* Мяне ты дужа ні пуга́й, я віда́ў віды. Ні хва́стыйся, што ты віда́ў віды, я, можа, ні такея віды пірівіда́ў.

**Відзець наскрозь.** *Разумець сутнасць.* Ка́жный цябе відзіць наскрозь, мудріца́ еткыга. Вот ты дужа рызьліва́ісься сылаўём, а я цябе наскрозь віджу, што ты ду́мыіш.

**Відзець скрозь зямлю** (скрозь землю, пад зямлёю, на тры аршыны ў зямлю). *Быць вельмі праніклівым.* У ёй халера сядзіць, іна скрозь зямлю відзіць. Во быў чылавек, ён жа скрозь землю відзіў. Міця пыдзь зямлёю відзіць, а ня то ён ні замеціць вузілка ны ганкых. Уздумыў ты Хынчынка абвесьць, ён відзіць на трі аршыны ў зямлю. *Зак.* **Увідзець скрозь зямлю** (скрозь землю, пад зямлёю, на тры аршыны ў зямлю). Ат яго ты нійдзе нічога ні схуваіш, ён скрозь зямлю ўвідзіць і выпыріць. Я скрозь землю увіджу і рызьбярусь, што к чаму. Андрос еткій прузукуватый, пыдзь зямлёю увідзіць. А ні хваліся, і на трі аршыны ў зямлю ты увідзіш, і ны пяць.

**Відзець след** (зер) **перад сабою.** *Дрэнна бачыць, мець слабы зрок.* Ён саўсім ужо старый і слабый і вочы дренныя, адно што відзіць сьлед пііц сабою, ні нада зу рукаў вадзіць. Любка стала саўсім сьлепнуць, чуць відзіць зерь пііц сабою.

**Відзець упярод** (уперад, напярод, наперад). *Мець здольнасць прадбачыць будучае.* Кыласкоў умеў відзіць упярёд, а ты не, ня ўмеіш. Мы ўперід відзілі, што большы ты у зіцях ні ныжывеш. Я ныпярёд віджу, што с тваіх заціцей нічога ні палучыцца. Ні ўсякій жа умеіць відзіць наперід. *Зак.* **Увідзець упярод** (уперад, напярод, наперад). Як жа я упярёд увіджу, што цірізь нядзелю можыць случыцца. Ён хітрый, уперід усё ўвідзіў. Стэшка ныпярёд усё ўвідзіў, аттаго й ні паехыў. Да не, наперід ён нічога ня ўвідзіць, нейкій, як глумак.

**Відна птушка па палёту.** *Пра выяўленне якасцей праз паступкі, справы.* Відна птушку пы палёту, што ты зы чылавек. Нечыга мне аб'ісьняць: харошый, харошый, відна птушка пы палёту.

**Віду не падаваць** (не паказываць). *Не выражаць знешне пачуццяў.* Канешня піріжываіць, хто б ны яе месьці ні піріжываў, ну віду ні пыдаець. Хто яе знаіць, што ўжо ў яе там ну душэ, а так віду ні пыказыіць. *Зак.* **Віду не падаць** (не паказаць). Ніхай як ні кіпіць адз злосьці, а віду ні разу ні пыдасьць. Па-мойму, ладна расьсердзілыся, толька што віду ні пыкызала.

**Віламі па вадзе пісана.** *Пра малаверагоднае.* Ета йшчэ вілымі пы вадзе пісына, што ён паедзіць у Ірысла́ў.

Пакуль вілымі пы вадзе пісына, як яму ўдáсца спыгнáць грошы.

**Віляць хвастом,** *неадабр.* 1. *Няшчыра паддобрывацца.* Так ужо віля́іць Васіль пірід Максімым хвастом, а ён і ў тэй бок ні глядзíць. 2. *Ухіляцца ад канкрэтнай размовы.* Віля́іць хвастом, каб харошыму быць і с адны́мі, і з другíмі. *Пачын.* **Завіляць хвастом.** 1. Зывіля́ў хвастом пірід Аўсеім, ажно глядзець прíтырна й тошна. 2. Раншы горла рызівáў, а як каснýлыся г дзелу, зывіля́ў хвастом. *Аднакр.* **Вільнуць хвастом.** 1. Пірід адным вільнець хвастом, пірід другім — во й усім харош. 2. Есьлі мелыч — ён гірой, а як што сур'ёзныя — вільнець хвастом. *Працягл.-фінальн.* **Навіляць** (давіляць) **хвастом.** 1. Ты тожа нывіля́іш хвастом, як Андрей пірід Мархвыю. Сьціпáніха дывіля́ла хвастом пірід стыршыною: аштрухувáў за вýтык ны пітнáццыць рублей. 2. Нывіля́лі хвастом, што чуць-чуць ні пысадзíлі разым с Клімым за ложныя пыкызáньні. Дывіляў хвастом, што і адна ні глядзíць, і другáя мыцірікáмі прыздрáвіла.

**Вінціка не хватаець,** *іран. Дурнаваты.* Есьлі віньціка ні хвытáіць, то маўчы́ і ня лезь зь ізыком. У цябе ў сымаго віньціка ні хвытáіць.

**Вісець** (дзяржацца) **на валаску** (валасінке). *Ледзь трымацца; канчаткова не вырашацца.* Што зы работа, кылі ён там вісíць ны выласкý. Тваедзялы ві́сяць ны выласке. Ні прітрáгывыйся, тут усё вісíць ны выласінкі. Пакуль работыіць, ну дзяржыцца ны выласкý, скызáлі, толька п'яный прíдзіш — вы́гынім. Тут столька ныграможджына і ўсё дзяржыцца ны выласíнкі. *Зак.* **Павіснуць на валаску** (валасінке). Ныдаела мне ета вызьня́, павíсла ўсё на выласке і ніяк ні рішáіцца ні туды ні сюды. Бувáіць, ны выласíнкі павíсьніць дзела і ніяк ня зьдзьвíніш.

**Вісець на шыі.** *Абцяжарваць.* А ты дýмыіш, мне нырáвіцца, што ён вісíць у Сярьгея на шыі, толька што ж ты зьдзелыіш, ня вы́гыніш жа за дзьвері.

**Вісець у воздухе.** 1. *Адчувацца.* Вот-вот хлы́ніць дождж, ён пряма вісíць у воздухі. Старэй Васіль усё, бувáла, гыварíў: глядзíця, жджы́ця, вайна пряма вісíць у воздухí. 2. *Затрымлівацца, не вырашацца.* Нейкія бумáжкі ні хвытáіць, і нічога ні магу дабіцца, так усё і вісíць

у воздухі. *Зак.* **Павіснуць у воздухе.** 1. Чуіш, што Ахрем гаворіць: дождж ужо ў воздухі павіс, а тым дожджом і ні пáхніць. 2. Як што павíсніць у воздухі, тады ня скора зь места зьдзьвíніцца. *Узмацн.* **Завіснуць у воздухе.** *Затрымацца, не вырашыцца.* Ніізьвесна чаго завісла ўсё ў воздухі, і цяперь мы ні знаім, калі што будзіць новыя.

**Віснуць на шыі.** 1. *Абцяжарваць.* У Дзім'яна вісьніць на шыі тоя жы́та, што летыся зы яго рысьпісáўся. 2. *асудж. Прыставаць навязліва і непрыстойна з каханнем.* Так жа дайжа нікрасіва на шыі віснуць, якей ён табе жаніх. *Зак.* **Павіснуць на шыі.** 1. Луччы ні зьвя́зывыйся, ні патпíсывыйся, павíсьніць увесь лес ны тваёй шыі і, хочыш, ішчэ плацíць бýдзіш. 2. Цяперь табе áмба. раз Тонька павíсла на шыі, íна ні аччэпіцца. *Узмацн.* **Завіснуць на шыі.** *Абцяжарыць.* Каб жа я знаў, што яно завíсьніць на шыі, нашто б мне што пыд аччот браць.

**Віць вяроўкі.** *Поўнасцю падпарадкоўваць сабе.* Марычка саўсім пыччынíла сабе Колю, пряма вярёўкі зь яго ўець. З Высіля табе вярёўкі віць ні ўдáсца.

**Во айдзе сабака зарыт** (зарыта). *Пра разгадку з'явы або паводзін чалавека.* Я ўсё думыў, чаго там такоя тваріцца, ажно во айдзе сыбáка зары́т. Ты гываріў, што ціріс свáдзьбу тыкая зьедзь пышлá, а тут во йдзе сыбака зары́та.

**Вожка пад хвост папала,** *пр., буд., іран. Пра натурыстасць.* Міцю ўжо вожка пат хвост пупáла, цяперя ня скора угамоніцца. Яму есьлі вожка пат хвост пупадзець, то ня дужа ўгаворіш.

**Вожыгам гарэць.** *Балець надзвычай пякуча.* Троя сýдык вожыгым гарела рана, места ні ныхадзíў, а спаць — мінуты вычáмі ня зьвёў. *Пачын.* **Вожыгам загарэцца.** Думыў нічога, усё прайшло, а тут як хвацíла, вожыгым зыгарелыся, дýмыў, кончуся к раньню.

**Вожыгам лезць,** *асудж. Дабівацца нахабна, настырна.* Чаго ён так вожыгым лезіць к етым Пуўлюковым, яны ж яму нічога ні далжны́. *Пачын.* **Вожыгам палезць.** Ні пулучыў нічога—і хырашо, ато пряма быў вожыгым палез, як усё яму пазволіна.

**Войстрый** (вострый, войсцер, восцер) **на язык.** *Дасціпны, з'едлівы.* Ну й войстрый жа Жэнька ны язык, у яго

ўсігда ныпярёд гатоў атвет. Вострыя ны язык: і сякець, і па́ліць любому-ка́жныму. Ціряшчу́р войсцір ны язык, каб трошку меншы, дык ба ня хужы. Ніхай восьцір ны язык, а Хрісьцінка як адбры́ла, дык і гываріць нечыга.

**Войстрый** (вострый) **нож.** *Непрыемна, пакутліва.* Длі мяне іціць к ім ды кла́ніцца, піріпра́шывыць—ета войстрый нож. Я знаю, яму хадзіць, дыбіва́цца сотык — вострый нож, ён луччы ат усяго атрякецца.

**Войстрый** (вострый) **язык.** *Пра дасціпнага, з'едлівага.* Ты паслу́хыў ба Хадоску, во айдзе войстрый язык, нікому спу́ску ні дасьць. Калі ціряшчу́р вострый язык, яго можна прітупіць нямножка.

**Вока** (зуб) **гарыць,** *адз., мн.; цяп., пр. Пра неадольнае жаданне мець.* Я віджу, на што ў цябе вока гаріць. А чаго ў цябе так зуб гаріць на тэй касьцюм, ён саўсім нікрасівый. У Гаўрілы на лешчынскыю ігру́шку даўно вока гарела. Ета ў Цімоха зуб гареў ны Пылагеіну хату. У цябе даўно вочы гыря́ць на тую буты́лычку, вазьмі ўжо, налі. А ра́зьві ня відна, на што ў цябе зубы гыря́ць. Доўга ў Кірілы вочы гарелі на тэя сасонкі. Чаму не, і ў мяне б зубы гарелі, каб еткій кусок атхваціць. *Зак.* **Вока** (зуб) **загарэлася** (узгарэлася, разгарэлася), *пр., буд.* У майго ўжо ны цілівізыр вочы зыгареліся. Відзіш, як яму лумяну́лыся, вочы узгареліся, нічым ня ўдзержыш. Ці ў цябе ны хыладзільнік вочы яшчэ ні рызгареліся? Чаго ў яе так зубы зыгареліся на ета тряп'ё, ці ў яе надзець нечыга, ці што? Узгареліся зубы ехыць у Мурмынск, нешта ныпісаў атту́ля Кірей. Я ўжо віджу, што ў цябе зубы рызгареліся ны сыпагі, ну бярі. Есьлі ў Кындрата вочы на што зыгаря́цца, яго ні адгаворіш. Увідзіць што новыя — січас вочы узгыря́цца: дывай купля́ць. Ён такей ніпыстыя́нный: сяньня ня хочыць, а ныза́ўтря зуб узгаріцца — паехылі тургува́ць. Пыдажджы́-ка, як у Мірінка зубы рызгыря́цца, тады пойдзіця.

**Вока ймець.** *Злавацца скрытна.* Калі йта што було між імі, а й січас яшчэ адзін ны днаго вока ймеюць. *Зак.* **Вока займець.** Якей жа мелышный чылавек, за нейкыю ношку саломы так вока займеў.

**Вокам не маргнуць** (не змаргнуць). *Не паказаць віду.* Ты толька верь таму прыйдзісьвету, ён збрешыць і вокым ні маргнець. Дыкыза́ла ж яму, што так ні було,— **айдзе**

ты яго пройміш, вокым ні змаргну́ў. **Вокым маргнуць** (змаргнуць). Усі ж відзюць, што ніпра́ўда, а ён сваё цьвярдзіць і худзь ба вокым маргну́ў. Усё сь сябе пірівярну́ла ны Аўдотку і, думыіш, вокым змаргну́ла?

**Вока набіваць.** *Напрактыкоўвацца.* Так ходзючы усё ўремя лі кароў, вока ныбіва́юць. *Зак.* **Вока набіць.** Пыглядзі́ць ны капу́ і пасьці́ пра́вільна ска́жыць, сколька сена,— вока набі́ў.

**Вока набіта.** *Пра вопытнага, спрактыкаванага.* У Ахрямёнка вока набі́та, ён толька гля́ніць і зразу ска́жыць, ці бу́дзіць у етыя каровы мылако.

**Вока свеціць,** *адз., мн.; цяп., пр., буд. Пра наяўнасць слабога зроку.* Раз вока сьвеціць, патрошку лі двыра́ будзіць топыць. Буду ціга́цца, пакуль вочы сьвецюць. Паку́ль вочы сьвяці́лі, на печы ні сядзеў, то тоя зьдзелыіць, то тоя. Есьлі вочы будуць сьвяціць, то нічога.

**Волас не ўпаў з галавы,** *пр., буд. Нічога не здарылася, не панёс страт.* Сколька людзі чаго пірінясьлі́, убы́ткыў пыцярьпелі, а ў іх волыс ні ўпаў з гылавы́. Глідзя́ць, каб волыс ні ўпаў з гылавы́, ато божа мой! Нябось ты, нябось зы сваю Аньку, у яе волыс ні ўпадзець з гылавы́.

**Вольная птушка** (пціца). *Незалежны, свабодны.* Кылі бізь дзяцей, то вольныя птушка, куды зыхацеў, туды й пыляцеў. Мне, канешня, нікуды ня зьдзьві́нуцца, а Клімчанок — вольныя пціца, яго нічога ні дзяржы́ць.

**Вольный казак.** *Незалежны, свабодны.* Пятрок — вольный кызак, за ім хвост ні ціга́іцца. Я стаў вольный кызак, пуці́ аткрыты на ўсе чаты́рі.

**Вот і ўвесь сказ** *(каму). Пра завяршэнне паведамлення.* Другей раз я ніку́ды ні пайду́, вот табе і ўвесь сказ. За́ўтря я еду, вот вам і ўвесь сказ.

**Вот табе й на** (раз). *Пра нечаканасць з'явы, падзеі.* Вот табе й на, пулучы́ў грошы,— што ж я цяперя дзелыць буду. Вот табе й раз, палу́чка ля́снула ды пасьледніга ру́бліка. Зваў жа, прасіў: прідзі абізацільна, а прішоў — вот табе й раз: луманулыся яму дужа ў тэя арехі.

**Воўк у авеччай шкуры.** *Пра таго, хто ўмее маскіраваць сваю жорсткую сутнасць.* Ні зна́іця вы яшчэ Мыкрідзёнка, ета ж воўк у авеччый шку́рі.

**Вочы адкрываюцца** (раскрываюцца). *Пра пачатак разумення.* Знаць і ў Цімоха вочы аткрыва́юцца на ўсю ету пятру́шку, ато ніяк ні пынімáў. Цяперя позна ўжо, што ў цябе вочы рыскрыва́юцца, нада було ра́ншы глядзець. *Зак.* **Вочы адкрыліся** (раскрыліся), *пр., буд.* Тру́дна ў цябе вочы аткры́ліся, мог ба і ра́ншы пыня́ць, у якоя балота цябе піха́юць. Ці раскры́ліся у вас вочы, ці пынялí вы Кірілывы мыхіна́цыі? Ніхай січас ня хочыць пыніма́ць, а калі ж небудзь вочы аткры́юцца. Ныўряд, ці раскры́юцца калі вочы ў Антона, ён жа нікому і нічому ня веріць. Як вочы раскрыюцца, то пойміць, што к чаму.

**Вочы бегаюць** (скачуць), *цяп., пр., буд. Пра трывожны стан, непакой.* Ізыком трепіць, трепіць абы-што, а вочы бегыюць, ні на кога ні глядзíць. Нешта, мыя дыражэнькыя, ты пря́ма ні глядзíш, вочы ў цябе ціряшчу́р ска́чуць. Ці прімеціў, як у Валодзькі вочы бегылі, калі ныстáўніца зыйшлá. Каб ты толька відзіў, як у яго вочы скыкалі. Ніхай-ка глянуць на еткыя быгаства, як у іх вочы будуць скыка́ць. *Пачын.* **Вочы забегалі** (заскакалі), *пр., буд.* Відзіў, Ганна зайшла, дык як у Міці вочы забегылі. Сеў лі выкна, і вочы зразу забегылі пы хаці, так і глядзіць, айдзе што паложына. А разьві ты ні знаіш, аччаго ў яе вочы зыскыка́лі? Парог ні пасьпеў пірíступíць, а вочы ўжо забегылі пу вугла́х. Ты так, нібытта прыгываріся пры цялёнка, увíдзіш, як у Пракопа вочы забегыюць. Схува́йся, а я скажу, цябе німа, во зыска́чуць у іх вочы.

**Вочы** (бельмы) **залíваць,** *груб. Напіваццa.* Толька ты мне ня кінь вочы зыліва́ць, я цябе абразу́ю. Ці ду́мыіш ты пірíста́ць бельмы зыліва́ць? *Зак.* **Вочы** (бельмы) **заліць**. Як уста́ў, так і глядзíць, каб айдзе залíць вочы. Бельмы зальлець, а тады су́ніцца айдзе пупа́ла і выля́іцца, сыбакі ліжуць. *Множн.* **Вочы** (бельмы) **пазаліць** (пазаліваць). Айдзе ж яны што будуць помніць, кылі вочы пызылілí гарелішчыю. Пызыліва́лі вочы, толька і глідзя́ць, каб айдзе напíцца. Пызыліва́юць бельмы ды пацері сызна́нія, а тады ныза́ўтря голывы ў іх быля́ць. *Працягл.-фінальн.* **Вочы** (бельмы) **назаліваць** (дазаліваць). Ныэыліва́іш вочы, будзіш калі поўзьць, і на́йдуць у сьнягу калелыга. Дызыліва́лі вочы, ніхай цяперь пысідзя́ць, аду́мыюцца. Нызыліва́ў Дук бельмы, ну, туды яму й дарога. Дызыліва́іш бельмы, што я аць цябе саўсім атрякýся.

**Вочы** (бельмы) **пралупіць**, *груб. Прачнуцца адразу*. Ці пралу́піш ты калі вочы? Прулупі́ў ба бельмы, ніяк ня вы́сьпіцца, ночы яму мала. *Незак., рэдкаўж.* **Вочы** (бельмы) **пралупліваць** (пралупляць). Ня хочыць вачэй пралу́плівыць, піряверніцца з боку на бок і храпі́ць. Будзі́, даўно яму нада вочы прулупля́ць. Ці ён там зьбіра́іцца бельмы пралу́плівыць? Ці ні пыра́ ўжо бельмы прулупля́ць?

**Вочы б не відзелі** (не глядзелі). *Пра нежаданне бачыць, знаходзіцца поблізу або разам.* Настолька абея спрі́кліліся і так апрацівілі, што вочы б мае ня відзілі іх. За што ня возьміцца, ка́жыцца, рукі ні туды слу́жуць, вочы б ні глядзелі ны такую работу.

**Вочы зліпаюцца,** *цяп., пр., буд. Пра жаданне спаць.* Я ўжо сядзець ні магу, вочы зьліпа́юцца — і хацелыся б руча́ічку дыпря́сьць. Што я там мог нычыта́ць, есьлі вочы зьліпа́ліся. Ніхай вочы будуць зьліпа́цца, а сядзі́ць, пакуль усе ні рызайду́цца. *Зак.* **Вочы пазліпаліся,** *пр., буд.* У нас вочы пызьліпа́ліся, сядзеўшы там, і пайці́ць було неік няўдобна. Што ты будзіш сядзець, вочы пызьліпа́юцца, толька носым клюва́ць будзіш.

**Вочы калоць** (пароць). 1. *Перашкаджаць.* І скосюць, і змалоцюць, і салому прівязу́ць к варотым — і ўсё ёй вочы колюць. Ці табе вочы поріць мой пінжак, вісіць і ня трогыіць жа цябе. 2. *Сарамаціць, папікаючы, напамінаючы.* Ні няволя Люські зь ім жыць, каб ны кажным шагу вочы калолі. *Узмацн.* **Вочы пакалоць** (папароць). 1. Пыкалола ўжо табе нявестка вочы, пыжыві́ во адна, пызна́іш, якей мёд адной сядзець. Ух, уредзіны людзі, вочы ім усё маё пыпарола. 2. Пыкалолі яму тады вочы Сондычкыю, ны ка́жным шагу пымі́на́лі. Ну ўсё, узна́лі, цяперь ужо вочы папорюць,— хто нада, хто й ні нада. *Законч.* **Вочы адкалоць** (адпароць). 1. Ну аткалолі ж вочы, паехылі, чым жа ты яшчэ нідавольна? Вочы табе атпароў етый пляцень, дужа мі́ша́ў. 2. Вочы аткалола, забы́лыся, ато ўсё, бува́ла, праходу ні даець Зьмітраку. Атпаролі яму вочы Машкыю, пакуля іна ня зьехыла некуды. *Працягл.* **Вочы накалоць** (напароць). 1. Дужа ж вам ета капёшка вочы ныкалола, усё ва́дзіла. Зна́ім, ныпаролі вам вочы нашы паплецінкі, прі́бра́лі, ні глядзі́ця. 2. Так ныкалолі вочы — с хаты быя́ўся на ву́ліцу пыкыза́цца. Раз Хадосычкіны пытхвацілі ны язык, то напорюць вочы

большы некуды. *Працягл.-фінальн.* **Вочы дакалоць** (дапароць). 1. Дыкалола яму вочы маё пылаценца: харошыя трýбычка была, дык ужо німа. І твае грáбількі дапорюць вочы яму — абізáцільна пыцягніць і атапрецца: ня відзіў і дýхым ня чуў. 2. Мне даколіць вочы: мыцірікоў нукручý, і пойдзіць. Ну есьлі ўжо схвачý кылячы́ну, ну дапорюць вочы,— я ім дзетычка ці рыўня́ ікáя.

**Вочы мазоліць,** *неадабр. Надакучаць сваёй прысутнасцю.* Прівылачэцца і бýдзіць вочы мазоліць: слýхый ты яе лухтý. Ні мазоль ты мне вачэй, ідзі, куды сыбрáўся. *Зак.* **Вочы намазоліць**. Нымазолілі яны мне вочы, усё тырчáць піряд вокнымі. *Непаўн.* **Вочы памазоліць**. Пару нядзель пымазоліў вочы дый паехыў. *Працягл.-фінальн.* **Вочы дамазоліць**. Яны мне дымазолюць вочы, што я нядоўга дýмуючы путурю іх з двыра пірíц сабою.

**Вочы на лоб** (нá лаб) **лезуць,** *цяп., пр. Пра вялікае здзіўленне.* У каго можа й вочы на лоб лезуць, а мне дзіўныга нічога няма. Я віджу, у цябе вочы нá лыб лезуць. У мяне вочы на лоб ня лезьлі. Дужа ўжо, дужа ўсё с аньціресым рызглідáлі, што вочы нá лыб лезьлі. *Зак.* **Вочы на лоб** (нá лаб) **палезлі,** *пр., буд.* Ніхай ба ты пачуў еткыя, і ў цябе б вочы на лоб палезьлі. Як скызáлі Андрею пры Маўру, у яго й вочы нá лыб палезьлі. Ты паслýхый, што пры Крівілёў рыскáзыюць, у цябе вочы на лоб палезуць. Ат етых новысьцій вочы нá лыб палезуць.

**Вочы на мокрым месце,** *неадабр. Пра плаксу.* У Лёксы ўсігда вочы на мокрым месьці, чуць што, й захны́кыла.

**Вочы пазычаць** [у сабакі], *асудж. Рабіць, паступаць бессаромна.* Я ж ні пайду вочы пызычáць, каб дурноя дзела с табою дзелыць. Калі ты хочыш вочы пызычáць у сыбáкі, то йдзі, цябе ніхто ні дзяржы́ць. *Зак.* **Вочы пазычыць** [у сабакі]. Перш чым іціць туды за сеным, нада було вочы пазычыць. Ета ж нада вочы пазычыць у сыбакі, каб пысярёд белыга дня іціць у чужэй гарод.

**Вочы прадаваць,** *асудж. Быць гледачом без патрэбы.* Вун і Аксеньня тарчы́ць тут бязь дзела, вочы прыдаець.

**Вочы разбягаюцца,** *цяп., пр. Пра разгубленасць ад мноства ўражанняў.* У Матруны аж вочы рызьбігáюцца ац свáцьціныга быгáства. Там було столька іньціресныга зразу, што вочы рызьбігáліся ува ўсіх. *Зак.* **Вочы разбегліся,** *пр., буд.* Як глянулі мы, сколька там усяго ўсякыга

ляжыць, у нас і вочы разьбегліся. Каб і ні хацеў, дык вочы рызьбягýцца, як там усяго ныкла́джына. *Узмацн.* **Вочы паразбегліся,** *пр., буд.* Ніхай хто, а мы ж ві́дзілі, як людзі жывуць, ну тут і ў нас вочы пыразьбегліся. Толька гля́ньця, вочы пырызьбягýцца.

**Вочы рэзаць.** *Рабіць непрыемнае ўражанне колерам, выглядам.* Пашы́та нічога, ну цьвет вочы режыць. Ай, тоя быгаства разьвесілі сваё, яно вочы режыць, каб яно сваім потым було нажы́та.

**Вочы ўзнімаць** (ускідываць). *Прачынацца адразу пры неглыбокім сне; глядзець.* Я ляжу, сагрелыся, ня хочыцца і вочы ўзьнімáць. Я туўханý — гля́ніць, і другей раз, і трецьцій,— вочы ўські́дыіць, а ўстывáць ня хочыць. *Зак.* **Вочы ўзняць** (ускінуць). Путуўхáла, ён вочы ўськінуў, пыглядзеў, я атыйшлá — ён узноў сьпіць. Толька я пыдыйшлá, скызáла ціхінька: «Устывай» — зразу, тую мінуту вочы ўськінуў.

**Вош за каўнер запаўзла,** *іран., пр., буд. Пра зазнайства ад некаторага прыбытку.* Відзіш, Стыльмашонку вош зы каўнерь зыпыўзлá, праходзіць і здрáстуйця ні скáжыць. Ніхай трошку вош зыпаўзець зы каўнерь, к яму тады бяс хвігі ні пытыкáйся.

**Вош за каўняром шаволіцца** (шавеліцца, капошыцца), *гумар. Пра зазнайства ад некаторага прыбытку; пра наяўнасць прыбытку.* Зьмітрок поршы пыднімáіць, вош у яго зы кыўнярём шаволіцца. Відзіш, як рысхраньціўся, вош зы кыўнярём шавеліцца. Пы ўсяму відна, што ў цябе капошыцца вош зы кыўнярём. *Зак.* **Вош за каўняром зашавалілася** (зашавялілася, закапашылася), *пр., буд.* Ну, у Кузьмы вош зы кыўнярём зышывалі́лыся. Во, і ў цябе тыкі вош зы кыўнярём зышывялілыся. Цяпер ён пойдзіць жыць, вош зы кыўнярём зыкыпашы́лыся. Ніхай трошку вош зы кыўнярём зышавеліцца, гоныру будзіць ны акрýгу. Троху вош зы кыўнярём зыкапошыцца, тады хваліцца, як ён самый первый тýмыр ува ўсёй акрýгі. *Аднакр.* **Вош за каўняром шавальнулася** (шавяльнулася), *пр., буд.* У Стася вош зы кыўнярём шывальнýлыся, гогылім ходзіць. Бувáіць, вош зы кыўнярём шывальнецца, дык спажы́ць ня ўмеіць, пруглумі́ць. Як трошку вош зы кыўнярём шывяльнецца, заробіць скулíндý, тады ён первый быгач. *Непайн.* **Вош за каўняром пашавалілася** (пашавялілася), *пр., буд.* Ты ж відзіш, вош зы кыўнярём пы-

шывялілыся, палу́чку пулучы́ў. Якоя ён заробіць, так, вош зы кыўнярём пышаволіцца, дык пу́сьціць зы два дні на вецір.

**Вуглы аціраць**, *неадабр. Бяздзейнічаць, знаходзіцца без мэты.* Хва́ціць вуглы́ аціра́ць, шу́льля ста́віць нада. Аціра́юць вуглы вічыра́мі, во і ўсё іх зыня́ція. *Непаўн.* **Вуглы пааціраць**. Троху пыаціра́лі вуглы́ і хва́ціць, пойдзім з за́ўтрішніга дня касіць. *Працягл.-фінальн.* **Вуглы нааціраць** (дааціраць). Ныаціра́іця вы мне вуглы, я вас жыва ачшы́ю, і зыня́ція на́йдзіця. Дыаціра́лі вуглы летым, што с пыўзімы́ сена езьдзілі́ купляць.

**Вузкае** (слабае) **места.** *Ненадзейны бок у якой-небудзь справе.* У нашый бріга́дзі ву́зкыя места вы́пріж: мала хумутоў вызавы́х, сядзёлкі б нада, і вожкі, і гу́жыкі. Тут сла́быя места найці́ць, то нада паду́мыць ды паду́мыць. Наша слабыя места — зямлі многа, а рук ні хвытаіць, пасеіць сяк-так пасеім, а ўбіраць некыму.

**Вума не прыкласць** (не прылажыць). *Немагчыма зразумець, асэнсаваць.* Вума ні пріклá́сьць, айдзе серп мог дзецца, усё ўсюдых пірійска́ў — і німа. Вума ні пріклад́у, што тут і думыць. Як ён мог пірібра́цца ціріс такую за́гырыдзь, вума ні прілажу́.

**Вума палата,** *жарт., іран. Пра вялікі розум чалавека.* Ла́дна, я ўжо дураком прыжыву́, ніхай у твайго зяця вума́ пыла́та. У яго вума пылата, а ў цябе друга́я.

**Вум за розум заходзіць.** *Пра страту магчымасці правільна, разумна разважаць.* А-а, што табе гываріць, кылі ў цябе вум за розум заходзіць. *Зак.* **Вум за розум зайшоў,** *пр., буд.* Ці ў вас вум за розум зайшоў, што ні глідзіцё, куды едзіця. У Лісея есьлі вум за розум зойдзіць, толку зь ім ні даб'есься.

**Вума** (вумом) **трогацца.** *Вар'яцець.* Ета ўсё було ны маіх вычáх, я ўсё чы́сьцінька відзіла, як ён вума́ трогыўся. Ці ты вумом трогыісься, ці дурь ікая пыцскачы́ла, што места сабе ні находзіш. *Зак.* **Вума** (вумом) **тронуцца.** Вума тронуцца нада еткыю дурь сыпыса́ць. Усё дно як вумом тронуўся, што с табою пыгываріць, як ш чылавекым, нільзя. *Множн.* **Вума** (вумом) **патрогацца.** Ці яны тама вума патрогыліся, што дайжа і ня ду́мыюць пыдніма́цца. А ніхай яны вумом патрогыюцца, як мне ныдаела угыва́рівыць іх і ўвішча́ць.

**Вуму** (вуму-розуму) **непасціжыма.** *Незразумела, няясна.* Вуму́ ніпысьціжы́ма, што ў той хаці твaріцца. Вуму-розуму ніпысьціжы́ма, аткуля ў іх столька грошы, усё купляюць і купляюць, што пупадзецца пад ру́кі.

**Вун бог, а вун парог.** *Рашучае патрабаванне пакінуць хату.* Вун бог, а вун парог, і нечыга мне тут яшчэ серца ат'іда́ць.

**Вуха рэзаць.** *Быць непрыемным для слыху.* Выключай сваё дрынкыла, толька вуха режыць. Зывялі не́шта, ні рызьбярі-бярі пойміш што, ажно вушы режыць. *Аднакр.* **Вуха разануць.** Яму ета вуха різанула, ён ажно скрівіўся. Так усім ніпрія́тна вушы різану́ла, а яму худзь ба што, кры́іць сваё.

**Вучыцца вуму-розуму.** *Сталець, набываць вопыт; засвойваць.* Вучыся ў людзей вуму-розуму, раз матка родныя табе слова скыза́ць ні ўла́дзіць. *Зак.* **Наўчыцца вуму-розуму.** Айдзе ён вуму-розуму на́ўчыцца, якей быў, такей і аста́ніцца. *Непаўн.* **Паўчыцца вуму-розуму.** Едзь, можа хуць трошку вуму-розуму паву́чысься.

**Вучыць вуму-розуму.** *Даваць разумныя парады, накіроўваць дзейнасць.* Вучу ўжо, вучу сваіх вуму-розуму, дык ці яны што слу́хыюць: ай, ладна, цётка — і пашлі́. *Зак.* **Наўчыць вуму-розуму.** Я ні наўчы́ла — ты яго наўчы́ вуму-розуму. *Непаўн.* **Паўчыць вуму розуму.** Есьлі я паўчу вуму-розуму, доўга будзіш помніць.

**Вушкі на макушке.** *Пра насцярожанага, уважлівага.* У Хнычка́ ву́шкі ны маку́шкі, відзіш, усё слу́хыіць.

**Вушы б не чулі.** *Пра нежаданне і непрыемнасць слухаць, ведаць тое, што стала вядома або што сказана.* Вушы б ня чулі, як яны пычынаюць рызгыва́рівыць. І ву́шы б ня чулі, і вочы б ня відзілі, настолька іна спасты́ліла. Ня тоя, дык другоя, абізацільна прічыну нейкыю найдуць, грызуцца,— вушы б ня чулі етыга.

**Вушы вянуць,** *цяп., пр. Сорамна да агіднасці (звыч. слухаць).* Вушы вянуць слухыць такоя, ня то што гываріць. Мы там сядзелі, дык вушы вялі, некуды було вачэй дзіва́ць ац стыда. *Зак.* **Вушы павянуць** (звянуць), *буд., пр.* Як ля́пнуў такоя, ува ўсіх і вушы пывялі. У ўзрослых вушы пывянуць, а ня то дзіцям слухыць. Я пріві́кла, мне нічога, а ў Пітрыка дык і вушы зьвя́лі.

**Вушы закласць** (залажыць), *звыч. неадабр. Пра нежаданне слухаць і разумець.* Як што просіш, у яго вушы зыкладзець, а скажы «На!» — січас пачуіць. Вушы ім зылажыла, ня чуюць яны,— прітвыряюцца як малінькія дзеці. *Незак., рэдкаўж.* **Вушы закладаць.** Ці даўно табе стала вушы зыклыда́ць? *Узмацн.* **Вушы пазакласць** (пазакладаць, пазалажыць). Нягож, вушы ім пызыкла́ла — нарошня айдзе-небудзь сідзя́ць у кустах ды сьмяю́цца. Што ім там, вушы пызыклыда́ла, што ірва́цца нада сызыва́ць іх. Ці вам вушы пызылажы́ла, што ніяк ні дызавесься.

**Вушы пратрубіць,** *неадабр. Надакучыць размовамі, паўтарэннем аднаго і таго.* Прутрубі́ла іна мне вушы сваі́мі свыта́мі: усё ў іх дужа хырашо і самі яны зылатэя.

**Вушы развешываць,** *іран. З даверам слухаць хлусню.* Ні нада було вушы разьвешывыць, тут глядзі́ ды глядзі́, вока ні ш чаго ні спуска́й. *Зак.* **Вушы развесіць.** Абоя вушы разьвесілі, стыяць і слухыюць лухту ніпыцьсіва́ную. *Усеаг.* **Вушы паразвесіць** (паразвешываць). Пыразьвесюць вушы і будуць сядзець, пыдда́кывыць. Чаго вы там вушы пыразьвешывылі, ці ві́дзіця, што дождж вот-вот хлы́ніць. *Працягл.-фінальн.* **Вушы наразвешываць** (даразвешываць). Ніхай толька завеюць быракі́, тады ты ў мяне вушы ныразьвешывыіш. Дыразьвешывыў вушы, нехта атхвацí́ў шляю́, цяперя спусьці воз з гары.

**Выбівацца з каляі** (сядла). *Выхадзіць з нармальнага, звычайнага стану.* Ста́ніць выбіва́цца с кыляі́, да́льшы — большы, да́льшы — большы, і толку ня жджы. Неік ідзець усё біс пыря́дку, я тут проста пыча́ў выбіва́цца сь сідла. *Зак.* **Выбіцца з каляі** (сядла). Вы́біўся с кыляі́ посьлі етых гасьцей, ніяк за дзела ні вазьму́ся. Сь сідла́ як вы́б'ісься, тады дужа цяжола у што-небудзь уця́гывыцца. *Множн.* **Павыбіцца** (павыбівацца) **з каляі** (сядла). Павы́біліся за лета с кыляі́, ня хочыцца брацца ні за што. Нада каб пыря́дык быў, а біс пыря́дку павы́б'юцца сь сідла, і ніякыга толку ня будзіць. Нядзелю так ужо работылі, ні зна́лі, калі ноч, калі дзень, пывыбіва́ліся с кыляі́, скрысеньня бяс просыпу спалі. Бува́ла, пывыбіва́імся сь сідла́, дзень лі мылацілкі, на́ныч у лес, ні ды вічарі́нык дзелылыся.

**Выбівацца з сіл** (сілы, духу, у пень). *Празмерна стамляцца.* Нашто вам так выбіва́цца сь сіл, ці вам боль-

шы ўсіх нада. Выбіва́іцца сь сі́лы ка́жнінькій дзень, ніхай ба хуць у скрысеньня дух пірівіла́. Пірістáнь ты выбіва́цца з ду́ху, усяго ўсё роўна ні пірядзелыіш. Хва́ціць на іх выбіва́цца ў пень, ніхай самі ду́мыюць, як жыць. *Зак.* **Выбіцца з сіл** (сілы, духу, у пень). Так вы́біўся сь сіл за́ дзінь, толька б пірякі́нуцца ны мінутку ды пыліжа́ць. Настолька вы́білыся сь сілы, ні есьць, ні піць ні хачу, лігла́ б і ліжа́ла бізь дзьвіжэнія. Вы́б'ісься з духу, прі́дзіш двору, а ў хаці нічога ня дзелына, і тут хвыта́й ротым і носым. Зыхадзі́ліся саўсі́м, доўга блудзі́лі, вы́біліся ў пень. *Множн.* **Павыбіцца** (павыбівацца) **з сіл** (сілы, духу, у пень). Павы́біліся сь сіл, селі, ні рукою, ні нагою ні шывяльну́ць. Павы́б'імся сь сі́лы, хто нас тады глядзець будзі́ць. З духу павы́біцца нядоўга, а новыга здароўя тады ніхто ні ўста́віць. Бува́ла, павы́б'імся ў пень ны ля́дзі, дык там на хворысьці і нучува́ць пыаста́німся. Настолька пывыбіва́ліся сь сіл, што чуць даклы́пылі. Такея пні вы́вірнуць — пывыбіва́юцца сь сі́лы. Каб пывыбіва́ліся з ду́ху, як я, дык ба і ны вічарінкі забы́лі. Ся́дзім, пірідыхнём міну́тку, ішчэ пасьпеіш пывыбіва́цца ў пень. *Працягл.-фінальн.* **Навыбівацца** (давыбівацца) **з сіл** (сілы, духу, у пень). Нывыбіва́ліся мы сь сіл за свой век, хваціць з нас. Нывыбіва́ліся з духу і адзін раз, і другей, надоўга запомніцца. Нывыбіва́ўся ў пень, цяперя кыча́іцца як гылавешка. Ніхто ж ня споріць, што зьдзелыць нада, алі ж дывыбіва́ісься сь сілы, што бульбіну ні судоліш вы́хвыціць зь зямлі. Яны там з духу дывыбіва́юцца, толька жывэя прікоцюцца. Сілы ў яго ніскольк ні ста́лыся, дывыбіва́ўся ў пень.

**Выбівацца на дарогу.** *З цяжкасцю рабіцца самастойным.* Настойлівый хлопіц, сымастыя́цільна выбіва́іцца ны дарогу. Хвенькі нялёхка було выбіва́цца ны дарогу, помышчы нія́кія і ніатку́ль іна ня ві́дзіла. *Зак.* **Выбіцца на дарогу.** Вот выбіўся ны дарогу і кусок хлеба ўсігда́ імеіць. Айдзе гультаю вы́біцца ны дарогу, будзіць так, пыпіхачом служы́ць вечна. *Множн.* **Павыбівацца** (павыбіцца) **на дарогу.** Зы ста́ршых я ні біспакоюся, яны пывыбіва́ліся ны дарогу, каб скарей меншыга пудучы́ць. Паўлывы хлопцы хуць с трудом, ну павы́біліся ны дарогу.

**Выбівацца ў людзі.** *З цяжкасцю дабівацца матэрыяльнага дастатку, павагі.* Пархвен усё ірваў жы́льля ны па́ню, выбіва́ўся ў лю́дзі,— так і памёр у бытрыках. Табе б ужо

нада выбіва́цца ў лю́дзі, можыш заробіць ня меншы другіх. *Зак.* **Выбіцца ў людзі.** Сыны сталі пымыга́ць, дык вы́біўся ў людзі, а ра́ншы жыў неік ні па-лю́дзку. Ня ду́мыю я, каб Піряпечкін выбіўся ў людзі: аторва ні с пасьледніх. *Множн.* **Павыбівацца** (павыбіцца) **ў людзі.** А во глядзі, пывыбіва́ліся ў людзі, ніхай сабе мурзапонымі ўсё хадзілі. Бацьку ніхто зы чылавека ня вёў, а сыны ў якея людзі павы́біліся!

**Выбіваць** (выганяць) **дур** (дуры, дурыкі) [з галавы]. *Сунімаць строга, патрабавальна.* Вот есьлі я стану выбіваць дурь, тады скарей абразумі́сься. Ой, на́да з вас выбіва́ць дуры́, ой, на́да. Сь цябе ўжо выбіва́лі ду́рікі, ну, відна, мала. Як ні выгыня́ю дурь, нічога ні магу зьдзелыць. Выгыня́й-ка ты зь іх дуры, лу́ччы будзіць. А ты на іх богу ні малі́ся, а выбіва́й ду́рікі з гылавы, тады пыцішэюць. Я дужа ні ца́цкыюся, выгыняю дуры з гылавы. Сямён бы́йстра выгыня́ў ду́рікі з гылавы. *Зак.* **Выбіць** (выгнаць) **дур** (дуры, дурыкі) [з галавы]. Калі цябе ні абрузумі́лі, то я быйстра вы́б'ю дурь з гылавы, мі́гым шаўковым ста́ніш. Пастой, бацьку рыскажу́, ён сь цябе вы́біць ду́рікі. Пыдажджы́, хто-небудзь на́йдзіцца, вы́гыніць дуры і сь цябе. Брат пріехыў, дык троху вы́гныў ду́рікі. Калі Антон ня вы́біў дуры́ з гылавы́, я мымінта́льна выб'ю, і агляну́цца ні пасьпеіш. Няўжэлі ніхто ні на́йдзіцца вы́гнуць табе дурь з гылавы. *Узмацн.* **Павыбіваць** (павыганяць) **дур** (дуры, дурыкі) [з галавы]. Скора пріедзіць Аксён, ён пывыбіва́іць з вас дурь. Ну дыбяру́ся, пывыбіва́ю дуры́. Есьлі хто ні пывыгыня́іць дурь, толку з вас ні палу́чыцца. Каб хто найшоўся, пывыгыня́ў ду́рікі, во мыладзец ба быў. Няўжэлі ніхто дурь з гылавы ні пывыбіва́іць вам? Ім даўно нада було пывыгыня́ць дуры́ з гылавы́. Як ду́рікі ім з гылавы́ пывыгыня́лі, тады яны сталі трошку ны дзяцей пахожы.

**Выбіць душу** (дух). *Вельмі моцна пабіць.* Выбілі ш чылавека душу ні за што ні зы якыя. Пыдажджы́, пыдажджы́, яны сь цябе выб'юць дух, кылі ты дужа язы́шлівый.

**Вывадзіць на дарогу.** *Рабіць самастойным.* А што ты зьдзелыіш, нада вывадзі́ць ны дарогу, ня кініш жа зы пакі́дзішча, свыя́ кроў. *Зак.* **Вывесць на дарогу.** Глядзець за ім ні було каму, так ба й скруці́ўся, блыгыдыря што дзя́дзька вы́віў ны дарогу. *Узмацн.* **Павывадзіць** (па-

вывесць) **на дарогу.** А што, я ху́жшыя ма́тка, чым другея, ні сумею пывывадзі́ць ны дарогу? Яны сваіх павы́відуць ны дарогу, так ня кінуць. Хто б вас павывіў у людзі, каб ня цётка, іна ж вас сныбжала столька ўремя.

**Вывадзіць з сябе.** *Даводзіць да страшэннай злосці.* Ну, дыбяру́ся, дык дыбяру́ся, пірістá́ніш ты мяне вывадзі́ць сь сябе. *Зак.* **Вывесць з сябе.** Яго вы́вісьць сь сябе адна мінута, ні так хату піряйдзі — і зыкіпеў. *Множн., рэдкаўж.* **Павывадзіць з сябе.** Стыхван з Толікым дужа ціръпялі́выя, толька пывыводзіця вы і іх сь сябе. *Працягл.-фінальн.* **Навывадзіць** (давывадзіць) **з сябе.** Еслі хвачу́ лума́чыну, буду перць ды быльшыка́ пірiц сабою, нывыводзіш ты сь сябе. Дывыводзюць яны Цішку сь сябе, большы ба́лывыцца ня ўзду́мыюць.

**Вывадзіць на чыстую ваду.** *Выкрываць.* Што ты будзіш мяне вывадзі́ць на чы́стую ваду́, я ні ў чом ні прывіні́лыся, ты вун вы́відзі свайго дзя́дзічку. *Зак.* **Вывесць на чыстую ваду.** У нас ба ён доўга ні вірідува́ў, мы б скора вы́вілі яго на чы́стую ваду. *Множн.* **Павывадзіць** (павывесць) **на чыстую ваду.** Нейкій з гылавою рівізор пупа́ўся, як ні круці́лі, ні муці́лі, а пывывадзі́ў на чы́стыю ваду́. Воць цяперя вас павы́відуць на чы́стую ваду, хва́ціць вам адурюва́ць. *Працягл.-фінальн.* **Навывадзіць** (давывадзіць) **на чыстую ваду.** Нывыводзіш ты на чыстую ваду, вываджэньнік такей. Дывыводзіць ён на чы́стыю ваду і ны гря́зныю, як джву́хніць хто з-зу вугла́, і ўся выда́ будзіць.

**Вывадзіць у людзі.** 1. *Дапамагаць у набыцці незалежнасці.* А ты ду́мыў, што цесьць ста́ніць цябе вывадзі́ць у лю́дзі — не, сам зароб. 2. *Дапамагаць у набыцці прыстойных звычак.* Каго ты хочыш вывадзі́ць у людзі? — ён па дзьве нядзелі ня мы́іцца і слова біз мыцірікá ні ска́жыць. *Зак.* **Вывесць у людзі.** 1. Вы́вісьць яго б ніхто ў людзі ня вы́віў, каб сам за розум ні ўзяўся. 2. Я зы цябе вазьму́ся, дык вы́віду ў людзі, ста́ніш ны чылавека пахож. *Множн.* **Павывадзіць** (павывесць) **у людзі.** *Дапамагчы ў набыцці незалежнасці.* А вы ду́мылі, вас нехта пывывадзіць у людзі? — самі гыда́йця, як жыць. Як я іх павы́віду у людзі, самі ніхай выходзюць. *Працягл.-фінальн.* **Навывадзіць** (давывадзіць) **у людзі.** *Пра дапамогу ў набыцці незалежнасці.* І ты палу́чыш у Мацьвея такоя высьпіта́нія, як ён сваіх пляменьнікыў нывывадзі́ў у людзі.

Ён дывыводзіць у людзі, што на́ўчыць піць, як у сымаго бельмы ні прысыха́юць.

**Выварачывацца назнанку.** *Адкрывацца да канца.* Вывыра́чывыцца нызна́нку пірiт табою я ні ста́ну, во скыза́ла — і ўсё, хочыш верь, хочыш ня верь. *Зак.* **Вывернуцца назнанку.** Гатоў нызна́нку вы́вірнуцца пірід Ганныю, у зяці́ ж цэліцца. *Узмацн.* **Павыварачывацца назнанку.** Ці яны ж табе нызна́нку пывывыра́чыюцца, па-мойму рыскыза́лі, што большы ні нада.

**Выдаваць з галавою.** *Па-здрадніцку расказваць пра ўсё.* Прівы́к ты выдыва́ць з гылавою любога-кажныга. *Зак.* **Выдаць з галавою.** Во пыглядзі́ш, вы́дыдуць цябе з гылавою тэя хлюсты. *Множн.* **Павыдаваць** (павыдаць) **з галавою.** Ма́лыя большых пывыдыва́лі з гылавою, усё чыста рыскыза́лі. Ну што ж ні нарошня,— як там ні пулучы́лыся, а павы́дылі іх з гылавою.

**Выдаваць сябе.** *Выяўляць сваю асобу.* Ты ні выдыва́й сябе, ніхай яны што хочуць вярзу́ць, а ты маўчы. *Зак.* **Выдаць сябе.** Пыт крыва́ць схува́ўся, а тады чыхі́-чыхі́-чыхі́ і вы́дыў сябе. Толька увíдзіла Яшку і зразу вы́дыла сябе. *Множн.* **Павыдаваць** (павыдаць) **сябе.** Яны нічога ня ўмеюць скрыць, зразу пывыдаю́ць сябе. Дыгывары́ліся муўча́ць, а тады адна хіхі́кніць, другая пы́рсьніць і павы́дылі сябе.

**Выдаваць сябе з галавою.** *Поўнасцю выяўляць сваю асобу.* Ты ж выдаеш сябе з гылавою, як толька Ганнычка заходзіць. *Зак.* **Выдаць сябе з галавою.** Ай, як жа яны вы́дылі сябе з гылавою, ніхто б ні падумыў, што ста́нуць пацслу́хывыць. Як толька зыйшла Прося, ён рыскрасьнеўся, места ні находзіць, вы́дыў сябе з гылавою. *Множн.* **Павыдаваць** (павыдаць) **сябе з галавою.** Ай, дуракі ж вы, дуракі, пывыдыва́лі сябе з гылавою. Яны сябе павы́дыдуць з гылавою, а тады айкыюць: нашто ж я так кызаў.

**Выдзелываць крындзялі,** *іран. Ісці зігзагамі* (*пра п'янага*). Відзіш, у абні́мку выдзелывыюць кріньдзялі́, нейдзі пыдвалі́ла, нылiза́ліся. *Працягл.-фінальн.* **Навыдзелываць** (давыдзелываць) **крындзялі.** Нывыдзелывыюць кріньдзялі́, што су́нуцца айдзе і пыкалеюць. Дывыдзелывылі кріньдзялі — пупа́лі п'яныя пыд машыну, у бальніцу зывязьлі́.

**Выдзержываць хракцір.** *Праяўляць стойкасць.* Кызаў, што нізашто ня ўсту́піць, будзіць выдзержывыць хра́кцір. *Зак.* **Выдзержаць хракцір.** Аддай ты ім тэя капейкі, ніхай ні жвя́нькыюць, ай ты рішы́ў вы́дзіржыць хракцір? *Працягл.-фінальн.* **Навыдзержываць** (давыдзержываць) **хракцір.** Стась нывыдзержывыў хракцір: кінула і пышла́, скыза́ла, большы туды і ны вярёўкых ні зыця́гнуць. Абоя дывыдзержывылі хракцір, жыць умесьці большы некуды стала, ну, хату пы баку, грошы пыпыла́м і разьехыліся.

**Выедзеннага яйца не стоіць,** *цяп., пр. Пра тое, што не заслугоўвае ўвагі.* Вы́ідзінныга ійца́ ня стоіць усё дзела, адных толька рызгаворыў надзелылі ны паўгода. Чаго б я ўзноў пычына́ла рызгавор, есьлі яно ўсё ўмесьці вы́ідзінныга ійца ня стоіла, а што ты рысхадовый, ета праўда.

**Выедзеннае яйцо.** *Дробязь.* Уся пытра́ва — вы́ідзінныя яйцо, только кріку ны дзяреўню. Што тама стоптына — пяць ка́ліў, на вы́ідзінныя яйцо, — ета хра́кцір кастрі́вый: рыскрі́ча́ўся.

**Выжываць з розуму** (памяці, вума, с ума), *часта неадабр. Траціць развагу.* Калі ты з розуму выжыва́іш, дык бясі́ся, ідзі, ну дзяцей я табе ні аддам. Зы дзівяноста гадоў дзіржа́лыся Марья, а пыт канец стала выжыва́ць с па́міці, ня ўсіх пызныва́ла, зыгыва́рівылыся, толька як прысьвятленія на́йдзіць, узноў у сваім вуме. З Ганьніныю сьвякровыю саўсім дренна, стала з вума выжыва́ць, што зря гаворіць. Ці ты с ума выжыва́іш, ці дзяці́ніц ныпа́ў ны цябе? *Зак.* **Выжыць з розуму** (памяці, вума, с ума). Усё дно як з розуму вы́жыў, нешта пляцець абы што, як нісмышлёныш. Ці ты с па́міці вы́жыў, што табе дзяці́ныя цацкі пына́дыбіліся? Ні зыріка́йся, маё дзетка, можа і сам з ума́ вы́жывіш, у жызьні ўсякыя бува́іць. Яй-богу, чылавек, ты с ума вы́жыў, большы пры цябе нічога ні скажыш. *Множн.* **Павыжываць** (павыжыць) **з розуму** (памяці, вума, с ума). Во дурукува́тыя людзі, з розуму пывыжыва́лі, нада ім зу пустоя сварі́цца. С па́міці нада пывыжыва́ць, каб рішы́цца ны такоя. Толька што з вума пывыжыва́лі, большы нічога ні скажыш. Ці вы с ума ныпра́ўду пывыжыва́лі, ці вам дурь урімі́на́мі пыцска́кыіць? Ці з розуму павы́жылі, ці ім ікая другая дурь пытпыда́іць. Во сумашэччыя, во с паміці павы́жылі, ета ж нада так адурюва́ць. Ты толька глянь, што яны твыря́ць,

ці ета ні павы́жылі з вума?— яй-богу павы́жылі. С ума нада павы́жыць, каб ны такоя дурноя дзела наду́мыцца узрослым людзя́м.

**Выкідаць** (выкідываць) **дур з галавы.** *Разумнець, пазбаўляцца ад дрэнных звычак.* Глядзі, хлопіц, ня хочыш сам выкідаць дурь з гылавы, людзі памогуць, і ні пыца́цкыюцца с табою. Ніяк ня мог апомніцца ні настолічка, толька цяперя выкі́дывыіць дурь з гылавы́. *Зак.* **Выкінуць дур з галавы.** Выкінь дурь з гылавы,— ходзіць і шчоўкыіць, прісьвісьні яшчэ. *Узмацн.* **Павыкідаць** (павыкідываць) **дур з галавы.** Ні ма́лінькія, дурь з гылавы пыра пывыкіда́ць. Толька г двыццаці́ гыда́м пывыкі́дывыў дурь з гылавы, ато ўсё прітвыря́ўся малю́тычкыю.

**Выкідаць** (выкідываць) **з галавы.** *Пераставаць думаць, імкнуцца забыць.* А чаго я буду выкіда́ць з гылавы Хвеньку, што йна — хужы твае дачкі ці што? Табе дык даўно пыра выкі́дывыць дзевык з гылавы, скора свае нявесты замуж аддыва́ць пыдрыстаюць. *Зак.* **Выкінуць з галавы.** Я ўжо даўно з гылавы вы́кінуў Варычку, дужа іна мне ва́жна, ніхай ідзець зы каго хочыць. *Узмацн.* **Павыкідаць** (павыкідываць) **з галавы.** Табе адной ета дужа важна, а яны, я знаю, даўно з гылавы усё пывыкіда́лі. А пывыкі́дывый ты з гылавы свае дзялы ды пысядзі́ зь людзя́мі, як чылавек, ато зы работыю і памерць ня бу́дзіць уремя.

**Выкідаць** (выкідываць) **конікі,** *неадабр. Капрызіць, рабіць, тварыць надзвычайнае.* Ці твой цяперіцька пыцішэў, ні выкіда́іць конікі? Ахотычка ж табе кажын раз выкі́дывыць конікі, прысьмяю́ць людзі як дурука́ і большы нічога. *Зак.* **Выкінуць конікі** (коніка). У любэй мамент чаго хочыш жджы, якея хочыш можыць конікі выкінуць. Мы ж, кажыцца, дыгываріліся, што ўспакоісься, дык не, узноў коніка вы́кінуў. *Непаўн.* **Павыкідаць** (павыкідываць) **конікі.** У мяне б доўга конікі ні пывыкіда́ў,—ня хочыш жыць—каці́ся. Што тут ска́жыш, умеіць конікі пывыкі́дывыць. *Працягл.-фінальн.* **Навыкідаць** (навыкідываць, давыкідаць, давыкідываць) **конікі.** Халера быў ні пасьледнія, нывыкіда́ў конікі. Мала ты знаіш Зыйчыня́т, ішчэ нывыкі́дывыюць конікі, нагледзісься. Дывыкіда́іць конікі, што яшчэ атлуплю́, сколька ўлезіць. У Машкі — ня ў Просі, там ён дывыкі́дывыіць конікі, у мамент уся́дзіцца.

**Выкідаць** (выкідываць) **на вуліцу.** *Высяляць з кватэры.* Сядзіш у сваіх вуглах і сядзі, выкідаць на вуліцу цябе ні стануць, ні імеюць права. А ты думыў, выкідывыць на вуліцу асьмелюцца? — не, ня тое ўремя. *Зак.* **Выкінуць на вуліцу.** Ты толька паспробый што тронь, я табе пыкажу выкінуць на вуліцу, січас у суд пыдам. *Узмацн.* **Павыкідаць** (павыкідываць) **на вуліцу.** Помніш, як адурювалі пыліцэйскія, пывыкідалі Мархвіных на вуліцу с хаты. Ну вазьмі, пывыкідывый на вуліцу проця зімы, кылі ты еткій мудрец.

**Выкладацца** (выкладывацца) **ў доску.** *Празмерна старацца.* Чаго табе выклыдацца ў доску, ці табе дужа многа нада. Нінка ўжо выкладывылыся, выкладывылыся ў доску, усё хацелыся ёй быгацей зу другіх стаць. *Зак.* **Выкласца** (вылажыцца) **ў доску.** Біссызнацільныя людзі, ім хуць выклыдзься ў доску, усё будзіць мала і ўсё будуць нідавольны. Ці ты ўжо вылыжыцца ў доску хочыш, аж пірядыху табе німа. *Узмацн.* **Павыкладацца** (павыкладывацца, павыкласца) **ў доску.** Пывыклыдаўся ў доску, ды ўвідзіў, што толку ня будзіць,— кінуў. У доску пывыкладывыліся, ротым і носым хвыталі, каб скарей як кончыць. Я іх знаю, есьлі пыбішчалі, у доску павыклыдуцца, а зьдзелыюць к сроку. *Працягл.-фінальн.* **Навыкладацца** (навыкладывацца, давыкладацца, давыкладывацца) **ў доску.** Ай, месіц пабыў, дык ужо нывыклыдаўся у доску. Ня бойся, ня тэя стыряньнікі, што нывыкладывыюцца ў доску. Дывыклыдаўся ў доску, большы, гаворіць, зы тапор дайжа ўзяцца ні магу. Усё ж хацелі, каб большы, каб луччы, каб дзіцям што асталыся, во так і дывыкладывыліся ў доску,— нікому й нічога цяперь ні нада.

**Выкладаць** (выкладываць) **душу.** 1. *Шчыра расказваць пра што-н. асабістае.* Ну, такому хлюсту я выклыдаць душу ні стану. Выкладывыла ім душу, выкладывыла, а яны толька пысьміяліся. 2. *Аддаваць апошняе.* Выклыдаіць дзіцям душу ды пасьледнія рубашкі. Выкладывылі мы, выкладывылі душу, стыряліся выучыць, дык во толька рукамі ўспляснулі. *Зак.* **Выкласць** (вылажыць) **душу.** 1. Выклыдзі ім душу, пырягочуць і ўсё. Душу вылыжу я табе січас, пыдажджы трошку. 2. Пры дзяцей дужа клапоціцца, гатоў душу выклысьць, каб ім луччы було. Клім душу вылыжыць, каб толька дзеці ні ў чым

ні нужда́ліся. *Працягл.-фінальн.* **Навыкладаць** (навыкладываць, давыкладаць, давыкладываць) **душу.** 1. Нывыклыда́ў ім душу ны прысьміха́нія, большы нінавошта. Сідарёнык нывыкла́дывыў душу: уся дзяреўня рягочыць, як ён пііжыва́іць. Цяперя сам ві́дзіш, як ты дывыклыда́ў душу. Ны апсьмі́х толька дывыкла́дывыіш душу, ці яны цябе поймуць. 2. Нывыклыда́юць яны душу, пыаддаю́ць усё і самі бізь нічога аста́нуцца. Сколька мы нывыкла́дывылі душу на іх, а яны пісьма́ ні сызволюць нына́саць. Дывыклыда́лі душу, адда́лі ўсё, большы нечыга. Пыглядзі́ш, што дывыкла́дывыюць душу, палу́чуць хві́гу, во і ўся блыгыда́рнысьць будзіць.

**Выкрасіць ды выбрасіць.** *Пра зусім няварта*е. Куды ты сы сваім тра́ньнім пресься, ета шалу́п'іцьця толька вы́крысіць ды вы́брысіць.

**Выкручывацца вужом** (змяёю), *асудж. Выбірацца з цяжкага становішча з лоўкасцю і спрытам.* Мы нагледзіліся, як ён у любом-уся́кім дзелі выкру́чыіцца вужом. І ны днаго дыва́й валі́ць, і ну другога, пряма зьмяёю выкру́чывыіцца. *Зак.* **Выкруціцца вужом** (змяёю). Плоха ты знаіш Грішу, ён зь любэя пролыбкі вужом вы́круцілца. У-у, га́дкій чылавек, другіх пытапі́ў, а сам зьмяёю вы́круціўся. *Множн.* **Павыкручывацца** (павыкруціцца) **вужом** (змяёю). Хто іх там зловіць, прісякець, яны пывыкру́чывыюцца вужом. Ну й што, есьлі пылаві́лі, яны зьмяёю пывыкру́чывыліся. Садовыя твыя гылыва, яны зь любэя халеры вужом павы́круцюцца. Другіх пыдаткну́лі, а самі павы́круціліся зьмяёю. *Працягл.-фінальн.* **Навыкручывацца** (давыкручывацца) **вужом** (змяёю). Нывыкру́чывыўся вужом, пупа́ўся-тыкі, ніха́й пысядзі́ць. Круці́ся, круці́ся, нывыкру́чывыісься зьмяёю, ды пары́ жбан ваду носіць. Ніхай, дывыкру́чывыюцца вужом, крутну́цца кылі-небудзь і ня ў тэй бок. Дывыкру́чывылыся Клаўка зьмяёю, іньціресна, што цяперя цётка яе ска́жыць.

**Вылазіць** (вылязаць) **з языком,** *неадабр. Гаварыць не да месца, уступаць у размову без патрэбы.* А чаго табе було выла́зіць зь ізыком, сядзеў ба ціхінька дый слухыў. Аксюта ўсігда вылізаіць зь ізыком, ці ёй нада, ці саўсім ні нада. *Зак.* **Вылезць з языком.** Усё було б ціха і зьмі́рна, каб ты ня вы́лізла зь ізыком, як сыбака с хвастом. *Множн.* **Павылазіць** (павылязаць, павылезць) **з языкамі.** Прішлі, зыяві́ліся, січас пывыла́зюць зь ізыка́-

мі. Зь ізыкамі пывылізáлі, трілю́дзюць — самі ні знаюць што. Я знаю, Гаўріліны зразу павы́лізуць зь ізыкамі, яны нізашто ня ўцерьпюць. *Працягл.-фінальн.* **Навылазіць** (навылязаць, давылазіць, давылязаць) **з языком.** Нывылáзюць яны зь ізыком калі-небудзь, нылáю, сколька ўлезіць. Што, нывылізáла зь ізыком, атхрісьцíла Хрісьцінка як сьледыіць? Сяньня Лявоніха дывылáзіла зь ізыком, сыстрамíлі яе большы некуды. І ты яшчэ дывылізáіш зь ізыком,— ня можыш, як людзі, пысядзець?

**Выліўкі ліць.** *Несці яйкі без шкарлупы (пра курыцу).* У мяне ря́бінькыя была дужа нясушчыя, ну часта вы́ліўкі лілá.

**Вылятаць** (выскакываць) **з галавы** (памяці). *Раптоўна забывацца.* Была вун тыкая, як ты, Гапка, у яе ўсё вылітáла з гылавы. Ты ж ні старік, што ў цябе вылітáіць усё с пáміці. Я дык і зубувáю, калі нешта скáжуць, усё выскáкыіць з гылавы́. Ня бойся, у мяне с пáміці ні выскáкыіць, як у цябе. *Зак.* **Вылецець** (выскачыць) **з галавы** (памяці). Лёкса прасíла нешта табе пірідáць, і ў мяне з гылавы́ вы́ліціла — што. Я ж усю дарогу помніў, што ён мне скызáў, а тут вы́ліціла с паміці. Што йта с табою, хто што ні скажыць, у цябе зразу вы́скычыць з гылавы. Як жа ета тама у кіне аньціресна гываpілі, во вы́скычыла с паміці. *Узмацн.* **Павылятаць** (павылецець, павыскакываць, павыскачыць) **з галавы** (памяці). Як жа ты слу́хыў, што ў цябе ўсё пывылітáла з гылавы. Як ні рыскажы́, як ні ўталку́й, усё пывылітáіць с пáміці, і што с табою тварíцца — ні рызьбяру́. Аб'ісьня́ла-аб'ісьня́ла, што к чаму, а ў іх ціріш час павы́ліціла з гылавы. Ты ж усігда ўсё помніў, а чаго ў цябе тут павы́ліціла с паміці. Рыскажы́, ды хырашо ўту́ркый, ато ўзноў пывыскáкывыіць з гылавы. Ня бойся, што нада, у іх с паміці ні пывыскáкывыіць, во што ня хочуць помніць — забу́дуць. Узноў усё павы́скычыла з гылавы, а як жа ты хадзіў пы мыгазíных. Ну, есьлі яшчэ раз павы́скычыць с паміці, я ўжо цябе наўчу́.

**Вылятаць** (выскакываць) **пуляю.** *Выбягаць вельмі шпарка.* Сколька ты разоў ац свае дырагея вылітáў пу́лію. Што, пынырáвілыся выскáкывыць пулію? *Зак.* **Вылецець** (выскачыць) **пуляю.** Толька зайшлі, і цірізь мінуту, гляджу, вы́ліцілі абоя пу́лію. Вы́скычыў пу́лію с Аксю́ціныя хаты. *Узмацн.* **Павылятаць** (павыскакываць) **пуляю.** Чаго б ета яны пывылітáлі пулію ат Антона, ці ні

вярну́лыся Полька с Крічыва? Схадзіця, дык пывыска́кывыіця пулію, ня будзіця знаць, як бежч. Туды ішлі ціряшчур храбра, а аттуля пывыскакывылі пулію.

**Вылятаць у трубу.** *Разарацца.* Ты ўжо два разы вылітаў у трубу́ і табе пымыга́лі стаць на ногі, а большы ніхто ні паможыць, хва́ціць. *Зак.* **Вылецець у трубу.** Ну, дутургува́ўся, вы́ліціў у трубу?— ня ўмеў жыць пы-чылавечыску. *Узмацн.* **Павылятаць** (павылецець) **у трубу.** Зразу хвалі́ліся: рыжжылі́ся, чуць ні быгачы́ ста́лі, а як пывылітá́лі ў трубу́, дык чэшуць заты́лык. Пыглідзіцё, павыліцюць у трубу: у іх ніякія розвылкі німа.

**Вынасіць на сваіх плячах.** *Пераносіць цяжкасці, выпрабаванні.* Я і ні такоя вынасі́ў ны сваі́х плічáх, у маёй жызьні уся́кыга було. *Зак.* **Вынесць на сваіх плячах.** Ці ты знаіш, што я вы́ніс ны сваіх плічах,— табе такоя і ўва сьне ня сьні́лыся. *Узмацн.* **Павынасіць** (павынесць) **на сваіх плячах.** Чаго мы толька ні пывынасі́лі ны сваіх плічах. Што вы цяперя павы́нісіця ны сваіх плічах, ці ваша жызьня тыка́я, як наша была, мы ўсяго пыспыта́лі.

**Вынасіць смяццё** (мусар) **з хаты.** *Расказваць пра тое, пра што не варта было.* А есьлі нада, дык і нада вынасі́ць сьмяцьцё с хаты. Нашто табе було вынасі́ць му́сыр с хаты, усё рыўна ні пымыгла́ ні чаму́. *Зак.* **Вынесць смяццё** (мусар) **з хаты.** Ай, вынісла Праскоўя сьмяцьцё с хаты, можна було самі́м рішы́ць і дыгывары́цца, ато толька зьвя́гыньня. Ніхай вы́ніськлі мусыр с хаты, дык хуць цярьпець можна стала. *Узмацн.* **Павынасіць смяццё** (мусар) **з хаты.** А можа яно й луччы, што пывынасі́лі сьмяцьцё с хаты, людзі судзі́ць меншы будуць. Усё пріка́зывыла, каб муўча́лі, каб ні пывынасі́лі мусыр с хаты. *Працягл.-фінальн.* **Навынасіць** (давынасіць) **смяццё** (мусар) **з хаты.** Тут, знаіш, нада с толкым пытхадзі́ць, ато нывыносіш сьмяцьцё с хаты, як Тайка зяці́цкыя. Усё хвалі́ўся: я жыву у ўсіх ны віду, нічога ні хува́ю,— во так і нывынасі́ў мусыр с хаты. Нашто ж табе так усё тріпа́ць, бува́іць, дывыносіш му́сыр с хаты. У сямейный жызьні нада с умом, ато Ріпініна дывынасі́ла мусыр с хаты: кінуў і пашоў, а над ёю сьмяю́цца.

**Вынь ды палож** (пакладзі). *Пра абавязковае выкананне патрабавання.* Ныста́ў, ныста́ў, вынь яму ды палож тых грошы, ды яшчэ зразу дзьвесьця рублей. Што ты прі-

чапіўся вынь ды палож, кылі тут мінўты німа свабоднага ўремя. Вот табе вынь ды пыкладзі сію мінуту, у мяне вун печ топіцца, куды я пайду. Вот вынь ды пыкладзі беліныя пылатно,— бярі, есьлі хочыш, нябеліныя.

**Выпаліваць** [каленым] **жалезам.** *Знішчаць бязлітасна.* Такіх нада ні вылантыріцца зь імі, а жалезым выпáлівыць. Я б іх калёным жалезым выпалівыў. *Зак.* **Выпаліць** [калёным] **жалезам**. Каб іх хто жалезым вы́пыліў, уся сім'я прідáціліў. Еткіх ба гáдыў вы́пыліць калёным жалезым, каб ат іх і ўзны́ку ні асталося. *Узмацн.* **Павыпаліваць** (павыпаліць) [калёным] **жалезам.** У-у, каб мыя воля, я б ні знаю што, пряма жалезым ба пывыпáлівыў еткіх. Пывыпáлівыць калёным жалезым гадзю́к нáда, сколька яны зьдзівáліся нуд людзямі. Даўно калёным жалезым паві́пыліць нада було ўсіх рáзым.

**Выплакываць вочы**. *Плакаць горка і доўга.* Выплáкывыла вочы, а паможч... чым жа іна пымыглá. *Зак.* **Выплакаць вочы**. Арьхіпіха так убівáіцца каторый год, вочы даўно вы́плыкыла. *Узмацн.* **Павыплакаць** (павыплакываць) **вочы.** За трі гады мы вочы паві́плыкылі. І нутушнувáліся, і нугурювáліся, і вочы пывыплáкывылі, што ж ты хочыш — у дваццыць пяць гадоў удовымі пыстывáцца.

**Выпускаць вожкі.** *Траціць уладу.* А нашто ж ты зразу выпускáў вожкі? *Зак.* **Выпусціць вожкі.** Усё дывáла і дывáла пытáчку — жалела, так і вы́пусьціла вожкі. *Усеаг.* **Павыпускаць вожкі**. Есьлі пывыпускáіця вожкі з мáлымі, як пыдрастýць, трудна будзіць у рукі узяць.

**Выпускаць** (упускаць) **з віду.** *Забываць.* Што ж ты самыя глáўныя выпускáіш зь віду, пры хату нада було абізáцільна прызнáць. Разы трі зьбірáлыся пыглядзець і ўсё упускáла зь віду. *Зак.* **Выпусціць** (упусціць) **з віду.** Я ж саўсім вы́пусьціў зь віду, што ў нас сьвет зыпалíць нечым. Ты ж ні ўпусьцí сьляпýючы зь віду пыглядзець, якім інá целім. *Усеаг.* **Павыпускаць** (паўпускаць) **з віду.** Што ж яны пывыпускáлі усе зь віду рыспрасíць, калі там і як пычынáіцца. Зы вас хто-небудзь другей бегыць ня будзіць, ежылі пуўпускáіця зь віду.

**Выпускаць** (упускаць) **з рук.** *Страчваць тое, што можна выкарыстаць або мець.* Есьлі дýмыў дзелыць, ні нада було выпускáць з рук. Ныстыя́шчыя удáча ідзець чылаве-

ку у рукі, а ён упуска́іць із рук проста пы свайму рытазейству. *Зак.* **Выпусціць** (упусціць) **з рук.** Вы́пусьціў з рук сам верныя грошы, нечыга цяперя а́хыць. Раз аддаю́ць зы пяцьсот — бярі, упу́сьціш з рук — ніізьвесна калі што пупадзецца, а біс хвыста́ зь дзіцямі ні салодка. *Усеаг.* **Павыпускаць** (паўпускаць) **з рук**. Пывыпуска́іця з рук, што несмысьлі якея, усё вам хадзі́ усьлед ды пытка́зывый. Таго, што ні хацелі думыць, пыупуска́лі з рук, а посьлі ўсху́пiліся: ай, чаго ж мы ні бралі.

**Высалапіўшы** (высунуўшы) **язык.** *З апошніх сіл.* Бег некуды вы́сылыпіўшы язы́к. Я ўжо вы́сылыпіўшы язык хвытаць ня буду, зь мяне дос і таго, што ёсьць. Буту́іцца ныт пнямі вы́сунуўшы язык. І ця́гніць, і ўзноў бягі́ць вы́сунуўшы язык, ніяк ні ныбярецца і ні ныхвыта́іцца.

**Высасываць з пальца,** *неадабр. Выдумваць.* Выса́сывыць с пальца я ня буду, а што чуў, таго скрыва́ць ні ста́ну. *Зак.* **Выссаць з пальца.** Ты ду́мыіш, ён што відзіў, знаіць? — с пальца вы́ссыў. *Узмацн.* **Павысасываць** (павыссаць) **з пальца.** Яны пывыса́сывыць с пальца умеюць, учы́ць іх на ета ні на́да. Аткуля, ты ду́мыіш, пра тэя пупёлышкі што ўзялі? — с пальца павы́ссылі. *Працягл.-фінальн.* **Навысасываць з пальца.** Сколька хочыш нывыса́сыіць с пальца любэя лухты.

**Выскакываць** (выпрыгываць) **з сябе,** *іран. Вельмі гарачыцца.* Ні выска́кывый сь сябе, пыгывá́рі зь людзя́мі спакойна. Адно слова ніхай ні так ска́жыць хто, січа́с выпры́гыіць сь сябе. *Зак.* **Выскачыць** (выпрыгнуць) **з сябе**. Ну й сьпі́чка чылавек, чуць што — гатоў сь сябе вы́скычыць. Ты ўжо кіпяці́ся, толька глядзі ня вы́прыгні сь сябе. *Узмацн.* **Павыскакываць** (павыскачыць, павыпрыгываць, павыпрыгнуць) **з сябе.** Як толька я пымяну́ла копкі з Ма́слывыга балота, яны зразу пывыска́кывылі сь сябе. Зьдзержывыйціся, ато сь сябе павы́скычыця, як жа тады будзіць. Ай-я-яй, што зь імі твары́лыся, як толька ні пывыпры́гывылі сь сябе. Гатовы сь сябе павы́прыгнуць, як пымянеш ім таго жы́рістыга. *Працягл.-фінальн.* **Навыскакываць** (навыпрыгываць, давыскакываць, давыпрыгываць) **з сябе.** Сколька ж Лісей нывыска́кывыў сь сябе, каб толька хто відзіў! Нывыпры́гывылі сь сябе абея, кажыцца, зьесьць гатовы былі Бырысінка́. Глядзі, ня ёрзый дужа, ні скач, ато дывыска́кывыіш сь сябе жыва. Дывыпры́гывыў сь сябе, як мыцірiка́ пулучы́ў.

**Выскакываць** (выпрыгываць) **са шкуры** (з кожы), *іран.* **Вельмі злавацца.** Што ты выска́кыіш са шку́ры, разьві такую ціжаль аднаму пыднімáць. Зыпаілі ладна, дык ніхай хто паўслова на іх скажыць — выска́кыіць с кожы. Ася́дзься, ўспакойся, чаго табе выпры́гывыць са шку́ры. Зразу як рызыйшоўся, с кожы выпры́гыіць, а посьлі атыйшоў, сьціх. *Зак.* **Выскачыць** (выпрыгнуць) **са шкуры** (з кожы). Зьліцца—зьлі́ся, толька са шкуры ня вы́скыч. Мы ўжо дзівіліся, як ён с кожы ня вы́скычыў, а там бяды́ тэя—ку́ріца на бу́льбу ўзыйшлá, скрáбнула. Якей у яго хрáкцір сымашэччый: ні так глянь—січас жыг, вы́прыгнуць са шкуры гатоў. Цішы, цішы, ато с кожы вы́прыгніш. *Узмацн.* **Павыскакываць** (павыскачыць, павыпрыгываць, павыпрыгнуць) **са шкуры** (з кожы). Толька адно, што са шкуры ні пывыска́кывылі, ато ўсяго було. Глядзі, дзяржы́, с кожы січас пывыска́кыюць. Кулáгін як увайшоў, айдзе й злосць дзелыся, ато чуць былі са шкуры ні павы́скычылі. Ніхай кіпя́ць, рысьсідáюцца, хуць і с кожы пывыпры́гыюць. Ну як, са шкуры яшчэ ні павы́прыгнулі? Такея мыладэя, а злосьці — глядзі с кожы павы́прыгнуць. *Працягл.-фінальн.* **Навыскакываць** (навыпрыгываць, давыскакываць, давыпрыгываць) **са шкуры** (з кожы). У мяне ён нывыска́кыіць са шкуры, я скора уніму́. Нывыска́кывыіш ты с кожы сы сваім злом, яго нехта дужа баіцца. Зáліўка такей быў, дык ён нывыпры́гывыў са шкуры, і ты етыга дажджэсься. Ну й нывыпры́гывылі с кожы тэя хлюсты́, думылі мы: пырызарву́цца. А дывыска́кывыіш ты са шкуры, унімiць хто-небудзь. Ірзáла іна, ірзáла, резылыся зь людзьмі, ды во дывыска́кывыла с кожы. Дывыпры́гывыюць са шкуры самі і другіх падну́цкывыць пірістáнуць. Што, і дывыпры́гывыў с кожы, і ныжáдыўся рáзым, нічога ні нáда стáла?

**Выхадзіць** (вылазіць, вылязаць) **бокам.** *Дрэнна заканчвацца, не ісці на карысць.* Стала бокым выхадзíць яго дурáчыньня, ато ўсё ўходу ня ймеў. Усё, што ні гывaріла, ня слу́хыў, а цяперя тваё неслухства вылáзіць бокым. Ні бярі ты і ні хаці́ чужога, чужоя усігда бокым вылізáіць. А помніш, як сам людзей абіджáў, дык во табе ета бокым вылізáіць. *Зак.* **Выйціць** (вылезць) **бокам.** Глядзі, папомніш маё слова, што етыя гулю́шкі вы́йдуць бокым: голый, разьдзетый і пабег, і пабег. Ныдзівáйся ды ногі дзяржы ў цяпле, ато тыкая хрáбрысьць, як засту́дзісь-

ся, бокым вы́лізіць. Ніхай ім бокым вы́лізуць мае яблыкі. *Узмацн.* **Павыхадзіць** (павыйціць, павылазіць, павылязаць, павылезць) **бокам.** Можа калі бокым пывыходзіць жа́днысьць еткыя і павы́хлініць. Сухоцьця ж ясна аткуль: чужоя горя павы́йшла бокым. Во бра́лі-бра́лі, хвыта́лі-хвыта́лі, а яно й пывыла́зіла бокым. Ладна, ладна, дыжджыцёся, ня сёліта дык налета пывылiза́іць бокым жаднысьць ваша. Грябу́ць, хвыта́юць, адж жа́днысьці зытырхну́ліся б, толька павы́лізіць бокым яно, так ня бойдзіцца.

**Выхадзіць** (выпадаць) **з галавы** (памяці). *Забывацца.* Я даўно хацеў рыскыза́ць табе пра тоя сянцо, ды ўсё неік выхадзі́ла з гылавы. Як увíджу вас, тады ўспомню пра грошы, а так выходзіць с па́міці. Мы ж два разы былі пад Белыю гарою, а мелу ныкыпа́ць усё выпыда́ла з гылавы. Нешта дужа ча́ста усё ў вас выпыда́ць с па́міці ста́ла. *Зак.* **Выйціць** (выпасць) **з галавы** (памяці). Ах-ах, так жа яно вы́йшла з гылавы, што сьпíчык ні сьпíчыны німа. Віліны б тэя уськíнуў ны калёсы, глядзі б, сколька дроў було, дык вы́йшла ж с па́міці. А ты трошку ду́мый пра дзела, і яно ня вы́пыдзіць з гылавы. Ета ў іх с па́міці, вíдна, вы́пыла твыя моркыўка, ато б іна зацэліла. *Узмацн.* **Павыхадзіць** (павыйціць, павыпадаць, павыпасць) **з галавы** (памяці). Калі ж у вас пасьпела пывыхадзíць з гылавы, ці ні заўчора я вам прíка́зывыла? Сколька ні талкуй ім, зы час пывыходзіць с памяці. Ці ў вас з гылавы павыйшла, што там січас можна зукупа́цца. Ні хыця ўсё павы́йдзіць с па́міці, калі так скот укла́ў. Што ж вы гаворіця, пывыпыда́ла з гылавы, есьлі Шылабода вам ужо ў лесі пымíна́ў. Як захочуць, то ні пывыпыда́іць с паміці, а так прітвыря́юцца. Ай, павы́пылі з гылавы і твае аббіцікі, і прасол, ні да іх було. Дужа нешта скора павы́пыла ў вас усё с па́міці.

**Выхадзіць за рамкі,** *рэдкаўж. Перасту́паць межы дазволенага.* Дзяржы́-ка ты сваіх хлюстоў у руках, іх жа вы́дзілкі выходзюць зы ўся́кія ря́мкі. Нада усё каб нырма́льна, а калі што выходзіць зы рямкі, ета ня дзела. *Зак.* **Выйціць за рамкі.** Скажы, ніхай трошку пыцішэіць, ато саўсім зы рямкі вы́йшыў. *Усеаг.* **Павыхадзіць** (павыйціць) **за рамкі.** У чужых людзя́х нада весьць сябе яшчэ цішэй, а яны ж пывыхадзíлі зы рямкі кругом. Усе вялі сябе, як нада, толька ма́зылыўскія хлопцы павы́йшлі зы

рямкі,— п'яныя, дык ім места ні було. *Гл.* Выхадзіць з рамак.

**Выхадзіць з возраста** (гадоў). *Станавіцца старым, не падыходзячым па ўзросту.* Я выхаджу з возрысту, і сіла саўсім падбілыся, ні спрыўляюся як раншы. Як будзіш выхадзіць з гадоў, пызнаіш, што такоя старысьць. *Зак.* **Выйціць з возраста** (гадоў). Я вот-вот выйду з возрыста, будзіця самі хызяйнічыць. Куды табе ны дзійствіцільныю, ты ўжо выйшыў з гадоў. Міхалка даўно выйшыў з гадоў, пеньсію пулучаіць. *Усеаг.* **Павыхадзіць** (павыйціць) **з возраста** (гадоў). Гады пыдбіраюцца жыва, вот-вот пывыходзім з возрыста. Сьпірва ім дывалі нейкыю ацсрочку, а посьлі з гадоў пывыхадзілі, так і ні пашлі служыць. Што ім, яны павыйшлі з возрысту. Уремя йдзець, ніпріметна павыйдзім з гадоў, і аглянуцца ні пасьпеіш.

**Выхадзіць з пялёнак.** *Станавіцца дарослым.* Нада табе выхадзіць сь пялёнык, нянчыць цябе ні я, ні хто другей ня будзіць. *Зак.* **Выйціць з пялёнак.** Ты ж ужо выйшыў сь пялёнык, каб ны цябе ўсё зырыбляць. *Усеаг.* **Павыхадзіць** (павыйціць) **з пялёнак.** Слава богу, пывыхадзілі сь пялёнык, самі сябе могуць прыкарміць. У мяне скора павыйдуць сь пялёнык: пыдрасьлі і выпрыўляйціся на свой кусок хлеба.

**Выхадзіць з рамак,** *неалаг. Пераступаць межы дазволенага.* Канешня, сьцяўшы зубы нашто сядзець, ну й з рямык выхадзіць ні нада. *Зак.* **Выйціць з рамак.** Так жа нільзя, ты ж сы ўсякіх рямык выйшыў. *Усеаг.* **Павыхадзіць** (павыйціць) **з рамак.** Тут яны ўжо саўсім пывыхадзілі з рямык. Павыйшлі з рямык, ажно глядзець стыдна на іхныя дурачыньня.

**Выхадзіць з сябе.** *Вельмі злавацца.* Якое там укухтыла, так, ныпрянула і ўсё, а ён сь сябе выходзіць: пірягрела. *Зак.* **Выйціць з сябе.** Чаго ета Сонька выйшла сь сябе, як ні рызрываіцца, крічыць. *Узмацн.* **Павыхадзіць** (павыйціць) **з сябе**. Узноў Дубіняты пывыхадзілі сь сябе, крічаць, што двор тряшчыць. Не, яны, відна, ні зря павыйшлі сь сябе, дывялі іх чым-небудзь.

**Выхадзіць на арбіту,** *жарт., неалаг. Набываць вагу ў грамадстве.* Ты, кызалі, ны арбіту выходзіш, і ў раёні пры цябе пішуць — у нейкій калючкі. *Зак.* **Выйціць на арбіту.** Глянь-ка, як іна скора выйшла ны арбіту. *Усеаг.* **Павыха-**

**дзіць** (павыйціць) **на арбіту.** Есьлі вы пывыходзіця ны арбіту, лі вас ні шылахну́цца ста́ніць. Атлічы́ліся, павы́йшлі ны арбіту, хуць пысьмія́цца ёсьц ш чаго,— во попыду ня ві́дзюць ні разу, пріжа́ць некыму.

**Выхадзіць на дарогу.** *Рабіцца самастойным.* Пыра б табе ўжо ны дарогу выхадзі́ць, жыць сымаму́, я вас усіх ні ныкармлю́ся. *Зак.* **Выйціць на дарогу.** Зы сваіх я ні баюся, усе троя вы́йшлі ны дарогу, зырыбля́юць нічога сабе. Троху пыба́лыіцца, а тады вы́йдзіць ны дарогу, ня йдзе дзеніцца. *Множн.* **Павыхадзіць** (павыйціць) **на дарогу.** Што ім цяперя дзелыіцца, пывыхадзі́лі ны дарогу, жыву́ць — чорт ні бярець. Каб скарей як павы́йшлі ны дарогу, худзь ба забот меншы.

**Выхадзіць са строя**, *жарт. Страчваць здольнасць або сілы.* Ты, як ста́ніш выхадзі́ць са строя, пішы, мы пріедзім, што-небудзь пріду́мыім. *Зак.* **Выйціць са строя.** Мікіцёнык ужо вы́йшыў са строя, нечыга яму тут рыска́зывыць. *Усеаг.* **Павыхадзіць** (павыйціць) **са строя.** Нешта вы дужа рана пывыхадзі́лі са строя. Ну да, павы́йшлі са строя, мы яшчэ як арлы, на што хочыш годныя, хуць вопыўзкым, ды іўля́імся. Як жа мы павыйшлі са строю, есьлі такей аборык зу пуўдня гуляючы пылажылі.

**Выхадзіць сухім з вады.** *Пазбягаць заслужанага пакарання.* Не, Гыўрілёнкыў голымі рукамі ня возьміш, яны ўмеюць выхадзі́ць сухі́мі з ваді́. *Зак.* **Выйціць сухім з вады.** Ён зь любой пятлі вы́круціцца і на етый раз выйшыў сухім з вады. *Множн.* **Павыхадзіць** (павыйціць) **сухімі з вады.** Думыіш, і цяперь пывыходзюць сухі́мі з вады? Вялі́кій бог будзіць, есьлі павы́йдзіця сухімі з вады. Ды пары жбан ваду носіць — так і ета: і сквіріча́ні случа́йна павы́йшлі сухімі з вады.

**Выхадзіць у людзі**. *Дабівацца матэрыяльнага дастатку, павагі.* Лянід выходзіць-то выходзіць у людзі, толька нешта ніяк ня вы́йдзіць, ці яго за хвост хто дзяржы́ць. Дывай-ка ты ўжо выхадзі́ у лю́дзі. *Зак.* **Выйціць у людзі.** Во і Сумоніхіны хлопцы выйшлі ў людзі, абрузува́нія харошыя пулучы́лі. Табе ўжо ня чорт бяды, есьлі сыны вы́йшлі ў людзі. *Множн.* **Павыхадзіць** (павыйціць) **у людзі.** Калі стыря́цца ста́нуць, то пывыходзюць у людзі. І вялі сябе строга, і ўчы́ліся дужа стыря́цільна, паетыму і ў людзі павы́йшлі.

**Выхадзіць у цірáж**, *жарт. Рабіцца непрыдатным па старасці.* Дывыдзёнку пакуль рана выхадзíць у цірáж, крáсін вун, як брысь. *Зак.* **Выйціць у цірáж.** Нашто яму жонка, ён ужо вы́йшыў у цірáж. *Множн.* **Павыхадзіць** (павыйціць) **у цірáж.** Раз пывыхадзíлі ў цірáж, ны вічарінкі вам дзелыць нечыга. Ну што, старэя, скора павы́йдзім у цірáж?

**Выцягывацца ў нітку.** *Працаваць да апошняга.* А што толку, што мы выця́гывыліся ў ні́тку, каму яно ўсё дыстáлыся? *Зак.* **Выцягнуцца ў нітку**. Хут ты вы́цігніся ў ні́тку, у нашыга брігадзíра лáскі ня вы́служыш. *Узмацн.* **Павыцягывацца** (павыцягнуцца) **ў нітку**. Каб у нітку пывыця́гывыліся, дык ні скáжыць: ся́дзьця, аддыхні́ця,— такей нісызнáцільный. Хуць вы ў нітку павы́цігніціся, аднá шáна ў Мыкара. *Працягл.-фінальн.* **Навыцягывацца** (давыцягывацца) **ў нітку.** Ці помніця вы, сколька Кулажонык нывыця́гывыўся ў нітку, усё хацеў за ўсіх рызбыгацець. Дывыця́гывыюцца ў нітку, што пыстаю́цца біз здароўя.

**Выцягываць** (выпрастываць, працягываць) **ногі,** *звыч, жарт. Паміраць.* Ці ні сыбрáўся ты ногі выця́гывыць? Не, мне ішчэ рана выпрáстывыць ногі, нада ету арáву пыдня́ць. Што ты прыця́гывыць ногі, ён жаніцца ці ні зьбірáіцца. *Зак.* **Выцягнуць** (выпрастаць, працягнуць) **ногі.** Пы твайму кармленню і ногі к сьвятому вяли́кыдніку вы́цігніш. Ты зы работыю і ногі вы́прыстыіш, аддыхні́ хуць адно скрысеньня. Палу́чыш так січас, што ногі прыця́гніш. *Множн.* **Павыцягываць** (павыпрастываць) **ногі**. Скора пывыця́гыім ногі, здароўя наша саўсім падбі́лыся. Што былі знакомыя, дык пывыпрáстывылі ўжо ногі, а мыладзейшых я нікога ні знаю.

**Вязаць** (звязываць) **крылле.** *Пазбаўляць ініцыятывы.* Нашто вам візáць кры́льля хлопцым, ніхай самі дзелыюць, у іх пулучáіцца. А я ні саветывыў ба зьвя́зывыць ім кры́льля. *Зак.* **Звязаць крылле.** Зьвя́жуць крыльля чылавеку на ўсю жы́зьню і дзелый што хочыш. *Узмацн.* **Павязаць** (пазвязаць, пазвязываць) **крылле.** Вы ж ета самі пывізáлі ім кры́льля, цяпер ні гывари́ця і маўчы́ця, рот зымáзыўшы. Што ж ба яны маглі́ зьдзелыць, есьлі кры́льля пызьвізáлі кругом. Ныпрáсна пызьвя́зывыіця крыльля, самі бу́дзіця абіджáцца.

**Вязаць** (звязываць, путаць) **па руках і нагах.** *Пазбаўляць магчымасці дзейнічаць па свайму гледжанню.* Ты сваімі ныгаворымі толька вя́жыш яго пу рука́х і ныга́х. Мяне яны зьвя́зывыць пу руках і ныгах ня будуць, што нада, то й зьдзелыю. Пу́тылі мяне пу руках і ныгах, паку́ля ні рызьвізэ́ўся зь імі. *Зак.* **Звязаць** (спутаць) **па руках і нагах.** Так зьвізалі яго пу руках і ныгах, што ня выйціць куды, ні атлучы́цца. Ні бяры і ні зьвязыйся, спу́тыюць пу руках і ныгах, што ня вы́кырыскыісься.

**Вязаць** (звязываць) **рукі** [і ногі]. *Пазбаўляць магчымасці дзейнічаць па свайму гледжанню.* Вы ўся́кім дзелі будуць па́лкі ў калёсы ста́віць і рукі віза́ць. Зра́зу былі пычалі́ віза́ць рукі і ногі, крепка у клешчы ўзя́лі, нялёхка було вы́рвыцца. Мне ета бульба зьвя́зыіць рукі, ато я даўно кінуў ба ўсё, рінуў і паехыў. Тады мне рукі і ногі бярьвеньня зьвя́зывыла, а тут я кругом вольный. *Зак.* **Звязаць рукі** [і ногі]. І рукі зьвя́жуць, ня ўві́дзіш калі, і на рот замок павесюць. Зьвіза́ла сабе рукі, сядзі́ ды ня́нчыся. Адну мелыч су́нулі, другую скулінду́ да́лі, так і зьвіза́лі рукі й ногі. *Узмацн.* **Павязаць** (пазвязаць, пазвязываць) **рукі** [і ногі]. Ну што ж ты мне кініш ма́льцыў, іх жа сядзі ды глядзі, а мне і зы скатом, і ношычку травы прінесьць нада, яны толька пывя́жуць рукі. Пызьвіза́лі рукі самі сабе, ім нізашто ні нада було улізаць у тую кымпа́нію. Пызьвіза́лі рукі і ногі тым разу́мнікым і твыря́ць, што самі зна́юць. Яны такея, што каму хочыш пызьвя́зывыюць рукі. Цяперя ні ла́дна, што пызьвя́зывылі рукі і ногі, а чаго ж вы самі у пятлю́ лезьлі.

**Вязаць** (звязываць) **язык.** *Прымушаць змоўкнуць.* Ні вяжы́ яму язык, ніхай рыска́зыіць, як зна́іць. Я знаю, што яму зьвя́зыіць язык: летышнія ата́ўка з Гарелыга аборка. *Зак.* **Звязаць язык.** Зьвяжы́ сваёй язык, ато йна дужа яго руспусьці́ла. *Множн.* **Павязаць** (пазвязаць, пазвязываць) **языкі.** Ніхто ніяк ні на́йдзіцца пывіза́ць ім ізыкі́, каб пыцішэлі троху. Пызьвяжы́ця ізыкі́: буўта́юцца, аж ду вушэй дыстаю́ць. Ды каб і пызьвя́зывыць ім ізыкі, хужы б ні було.

**Вязнуць у зубах.** *Вельмі дакучаць, абрыдаць.* Твае байкі вя́знуць у зубах. Етый рызгавор кажный дзень у зубах вя́зьніць. *Зак.* **Навязнуць у зубах.** Усё ўремя адно й тоя, адно й тоя,— у зубах нывя́зла. Так нывязьлі мне ў зубах твае трілюды, луччы б іх век ня слухыць.

**Вялікая важнасць** (бяда). *Пра неістотнае.* Вялікы́я ва́жнысьць мне твой сьвёкыр, мне зь ім шчыня́т ня ксьціць. Есьлі табе яны вялікыя ва́жнысьць, то й цалу́йся, а мне яны нішто. Вялі́кыя мне біда, што Саўчонык прібег, ніхай ці бегыіць кажный дзень, ці ні разу ні пыка́зыіцца. Вялікыя біда́, есьлі сяньня вы ды ні пыска́чыця.

**Вярнуць шыю,** *звыч. неадабр. Гінуць; калечыцца.* Думыіш вярну́ць сабе шыю, то атпрыўля́йся, умешывыйся. Чаго ты шыю вярну́ць туды палезіш? *Зак.* **Звярнуць** (скруціць) **шыю**. Агонь жа ў ім сядзі́ць, такей, каб і ні хацеў, дык зьверніць шыю. Бык зьніця́й прыг к яму́, а тэй ныза́д і ў я́му,— так і зьвярну́ў шыю. Будзіць во так адурюва́ць і дыадурюва́іцца: скру́ціць сабе шыю. *Множн.* **Пазварачываць** (пазвярнуць, паскручываць, паскруціць) **шыі.** Нійдзе ж ім угамону німа ні́якінькыга, пызвыра́чывыюць сабе шыі. Ну, каб такея вы́рвысы ды ні пызьвярну́лі шыі. Фулюга́ны былі ныстыя́шчыя і во нейдзі паскру́чывылі сабе шыі. Паскру́ціця шыі — тады я ня буду з вамі вазі́цца, лячыць вас.

**Вяроўка** (палка) **паходзіць**, *буд., рэдка пр. Пра непазбежнасць пакарання.* Ён січас дажджэцца, вярёўка абіза́цільна паходзіць. Есьлі палка пы табе ні пыхадзі́ла, то пахо́дзіць як піць даць. Учора вярёўка пыхадзі́ла і сяньня тоя са́мыя жджэць абоіх. Палка пыхадзі́ла, дый ладна пыхадзіла пы рібра́х.

**Вяроўка** (палка) **плачыць,** *цяп., пр. Пра вартага суровага пакарання.* Пы тваім бусячу́гу даўно вярёўка пла́чыць, ды некыму яго атлупіць. Ой, пла́чыць палка пы табе, ой, плачыць, ну дыбяру́ся, дай толька ўремя. А ніхай пулучы́ў, па ім даўно вярёўка пла́кыла. Я ж гыварю, што палка плакыла нідырма́.

**Вярцець** (круціць) **хвастом,** *неадабр.* 1. *Хітраваць.* Што ўжо вярцець хвастом, гыварі, як було. Круці́ў ён, круці́ў хвастом, ну толька зыста́вілі ўсё рыскыза́ць. 2. *Распуснічаць (пра жанчыну).* Іка́я с Адаркі жонка будзіць, кылі іна с кажным верціць хвастом. Ні ў хату чаго прідба́ць, ні зьдзелыць чаго, верціць хвастом і ўсё. *Абмеж.* **Павярцець** (пакруціць) **хвастом.** 1. Зразу пывярцеў хвастом, а тады рыскыза́ў, як було. Ён такей усігда: пакуль хвастом ні пакру́ціць, ня зьдзелыіць. 2. Пывярце-

ла хвастом, ды скора аду́мылыся. Ні хвалі́ця, ні хвалі́ця сваіх пляменьніц, пывярцелі хвыста́мі і яны. *Працягл.-фінальн.* **Навярцець** (накруціць, навярцецца, накруціцца, давярцець, дакруціць, давярцецца, дакруціцца) **хвастом.** 1. Знаў ба ты, сколька Хвядосінка нывярцеў хвастом. Накру́ціць ён хвастом, што к чорту прагонюць. Па-мойму, нывярцеліся яны хвастом больша некуды. А нукруці́ліся хвастом, ніхай іх халера зыбярець еткіх сваіх. Даверціш хвастом, што сам у дурука́х аста́нісься. Ну што я дукручу́ хвастом, што, а кылі я нічога ня ві́дзіў? Хвастом дывярцеліся, што глідзяць на іх, як ны самых пасьледніх у дзяреўні. Дукруці́лыся хвастом, дык дукруці́лыся, ёй стоіла, праўды ат яе ні на грош ні даб'есься. 2. Домніна дычка нывярцела хвастом, вадзі́ла матка к нейкій бабкі, кызалі, нічога абыйшлося. Етых нечыга хвалі́ць, пукруці́лі хвыстамі уволю. Наверціцца хвастом, што прі́дзіць к маткі з брю́хым. І хвастом нукруці́лыся, і замуж так вы́йшла, што рыскашу́іцца. Даверцюць хвыстамі, што, як на су́чык, на іх ніхто ні гля́ніць. Ты ж дакру́ціш хвастом, цябе ж зы самыю пасьледнію шчыта́ць будуць. Ня ўчы́ла, ні вухрі́ла, ні дукува́ла, паетыму і дывярцеліся хвастом. Дакруціцца хвастом, схва́ціцца, як пуза на нос палезіць. *Пачын.* **Завярцець** (закруціць) **хвастом.** 1. Як заверціць хвастом,— дужа яму ні хацелыся нічога плахога пры Аўдзея гывары́ць. Усе нічога, рыска́зывылі, як було, адзін Ляксей зукруці́ў хвастом. 2. І другая заверціць хвастом, як ста́ршыя, у іх ета ужо ў крыві. У дзяреўні зьдзержывылыся, а піряехыла ў горыд і зукруці́ла хвастом.

## Г

**Гаварыць** (кі́да́ць словы) **на вецер.** *Раіць дарэмна, безвынікова, упустую.* Я гывары́ць на веціp ні ста́ну, есьлі што скажу́ — зна́чыць вы́пыўню. Кідыць словы на веціp ня стоіць. Іпат, бувала, ні разу ні кіда́ў словы на веціp. *Зак.* **Сказаць** (кінуць словы) **на вецер**. Што ні ска́жыш, дык ета ска́жыш на веціp, ішчэ скаверкыіць цябе і піряверніць усё дыгары́ ныга́мі. Думыіш, цябе паслу́хылі? — кінула словы на веціp і больша нічога.

**Гаварыць рускім языком.** *Выказваць думку ясна, зразумела.* Я табе гывары́о рускім ізыком: стыль, нада і ныпряну́цца як нада, і ат росі накі́нуць ны сябе што. *Зак.* **Сказаць рускім языком**. Скажыш ты і рускім ізыком, і

нямецкім, есьлі ён у рязом прінімáць ня хочыць. Я табе скызáў рускім ізыком і большы пухтырáць ні стáну.

**Гадаць на бабах,** *неадабр. Выказваць меркаванні без падстаў.* Ну што ён гыдáіць ны быбáх, бежч скарей нада. *Непаўн.* **Пагадаць на бабах.** А ты пыгыдáй яшчэ ны быбáх, ці яны табе аддадýць, ці, можа, узноў возьмуць.

**Гады падбіраюцца,** *цяп., пр., буд. Пра надыход пэўнага ўзросту.* Во і табе гады́ пыдбірáюцца, а кáжыцца, ета ўчора ўсё було. Я саўсім дзяўчонкыю была, а яму гады пыдбірáліся лáдныя. Як гады будуць пыдбірáцца, тады задýмыіцца большы. *Зак.* **Гады падабраліся,** *пр., буд.* Неік ніўзаметку гады пыдыбрáліся, ці даўно хлопцымі былí, а ўжо зы підзьдзісят. Пыдбярýцца гады і жаніцца ураз узыйгрáіць.

**Гады падходзяць,** *цяп., пр., буд. Пра адпаведнасць па ўзросту да пэўнай справы.* Твой ужо служыць, а майму гады патходзюць, сёліта прізавýць. Канешня, гады пытхадзілі тады, я ж нічога проця ні гыварю́. Ішчэ ён молыд, як будуць пытхадзíць гады к слýжбі, тады другоя дзела. *Зак.* **Гады падыйшлі,** *пр., буд.* Пыдыйшлí гады жыва, сёліта ны дзійствíцільную нада зьбірáцца. Гады падойдуць так скора, што ні замецíш.

**Гайка слаба**. *Пра бяссілле вырашыць задачу або ажыццявіць дзеянне.* Гáйка слáба ў яго прідýмыць штонебудзь лýччыя. Што ж ты бярэсься кірувáць, есьлі гáйка слáба. Гайкі слабы ў іх пырядкі тама нывадзіць, там нада зь зялезныю выдзіржкыю людзі, а то й сы стальною.

**Гайкі закручываць** (завінчываць). *Узмацняць патрабавальнасць.* Новый стыршынá крута ўзяўся гáйкі закрýчывыць. Ты дужа ні глядзі на іх, завíнчывый гайкі як нада. *Зак.* **Гайкі закруціць** (завінціць). Тут яны рызбысятнічыліся, а тама ім гайкі закрýцюць жыва. Тваім нада було даўно зукруцíць гайкі, яны рузмудрелі большы некуды. Зывіньцí гайкі, дык скарей якей толк будзіць. *Узмацн.* **Гайкі пазакручываць** (пазакруціць, пазавінчываць, пазавінціць). Каму-камý, а тваім нада пызакрýчывыць гайкі, і крепка нада. Ім нада пузукруцíць гайкі, каб ня пікнулі. Нісмáшна стала, як гайкі пызавíнчывыў, затоя аціхлі. А тады ім Пушок гайкі крепка пызывіньцíў, аж пыцішэлі ў яго. *Працягл.-фінальн.* **Гайкі назакручываць** (назавінчываць). Ліпяцёнык табе ныэакрýчыіць

гайкі, яго сымаго нада ні абы-як у руках дзіржа́ць. Ты ўжо нызавінчывыіш гайкі, луччы маўчы́ з завінчывыньнім сваім.

**Гайкі падкручываць** (падвінчываць, падцягываць). *Крыху ўзмацняць патрабавальнасць.* Ты ні сьцісьня́йся, гайкі паткру́чывый, то лу́ччый толк будзіць. Трошку паткру́чыіць гайкі, дзісьціплі́нку дзержыць. Зразу прігліда́ўся, нічога, а тады дывай падві́нчывыць гайкі. Каму ты будзіш гайкі пыцьця́гывыць, Барчонык рузбуўта́ўся, што большы некуды. *Зак.* **Гайкі падкруціць** (падвінціць, падцягнуць). К нам пупадзецца, дык гайкі паткру́цім, як шоўкывый ста́ніць. Ну што ты падві́ньціш гайкі, калі ён нікога ў рязон ні прініма́іць. У арміі табе пыцьця́гнуць гайкі, там усё пы кыма́ньдзі будзіць. *Працягл-фінальн.* **Гайкі нападкручываць** (нападвінчываць, нападцягываць). Ныпаткру́чывыў ты га́йкі, што ён цябе саўсім слу́хыць пірістáў. Руспусьці́ліся, рузмудрелі, твыря́ць, што хочуць,— во так ныпадві́нчывыў га́йкі. Тэй ныпыцьця́гыіць гайкі, будзіць пыцьця́гнута, яго ж ніхто у рязон брацЬ ня ду́мыіць.

**Галава аблазіць** (аблязаець), *цяп., пр. Пра вялікія клопаты, страты.* Гылыва́ абла́зіць, калі, што і як прідба́ць: зыкла́лі дажджы́ і сьціха́ць ня ду́мыюць дайжа. Што ты ныcьцiга́іш с пацьцёлкым, у мяне і так гылыва́ аблізáіць, як етый скот прыкармі́ць. Проста гылыва абла́зіла, як іх да толку давесць, ду́мыў. Як сыбра́ліся с усіх канцоў — сямейка дзьвіна́ццыць душ, аблізáла гылыва́, як ныкармі́ць. *Зак.* **Галава аблезіць.** Як ні рышчысьля́й — і ўчыць нада, і гылыва́ аблезіць, пакуля іх павы́вучыш. *Узмацн.* **Галава пааблазіць** (паабляза- ець, пааблезіць), *буд., пр.* Сколька ні дай, зы нядзелю раскоціць, тут гылыва пыабла́зіць, айдзе што брацЬ. Пыблізáюць голывы адз забот-клапот, а яны і ў рязон ні бяру́ць пызабоціцца, прідба́ць што . Голывы пыаблезуць трухтува́ць іх толька ды за імі уха́джывыць. Гылыва́ пыбла́зіла, як зь імі сыўлыда́ць, каб хут троху слухылі. Нукупля́лі пызьнячкоў, трясу́цца ат холыду, гылыва паблезла, як іх пругудува́ць. *Працягл.* **Галава нааблазіць** (наблязаець), *іран., буд., пр.* У цябе дужа ныбла́зіць гылыва пы сям'е, есьлі адною заботыю жывеш, айдзе вы́піць. Ні біспакойся, у іх голывы ні пыаблізáюць пы тваём горі. Дужа многа ныбіспакоіўся, гылыва́ ў яго

ныбла́зіла: даў дзіся́тку і забы́ў, што сын ёсьць. *Гл.* Г а л а в а  а т в а л і в а е ц ц а.

**Галава атваліваецца** (адпадаець), *цяп., пр., буд. Пра вялікія клопаты, страты.* Тут гылыва́ атва́лівыіцца, с адным як рызыбра́цца, а ты мяне у другоя умыка́іш. Глядзі́ ты, і ў яго гылыва́ атпыда́іць, усё дно як клапот повін рот. Летысь, пакуль мы тут с усім уся́кім рызыбра́ліся, у нас атва́лівыліся голывы. Гылыва́ будзіць атпыда́ць і ні прідý мыіш, як вы́брыцца. *Зак.* **Галава атваліцца** (атпадзець). Пакуля пріспасобіш вас к месту, гылыва́ атва́ліцца. Пра ўсіх так дý мыць, клыпаці́ць, біспакоіцца, і гылыва́ атпадзець. *Множн.* **Голавы** (галовы) **паатваліваюцца** (паатвалюцца, паадпадаюць, паадпадуць). У вас голывы ні пыатва́лівыюцца, вам ні п чым біспакойства німа. Голывы пытва́люцца, ежылі нам адным сныбжа́ць вас. Быіцёся, што голывы пыатпыда́юць? — цэлы бý дуць. Такія стра́ты етый год са ўсіх бакоў, што, глядзі́, голывы пытпадý ць. Так ныкышыля́лі там, што галовы пытвалюцца рызыбра́цца. Дý мылі, галовы пытпыда́юць, пакуля тут упыря́ччыліся.

**Галава забіта.** *Пра заклапочанасць ад розных думак.* У мяне дык адным гылыва́ забі́та — каб вас у людзі скарей вы́вісьць. Чым жа, стра́днік ты мой, у цябе гылыва забі́та?

**Галава з плеч.** *Пра абавязковасць выканання.* Дорыш, есьлі пыбішча́ў, то гылыва́ с плеч, а прі́дзіць. Я тріпа́цца ні люблю, сказына — гылыва с плеч, ну зьдзелыю.

**Галава і два вухі,** *іран. Бесталковы, дурнаваты.* Што пры яго скажыш: гылыва́ і два вý хі.

**Галава кружыцца,** *цяп., пр. Пра зазнайства, пераацэнку сваіх магчымасцей.* У цябе даўно гылыва крý жыцца, думыіш, луччы ўсіх. У яго ўсігда гылава кружы́лыся, нос драў угору. *Зак.* **Галава закружылася,** *пр., буд.* Гылыва ў цябе зукружы́лыся аттаго, што на етый раз табе хырашо ўдалося, думыіш, ка́жын раз так будзіць. Ня бойся, у мяне гылыва ні закружыцца, як у дачок твайго бацькі. *Узмацн.* **Голавы** (галовы) **пазакружыліся,** *пр., буд.* Раз іх там устрецілі, прівецілі, у іх ужо і голывы пузукружы́ліся. Чаго у нас голывы пызакрý жуцца, у вас мазкі́ ныбікрень скарей стануць. Віду ні пыдыва́йця дужа, ато ў іх зразу галовы пызакрý жуцца.

**Галава на плячах.** *Пра здольнасць разумець, кеміць.* У Сашкі гылыва ны плічах, ня то што ты як веціp: куды павернуць, туды й гатоў. Каб галовы ны плічáх былі, то ні піріхалопілі б.

**Галава не баліць,** *цяп., пр., буд. Пра адсутнасць заклапочанасці.* У цябе гылыва ні балíць ні за што, у мяне толька дылжнá балець за ўсё ўсякыя. Ну й ладна, кылі мыя гылыва ні балела, ты ж зато многа дýмыў. У вас гылывá ня будзіць балець, вы ўсё ны мяне надзеіціся. **Галава баліць.** Во-о, твыя гылывá баліць, што дровы кынчáюцца, пы табе хуць замёрзьні. Каб Васькіна гылыва так балела, то былі б с хлебым,— біс куска б сядзелі. А ўжо ці буду бáрствывыць, ці пу кускáх цігáцца, дужа твыя гылыва будзіць балець. *Зак.* **Галава не забаліць,** *буд., пр.,* Ваша гылыва ні зыбалíць, а я пра ўсё клыпаціся. Як бацька у бальнíцу лёг, твыя гылыва ні зыбалела, а мне пріхадзíлыся рызрывáцца ну кускí. **Галава забаліць.** Пыдажджы, у Пырхімкá зыбаліць гылыва па чомнебудзь. Каб у яго зыбалела гылыва ніхай ба ап чым,— ні разу і ніскoлька. *Непаўн.* **Галава не пабаліць,** *буд., пр.* У сьвёкыра гылыва ні пыбалíць, знаіць, што будзіць зьдзелына. Ні пыбалела гылыва ніскoлька за ўсё ўремя. **Галава пабаліць.** Яны саўсім ні за што ні бяруцца, а ня то ў іх пыбаліць гылыва. Я знаю, як у іх пыбалела гылыва: вы́піць шукáлі. *Працягл.-фінальн.* **Галава набаліць,** *буд., пр.* Дужа доўга у Антона гылывá ныбалíць,— заўтря забýдзіць усё. Ныбалела гылыва: узноў сьпіць як пышанíцу прыдáўшы.

**Галава не дрогнула,** *пр., буд. Пра адсутнасць хвалявання і клопату.* Там жа ўсё сваё, худзь ба ж пыклыпаціўся, прібраў,— дык гылыва ня дрогнула. Ніхай мякніць, ніхай гніець, у яго дайжа гылыва ня дрогніць ні ап чым ні пріняць, ні прібраць. **Галава дрогнула,** *пр., буд.* Хацела ты, каб у гультуя́ гылыва дрогнула. Дрогніць у яго гылыва, дажджэсься з моря пагоды.

**Галава пухнець,** *цяп., пр. Пра наяўнасць шматлікіх клапатлівых і цяжкіх думак.* Я ўжо дýмыю-дýмыю, аж гылыва пýхніць, і нічога ні прідýмыю. Ён так дýмыў — гылыва пухла, і нічога ні прідýмыў.

**Галава разураецца,** *цяп., пр., буд. Пра вялікую заклапочанасць.* Рузуря́іцца гылыва, як у тую бульбу лезьць с канём, іна ж бушýіць. Я столька думыў, як с та-

кея бяды вы́лізьць — пряма гылыва рузуря́лыся. Чаму ня будзіць гылыва рузуря́цца, есьлі столька дзірік і ўсе нада заткну́ць. *Зак.* **Галава разурылася,** *пр., буд.* Гылыва рузурі́лыся, як зімува́ць, і пацьцёлка пірідзіржа́ць нада. Тут і ня хочыш, дык гылыва сыма разу́ріцца, кылі ета ня жы́цілі, а шыпірня́. *Множн.* **Голавы** (галовы) **паразураліся** (паразурыліся), *пр., буд.* Голывы пурузуря́ліся, куды і ў якей бок бежч, айдзе іска́ць. Пурузурі́ліся голывы ува ўсіх, што тут дзелыць. Пурузурі́ліся галовы ў нас, мы ж нічога ні пріду́мыім. Голывы пурузуря́юцца ат адных толька адзь дзяцей, а тута вы ішчэ пычына́іця серца рваць. Галовы пыразу́рюцца, нягож ні пыразу́рюцца, а што ж ты думыў. *Узмацн.* **Галава наразуралася,** *пр., буд.* У мяне ні так гылыва нурузуря́лыся, мне нада було куды большы выкру́чывыцца. Ішчэ нурузуря́іцца гылыва, хваціць.

**Галава раскалываецца,** *цяп., пр., буд. Пра вялікую заклапочанасць.* Гылыва рыска́лывыіцца, айдзе б трошку клеўру на семя дыста́ць. У мяне гылыва рыска́лывылыся адз забот, што б я дзелыла, каб ты ні пріехыў. Хужы, кылі гылыва будзіць рыска́лывыцца, ды нічога ні приду́мыіш. *Зак.* **Галава раскалолася,** *пр., буд.* Рыскалолыся гылыва, што цяперь і як дзелыць. А як жа ты думыла, жыць прі́дзіцца, ішчэ ні раз гылыва расколіцца. *Множн.* **Голавы** (галовы) **параскалываліся** (параскалоліся), *пр., буд.* Голывы нашы пырыска́лывыліся,— столька мы ду́мылі і тушнува́лі. Мы столька думылі, што як толька галовы ні пырыскалоліся. Буваіць, галовы пырыска́лыюцца, ды нічога ні прідумыіш. Канешня, у вас галовы пырасколюцца, — вы і ў тэй бок ня хочыця гля́нуць. *Гл.* Галава разураецца.

**Галава садовая** (яловая), *неадабр. Бесталковы, дурнаваты.* Гылыва́ твыя садовыя, дзевухна, каго ж ты слу́хыла, у яго ж пяць жонык, кромі цябе. Што ты дзелыіш, гылыва яловыя, хаму́т клішча́мі к пліча́м зыпріга́іш.

**Галава саломаю** (мякінаю) **набіта.** *Пра слабога розумам.* Раз гылыва саломыю набі́та, сядзі і маўчы, ні ўлазь зь ізыком. А што ён разумныя ска́жыць, кылі гылыва мякі́ныю набіта.

**Галава скіпаецца** (ламаецца, раскяпліваецца, раскепліваецца, разламываецца), *цяп., пр., буд. Пра вялі-*

*кую заклапочанасць.* Чаго ж яшчэ табе гылыва ськіпа́іцца, што цябе так біспакоіць? Сядзі́ць іна, гарю́іць, лума́іцца ў яе гылыва, і нічога ня можыць пріду́мыць. Рыськя́пліiцца гылыва, куды цяперя етых ма́лых пріпуча́ць. А раськеплівыiцца гылыва, а што ж ты ду́мыў — ха́хынькі табе удавою аста́цца. Ні знаю, ці вы́хыджу я што зь естымі дукументымі, аж гылыва рызла́мывыiцца. Гылыва ськіпа́лыся, як ім було дыбра́цца. Што ў цябе гылыва лума́лыся, тут жа ўсё прасьцей простыга. Знаіш, сколька ўремя у мяне гылыва раськеплівылыся, я ж ні знала, што дзелыць. А ду́мыiш у мяне гылыва ні рызла́мывылыся? Тут ні так усё проста, тут гылыва будзіць ськіпа́цца, як што зьдзелыць. Будзіць у іх гылыва лума́цца, у гультаёў еткіх. Можыш пупа́сьць у такоя пылажэнія, што гылыва́ будзіць раськеплівыцца, а вы́хыду ня ўві́дзіш. *Зак.* **Галава раскяпілася** (разламалася, разламілася, паскіпалася, паламалася), *пр., буд.* Рыськяпі́лыся ў яе гылыва, ці ехыць, ці ня ехыць. Кызаў, што пряма гылыва рузлума́лыся, што ў іх там такоя. Рызламі́лыся мыя гылыва, куды яшчэ іці́ць і ў каго спра́шывыць. Ехыць, ня ехыць — гылыва пыськіпа́лыся. Гылыва пулума́лыся, айдзе тэя мушчы́ны маглі задзержыцца. Гылыва раськепіцца, пакуля што пріду́мыiш. Гылыва разломіцца, і нічога путнога ня будзіць. Чаго ў цябе так ужо гылыва пыськіпа́іцца, пріду́мыiш жа што-небудзь. Ну, галовы можа і ні пулума́юцца, а толька прімудрі́ць нешта нада. *Множн.* **Голавы** (галовы) **параскяпліваліся** (параскепліваліся, паразламаліся, паразламіліся), *пр., буд.* Тут голывы пырыськя́плівыліся, думый, айдзе яны, а яны гарелкі ныбра́лі і пац стог. Галовы пурузлума́ліся, мы ўжо ні зна́лі, што й ду́мыць. Чаго б ужо у вас так галовы пырызламі́ліся? Цэлы будуць, ні пыраськеплівыюцца вашы голывы. Папробуй тут што пріду́мый, голывы пурузлума́юцца. Там знаіш, сколька чаго нада ныпярёд ві́дзіць,— галовы пыразломюцца. Гл. Г а л а в а р а з у р а е ц ц а.

**Галава трашчыць,** *цяп., пр., буд. Пра вялікую заклапочанасць.* Гылыва́ тряшчы́ць, як я тут пірізіму́ю адна. Гылыва ўжо ў яго тряшчэла, тряшчэла, і так ён, і етык прікі́дывыў. Гылыва ні раз ішчэ будзіць тряшчэць, як вы́вірнуцца і як што прідба́ць. *Зак.* **Галава затрашчэла,** *пр., буд.* Кыза́ў, што й гылыва зытряшчэла, ды нічога ні пріду́мыў. Кірува́ць такім хызя́йствым — дык ладна гылыва зытряшчы́ць. *Множн.* **Голавы** (галовы) **пазатрашчэ-**

**лі,** *пр., буд.* Дальшы — большы, і адно ні пулучáіцца, і другоя, тут у нас і голывы пызытряшчэлі. Ніхай-ка, ніхай, пакуль у дзела ўлезуць, то галовы пызытрішчáць. *Узмацн.* **Галава натрашчэлася,** *пр., буд.* Мушчы́ны пашлі́, адна, як пáлка, ў хáці, за ўсім сыма, дык гылыва нытряшчэлыся. Астáніська адна—гылыва нытряшчы́цца уволю. *Гл.* Галава разураецца.

**Галавою налажыць** (накласць). *Загінуць.* Пашлі́ і гылавою ныла́жылі абоя. Гылавою ты ныла́жы на етыя грошы, я пíріжыву́. Ныкладзець гылавою, абізáцільна ныкладзець, так яму ня бойдзіцца. *Парайн.:* Тут баба выражыла, гылавою ныла́жыла, там, тут бабін кут.

**Галавою плаціць.** *Гінуць.* Я гылавою плаці́ць зы цябе ні хачу, сам расхлёбывыйся. *Зак.* **Галавою заплаціць.** Во й зыплаці́ў гылавою зы свае дуры́. *Множн.* **Галовамі** (голавамі, галавамі) **пазаплаціць.** Дорга ж дужа абыйшлося ім краньнё: галовымі пызыплацілі. А каб і голывымі пызыплацілі, ніхто б дужа ні плáкыў па еткіх атлётых. Ніхай яны гылывамі пызыплоцюць зы мае сьлёзы.

**Галаву забіваць.** *Запамінаць непатрэбнае, вельмі многа думаць.* Зыбіваіць сабе гылаву́ усякыю ірундою, чым нада і чым ні нада. *Зак.* **Галаву забіць.** Адны́м забі́ў гылаву — што Верка луччы ўсіх, і ніяк нічым ні піріўбядзіш. *Узмацн.* **Галаву пазабіваць** (пазабіць). Пызыбівáюць голывы адзін другому лухтою нісусьветныю. Ты ж чытай, што зыдáлі, ато заб'еш гылаву чым ні нада.

**Галаву знімаць.** 1. *Сурова караць.* Бáлывыцца, канешня, бáлыіцца, алі толька што ж гылаву зьнімáць, кылі на ім і так кожа ды косьці. 2. *Забіваць.* Ні такея атлёты былі, і то голывы ім зьнімалі. *Зак.* **Галаву зняць.** 1. Ты ў мяне даржэсься, што я сь цябе гылаву́ зьніму́. 2. Дзелыць нічога ні хацеў, паехыў, скруці́ўся нейдзі, гылаву́ зьнялі. *Множн.* **Голавы** (галовы) **пазнімаць** (пазняць). 1. Ета ніхто ні нáйдзіцца іх уняць, голывы пызьнімáць, каб уціхлі троху. Во пызьня́ць ба галовы, каб с ума ні сходзілі. 2. Голывы зы такоя дзела пызьнімаць нада зразу. Нарву́цца ны такіх самых атлётыў, і пазьні́муць голывы. *Працягл.-фінальн.* **Галаву назнімаць.** 1. Нызьнімаіць ён гылаву, яго ніхто дужа ні баіцца. 2. Пырцізаны яго злаві́лі і спрашыюць: «Ну, ныззьнімáў зь людзей голывы? Як свыя дзержыцца?»

**Галаву класць** (лажыць). 1. *Гінуць.* Гылаву класьц зы цябе ніхто ні ста́ніць. Нямнога ахотнікыў лажыць гылаву у дурны́м дзелі. 2. *Рашуча заступацца або ручацца.* За хрёсныга бацьку гылаву́ кладзець. Адзін зу другога гылаву́ ложыць — так сьпеліся. *Зак.* **Галаву пакласць** (палажыць). 1. Мой пыц самым Берлінын гылаву́ пыкла́ў. Ні я буду, што ты гылаву́ паложыш сы сваім хра́кцірым. 2. Такі́мі друзья́мі сталі, што адзін ат аднаго ні ны шаг, кажыцца, адзін зу другога гылаву пыкладу́ць. Анька зу Кузьмовічыў гылаву б, верна, пылажы́ла — так стаіць за іх. *Законч.* **Галаву скласць** (злажыць). *Загінуць.* Ні знаю, айдзе й гылаву склаў, айдзе й магіла яго, прісла́лі, што прыпа́ў бізь вясьцей. Многія кудріча́ні тут, пад Горкымі, на Проні, голывы злажы́лі.

**Галаву круціць** (кружыць). *Легкадумна зачароўваць.* Кру́ціць дзеўкі гылаву́, а йна ду́мыіць, што ён брць зьбіра́іцца. Голывы хлопцым кру́жыць, лю́біць, каб зы хвастом бегылі. *Зак.* **Галаву закруціць** (закружыць). Гылаву́ дзеўкі зукруці́ў, што места сабе ні находзіць. Ён гылаву зукружы́ць умеіць, як хочыш можыць прікі́нуцца. *Пачын.* **Галаву ўскруціць** (ускружыць). Зы Марыіныю дачкою улiга́іць, відна, ні на сьмех ускруці́ла гылаву. Нейкыя ж у Белі ускружы́ла яму гылаву́, ні выла́зіць аттуля. *Непаўн.* **Галаву пакруціць** (пакружыць). Троху пукруці́ла хлапцу́ гылаву, рана замуж вы́скычыла. Тымарі гылаву пукружы́ў, а жаніўся зь Веркыю. *Працягл.-фінальн.* **Галаву накруціць** (накружыць, дакруціць, дакружыць). Ні пасьледнія халера быў, нукруці́ў дзеўкым голывы. Храбрыя дужа была, нукружы́ла гылаву Сямёну, што кінуў з брю́хым і паехыў. Дакру́ціш ты голывы, дакру́ціш, ны са́мый пасьледній жэнісься і будзіш жыць. Што, дукружыла гылаву, і рада б замуж, ды ні бяру́ць.

**Галаву прытуляць** (прыхінаць). *Знаходзіць прытулак.* Трошку у Шуркі гылаву пріту́ля́ла, а тады зывірбува́лыся і паехыла. Ці за́гыдзя хто знаіць, айдзе пры́дзіцца гылаву пріхіна́ць. *Зак.* **Галаву прытуліць** (прыхінуць). Што мы, с кустоў глядзелі, як дзяреўня смылі́ць, а прішлі, як немцы ацступі́лі,— адны гылавешкі, нейдзі і гылаву прітулі́ць. Айдзе ж мне і гылаву́ пріхіну́ць, калі ні ў цябе. *Множн.* **Голавы** (галовы) **папрытуліць** (папрытуляць, папрыхінуць, папрыхінаць). Ета хырашо, што цётка доб-

рыя, дык пыпрітулі́лі голывы, а так ба айдзе вы дзіва́ліся. Галовы пыпрітуля́лі на ўремя у Санькіныя цёшчы. Бедныя дзеці, айдзе ім цяперіцька пыпріхіну́ць галовы. Пыпріхіна́лі галовы у Вульляны каўшоўськія, спасіба ёй, ні ткыза́ла. *Працягл.-фінальн.* **Галаву напрытуляць** (напрыхінаць). У Віряб'ёвых ня дужа гылаву ныпрітуля́іш. Сколька ты ўремя ныпріхіна́ла у іх гылаву?

**Галавы не станець,** *буд., пр. Не хопіць сродкаў.* Тваё гылавы́ ні ста́ніць учыць іх зразу чэцьвіра. Каб на ўсіх вас петывыцца аднаму́, і гылавы б ні ста́ла.

**Ганяцца за доўгім** (длінным) **рублём.** *Пастаянна імкнуцца да лёгкага і вялікага заробку.* Пычанець гыня́цца за доўгім рублём, а там кымпа́ніі пойдуць, гарелычка, і сап'ецца. Нійдзе яму ні було места, усё за длінным рублём гыняўся. *Непаўн.* **Паганяцца за доўгім** (длінным) **рублём.** Гады два пыгыняўся за доўгім рублём, паезьдзіў дый асеўся. Што, есьлі пыгыня́іцца за длі́нным рублём, ня дужа яны сма́шныя длінныя етыя. *Працягл.-фінальн.* **Наганяцца** (даганяцца) **за доўгім** (длінным) **рублём.** А ныгыняўся за доўгім рублём, зьбіў ахоту. Як пысядзі́ць калі біс капейкі ў кырма́ні, тады ныгыня́іцца за длінным рублём. Дыгыняўся за доўгім рублём, пріехыў галы́м голінькій, што на ём, то і ўсё. Дыгыня́юцца за длінным рублём, як бялі́шчынскія атлёты.

**Ганяць сабак** (лодыра), *асудж. Бяздзельнічаць, гультаяваць.* Я віджу, што ў цябе адно зыня́ція — гыня́ць сыба́к. Кынча́й-ка гыняць лодыря ды бяріся зы цяслу́. *Непаўн.* **Паганяць сабак** (лодыра). Два месіцы сыбак пыгыня́ў. Пыгыня́лі лодыря уволю, ня хочыцца цяперь ні за што ім брацца. *Законч.* **Адганяць сабак** (лодыра). Ці адгыня́ў ты сыбак, ці ўзноў ні за што ня возьміська. Лодыря адгыня́лі, бяріціся зы работу. *Працягл.-фінальн.* **Наганяць** (даганяць) **сабак** (лодыра). Ныгыня́юць сыбак, хва́цюцца за розум. Ныгыня́лі лодыря, прыбязьдзельнічылі паўгода. Дыгыняў сыбак, хваці́ўся вума́. Лодыря дыгыня́юць, што прі́дуць пызычаць і хлеба, і грошы, ну ні дам, ніхай кіда́юць гульта́йства.

**Гарадзіць чапуху** (ярунду, чуш), *неадабр. Гаварыць пустое.* Дужа нам іньціресна слухыць, што ён будзіць чупуху́ гырадзі́ць. Гародзіць нейкыю ірунду́, пайдзём. Сядзелі, гырадзі́лі чуш, я там доўга ні тарчэла. *Зак.* **Згарадзіць чапуху** (ярунду, чуш). Я дык ду́мыю, што ўсю ету

чупуху згырадзіў твой зяць. Згырадзіць ірунду яму, што раз плюнуць. Згырадзілі чуш і пашлі ізыка́мі ла́хыць адна адной. *Непайн.* **Пагарадзіць чапуху** (ярунду, чуш). Сыбра́ліся, пыгырадзілі чупуху́ і рызыйшлі́ся. Што ён там аньцірeсныга рыска́жыць, так, пыгародзіць ірунду́. Ганна ізьвесна што, чуш пыгародзіць і пышла́. *Працягл.-фінальн.* **Нагарадзіць** (дагарадзіць) **чапуху** (ярунду, чуш). Прішоў, ныгырадзіў чупухі́, нібы́тта ўсё ета пра́ўда. Толька слухый іх, яны ныгародзюць ірунды. Чуш ныгырадзілі ўся́кыю, сыбра́лі мох з балота. Дыгародзіш чупуху, што апсьмяю́ць, толька і ўсяго. Ірунду дыгырадзіў, яны атвярну́ліся і пашлі, а ты гырадзі́. Нехта вас дужа слу́хыць будзіць, дыгародзіця чуш, што папросюць с хаты.

**Гара з плеч звалілася** (спала, упала), *пр., буд. Пра наступленне палёгкі.* Цяперя я свабодна, пряма як гыра с плеч звалілыся. Тріпуці́ла свайго меншыга, дык у мяне што гыра́ с плеч спа́ла. Як у ха́ту на́ зіму яны ўлезьлі, дык у мяне гыра с плеч упа́ла. Калі ў мяне ета гыра́ с плеч зва́ліцца? Як гыра́ с плеч зь естымі дзіцямі спадзець, тады і к табе можа калі зыбягу́. Жду—ні дажду́ся, калі мне ета гыра с плеч упадзець.

**Гарам** (гарру) **гарэць** (брацца). *Гінуць, прападаць.* Ніхай га́рым яно ўсё гарі́ць, нічога яму ні жа́лка, прыпыда́іць — ну й ніхай прыпыда́іць. Каб га́рым усё бра́лыся, ён ба па́льцым ні шывяльну́ў. Во га́рьрю ніхай гарі́ць, да́йжа у тэй бок ні гля́ніць. Ніха́й іна га́рьрю бярецца і жы́зьня тыка́я, каб я тут хуць на́ дзінь яшчэ аста́ўся. *Зак.* **Гарам** (гарру) **згарэць** (узяцца). Каб га́рым усё згарела, і вачэй ба ні ўзьняў у тэй бок гля́нуць. Хуць га́рьрю вазьмі́ся, яму худзь ба што, пад'еў, гармоню зы плячо і пыда́ўся. Ніхай ты га́рьрю згарі́ш зь естымі сваімі рызгаворымі. Луччы яно гарьрю возьміцца дзела такоя, што я тут магу зьдзелыць.

**Гарачая галава.** *Пра нявытрыманага, неразважлівага.* Андрей быў гырячыя гылыва, як успы́хніць на што ні паду́мыўшы — ні дгывары́ць. Раз гыря́чыя гылыва́ — вадою халодныю нада, ён тады асты́ніць сы сваё гылавою.

**Гарод** (прасла) **гарадзіць,** *неадабр. Рабіць бескарысную справу.* Ці стоіла і гарод гырадзі́ць, калі ні зна́лі толкым, ш чаго пычына́ць. Што ты зыга́дыіш пря́сла гырадзі́ць с кыхля́нкыю, хто табе яе зьдзелыіць. *Зак.* **Гарод** (прасла) **згарадзіць.** Возьмісься — толька гарод згаро-

дзіш, толку ня будзіць ніякыга. Пычына́ць, каб толька пря́сла згырадзі́ць, я ні хачу, а як нада зьдзелыць — уремя ня будзіць. *Працягл.-фінальн.* **Гарод** (прасла) **нагарадзіць** (дагарадзіць). Куды ета к чорту гадзі́цца: ныгырадзі́ў гарод і кінуў. Бяру́цца, каб толька прясла ныгырадзі́ць, большы нічога. Ныгародзіш прясла — я зы цябе пірядзелывыць ня буду. Што, дыгырадзі́ў гарод, рысьця́гыіш? Дыгародзіця прясль сы сваім нысьціла́ньнім, як ба́хніцца усё ўніз.

**Гарэць ад** (са) **стыда** (страму). *Адчуваць вялікі сорам.* Пыглядзелі мы на іх, абея пря́ма гарелі ац стыда́. Ня трогый, іна і так гарі́ць сы стыда́. Мы ў хату, а ён кыпа́іцца ў сундуку́: што ты дзелыіш? што табе нада? — гареў ён, гареў ац стра́му, дый гарець большы некуды. Тут нада гарець сы стыда, а яму худзь ба што. *Зак.* **Згарэць ад** (са) **стыда** (страму). Ны яго месьці нада було згарець ац стыда. Мы й то гарелі ац страму, а ды яго ні дайшло. Кінь, ато наткну́цца — дык будзіць згарець сы стра́му. *Непаўн.* **Пагарэць ад** (са) **стыда** (страму). Не, йдзі, пыгарі́ш сы стыда — будзіш знаць, як браць чужоя. Там яму сядзець було ня дужа прія́тна, пыгареў ац страму. *Працягл.* **Нагарэцца ад** (са) **стыда** (страму). Каб ныгареўся ац стыда, як Цюхялёнычык, тады б, можа, пурузумнеў. Хвацíла абаі́м, ныгареліся сы страму, вы́йшлі кра́сныя, што ра́кі.

**Гарэць у руках.** *Выходзіць лоўка, хутка.* За што ня возьміцца, усё гарі́ць у рука́х. Ён быў ма́сьцір ні табе вірста́, у яго ўсё, бува́ла, гарела ў рука́х.

**Гатоў скрозь зямлю праваліцца.** *Пра адчуванне вялікага сораму, няёмкасці.* Я быў гатоў скрозь зямлю прываліцца ат еткыга стра́му. Мы б гатовы скрозь зямлю прываліцца посьлі тых кынапель.

**Гіблае** (прапашчае) **дзела.** *Дрэнная або дарэмная справа.* Гі́блыя дзела заду́мывыць што ра́зым зь Дзім'янёнкым. Гі́блыя дзела ў Івана, што ён цяперь даб'ецца? — нічога. У Стыхвана што-небудзь сы́йскывыць — прыпа́шчыя дзела.

**Гладзіць па галоўкі,** *неадабр. Патворнічаць.* Гла́дзіла сваіх пы галоўкі і дыгла́дзілыся — дайжа вады пыда́ць ня хочуць. *Зак.* **Пагладзіць па галоўкі.** Зы такея дуры ба́цька цябе пы галоўкі ні пыгла́дзіць. *Працягл.-фінальн.*

**Нагладзіць** (нагладзіцца, дагладзіць, дагладзіцца) **па галоўкі.** Ныгла́дзіш ты яго пы галоўкі, што цірізь якей год-два ён пойдзіць пы гылыва́х. А ныгла́дзіліся іх пы галоўкі, нада ў рукі брацъ, ды крепка. Усё прышча́ла, зуступа́лыся, ну й дыгла́дзіла пы галоўкі: сыма пла́чыць. Я нічога ня буду гыварі́ць, а толька самі пачу́ствыюць, што дыгла́дзіліся пы галоўкі.

**Гладзіць пад шэрсць** (проця шэрсці), *гумар. Рабіць, гаварыць наперакор.* Ты пыбаі́сься, ета Пёкла — тая, бувала, ні глядзела, усё іх гла́дзіла пач шэрсьць. Ла́дна, кылі ўсё па шэрсьці ды па шэрсьці, а ніхай хто пычанець гла́дзіць проця шэрсьці — во тады сябе пыка́жуць. *Зак.* **Пагладзіць пад шэрсць** (проця шэрсці). А ты папробый-ка пыгла́дзь пач шэрсьць, тады яго луччы пызна́іш. Я ні пыба́юся і проця шэрсьці пыгла́дзіць. *Працягл.-фінальн.* **Нагладзіць** (нагладзіцца, дагладзіць, дагладзіцца) **пад шэрсць** (проця шэрсці). Ты ныгла́дзіш пач шэрсьць, будзіць цярьпець, цярьпець, а тады бірягі́сь. Ныгла́дзіць ён проця шэрсьці Іўтуха́. Ныгла́дзісься пач шэрсьць, яны доўга чы́кыцца ныўря́д ці ста́нуць. Ай, Прося, пірі́ста́нь, ты і так ныгла́дзілыся іх проця шэрсьці. Дыгла́дзюць яны Сямёна пач шэрсьць, ён шуці́ць ня лю́біць. Зь ім жа так: адно слова ня тоя скажыш — і зыкіпеў, дык дыгла́дзіш проця шэрсьці. Глядзі, дыгла́дзісься пач шэрсьць, ныжывеш сабе урагоў на ўсю жысьць. Усігда йна любіла путкулупну́ць, ну, во й дыгла́дзілыся проця шэрсьці.

**Гладзіць па шэрсці,** *гумар. Рабіць прыемнае; паддобрывацца, улагоджваючы.* Кажныга гла́дзіць па шэрсьці, проця слова ні ска́жыць. *Зак.* **Пагладзіць па шэрсці.** Ня сердзі, пыгладзь па шэрсьці, ніхай ні кіпі́ць. *Працягл.-фінальн.* **Нагладзіць** (нагладзіцца, дагладзіць, дагладзіцца) **па шэрсці.** Ныгла́дзіла свайго ку́ма па шэрсьці: ла́іць на чом свет стаі́ць незышта. Ныгла́дзісься па шэрсьці, скора ныдаесьць. Дыгла́дзілі брігадзі́ра па шэрсьці, атыбра́ў калёсы. Можа й мы дыгла́дзімся Віцьку па шэрсьці, як тэя Колю.

**Глухая цяцера,** *абраж. Глушак, глухі.* Ці гывары́, ці ні гывары́ глухой цяцері, ён, як па́лка, нічога ня чуіць. Усё рыўна што з глухою цяцерію, ні так, ні етык с табою.

**Глухей цецярлюк,** *абраж. Глушак, глухі.* Што яму ўталку́іш — глухей ціцярлю́к, нада у самыя ву́ха кріча́ць.

**Глытаць слёзы.** *Плакаць, стрымліваючы рыданні.* Сколька раз мы відзілі: стаіць Зьмітрок зу вуглом, глыта́іць сьлёзы. *Непайн.* **Паглытаць слёзы.** Ну што іна, трохну пыглыта́ла сьлёзы ды пышла́. *Узмацн.* **Наглытацца слёз.** Ныглыта́ліся сьлёз усі ўтрёх, і пла́кыць жа дужа быя́ліся.

**Глядзець бальшымі вачамі.** *Вельмі здзіўляцца.* Ну што глядзіш бальшы́мі выча́мі, як скызаў, так і будзіць. *Зак.* **Паглядзець бальшымі вачамі.** Стаі́м мы, нічога, рызгыва́рівыім, а ён прашоў міма, пыглядзеў бальшы́мі вычáмі. *Аднакр.* **Глянуць бальшымі вачамі.** Гля́нула бальшымі вычамі, нічога ні скыза́ла. *Шматкр.* **Пагля-даць** (паглядываць) **бальшымі вачамі.** Ці йна мяне ні пызна́ла, ці што: усё пыгліда́ла бальшымі вычамі. Усе ўжо кругом сталі пыгля́дывыць бальшымі вычамі, тады чуць-чуць сьці́хлі. *Працягл.-фінальн.* **Наглядзецца бальшымі вачамі.** Ныглядзелыся я і бальшымі вычамі, і малымі, ці мне пірьвіна́ ета ві́дзіць.

**Глядзець ваўком** (воўкам). *Выяўляць злосць у позірку.* Нешта Мітрыхван ны Кацю глядзі́ць ваўком. Трі гады хадзіў, воўкым глядзеў, усё ня мог забы́ць таго сходу. *Зак.* **Паглядзець ваўком** (воўкам). Абоя пыглядзелі ваўком і атвярну́ліся зра́зу. А па мне ніхай пыглядзі́ць воўкым, а хочыць—ніхай сыба́кыю гля́ніць. *Аднакр.* **Глянуць** (зірнуць) **ваўком** (воўкам). Усігда, як праходзіць, гляніць ваўком і атверніцца у другей бок. Ны Хвядору глянуў воўкым і ўсім аста́тнім дайжа здра́стуй ні скыза́ў. У і́хный бок зірнець воўкым усігда, кажыцца б, зьеў там каго. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **ваўком** (воўкам). Чаго ета ён пыгліда́іць ваўком на Люську? Доўга воўкым пыглідаў, гады два. Учора і прывыджа́ць зь вічарінкі ні пашоў, і сяньня пыгля́дыіць ваўком. *Працягл.-фінальн.* **Наглядзецца ваўком** (воўкам). Ты ныглядзеўся на іх ваўком, што большы некуды, і маўчы. Ныглядзі́цца воўкым, турну́ць калі-небудзь, што адно шалу́п'іцьця будзіць трынчэць.

**Глядзець ва ўсе вочы.** *Надзвычай здзіўляцца ад неразумення.* Я стаў, стаю, а ён глядзі́ць ва ўсе вочы: і пызна́ць ба нада, і ня веріцца. *Зак.* **Паглядзець ва ўсе вочы.** Ва ўсе вочы пыглядзеў, сьпірва́ хацеў, відна, скызаць нешта, а тады пывярну́ўся і пашоў. *Аднакр.* **Глянуць ва ўсе вочы.** Ва ўсе вочы глянула: аткуля я ўзя́ўся.

*Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **ва ўсе вочы.** А чаго ж Ганна пыглідáіць ва ўсе вочы? Пыгля́дывыіць ва ўсе вочы, ня веріць, што я тут магу быць. *Працягл.-фінальн.* **Наглядзецца** (нагледзецца) **ва ўсе вочы.** За дзесіць гадоў нагледзіліся мы ва ўсе вочы на іх жы́зьню.

**Глядзець другімі вачамі.** *Ацэньваць іначай.* Посьлі таго случыя мы ста́лі глядзець ны Лявоныывых другімі вычамі. *Зак.* **Паглядзець другімі вачамі.** Па-мойму, цяперя яны пыглідзя́ць другімі вычамі, раз самі увíдзілі такоя дзела. *Аднакр.* **Глянуць другімі вачамі.** А вы гля́ньця другімі вычамі, ато прівы́клі ўсё хвалíць. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **другімі вачамі.** А ніхай, я ўжо другімі вычамі пыглідáю на ўсю тую кытывáсію. Цяперя і ты другімі вычамі пыгля́дывыіш ны Стыхвана?

**Глядзець за сабою.** *Быць уважлівым у адносінах да сябе, да сваіх паводзін.* Вулька абы-чаго ні ляпніць, іна строгыя, усігда зы сабою глядзíць. Лісей, бувала, глядзеў зы сабою, у чым зря ні разу на людзі ня вы́йшыў. *Зак.* **Паглядзець за сабою.** Пыглядзí зы сабою, можа і табе што-небудзь іначы дзелыць нада. *Аднакр.* **Глянуць за сабою.** А ты калі-небудзь вазьмі ды глянь зы сабою. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **за сабою.** Я б табе саветывыў зы сабою луччы пыглідáць. А зы сабою пыгля́дывыць тожа нада, ня толька зу другíмі.

**Глядзець зверху ўніз.** *Адносіцца з непавагай, пагардай.* Прівы́к ты глядзець зьверьху ўніз на ўсіх. *Зак.* **Паглядзець зверху ўніз.** А мне, думыіш, дужа важна, есьлі ны мяне хто пыглядзíць зьверьху ўніз. *Аднакр.* **Глянуць зверху ўніз.** Ніхай гля́ніць зьверьху ўніз, ніхай гляніць зьнізу ўверьх ці саўсíм ні глядзíць — мне ета ноль біс пáлычкі. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **зверху ўніз.** Быркаўчоньік — тэй, бувала, на ўсіх пыглідáў зьверьху ўніз: як жа, бгáства нямерныя було. Ты замеціла: ны сваіх дзевык ён пыгля́дывыіць зьверьху ўніз.

**Глядзець** (паглядзець, глянуць, зірнуць) **ненашта** (ненавашта). *Пра марнае, слабае, малое.* Відзіла я тую кыравёнку, там глядзець ненышта. Сёліта капуста ні зырадзíла, кычанкí пу кулакý, глядзець ненывышта. Узяў жонку, што пыглядзець ненышта, плоскыя, як доска, і сьперіду, і ззаду. Як рысхвáлюць, як рызрісýюць — ня дзеўка, а пісыныя крысáвіца, а зірнеш — пыглядзець ненывышта. Глянуць ненышта баня тая, воз дроў і то гні-

лых. Скасіў, раськінуў, сагрёб, а як склаў — і глянуць ненывышта, хуць у резьвіны бяры. Каб знаў, што там ненышта зірнуць, і ні пашоў ба. Там саўсім ненывышта зірнуць на тую цёлычку: худзенькыя, здохлінькыя, ці будзіць зь яе толк якей.

**Глядзець прама ў вочы.** *Адчуваць сябе невінаватым, незалежным.* Я гляджу́ пря́ма ў вочы, мне стыдзі́цца нечыга. А што ім цяперь атходзіць, глідзяць пряма ў вочы. *Зак.* **Паглядзець прама ў вочы.** Пыглядзець пряма ў вочы ты ня можыш, совісьць му́чыць.

**Глядзець праўдзе ў вочы** (ліцо). *Правільна ацэньваць становішча.* Не, пру Кузьму дренныга я нічога ні скажу́, ён усігда глядзеў пра́ўдзі ў вочы. Ты глядзі́ пра́ўдзі ў ліцо, нечыга хвастом вярцець. *Зак.* **Паглядзець праўдзе ў вочы** (ліцо). Я магу пыглядзець праўдзі ў вочы. Ты ж хуць раз пыглядзі́ праўдзі ў ліцо. *Аднакр.* **Глянуць** (зірнуць) **праўдзе ў вочы** (ліцо). Во калі ты надумыўся глянуць праўдзі ў вочы. Што, баісься гля́нуць праўдзі ў ліцо? Канешня, сты́дна зірну́ць пра́ўдзі ў вочы.

**Глядзець са сваей калакольні.** *Разважаць, меркаваць суб'ектыўна.* Ты на ўсё глядзі́ш сы свае кылакольні. *Зак.* **Паглядзець са свае калакольні.** А ты пыглядзі ні сы свае кылакольні, а паслу́хый, што другея гаворюць. *Аднакр.* **Глянуць** (зірнуць) **са свае калакольні.** Сы свае кылакольні гля́нуць ляхчэй, ды нада глядзець, айдзе праўда. Як зірнеш толька сы свае кылакольні, то многа ня ўві́дзіш. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **са свае калакольні.** А ён усю жысьць пыглідаі́ць кругом сы свае кылакольні, як яму патходзіць. Ім жа ныра́віцца пыгля́дывыць толька сы свае кылакольні.

**Глядзець скрозь пальцы.** *Праднамерана не звяртаць увагі.* Каб у дзецтві ні глядзела на і́хнія ду́рікі скрозь па́льцы, ды дзіржала хырашэнька ў руках, то й цяперь ба толк быў. *Зак.* **Паглядзець скрозь пальцы.** Раз пыглядзі́ш скрозь пальцы, другій раз, а на трецьцій ён і сам ву́хым ні пывядзець. *Аднакр.* **Глянуць скрозь пальцы.** Есьлі я цяперь ні абрачу́ ўніма́нія, гляну скрозь пальцы, то посьлі ён мяне і ў рязон ня возьміць. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **скрозь пальцы.** Ды пары да ўремя я пыгліда́ю скрозь пальцы. Што ж ён пыгля́дывыіць скрозь пальцы, тут нада строгія меры прініма́ць.

**Глядзець у бутылку** (бутылачку, румку, румачку, стаканчык), *іран. Выпіваць.* Звык во і звык глядзець у буты́лку, зьдзелыць што — і ня думый зыстыўля́ць. Што ты зь ім ска́жыш, глядзіць у буты́лычку. Куды-куды, а ў рю́мку глядзіць. Куды можа й ні глядзеў, а ў рю́мычку глядзеў часта. Чаму ні наўчы́ўся, а ў стыка́нчык глядзець наўчыўся. *Зак.* **Паглядзець у бутылку** (бутылачку, румку, румачку, стаканчык). Калі ж ты пасьпеў у бутылку пыглядзець? Абоя пыглядзелі ў буты́лычку, відзіш, як ідуць. Айдзе ты пыглядзі́ш у рю́мку, кылі дыхну́ць некылі. Пы паходкі відна, што пыглядзелі ў рю́мычку. Учора мы ла́дна пыглядзелі ў стыка́нчык ну лугу́. *Аднакр.* **Глянуць** (заглянуць, зірнуць) **у бутылку** (бутылачку, румку, румачку, стаканчык). Во, дык вы аба́я гля́нулі ў бутылку. Відзіш, Піліп глянуў у буты́лычку, як рысха́джыіць. Ніхай толька гляніць у рюмку, вясёлый, усё рыска́зыіць, луччы німа чылавека. Як гляніць у рюмычку, такіх нымяроў ныатка́лыіць, толька дзяржысь. Ты ці ні гля́нула ў стыканчык, што песьні заводзіш. Зыгляну́ць у бутылку ты ўмеіш, нечыга кызаць, ды есьлі яшчэ с крысьняком тым сойдзісься. Зыгля́ніць у буты́лычку, тады пашоў вышапру́дзіцца. З ра́ньня ў рюмку зыгляну́ў, сь песьнімі ходзіць па горыду. Ні біжа́йся, умеіць зыгляну́ць у рю́мычку. Есьлі зыгляну́ў у стыканчык, толку ні даб'есься, бу́дзіць абы-што верзьць і ўсё. Зыгляне́ць у стыканчык і дывай бушуваць. Ці ні зірну́ў ты ў бутылку, нешта дужа вясёла рызгыва́ріїш. Канешня, зірнуў у бутылычку, відзіш, як ара́тырствыіць, рукамі рызма́хыіць. Глядзі, ні прівучай, раз, другей зірнець у рюмку — ня тву́чыш. Зірну́лі ў рю́мычку, верна, ў Мыланкі, вясёлыя ідуць. Во-о, мыя кума́, ты, знаць, і ў стыка́нчык зірну́ла сяньня. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць, заглядаць, заглядываць) **у бутылку** (бутылачку, румку, румачку, стаканчык). Раншы ня піў, а цяперь стаў пыгліда́ць у бутылку. Купля́й, купля́й, зву́чывый, звы́кніцца пыглідаць у бутылычку — пра́нцы тады атву́чыш. Мой быў пыча́ў пыгліда́ць у рюмку, я жы́ва атвучы́ла. Калі ж ён наўчы́ўся пыгліда́ць у рюмычку? Каб меншы пыгліда́ў у стыка́нчык, ху́жы б ні було. У бутылку пыгля́дывыіць, дый глядзі́ць, каб часьцей. А што ты ду́мыў, Васіль, сьвятэй? — пыгля́дывыў у буты́лычку. Стаў і стаў пыгля́дывыць у рюмку, а ў рукі некыму було ўзяць, так і сьпі́ўся. Каб к

чаму добрыму, а ў рюмычку пыглядывыць і ўчыць ні нада. Раз пычаў у стыканчык пыглядывыць, ня жджы пуця. Зыгліда́іць у бутылку і мой, асобінна як сь Церіхывымі сойдзіцца. Ну што, зыгліда́іш у бутылычку, ці ні лі Карнея наўчы́ўся. Кідый-ка ты зыгліда́ць у рюмку, нада жы́зьню строіць. Ці ня тэй ета Максім, што ўсё ў рюмычку зыгліда́ў? Зыглідаў ў стыканчык, і ві́дзіш, чым кончыў?— найшлі́ мёртвыга. Зыглядывылі у бутылку абоя, а цяперіцька паехылі, ні знаю, як тама. У бутылычку б зыгля́дывыў, адно грошы ніхто ні зырыбля́іць. Лі бацькі наўчы́ўся зыгля́дывыць у рюмку. А мой, ты ду́мыіш, лу́ччыя цаца, у рюмычку зыгля́дыіць, ні пральлець. Зыглядывыў ба ў стыканчык, ды ніхто дырма ставіць ня хочыць.

**Глядзець у воба.** *Быць уважлівым, асцярожным.* Паедзіш, дык глядзі́ там у воба, пы быќах ні зіва́й і варон ні лаві́. *Зак.* **Паглядзець у воба.** Сьпірва пыглядзі́ ў воба, а тады ізыком тряплі. *Аднакр.* **Глянуць у воба.** Так ні ўсігда буваіць і дзелыіцца, нада перш глянуць у воба. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **у воба.** Адзін астаесься, дык пыглідай у воба, ато нікаторыя каровы толька і глідзя́ць, каб шмыгну́ць. Пыгля́дывый у воба, прапу́сьціш і ня ўгледзіш.

**Глядзець у вочы.** *Паддобрывацца, падлізвацца.* Нечыга мне ў вочы глядзець, большы нічога ні палу́чыш. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **у вочы.** Во любіць зыбіга́ць ныча́льства, як новыга брігадзіра пыставілі, етыму пыгліда́іць у вочы. Нідырма́ пыгля́дывыў Сашку ў вочы, пулучы́ў, што хацеў.

**Глядзець у гроб** (магілу, зямлю). *Быць блізка да смерці.* Я ўжо ў гроб глядзеў летыся, пакуля г дыктыра́м ні абраці́ўся. Ніда́ўна відзіў у горыдзі Максіма: чуць пірідзьвіга́іцца, глядзі́ць у магілу. Ну што ж, кылі Матруна глядзі́ць у зямлю́, ёй жа даўно зы дзівяноста. *Шматкр.* **Паглядаць у гроб** (магілу, зямлю). Старэй мой ні жылец, ён ужо ў гроб пыгліда́іць. У прошлым гаду́ ў магілу пыгліда́ў, а сёліта жані́цца ўзыйгра́ўся. Аць сьмертухны нійдзе ня дзенісься, і Маріна ў зямлю пыгля́дыіць.

**Глядзець у душу.** *Разбірацца ў пачуццях.* Можа ты яму і ў душу́ глядзіш, толька ня ві́дзіш там нічагенічка. *Зак.* **Паглядзець у душу.** Ну, ну, ты, канешня, ма́сьцір і

ў душу́ пыглядзець. *Аднакр.* **Глянуць** (зірнуць) **у душу.** Вот ты гаворіш, іна тыка́я, ды еткыя, а ці глянуў ты ў яе душу, што тама тварі́цца. Перш чым так судзі́ць, нада зірну́ць чылавеку ў душу.

**Глядзець у зубы,** *неадабр. Вазіцца, далікатнічаць.* Я глядзець у зубы доўга ні ста́ну, у мяне, брат, скора паслу́хыіш. *Зак.* **Паглядзець у зубы.** Не, большы табе ў зубы ні пыглідзя́ць, хва́ціць прітвыря́цца. *Аднакр.* **Глянуць** (зірнуць) **у зубы.** Што табе, у зу́бы ні глянулі, як ты хацеў? Ду́мыў, у зу́бы яму зірну́ць, ца́цу еткыму, ды не, ні на тых нырва́ўся.

**Глядзець у корань,** *гумар. Дабірацца да сутнасці.* Ці помніш, як Арьхіп любіў крічаць: «Я ўсігда гляджу́ ў корінь!» *Зак.* **Паглядзець у корань.** Нада ня проста што пачуў, то й тріпану́ць, а нада пыглядзець у корінь. *Аднакр.* **Глянуць** (зірнуць) **у корань.** Паду́шкі і на́вылкі— ета так, чупуха́, ты глянь у корінь. Як зірнуў у корінь, то й пыня́ў, чаго яны рызіва́юцца ўсігда. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **у корань.** Ду́мый, пыгліда́й у корінь, скарей рызьбяресься. У корінь ён пыгля́дывыіць, ды ня відзіць нічога.

**Глядзець у кусты.** *Мець намер пакінуць, пазбавіцца клопатаў.* Вы́йдзім на луг, дык усе работыюць, а Ганьніна дычка ўсё глядзіць у кусты́. У любым дзелі глядзі́ць у кусты. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **у кусты.** Хваціць пыгліда́ць у кусты, зы цябе ніхто другей ня зьдзелыіць. Гріша ні піряpьвецца нійдзе, лю́біць пыгля́дывыць у кусты.

**Глядзець упярод** (уперад, напярод, наперад). *Умець прадбачыць будучае.* Вы ўся́кым дзелі нада глядзець упярёд. Хто глядзі́ць уперід, тэй ні ў чом ні прыйграець. Ты ж ужо ні ма́лінькыя, учы́ся глядзець ныпярёд. Есьлі б наперід глядзеў трошку, то ні пупа́ў ба у еткій прыса́к. *Зак.* **Паглядзець упярод** (уперад, напярод, наперад). Перш чым што дзелыць, Янка пыглядзі́ць упярёд. Ты пыглядзі ўперід, паду́мый, у цябе ж клыка́ сена німа. Пыдажджы́, ён будзіць ныпярёд глядзець і нызя́д агліда́цца — і біз мылыка аста́ніцца. Ага, Сенька пыглядзі́ць наперід,— во к за́ўтріму куска хлеба ня будзіць, і ён ні пызабоціцца. *Аднакр.* **Глянуць** (зірнуць, заглянуць) **уперад** (упярод, наперад, напярод). Ня ўмеіш ты гля́нуць упярёд, саўсім ня ўмеіш. Ты ж глянь уперід, ты ж

зы паўгода згалееш і абасееш. Скот імець нада, ды нада ж гля́нуць наперід, сена ў цябе саўсі́м жа ску́па. Тут ні нада пріцска́зывыць,— каб трошку зірну́ў упярёд, пыня́ў ба, што так дзелыць ня стоіць. Ныпярёд зірні: зіма ны насу́, с-пāць сьнегу ціга́ць будзіш ата́ўку. Хведзька — разумный чылавек, ён табе зыгля́ніць уперід, што ты дайжа й ні паду́мыіш. Сьпірва́ зыгля́ніць ныпярёд, прікініць, а тады ўжо дзелыіць. Хто наперід зыглянець, ні прыйгра́іць. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць, заглядаць, заглядываць) **упярод** (уперад, напярод, наперад). А ты ня толька пры ся́нішнія ду́мый, а і ўпярёд пыгліда́й. Ты ж ні гамзі́ ўсё зра́зу, троху і напярёд пыгліда́й. А я ўсігда наперід пыгліда́ю, іна́чы ні прыжывеш. Мне што, я ўжо старуха, а табе нада пыгля́дывыць упярёд. Трошку большы пыглядывый уперід, цяпер ты сам хызяін. Я дык ба ны тваём месьці і ныпярёд пыглядывыў, адным днём ні прыжывеш. Сьціпан усігда зыглідаў упярёд. Мала ты зыгліда́іш наперід. Зыглядывый упярёд, зыглядывый, табе йшчэ жыць ды жыць. Сьціпаніда біс пріпа́су ні ча́су, іна ўсігда уперід зыглядывыіць. І ныпярёд зыгля́дывыла, і прышчыта́лыся, як ня ду́мыўшы.

**Глядзець у рот,** *неадабр. Лісліва паддобрывацца.* Тэй мыхалею вярзець, а яны пыся́дуць кружка́ і глідзя́ць у рот. Ні стыда, ні якой совісьці у чылавека, пріпрецца, сядзі́ць і глядзі́ць у рот, каб яго замецілі. *Шматкр.* **Паглядаць** (паглядываць) **у рот.** Дайжа збоку становіцца нялоўка, як яны пыглідаюць стыршыні́хі ў рот. І ў рот пыгля́дывыць можыць, і с паўлі́трым падлезьць умеіць.

**Гнацца за доўгім** (длінным) **рублём.** *Імкнуцца да лёгкага і вялікага заробку.* Гырас усігда гна́ўся за доўгім рублём. Я за дзлі́нным рублём ні ганюся і на пуп браць ні ста́ну. *Зак.* **Пагнацца за доўгім** (длінным) **рублём.** Пагонісься за доўгім рублём і пыціра́іш здароўя. За длінным рублём пыгнаўся, пыгнаўся, зьехыў некуды і скруці́ўся там. *Гл.* Ганяцца за доўгім рублём.

**Гнаць у карак** (шыю, тры шыі, каршэнь, сугон). *Прыспешваць настойліва і груба.* Дужа я цябе ста́ну гнаць у карык. Што ты мяне гоніш у шыю, ці я твыя пыдда́ныя. А ні гані ў трі шыі, зьдзелыім, скольки пасьпеім. Будзіш так гнаць у каршэнь, дык за́ўтря саўсім ня вы́йдзім. Ніхто іх там дужа ні гнаў у сугон, сколька маглі́, столька й дзелылі.

**Гнуцца** (сагінацца, згінацца) **у дугу** (у крук, крукам, у тры пагібелі, у баранній рог). *Працаваць да поўнай знямогі.* Гнўўся ў дугў на чорта лы́сыга. Гніся і гніся ў крюк, і ла́скывыга слова ні пачўіш. Сколька ж дзед гнуўся крю́кым, каб дзісяці́ну тую купіць. Не, ня жджы, каб я ішчэ гнуўся ны цябе ў трі пагі́білі. Якей толк, есьлі ён у быра́ньній рог гнўўся. Бутўіцца, піклўіцца, у дугу сыгіна́іцца — усё зь яго мала. Трі месіцы пругульта́йнічылі, а цяперя дывай хвыта́ць, аж у крюк сыгіна́юцца. Ахота ж табе сыгіна́цца у быраньній рог, як сь цябе ні хва́ціць таго, што ёсьць. Усё зьгіна́юцца у дугў, ніяк ні ныжа́дыюцца. Зьгіна́йся у крюк сколька хочыш, адна ша́на. Я б так ні зьгінаўся крюкым на чорта лы́сыга. Зьгіна́ўся ў трі пагі́білі, а ймець жа за ета нічога ня ймеў. Хвыталі, сьпяшылі, зьгіналіся ў трі пагібілі — нашто, каму, ны цяперішнія руссуждзенія ні ўзяўся б.

**Гнуць** (весць) **лінію** (*чыю-н.*). *Настойліва адстойваць і ажыццяўляць меркаванні.* Сярьгей настойлівый, яго ня дужа піряспоріш, усігда гнець сваю лі́нію. Што ні гаворюць, а ён гнець Антоныву лінію. Вун Хведзька — тэй усігда сваю лінію вёў. Хто паўлітра пыста́віў, таго й лінію вядзець.

**Гнуць сваё.** *Настойліва дабівацца, адстойваць.* Гні сваё і ні ацступа́й. Пычаў быў гнуць сваё, ну яго ніхто ні пыдзьдзіржаў.

**Гнуць спіну.** 1. *Працаваць да поўнай знямогі.* Я б, ка́жыцца, так ня гнуў сьпінў, ці сь цябе чаго ма́ла. 2. *Прыніжацца, падлізвацца.* Ня гні ты піряд ім сьпінў, ці ён табе пуспучува́іць. *Узмацн.* **Пагнуць спіну.** 1. Пагнўлі мы сьпінў на чорта,— а што ты зьдзелыіш: ні паслўхый — у Гірманію атпра́віць. 2. Любіць, каб піряд ім пагнўлі сьпіну. *Працягл.-фінальн.* **Нагнуць спіну.** 1. Нагнулі сьпінў ну гультаёў тых. 2. Нагнулі сьпіну, ныпрасі́ліся і ныкля́нчыліся большы некуды.

**Гнуць у дугу** (у тры пагібелі, у баранній рог). *Поўнасцю падпарадкоўваць, тыраніць.* Я ні разу б і ні падўмыла, што Сонька тыка́я уредныя, іна ж гнець у дугу нявестку. Папервысьці яго там у трі пагі́білі гнулі. Лістрат гнець Сямёна у быра́ньній рог, а тэй усё маўчы́ць. *Узмацн.* **Пагнуць у дугу** (у тры пагібелі, у баранній рог). У дугу іх пагнўць ні ўда́сца, яны жы́ва атпор дадўць. Думыў, пагнець у трі пагібілі, ажно не, ні на тых

нырва́ўся. Пагну́ць іх у быра́ньній рог і пікнуць ні даду́ць. *Працягл.-фінальн.* **Нагнуць у дугу** (у тры пагібелі, у баранній рог). Нагнулі яго у дугу хва́ціць, толька дура́к, што муўча́ў і цярьпеў. Ніхай толька пупудзецца, нагну́ць у трі пагібілі, і заму́жыства ні захочыць. А нагну́ла у быраньній рог, ніхай яе вы́лыміць.

**Гнуць шыю** (карак, горб, хрыбет, хрыбеціну), *нездав. Працаваць да поўнай знямогі.* Доўга я гнуў шыю ні за што, пакуль ні абрузумі́ўся. Ны каго ты гнеш ка́рык і за што—зы ча́рку гарелкі? Во гнуў, гнуў горб, дык дайжа спасі́ба ні скыза́лі. Ці помніш, як твой старэй гнуў хрібет, усё грошы зьбіра́ў зямлю купля́ць. Сколька я гнуў хрібеціну ны ліжабокыў тых, каб ны цяперішній розум, дык ба й ні гля́нуў. *Узмацн.* **Пагнуць шыю** (карак, горб, хрыбет, хрыбеціну). А якей толк, што ён столька пагнуў шыю? Як пагнець карык зы нівошта бяс толку, можа трошку пызна́іць жызьню. Пагнулі горб, а ны каго пагнулі і за што зы я́кыя? Ну, пагнуў хрібет, дык хуць адзія́нія такоя-сякоя спра́віў. Ні сьпяшы́ раншы бацькі у пекла, ішчэ пагнеш хрібеціну. *Працягл.-фінальн.* **Нагнуць шыю** (карак, горб, хрыбет, хрыбеціну). Ліпскій нагну́ў шыю на тоя кодла, пряма у бытрыка́х хадзіў. Пойдзіць — то нагнець ка́рык, ні зы зя́ця будзіць, а зы пыпіха́йлу. Здорыва горб нагну́лі, пакуль ны сваё усе троху ўзьбіліся. За чаты́рі гады нагну́ў хрібет большы некуды. Схадзі́, пыжыві́, нагнеш хрібеціну, тады апомнісься.

**Год ад году** (года). *З цягам часу.* Чаго ж табе гурюва́ць дужа, год ад году сыны на ногі пыдніма́юцца. Год ад года слабею і слабею, як тэй кызаў, і гады пыдбіра́юцца, і сілы пыдбіва́юцца.

**Голь перакатная.** 1. *Бядняк.* Жывець голь піріка́тныя, капейчыны зу душою німа, усё ў горла і ў горла — прыпіва́іць. 2. *Беднасць.* Заела цябе нейкыя голь піріка́тныя.

**Гол як сакол** (бізун). *Вельмі бедны.* Ну ўзя́лі зяця, ну што тэй зяць, гол як сакол, усё быга́ства, што на ём, нада ж яму што й спра́віць. Што пры яго тулкува́ць, кылі ён гол як бізун.

**Гонам гнаць,** *груб. Выганяць, праганяць.* Я гоным ба гнала с хаты вогіріў етых. Цябе ж гоным гонюць, а ты усё лезіш. *Узмацн.* **Гонам пагнаць.** Нада було гоным пыгна́ць ат'етуліцька, ато дужа зь імі руссусолівыіш.

**Гора** (заботы, клопату) **мала.** *Пра бестурботнасць, бесклапотнасць.* Сколька тут ня бíся, ім горя мала, саўсім ні сучýствуюць, што табе цяжола. Я бутýйся ды пацері сіл, а яму і заботы мала, пад'еў і ў карты. Ці я ні знаю, што табе клопыту мала аб усім, глядзíш, каб нехта другей дзелыў.

**Гора з плеч звалілася** (спала, упала), *пр., буд. Пра пазбаўленне ад злыбеды, пакут, вялікага клопату.* Горя ў мяне с плеч звалíлыся, зайдзí-ка, я рысьпікýю бутылычку, у мяне тут стыя́ла. Каб ужо як скарей горя с плеч спáла зь естым сеным. Я дык ажно свыбадней уздыхнýў, як еткыя горя с плеч упáла. Ці дажджэцца іна, што ў яе горя с плеч звáліцца. Ніхай, пыўрімяні, можа як горя с плеч спадзець, тады пыстыря́імся зьезьдзіць. Ці даждýся я такога ўремя, што ў мяне горя с плеч упадзець.

**Гора мыкаць.** *Пакутаваць у нястачы.* Мы́кыю горя ўвесь век, а ім худзь ба што, ні спыгыдáюць, ні пусучýствуюць. *Непаўн.* **Гора памыкаць.** Ніхай зьезьдзіць, горя памы́кыіць, толька на пользу пойдзіць. *Працягл.-фінальн.* **Гора намыкацца.** Сьвірідзіха намы́кылыся горя, а сколька пріхадзíлыся ріванець, ріванець і жáліцца не к кыму пайцíць.

**Гора паспытаць** (зведаць). *Перажыць нягоды.* Хто горя пыспытáў, як я, тэй ні скáжыць, што ёй лёхка жывецца. Пастой, ні хвалíся, ішчэ можа столька горя зьведыіш,— большы некуды. Чаго ня зьведыў, а горя зьведыў, большы ні нада, ды ат каго пýтніга.

**Гора размыкаць.** *Пазбавіцца цяжкага стану.* Паехыла **г** даццэ, пыбылá трі дні, хуць горя трошычку размы́кыла.

**Гора хваціць** (цяпнуць). *Перажыць вострыя нягоды.* Абоя горя хвацілі, доўга будуць помніць. Адна с трімя́ мáлымі астáлыся на хýтырі у трыццыць гадоў, цяпнула горя уволю. *Незак., адзінк.* **Гора хватаць** (цяпаць). У вайну хвытáлі людзі горя, і галодныя, і халодныя, і ац страху кылацíліся. Ця́пыў горя, седзючы як воўк у той халýпіні.

**Горка нада,** *неадабр. Неабавязкова.* Горька нада табе тэя госьці, ня йдзі, бýдзіш плесца аттуля нызáд, цімнытá — вока вы́кылі. Горька нада мне жыніхі твае.

**Горла** (глотка) **не высыхаець,** *груб., цяп., пр. Пра беспрабуднае п'янства.* П'юць і п'юць, горла ні высыха́іць, як ікая капейчына зывядзецца — ны гарелку. Ні талкуй ты мне пры свайго зяця, глотка ў яго ні ра́зычку ні высыха́іць. Во былі п'янчу́гі, дык п'янчу́гі, горла ў іх ні калі́ ні высыха́ла. Хліста́ў стыка́нымі, глотка ўсё ўремя ні высыха́ла. **Горла** (глотка) **высыхаець,** *цяп., пр.* Ці высыха́іць у яго горла калі-ніб́удзь? А ты ду́мыіш, у Чубука глотка калі высыха́іць? Во піў, дык піў, худзь ба высыха́ла калі-небудзь горла. Можа толька як спаў, то глотка высыха́ла, а паднімаўся—узноў піў. *Гл.* Горла не прасыхаець.

**Горла** (глотка) **не прасыхаець,** *груб., цяп., пр. Пра беспрабуднае п'янства.* Пашлі́ учышча́ць адзін к другому, узноў горлы ні прысыха́юць. Пычшчасьці́ла ёй у заму́жыстве так, што нікому еткыга за́мужу ні пыжыла́ю: п'ець, глотка ні прысыха́іць. І ў аднаго горла ні прысыхала, і ў другога. Сколька тут жылі́, столька й пілі́, глоткі ні прысыхалі. **Горла** (глотка) **прасыхаець.** П'ець і п'ець бісьпіряры́ўна, ці прысыхаіць у яго хуць калі горла? Айдзе ў іх глотка прысыхаіць, есьлі п'юць, як у леічку. Калі ты відзіў, каб у Дзім'янёнка горла прысыха́ла. Прысыхала глотка ў яго,— учора ныбра́ўся, як сьвіньня, ны чылавека ня быў паходж. *Зак.* **Горла** (глотка) **не прасохла,** *пр., буд.* Ат учыра́шніга горла не прасохла, а яны ўзноў мыгазі́н пытпіра́юць. У цябе ж глотка ішчэ ні прасохла, а табе ўзноў пыдыва́й. Ні прасохніць горла ат адной п'янкі, стаў ім яшчэ. Ай, апушчэнцы, глоткі ў іх ні разу ні прасохнуць. **Горла** (глотка) **прасохла.** Вун ці ві́дзіш, як у твайго дыражэнькыга прасохла горла: чуць ны ныгах стаіць. Дажджэсься, у Колі горла прасохніць. Ці прасохнуць калі-небудзь у іх глоткі, ці нысыта́юцца гарелішчы?

**Горла** (глотку) **залівацъ,** *груб. Напівацца.* Ні ўгаворіш і ня ўпросіш, горла зыліва́іць і большы нічога. Ні знаіш, што яны маглі дзелыць? — глоткі заліва́лі, во што дзелылі. *Зак.* **Горла** (глотку) **заліць.** Адно зыня́цця зна́іць — найці́ць, айдзе горла залі́ць. Як зальлець глотку, тады даволін, усяго табе ныбішча́іць, хуць зылатэя горы. *Множн.* **Горлы** (глоткі) **пазаліць** (пазаліваць). Пызылілі́ горлы, як толька ні пудуреюць ат п'янкі. Пызальлю́ць глоткі, тады ім моря пы калена. Горлы пызылі-

ва́юць і ціга́юцца ўсю ноч, гырла́нюць пад вокнымі. Пызылівáлі глоткі — і ні пытхадзі́, ні гыварі́ ні слова. *Працягл.-фінальн.* **Горла** (глотку) **назаліваць** (дазаліваць). Нызыліваіш горла, што возьміць мятлу́ і пату́ріць с хаты. Адзін ужо нызыліва́ў глотку і другога еткій самый канец жджэць. Дызылівáіць горла, што апрягецца айдзенебудзь, і на́йдуць, як сыба́ку, ніжывога. Дызылівáіць глотку, што ду цюрьмы́ дакоціцца.

**Горла** (глотку) **разяваць** (распасціраць), *груб. Гучна крычаць, лаяцца.* Глянь-ка, іка́я там горла рызіва́іць, ці ня ўзноў Хнычонкыва. Пыўдня́ горла рыспысьціра́ла, як толька ні расьселыся. І на полі глотку рызіва́юць, нійдзе спакою сабе ні на́йдуць. Ні рыспысьціра́й глотку, і біс тваіх песін му́тырна. *Зак.* **Горла** (глотку) **разявіць** (разінуць, распасцерць). Пыдажджы́-ка, ішчэ кума́ твыя патклю́чыцца, горла рызявіць. Горла разінуў, што за трі вярсты чу́тна. Ні хвытала толька цябе, ты яшчэ горла ні рыспасьцёр. Рызя́ў яшчэ глотку і ты, паслу́хыім. Маріна глотку разінула, вуліца калоціцца. Ніхай толька Сонька глотку рыспастрець, тады наслу́хыісься. *Множн.* **Горлы** (глоткі) **паразявіць** (паразяваць, паразінуць, парaспасцерць, параспасціраць). Пастой, січа́с узноў горлы пырызя́вюць. Каб толька горлы пырызіва́ць, спакойна ня могуць. Пыразі́нулі горлы свае, ніхай ба людзей пыстыдзі́ліся. Сыбра́ліся ўместа, січас пырыспысьцяру́ць горлы. Пырызіва́юць глоткі, слова ні даду́ць скызаць. Што мы крічым, вы самі пыразі́нулі глоткі, як дуракі́ якея. Пырыспысьціра́юць глоткі адна пірід адною: ета хырашо, а тая яшчэ чышчы. *Працягл.-фінальн.* **Горла** (глотку) **наразяваць** (нараспасціраць, даразяваць, дараспасціраць). Нырызіва́ла горла, знаць, успакоілыся-тыкі. Нырыспысьціра́іш ты горла, вот ныла́ю я твае бакі́, ну й ныла́ю. Што, адна нырызіва́ла глотку? — даўно так нада було. А нырыспысьціра́іця глоткі свае, нырыспысьціра́іця, ні дырма́ ваша пячэньня хляхочыць, нешта чу́іць. Дырызіва́ў горла, змоўк, як вады ў рот ныбра́ў. Іна́ дырыспысьціра́іць горла, на́йдзіцца хто-небудзь, заткнець. Пыглядзі́ш, што дырызіва́іш глотку, ета хляхочыш ты ні пірід дабром. Дырыспысьціра́лі глоткі, сьці́хлі і ні зву́ка посьлі тога, як с аўсом пріпу́тылі.

**Горла** (глотку) **расчыняць** (распускаць), *груб. Крычаць, лаяцца.* Горла рышчыня́ць нечыга, можна спакойна

пыгываріць. Меншы горла руспускай, яго ўжо наслу́хыліся. Зы ўся́кыю мелыч ты глотку рышчыня́іш. Ні руспуска́й так глотку с крікым сваім, цябе ўволю чулі. *Зак.* **Горла** (глотку) **расчыніць** (распусціць). Ня то што што зьдзелыіцца, а ніхай нешта пыка́жыцца, січас горла рашчы́ніць. Горла распу́сьціць, ні глядзіць, ці ста́рый, ці ма́лый, усе ў яго пыд адну грябёнку. Ёй глотку рышчыніць нядоўга, зу любу́ю мелыч зывядзецца ўміг. Руспусьціў глотку, што ня́кыга успыкаенія німа. *Множн.* **Горлы** (глоткі) **парасчыніць** (парасчыняць, параспусціць, параспускаць). Ты ж слу́хыў, чаго там яны горлы пырышчыні́лі? Пырышчыня́юць горлы, дык кріку аднаго ні дбяресься. Чуў, як горлы пуруспусьцілі твае ніныгля́дныя? Ніхай пуруспуска́юць горлы—ні піряслухыіш. Як пырышчыні́лі глоткі адна на дну, чаго яны толька ні дытвыря́лі. Затронь толька, січас глоткі пырышчыня́юць. Узьняли́ся, пуруспусьці́лі глоткі — во была указэя слухыць. *Працягл.-фінальн.* **Горла** (глотку) **нарасчыняць** (нараспускаць, дарасчыняць, дараспускаць). Даслу́жысься, нырышчыня́іш горла, як пыкачу́ с хаты. Нуруспуска́іця вы горла, што вопрыміцьцю бежч будзіця. Пышла́, як аплёвыныя, во нуруспуска́ла глотку. Ты можыш дырышчыня́ць горла ікраз, як Пёкла пірід Агеім. Дырышчыня́ў глотку, нырва́ўся ны сваё — так апсеклі, што пашоў, як мы́ла зьеўшы. Дуруспуска́іць тая прукурорша глотку, што пайду і ныла́ю сколька ўлезіць.

**Горла** (глотку) **рваць** (драць), *груб. Крычаць, лаяцца.* Работыць — меншы ўсіх, а горла рваць — большы ўсіх. Шаўчонкывы горлы дзяру́ць, ніяк зу пуста́ць ні памі́рюцца. Глоткі нешта рвалі, я ні пріслу́хывыўся за што. Чаго ты глотку дзяреш, ты ж разгледзься, хто тут віну-ва́т. *Узмацн.* **Горла** (глотку) **нарваць** (надраць). Ра́зьві ні нырва́лі ішчэ горла, ра́зьві ні ныкріча́ліся, як пустадомкі якея? Ня сьцíхніць, пакуль горла ні ныдзярець, і ні ўспакоіцца. Ну, сыйшлíся, ня скора цяперь глоткі нарву́ць, ня скора ўспакоюцца. Ныдра́ла глотку, ажно ахріпла, во нячыстыя сіла, а ні баба!

**Горы варочаць** (пераварачываць, вярнуць, здзвігаць). *Паказваць у працы магутнасць, вялікія вынікі.* Як сіла была́, я горы варочыў, а цяперь не, ня тоя. Я і ні знаю, ці работыў хто столька, як Дзяніс, ён горы пірівыра́чывыў. Не, горы вярну́ць я ні ста́ну, ні надзейся. Ты яго

толька пусьці ны вічарінку зьбегыць, тады ён гатоў горы зьдзьвігáць. *Зак.* **Горы перавярнуць** (звярнуць, здзвінуць). Каб яны хацелі дзелыць, горы пірівярнýлі б. Ты ўжо хочыш горы зьвярнýць. Як бярецца, кажыцца, горы зьдзьвініць, а цірізь мінуту астыў і ўся ахота прыпáла. *Узмацн.* **Горы паварочаць** (паперараварачываць, паперавярнуць, паздзвінуць, паздзвігаць). Ух, узяўся, глядзі, каб горы ні пыварочыў. С такімі сілымі можна горы пыпірівырáчывыць, ды яшчэ як! Каб ты атнасілыся к яму пы-чылавечыскі, ён ба табе горы пыпірівярнýў. Горы пазьдзьвінуць ні бішчáім, а толька нешта ж зьдзелыім. Ніхай толька возьмуцца дружна, яны горы пызьдзьвігáюць. *Працягл-фінальн.* **Горы наварочаць** (напераварачываць, наздзвігаць). Ныварочыў горы: дзень дзелыў як нада, другей прубуўтáўся, а на трецьцій саўсім ні прішоў. Андрей с Толікым ныпірівырáчыюць горы, хочыш— ды пакосыў дойдуць і зывáлюцца спаць. Вы ўжо там нызьдзьвігáлі горы, хвацілі.

**Грабавая цішына.** *Поўная маўклівасць.* Стыяла тыкая грыбывáя цішынá, што худзь ба муха прызьвінела. І цёмна, як вока вы́кылыць, і грыбывáя цішына, ажно кропна становіцца.

**Граза** (туча) **збіраецца** (находзіць), *звыч. жарт., цяп., пр. Пра надыход небяспекі.* Ныт табою грыза зьбіраіцца даўно, сваё палýчыш. С аднае пятлі вы́лізіць, у другую ўскочыць, узноў ны яго грызá находзіць. Ікая ныда мною туча зьбіраіцца, што ты выдýмыіш. Бірягіся, Васіль, туча ныт табою быльшая находзіць. Ладна, што ўсё абыйшлося, толька грыза зьбірáлыся ні дырмá. Грыза ны цябе ныхадзіла, ремінь пы табе чуць-чуць ні пугуляў. Грозныя туча зьбірáлыся, ажно дзіўна, што ты так лёгінька вы́круціўся. *Зак.* **Граза** (туча) **сабралася** (найшла), *пр., буд.* Ці праўду кызалі, што тут ныт табою грыза сыбрáлыся? Увідзіў, што тучы сыбрáліся — ны машы́ну, к поізду і толька быў, ішчы́ яго, сьвішчы́ ў Сібірі. Ныт табою туча лáдныя ныйшлá, тут табе ня вы́круціцца. Уцікáй, тады позна будзіць, як грыза сыбярецца. Нáйдзіць і ныт табою грыза, пыдажджы́ трошку. Як тучы нáйдуць, тады спыхвáцісься: ой, нашто ж мне було так дзелыць.

**Граша меднага** (ломанага) **не стоіць,** *цяп., пр., Пра нікуды не вартае.* Нашто табе купляць еткыю рвань, кылі

іна грыша́ медныга ня стоіць. Вы́кінь ты свае шчы́пці, яны грыша́ ломыныга ня стоюць. Тоя тряхольля грыша медныга ня стоіла, а ты зы яго быта́лію ўзьнімаіш. А што там було добрыя, там нічога грыша ломыныга ня стоіла.

**Гробіць сябе.** *Падрываць сваё здароўе.* Нашто ёй гробіць сябе, разьві ета жызьня, кінула б і пышла. Мы там ні работылі, а гробілі сябе. *Зак.* **Угробіць сябе.** І мокрыя, і халодныя, ды кажный дзень і пашлі́, і пашлі́, так і ўгробілі сябе. *Узмацн.* **Пагробіць** (паўгробіць) **сябе.** Пагробілі сябе гарелкыю, пілі ж бяс просыпу. Ці вы паўгробіць сябе хочыця, ці што, нада ж і аддыха́ць троху. *Законч.* **Дагробіць сябе.** І так хы́рлііш, а ня будзіш слухыць — дагробіш сябе.

**Грош цана** [у базарный дзень]. *Пра малакаштоўнае.* Грош цына́ тваім слыва́м. Во зьдзелыў граблі, ім грош цына, дый то ні ка́жный ку́піць. Грош цына такому чылавеку, за месіц прап'ець усё. Грош цына ў бызарный дзень твайму рукадзелію. Грош цына яго абішча́ніім, і то ў быза́рный дзень.

**Грошы куры не клююць,** *цяп., пр. Пра нязмернае багацце.* А што яму біспакоіцца, у яго грошы ку́ры ні клюю́ць. Чаго ім пра што було тужы́ць, кылі ў іх грошы куры ні клюва́лі. *Зак.* **Грошы куры не паклююць.** Калі ні пріедзіць, усё хва́ліцца: «У мяне, мол, грошы ку́ры ні пуклюю́ць».

**Груба гавара.** *Выказваючыся просталінейна.* Гру́ба гывыря́, пашоў ён к чорту. Ні чылавек ён, а, груба гывыря, нячы́стыя сіла.

**Грудзь калясом,** *гумар. Бадзёра.* Відзіш, як Ягор дзяржы́цца: грудзь кылясом і ша́пка на ву́ху.

**Грыбы закапыліваць,** *груб. Крыўдзіцца, прымаючы непрыступны і злосны выгляд.* Чаго ён грібы́ зыкапы́лівыіць, наду́уся, што клоп. *Зак.* **Грыбы закапыліць.** Як зыкапы́ліў грібы,— ні так, ні па ём скыза́лі. *Множн.* **Грыбы пазакапыліць** (пазакапыліваць). Ніхто ім нічога там ні скыза́ў, а яны — фу! — грібы пызыкапы́лілі,— уродзьдзя такоя. А ні чыпа́й, толька грібы пызыкапы́ліюць. *Працягл.-фінальн.* **Грыбы назакапыліваць** (дазакапыліваць). У мяне скора грібы нызыкапы́ліїць, я дужа

яго кріўля́ньня люблю́. Дызыкапы́лііш грібы, што с табою дайжа ніхто сесьць ці пыстыя́ць ні захочыць.

**Грэсць** (аграбаць, заграбаць) **лапатаю,** *звыч. неадабр. Многа атрымліваць, браць.* Чаму ім ня жыць, кылі абоя грябу́ць грошы лупа́тыю. Ны скла́дзі ён лупа́тыю агрібаў, пакуль ні турнулі. Сямён куды ні паедзіць, усюдых зыгрібаіць лупа́тыю. *Час.* **Пагрэсць** (пааграбаць) **лапатаю.** Січас яму нічога ні пупыда́іць, а тады ён пагрёб лупатыю. Паехыў, ду́мыў, пыгрібаіць лупатыю грошы, ды не, нада рукі прілажы́ць. *Множн.* **Нагрэсць лапатаю.** Сколька яны чаго ныхвыта́лі, пряма ныгряблі́ лупатыю, большы й гресьць некуды. *Працягл.-фінальн.* **Нагрэсца** (нааграбацца) **лапатаю.** Ікая совісьць у іх ува ўсіх, ныгрябліся чужбіны лупа́тыю. Сёліта столька грібоў, што, знаць, ні разу большы ні було, ныгрібаюцца людзі лупатыю.

**Грэх папутаў,** *пр., буд. Пра выпадковасць зробленага непрыемнага ўчынку.* Ні трілю́дзьця вы—грех папу́тыў,— сам рыссыба́чыўся большы некуды. Ці я ж хацеў такога, мяне грех папу́тыў. Есьлі будзіш дзіржаць сябе ў руках, ні папу́тыіць ні грех, ні два.

**Грэць** (гнаць) **грэнку.** *Злаваць, затойваць злосць.* Данілу есьлі ўсердзіш чым-небудзь, ён дзесіць гадоў будзіць грець гренку і будзіць стыря́цца атамсьціць. Пакуля жылі, гналі гэрчыкі гренку на іх, а ўсё й пычалося з-зу чупухі — з-зу курей. *Зак.* **Загнаць грэнку.** Зы лазіцу тады зыгна́ў гренку, большы ні ач чога. *Час.* **Пагрэць грэнку.** Ці яго дужа хто быя́ўся, кылі ён, быранi бог, ды пагреў гренку. *Працягл.-фінальн.* **Нагрэць** (нагнаць, дагрэць, дагнаць) **грэнку.** Нагреіць ён гренку, гряньнік етый, абразу́юць, есьлі сам ні абразу́іцца. Нагоніць гренку з дура́чыньнім, усігда хляхочыць ну людзей, як чорт нейкій. Дагреў гренку зь яго гряньнём, усе людзі між сабою як людзі, а ён збоку — ні пы яго: там ні так скыза́лі, тут ня етык ступілі. Ой, дагоніш гренку, хтонебудзь такоя ацстрыпаліць, што ня ўсьпеіш апомніцца.

**Грэць змяю на грудзях.** *Праяўляць клопаты аб стоеным ворагу, нядобразычліўцу.* Ну што, ці табе ні кыза́лі, што греіш зьмяю ну грудзя́х. *Зак.* **Сагрэць змяю на грудзях.** Зьмяю ну грудзях сагреў ны сваю гылаву́. *Час.* **Прыгрэць змяю на грудзях.** Прігреў зьмяю ну грудзя́х, цяперя вохыіць. *Непайн.* **Пагрэць змяю на грудзях.** Ты

сам знаў, што ета зы чылавек, во й пагреў зьмяю ну грудзях. *Законч.* **Атагрэць змяю на грудзях.** Атагрелі зьмяю ну грудзях, цяперь ні знáюць, якоя сабе места найціць. *Працягл.-фінальн.* **Нагрэць** (дагрэць) **змяю на грудзях.** Нагреіш зьмяю ну грудзях, ён адзьдзя́чыць, хочыш, якую бумáгу напíшыць. Дагрелі зьмяю ну грудзях — еў, піў і ныбріхáў.

**Грэць зубы,** *іран. Бяздзейнічаць, праводзячы час на свежым паветры.* Яны плотнікі такея пупáліся: як я парю́ся — і яны нешта цю́кыюць, як чуць атвярнуўся куды — яны зубы греюць. Паехылі пыхáць, дык ці яны пыхáлі,— грелі зубы і большы нічога. *Непаўн.* **Пагрэць зубы.** Думыіш, яны работыць будуць? — так, пагреюць зубы дый паедуць. *Працягл.-фінальн.* **Нагрэць** (дагрэць) **зубы.** Нагреіця зубы, што дайжа есьць ні палу́чыцця, сколька ныкыпáлі, столька й ежця. Усе разым дагрелі зубы — ну й стоіць, нічагенічка ж дзелыць ня хочуць.

**Грэць рукі.** *Нажывацца грамадскімі прыбыткамі, чужым дабром.* Лáдный быў злодзій, жыў лі мбáра, греў там рукі. *Зак.* **Пагрэць рукі.** Так і цыля́іць, каб айдзе рукі пагрець, бязь естыга жыць ня можыць. *Узмацн.* **Нагрэць рукі.** Каму ні прішлося нічога, а Зьмітрок нагреў рукі. *Працягл.-фінальн.* **Дагрэць рукі.** Калі-небудзь пупадзецца, то ня вы́круціцца, во й дагреіць рукі.

**Грэшным дзелам.** *Не зусім сумленна* (*пабочнае слова*). Я ўжо грешным дзелым чáрычку ўзяў. А-а, калі грешным дзелым і к куме зáйдзіш. Яно б грешным дзелым і пагрецца б ні пыўрядзíла.

**Губа не дура,** *гумар. Пра наяўнасць густу.* Я знаю, што ў цябе губá ня ду́ра: капусты ні ўзяў, зы мяса схваціўся. Знаіць, за кім пріўдаріць, губа ня дура, у яго даўній рашчот: каб цесьцівым дабром папользывыцца.

**Губіць душу.** 1. *Рабіць злачынства.* Нашто табе губіць душу́, ці ты сваімі рукамі ні прыжывеш. 2. *Забіваць.* Я б так губіць душу ня мог, у мяне б рукі ні пыдняліся. *Зак.* **Загубіць душу.** 1. Ты за ім глядзі, ато ўлезіць кудынебудзь, загу́біць душу. 2. Зугубілі душу нейкія баньдзіты, ды яшчэ, кызалі, мучылі доўга. *Узмацн.* **Пагубіць душу.** 1. Пупаду́цца з ношкымі, а старшына строгій, і пагубюць душы, сядуць. 2. Душы пугубілі ні за што і ні зы я́кыя. *Законч.* **Дагубіць душу.** *Пасці маральна канчат-*

*кова.* Сядзеў, за вум ні ўзяўся, узноў сьпеўся з бысячў-гымі, дагўбіць душу.

**Губіць сваю душу.** 1. *Падаць маральна.* Сам сызна́цільна губіць сваю́ душу́, у пятлю́ галаву́ су́ніць. 2. *Ісці на гібель.* Ні хацеў ён губіць сваю душу, так пулучы́лыся, а чылавек быў — дай бог ка́жныму такога. *Зак.* **Загубіць сваю душу.** 1. Зугубіў ён сваю душу ціріз гарелку, і ні ціряш што большы. 2. Ён зугубі́ў сваю душу і ляжыць, а ёй куку́й ш чытырьмя́ дрыбязою. *Узмацн.* **Пагубіць сваю душу.** 1. Ня будзіш ты жыць, як людзі, пагу́біш сваю душу, асу́дзюць, сашлю́ць, і прыпадзеш там. 2. Пугубі́ў сваю душу — ета гледзічы айдзе, сколька на хроньці лягло, а тэй злодзій у клець лез. *Законч.* **Дагубіць сваю душу.** *Пасці маральна канчаткова.* Яе і так зы чылавека ні вядуць, а зь естымі га́ўрікымі дагу́біць сваю душу.

**Губы банцікам,** *іран. Надзьмуўшыся.* Што, узноў сядзіш гу́бы ба́ньцікым? Раз губы ба́ньцікым, то ня трогый.

**Губы** (грыбы) **распускаць,** *асудж. Пачынаць плакаць.* Ні руспуска́й губы, дужа цябе пакрі́ўдзілі. Із-зы ўся́кія мелычы грібы руспуска́іць. *Зак.* **Губы** (грыбы) **распусціць.** Як распу́сьціць губы, будзіць трі часы ры́гыць. Ну хто ж цябе ні зна́іць: кылі грібы́ распу́сьціш, то ні ўгаворіш. *Множн.* **Губы** (грыбы) **параспускаць** (параспусьціць). Пуруспуска́лі губы, ажно глянуць брыдка. Яшчэ раз губы пуруспусьці́ця, — будуць тут вамі дужа любува́цца. Прішла́, гляджу́ — ряву́ць. «Чаго вы грібы пуруспуска́лі?» — Муўча́ць. Тут па́сьвіць нада, ато грібы пуруспусьці́лі: скот у шкодзі. *Працягл.-фінальн.* **Губы** (грыбы) **нараспускаць** (дараспускаць). Я табе січас нуруспуска́ю губы, дужа буду тваімі хвокусымі любува́цца. Дуруспуска́іць губы, што січас яшчэ палучыць. Дуруспускаў свае грібы, ды, ві́дна, ма́ла.

**Губы** (грыбы) **складаць** (складываць), *іран. Пачынаць плакаць.* Чаго ён ста́ніць губы склыда́ць, ён жа бальшэй хлопіц. Ня трогый, ато січас узноў пычанець губы скла́дывыць. Грібы склыда́іць, січас рызрявецца, як учора. Раз сам вінува́т, то й грібы ні скла́дывый. *Зак.* **Губы** (грыбы) **скласць.** Я ж табе нічога ні скызаў і ня зьдзелыў, чаго ж ты губы склаў. Ну, раз грібы склала, толку ні́якыга ні даб'есься. *Множн.* **Губы** (грыбы) **паскладаць** (паскладываць, паскласць). Нехта ні так што-то прыгывары́ў, дык губы пысклыда́лі. Як губы пыскла́-

дывыюць, тады нічога ня вы́спрысіш. Ім нядоўга пыскла́сць губы, рызрявў́цца, што ня ўні́міш. Ты на іх лу́ччы пулюбу́йся, як грібы пысклыда́юць, тады яны крыса́віцы. Фэ-э, пыскла́дывылі грібы, ныд вамі ж усе сьмія́цца будуць. Пыглядзі́ на іх: пыскла́лі грібы, ты спрасі́, чаго. *Працягл.-фінальн.* **Губы (грыбы) наскладаць** (наскладываць, даскладаць, даскладываць). Так скора нысклыдаіш губы, што й азірну́цца ні пасьпеіш. Ні нада быць такім абіччывым, ато ныскла́дыіш губы зы адно слова. Усё пріві́кла: чуць што — у сьлёзы, ну й нысклыда́ў грібы, атаўчы́ў. Я цябе ныскла́дывыю грібы, вун бярі́ся за бульбу січас жа. Ня бойціся зы нас, вы самі скарей губы дысклыда́іця. Як вярёўку вазьму, дыскла́дывыіць губы. Што, дыжда́уся свайго, дысклыда́ў грібы, як Мікалаіў бамбіза,— тэй бувала чуць што ні так, зразу распусьціць рюмзы: рызабіджыный.

**Губы закапыліваць,** *неадабр. Крыўдзіцца, прымаючы непрыступны і злосны выгляд.* Адно толька і ўмеіць губы зыкапы́лівыць, большы нічому ні наўчы́лыся. *Зак.* **Губы закапыліць.** Як зыкапы́ліў губы, як зайшоўся, а ўсе кругом сьмяю́цца. *Множн.* **Губы пазакапыліць** (пазакапыліваць). Зьдзелыюць, што ў рукі ні ўзяць, а скажы — губы пызыкапы́люць. Зьесьць жа вас тут ніхто ня зьесьць, чаго ж вы губы пызыкапы́лівылі. *Працягл.-фінальн.* **Губы назакапыліваць** (дазакапыліваць). Нызыкапы́лііш губы, я жыва атучу́ ат етыя дура́цкія прівы́чкі, абіччывыя дужа. Ой, дызыкапы́лііць губы, толька атва́джу, што й другім зыка́жыць.

**Гульма гуляць,** *неадабр. Бяздзейнічаць, зусім нічога не рабіць.* Гу́льма гуля́іць цэлыя лета, ні кажы яму што зьдзелыць і ні гывары́ — дрень будзіш. *Абмеж.* **Гульма пагуляць.** Вы гу́льма чуць ня месіц пугуля́лі, ну й хва́ціць. *Катэг.* **Гульма прагуляць.** Ду́мыіш, возьмуцца за што-небудзь?— ні за што ня возьмуцца, гу́льма ўсё ўремя пругуля́юць. *Законч.* **Гульма адгуляць.** Столька ўремя гульма адгуля́ць—ета нада пыціря́ць совісьць саўсім. *Узмацн., незак.* **Гульма выгуліваціа.** Нічагенічка ня дзелыіць, выгу́лііцца гульма — такей у яго зыня́тык. *Узмацн., зак.* **Гульма выгуліцца.** Гульма вы́гуліўся, што яму цяперя,—наесца і ўзноў ны вічарі́нку. *Працягл.-фінальн.* **Гульма нагуляцца** (нагуляць, дагуляцца, дагуляць). Нугуля́іцца гульма прысьця́к твой, калі ж небудзь і есць

захочыць. Ну, нугуля́ў гульма, укусі́ў ба за локыць сам сябе, ды ні дыста́ніш? Нада ж так гульма дугуляцца: адна кыравёнка і тую ні прадзержыць. Дугуля́ла гульма, хвацілыся розуму, і за́цьмінь ныхадзі́ць пірістáла.

**Гуляць** (іграць, балавацца) **с агнём.** *Займацца небяспечнай справай.* Глядзі, ты гуля́іш с агнём, можыш аппецца. Ву́шлый то, ву́шлый, ну толька ён іграіць с агнём. Ой, ба́лыіцца с агнём, ой, пыгарі́ць, што сам ні аглядзіцца. *Абмеж.* **Пагуляць** (паіграць, пабалавацца) **с агнём.** Лю́біць пугуля́ць с агнём — ніхай, ну аппякецца — тожа ніхай ні жа́ліцца. Хочыцца табе пыігра́ць с агнём, глядзі. Вун Клімянок пыба́лывыўся с агнём, ду́мыіць цяперіцька, як зь я́мкі вы́лізьць. *Працягл.-фінальн.* **Нагуляць** (наіграць, набалавацца, дагуляцца, даіграцца, дабалавацца) **с агнём.** Глядзі́, дзеўка, нугуля́іш с агнём. Ныігра́ў с агнём, пулучы́ў, чаго хацеў. Там сім'я тыка́я, што спу́ску ні даду́ць, ён ныба́лыіцца с агнём. Веріла Мікіту, во й дугуля́лыся с агнём — і пазору, і горя хва́ціць. Дужа ты хра́бір, ну дыігра́ісься с агнём. Тут тыкая зацея, што чыё вы́пыліць, толька ў яго нічога ні палу́чыцца, дыба́лыіцца ён с агнём. *Наз.* **Гульня** (гулянне, ігра, балаванне) **с агнём.** Мне ета твыя гульня́ с агнём саўсім ні ныра́віцца. Тут у іх гуля́ньня с агнём: могуць вы́гыдыць, а могуць і прыгыда́ць. Есьлі табе ныра́віцца ігра с агнём, дык як сам хочыш. Максімывы дзеўкі — ета табе ба́лывыньня с агнём.

**Гуляць** (іграць) **у жмуркі,** *неадабр. Хітравацць, утойваць.* Са мною гуля́ць у жму́ркі нечыга, я ўжо даўно усё знаю. Усё іграў у жмуркі са мною, як я нічога ня ві́дзіла і ні пыні́мала. *Абмеж.* **Пагуляць** (паіграць) **у жмуркі.** Ты хочыш пугуля́ць у жмуркі, не, мяне ні прывядзеш. Ета ўжо хра́кцір такей: любіць пыігра́ць у жму́ркі. *Працягл.-фінальн.* **Нагуляць** (нагуляцца, наіграць, наіграцца, дагуляць, дагуляцца, даіграць, даіграцца) **у жмуркі.** Нугуля́іш у жмуркі, што ў дурука́х аста́нісься. Устреціла і бяды́ ны мяне: ты з маі́мі нугуля́ўся ў жмуркі, а я ні аднаго, ні другога дайжа ня відзіў. Зь Мікілаім дужа ні ныігра́іш у жмуркі. Ныігра́іцца ён ў жмуркі. Сызанок так шурнець аць сябе, што будзіць бежч ні гліда́ючыся. Што ты сяньня адно, заўтря другоя, так скора дугуля́іш у жмуркі. Пыча́ў круці́ць, ну й дугуля́іцца ў жмуркі, што як ны радзі́мца глядзець будуць. Дыігра́лі ў жмуркі

с Кымшачонкым: нупушы́ў, нупушы́ў і пашоў. Дыігра́іціся ў жмуркі, што аста́ніціся і біс хвыста́, і бясь сена. *Наз.* **Гульня** (гулянне, ігра) **ў жмуркі.** Усё хітрі́ў, дык во гульня ў жмуркі вы́лізла бокым. Ён жа табе пра́ўду гаворіць, дык нашто ж такоя гуля́ньня ў жмуркі. Луччы скажы пряма, як було, а ат ігры ў жмуркі нічога ні палу́чыцца.

**Гуляць** (іграць) **у кошкі-мышкі,** *неадабр. Хітраваць, забаўляцца бездапаможнасцю ахвяры.* Гуля́іць у кошкі-мы́шкі, як ніхто ня ві́дзіць і ні дыга́дыіцца, а яго ўжо даўно рускусі́лі. Іграць у кошкі-мышкі ты мне кінь, а не— дык я шашкі́ ў мяшкі́ і двору. *Абмеж.* **Пагуляць** (паіграць) **у кошкі-мышкі.** Ці ня ду́мыіш ты пугуля́ць са мною у кошкі-мышкі? Ты, відна, сыбіра́ісься пыігра́ць у кошкі-мышкі, дык глядзі, каб ні аста́цца бяс хвосьціка. *Працягл.-фінальн.* **Нагуляцца** (наіграцца, дагуляцца, даіграцца) **ў кошкі-мышкі.** Якея дренныя людзі, ці зна́іш, сколька яны у кошкі-мышкі нугуля́ліся з залоўкыю. Ныігра́юцца у кошкі-мышкі, пры́дзіць і на іх пірялома. Усім було ясна, што ён вот-вот дугуля́іцца у кошкі-мышкі. С Антонывымі у кошкі-мышкі дыігра́юцца скора. *Наз.* **Гульня** (гулянне, ігра) **ў кошкі-мышкі.** Вот нашто ж ба ім пычына́ць гульню́ у кошкі-мышкі? А я знаю, ды чаго дывядзець іх гуляньня у кошкі-мышкі. Ён біз ігры ў кошкі-мышкі што ду́мыіць, то і ска́жыць.

**Гуляць** (іграць) **у маўчанку,** *неадабр. Знарок не размаўляць.* Як жа табе ня сты́дна, брат табе дзела гаворіць, а ты зь ім гуля́іш у мыўча́нку. Я сь цябе клішча́мі выця́гывыць ня буду, іграй у мыўча́нку, раз табе хочыцца так. *Абмеж.* **Пагуляць** (паіграць) **у маўчанку.** Ну, пугуля́й у мыўча́нку, я пыдажду́, у мяне ні гарі́ць. Ён ду́мыіць, есьлі пыігра́іць у мыўчанку, дык луччы зьдзелыіць. *Працягл.-фінальн.* **Нагуляцца** (нагуляць, дагуляцца, дагуляць) **у маўчанку.** І адзін ла́дзін, і друга́я хырыша, яны і рысхадзі́ліся, і сходзі́ліся, і біцца пробывылі, і ў мыўча́нку нугуля́ліся. Нугуля́іш у мыўча́нку, есьць ні зварю́, тады маўчы. А так дугуля́ўся ў мыўчанку, што кінула і пышла́: маўчы́, хут ты і век ні гывары́, ніхай табе заслоніць. Са мною ты можыш дужа скора дугуля́ць у мыўчанку. *Наз.* **Гульня** (гулянне, ігра) **ў маўчанку.** Мне адна яго гульня́ ў мыўча́нку збры́дзіла, што глядзець ні магу́. Сколька ж яшчэ будзіць твае гуля́ньня ў мыўчанку іціць?

Адзін — ня буду гываріць і другая — буду муўчáць, во так із ігры ў мыўчáнку і пычалося.

**Да адказу.** *Поўнасцю, так што больш нельга, некуды.* Тут ужо набíта людзей ды аткáзу, пальца ўшчаміць некуды. Зываліíў сеным пуню ды аткáзу, і клыкá большы ні пыкладзеш.

**Да аднаго.** *Без выключэння.* Увесь род сыбрáўся ды аднаго. Вазьмý чыпялý — будзіця ляцець усе ды аднаго. Ды аднаго прішлі, быяліся, што аштрахýюць.

**Да аснавання.** *Поўнасцю, да канца; моцна.* Усё там зьмянíлыся ды асныванія, я і то ўжо чуць пызнаў, айдзе што було. Дам-тыкі ім ды асныванія, можа абразýмюцца.

**Да бесканечнасці.** *Залішне многа або працягла.* Ні магу ж я ім пымыгáць ды бісканечнысьці, ніхай на свой хлеб сыдзяцца. Ці ты ды бісканечнысьці тут хныкыць будзіш?

**Дабівацца да абуха** (ручкі, паследняга). *Прыходзіць у поўны заняпад.* Неік пычало ўсё дыбівáцца ды абýха, пашло на звод. Як жа так жыць, дыбіваіцца да рýчкі і ніхай дыбіваіцца. Там ішчэ гадоў пяць таму нызад дыбівáлыся ды пасьледніга. *Зак.* **Дабіцца да абуха** (ручкі, паследняга). Некыму глядзець стáла, цяперь даб'ецца ўсё ды абýха і рассыпліцца хызяйства. Ікая з Вашчыліный хызяйка: дабілыся ўсё да ручкі, а йна толька рукáмі разводзіць. Я віджу: скора тут усё даб'ецца ды пасьледніга.

**Дабіваць да абуха** (ручкі, паследняга). *Рабіць поўнасцю непрыгодным.* Што цяперіцька ріманьцíрывыць, ні нада було дыбівáць ды абýха. Якоя ні було хызяйства, а так кінуў ны прыізвол судзьбы, дыбіваіць да рýчкі. Ні дыбівáй ды пасьледніга, а зынясі ды здай у пачынку. *Зак.* **Дабіць да абуха** (ручкі, паследняга). Дабíць ды абýха нядоўга што хочыш, толька посьлі абýха нічога ні астáніцца. Каб зразу кыпылы новыя, вязкí — і езьдзіў ба, а так дабілі да рýчкі, адны пылазы дзіржáцца. Дай людзям, адны будуць бярежч, а другея даб'юць ды пасьледніга. *Гл.* Д а в а д з і ц ь  д а  р у ч к і.

**Да былачкі.** *Падчыстую (пра сена, салому, траву).* З восіні, здывáлыся, сыбрáлі пырядышныга — і сянцо,

і сьвірепычка, і кукуру́за, і ата́ўка, а к вясьне пыдыбра́лыся да бы́лычкі.

**Да бязумія.** *Надзвычай моцна, бязмежна (кахаць).* Кажыцца, любіў ды бязу́мія, а жаніліся — і во што вы́йшла.

**Давадзіць да белага каленія.** *Злаваць да страты самавалодання.* Сколька разоў ты мяне дывадзіў да белыга каленія, ці помніш ты ета? *Зак.* **Давесць да белага каленія.** Дывялі́ да белыга каленія — ны сябе ні паходж.

**Давадзіць да вушэй,** *неадабр. Паведамляць.* А нашто вам усякыю лухту дывадзіць ду вушэй, ім і так ні шчасьціць у жызьні. *Зак.* **Давесць да вушэй.** Кажыцца, і ніхто ня ві́дзіў, а воч жа дывялі ду вушэй. *Працягл.-фінальн.* **Надавадзіць да вушэй.** Абея ныдаводзюць сваё бряхні ду вушэй, так ныла́ю, што места сабе ні на́йдуць нійдзе.

**Давадзіць да ручкі** (канца, точкі, паследняга), *неадабр. Рабіць поўнасцю непрыгодным.* Што ж ты цяперя нічога ні зна́іш, а зачым жа було дывадзі́ць да ру́чкі. Даводзюць ды кынца́ і дывяду́ць, ой, нукуку́юцца яны, нукуку́юцца. Да точкі дывяду́ць, будзіць, што хуць у вір гылавою. Віджу, што даводзюць усё ды пасьледніга, я тады яе зу руку́ ды двору: сядзі́. *Зак.* **Давесць да ручкі** (канца, точкі, паследняга). Дывялі́ да ручкі, я ўжо ні знаю, што цяперя і як бу́дзіць. Так дывялі́, ды кынца́ дывялі́, да́льшы некуды. Узяў сымавольна калёсікі, давёў да точкі, нашто яны былі табе. Есьлі ўжо дывялі́ ды пасьледніга, ла́скі тады ня жджы́ця. *Узмацн.* **Падавадзіць да ручкі** (канца, точкі, паследняга). За што ня возьмуцца, усё пыдывяду́ць да ручкі, посьлі іх хуць выкіда́й. Прыхырыня́ты пыдывяду́ць ды кынца́, раз узя́ліся, кончына будзіць. Доўга вам пыдывадзі́ць да точкі, умеючы, раз-два — і ў дребізкі. Глядзі́ ды глядзі́, пыдывяду́ць ды пасьледніга, нічога ні ста́ніцца.

**Давадзіць да сазнанія.** *Рабіць зразумелым.* Трі часы́ зь ім біліся, усё дывадзілі ды сызна́нія, што нада кінуць піць. *Зак.* **Давесць да сазнанія.** Табе давесьць што ды сызна́нія нада цярьпеньня. Ну, думыю, давёў ды сызна́нія, пыня́ў, ажно гляджу́ — паехыў саўсім у другей бок. *Працягл.-фінальн.* **Надавадзіць да сазнанія.** Во, тулкува́ць ныйшла́ ты пры каго, ныдаводзіць ён ды сызнанія, і да двух сызна́ній зра́зу.

**Давадзіць да толку** (ладу). 1. *Рабіць зразумелым.* Як жа ты дывядзеш яму да толку, кылі ён і слу́хыць цябе ня хочыць. Дывадзі́ла, дывадзі́ла ды ла́ду дый кінула: ні ма́лінькій, сам ду́мый. 2. *Наладжваць.* А во дываджу́ троху да толку, ато ж ніякыга пыря́дку ні було. Сядзі́ць вун у погрібі, нешта даводзіць там ды ла́ду. *Зак.* **Давесць да толку** (ладу). 1. Дайжа ня ду́мый і ні бярі́ся, Марку ты да толку ні дывядзеш. Як пабы́ў у Рігі, тама троху дывялі ды ладу, нямнога чылавекым стаў. 2. Ніяк ні сыбяру́ся двор да толку давесьць, столька там громызду. Зы пыўдня́ тут ды ла́ду ні дывядзеш, дні два прубузу́ісься. *Працягл.-фінальн.* **Надавадзіць да толку** (ладу). 1. Андрей як ныдаводзіць да толку, дык і з зылатою гылавою ні рызьбяресься. Толька запу́тылі, во як яны ныдывадзі́лі ды ла́ду. 2. Ясныя дзела, што Сьцёпка ныдывадзі́ла да толку — будзіш дзень кыпа́цца, каб што айдзе найці́ць. Ну што, ныдывадзі́ў ды ладу, ікая ні была кыля́ска, дык свыя, а цяперя ніякія.

**Даваць аддуху** (прадуху). *Вызваляць ад тлуму на кароткі час.* Канешня, даець адду́ху, тэй са́мый, што дасьць. Худзь ба ты дыва́ў мне якую праду́ху, дык жа ні даеш ніякія. *Зак.* **Даць аддуху** (прадуху). Дай ты адду́ху, ні гані́ так, тут жа ды́хыць нечым, дыха́нія ні хвыта́іць. Худзь ба даў хто праду́ху ат етыга лёну, пра́ньнік ужо ру́кі атырва́ў.

**Даваць адхлын.** *Вызваляць ад тлуму на пэўны час.* Ня жджы і ні надзейся, атхлы́ну дыва́ць ён табе ня бу́дзіць. *Зак.* **Даць адхлын.** Якей жа табе яшчэ атхлы́н даць, есьлі ты і так сьпіш цэлымі днямі. Ці дасі ты маёй душэ атхлы́н, ці не?

**Даваць ачко.** *Перау́зыходзіць ва у́сім.* Усім даець ачко і ны рабоці, і ны вічарі́нкых. *Зак.* **Даць ачко.** Што, даў табе ачко на ксьці́ных? — і с касою дасьць, ён хлопіц вёрткій. *Працягл.-фінальн.* **Надаваць ачко.** Ныдаеш ты ачко, гірой такей, а ці туды у́ цябе рукі слу́жуць зы тапор узя́цца.

**Даваць баню** (лазню, узбучку, пытлю). *Адчувальна у́здзейнічаць (лаяць, біць).* Пупа́лі яго у́трёх ны Атложжы і дыва́лі ба́ню часы́ два. Ну што, кылі ты дыва́ла баню, толку ж німа ніякыга. Лазьню мы яму даём, і стыдзі́лі, і прыбіра́лі,— сагнець гылаву і пашоў. Што ты дыва́ў ла́зьню, нада у́чыць ня ремнім, а словым. Чу́ла, як

брігадзіріхі дывáлі ўзбýчку? Даець узбýчку, ні глядзíць, што ня родный. За што ж ты куме пы́тлю дывáла, чым іна табе ні ўгадзíла? Большы я прышчáць ні стáну, за ўсё буду пы́тлю дывáць. *Зак.* **Даць баню** (лазню, узбучку, пытлю). Мы сваймý дáлі бáню, ня дýмыю, каб большы такую дуратý стаў тварíць. Дай сваймý баню: у чужэй сад лáзіў. Дасьць табе лáзьню Уліта, у яе язык вoйстрый. Вун пýгу вазьмí ды дай лазьню хырашэнька, ато рогі пырасьлі. Ніхай пупадýць цябе Лявоніхіны нявесткі, дадýць узбýчку. Во пылядзíш, дадуць табе ўзбýчку зы такоя дзела. Дам пытлю лáдна, нылáю сколька ўлезіць, будзіць знаць, а што ж большы дзелыць, калі слýхыць ня хочыць.

**Даваць бярозавай кашы,** *іран. Сцябаць дубцом.* Я ўжо дывáла табе бярёзывыя кашы і яшчэ дам, так ня бойдзіцца. *Зак.* **Даць бярозавай кашы.** Дай сваймý атлáндзіру бярёзывыя кашы, і хырашэнька дай: такей быў серпік ладный, і лоўкій, і зыхвáцістый, дык сагнýў мы́сік, ня жнець.

**Даваць веры,** *часта іран. Верыць.* Зразу дывáў веры ныпрáўду, а посьлі толька ўсьміхáўся. Ні дывáй веры ні аднамý слову, пакуля ні расьпíшыціся. *Зак.* **Даць веры.** Каму ж ты даў веры, чылавек ты, у яго ж што слова, то ніпрáўда. Як жа я табе дам веры, кылі ты брешыш ны кажным слові.

**Даваць волю** (свабоду, паблажку, патачку), *неадабр. Празмерна балаваць паблажлівымі адносінамі.* Ці чулі вы етыю новысьць, дывáйця яму волю, ён, што захочыць, будзіць дзелыць. Дывáць свабоду табе ніхто ні стáніць, ня жджы дужа. Нада було меншы пыблáжку дываць, тады б і дрáнка цалей была. Што ж вы дыіцё такую пытáчку, што хочуць, то й дзелыюць. *Зак.* **Даць волю** (свабоду, паблажку, патачку). Сыма рызбáлывыла, дыла волю, а цяперь ня возьміш у рукі. Ці ні знáіш, чаго неслух зь неслухыў: многа свабоды змáлку даў. Біць ні нада, ну і пыблáжку кылі дасі у любым дзелі, толку ня будзіць. Даць пытáчку лёхка, а толька пазьней сыма сябе пычанеш кусáць за локці.

**Даваць волю** (свабоду) **рукам,** *неадабр. Распускацца ў дзеяннях.* Што ты даеш волю рукам, ідзі вун, у цябе ёсьць каго абнімáць. Пычаў быў дывáць волю рукам, дык

скора ўнялі. Наўчы́ўся ж дываць свабоду рукам, хуць нос яшчэ пацьцерць ня ўмеіць. Ізыком мялі, а рукам свабоды ні дывай. *Зак.* **Даць волю** (свабоду) **рукам.** Ты ціряшчу́р даў волю рукам, пупадзець табе па іх. Нешта ты дужа волю рукам даў, усё с кулука́мі носісься. Чаго ты ві́сьніш на шыю, даў свабоду рукам. Уніма́ць було некыму, дык даў свабоду рука́м і даў, а ў перья увыбра́ўся, то й быя́цца сталі.

**Даваць волю слязам.** *Плакаць нястрымана, каб выплакацца.* Чаго іна етык даець волю сьлізам, горя — ня горя, а піріжыва́й у душэ. *Зак.* **Даць волю слязам.** Што ты ўжо так дыла волю сьлізам, успакойся, абду́мыйся.

**Даваць волю языку,** *неадабр. Балбатаць, пустазвоніць; лаяцца.* Ну і даеш жа ты волю ізыку́, нада було б трошку прідзержывыць яго зу зуба́мі. Даець і даець волю ізыку́, некыму було уня́ць зра́зу. *Зак.* **Даць волю языку.** Дужа ўжо дыла волю ізыку́, ну нарьвецца калі ны свайго, апсякець ёй язык хто-небудзь. Волю ізыка́м да́лі, што сьцены рызьліга́юцца ка́жный дзень.

**Даваць галаву на адсяканне** (адсяканіе, адсячэнне, адсячэніе, у заклад, пад заклад). *Ручацца.* Гылаву́ даець ны ацьсіка́ньня, што зьдзелыіць. Ты ж гылаву́ дыва́ў ны цьсіка́нія, што ў скрысеньня пріедзіш. Гылаву дываў ны ацьсячэньня зы Прахора — еткыя дру́жба ў іх. Даю гылаву́ ны цьсячэнія, што мне тут ны пыўдня́ ўсяе работы. А чаго ж ба я гылаву́ дываў у зыкла́д, каб ні зьбіра́ўся пріці́ць воўрімя. Даю гылаву́ пыдз зыкла́д, што ні спазьню́ся. *Зак.* **Даць галаву на адсяканне** (адсяканіе, адсячэнне, адсячэніе, у заклад, пад заклад). Я гылаву́ дам ны цьсіка́ньня, што паддурі́ць і пойдзіць цірязь месіцдругей. Нашто мне іна, твыя гылыва́, калі ты дасі гылаву ны цьсіка́нія. Баріс гатоў даць гылаву ны цьсячэньня, што так ні було. Дам гылаву на ацьсячэнія, есьлі цірізь нядзелю ня будзіць гатова. Гылаву́ дам у зыкла́д, што за́ўтря вярну ўсё ды капеічкі. Дам гылаву пыдз зыкла́д, што яны карчэлі та́м, лі стога.

**Даваць дарогу.** *Не рабіць перашкод.* Чаго ён баі́цца, яму ж даю́ць дарогу, злаўредзіну усе здаю́цца такея, як сам. *Зак.* **Даць дарогу.** Мы міша́ць ні ста́нім, дадзі́м дарогу. Далі дарогу на ўсе чаты́рі сторыны, ідзі, едзь куды хочыш.

**Даваць духу,** *жарт.* 1. *Энергічна дзейнічаць, уздзейнічаць.* Відзіш, як даець Іван духу, аж салома рызьлітáіцца ва ўсі бакí. Айдзе за што ні бráўся Зьмітрок, усюдых дывáў дýху: куды ня пойдзіць, пут кустамі прыкычáіцца. 2. *Падтрымліваць, натхняць падтрымкай.* Я табе ўсігда дывáў духу, каб ты ні ціряўся. Ты яго падзьдзержывый, дывáй духу, ато раськíсьніць і ўсё, і нічога ня зьдзелыіць. 3. *Лаяць, ушчуваць.* Дывáла я сваім духу за вы́піўку, пыкляліся, што большы ня бýдуць. 4. *Біць.* Полька дывáла духу свайму большыму нейкыю тря́пкыю. *Зак.* **Даць духу.** 1. Вы там, відна, дáлі духу. Куды ня пойдзіць, ці с касою, ці с тыпаром, дык дасьць духу, толька для віду сходзіць. 2. Ладна, што Міця нырвáўся, даў яму духу, ато ўжо думыў саўсім ацступáцца. 3. Ты яе нупужáла, дылá ёй дýху сваёю лáінкыю. 4. Даў духу, каб помніў, што так дзелыць ніідзе нільзя́.

**Даваць жару,** *гумар.* 1. *Энергічна дзейнічаць, уздзейнічаць.* Даю́ць жáру тваe работнічкі: як стаíш — троху дзяўбýць, як атыйшоў — пыўдня́ кýрюць. 2. *Лаяць, ушчуваць.* Даець Вулька жару свайму: нейдзі учора ўзяў чáрычку. 3. *Біць.* Я іх у руках дзіржáў здорыва, за ўсё дывáў жáру. *Зак.* **Даць жару.** 1. Дáлі жару — вы́кыпылі ны якей метыр, во і ўся работа. 2. Дасьць табе жару Ганна, сь кім ета ты пы бызáру ходзіш. 3. Даў брат жару, злавíў ды ремнім, ремнім.

**Даваць жызні** (жысці), *іран.* 1. *Энергічна дзейнічаць, уздзейнічаць.* Вун тваe ўдáрнічкі даю́ць жы́зьні лі кыпцá — сьпяць у саломі. Пітрачонкі усю́дых дывáлі жы́сьці: ні хацелі пáліц ап пáліц удáріць ніідзе. Кáжныю ноч даю́ць жы́зьні, што-небудзь учубýчуць, так ня пходзіцца. У нас была сьпетыя кымпáнія, мы дывáлі жы́сьці. 2. *Лаяць, ушчуваць.* Нікому ні рыскáжыць, сколька я дывáла яму жызьні зы бáлыўства. Даець жысьці сваім хлыпцáм Аўдотка за нешта. 3. *Біць.* Лубудзіня́ты дывáлі жызьні усім пыдря́д, пупыдáла лáдна. Ремінь як возьміць, даець жысьці. *Зак.* **Даць жызні** (жысці). 1. Міхалка сь Кіреім кылі пойдуць, то дадýць жызьні, прысьпя́ць дзень у аборку. У чáрку як гля́нуць, тады дадýць жызьні. Дáлі жысьці — упіцяры́х пыўгіктáра аборычык скасілі. І кріўля́ліся, і дурáчыліся, і як толька сябе ні пыкáзывылі,— дывáлі жы́сьці. 2. Дылá жызьні лáдна, усё пымянýла. Даў ты жысьці, ды яго і ці дыйшлá твыя́ лáінка. 3. Далі ім

жызьні, большы ня ўзду́мыюць лезьць. Зловюць — да-ду́ць жы́сьці, тады пыхахочыця.

**Даваць загуну.** *Ганьбіць, указваць на недахоп.* Нечы-га дыва́ць загу́ну другі́м, кылі свае мурза́тыя. Іна дзеў-ка з норывым, усім даець загу́ну. *Зак.* **Даць загуну.** Што ж ты дыла́ загу́ну куме, як жа вы цяперя за стол ра́зым ся́дзіця. *Узмацн.* **Падаваць загуну.** Усім пыдыва́ла за-гу́ну, адна йна хырыша́. *Працягл.-фінальн.* **Надаваць за-гуну.** Такей быў хлопіц ла́дный, ну ніха́й — ныдаець за-гу́ну, што ніхто й гля́нуць ні захочыць.

**Даваць** (задаваць) **драла** (дзёру, цягу, ходу, лататы). *Кідацца наўцёкі.* Бува́ла, як увідзіць толька Напрея, і даець дра́ла. Ну й дыва́лі ж мы дзёру с Пына́сывыга саду! Ці даеш ты цяперіцька цягу ат Восіпа, як ра́ншы? Дывай ходу, пакуля ні пупа́ла, вун бацька с пу́гыю не-кыга ішчыць. Ніхай толька голыс мой пачу́юць, даюць лыта́ты. Чаго йта ты адзь дзядзькі зыдаеш дра́ла? Зыды-ва́й дзёру, паку́ля ні зашчу́чылі, вот-вот тут будуць. Па-дойдуць к саду і дра́жнюцца: січас палезім,— тэй бягі́ць с палкыю: пыўбіва́ю, а яны зыда́юць ця́гу хто куды́. Прі-дзіцца табе зыдыва́ць ходу ат'етуля. Зыдыва́й лытаты́ зы аборык і прісядзь там: яны сюда біга́ць. *Зак.* **Даць** (задаць) **драла** (дзёру, цягу, ходу, лататы). Даў дра́ла, толька пыл узьві́ўся с-пад ног. Зглядзілі, што ты ідзеш, і далі абоя дзёру. Да́лі ця́гу, толька тую мінуту і ві́дзілі іх ту́та. Снычáла храбрі́ўся: я нікога ні баюся, а тады даў ходу. І ты б даў лытаты́, каб знаў, што цябе жджэць. Во зыда́лі дра́ла, чуюць што дыбра́ ждаць ні нада. Толька я пыкыза́ўся адзін, яны ўтраі́х зыда́лі дзёру. Айдзе яго дыгна́ць, зыда́ў цягу — ны кані ні спра́вісься. Цягу зы-да́сьць, зна́іць, што тут харошыга ні пріжджэш. Ні хыця́ зыдасі́ ходу, есьлі пу́тым па́хніць. Уві́дзіш ты етых хрыб-ряцоў, тую ж мінуту зыдаду́ць лытаты́. А чаго ж тэя мурзацікі зыдалі лытаты, што яны чуюць зы сабою.

**Даваць** (задаваць) **перцу,** *звыч. жарт. Строга ўшчу-ваць, лаяць.* Ты дыва́ла перцу, яны цябе дужа быя́цца. Зыда́ю перцу сваім, а што зь імі і́нычы зьдзелыіш. *Зак.* **Даць** (задаць) **перцу.** Ох, даў перцу, дык даў! Ну, зы-да́м я ім перцу, бу́дуць ляцець с саду, што зямлі́ пыц са-бо́ю ні пачу́юць. Ту́рык, немiц і пыля́к тынцыва́лі кыркы-вя́к, ту́рык немцу зыда́ў перцу, немiц ту́рку сыдра́ў шку́рку.

**Даваць задній ход.** *Адступаць, адмаўляцца ад зробленага, сказанага.* Ну што ж, пупа́ўся — цяпер дыва́й задній ход. *Зак.* **Даць задній ход.** Увідзіў, што нічога ня вы́пыліць, даў задній ход.

**Даваць збыт** (збыту, спакой). *Вызваляць ад назолы, тлуму.* Каб ты дываў мне збыт худзь ба ны адну міну́тычку, дык ні даеш. Дыіцё вы збы́ту ла́дна — ні прілежч, ні засну́ць, ні пысядзець ціха. Кріклі́вый дзіцёнык, ні даець збыту. Даюць яны спакой, дажджэсься ат іх. Сколька жыў — спакой ні дываў. *Зак.* **Даць збыт** (збыту, спакой). Набрёхыўся вады, то й ляжы́ ціха, дай збыт хуць троху. Ні надзейся, што збы́ту даду́ць, так вы́рвуць серца, што большы ні захочыш. Ні гывары́ ты лу́ччы і ні пыміна́й, дадуць спакой і ны час, і ны два зразу.

**Даваць здачы.** *Адказваць на лаянку, біццё тым жа.* Пёкла ні маўчы́ць яму нісколька, даець зда́чы. *Зак.* **Даць здачы.** Зь Любкыю ні шуці́, іна скора дасьць зда́чы. Даў здачы і пашоў, во й падлез, храбрец.

**Даваць знаць.** *Паведамляць умоўлена пры неабходнасці.* Наду́мысься сыстыўля́цца — дыва́й мне знаць, я дні ны два-трі атарву́ся як-небудзь. *Зак.* **Даць знаць.** Каб што случы́лыся, яны б да́лі знаць, усё, верна, хырашо.

**Даваць канцэрт,** *іран., неалаг. Падымаць істэрычны крык, сварку.* Даець канцэрт мужуку́ чуць ні ка́жный дзень: гырыдзка́я ж. *Зак.* **Даць канцэрт.** Як даў канцэрт, ні мыгла́ бі́тый час успакоіць. Паехылі у Гіндыбыўку і там да́лі канцэрт. *Працягл.-фінальн.* **Надаваць канцэрт.** Я яму ныдаю́ канцэрт, я яго. Ніха́й, ніхай, скора яны ныдаю́ць канцэрты,— атвы́кнуць і забу́дуцца, як рот рызіва́ць.

**Даваць касцяніц.** *Балюча праводзіць костачкамі пальцаў па галаве.* Ці помніш, як дыва́ў я табе кысьцяніц, што ты дражні́ўся. Гуля́юць, гуля́юць, а тады як возьмуцца адзін другому дываць кысьцяніц — і ў сьлёзы. *Зак.* **Даць касцяніц.** Тэй, знаць, даў кысьцяніц, а етый зубамі, і абоя ў рёў. *Множн.* **Надаваць касцяніц.** Толька ж дыганю, рызарвут твае бакі, ныдаю кысьцяніц — шкуру злуплю.

**Даваць копаці,** *іран. Энергічна, з шумам дзейнічаць.* За што ня возьміцца, даець копыці. Ну й дыва́ў жа ты копыці учора ў Чарні́лыві. *Зак.* **Даць копаці.** Даў ты ко-

пыці, нехта дужа цябе баіцца. Пыдажджы́, у лесі було цяжола, цяперя яны у лугу́ дадуць копыці.

**Даваць кругу** (круку). *Рухацца кружным шляхам.* Чаго табе було дыва́ць кру́гу, есьлі во пряміནькыя дарога ціряз лог. Я ні стаў ба дыва́ць такога крю́ку. *Зак.* **Даць кругу** (круку). Бягі быльшаком, тут хуць дасі́ кру́гу, зато ні заблу́дзісься. Дарогі ж мы хырашо ні зналі, дык далі крю́ку вёрст дзесіць.

**Даваць лупку** (лупцоўку). *Сцябаць моцна і сур'ёзна.* Ні хвалі́ся ўжо, што даеш лу́пку, зупужа́іш дзяцей і большы нічога. Чаго там гывары́ць, мне бацька дыва́ў лупцоўку, праўда-тыкі, і я дытвыря́ў. *Зак.* **Даць лупку** (лупцоўку). Каторыму пымыга́іць, а каторыму ці дасі́ лу́пку, ці ні дасі́,— усё дно сваё твары́ць. Дыла́ лупцоўку, а ці я ж на іх буду малі́цца.

**Даваць маху.** 1. *Дапускаць грубы пралік, памылку.* За што ня возьміцца, даець ма́ху, саўсі́м бісталковый. 2. *Уцякаць.* Табе нада дыва́ць ма́ху, пупаду́ць — плоха табе будзіць. *Зак.* **Даць маху.** 1. Што ні гыварі, ня слухыіць, хуць здохні, а дасьць маху у чым-небудзь, тады бягі́ць ра́іцца. Мікіцёнык ні ў чым маху ні дасьць. 2. Айдзе яго зловіш ці дагоніш, ён толька пачуў пры цябе, дык даў маху — пяткі блішчэлі.

**Даваць** (падстаўляць) **падножку** (нагу, ножку). *Стварадь нечаканую перашкоду.* Хто там табе зьбіра́ўся дыва́ць падножку, нешта ты выду́мыіш, узя́ўся і дзелый. Кірей харош толька ны слыва́х, а сколька ён Трахіму дыва́ў нагу́. Я дыва́ць ножку нікому ні зьбіра́юся, я ні такей, як твой та́тычка. Ну хто йта Дзяніс у пыцстыўля́ць падножку ста́ніць. Ныбрі́ха́ла сколька ўлезла, большы атвы́кніць і зырякецца пыцстыўля́ць нагу́ у любом дзелі. Сколька раз яны мне пыцстыўля́лі ножку, а я ўсё цярьпела. *Зак.* **Даць** (падставіць) **падножку** (нагу, ножку). Ізыком, кажыцца, настолька харош, хуць ды раны пріклыда́й, а падножку дасьць, айдзе толька можыць. Лоўка ж Іван даў нагу ім зь естым пацьцёлкым. Нарошня дзелыіць, дасьць ножку, проста нату́ра тыкая ізуіцкыя. Надзейся, ды глядзі, Васька пыцста́віць падножку жы́ва можыць. Мыкар так пыцста́віць нагу, што ні аглянесься, як у дурука́х ака́жысься. Я ні дурак, знаю, што яны хацелі мне пыцста́віць ножку. *Працягл.-фінальн., рэдкаўж.* **Надаваць** (нападстаўляць, дападстаўляць) **падножку**

(нагу, ножку). Адзін ужо ныдываў падножку, пупаўся, што ні знаіць, як выпутыцца. Глядзі, ныдаеш нагу, сам можыш спытыкнуцца. Мне ты жыва ныдаеш ножку,— во я табе як пыцстаўлю, то ня скора выкырыбкыісься. Хомка ўжо ныпыцстыўляў падножку, у вочы людзям ні глядзіць. Можа й так абойдзіцца, а скарей усяго ныпыцстыўляіць нагу сам сабе. Хракцірым такей урадзіўся, каб якую дрянь зьдзелыць, а як прішлося сымаму, дык нісмашна, відзіць, ныпыцстыўляў ножку. Дыпыцстыўляіця падножку людзям, самі сядзіця ў калош. Як дыпыцстыўлялі нагу самі, нябось, ніхырашо стала. Усё ні було места Лаўріну, ня мог, каб што ня зьдзелыць, ну, во дыпыцстыўляў ножку.

**Даваць па зубах,** *груб. Біць у твар.* Глядзі дываць пу зубах, ныдаю, гіройскій дужа, места сабе ні находзіш. *Зак.* **Даць па зубах.** Да не, відна, далі пу зубах ладна, ета яму толька гываріць стыдна. *Шматкр.* **Надаваць па зубах.** Ныдывалі пу зубах — во і ўсё, і ныхрабріўся, айдзе й храбрысьць дзелыся.

**Даваць па руках.** *Аказваць рашучы адпор.* А ты яму дывай пу руках, раз ён такей. Такім нада сільней пу руках дываць. *Зак.* **Даць па руках.** Грішу ладна далі пу руках, большы красьць ня ўздумыіць.

**Даваць па шапкі.** 1. *Біць.* Ён усігда сам улезіць куды ні нада, яму і даюць пы шапкі. 2. *Знімаць, праганяць з пасады.* У нас п'яніц ні цярьпелі, зразу дывалі пы шапкі. *Зак.* **Даць па шапкі.** 1. Даў ба пы шапкі, ён ба і атлез, вогірь еткій. 2. Каб ні далі пы шапкі, рызваліў ба брігаду,— піў, і піў, і піў. *Множн.* **Надаваць па шапкі.** *Пабіць.* Сьпірва троху уськінулі большыму, а посьлі падлез меншый, і таму ныдывалі пы шапкі.

**Даваць па шыі** (у каршэнь, па карку, па загрыўку). *Біць са злосцю.* Ён умішаіцца: січас рызбыраню,— тады даюць па шыі і адны, і другея. Ты ні забыў, як табе дывалі ў каршэнь за ета дзела. Ня бойся, мы яго жыва атвучым дываць пы карку. Пы загріўку троху дывалі, што там гываріць. *Зак.* **Даць па шыі** (у каршэнь, па карку, па загрыўку). Як далі па шыі — уняўся, прітваріўся: айдзе йта я, ато саўсім уходу ні було. Палезь, палезь, дадуць у каршэнь і пойдзіш як мыла зьеўшы, ат людзей будзіць стыдна. Тут дужа ні пушурудзісься, пы карку

дадýць і ўспакоюць. Тэй можыць скора даць пы загріўку, у яго ні пытáць. *Множн.* **Надаваць па шыі** (у каршэнь, па карку, па загрыўку). Уся́дзься, пакуля па шыі ні ныдывáлі. Яй-богу ныдаю́ць у каршэнь, так ты сяньня нізашто ні абойдзісься. Чаго лýччыга не, а пы кáрку жыва ныдаю́ць. Ныдывáлі пы загріўку і хырашо зьдзелылі, яму ж ні ўгамону, ні ўхадору ні було саўсім.

**Даваць піць** (прыкурыць, прыкурываць, прыпаліць, прыпаліваць), *іран. Энергічна ўздзейнічаць.* Я ім абаíм дываў піць, яны мяне быя́ліся. Што ты яму дывáла піць, ён да́йжа слýхыць нічога ня хочыць. Ці ета ты дываў прікуріць Сярьгею, ці ён табе, нешта вы абоя плáкылі. Яму нада большы дывáць прікуріць. Ну й даеш жа ты прікýрівыць мыхрачом. Даець прікýрівыць сваíм лáдна, нечыга скызаць. Даю пріпаліць, духу майго баíцца. Я яму ладна дываў пріпаліць. Лёню нада ні так дывáць пріпáлівыць, рогі пырасьлí. Валодзьку помніш? — тэй дываў сваім пріпáлівыць. *Зак.* **Даць піць** (прыкурыць, прыпаліць). Дáлі мы вам піць адзін раз і яшчэ палýчыця. Дáлі прікуріць дуччáнім, забýдуць наш сад. Дам прікуріць, пірістáніш ты маю ры́бу выця́гывыць. Ох, ты ўжо дылá прікуріць, ім дайжа ні зыбрыдзела тваё лáіньня. Дасьць ён табе пріпаліць зы такоя дзела, будзіш рёвым реўць. Ага, дáлі пріпаліць, яны вас дужа спужáліся.

**Даваць праборку** (наганяй, нахлабучку). *Сварыцца строга, ушчуваць; лаяць.* Ніхáй толька калі ня слýхыіць, я ні гляджý, што студзент, даю праборку. Аксюта як была, дык дывáла ныгыня́й, і слухы́лі яе троху. Як возьмуцца утрёх дывáць ныхлабýчку, як уюн крýціцца. А мы ні сьцісьняімся, даём ныхлабучку ладныю. *Зак.* **Даць праборку** (наганяй, нахлабучку). Дай-ка ты сваім атлётым праборку хырашэнька, ніхай ні звучáюцца лáзіць пы гародых. Дыла ныгыня́й, ніхай ня трепліць ізыком чагозря. Во дáлі ныхлабýчку раз ды другей раз, дык троху і ўнілáся. Ні пыгляджý, што кумá, толька дыбярýся — дам ныхлабучку луччы некуды.

**Даваць прамашку** (промах, абмашку). *Дапускаць пралік, памылку.* Дывáлі вы прымáшкі абоя, нечыга апрáўдывыцца. Ні нада було дывáць промых. Такую абмáшку дывáць нільзя, тут і дзіцёнык рызьбярецца, што к чаму. *Зак.* **Даць прамашку** (промах, абмашку). Во даў прымашку, што ні павёз сяньня пырыся́т, харошыя цэны

былі. Далі вы промых, што ні пашлі́ ны вічары́нку. Гывары́ ты, Аўдыкіміня́ты даду́ць абмашку, ня тэя лю́дзі. Даў абма́шку, што ні схадзі́ў к сваім.

**Даваць пылу** (дыму), *жарт. Надзвычай энергічна дзейнічаць, уздзейнічаць.* І адзі́н даець пы́лу, і другей хвыта́іць — гультаі́ з гультаёў вон. Ну, даём пы́лу яму́, ву́чым, як на сьвеці жыць. Ух, як ты даеш ды́му, ня меншы сотык дзісяці́ пыкла́ў. Ты ім даеш ту́тыцька ды́му, яны ў цябе чуць ні па стру́нкі ходзюць. *Зак.* **Даць пылу** (дыму). Калі твой Хведзька з Бынадысім пойдуць, яны дадуць пылу. Цёшча кылі пры́дзіць, іна ў іх дасьць пы́лу. Даду́ць яны ды́му і на бу́льбі, і ны саломі, труня́юцца, каб дзень да вечыра. Канешня ж, толька вас там ні хвыта́ла, вы дасьцё ўсюдых дыму.

**Даваць рады.** *Перамагаць з вялікімі намаганнямі.* Я і ні такім, як ты, дыва́ў ра́ды, а с табою мне справіцца нечыга. *Зак.* **Даць рады.** Нічога, с табою рады дам, ні біспакойся.

**Даваць раскрутку.** *Даходзіць да празмернасцей у гульні, працы, уздзеяннях.* Грошы ш шахт прівёз многа, цяперіцька даець раскру́тку с хлыпца́мі ка́жын дзень. Ух, дыва́лі мы раскру́тку, як, бува́ла, удзісяцёх прі́дзім ны вічары́нку. Лёшка даець раскру́тку ны стагу́. Ты, я віджу, даеш раскру́тку сваім гуля́кым. А што ж, есьлі ні дываць ім раскрутку, с такіх гадоў ні дзіржа́ць у руках. *Зак.* **Даць раскрутку.** Пыдажджы́ці-ка, сыбяру́цца хлопцы, даду́ць раскру́тку, дзяреўня будзіць хыдаром хадзі́ць. Айт, дасьць ужо раскру́тку твой Ільля, ныработыіць. Далі раскру́тку, што ўсе сьмія́ліся, цяпера сты́дна на лю́дзі пыкыза́цца. Дыла́ сяньня за нешта раскру́тку Ма́нічка тваёй сьвякрові. Усё грозіць: дыбяру́ся з ремнім, дам раскру́тку.

**Даваць слова.** 1. *Дазваляць выступіць, сказаць.* Ён, знаць, хацеў вы́ступіць, ды яму слова ўсё ні дыва́лі. 2. *Цвёрда абяцаць.* Даю слова, што на той нядзелі рышшчыта́юся ды капейкі, посьлі быза́ра. *Зак.* **Даць слова.** 1. Пракоп усё ірва́ўся вы́ступіць, а як далі слова — устаў, і гывары́ць нечыга. 2. Я тріпа́цца ізыком ні ста́ну, раз даў слова, то зьдзелыю.

**Даваць спасіба.** *Дзякаваць.* Ты ж вучы, каб увыжа́ў ста́ршых, каб усігда спасі́ба дываў. *Зак.* **Даць спасіба.**

Дай дзядзю зы канхветкі спасі́ба. Як ні дуку́ю, і нізашто нікому ні дасьць спасі́ба.

**Даваць спуск,** *неадабр. Адносіцца непатрабавальна.* Каб меншы дыва́лі спуск, толк ба луччый быў. Дакуль ён сваім бэйбусым спуск дываць будзіць. Я спуску ні даю, дзяржу ў руках. *Зак.* **Даць спуск.** Раз дасі спуск, другей раз, а тады й саўсім пірістá́ніць слу́хыць, вы́рысьціць распу́шчыным.

**Даваць сто ачкоў упярод** (уперад, наперад, напярод). *Пераўзыходзіць.* Цяперь я што, цяперь нічога, а як мне гадоў тріццыць було, я дыва́ў любому сто ачкоў упярёд ны ўся́кый рабоці. Хва́ліцца, што даець сто ачкоў уперід любому і зь ім ніхто ні спра́віцца. Даець сто ачкоў наперід, што ён піряборііць. Мы, бува́ла, як вы́ідзім на луг, сто ачкоў ныпярёд дыва́лі зічыча́нім. *Зак.* **Даць сто ачкоў упярод** (уперад, наперад, напярод). Ну любу́ю работу вы́йдзіць — сто ачкоў упярёд ка́жныму дасьць. Раншы я ўсім мог сто ачкоў уперід даць вы ўся́кый рабоці, а цяперя сіла ні тая. Хвенька ні тваёй вірста́, іна любой дасьць сто ачкоў наперід. Я табе і с касою, і с плу́гым усігда сто ачкоў ныпярёд дам. Мы дадзім сто ачкоў ныпярёд, што нашы арехі будуць лу́ччыя.

**Даваць** (сыпаць) **у косці.** 1. *іран. Моцна прабіраць, лаяць.* Устрецілі зы быльшаком, як ста́лі дыва́ць у косьці, успомнілі ўсё за дзесіць гадоў. Во, будзім у зубы глядзець, сыпім у косьці сколька нада. 2. *Зацята біць.* І пла́чыць, і ў косьці даець ім пыря́дкым, ну што, расту́ць бысячу́гымі. Табе сы́пылі ў косьці, хвыта́ла. *Зак.* **Даць** (усыпаць) **у косці.** 1. Ніхай, ніхай нарву́ся як-небудзь, дам ужо ў косьці дык дам. Нада будзіць усы́пыць у косьці, каб язык ні руспуска́ла. 2. Жані́цца ж абішча́ў, а толька апазоріў дзеўку, ну браты́ яму да́лі зы яе ў косьці, надоўга запомніць. Сам я ня відзіў, толька кыза́лі, што ў косьці яму ўсы́пылі ў Зылачэві добря.

**Даваць** (сыпаць) **у хвост і ў грыву,** *гумар. Моцна прабіраць, лаяць.* Даець Жэнька свайму і ў хвост і ў гріву. Ты яму сы́піш і ў хвост і ў гріву, а ён толька хужы становіцца. *Зак.* **Даць** (насыпаць, усыпаць) **у хвост і ў грыву.** Мы дужа ні сьцісьня́імся, даём ім у хвост і ў гріву. Раз насы́пылі і ў хвост і ў гріву, і яшчэ палу́чуць. Толька ніхай пыд'я́вюцца, усы́плю і ў хвост і ў гріву.

**Даваць сябе знаць.** *Рабіцца адчувальным.* Сколька ўжо ўремя прайшло, а пасечыныя даець сябе знаць. *Зак.* **Даць сябе знаць.** Большы двыццаці гадоў ня чу́ствывылыся раненія, а цяперь дало сябе знаць, дый крепка.

**Даваць толк** (лад, рад, парадак), *часам іран. Надаваць належнае месца па прызначэнню.* Ці ду́мыіш ты дываць толк у етых сваіх сенцых? Як ты яму будзіш дыва́ць толк, кылі ён гульта́й з гультаёў. Дываць толк умеіць чаму хочыш, зы два дні пацьцёлка прап'ець. Усё хваліўся: даю лад, а як було роілым, так роілым і аста́лыся. Кузьма даець сваім лад, аднаго на шохвіра пысла́ў, другога ны трыктарі́ста. Дываць лад ба́цькывым грыша́м наўчы́ўся. Нада б ужо дываць якей ряд, ды ўсё рукі ні даходзюць. Ці думыіш ты сваім ряд якей дываць, ім жа работыць пыра́. Сколька я ні зырыбля́ў, яны дыва́лі ряд жы́ва. Я думыў, ты пырядык троху даеш, а ты спаць зываліўся на́ дзінь. Дывай-ка ты пырядык сваім ма́льцым, ато яны зьбіньдзюга́юцца. Пымыга́іць ладна: ікая капейка зу душою зывядзецца, зразу даець пырядык. *Зак.* **Даць толк** (лад, рад, парадак). Што ж ты выпрыўля́ісься, нада б сянцу́ даць толк. Я сваім толк дыла, і чаго я дужа клыпаці́ць буду. Ты яму дзьве тысічы вы́клыдзі, дык ён зы нядзелю дасьць толк. Дам у сябе лад, тады ўжо, можа, як вы́рву дзень, к табе пыдбягу́. Ну што, даў лад і цёшчыныму хызя́йству? Ты толька ні біспакойся, даць лад я сумею. Тут усё упыря́ччыць, даць ряд — нада хырашэнька ру́кі прілажы́ць. Гывары́ў ты, што год прадзержуцца,— дык за месіц да́лі ўсяму ряд. Калі ж ты пад вербымі дасі́ пырядык, там жа горька нада ўсё пріпуці́ць. Ён умеіць даць пыря́дык, ныпярёд усігда глядзі́ць, ня то што хто. Чаму ня вы́ўчыўся, а грыша́м даць пырядык умеіць.

**Даваць тропку** (вывалачку) *Біць (звыч. дзяцей).* Сідыр ны сваіх ні глядзеў, дываў трёпку. Што толку, што даюць ім вы́вылычку, яны ні ка́плі ні ка́юцца. *Зак.* **Даць тропку** (вывалачку). За што табе ўчора да́лі трёпку? Есьлі табе ні даць трёпку, ты ні пыка́ісься. Даў вы́вылычку зы сад, зыка́іцца ла́зіць. Дам вы́вылычку раз, другей раз — і ўніміцца.

**Даваць тумака.** *Біць, штурхаючы ў спіну.* Каму ты хочыш дыва́ць тумука́, брату родніцькыму? Ста́ла дываць тумакоў, дык ён вы́рвыўся, адбег і язык пыка́зыіць.

*Зак.* **Даць тумака.** Дыла́ тумука́, ну дык што яму, зыргыта́ў і ўсё. Дужа ня білі, а троху тумакоў далі. *Множн.* **Надаваць тумакоў.** Ня слу́хыўся, дык ныдыва́ла тумакоў, ныдыва́ла і вы́прывіла.

**Даваць у зубы.** 1. *Совацъ у рот.* Кінь ты дыва́ць у зу́бы соску, яму ж ці ні чацьвёртый год. 2. *груб. Біць у твар.* Дужа ты рызыйшоўся, усім гатоў дываць у зубы, а сам пулучы́ць ня хочыш? *Зак.* **Даць у зубы.** 1. Дай у зубы што-небудзь, і ніхай сядзі́ць, зойміцца і будзіць муўча́ць. 2. Палезь, палезь, дасьць у зубы і атляціш. *Множн.* **Надаваць у зубы.** *Пабіць.* Пычаў адурюва́ць п'яный, за кол хвыта́цца, ну й ныдыва́лі ў зубы.

**Даваць** (ускідываць, ускідаць) **на арэхі.** *Біць (злёгку).* Вам абоім бацька дыва́ў ла́дна ны арехі, табе тыкі і стоіла. Ны арехі даець сваім, ні сьцісьня́іцца. Глядзі́ уські́дывыць ны арехі, могуць яблыкі пулучы́цца. Мы ім ні раз уські́дывылі ны арехі. А табе часта уськіда́лі ны арехі, бува́ла, то там, то там і пупадзець. *Зак.* **Даць** (ускінуць, ускідаць, накідаць) **на арэхі.** Пулучы́ў учора хырашо, далі ны арехі, сколька хацеў. Самі мы ня відзілі, ну гыварілі, што ім там ны арехі ўські́нулі. Сяньня так ня вы́круцісься, уські́дыіць ён табе ны арехі. Накі́дылі ны арехі, ніхай дужа такім шу́стрым ня бу́дзіць.

**Даваць у шыю** (карак, загрывак), *рэдкаўж. Біць са злосцю.* Ла́дныя былі атлёты, любі́лі дыва́ць у шыю. Ты лу́ччы скажы́, хто табе толька ні дыва́ў у ка́рык. Даеш у загрі́вык суседу? *Зак.* **Даць у шыю** (карак, загрывак). Дай у шыю, і атлезіць, і п'янка айдзе дзеніцца. Як дасьць у ка́рык, тэй і пыкацíўся ку́мільгым. За нешта ж далі ў загрі́вык, зуслужы́ў. *Множн.* **Надаваць у шыю** (карак, загрывак). Штурьхну́лі — ні ўспакоіўся, яшчэ палез, тады ныдыва́лі ў шыю. Каб пыдвярну́ўся ты — і табе б ныдыва́лі у карык. Толька ні ўспакойся, ныдаём у загрі́вык.

**Даваць фору** (чосу). 1. *звыч. асудж. Вычвараць.* Даю́ць ма́зылыўскія хлопцы фору, нашы так ні дыка́жуць. Даю́ць п'яныя чосу, ні пытхадзі́, слова ні скажы́ ўперік. 2. *жарт. Лаяць, ушчуваць.* Уй, дыва́ла ж ты фору ім,— так, ізыком пытріпа́ла. Хва́ціць ужо, хва́ціць дыва́ць чосу, зу суботу яны рыска́іліся. *Зак.* **Даць фору** (чосу). 1. Пыдажджы́, пойдзіць ніхай у Сапры́нывічы, там фору дасьць. Сыбра́лыся ўся хеўра, вып'юць, дык даду́ць

чосу. 2. Канешня ж, дыла́ куме фору, незышта ж ні пыла́дзілі. Ну, такога ні прашчу́, дам чосу.

**Да веку.** *Да канца жыцця, усё жыццё.* Ці я ж цябе да веку карміць буду. Будуць яны мяне да веку пымінаць. Да веку гурювала: зы быга́ствым пыгна́лыся.

**Да вумапамрачэнія.** *Надзвычай, звыш меры.* Я сяньня забегылыся да вумапымрачэнія. Да вумапымрачэнія укліпа́ўся у нечыю каўшоўскыю.

**Да вушэй.** *Поўнасцю, з ног да галавы.* Куды ня вы́прыў, пріця́гніцца нызад у грязі ду вушэй. Прішлі́ мокрыя ду вушэй,— такей лівінь зыхваціў на полі, ні пабежч нікуды, ні схува́цца. Што ёй ні скажы́, січас успы́хніць, ду вушэй пыкрасьнеіць.

**Да гарла,** *неадабр., нездав. Вельмі многа.* Чаго ім яшчэ ні хвыта́іць, ужо ж, ка́жыцца, усяго ўся́кыга ды гырла́ і пыныбра́ліся, і пыныхвыта́ліся, і пынынасі́ліся. Вы сныбжыны́ усім ды гырла́ і ні пішчы́ця. Ды гырла́ нызыпа́сіў і сена, і дроў, і торху.

**Да гібелі** (пагібелі, пропасці), *неадабр. Вельмі многа.* Ныдыва́лі мне тут усяго уся́кыга да гібілі, глядзі во, рызьбіра́йся, што айдзе. Іх там сыбра́лыся ды пагі́білі, ці я ўсіх пірікрічу́. Пырысят сяньня було да пропысьці, большы як у якоя скрысеньня, ніхто брацьні хацеў.

**Да глубіны душы** (серца), *кніжн. Вельмі моцна* (*хваляваць, кратаць*). Аньку тваё пісьмо узвулнува́ла ду глубіны́ душы́. Я знаю, Коля ду глубіны́ серца пиріжыва́ў, што так пулучы́лыся.

**Да гроба** (магілы, грабавой даскі). *Да канца жыцця, назаўсёды.* Тваю ласку я буду помніць да гроба. Нухува́ў столька, што да гроба хва́ціць. Ты ды магілы ня должын зубува́ць, што яны длі цябе зьдзелылі. Еткыга быга́ства табе і ды магі́лы ні спажы́ць. Тваю помышч мы ды грыбавой даскі́ ні забу́дзім.

**Да дна.** *Поўнасцю.* Узіла́ ў рукі адну буты́лку, другу́ю, трецьцію — усе ды дна асу́шыны. Ніхай пупадзець, вы́цмыкчыць ды дна.

**Да зарэзу.** *Надзвычай востра (пра патрэбу).* Вы́хвыціў с-пад рук, а мне сымаму́ скобля ды зарезу нада. Ды зарезу у Данілыўск нада зьезьдзіць.

**Да звання.** *Дашчэнту, так, што нічога не засталося.* Ускачы́лі мы ў сенцы — там усё ды зва́ньня зыбра́джына. Паччы́сьцілі ды зва́ньня, нічога німа.

**Дай бог.** 1. *Вельмі добра.* Дай бог зьдзелыны сані, дзесіць зім ат'езьдзюць. Дай бог, каб так абыйшлося, ато можым пыгарець што большы некуды. 2. *Вельмі добры.* Дай бог чылавек: і ня п'ець, і ня ку́ріць, і зьдзелыіць мі-гым, што ні ска́жыш.

**Дай бог памяці.** *Пра працэс прыпамінання.* Дай бог па́міці, січа́с скажу́. Дай бог па́міці — забы́ўся, ато ж ны ізыке бууўта́лыся.

**Дай бог сколька.** *Вельмі многа.* Ныбра́лі грібоў дай бог сколька, ты глянь, саўсім няду́мына. Сыйшлося народу дай бог сколька.

**Дай** (давай) **бог ногі.** *Пра імклівыя ўцёкі.* Пытхваціўся і толька дай бог ногі ляцеў ат'етуля. Бег дыва́й бог ногі, аткуля і сіла ўзіла́ся.

**Дай срок.** *Пра неабходнасць пачакаць нейкі тэрмін.* Дай срок, і кры́шу пыміня́ю, і пляцень зыгыраджу́. Дай срок, будзіць табе белка, будзіць і сьвісток.

**Да капеечкі.** *Усё без астатку* (*пра грошы*). Толька адно дыхва́льства: грошы нялі́чыны,— ды капейкі даўно прашмы́гыў. *Гл.* Да (пасledняй) капейкі.

**Да капелькі.** *Усё чыста* (*пра вадкае рэчыва*). Вы́піў цялёнык ды ка́пількі і вядро бадзець. Ны такой жарі́шчы пымітá́цца, жа́жда бярець,—к абеду ды ка́пількі бітончык вы́пілі.

**Дакапывацца да карней.** *Знаходзіць сутнасць, першапрычыну.* Ён, кажыцца, ні на шу́тку ўзя́ўся дыка́пывыцца ды карней. *Зак.* **Дакапацца да карней.** Тут дыкыпа́цца ды карней ні так проста, нада мызка́мі хырашэнька пышывяліць. *Працягл.-фінальн., рэдкаўж.* **Надакапывацца да карней.** Ныдыка́пыісься ды карней, як рівізор у Малый Лешчынкі.

**Да карней валос.** *Вельмі моцна* (*пачырванець*). Як толька я прыгывары́ла пры Аньку, як успыхнуў увесь, пыкрасьнеў ды карней валос. Слова ёй скажы ні так, і січас пы́хыіць ды карней валос.

**Да касцей.** *Надзвычай* (*змерзнуць, намякнуць*). З раньня ж ны мароз ні пыка́зывыла, надзеліся лёхка,

пірясты́лі ды касьцей. Ду́мыў, нічога, цёпла, а ды касьцей прыбра́ла. Пірямёрзьлі ды касьцей, мы ж ні прідпылыга́лі, што еткыя хыладзі́на пытхва́ціцца. Нашы паехылі біз усякый ныпря́тычкі, зьмякнуць ды касьцей. Нам хваці́ла сяньня ў куста́х, прымя́клі ды касьцей.

**Да коркі** (корачкі). *Усё да канца* (*звыч. прачытаць*). Усю да коркі прычыта́ў за судкі, дужа іньціресныя кніга. Што ні пупадзець, усё да корычкі чытаіць.

**Да крайнасці.** 1. *Да апошняга.* Яны мяне тады ды кра́йнысьці, расьсердзілі. Ну дывядзеш ты мяне ды кра́йнысьці, ну атлуплю́ я тваё бакі дык атлуплю. Дайшлі ды кра́йнысьці, дальшы некуды. 2. *Абавязкова.* Ды кра́йнысьці б нада увí́дзіць Пітрыка, ён мне грошы должын.

**Далёка захадзіць.** *Выходзіць за межы дазволенага, прыстойнага.* Лёнька пычаў ужо далёка зыхадзі́ць, успакой-ка ты яго зь яго шу́ткымі. *Зак.* **Далёка зайціць.** Ты с тваімі ухва́ткымі далёка за́йдзіш. Нада зьдзержывыць, ато яны далёка за́йдуць. *Множн.* **Далёка пазахадзіць.** Журтува́ць — жарту́йця, ды нада ж меру знаць, ато вы ўжо далёка пызыхадзі́лі.

**Далёка не ўехаць.** *Асабліва не пакарыстацца, многага не атрымаць.* Не, ны Сахрону далёка ня ўедзіш, ні тая ўхва́тка і стыря́ньня ня тоя. Як я гывары́ў, так і пулучы́лыся: ны Сызанку далёка ня ўехыў. **Далёка ўехаць.** На кім ён хочыць далёка ўехыць?— на аторьві с аторвыў?

**Далёка пайціць,** *часта іран. Дабіцца вялікіх поспехаў.* Ты с такою наву́кыю далёка пойдзіш, а мой учы́цца ні зыхацеў. Айдзе бысяк далёка пойдзіць. Не, с такім стыря́ніім далёка ня пойдзіш.

**Далёкая песня.** *Тое, што яшчэ некалі будзе.* Канешня, калі-небудзь і трісьцен прістроім, будзіць піцісьценка, толька ета ішчэ далёкыя песьня.

**Далёкій прыцэл.** *Хітры разлік.* У цябе далёкій пріцэл, толька с тваіх за́мыслыў нічога ня вы́йдзіць. Далёкій пріцэл браў: к первыму бытачу́ у зяці меціў.

**Дальшы** (далі) **ад граха.** *Пра жаданне не мець ніякага дачынення да спакуслівай кампаніі, асобы, справы.* Я ня ўмешывылыся у іхнію дзялёжку, а ну іх дальшы ад гріха. Далі ад гріха, дык луччы будзіць, самі ніхай рызьбіра́юцца як хочуць.

**Дальшы** (далі) [ехаць] **некуды.** *Пра канчатковую безвыходнасць становішча.* Дажы́ўся — да́льшы некуды, ну што ты хочыш, ка́жнінькій дзень п'яный і п'яный. Дальшы ехыць некуды: пасьледнія пальці́шка прапіў. С усімі пірягры́злыся, далі ехыць некуды.

**Дальшы** (далі) [свайго] **носа не відзець** (не глядзець). *Быць вельмі абмежаваным.* Што гыварі́ць пры Пынасёнкыў, кылі яны да́льшы носа ня ві́дзюць. Як ні талку́й, а да́лі носа ён усё дно ві́дзіць ня бу́дзіць нічога. Міхейчык ні разу да́льшы свайго носа ня ві́дзіў. Нада ж паду́мыць, што будзіць за́ўтря, а ты дальшы носа ні глядзі́ш. Дальшы свайго носа ні пріві́к глядзець. **Дальшы** (далі) [свайго] **носа відзець** (глядзець). Што тут надзеіцца, дальшы носа глядзець ён ні ста́ніць. А што ты калі ві́дзіў да́лі носа, як нудукуюць, так і трілю́дзіш. Каб ты мог ві́дзіць да́льшы свайго носа. Калі ён і на што глядзеў да́льшы свайго носа. *Зак.* **Дальшы** (далі) [свайго] **носа не ўвідзець** (не глянуць, не паглядзець). Сколька ні талкуй, сколька ні б'ісьня́й і ні гывары́, дальшы носа ня ўві́дзіць. Толька пры сябе пыклапоціцца, дальшы свайго носа ня ўві́дзіць. Толька длі сябе і большы нічога, да́льшы носа ні гляніць. Ня с тых, што падумыіць пры каго-небудзь, дальшы свайго носа ні гляніць. А чаго ж ты ні пыглядзеў да́лі свайго носа? **Дальшы** (далі) [свайго] **носа ўвідзець** (глянуць, паглядзець). Айдзе ён што ўві́дзіць да́льшы носа. Худзь ба раз глянуў дальшы свайго носа. Нада пыглядзець дальшы носа, чым дзяреўня жывець. Да́льшы свайго носа пыглядзі́ця, тады уві́дзіця, чыя пра́ўда. Ні знаю, каб ён далі свайго носа глянуў калі-небудзь.

**Да мазка касцей.** *Да глыбіні або ўсёй істотай.* Ён табе верін ды мызка́ касьцей. Ды мызка́ касьцей прапі́тын ніна́вісьцю. Ды мызка касьцей уверіўся, што ўсё так і було, як яны пірідалі, і нікога слухыць ня хочыць.

**Да нітачкі.** *Усё чыста* (*пра адзенне*). Ягліць ім ляцець у такую дылячынь, туча находзіць — зьмя́кнуць да нітычкі, хочыш, і ўспаленія пытхва́цюць. Тэя гэрчыкі толька і глідзяць, айдзе што пытхваці́ць можна, к каму хочыш улезуць і вы́чысьцюць да нітычкі.

**Да новых венікаў.** *Доўгі час* (*памятаць*). Нада ныяры́жыць і Хвёдыра, каб так прувучы́ў, што да новых венікыў ба помніла.

**Да пары да ўрэмя** (ўрэмені, часу). *Пакуль што, часова.* Ды пары́ да ўремя ты будзіш вірідува́ць, прі́дзіць уремя — кончыцца твыя ўла́да. Ды пары́ да ўреміні я з вамі етык таўморюся, кіну, ріну, і самі дзелыйця як хочыця. Есьлі жывот зру́шын, то бірягісь дый бірягісь, а ні бярёгшыся ды пары́ ды ча́су праходзіць.

**Да пары** (ўрэмя, ўрэмені). *Пакуль што, часова.* Ды пары́ буду цярьпець, а кылі дыбяруся, пышча́ды ня жджы. Ды пары жбан ваду носіць. Да ўремя так бу́дзіць цягну́цца, калі-небудзь сарвецца. Усе твае конікі да ўреміні. С Пітраком да ўреміні шуціць, а прідзіць пыра — тэй такую раскрутку дасьць, што ня зьдзівіціся.

**Да пасследняга.** 1. *Усё, так, каб не засталося.* Вун Аксюта турува́тыя, ты дайжа ні прасі́, сыма́ аддасьць ды пасьледніга. Сусед навёў, а тэя бысячу́гі улезьлі ў вакно і вы́чысьцілі ды пасьледніга. 2. *Да канца.* Хуць больна було, ну я цярьпеў ды пасьледніга. Ды пасьледніга цярьпелі мы твае дуры, а большы некуды,— ці ўспакойся, ці ўбіра́йся.

**Да пасследняга дыханія.** *Да апошняй мінуты жыцця.* Ды пасьледніга дыха́нія усё зваў цябе. Ды пасьледніга дыха́нія буду помніць Верку.

**Да** [пасследняй] **капейкі.** *Усё без астатку (пра грошы).* Во прыдыла́ цубу́лю, дык прыдыла́, ды капейкі пыціря́ла усе грошы. Прап'ець з друзьямі ды пасьледній капейкі, а тады ходзіць, ка́нькыіць: дай на ку́ріва.

**Да** [пасследняй] **каплі.** *Усё чыста (пра вадкае рэчыва).* Вы́ліў красі́н ды ка́плі, нада як атвярну́цца, купіць лі́трыў сколька. Стыя́ла буты́лычка беліньkія, бірігла́, а ўчора хваці́лыся — пу́ста, ды пасьледній ка́плі вы́цмыктыў. Ды пасьледнія каплі выцыдзілі, і дно сухоя.

**Да** [пасследняй] **ніткі.** *Усё чыста (пра адзенне).* Зьмя́клі да ніткі, рубца́ сухога ні аста́лыся. На ху́тырі ў Паўла укра́лі раз усё да ніткі. Ды пасьледній ніткі прымя́клі, дывай скарей пірядзецца. Глядзі, бойся злудзюга́ныў етых, ды пасьледній ніткі могуць апчы́сьціць.

**Да пасследняй рубашкі.** *Усё чыста (пра набыткі, маёмасць).* Што ён вы́ізьдзіў? — прапі́ўся ды пасьледній руба́шкі, купля́ла, ныдзіва́ла. Зна́іш, як у нас калі-то гуля́лі? — ды пасьледній руба́шкі прагу́лівылі.

**Да пацеры сазнанія.** *Да непрытомнасці, да поўнай страты сіл.* Цярьпеў ды пацері сызна́нія. Ныпілі́ся ды пацері сызнанія. Рызьнімáй скарей, ды пацері сызнанія будуць біцца, пызыбівáюцца.

**Да петухоў.** *Усю ноч.* Праседзілі у Зьмітраковых ды пітухоў. Гыманíлі ды пітухоў, устреціліся друзья́. Незбылызь вам було тарчэць ды пітухоў.

**Дарагою цаною.** *Вялікімі намаганнямі, ахвярамі.* Хата мне дыстáлыся дужа дырагою цаною, сколька я нырвáўся, цігáючы бярьвеньня.

**Да радзімца** (прыпадка), *груб.; адз., мн. Надзвычайн многа.* Плойма — ды радзі́мца, усе бігаць, саветыюцца: а што? а як? — выраціціль, яго слова закон. Ныкідáлі скытá ды пріпáдка, дык я во зыхвытáлыся. А чорт іх знаіць сколька, там іх ды пріпáдкыў.

**Дарам** (дарма) **не прайціць.** *Пра непазбежнасць адплаты.* Увíдзіш, што дáрым табе ета морква ня пройдзіць. Ня бойся, у мяне дырмá нічога ня пройдзіць, што заслýжыш, то й палучыш. Дарым ні прайшло Лівынкáм сена, зыплацíлі рублей пы дваццыць штрáху. **Дарам** (дарма) **прайціць.** Дýмыіш, табе дарым пройдзіць дурáчыньня? Ой, ня думыю, каб дырма прашлі Сенькіны йгрýшкі. *Незак., рэдкаўж.* **Дарам** (дарма) **не прахадзіць.** Табе дарым нічога ні прыхадзі́ла, ня ўмеў выкрýчывыцца. Што, дырма ні праходзіць бáлыўства, а ты ж дужа быў хрáбір. **Дарам** (дарма) **прахадзіць.** І ны гылывáх яны лáдна хадзілі, ну а зато што ж ім прыхадзі́ла дáрым? Няўжэлі табе дарым праходзіць атáўка?

**Дарам** (дарма) **хлеб есць.** *Не прыносіць ніякай карысці.* Прівы́клі дáрым хлеб есьць. Мы дарым хлеб ня елі. Дырма хлеб есьць ні стáнім, ны прыпітáнія заробім.

**Дар зá дар.** *Пра адплату тым жа самым спосабам, манерам.* Ну штó, як сам дзелыў, тоя й пулучы́ў дар зá дыр. Вот нá табе дар зá дыр, любýйся.

**Дарога заказана.** *Пра існаванне забароны бываць, наведвацца.* Посьлі такога дзела дарога табе ў Шáмыва зыкáзына, дайжа і ня думый пыкáзывыцца.

**Дарогу заказаць.** *Адрачыся, даць зарок не бываць, не наведваць.* Ці ты ўжо ка мне дарогу зыкызáў? *Незак., рэдкаўж.* **Дарогу заказываць.** Большы ён сюда ніхáй і

дарогу зыка́зыіць. *Множн.* **Дарогі пазаказываць.** Ні знаю, за што наду́ліся, толька цірізь людзей пірідыва́лі, што ў Різа́нцы яны дайжа дарогі пызыка́зывылі.

**Дарогу заступаць.** *Перашкаджаць, станавіцца перашкодай.* Я зуступа́ць дарогу нікому ні ста́ну. Ты ўсё шчыта́іш, што табе нехта дарогу зуступа́іць. *Зак.* **Дарогу заступіць.** Ці я каму дарогу зуступі́ў, што ты етык гаворіш. *Узмацн.* **Дарогу пазаступаць.** Хто ім так ужо дарогу пузуступа́ў, што яны жыць ня могуць. *Працягл.-фінальн.* **Дарогу назаступаць.** С тымі атлётымі нада войстра вуха дзіржаць, ато нузуступа́іш дарогу.

**Дарогу перахадзіць** (перабягаць). *Станавіцца на шляху ў іншага.* Дыгыва́рівыйся ты, купля́й, я дарогу піріхадзі́ць ні ста́ну. Мы вам дарогу ні піріхадзі́лі, чаго вы ат нас хочыця. Ахота вам дарогу чорту пірібіга́ць, толька тріскатні́ бу́дзіць на ўсю акру́гу. *Зак.* **Дарогу перайціць** (перабежч). Чым табе, ты скарей дарогу любому пярёйдзіш. Узбутура́жыліся, усё дно як я ім дарогу піряйду. Вот ужо Лявон табе дарогу пірябег, ён чылавеку вады ні заму́ціць. *Працягл.-фінальн.* **Дарогу наперахадзіць** (наперабягаць). Дужа вам хто дарогу ныпіріхадзі́ў. Як жа я табе дарогу ныпірібіга́ў? — ета ж ты так і глядзіш, каб ножку пыцста́віць каму.

**Да свадзьбы** (к свадзьбе) **зажывець** (загаіцца). *Пра тое, што пройдзе, палепшае да сталасці.* Ні гарю́й, ды сва́дзьбы зыжывець. Можыш быць спакоін, ды свадзьбы зыгаі́цца. Во, дужа ты ўжо спужа́лыся, к свадзьбі зыжывець. Ні плач, к свадзьбі зыгаі́цца, бальшоя дзела — різану́ў троху.

**Да сёмага** (сядзьмога) **поту.** *Да поўнай знямогі.* Мы да сёмыга поту ні ста́лі б выбіва́цца, на́да ж і пірідыхну́ць міну́тку. Ды сядзьмога поту стыря́іцца, усё каб угадзі́ць хочыць.

**Даставаць** (зарабатываваць) **цацку.** *Атрымліваць хваробу, балячку, калецтва.* Ахота каму-небудзь дыстыва́ць цацку, лезьць ціріз ражжэньня,— тут я́ўныя калества палу́чыш. Зырыба́тывыць цацку пресься, ні глядзіш ні на што? *Зак.* **Дастаць** (заработаць) **цацку.** Што, стрыда́ціль мой, дыста́ў цацку, а навошта табе, к чорту, було тоя стряльлё? Так, ні глядзеўшы ніскольки, жыва зыработыіш цацку, будзіш та́ды каенчыць.

**Даставаць з-пад зямлі.** *Знаходзіць любым шляхам, з незвычайным спрытам і ўменнем.* Што вы прівізаліся, ня пойдзіць жа ён дыстываць с-пыдзь зямлі таго Сьліўкіныга, ды па еткый росі. *Зак.* **Дастаць з-пад зямлі.** Вот нарт, січас я табе дыстáну с-пыдзь зямлі мёду,— я ж скызáў, што ў мяне ні ложкі німа. *Узмацн.* **Падаставаць з-пад зямлі.** Ці вы с-пыдзь зямлí пыдыстывáлі сабе такея харошыя ремні? *Працягл.-фінальн.* **Надаставаць з-пад зямлі.** Піліпёнык ныдыстывáў с-пыдзь зямлí кожу і нысьпікулíрывыў: пулучы́ў трі гады.

**Да сядых валос.** *Да старасці.* Ды сяды́х валос помню дыбратý дзядзькыву. Ды сядых валос дажы́ў, а ральлё астáўся, нічога па-лю́дзку ня зьдзелыіць.

**Да ўпаду.** *Да поўнай страты сіл, да поўнай знямогі.* Во была вічарíнка, скыкáлі ўсе ды ўпáду. Ды ўпáду касілі, ну-тыкі дабíлі ды кынцá.

**Дахадзіць да белага каленія.** *Злавацца да страты самавалодання.* Ні нада дыхадзíць да белыга каленія, сядзь і ўспакойся. *Зак.* **Дайціць да белага каленія.** Зы ірундý дайшоў да белыга каленія. Ня трогый, узноў дойдзіць да белыга каленія.

**Дахадзіць да вушэй,** *неадабр. Рабіцца вядомым.* Што там ні тріпанýць, ызáўтріга ужо сюда даходзіць ду вушэй. *Зак.* **Дайціць да вушэй.** Ат аднаго ізыкá **г** другому — так і дайшло Арцёму ду вушэй. *Узмацн.* **Падахадзіць да вушэй.** Дýмыіш, тут што утаíцца? — трі словы скажы, і ўсё пыдаходзіць ду вушэй.

**Дахадзіць да ручкі** (канца, точкі, паследняга). *Апынацца ў безвыходным становішчы, дажывацца да поўнай страты сілы, здароўя або да крайняй нястачы.* Я ні стала б дыхадзíць да рýчкі, як Сашка, а што-небудзь ба дзелыла. Ну што, рішы́ў дыхадзíць ды кынцá, а ці падýмыў, куды ты дзенісься біс хáты? Арцём даходзіць да точкі, пасьледній хвост прыдаець. Дыхаджý, брат, да точкі, саўсім сы здароўім пудупáў. Ён ужо дыхадзíў ды пасьледніга, дык сістра пад'ехыла, троху падзьдзержыла. *Зак.* **Дайціць да ручкі** (канца, точкі, паследняга). Ні кылá ні двырá, дайшоў да рýчкі, зу путурáлу стаў. Прігледзіць за ім — хто прігледзіць, дойдзіць ды кынцá — с-паць сьнегу калі-небудзь вы́кыпыюць курчы́жкыю. Лýччы і ні спрáшывый, так збáлывылыся, дыйшлá да

точкі — айдзе днюіць, айдзе начу́іць. Дайшлі́ ды пасьледніга, а ўсё з-зы чаго? — ціріз гульта́йства. *Узмацн.* **Падахадзіць да ручкі** (канца, точкі, паследняга). Ці вы тута пыдыхадзі́лі да ру́чкі, ці йшчэ троху вару́шыціся? Твае адны пыдыхадзі́лі ды кынца́, адною грязьзю зырасьлі кругом ны сажынь. Ні рукою, ні нагою ні шывяльну́ць — так пыдыхадзі́лі да точкі. Скора пыдаходзюць ды пасьледніга,— нада ж так людзя́м пупуска́цца.

**Дахадзіць да сазнанія.** *Рабіцца зразумелым.* Табе тру́дна даходзіць ды сызна́нія, асобінна есьлі пыніма́ць ня хочыш нікога і нічога. *Зак.* **Дайціць да сазнанія.** Ці дайшло табе ды сызна́нія, што пыра́ пы-чылавечыскі пычына́ць жыць.

**Дахадзіць да толку.** 1. *Пачынаць разумець сэнс.* Ці стала яму троху дыхадзі́ць да толку, кылі рустулкува́лі? 2. *Рабіцца нармальным, прывычным.* Як твае дзялы, ці даходзюць троху да толку? *Зак.* **Дайціць да толку.** 1. Ніяк ня мог да толку дайці́ць, што к чаму. 2. Ні знаю, ці да́йдзіць калі ў іх жызьні да толку.

**Дахадзіць сваім вумом** (розумам, галавою). *Дабірацца да сэнсу самастойна.* Мне пыцсказывыць було некыму, ды ўсяго прішлося дыхадзі́ць сваім вумом. Цяперя ты сам хызя́ін, дыхадзі́ ды ўсяго сваі́м розумым, толька я ны тваём месьці абгыда́ў ба пацьцёлка ат ведымныя каровы. А ніхай даходзюць сваёю гылавою, ужо ні ма́лінькія. *Зак.* **Дайціць сваім вумом** (розумам, галавою). Ну што, ўсё-тыкі дайшоў сваім вумом? — во так усігда́ нада. Луччы, як дойдуць сваім розумым, скарей жыць на́ўчуцца. Ныўря́д, ці пытка́зывыў яму хто, відна, сваёю гылавою дайшоў. *Узмацн.* **Падахадзіць сваім вумом** (розумам, галавою). Каб пыдыхадзі́лі сваім вумом, тады б я хвалі́ў, а што нехта пыцска́жыць — ета ня дзела. Айдзе яны пыдаходзюць сваім розумым, калі іх ня ўчы́лі ду́мыць. Раз пыдыхадзі́лі сваёю гылавою, то й ла́дна.

**Дацца духу.** *Вельмі стаміцца.* Так ужо да́ліся ду́ху лі мылаці́лкі, чуць дывылаклі́ся. Вы́хыдзіш што ці ня вы́хыдзіш, а ду́ху дасі́ся. *Незак., адзінк.* **Даваціа духу.** Лупа́ткыю дзень пымыха́ць — даесься духу. Я ні стаў ба так дыва́цца духу, самі могуць зьдзелыць, яшчэ ня зломкі.

**Дацца ў знакі** (знак). *Вельмі намучыць.* Дыла́ся мне ў зна́кі летышнія пінька́: ціга́ў холыдым, апшасну́ўся

ў ваду, пірядрыг і прыліжаў пасьці месіц. Пызьба дасца ў знак, за дзінь набегыісься, што ногі ні пыцягніш к вечыру. *Незак., рэдкаўж.* **Давацца ў знакі** (знак). З большым мне було нічога, спакойный быў, зь меншымі дывалыся ў знакі. Бульба даецца ў знакі. Папомніш, што я табе кызала, як будзіць дывацца ў знак.

**Даць асечку.** *Не атрымацца.* Крута завёўся, ды даў асечку. *Незак., рэдкаўж.* **Даваць асечку.** Сколька разоў схватывылыся з Гапкыю, ды не, ні спруўляіцца, даець асечку. Што та ён паследнія ўремя пычаў дываць асечкі, раншы ж ува ўсём первый быў, нікому ні ўступаў.

**Даць вочарадзь,** *іран. Аблаяць, вылаяць.* Як дасьць вочырідзь, мы ажно за вушы схваціліся: во ега ўмеіць. Умеіць даць вочырідзь, выўчыўся. *Незак.* **Даваць вочарадзі.** Во даець вочырідзі, як мушчына якей крыіць мыціріком.

**Даць дуба,** *груб. Памерці.* Адбушуваў, уредзіна, сваё, даў-тыкі дуба, ато доўга пагібілі ні було. *Незак.* **Даваць дуба.** Кызалі, Антон быў сыбраўся ўжо дуба дываць, а тады атлежыўся і ў сваты паехыў.

**Да чорта,** *неадабр. Вельмі многа.* Ныкідаіць етых курей да чорта, пыжыраюць усё, а ійца ня відзіш. Айт, там сваіх да чорта, чаго яшчэ я пайду туды.

**Да чортавай гібелі,** *груб. Празмерна многа.* Кінулі ны зіму скыта да чортывый гібілі, а нашто? Да чортывый гібілі дроў, увесь двор зывалін, на дзесіць гадоў хваціць.

**Да чортавай мацеры,** *нездав. Вельмі многа.* Вашыга племя да чортывый маціры усюдых, куды ня пойдзіш — Сімянкі. Ныгаворіць да чортывый маціры лухты ўсякія — і ўсё ў яго праўда.

**Да чорцікаў,** *іран. Да непрытомнасці, галюцынацый (звыч. напіцца).* Заўчора да чорцікыў ныбраўся ў Сьвітазеры, а сяньня з горыда чуць пріпоўз, пыт плятнём выляіцца.

**Да шарсцінкі** (шарсціны, шарсціначчкі). *Усю чыста (пра жывёлу).* Сколька раз ну хутурах, бувала, чума ды шарсьцінкі сьвіньней вылыміць. Зьвіла ўсё ды шарсьціны, што я буду вазіцца, нашто мне. Пріехылі тріццатнікі п'яныя, ды шарсьцінычкі увесь скот зыбралі, дзьве куріцы асталыся.

**Два сакала пара,** *неадабр. Пра аднолькавых.* Ляксей з Навумым — два сыкылá пáра: што ўбіў, то і ўехыў.

**Два сапагі пара,** *адм. Пра аднолькавых.* Што бáцька, то й сын — два сыпагí пáра. Во пыдыбрáліся два сыпагí пáра, і шукáй — етык ні сыбяреш.

**Двор з дваром.** *Вобак, па-суседству* (*жыць*). Мы трíццыць гадоў прыжылí сь Кіреівымі двор з дваром, а худзь ба калі ваду́ зумуцíлі адны другíм.

**Дзверы ў дзверы.** *Вельмі блізка насупраць* (*жыць*). Мы жылí блíзінька дзьвері ў дзьвері, во так во нáша хáта, а во так íхнія.

**Дзела выгарыла,** *пр., буд. Пра станоўчы зыход.* Лянька ты, як у Сумусёнка скора дзела вы́гыріла. Хадзíў, дыбівáўся, алі ж дзела ня вы́гыріла. Нічога ў іх дзела ня вы́гыріць, ня с тога боку яны зайшлí.

**Дзела гарыць,** *цяп., пр., буд. Пра тэрміновасць справы.* Дзела гарíць, а ты будзіш стыя́ць, дзікувáцца — еткія аньціресы увíдзіў. Каб любоя дзела, самыя ніатложныя гарела, ён ба стыяў і руссусолівыў і дайжа б ні вурухнýўся. У цябе будзіць дзела гарець, а ім і ні ў гылаве паду́мыць, каб узя́цца ды паможч. *Пачын.* **Дзела загарэлася,** *пр., буд.* Так ужо ў іх ні ш чога ні зь я́кыга мымінтáльна дзела зыгарелыся. То будзіць сядзець сышчыпя́ ру́кі, то ўдруг дзела зыгарíцца — шуру́м-буру́м пыдымáіць.

**Дзела гарыць у руках,** *цяп., пр., буд. Пра лоўкасць і працавітасць.* Есьлі возьміцца, у яго дзела гаріць у рукáх, толька пріту́ркыць яго ні так лёхка. Што былі за плотнікі, што зы мысьціравэя, уся́кыя дзела гарела у іх руках. Есьлі Клімянкі узялíся, у іх дзела бу́дзіць гарець у руках. *Пачын.* **Дзела загарэлася ў руках,** *пр., буд.* Як узя́ліся, у іх дзела пряма зыгарелыся ў рукáх, ня то што тэя гырадзкея шлэптухі. Калі пыд ахоту — дзела зыгарíцца у руках, а ні захочуць — будзіць ні гарíць ні тлеіць.

**Дзела далёка заходзіць,** *цяп., пр. Пра складанасць становішча.* Відзім, што дзела далёка заходзіць, мы ногі ў рукі ды ныза́д, ходу аттýля. Лу́ччы ні дывадзíць, каб дзела далёка зыхадзíла. Случáлыся, дзела й далёка зыхадзíла, ну неік жа рызьбірáліся. *Зак.* **Дзела далёка зай-**

**шло,** *пр., буд.* Тут дзела далёка зайшло, нада хырашэнька рызыбра́цца, што к чаму́. Чаго ў нас дзела далёка за́йдзіць, мы шчыня́т умесьці ня ксьці́лі.

**Дзела дзесятае.** *Нешта зусім не істотнае.* Сыка́ твыя дзела дзісятыя, можыць і на борку пыліжа́ць, а бу́льбу нада хвыта́ць скарей, каб ды за́мырызка вы́хвыціць.

**Дзела йдзець,** *жарт., цяп., пр., буд.; адз., мн. Пра поспехі ў справах.* Нам нечыга біспакоіцца, дзела йдзець. Дзела йдзець, кантора пішыць, ка́сса дзеньгі выдаець. Пакуля мы тама былі, дзела йшло, а посьлі ні знаю, што пулучы́лыся. У нас дзялы́ йдуць, ня то што ў вас. *Зак.* **Дзела пашло,** *пр., буд., адз., мн.* Трошку пыттаўкну́лі і дзела пашло, а так ба і стыя́ла на месьці. Ты як возьмісься, дык і дзела пойдзіць, ыла́дзіш. Раз дзялы́ пашлі́, мне тут нечыга тарчэць.

**Дзела маленькае** (*чыё*). *Пра недатычнасць да справы.* Наша дзела ма́лінькыя, мы ў вашу жы́зінь умешывыцца ні ста́нім. Есьлі маё дзела ма́лінькыя, то астыва́йся етый квіл слу́хыць. А вот іх ба дзела саўсім ма́лінькыя лезьць сюда.

**Дзела не жджэць,** *цяп., пр., буд. Пра неадкладнасць справы.* Што ж вы тут селі та́ры ды ба́ры, дзела ж ня жджэць. Мы сьпяшы́лі, дзела ні жда́ла. **Дзела жджэць.** Ці вас якоя дзела жджэць, што вы так ліціцё. Дужа там яго дзела жджэць, яму прішлі було б схадзі́ць сюды.

**Дзела не стаіць,** *цяп., пр., буд. Пра адсутнасць затрымак.* Дзела ні стаі́ць, то й ла́дна. Мне нiва́жна, айдзе яны, абы дзела ні стыя́ла. Есьлі дзела ня будзіць стыя́ць, то йдзі. *Зак.* **Дзела не станець.** Ты сыбіра́йся, за мною дзела ні ста́ніць, зымяту́ печ і гатова.

**Дзела няма.** *Пра абыякавасць, незацікаўленасць да асобы, справы.* Мне да Толіка твайго нія́кыга дзела німа, ці ён жэніцца, ці разводзіцца.

**Дзела пахнець красінам,** *цяп., пр., буд. Пра небяспечнасць справы, абставін.* Мы ві́дзім, што дзела па́хніць красі́ным, дык шашкі́ ў мяшкі́ ды ходу. У іх с самыга ныча́ла дзела пахла красі́ным. *Зак.* **Дзела запахла красінам,** *пр., буд.* Пыня́лі, што дзела зыпа́хла красі́ным, айдзе й п’янка вы́скычыла. Зыпа́хніць дзела красі́ным — бягі к нам, ні руссусолівый дужа.

**Дзела прошлае.** *Даўніна, мінулая падзея.* Цялёнык тэй дзела прошлыя, ну я ж усё-тыкі пымяну́. Дзела прошлыя, што йна там гываріла. Дзела прошлыя, алі ж нашто табе чыпа́цца.

**Дзела свята.** *Пра абавязковасць, безумоўнасць выканання.* Есьлі я скыза́ў — дзела сьвя́та, я нікога ні пыдвадзі́ў.

**Дзела стала,** *пр., буд. Пра затрымку ў справах.* Зачы́м дзела ста́ла? Аріна пышла́, і дзела ста́ла. А чаго бізь мяне дзела ста́ніць?

**Дзела старана** (*чыё*). *Пра неўмяшальнасць у падзеі, недатычнасць да іх.* Маё дзела стырына́, ніхай зыпялешчуцца, ніхай ні зыпялешчуцца. Есьлі наша дзела стырына́, тады са́мі і сейця, і ўбіра́йця, а мы і ў тэй бок ні гля́нім.

**Дзела табак** (труба). *Пра безвыходнасць становішча.* Посьлі такіх рызгаворыў яго дзела тыбак. Дыва́й уціка́ць, дзела труба́. Цяпер тваё дзела труба́, нічога ты ні дыка́жыш. Тачы́лін зра́зу пыня́ў, што ў іх дзела труба́.

**Дзела ўрозь.** *Пра канец сяброўства.* Дружы́лі, дружы́лі, і ні ш чога ні зь я́кыга дзела ўрозь. Учора дыгыва́рівыліся іціць касі́ць у кусты́, а сяньня дзела ўрозь.

**Дзела ў шляпе.** *Пра парадак у справе або яе паспяховае завяршэнне.* А чаго нам вулнува́цца, у нас дзела ў шля́пі. Раз, два — і дзела ў шля́пі.

**Дзела хазяйскае.** *Пра неабходнасць прыняць рашэнне па ўласных меркаваннях.* Хочыш едзь, хочыш не, дзела хызя́йскыя, толька я адзін быя́ріць ня буду. Ня хочыш дзіржа́ць хвост, прыдыва́й, дзела хызя́йскыя, ніхай дзеці чэгнуць біс ка́плі мылыка́.

**Дзелаць бальшэя** (бальшыя) **вочы.** *Здзіўляцца (звыч. прытворна).* Ты ж сама гываріла, людзі ж чулі, а цяпер дзелыіш бальшэя вочы. Ня дзелый бальшыя вочы, мы цябе знаім. *Зак.* **Здзелаць бальшэя** (бальшыя) **вочы.** Што ён зьдзелыў бальшэя вочы, тут удзіўляцца нечыга. *Множн.* **Падзелаць бальшэя** (бальшыя) **вочы.** Я гывару, як відзіў, а яны падзелылі бальшыя вочы.

**Дзелаць від.** *Прытварацца, што робіш ці думаеш так, як трэба або як жадаюць.* Вун стаіць зывярну́ўшыся, дзелыіць від, што ня відзіць нас. *Зак.* **Здзелаць від.** А ты б

зьдзелыла від, што ні пачу́ла, і пышла́ міма. Зьдзелый від, што нізнакомый, куды ён кініцца. *Множн.* **Падзелаць від.** Усе зра́зу падзелылі від, што ім жа́лка ўсяго.

**Дзелаць гвалт** (сквіл, квіл), *неадабр. Пачынаць крык, сварку, лаянку.* Ка́жный дзень спакою німа, як ра́ньня, і пычыла́ дзелыць гвалт. Як ім ня сты́дна дзелыць сквіл — ка́жын дзень тады зь людзя́мі вока ў вока сустрюка́цца. Ня дзелый сквіл, можна дыгывары́цца пы-харошыму. Ты й дзелыіш квіл, бісь цябе тут ціха було. *Зак.* **Здзелаць гвалт** (сквіл, квіл). Узноў Мырчанкі́ на ўсю акру́гу гвалт зьдзелылі. Сызанковы ніяк ні нысыта́юцца, зьдзелылі гвалт за нейкія гры́зіныя турнепсіны. Доўга дужа яму зьдзелыць сквіл, зы ніщто зьдзелыіць. Ніхай ба яны бралі рыспа́шнік, рыспыха́ў ба ты за́ўтря, дык не, зьдзелыў квіл. *Множн.* **Надзелаць гвалту** (сквілу, квілу). Ня трогый нячы́стыя сілы, яшчэ гва́лту надзелыіць, што будзіць хуць зь дзяреўні уціка́й. Каб ня вы самі, ніхто б тут сквілу ні надзелыў. Помніш, як летыся за нейкія ірва́ныя вожычкі квілу надзелыў. *Узмацн.* **Падзелаць гвалт** (сквіл, квіл). Падзелылі гвалт на полі, як іх тама хто резыў ці ірва́ў жыўём. Чуіш, якей сквіл падзелылі, цэлыга пыўдня́ режуцца. Ка́жын раз падзелыюць квіл, ці у іх там двына́ццыць у кысьця́х сядзіць. Падзелыюць квіл, толька людзі зьбіра́юцца як ны ція́тыр. *Працягл.* **Панадзелаць гвалту** (сквілу, квілу). За нейкій кычанок капусты столька гва́лту пынадзелыць, а ніхай ён вы́смыліць, і кычанок тэй. Пынадзелылі сквілу, што дуракі́, а цяперя стыдна, вачэй дайжа ні ўзьніма́юць. Пынадзелыюць сквілу, як слу́хыць іх каму дужа хочыцца. Квілу пынадзелылі, што хут ты вушы зытыка́й.

**Дзелаць з-пад палкі.** *Выконваць даручаную справу пад прымусам.* Толька с-пыт па́лкі й дзелыіць, а каб сам за што ўзя́ўся — нізашто ня возьміцца. *Зак.* **Здзелаць з-пад палкі.** Зыста́вілі, дык с-пыт палкі зьдзелыў. *Працягл.-фінальн.* **Надзелаць з-пад палкі.** Ай, с-пыт палкі ўжо надзелыіць, кылі сызна́нія німа, дык нія́кыя палка ні ўкладзець.

**Дзелаць коць,** *жарт. Класціся спаць* (*да дзіцяці*). Славік хочыць дзелыць коць, пойдзім і мы, мой ма́лінькій. *Зак.* **Здзелаць коць.** Пойдзім зьдзелыім коць, у цябе ўжо вочкі зьліпа́юцца. *Множн.* **Падзелаць коць.** Відзіш, як хырашо дзеткі падзелылі коць.

**Дзелаць круг** (кругу). *Рухацца кружным шляхам.* Ірундовінькій масток, а ніяк ні насьцелюць, пріходзіцца дзелыць круг. Нашто вам дзелыць еткыга кру́гу, во пря́мінькыя сьцёжычка к іхнім банім. *Зак.* **Здзелаць круг** (кругу). Ты дзяржы́ся пря́ма вун на тую сасну, ато можыш зьдзелыць круг, што пыўдня́ праходзіш. Я ж ні знаў прямейшыя дарогі, паетыму зьдзелыў кругу. *Гл.* Даваць кругу.

**Дзелаць ладкі** (ладачкі). *Пляскаць у далоні.* Адна пі́рі́да дною увесь вечыр выпля́сывылі і дзелылі ла́дкі. Дзелый, ма́лінькій, ла́дычкі, дзелый яшчэ раз. *Зак.* **Здзелаць ладкі** (ладачкі). Ты ўжо так гывары́ў, што табе толька нада зьдзелыць ла́дкі. Зьдзелый, дзетычка, ла́дычкі дзядзю, зьдзелый ла́дычкі.

**Дзелаць міласць** (ласку), *звыч. іран. Рабіць паслугу з неахвотай.* Кылі вядро вады прінясець, дык шчыта́іць, што ўжо дзелыіць мі́лысьць. Дзелыць табе ла́ску — ета ўзноў бытрыкыва́ць ны тваіх дырагі́х, — не, большы я ні зглуплю́. *Зак.* **Здзелаць міласць** (ласку). На Бу́дку толька пынадзейся, ён зьдзелыіць мі́лысьць, паможыць, будзіць паможына. Зьдзелыў ласку, што падвёз.

**Дзелаць пагоду.** *Аказваць уплыў на абставіны, падзеі.* Дзелыць пагоду ён там ня дзелыіць, ну толька слова якоя скыза́ць можыць. *Зак.* **Здзелаць пагоду.** Мыкар пагоду ня зьдзелыіць, толька пыгывар́іць ба нада, можа б закі́нуў слова прі слу́чыі. *Працягл.-фінальн.* **Надзелаць пагоду.** Сьпіхнулі, к чорту, з намесьнікыў, во й надзелыў пагоду.

**Дзелаць** (паднімаць, падымаць, пачынаць, ушчынаць) [цэлую] **вайну** (баталію). *Рабіць крык, сварку, лаянку.* Ахота вам за нейкыю жардзі́ну дзелыць вайну́. Табе абы пыднім́аць вайну, а зачэпку на́йдзіш. Зы якіх дзесіць ка́лівін ячменю пыдыма́ць такую вайну. Із-зы такой чупухі ці стоіць пычына́ць вайну. Як на вуліцу вы́йшла, і ўшчына́іць вайну. Німа яе — ціха, прі́дзіць — дзелыіць быта́лію. Нашто ты быта́лію пыдыма́іш, ці ты спакойна ня можыш. Вы б лу́ччы пыдзіві́ліся, як яны пычына́юць быта́лію, во указзэя айдзе. Узноў ушчына́й быта́лію, даўно горла рызіва́ў. За што зы якыя дзелыіць цэлыю вайну. Ніхай вярёвычка ні там ляжы́ць, айдзе яму хочыцца, зразу пыднім́аіць цэлыю вайну. Цэлыю вайну пыдыма́іць зы іржа́вый гвозьдзік. Як сыбра́ліся, і ўшчына́юць цэлыю

вайну. Каторый раз дзелыіць цэлыю быта́лію. За што ты пыдыма́іш цэлыю быталію, ты ж сім'янін. Ніхай куріца мяжу пярёйдзіць ны яе і там пу́ста будзіць, усё дно пычына́іць цэлыю быта́лію. *Зак.* **Здзелаць** (падняць, пачаць, ушчаць) [цэлую] **вайну** (баталію). Хто ж там мог зьдзелыць вайну? — канешня ж, Аўдотка з Домныю. Як толька ўместа, так і пыдня́лі вайну́. Узноў пыча́лі вайну́, міру ўсё ім німа пу-суседзку. Доўга Зьмітраку ушча́ць вайну зы нішто? Ціхій, спакойный, вады ні заму́ціць, а нап'ецца — зьдзелыіць быта́лію. Ці ты ня чу́ла, за што яны там пыча́лі быта́лію? Ну, ушчані́ быта́лію, ато, знаць, дзень ціха міну́ў. Зьдзелылі цэлыю вайну на ўсю дзяреўню, ні стыда́ ў людзей ні сырыма́. Цэлыю вайну пыдня́ў за нейкыю ломыныю стамеску. Хочыш — цэлыю вайну пычанець зы па́лку дроў. Ушчані́ цэлыю вайну яшчэ ты,— мала наслу́хыліся таго крікуна́. Доўга вітрагоным тым пыдня́ць цэлую быта́лію? За нейкыю вузьдзечку пычаў цэлую быта́лію. Сядзелі, ніцілі, а тады разым ушчалі́ быталію цэлыю.

**Дзелаць сваё дзела.** *Не ўмешвацца ў іншыя справы.* Я дзелыю сваё дзела і ня лезу, куды мяне ня просюць. Вы тут крічыцё, а ён паці́хіньку дзелыіць сваё дзела.

**Дзелаць ток** (як ток, на ток). *Выядаць, вельмі вытоптваючы.* Тубуні́шча як пыстаі́ць лі балота, пряма дзелыіць ток. Коні за трі дні у любым месьці дзелыюць як ток. Ай, тут ба і ні нада було дзелыць на ток, саўсім нечыга глыдану́ць. *Зак.* **Здзелаць ток** (як ток, на ток). Такей тубуню́га трі дні пыстаі́ць і зьдзелыіць ток. Лі Мшары зьдзелылі як ток, дайжа траві́нычкі німа́, нічога скубану́ць нечыга. Увесь луг зьдзелылі на ток, калі там што атрасьцець. *Узмацн.* **Падзелаць ток** (як ток, на ток). Пріпру́ць коні, падзелыюць ток, будзіць свой скот галодный. Усю па́ріціну падзелылі як ток, хуць мылаці. Раншы там-сям ішчэ можна було што збры́нкыць, а цяперь усё падзелылі на ток.

**Дзела швах.** *Пра кепскія справы.* Доўга дзіржа́ўся, то так, то етык выхадзі́ў, а тута ўжо дзела швах.

**Дзеля гадзісь.** *Для выгляду.* Нічагенічка мне там ні нада було, так, схадзі́ла дзелі гадзісь, што ўсе йдуць.

**Дзеньгі на бочку.** *Пра неабходнасць плаціць наяўнымі.* Ты мне ні дгыва́рівыйся, раз пыдрядзі́ўся плаці́ць — дзеньгі на бочку.

**Дзень пры дні.** *Кожны дзень поўнасцю.* Пустухова дзела нялёхкыя, ой, нялёхкыя, дзень прі дні нада ацстоіць і ў дождж, і жарі́шчыю, і калі ты хочыш.

**Дзень у дзень.** *Кожны дзень без выключэння.* Дзень у дзень пашоў і пашоў, а пуня як была па́сьцю, так і астаецца.

**Дзесятаму заказаць.** *Надоўга запомніць вынік дрэннага ўчынку і баяцца дапусціць такое яшчэ раз.* Наш стыршына́ дужа строгій, с клачком чаго ніхай пупадзець, то зырякесься і дзіся́тыму зыка́жыш. Адзін раз ныпыя́ю, дык дзіся́тыму зыка́жыць.

**Дзецкае ўрэмя.** *Зусім рана (пра вечаровы час).* Да Ку́дріч тут адна міну́та хадзьбы́, а йшчэ ж дзецкыя ўремя, бягі́.

**Дзецкій сад.** *Пра несур'ёзных.* Айт, якея там дзеўкі,— дзецкій сад. Дзецкій сад тут, нічога зь імі ні дыгаворісься. Я думыў, сурьёзна можна рызгыварівыць, а тут дзецкій сад, як з мылалеткымі толку дабіцца.

**Дзённа і ношчна,** *уст. Увесь час, клапатліва.* Дзённа і ношчна гарюіць. Ну й што, есьлі дзённа і ношчна пла́кыць, ці польза ікая будзіць, ці што.

**Дзёшава аддзелацца.** *Пазбавіцца без непрыемнасцей, без страт, выдаткаў.* Дзёшыва яны адзьдзелыліся, што пы пяцёркі зыплаці́лі, маглі б хумуты́ зыбра́ць, вірьха́мі б ехылі. *Незак., рэдкаўж.* **Дзёшава аддзелывацца.** У якую пятлю ні ўска́кывыў, усігда дзёшыва адзьдзелывыўся. *Множн.* **Дзёшава пааддзелацца** (пааддзелывацца). Глядзі-ка ты, дзёшыва пыадзьдзелыліся, зыдалося ім зь лесым. Біньдзюга́і ду́мылі, дзёшыва пыадзьдзелыюцца,— ня вы́йшла.

**Дзёшава і сярдзіта.** *Добра, шмат і нядорага.* Во іка́я пляцёнка пупа́лыся мне цубулі: дзёшыва і сярдзіта. Купіў дзёшыва і сярдзіта.

**Дзіву давацца.** *Вельмі дзівіцца.* А ш чаго тут дзі́ву дыва́цца, ці ты ач чорта што лу́ччыя хацеў пачу́ць. *Зак.* **Дзіву дацца.** Я ж думыла, іна ціхыя, спакойныя, ажно чую: кры́іць мыціріком,— я пряма дзі́ву дыла́ся.

**Дзірка ад баранка,** *іран. Нічога.* Посьлі іх ві́дзіш, што аста́лыся,— дзі́рька ад быра́нка. Я пынадзеілыся — дык кінулі дзі́рьку ад быра́нка.

**Дзіровая галава,** *іран. Слабая памяць.* У яго ўсігда́ была дзірёвыя гылыва́. Есьлі дзірёвыя гылыва́, ні бярі́ся і ні пыдріджа́йся ні ў што.

**Дзяла як сажа бяла,** *гумар. Пра зусім кепскія справы.* Што ты спра́шывыіш, мае дзіла́ як са́жа біла́.

**Дзяржацца за спадніцу** (падол), *іран. Знаходзіцца ў залежнасці ад жанчыны.* Век дыжыва́іць і ўсё зы спадні́цу дзяржы́цца. Ні дзяржы́ся зы спадні́цу, свыя гылыва́ ны плі́ча́х ёсьць. Дзяржы́цца зы падол увесь век, як тэй Бялецкій. *Непаўн.* **Падзяржацца за спадніцу** (падол). Зразу пыдзіржа́ўся троху зы спадні́цу, пакуля у перья ўвыбра́ўся. Ніхай падзержыцца зы падол, яны яго на́ўчуць на сьвеці жыць. *Працягл.* **Прадзяржацца за спадніцу** (падол). Усю жы́зьню прыдзіржа́ўся зы спадні́цу, што жонка ска́жыць, то й слу́хыіць. Ніхай сабе прыдзіржа́ліся зы падол, а жылі як людзі, ня то што ты. Усю жысьць ні прадзержыцца зы падол. *Законч.* **Аддзяржацца за спадніцу** (падол). Ці адзьдзіржа́ўся зы спадні́цу, ці ўсё яшчэ слухыіш, што ска́жыць. Калі ўжо ты адзьдзержысься зы падол? *Працягл.-фінальн.* **Надзяржацца** (дадзяржацца) **за спадніцу** (падол). Надзержыцца ён зы спадні́цу, вы́відуць у людзі. Ні гывары́, ні гывары́, ты ўжо ныдзіржа́ўся зы падол, большы некуды. Во дыдзіржа́ўся Камелька зы спадні́цу, дывя́лі дык дывя́лі. Слу́хыць матку нада, ну ні так жа, ато дыдзіржа́ліся зы падол — пы дваццыць пяць гадоў, а йна жані́цца зыпрішча́іць — і ня жэнюцца.

**Дзяржацца на нагах.** *Жыць са слабым здароўем.* У прошлым гаду трошку дзіржа́ўся на ныга́х, а сёліта ні знаю, ня відзіла. Ны ныга́х пакуль дзяржуся, на двор вы́цігнуся, пагреюся. *Непаўн.* **Падзяржацца на нагах.** Наўдобу должын ба ішчэ трошку пыдзіржа́цца ны ныга́х, від, ка́жыцца, лу́ччы стаў. *Абмеж.* **Прадзяржацца на нагах.** Ежылі прадзержыцца ны ныгах да восіні, дык сла́ва богу, ён ужо на сьвеці ні жылец. І то хырашо, што хуць столька прыдзіржа́ўся ны ныгах. *Аднакр.* **Удзяржацца** (удзержацца) **на нагах.** Ду́жа ліжа́ў, пластом, ну ўдзіржа́ўся ны ныга́х, проста зыстыўля́ў сябе пыдніма́цца. Хто б дайжа мог падумыць, што ён удзержыцца ны ныгах.

**Дзяржацца на чэсным слове.** *Быць слабым (звыч. пра рэчы).* Пыдажджы́, прікалю́ хут троху, ато етый гузік

дзяржы́цца на чэсным слові. Ні здароўя, ні сілы, ні змагі, чуць хаджу́, дзяржу́ся на чэсным слові. *Непайн.* **Падзяржацца на чэсным слове.** Некылі саўсім шыць, ніхай пыдзяржы́цца на чэсным слові. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржацца** (дадзяржацца) **на чэсным слове.** Ныдзяржы́цца на чэсным слові: атва́ліцца і пыціра́іцца. Ну што, дыдзіржа́ліся на чэсным слові?

**Дзяржацца рукамі і нагамі.** *Даражыць.* Раз пупа́лыся ла́дныя должнысьць, дзяржы́ся рука́мі і ныга́мі. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржацца** (дадзяржацца) **рукамі і нагамі.** Ныдзяржы́цца ён рука́мі і ныга́мі: вы́ліціць, як пробка. Дадзержыцца рукамі й ныгамі зы такую кынпа́нію, ускочыць у балота па ву́шы.

**Дзяржацца ў баку.** *Не высоўвацца на першы план.* Арьхіпыў сын дужа нійдзе зь імі ня ўдзельнічыў, ён усігда дзіржа́ўся ў баку́. *Непайн.* **Падзяржацца ў баку.** Сьпірва́ троху пыдзіржа́ўся ў баку́, а тады ўлез па ву́шы. *Абмеж.* **Прадзяржацца ў баку.** Як жа ён прыдзяржы́цца ў баку́, куды ўсе, туды ўжо й ён. *Аднакр.* **Удзяржацца ў баку.** Айдзе ён удзяржы́цца ў баку́, подрысьні, яны адзін зу другога чыпля́юцца. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржацца** (дадзяржацца) **ў баку.** Жджы толька, надзейся, ныдзяржы́цца ў баку: самый первый палезіць куды хочыш. Так во й дыдзіржа́ўся ў баку, што ніхто і дружы́ць ня хочыць.

**Дзяржацца ў галаве** (вуме, памяці). *Памятацца.* Воч жа усё ўремя дзіржа́лыся ў гылаве, а тут на табе, як нада — і вы́скычыла. Мне було каб толька запомніць, а тады ў мяне крепка дзіржа́лыся ў вуме. Што ў цябе нічога ні дзяржы́цца ў па́міці. *Непайн.* **Падзяржацца ў галаве** (вуме, памяці). Ныўра́д, каб у цябе што доўга пыдзіржа́лыся ў гылаве. У яго ў вуме доўга ні падзержыцца. Яны, як вецір, у іхный па́міці нічога ні падзержыцца. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржацца ў галаве** (вуме, памяці). У цябе ўжо ныдзяржы́цца ў гылаве, ціріш час забу́дзіш. Дужа доўга ныдзіржа́лыся ў вуме, у адно вуха ўляцела, у другоя вы́скычыла. Як учыў, столька й ныдзіржа́лыся ў па́міці.

**Дзяржаць верх.** *Верхаводзіць.* Валодзька быў, тэй дзіржа́ў верьх нуд усімі. *Непайн.* **Падзяржаць верх.** Паўгода пыдзіржа́ў у дзяреўні верьх, пакуля хлопцы с арміі

вярну́ліся. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць верх.** Ныдзіржаў ты ўжо там верьх, нат кім, скажы́.

**Дзяржаць вуха войстра.** *Не давяраць, трымацца асцярожна.* Зь імі дзяржы вуха войстра, а не — дык у міг пыдвяду́ць, лу́ччы некуды будзіць. *Непаўн.* **Падзяржаць вуха войстра.** Мне што, мне нічога, а табе нада пыдзіржа́ць ву́ха войстра, пакуля ета шуму́ха кончыцца. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць** (дадзяржаць) **вуха войстра.** Пупа́ўся як варона, во табе й ныдзіржа́ў ву́ха войстра. Дыдзіржа́ў вуха войстра: абвялі кругом пальца, што дурука.

**Дзяржаць за горла.** *Уладарнічаць, трымаць у кабале, у залежнасці.* Яны цяперя ня пікнуць, а ня то што вы́скыжуць, Ільлянкоў іх усіх дзяржы́ць за горла. *Непаўн.* **Падзяржаць за горла.** К ім толька пупадзіся як-небудзь, пыдзіржа́ць за горла. *Законч.* **Прадзяржаць за горла.** Папомніш мяне, што ён прыдзяржы́ць цяперіцька Высіля за горла, сколька захочыць. Мяне Стах прадзержыў за горла, хто ж яшчэ. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць** (дадзяржаць) **за горла.** А ныдзяржы́ш за горла — сваю гылаву́ пыцста́віш і большы нічога. Дадзержыць за горла, як сват Хіму.

**Дзяржаць** (насіць) **камень за пазухаю.** *Затойваць злосць, думаць пра помсту.* Ны слыва́х уродзі нічога, рызгыва́рііць, а толька, чу́ствую, дзяржы́ць ка́мінь зы па́зухыю. Ай, хва́ціць вам нası́ць ка́мінь зы па́зухыю, другея даўно б усё забы́лі. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць** (нанасіць, дадзяржаць, данасіць) **камень за пазухаю.** Ніхай, ладна, так і стоіць, ета ён ныдзіржа́ў ка́мінь зы па́зухыю. Зь людзямі нада стыря́цца жыць па-лю́дзку, ато ві́дзіш, як нынасі́ў Барic камінь зы па́зухыю. А якоя ж мне дзела, есьлі ён дадзержыць камінь зы пазухыю. Дый наносіць ка́мінь зы па́зухыю сам ны сябе.

**Дзяржаць** (насіць) **хвост трубою** (пісталетам), *жарт. Трымацца ўпэўнена.* І ў семдзісят дзяржы́ць хвост трубою. Салому еж, а дзяржы хвост пісталетым. Бі́да ні біда́, а ты дзяржы хвост пісталетым, каб усе кругом глядзелі ды завідывылі табе. Троху цяперя пыліня́ў, а раншы ого як насіў хвост трубою. Дыхва́льства, што ні пуцступа́йся, так і носіць хвост пісталетым. *Непаўн.* **Падзяржаць** (панасіць) **хвост трубою** (пісталетам). Летыся ён пыдзіржа́ў хвост трубою, драў нос ухадзі́ як. Етый пы-

дзяржы́ць хвост пісталетым, у іх увесь род зыдыва́кі. Пынасілі хвост трубою, цаны-меры сабе ні зна́лі. Пынасіў хвост пісталетым і хва́ціць, зыда́чы зьлезьлі. *Законч.* **Аддзяржаць** (атнасіць) **хвост трубою** (пісталетам). Адзьдзіржа́ла хвост трубою, скольκіх нывадзілыся за нос. Адзьдзержыў хвост пісталетым, аднаго зу ручонку вядзець, а другога нясець ны плічáх. Аселыся і ні пачу́іш ніййдзе, атнасіла хвост трубою. Скора ўжо атносіць хвост пісталетым. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць** (нанасіць, дадзяржаць, данасіць) **хвост трубою** (пісталетам). У мыладосьці ён быў уга́р, ныдзіржа́ў хвост трубою. Доўга ні ныдзяржы́ць хвост пісталетым, мінецца яму ла́вычка. Наносіць хвост трубою, наносіць, цьвецікі міну́цца, а я́гыдкі і кіслыя бува́юць. З вас ужо хва́ціць, нынасілі хвост пісталетым. Відзіш, ды якіх гадоў дыдзіржа́ў хвост трубою. Што, дыдзіржа́ў хвост пісталетым, вогірім пірістáў хадзіць. А даносіць хвост трубою, нарьвецца ны свайго, дык рада будзіць зы крівога ці сьляпога, каб узяў. Ну што ж, дыдзіржа́ў хвост пісталетым, дыдзіржа́ў, гады́ — нікуды ня дзенісься.

**Дзяржаць нос па ветру.** *Паводзіць сябе беспрынцыпова.* Грішычка ўсігда дзяржы́ць нос па ветру, к любому ўмеіць пад'ехыць. *Непайн.* **Падзяржаць нос па ветру.** Хто б там ня быў, каго б ня вы́брылі, ён умеіць пыдзіржа́ць нос па ветру. *Законч.* **Прадзяржаць нос па ветру.** Усю жысьць прыдзіржа́ў нос па ветру. Бацька ню́хыў, аткуль вецір веіць, і сын прадзержыць нос па ветру. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць** (дадзяржаць) **нос па ветру.** Што ты мне тка́іш Валодзьку, твой ня меншы ныдзіржа́ў нос па ветру. Ніхай сабе, я гываріць нічога ня буду, ну толька ты дыдзяржы́ш нос па ветру.

**Дзяржаць пад** [сваім] **крылом.** *Мець пад апекай, ахоўваць.* Ці ні ды тріццаці гадоў ты будзіш дзіржа́ць яго пыт крылом. Ну, а што, есьлі ты зьбіра́лыся іх дзіржа́ць пыц сваім крылом, вы́рысьлі і рызьляцеліся. *Непайн.* **Падзяржаць пад** [сваім] **крылом.** Доўга ён ні пыдзяржы́ць пыт крылом чужых дзяцей. Іна іх знаіш сколька ўремя пыдзіржа́ла пыц сваім крылом. *Законч.* **Прадзяржаць пад** [сваім] **крылом.** А во й прадзержыць пыт крылом, пакуля ня жэніць. Ну няўжэлі ён хочыць усю жызьню прыдзіржа́ць іх пыц сваім крылом? І, ду́мыіш, толку дужа многа, што прадзержыла пыц сваім

крылом? *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць** (дадзяржаць) **пад** [сваім] **крылом.** Яны дужа доўга ныдзіржáць пыц сваім крылом,— трошку пріадзенуць і вы́прывюць. Дадзержыш пыт крылом ны сваю гылаву, дадзержыш. Во дыдзіржáлі пыц сваім крылом, ві́дзіця, ікая блыгыдáрнысьць.

**Дзяржаць пры сабе.** *Не выказваць.* Вот нешта ж знáіць, а дзяржы́ць прі сабе. Мала што чу́ла, дзяржы́ прі сабе і ўсё. *Непаўн.* **Падзяржаць пры сабе.** Знáіш, дык пыдзяржы́ прі сабе, ні тряплí, айдзе пупáла. Дужа прі сабе ні падзержыць. *Законч.* **Удзяржаць пры сабе.** Пыд якім сікретым ні скажы, удзержыць прі сабе ён ня можыць. Хочыш ты, каб тэй піріхля́бістый што удзіржáў прі сабе,— рузбуўтáіць і аць сябе прібáвіць. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць** (дадзяржаць) пры сабе. Доўга ныдзіржáў прі сабе, адзін вечыр. Во й дыдзіржáў прі сабе, што ўсім стала ізьвесна.

**Дзяржаць рукамі і нагамі.** *Не адпускаць, не аддаваць.* Такей інструмент і я дзіржáў ба рукáмі і ныгáмі. Дзіржáць яго рукáмі і ныгáмі, быя́цца, каб ня зьехыў. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць рукамі і нагамі.** Іван ужо ныдзіржáў гасьцей рукамі і ныгамі: пу́шыць за нешта.

**Дзяржаць руку.** *Падтрымліваць.* Івану Пітрачонкі дзіржáць руку́. Дзяржы́ руку́ тых, хто прáўду гаворіць. *Непаўн., рэдкаўж.* **Падзяржаць руку.** Быў крепка пыдзіржáў руку́ зы Піліпінят, а тады як атрезыла. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць** (дадзяржаць) **руку.** П'яніца тэй ныдзяржы́ць руку́, а хочыш зрáзу дзьве: зы паўлíтра што хочыш ля́пніць. С табою вы́йшла ікраз так, як твыя кумá дыдзіржáла руку́ Арьхіпу.

**Дзяржаць** [сваё] **слова.** *Выконваць абяцанне.* Аўтушоньык цьвёрдый, ён усігда дзяржы́ць слова. Нада дзіржáць сваё слова, пыбішчáў, то дзелый. *Зак.* **Здзяржаць** [сваё] **слова.** Раз абішчáў, нада зьдзіржáць слова. Калі ня зьдзержыш слова, табе большы ніхто ні ў чым ні паверіць. Хомка ныўря́д ці зьдзяржы́ць сваё слова, хылыйдрá нісусьветныя. Зьдзіржáць сваё слова ён можа і зьдзяржыць, ну нывылакíціць. *Множн., рэдкаўж.* **Паздзяржаць** [сваё] **слова.** Ня дужа яны пазьдзержуць слова, пыбішчáюць і забы́лі. Яны хлопцы совісныя, пазьдзержуць сваё слова.

**Дзяржаць сябе** [у руках (рамках)]'. *Паводзіць умела, стрымана, тактоўна.* Стыхван дзіржа́ць сябе умеіць, што ду́мыіць — ня ду́мыіць, а нізашто ні пыка́жыць. Дзіржа́ць сябе ў рука́х ты ня ўмеіш, чуць што — пых і зыгары́сься. Усё ўремя дзіржа́ла сябе ў рямкых, думыў, сарьвецца, не, ўдзержылыся. *Непайн.* **Падзяржаць сябе** [у руках (рамках)]'. Пыдзяржы сябе, хужы ня бу́дзіць. Каб ты пыдзіржа́ў сябе ў рука́х, і ўсё б ціха аста́лыся. Ты ж пыдзяржы́ сябе ў ря́мкых хуць ета ўремя, паку́ль паедуць. *Час.* **Прыдзяржаць сябе** [у руках (рамках)]'. А ты ж ба прідзержыў сябе, ніхай што хочуць треплюць. Што б мінутку прідзержыць сябе ў руках, дык не, вы́скычыў зь ізыком. Прідзяржы́ сябе ў ря́мкых, ніхто сьміяцца ні ста́ніць. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць сябе** [у руках (рамках)]'. Доўга ён ныдзіржа́ў сябе, цірізь міну́ту ўлез з рызгаворымі. Ві́дзіш, як ныдзіржа́ў сябе ў рука́х. Дужа доўга ныдзіржа́лі сябе ў ря́мкых, ціряс трі дні ўсё пычалося ўзноў.

**Дзяржаць у галаве** (вуме, памяці). *Пастаянна памятаць.* Дзіржа́ла усю дарогу у гылаве твой зыка́з, а пріішла́ к мыгазі́ну — і забы́ла пра ніткі. Усігда́ дзяржы́ ў вуме, матка цябе плахому учыць ні ста́ніць. Як жа я мог забы́ць, я ж усё ўремічка дзіржа́ў у па́міці. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць у галаве** (вуме, памяці). Гывары́ў, у-у, я, усё пірідáм і пірікажу́, дык ныдзіржа́ў у гылаве. Надзержуць яны што ў вуме, ім дужа ды тваіх гу́зікыў. Барíс дужа доўга ныдзяржы́ць у па́міці,— атвярну́ўся, зысьвіста́ў і забы́ў пра ўсё на сьвеці.

**Дзяржаць у руках.** *Трымаць у строгасці.* Некыму вас дзіржа́ць у рука́х, ато б вы зылатэя хлопцы былі. Вас толька пірістáнь дзіржа́ць у рука́х, пы галовых пойдзіця. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць у руках.** Ай, ты ўжо ныдзяржы́ш у рука́х, цябе яны пыніма́ць ня хочуць.

**Дзяржаць у чорным целе.** *Дрэнна даглядаць.* Ты меншы уніма́нія абрышча́й на вы́мудры, а дзяржы́ ў чорным целі, і спыкайней тады будзіць. *Непайн.* **Падзяржаць у чорным целе.** Дужа сыгразіла, што пыдзіржала у чорным целі, сыбраўся і пашоў г другой. *Абмеж.* **Прадзяржаць у чорным целе.** Дужа я стану вылаводзіцца, як прыдзяржу́ у чорным целі зь месіц, дык бу́дуць знаць. *Час.* **Прыдзяржаць** (прыдзержаць) **у чорным целе.** Прідзяржы́ ў чорным целі, ніхай ні адурюва́іць па дзеўкых

лётыць. Нада прідзержыць у чорным целі, скарей уніміцца. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць** (дадзяржаць) **у чорным целе.** Дужа доўга ныдзіржáла у чорным целі — ызáўтріга хадзí, Яшычка, і сьмітáнкі, і твырыжкá, і яешынькі на. Іна можыць так дыдзіржáць у чорным целі, што астáніцца адна галы́м галюсінькыя.

**Дзяржаць фасон** (форму). *Трымацца горда, з пачуццём уласнай годнасці.* Ты ішчэ ні здаесься, дзяржы́ш фасон? Дужа ўжо Анюта дзержыць фасон, мыглá б і меншы троху. Ніхáй, што ні мыладзенькій, а дзяржы́ць форму. *Непаўн.* **Падзяржаць фасон** (форму). Ды жанíдзьбы ён пыдзіржáў хвасон. Ніхай троху пыдзяржы́ць форму, ці ён жа ня хлопіц. *Законч.* **Выдзержаць фасон** (форму). Ніхáй ды́гылы саўсім зыкалеюць, толька каб вы́дзіржыць хвасон. І ён хочыць, як усе, вы́дзіржыць форму. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць** (дадзяржаць) **фасон** (форму). Во, дужа многа ныдзіржáў хвасон. Многа яны ныдзіржáць форму, апу́сьцюцца і большы нічога, атря́хымі стáнуць. Дыдзіржáў фасон — ляжы́ць с успаленіім, ды знаць з двухстароньнім. Калі-небудзь так дадзержыць форму, што будзіць крепка жалець.

**Дзяржаць язык за зубамі** (на прывязі). *Маўчаць, не выдаючы таямніцы, не выказвацца адкрыта.* За што ўжо хырышá, ета ўмеіць дзіржáць язы́к зу зубáмі. Каб меншы лыпытáла, а дзіржáла язык на прівізі, спыкайней ба було і сабе, і другíм. *Непаўн.* **Падзяржаць язык за зубамі** (на прывязі). Куды б лу́ччы було, каб ты пыдзіржáла язык зу зубáмі. Пыдзяржы́ язык на прівізі, ня лезь, куды ні завýць нісколька. *Законч.* **Прадзяржаць язык за зубамі** (на прывязі). Відна, нешта чýствывыў, раз прыдзіржáў язык зу зубáмі усё ўремя. Ей ба нада було прыдзіржáць язык на прівізі, што б там хто ні гываріў. *Працягл.-фінальн.* **Надзяржаць язык за зубамі** (на прывязі). Хвядос табе ныдзяржы́ць язык зу зубамі,— мымінтáльна усё чы́сьцінька растрепліць. Ці доўга нявестка ныдзіржáла язык на прівізі?

**Дзяржы карман шыры,** *іран. Пра адсутнасць надзеі атрымаць.* Дзяржы́ кырмáн шы́рі, січас табе ныкладýць усяго, чаго хочыш.

**Для атводу вачэй.** *Дзеля прыліку.* Пашлі з грыбля́мі длі атводу вачэй, а тады грáблі ў бульбоўніку схувáлі, а самі кытанýлі ў ягыды.

**Для ачысткі совесці.** *Каб апраўдаць сябе, свае паступкі.* Схадзіў длі ачы́сткі совісьці, дзелыць мне там було дужа нечыга. Паслухый длі ачысткі совісьці.

**Для віду** (відзімасці, блізіру). *Каб стварыць уражанне.* Схадзі́ і ты для ві́ду с касою, там вы дужа ні піріработыіця. Для ві́дзімысьці нада було б пыдыйці́ць. Ні надзейся, Сьвірідыў дужа ні пыдля́жыць, длі блізі́ру звалочыцца, каб ні гывары́лі. Ніхто тама дужа ні хвацí́ў, пыбылі́ длі блізі́ру і ўся работа.

**Для кампаніі.** *Каб не быць убаку ад таго, што робяць іншыя.* Неік нялоўка було атка́зывыцца, дык длі кымпа́ніі узяў ча́рычку.

**Для мебелі.** 1. *Зусім бескарысна.* Нашто мне етыя ста́вы дзіржа́ць толька для мебілі. 2. *Зусім бескарысны.* Зяць мне етый толька шчот што зяць, для мебілі. Жывець для мебілі, большы нічога.

**Для роўнага шчоту.** *З мэтай акруглення сумы, колькасці.* Прібыўля́й для роўныга шчоту сотнімі, а тады етых сем аткі́ніш. Дзьвесьця я нызва́ў для роўныга шчоту.

**Днём с агнём не найціць.** *Няма і звання, адсутнічае надзея натрапіць, адшукаць.* Ніха́й табе чаго, а мылытка́ днём с агнём ні на́йдзіш. **Днём с агнём найціць.** Каб хацеў днём с агнём найці́ць, дык ні на́йдзіш у тым роілі. Папробый тут днём с агнём найці́ць што.

**Дняваць і начаваць.** *Знаходзіцца амаль пастаянна.* Дажджэсься ты зь яго работы, калі ён дню́іць і начу́іць у Пірядніні. Пры́німа́лі як свайго, днюва́ў і нучува́ў там, і во чым зы дабро атплаці́ў.

**Добра й чыніць,** *незак.* і *зак.* *Так і трэба.* Прыдаець — добря й чы́ніць, каму там кіда́ць што. Ня пойдзіш — добря й чы́ніш, там дзелыць дужа нечыга. Добря й чыні́ла, што кінула, с п'я́ніцыю жыць — лу́ччы зразу рызыйці́цца.

**Дойная карова** (кароўка). *Крыніца для пастаяннай нажывы.* Найшоў сабе дойную карову. Дойныя кароўка табе скора кончыцца, пры́дзіцца сваімі рука́мі зырыбля́ць хлеб, хуць, я віджу, дужа табе ня хочыцца.

**Дорга б даў.** *Пра вялікае жаданне падзеі.* Дорга б даў, каб вярну́ць мыладэя гады. Цяперіцька дорга б даў,

каб вярну́лыся,— а нашто ж ты выгыня́ў. Дорга б да́лі, ды ныза́д ні пірядзелыіш.

**Дорга плаціць.** *Прыносіць значную ахвяру.* Глядзі, каб ні прішлося дорга плаціць зы свае ду́рікі. *Зак.* **Дорга заплаціць.** Пыглядзі́ш, ты дорга калі-небудзь заплоціш з естымі сваі́мі гу́лімі. Помні ны прібу́душчыя, што дорга можыш зыплаці́ць зы такоя дзела.

**Доўгая** (длінная, няскорая) **песня.** *Пра зацяжную справу.* Доўгыя песьня, пакуля ты зы канём за сьвет сходзіш, ды зыпрягеш, ды даедзіш — вечыр бу́дзіць. Длі́нныя песьня сыбра́цца табе за тую Вяхру. Пакуля ты ацьсьціра́іш ды вы́глыдзісься — ета няскорыя песьня, а ждаць нам некылі.

**Доўгій** (длінный) **рубель.** *Лёгкі заробак.* Айдзе-небудзь работыць ня хочыць, глядзі́ць, каб доўгій ру́біль пытхваці́ць. Длі́нныя рублі́ доўга ні дзіржа́цца, яны як піходзюць, так і ўходзюць.

**Доўгій** (длінный) **язык,** *неадабр. Пра балбатуна.* Дужа ж доўгій язык у цябе, каб трошку і кырацей — ні міша́ла б. Дужа длі́нный язык, табе б нада пыкыраці́ць яго, і прідзіцца пыкыраціць, а рызгаворы бяс толку.

**Дохнуць** (здыхаць) **са смеху** (со смеху, ад смеху), *груб. Вельмі смяяцца.* Нешта ўтрёх дохлі са сьмеху у вуглу́ і ў Васькін бок пыглідалі. Так ужо яму вясёла, аж дохніць со сьміху. Гля́нь-ка, як дохнуць аць сьмеху, ажно заходзюцца, чуць ні пла́чуць. Саўсім здыха́юць са сьмеху, дужа іх нешта рызьбіра́іць бізь нічога ні́якыга. Ні здыха́й со сьміху, вісялосьць ны цябе ныйшла́. Як толька ні здыха́іць аць смеху, піріт пла́кым так усігда́ бува́іць. *Зак.* **Здохнуць са смеху** (со смеху, ад смеху). Дзяржы́, ато січас са сьмеху здохнуць. Ыржа́ліся, ня здохлі ішчэ со сьміху? Здох ба аць сьмеху, як яны узя́ліся пялетывыць крупеню з гыршка. *Множн.* **Падохнуць** (паздыхаць) **са смеху** (со смеху, ад смеху). Як стаў рыска́зывыць пры сваё сва́тыньня, мы там былі са сьмеху падохлі. Со сьміху можна падохнуць, есьлі пычанець прістыўля́ць. Усе сядзелі, слу́хылі, а ён адзін быў ні падох аць сьмеху. Толька ўжо ні пыздыха́йця со сьміху, ато вам ціряшчу́р весіла. Жывэя ція́тры, можна пыздыха́ць аць сьмеху. *Працягл.-фінальн.* **Надохнуцца** (наздыхацца) **са смеху** (со смеху, ад смеху). Відзіў, што вы там надохліся са

сьмеху. Толька паслу́хый Сямёна, со сьміху надохнісься. Ці ў́жо ныздыха́ліся са сьмеху, ці йшчэ ў́сё рызьбіра́іць вас? Во було ў́чора кіно, дык було, усе ныздыха́ліся со сьміху большы некуды. Там можна ныздыха́цца аць сьмеху, пыглядзеўшы, што яны вытвыря́юць.

**Драіць з пяском** (пясочкам), *іран. Прабіраць, лаяць.* Дра́ілі іх, дра́ілі абоіх сь пяском, ці дос ці яшчэ, можа пыка́юцца. Чуіш, як дра́іць свайго мыладога сь пясочкым,— у ла́дныя рукі пупа́ўся. *Непаўн.* **Падраіць з пяском** (пясочкам). Кыза́лі, яго там ладна сь пяском пыдра́ілі. Як пыдра́юць сь пясочкым, дык можа трошку дойдзіць. *Законч.* **Прадраіць з пяском** (пясочкам). Каб ла́дна сь пяском прыдра́ілі, іна б і пыцішэла. Нада прыдра́іць сь пясочкым тога шылахвоста, меншы будзіць тріпа́цца. *Узмацн.* **Надраіць з пяском** (пясочкам). Ну пыдажджы́, ныдра́ю сь пяском луччы некуды, як табе ня сты́дна, скажу, так пуддуря́ць. Яго есьлі ні ныдра́іць сь пясочкым, то зь яго толк сла́бый, так, шулды́-булды́.

**Драць вушы.** *Караць.* Дра́лі табе вушы, ды ма́ла, на́да большы. *Законч.* **Атадраць вушы.** Адзьдзяру́ дык адзьдзяру́ ву́шы, да новых венікыў будзіш помніць. *Узмацн.* **Надраць вушы.** Ныдра́ў вушы большы некуды, ату́чыцца ла́зіць пы гріда́х.

**Драць** (здзіраць) **кожу** (шкуру). *Абіраць, патрабаваць вельмі высокай аплаты.* Не — каб ма́ткі што паможч, дык зь яе дзяру́ць кожу. Дра́лі ўжо, дра́лі шку́ру, пасьледнія сокі пывыця́гывылі зь яе. Пріві́к жыць — кожу зь людзей зьдзіра́ць. Так зьдзекывыўся, ён з нас ж жывых шкуру зьдзіра́ў. *Зак.* **Садраць** (абадраць) **кожу** (шкуру). Ім толька пупадзіся ў рукі, гатовы кожу сыдра́ць. Цяперь Аўчыньнікывы зь яго шкуру зьдзяру́ць. Кожу абыдра́ць — абдзяру́ць, ні пусучу́ствыюць і ні пыспыгыда́юць. Такей бісьсярдзешный чылавек, шкуру абдзярець зы якую вешч, што й капейкі ня стоіць. *Непаўн.* **Падраць кожу** (шкуру). Кожу троху пыдра́ў с Сашкі, праўда, сам скора аппёкся. Шкуру пыдра́ць могуць, мысьціра́, толька пупадзіся у іхнія ла́пы. *Множн.* **Пасадраць** (паздзіраць) **кожу** (шкуру). Ты хацеў ба кожу пысыдра́ць, толька б сабе усяго ныхвыта́цца. З родных сясьцёр гатовы пысыдра́ць шку́ры, такея людзі яны га́дкія. Ныцярьпеліся людзі, Ляксей гатоў быў для немцыў кожы пызьдзіра́ць. Каб толька прімелі, ка́жыцца б, пызь-

дзіра́лі зь людзей шкуры. *Узмацн.* **Паабдзіраць кожу** (шкуру). Ты ж нічуствіцільный і злэй, гатоў кожу пыабдзіра́ць сь Пёклы. Пыбдзіра́лі шку́ру ш чылавека, у пяць дырагоў узялі зы гнільлё. *Працягл-фінальн.* **Надраць** (наздзіраць, наабдзіраць, дадраць, даабдзіраць) **кожу** (шкуру). Яны ні пысьцісьня́юцца нікога, і сы сваіх ныдзяру́ць кожу. Ла́дна ныдра́лі шкуру, во табе й сваты. Ці я ня помню, сколька ён кожу зь мяне нызьдзіра́ў. Во нызьдзіра́ў шкуру, ці мог ба хто паду́мыць, што Сашкін сын такей будзіць. І бацькі харошыга, і маткі жа́лысьлівыя, а кожу ныабдзіра́лі з Лаўріна большы некуды. Ні пысьцісьня́іцца, шкуру ныбдзіра́іць. Дыдзяреш ты кожу зь людзей, табе тожа хто-небудзь етым самым атплоціць. Большый быў, усё ня мог нысыта́цца, пакуль ня лопнуў, і етыя дыдзяру́ць шкуру. Дыабдзіра́ў кожу з другіх, сваё з горла палезла, усё аста́лыся. А што ж яны хацелі, каб ну чужым-гатовым век пражы́ць? — так ні бува́іць, во й дыабдзіра́лі шкуру.

**Драць** (здзіраць) **сем шкур.** *Абіраць, патрабаваць вельмі высокай аплаты.* Пасьледнія ў мірі гадысьць быў, драў сем шкур зь людзей. Етыя пруць, а тэя ўсё дыва́й, і дыва́й, і дыва́й, сем шкур зьдзіра́юць. *Зак.* **Садраць сем шкур.** Сем шкур сыдра́лі і пусьцілі як белычку, аста́ўся ні ў голывы, ні пыдысла́ць.

**Драць нос,** *неадабр. Ганарыцца.* А чаго ёй ціряшчур нос драць, ня дужа там што якоя пісыныя крыса́віца. *Непаўн.* **Падраць нос.** Трошку ўбяру́цца, тады пыдзяруць насы. Ніхай сабе сьціплый, а нос пыдра́ў, як у ныча́льстві хадзіў. *Працягл.-фінальн.* **Надраць** (дадраць) **нос**. Ныдзяреш, ныдзяреш нос, вот-вот кончыцца твыя ўласьць, толька стыршына́ пріедзіць. А дыдзярець нос, ета бы́йстра кынча́іцца.

**Друг да первай бяды.** *Ненадзейны.* Сярёжка — друг да первый бяды́. Ты друг да первый бяды, чуць што — ру́кі ўмы́іш.

**Другей** (другій) **раз.** *Часам.* Ніхай стаіць ба́нычка цэлыя, другей раз нада — ці хто зыбягіць, ці што — і німа́. Нешта другі́й раз як паткоціцца пад гру́дзі, зыріза́іць пря́ма,— дык я соды.

**Другей** (другій) **разгавор.** *Зусім інакш, чым было, меркавалася.* Калі ўсё ета ніпра́ўда, другей рызгавор

тады́. З Ганнью ў мяне саўсім другей рызгавор. Пру Пусты́нкі саўсім другей рызгавор, я там ня быў. Есьлі яны ні зьбіра́юцца ехыць, то другі́й рызгавор.

**Другое дзела.** *Зусім інакш, чым было, меркавалася.* Раз ён ні зьбіра́іцца жаніцца, тады другоя дзела, табе і ехыць незычым. Твой сьлідачок — другоя дзела, ні пры яго тулкува́лыся.

**Друг сітный.** *Заведама ненадзейны і слабы, гаротны.* Ну што, друг сі́тный, ці акліяў ты троху посьлі паездкі. Эх, друг сітный, дывай-ка пойдзім, пы ча́рычкі вазьмём.

**Дружба ўрозь.** *Пра канец сяброўства.* Сколька гадоў ніразлу́шна хадзілі, а тут на табе — дру́жба ўрозь. Не, ў іх ужо дру́жба ўрозь, нешта ні пыла́дзілі.

**Дрыжэць** (трэсца, калаціцца) **за сваю шкуру.** *Баяцца, маладушнічаць.* Ты толька зы сваю́ шку́ру дрыжы́ш, ды яшчэ глядзіш, каб ухваціць што айдзе. Што Аўласёнык,— зы сва́ю шкуру трясецца, во што. Ны цябе мы так надзеіліся, а во й ты пыча́ў кылаці́цца зы сваю шкуру. *Непайн.* **Падрыжэць** (патрэсца, пакалаціцца) **за сваю шкуру.** Січас ён сьмел, мышару́іць, а тады пыдрыжэў зы сваю шкуру. Пытрясьлі́ся зы сваю шку́ру, а што ж ты ду́мыў, ха́хынькі табе зь і́дылымі жыць було, — як што, дык і пу́ля. Як пыкалоцісься зы сваю шкуру, тады дызна́ісься, што і як, і як на сьвеці жыву́ць. *Пачын.* **Задрыжэць** (затрэсца, закалаціцца) **за сваю шкуру.** Ду́мыіш што,— ён зы сваю шку́ру зыдрыжэў, нягож чаго і́нычы сьціх. А ты б ні затрёсься зы сваю шкуру, каб так прішлося? Узноў зыкылаці́ўся зы сваю шкуру, дужа баіцца усяго ўся́кыга. *Законч.* **Аддрыжэць** (адтрэсца, адкалаціцца) **за сваю шкуру.** За ета ўремя аддрыжэў зы сваю шкуру, хва́ціць зь яго. Хто, я аттрёсься зы сваю шкуру?— я ні тады ні быя́ўся, ні цяпер ду́мыць ні пра кога ні хачу. Што ўжо Дзім'янёнык аткылаці́ўся зы сваю шкуру,— бува́ла, толька машы́на зугурчы́ць, ён січа́с ку́мільгым у каноплі. *Узмацн.* **Перадрыжэць** (ператрэсца, перакалаціцца) **за сваю шкуру.** Я пыніма́ю, сколька ён там пірідрыжэў зы сваю шкуру. Дый пірітрясьлі́ся зы сваю шку́ру, што там гывары́ць, а што б ты дзелыў ны на́шым месьці. Мы й так пірікылаці́ліся зы сваю шкуру, а яшчэ етый шкет укасну́ўся ня с тога ня сь сёга. *Працягл.-фінальн.* **Надрыжэцца** (натрэсца, накалаціцца) **за сваю шкуру.** Канешня ж, ныдрыжы́цца зы сваю шкуру, ён жа

дзісірцірым быў яшчэ ў ту́ю вайну́. Сколька яны нытрясьліся зы сваю шкуру, і пы пыгрібах хуваліся, і ўсюдых. Столька ныкылаціцца зы сваю шкуру, як Аўсей,— аткуль тоя й здароўя будзіць брацца.

**Дрыжэць** (трэсца, калаціцца) **над капейкаю.** *Ашчаднічаць, лічыцца ў дробязях пры выдатках.* Хведзька ні прап'ець і ні прымытаіць, як другея, ныт кажную капейкыю дрыжыць. Хто ні трясецца ныт капейкыю, у таго і рублі ні дзіржацца. Дужа ашчадныя ува ўсём, калоціцца ныт капейкыю, каб лішніга ні расходывыць. *Законч.* **Аддрыжэць** (адтрэсца, адкалаціцца) **над капейкаю.** Бувала, перш чымся купіць што, аддрыжыць ныт кажныю капейкыю, дзесіць раз абдумыіць. Аттрясуцца ныт капейкыю, толька тады расходыюць. Ні люблю ўжо я такея жаднысьці, пакуля ні аткалоціцца ныт капейкыю, ніяк ні рысстряніцца, гатова, кажыцца, зыдавіцца над ёю. *Узмацн.* **Перадрыжэць** (пературэсца, перакалаціцца) **над капейкаю.** Чаго ж ня помню, помню, як, бувала, пірітрясуцца ныт капейкыю, каб лішніга ні пусьціць. Ныт кажнінькыю капейкыю пірітрясецца, дзесіць разоў пірішчытаіць. Ты ж пірікалоцісься ныт капейкыю, я табе і пымінаць нічога ні хачу. *Працягл.-фінальн.* **Надрыжэцца** (натрэсца, накалаціцца) **над капейкаю.** Ня йдзі й ні прасі, пакуля ён ныдрыжыцца ныт капейкыю, настогніцца, дык лýччы ня слухыць. Перш нытрясуцца ныт капейкыю, тады толька выпусьцюць з рук. Сколька яны ныкалаціліся ныт капейкыю, я адна толька відзіла.

**Дубіна стаяросавая,** *груб. Дурань, тупіца (звыч. пра высокага ростам).* Дыслацца куды такую дубіну стыяросывыю і цярьпеньня, і нервы нада ймець.

**Дурату тварыць** (вытвараць, сатвараць, датвараць, сапасаць), *неадабр.* 1. *Рабіць глупства, балавацца.* Узноў дурату твыряць, я іх січас рызганю. Сыбяруцца ўмесьці і дывай дурату вытвырящь. Толька вы мне ня кіньця дурату сытвыряць, я вас угамую. Нада глянуць, каб яны там дурату якую ні дытвырялі. Нада ічмянёк скружыць, куры ў сенцы лезуць, а вы тут дурату сыпысаіця. 2. *Гаварыць лухту, бязглуздзіцу; лаяць, бэсціць.* Як пыгнала, як пынісла, як пычыла тваріць дурату, а ніхай ты згаріш сы сваімі мішкамі, калі іх трогыў хто ці хуць відзіў. Устреціла ў прыкавуліні і дывай вытвыряць дурату, што ў яе нехта цэлыю ноч хадзіў пы пыдваконьню. Ахота яму

дурату́ сытваря́ць ны чылавека, ня ві́дзіўшы, ні зна́ўшы нічога. Якую толька яны дурату́ ні дытвыря́лі адна́ на дну, і ху́кылі, і піскылі, і ля́пылі сябе па чом зря. Дурату́ сыпыса́іць ны чылавека, усё дно як ён тама быў і што ві́дзіў. *Зак.* **Дурату сатварыць** (вытварыць). 1. Якую хочыш дурату сатворіць, таку́ю, што дайжа і ўва сьне б ні сасьні́лыся. Ты ўмі толька, якую дурату́ яны вы́твырілі ўчора за Лешчынкыю! 2. Дурату́ сытварі́ць раз-два можыць, у яго ні пыта́ць, лыпатнець і ўсё. За што ж ты дурату вы́твыріў ны Гаўрілу, ты ж там і нагою ня быў. *Непайн.* **Дурату патварыць** (павытвараць, пасатвараць, пасапасаць). 1. Земскій с Канды́быю дурату́ пытварілі, клеці ладна чы́сьцілі. У мяне доўга дурату ні пывытвыря́юць, яны зна́юць, нашто цірісьсядзельнік вісі́ць. Сыбраліся, каб дурату пысыпысаць. 2. *рэдкайж.* Пывытвыря́іш дурату́, што дасьць ён табе за твой язык нізыба́рсывыный. Доўга ты ў мяне дурату́ ні пысытвыря́іш, скора сьці́хніш. Хто б мог еткыю дурату́ пысыпыса́ць, кромі Аўдоткі зь яе ізыком. *Працягл.-фінальн.* **Дурату натварыць** (навытвараць, насатвараць, насапасаць, датварыць, давытвараць, дасатвараць, дасапасаць). 1. Яны жыва нытвыря́ць дурату́, як я приду́ з вожкымі. Цяперя ты ў мяне нывытвыря́іш дурату, я зы цябе вазьму́ся дык вазьму́ся. Нысытвыря́іця дурату, што схвачу́ хлыбазі́ну ды пы сьпіне перша свайго, а тады гысьця́. Січас і ты нысыпыса́іш дурату, ці ны цябе малі́цца буду. Злаўлю́ ды пру́тым, ды яшчэ раз пру́тым, во ты мне дытварі́ш дурату. Ну дывытвыря́іця дурату ў мяне, так наўчу́, што большы ні захочыця. Дысытвыря́лі дурату, што і́кая ні была тра́ўка, і тая нымя́кла. Скажы́ й пірідай, што ніхай уні́міцца, ато ён дысыпысаіць дурату. 2. *рэдкайж.* Сьці́хні, іна́чы нывытвыря́іш дурату, места табе ні ра́зу німа. Адна дурату нысытвыря́ла, прікусі́ла язык, маўчы́ць, што вады ў рот ныбра́ла. Уні́міць язык, дурату нысыпыса́іць, ніхай толька Жэнька скарей приедзіць. Датворюць дурату, дыласкочуцца, што аштраху́юць пы дзіся́ткі — і заплоцюць. Як ты скора можыш дывытвыря́ць дурату, і ні аглянесься, як сваё палу́чыш зы язык. Дытріпа́ліся, дурату дысыпыса́лі? — усё ніяк ра́ншы зьдзержу ні було.

**Дур выскакываець з галавы,** *груб.; цяп., пр. Пра пасталенне.* Ці выска́кывыіць дурь з гылавы, ці ўсё яшчэ ны кіёчку езьдзіш? Доўга ж дурь ні выска́кывыла з гы-

лавы. *Зак.* **Дур выскачыла з галавы,** *пр., буд.* Можа ж дурь вы́скычыла з гылавы, пычанець можа троху глядзець г двару́. Ой, ні зна́ю, ці вы́скычыць калі ў іх дурь з гылавы. *Усеаг.* **Дур павыскакывала з галавы,** *пр., буд.* Па-мойму, дурь у іх пывыска́кывыла з гылавы. Пакуля дурь з галоў ні пывыска́кывыіць, будуць адурюва́ць чы́шчы Івана.

**Дурнэя** (дурныя) **шуткі** (шутачкі). *Пра жарты не да месца.* У цябе ўсігда́ дурнэя шу́ткі. Зь ві́лкымі дурнэя шу́тычкі, Танька вун Адаркіна ат іх на ўсю жы́зьню калекыю аста́лыся. Кінь дурныя шу́ткі, мне с табою журтува́ць некылі. Ён усігда́ сы сваі́мі дурны́мі шу́тычкымі.

**Дурыць** (задурываць, марочыць) **галаву,** *неадабр. Уводзіць у зман; надакучаць глупствамі.* Каб ты пірістаў дуріць гылаву́, такей ба ла́дный чылавек быў. Што ты мне ду́ріш гылаву, мяне правесьць ні ўда́сца. Пріця́гніцца, толька гылаву задурівыць. Ні заду́рівый гылаву, ні падмоніш, такіх я хітряцоў відзіў ні днаго. Падыйшоў і дыва́й марочыць гылаву: схадзі́, ён цябе даўно жджэць. Мне тут некылі, а ён дыва́й марочыць гылаву́, што дужа хра́брый быў. *Зак.* **Задурыць** (замарочыць) **галаву.** Заду́рюць зы ра́ньня гылаву, дык я саўсім нічога ні сыбрыжа́ю. Зудурі́лі ім гылаву с усіх бакоў і зыбра́лі клу́мку с калёс пря́ма с-пад рук. Тыкая халера, каму хочыш зымарочыць гылаву. *Непа́йн.* **Падурыць** (памарочыць) **галаву.** Пудурі́ў ш час гылаву́ і пыцягну́ўся ціряз ву́ліцу, к Анькі зайшоў, ка́жыцца. А пымарочыла гылаву́, ныдаела, ніхай ідзець г божыньку. *Законч.* **Прадурыць** (прамарочыць) **галаву.** Каго ні заку́бріць, праду́ріць гылаву́, усё пры сваю бяду́ рыска́зыіць. Каб ні пріші́лі, ні прымарочылі гылаву́, і я што-небудзь ба зьдзелыла. *Працягл.-фінальн.* **Надурыць** (намарочыць, дадурыць, дамарочыць) **галаву.** Дужа мне бальшэй іньцірес яго ба́сьні, не ж, наду́ріць гылаву. Пріця́гніцца, рысься́дзіцца і пышла́, усе новысьці са сьвету зьбярець, нымарочыіць гылаву. Даду́ріць калі гылаву, што ўста́ну, і пайду́, ніхай сядзі́ць, сьценым трілю́дзіць. Ну дымарочылі гылаву, большы ўжо я цярьпець ні магу́.

**Дурэць** (бясіцца) **з жыру,** *асудж. Паводзіць сябе нахабна.* Што твайму Стыхвану дзелыіцца, дуреіць ж жы́ру твой Стыхван. Яму ж тут було ўсяго ў волю, ж жыру бясі́ўся, большы нічога. *Зак.* **Адурэць** (збясіцца) **з жыру.**

Адуреў ж жы́ру саўсім, іна угыждáіць, дыгыждáіць, а ён боім б'ець: ты другíх прінімáіш. Ну што, ну зьбясíўся ж жыру чылавек, што большы скáжыш. *Непайн.* **Падурэць** (пабясіцца) **з жыру.** Тады ён пажы́ў цёплінька, пудуреў ж жыру. Ці вы тут пыбясíліся ж жы́ру, ці што вас хвытáіць. *Законч., рэдкаўж.* **Адбясіцца з жыру.** Пасьледнія ўремя пыцішэў, адбясíўся ж жыру, а раншы уходу ні було. *Працягл.-фінальн.* **Надурэць** (набясіцца) **з жыру.** Ж жыру нудурелыся, а цяперя хвацíлыся вумá, ды позна: ні нáда нікому. Ныбясíліся ж жыру сколька хацелі — тыкáя жызьня была.

**Дутый пузыр,** *іран. Пра незадаволенага, надзьмутага.* Вун стаíць дýтый пузы́рь, нешта ні пы яго зьдзелына.

**Духам** (душою) **не знаць.** *Быць зусім недасведчаным адносна падзеі ці размовы.* Я пра етыя íхнія прадзелкі дýхым ні знаў нічога, мне ўсё ета як гром зь я́сныга неба. Душою нічога ні знаю пра тэя сыпагí, а йна прібегла: куды тых іх піріхувáла,— а ніхáй цябе. **Духам** (душою) **знаць.** Каб я дýхым знаў, айдзе тэя восі паложыны, ці мне хто гыварíў пра іх. Што мы хуць душою знáлі, як яны жывýць і што сыбірáюцца дзелыць.

**Духам не чуць.** *Зусім нічога не ведаць пра тое, што здарылася або гаварылася.* У нас тут ніхто дýхым ня чуў ні пры я́кіх аленіў, бурсукá ды вайны, прáўда, забíлі у Нямога сáжылкі. **Духам чуць.** Што мы худзь духым чýлі пру хумуты́, нашто яны нам.

**Дух апаў,** *пр., буд. Пра няздольнасць да дзеяння ад страху, стомы, слабасці.* Дух апáў, кáжыцца, ўжо ўсё, канец. Троху пыхаджý — нічога, а тады рáзым дух ападзець, ні рукою ні нагою ні вурухнýць, лíглá б і ні пыдымáлыся. *Незак., рэдкаўж.* **Дух ападаець,** *цяп., пр.* Ніхай хто резка мітнецца лі выкнá, у яе дух апыдáіць. *Гл.* Д у ш а  а п а л а.

**Дух вон.** 1. *адз., мн. Пра скананне.* Сыснá як дыўлянýла, зь яго на месьці і дух вон. Дух вон, кішкі ны цііліхон, а трябýх ны былылáйку. Духí вон лезуць, а ця́гніцца ўсьлед за ўсімі. 2. *Абавязкова (зрабіць, выканаць).* Ны Шыпырёнка можна пылажы́цца, раз скызáў, то дух вон, а зьдзелыіць.

**Дух вылазіць** (вылязаець), *цяп., пр., буд.; адз., мн. Пра намаганні звыш сілы.* Куды я пайдý, я так убíўся,

зь мяне дух вылáзіць. Дух вылізáіць, а ён усё роўна ірьвецца, каб усклáсьць аднамý. Дух ба ніхай вылáзіў, ні пыспыгыдáў ба. Дух будзіць вылізáць, а ні атхінецца, ні пірідыхнець. Мне й так духі вылáзюць, куды тут яшчэ скытá накýплівыць. Пысяджý, аддыхнý, духí вылізáюць. На хýтырі знáіш, якей сахыр быў, ірвáліся — духí вылáзілі, а росьць на пýстышы нічога ні расло. *Зак.* **Дух вылезіць,** *буд., пр.; адз., мн.* Дзелый, хуць дух ніхáй вы́лізіць, дык тут ні спрáвісься. Ты й хацеў ба, каб мне духí вы́лізьлі. *Множн.* **Духі павылазюць** (павылезуць, павылязаюць), *буд., пр.* Цэлы бýдзіця, калі яшчэ пы быразёнкі прагоніця, духі ні пывылáзюць. Тут пылавíну зьдзелыць— духі павы́лізуць, а ня то што ўсё змылацíць. Дужа вы быіцёся, што з вас духí пывылізáюць. Пакуля мы дыцягнýліся пы пылíшчы, пы жарíшчы, нам духі павы́лізьлі.

**Дух дрыжыць** (трасецца, калоціцца), *цяп., пр., буд.; адз., мн. Пра спалоханасць.* Хрымянкоў толька пыкáжыцца, у цябе дух дрыжы́ць. Бувáла, як немцы ны дзяреўню, у нас дух трясецца: во як січас куды-небудзь пывылакýць. Іду я зь естым чортым, а ў мяне дух калоціцца. Я лез, а ў мяне дух трёсься: што, як січас абломіцца сук. Дух будзіць кылацíцца, а ні пыкáжыць, вíду ні пыдáсьць. Во вы́пужылыся — духі дрыжáць: есьлі ж ба еткій бычы́шча раз удáріў рыгáмі, мне б каюк на месьці. А ў яе, дýмыіш, мáла духí трясьлíся? Рыскáзывыў, духі калоцюцца, а йдзеш, а йціць нада. *Пачын.* **Дух задрыжэў** (затросся, закалацíўся), *пр., буд.; адз., мн.* Як увíдзіў я, што едуць, у мяне зрáзу дух зыдрыжэў. Ужо сколька прайшло, а й цяперь увíджу яго — дух зытрясецца. Іцíць — ідý, а дух зыкылацíўся: што, як кініцца. Духі зытрясьлíся, дýмыю, ўсё, канец. Тут у любога духі зыкалоцюцца, у сáмыга сьмелыга. *Непайн.* **Дух падрыжэў** (патросся, пакалацíўся), *пр., буд.; адз., мн.* Як ні храбрíціся, а духí ў вас пыдрыжэлі. Ладна, глядзíця бадрей, дух троху патрёсься, ну нічога. А што хувáцца, дух пыкылацíўся тады, стрáху ныбрáліся. Нічога, есьлі і духí троху пыдрыжáць, у жы́зьні усякыя бувáіць. Каб духі так пыкылацíліся, як у нас, тады б етык ні тріпáўся. *Узмацн.* **Дух перадрыжэў** (ператросся, перакалацíўся), *пр., буд.; адз., мн.* Пірідрыжэў наш тама дух, што, дýмыіш, як луплянець у гумно, а яно б'ець раз зы рáзым саўсíм блíзка. Пірікалоціцца дух раз ды другей, дык ні захочыш ты нічога і ат усяго атрякесься. Нейкыя густытá, німяреч,

дарогі нісколька ня відна, пірітрясьліся на́шы духі. Схадзі́, духі́ пірітрясу́цца, тады ты пурузумнеіш. Гывары́цця вы ці ні гывары́цця, а духі пірікылаці́ліся. *Законч.* **Дух аддрыжэў** (адтросся, адкалаціўся), *пр., буд.; адз., мн.* Аддрыжэў мой дух,— ну што ты, ў такей піряплёт пупа́сца. Як аткалоціцца дух, то ні захочыш большы нічога. Во було нам учора дык було, во аттрясьлі́ся духі́, чуць мы жывэя пыстыва́ліся. Раз-другей так духі аткалоцюцца, то атка́жысься і ац старожы такея. *Працягл.-фінальн.* **Дух надрыжэўся** (натросся, накалаціўся), *пр., буд.; адз., мн.* Піряплёт ла́дный быў, дух у іх ныдрыжэўся. Мы тады сядзелі пуд узва́лым, духі ў нас ныдрыжэліся, ду́мылі, гля́ніць неміц і грына́ту сюда. Духі як нытрясу́цца, тады пызна́іш, што і як. Рыска́зывыў, столька духі ныкылаці́ліся, што ў сябе чуць прішлі́.

**Дух захватываць** (перахватываць), *адз., мн. Рабіцца цяжка дыхаць (ад хвалявання, фізічнага ўздзеяння).* С такея гары ляцець дух зыхва́тывыіць. Ой-ёй-ёй, іка́я крепкыя твыя гарелка, ажно дух піріхва́тыіць. Духі зыхва́тыіць ветрым, саўсім нільзя́ іці́ць. *Зак.* **Дух захваціць** (перахваціць), *адз., мн.* У нас дух зыхваці́ла, калі мы ўві́дзілі, як іна жывець. Нічога ні зна́ўшы, як су́нулыся, дык і дух піріхваці́ла. Ныдзіва́й тулу́п, а наверьх ірьмя́к, іна́чы ў міну́ту духі́ піріхва́ціць еткі́й мароз. *Множн.* **Духі пазахватываць** (пазахваціць, паперахваціць). Кряпчэй ныдзіва́йся, у мамент духі пызыхва́тыіць. Як уві́дзілі мы, што там пыка́зыюць, нам аж духі пызыхваці́ла. Ці ім духі́ пыпіріхваці́ла, што слова ні прыгаворюць.

**Дух класць** (лажыць, пакладаць), *рэдкаўж. Самааддана заступацца.* Чым жа ты атпла́чыіш чылавеку, ён жа зы цябе дух клаў. Ня стоюць яны таго, каб за іх дух лажы́ць. І так бува́іць, што раншы дух пыклыда́лі адны́ зу другі́х, а цяперя глідзя́ць, каб на сьлед ні нуступі́ць. *Гл.* Душу класць.

**Дух млеіць,** *цяп., пр., буд.; адз., мн. Пра фізічнае аслабленне (ад вялікага напалу пачуццяў, напружання і г. д.).* Зы тря́пкымі дух млеіць, усё б зьбіра́ла, скла́дывыла. Дух млеў пашы́ць ба́рхытныю ку́ртычку, пашы́лі — ня бу́ду ныдзіва́ць. Ат відра́ вады духі́ млеюць, ні магу ціряз ву́ліцу пірянесьць. *Непаўн.* **Дух памлеў,** *пр., буд.; адз., мн.* Памлеў дух па Ганьні? Ніхай, духі троху памлеюць, дый уні́міцца. *Працягл.-фінальн.* **Дух намлеў-**

**ся,** *пр., буд.; адз., мн.* Ну, дух намлеўся зы я́блыкымі, як ты жыў аста́ўся. Вы́стыіш дзень жарі́шчыю, дух намлеіцца, будзіш глядзець, худзь ба ў цень куды схува́цца. Було нам стра́ху, духі нашы намлеліся так, што лу́ччы і ні ўспыміна́ць.

**Дух не ляжыць,** *цяп., пр., рэдкаўж. Пра адсутнасць сімпатый, даверу.* І красі́вый, і спакойный, а вот ні ляжы́ць дух к яму і ўсё. Ні ра́зу ў мяне дух ні ліжаў к Пітраковым, нейкія яны, як вужы́. **Дух ляжыць.** Калі ў вас дух к яму́ ляжы́ць, то й цалу́йціся зь ім.

**Дух радуецца,** *цяп., пр., буд.; рэдкаўж. Пра вялікую задаволенасць.* Гляджу́ я на і́хнюю жы́зьню, і кажный раз дух ра́дуіцца. Як у вас усё було ла́дна, то і ў мяне дух ра́дывыўся. Чаго ж ня будзіць дух ра́дывыцца, ета ж цэлыя шча́сьця мне. *Рапт.* **Дух абрадаваўся** (узрадаваўся), *пр., буд.* Такоя пачу́ць — у каго хочыш дух абра́дывыўся б. Віджу, як у цябе дух узра́дывыўся: кра́ля ж, ды ні абы-іка́я, а гырыдзка́я. Адда́м пісьмо — во дух узра́дыіцца. *Непаўн.* **Дух парадаваўся,** *пр., буд.* Дух у цябе пыра́дывыўся, ды ма́ла. Цяперь у Проські дух пыра́дыіцца. *Працягл.-фінальн.* **Дух нарадаваўся,** *пр., буд.* Глядзеў на іх — дух ныра́дывыўся. Пабу́ду у іх, дык хуць дух ныра́дыіцца.

**Духу не падпусціць,** *іран. Пра немагчымасць улагодзіць, дагадзіць.* К яму сяньня духу ні патпу́сьціш, зь якога боку ні за́йдзіш — пря́ма рю́хыіць. Пад'ехылі, зыгывbooрі́лі — а ду́ху ні путпусьці́ць,— во табе і Хадоскін заяць!

**Духу не прыдыхаць.** *Стаміцца, аслабець.* Так вы́біўся сяньня, што духу ні прідышу. Настолька зыпа́ріліся— духу ні приды́хыім. **Духу прыдыхаць.** Зымарі́ліся — духу приды́хыць ня можым, тыкі ж і було ач чаго зымарі́цца.

**Духу не хватаець,** *цяп., пр. Пра недахоп сілы, волі.* Пастой трошычку, пысяджу́ кыпілі́нку, духу ні хвыта́іць, саўсім вы́біўся. Зьдзелыў ба, ды духу ні хвыта́іць. У цябе ўсігда ні на што духу ні хвыта́іць. **Духу хватаець,** *цяп., пр.* Хвыта́іць ішчэ ду́ху, раз ба́бы на ўме. Ра́ншы у іх ны ўся́кія дуры́ ду́ху хвыта́ла. *Зак.* **Духу не хваціла,** *пр., буд.* Нада було нейкія пыўвярсты́ прайці́ць, і духу ні хваці́ла. Слыба́к, духу ні хваці́ла роў пірябежч, а каб цябе у разьведку пысла́ць. Калі ўжо духу ні хва́ціць, кі́ну і буду ліжа́ць. **Духу хваціла,** *пр., буд.* Аткуля ў цябе

духу хва́ціць такую ношышчу цягну́ць. Ніхай ба бра́ўся, дык айдзе ў яго духу хва́ціць ды кынца зьдзелыць.

**Духу пужацца.** *Акасацца і намёку на небяспеку.* А што ж ты хочыш, ідзець, зьверім глядзіць, духу пужа́ісься. Бува́ла, як гля́ніць у наш бок, замрём, духу пужа́імся. *Зак.* **Духу спужацца.** Лёхка гываріць, калі ня відзіш, а ўві́дзіш — духу спужа́ісься.

**Душа вон.** 1. *Пра скананне.* Во крутану́ — тут табе і душа́ вон. Душа зь іх вон, з родных зь еткіх. 2. *Абавязкова (зрабіць, выканаць).* Душа вон, а пріду́, як ета так: ты жэнісься, а мяне ня бу́дзіць.

**Душа вылазіць** (вылязаіць), *цяп., пр., буд. Пра намаганні звыш сілы.* У мяне і так душа выла́зіць, ні спруўля́юся ні ш чым, а зыга́дыіш пырыся́т яшчэ нукупля́ць. Не, хва́ціць, душа вылізаіць, садзі́ся, аддыхні́. Мы хвыта́лі, рва́ліся, душа выла́зіла, хацелі ды дыжджа́ пасьпець у копкі ські́дыць. Можа гля́ніць, як душа выла́зіць бу́дзіць. *Зак.* **Душа вылезла,** *пр., буд.* Каб душа вы́лізла, ты б дайжа ні паду́мыў кру́жку вады пыда́ць. Сьпіша́ць, хвыта́юць, душа як ня вы́лізіць.

**Душа з целам расстаецца,** *цяп., пр., буд. Пра адчуванне блізкага канца.* Ны жару́ вы́йду — ні магу́: серца млеіць, душа́ сь целым рысстаецца. Душа сь целым рысстыва́лыся, як толька й вы́кычылыся. *Зак.* **Душа з целам рассталася,** *пр., буд.* А ўжо ніхай ба душа́ сь целым рыссталыся, чым так жыць кычарежкыю. Трошку пыхаджу́, пыкыпа́юся — і ўся, глядзі́, душа сь целым рысста́ніцца.

**Душа красуецца,** *цяп., пр. Пра прывольнае жыццё.* Што Нінкіна жызьня, жывець — душа красу́іцца, а ў мяне к яму хісьць ні ляжыць. У ба́цькі душа крусува́лыся, а ў сьвякровы усё самой нада глядзець ды глядзець. *Непайн.* **Душа пакрасавалася,** *пр., буд.* У Валоўнікых як жыла́, душа́ пукрусува́лыся. Ідзі́, ідзі́, ніхай і твыя душа пыкрасу́іцца. *Працягл.-фінальн.* **Душа накрасавалася,** *пр., буд.* Жэнькіна душа нукрусува́лыся, як у раю́ пыжыла́. Душа ныкрасу́іцца скора, атахоціцца цірізь нядзелю.

**Душа і серца млеюць,** *цяп., пр. Пра фізічнае аслабленне (ад вялікага напалу пачуццяў, напружання і г. д.).* Ох, ні магу́, душа і серца млеюць, хуць лажы́ся ды пымірай на месьці. Сколька ў Валеріка душа і серца млелі, каб купілі яму канькі.

**Душа меры не знаець,** *цяп., пр. Пра непамернасць запатрабаванняў.* А ў іх ува ўсіх душа́ меры ні зна́іць. Во ў каго душа меры ні зна́ла — ета ў Хутулёнка, скольках ён чаго грёб і ўсё сыт ня быў. **Душа меру знаець,** *цяп., пр.* Во ці зна́іць у цябе душа меру, сколька сьпіць, сколька зьесьць. Ніхай ба твыя душа меру хуць трошку зна́ла. **Душа меру узнаець** (пазнаець), *рэдкаўж.* Зна́іш, калі душа меру узнаець? — як горя ця́пніць. Ах, хырашо, каб яшчэ кру́жычку, душа меру пызнаець. *Зак.* **Душа меру узнала** (пазнала), *пр., буд.* Во калі душа меру узна́ла: як галодный пысядзеў. Сколька ён па́ньськыга грёб, лесу вазі́ў абозымі, і ці пызна́ла яго душа меру. Калі твыя душа меру узна́іць.

**Душа нараспашку.** *Пра чыстасардэчнасць, адкрытасць чалавека.* Сілівон усігда́ душа́ нырыспа́шку, таіць нічога ні ста́ніць. Сяньня ў Мікіты душа нырыспа́шку: вы́піў с ку́мым.

**Душа не прынімаець,** *цяп., пр. Пра нежаданне, агіду.* Ні на́да мяне зыстыўля́ць, у мяне душа нічагенічка ні прініма́іць. У Іпата ні прініма́ла душа́ мылыка́, і ня еў ні ра́зу. **Душа прынімаець,** *цяп., пр.* Столька й мыя душа прініма́іць, ні магу нічога ў рот укла́сьць. *Зак.* **Душа не прыняла,** *пр., буд.* Уродзі і хацелыся бліноў, а ні пашлі́, душа ні прініла́. Раз душа ні прініла́ чаго, то ня еж. **Душа прыняла,** *пр., буд.* Худзь ба калі душа прініла́ што, каб пад'есьць уволю. А ты ду́мыіш гуркі душа́ пріміць?

**Душа** (серца) **апала,** *пр., буд. Пра няздольнасць да дзеяння ад страху, стомы, слабасці.* У мяне там на месьці душа́ апа́ла, ду́мыю, січас нешта случы́цца. Ён лезіць, а ў мяне серца апа́ла: што як сарьвецца. Ой, тут ураз душа ападзець, стрыхыта́ еткыя. *Незак., рэдкаўж.* **Душа** (серца) **ападаець,** *цяп., пр.* Гляджу я ны цябе і душа́ апыда́іць: як ты на сьвеці ду́мыіш жыць. Бува́ла, ста́ну, заду́мыюся, серца апыда́іць, тады я ні к чаму ніспасобна. Мы чужэя, і то серца апыда́ла, гледзічы на іх, а вы ж свае, чаго ж вы ня ту́ркніця хуць.

**Душа** (серца) **баліць** (заходзіцца), *цяп., пр., буд. Пра вялікія турботы, непакой.* Душа́ балі́ць, што такоя дабро і гініць — і ў пакосых чарнеіць, і копы прымя́клі. Душа заходзіцца, кылі ўві́дзіш, як іна ка́рствыіць. А чаго ўжо у цябе так душа заходзіцца? Цяперя у цябе серца захо-

дзіцца, а раншы нешта яно ні зыхадзілыся. Серца балела, гледзічы ны цябе. Душа зыхадзілыся, што яно ўсё пра́хым ідзець. У ка́жныга будзіць серца балець, есьлі такея ніпуцёвыя дзеці ўродзюцца. *Зак.* **Душа** (серца) **забаліць** (зайдзіцца), *буд., пр.* Як жа душа ні зыбаліць, есьлі ты ні пра што ня ду́мыіш. Другей раз душа за́йдзіцца, ну маўчу́ ж, нічога ні гыварю: я што скажу́ — дренна. Душа зыбалела і ўсё, а я пышла́ моўча. У каго хочыш серца зайшлося б, ета ж біда́, і нівыносныя біда́.

**Душа** (серца) **варочаецца** (пераварачываецца), *цяп., пр. Пра шкадаванне, спагаду.* Гыварíла, што пряма душа варочыіцца, нешта у іх зразу пашло ні ла́дзіцца. Я пыгляджу́ на íхнюю жызьню — серца варочыіцца: нічога ня ўмеюць і ні знаюць і ня хочуць ні ўмець, ні знаць. А што ты ду́мыіш, душа пірівыра́чывыіцца адж жа́лысьці. Слу́хыць серца пірівыра́чыіцца, а ня то што сваíмі выча́мі вíдзіць. Ні дай ты, бог, глядзець ны яе стрыда́нія, сколька я там пыбыла́ — серца варочылыся. Душа пірівыра́чывылыся, калі мы глядзелі на етых сíрыт, як яны жыць будуць адзін пыд адзін. *Зак.* **Душа** (серца) **перавярнулася,** *пр., буд.* Як рыскыза́лі пры Сашку, у мяне душа пірівярну́лыся, спаць ноч ня мог. Можа толька ў аднаго цябе серца ні пірівярну́лыся. А чаго ў іх душа піряверніцца, яны бяшчу́ствінныя нейкія.

**Душа** (серца) **млееце,** *цяп., пр., буд. Пра фізічнае аслабленне (ад вялікага напалу пачуццяў, напружання і г. д.).* Вот хаджу́, трошку кыпа́юся, а тады як падойдзіць нешта, душа млеіць і ўсё. Пы дачке серца млеіць, каб у яе ўсё хырашо було. Душа млела ны вічарінку кытану́ць, як толька ўседзіў. Серца млела у лес ехыць, а тут узя́лі ды ні пусьцілі. *Непаўн.* **Душа** (серца) **памлела,** *пр., буд.* Пакуліцька рышшывялíўся, душа ў яе памлела, ду́мыла, ты ўжо ня жыў. Памлела серца, пакуля пісьмо адда́лі, зы сікреты свае быя́лыся. Памлеіць серца і ўспакоіцца, будзіць цэл сы сваíмі кра́лімі. *Працягл.-фінальн.* **Душа** (серца) **намлелася,** *пр., буд.* Ікая ў мяне сіла, душа намлелыся ат кустоў дывалоцца. Тады ў яго серца намлелыся, ні знаў, айдзе дзіва́цца. Ішчэ намлеіцца душа, як пачу́іць пра Косьціка.

**Душа** (серца) **не ляжыць,** *цяп., пр., буд. Пра адсутнасць сімпатый, даверу.* Раз душа ні ляжы́ць, то й ня йдзі, толька будзіш век му́чыцца. І рызгыва́рію, і пысьмяёмся,

і ўсё, ну серца к яму ні ляжыць. Душа ў мяне ні разу к Івынятым ні ліжáла. Нікыгдá ў Машкі к ім серца ня будзіць ліжáць. **Душа** (серца) **ляжыць,** *цяп., пр., буд.* А дýмыіш, у мяне к ім душа ляжы́ць. Каб хуць настолічка во ліжáла душа к яму, дык не. Чыё ж ба серца ліжáла к табе за еткія вы́хыдкі? Як жа к яму будзіць серца ліжáць, есьлі ён так пуступáіць.

**Душа** (серца) **не на месце.** *Пра трывогу, непакой.* У мяне дык усё неік душа ні на месьці: худзь ба чаго ў іх тама ні случы́лыся. Чаго тут серцу ні на месьці быць. Во і ў етыя серца ні на месьці, дужа даўно рузлучы́ліся. **Душа** (серца) **на месце.** Айдзе ж ты хочыш, каб душа была на месьці, калі цэлыю ноч адзін цігáіцца,— ну й дýмыіш, можа ваўкí айдзе косьці гложуць. Ён ні пра што ня дýмыіць, у яго ўсігда серца на месьці.

**Душа** (серца) **не нарадуецца.** *Пра вялікую задаволенасць.* Душа ні ырáдыіцца глядзець на іх жызьню. Серца ні ырáдыіцца, настолька яны адзін другога любюць. Зразу думылі, што ні ўжывуць, гыварілі, нашто схадзіліся, а цяперя серца лі іх ні ырадыіцца.

**Душа** (серца) **перабалела** (адбалела), *пр., буд. Пра наступленне супакою пасля глыбокіх перажыванняў.* Ніхай, раз душа пірібалела, забы́ў і хрест пылажы́ў. Адбалела душа, гурювáць у мяне ужо большы сілы німá. Серца ў мяне пірібалела, і ні вурушы́ ты большы стáрыга. Адбалела серца і ўсё, хвáціць. Як ужо душа пірібаліць, уремя троху пройдзіць, тады ляхчэй становіцца. Едзь, ніхай луччы раз адбаліць серца, чымся кáжный дзень адно й тоя — грызьня́.

**Душа** (серца) **радуецца,** *цяп., пр., буд. Пра вялікую задаволенасць.* Гляджý я ны цябе і душа рáдыіцца: нада ж чылавеку такоя шчáсьця. Молыдзіж цяперь жывець — серца рáдыіцца, ці нам была калі тыкая вільгота. Дзеці расьлі — душа рáдывылыся, а цяперя адны адзінокінькія. Жылі яны — серца рáдывылыся, як гулубкі, і што ў іх цяперя случы́лыся — ні паймём. *Рапт.* **Душа** (серца) **абрадавалася** (узрадавалася), *пр., буд.* Як пулучы́ла пісьмо, душа абрáдывылыся, а як прычытáла, пычылá плáкыць. Ні знаю, чаго ў цябе душа узрáдывылыся, нечыга тут вісялíцца. А можа ў іх серца абрáдывылыся, што мы хочым ехыць. Знаю, чаго ў цябе серца ўзрáдывылыся, толька пылядзíм, што Якыў скáжыць.

Ідзі ж скарей, рыскажы́ пры бра́та, во душа абра́дыіцца. Канешня, серца ўзра́дыіцца, — столька грошы ні ш чаго ні зь якыга. *Непаўн.* **Душа** (серца) **парадавалася,** *пр., буд.* Пріехылі з горыда, гаворюць: відзілі твайго, во тут мыя душа пыра́дывылыся. Ніхай ны Цімоха асобінна ні надзеіцца, зь ім яе серца доўга ні пырадыіцца. *Працягл.-фінальн.* **Душа** (серца) **нарадавалася,** *пр., буд.* Ніхай, у жызьні іна гурювала многа, хуць к ста́рысьці душа нырадыіцца. Я тут ні была дзесіць гадоў, так маё серца ныра́дывылыся, толька многіх ні пызнаю́.

**Душа** (серца) **рвецца** (разрываецца) [на часці], *цяп., пр., буд. Пра надзвычайныя перажыванні.* Душа рьвецца глядзець ны яе стрыда́ніі. А што я мыгла́ дзелыць, калі тут душа рызрыва́іцца. Ну што ж ты зьдзелыіш, што серца рьвецца, тут нічым ні паможыш. Ты думыіш, у аднаго цябе серца рызрыва́лыся. Ні ў аднаго цябе душа рва́лыся ны часьці. Душа рызрыва́іцца ны ча́сьці і ат аднаго толька віду яго мучэньніў. Гляніш, дык серца будзіць ірва́цца ны ча́сьці, а ты думыіш, што усё сьмех. Ня то такоя цярьпець, а дайжа глядзець серца ны часьці рызрыва́іцца.

**Душа ў душу.** *У поўнай згодзе і ўзаемаразуменні.* Ня дужа мне веріцца, каб ён сь кім зла́дзіў жыць душа́ ў душу́. Мы тріццыць гадоў прыжылі́ душа ў душу — плахога слова адзін другому ні скыза́лі. Айдзе вам пражы́ць душа ў душу, вы цірізь нядзелю схва́ціціся сваріцца. Нечыга скыза́ць, пыжылі́ душа ў душу, ну ты ж сам знаіш, што яны дзелылі.

**Душа ў пятках,** *іран. Пра пачуццё страху.* Ня трогый чорта, у яго і так душа́ даўно ў пя́ткых. Відзіш, душа ў пяткых, знаіць, што ішчэ зы кацелкі ўпыя́ю ла́дна.

**Душа ў пяткі ўскачыла,** *пр., буд. Пра наступленне вялікай спалоханасці.* Ты так дужа ні храбріся, у мяне і то душа ў пяткі ўскачы́ла, як вуўка́ увідзіў. Ён храбрец такей — ніхай зайца увідзіць, і душа ў пяткі ўскочыць, а ат лісіцы можыць разры́ў серца пулучы́цца. *Незак., рэдкаўж.* **Душа ў пяткі ўскакываіць.** Ты як увідзіш Лаўріна, то й душа ў пяткі ўска́кыіць. *Множн.* **Душы ў пяткі паўскакывалі,** *пр., буд.* Што, трісіцёся, душы ў пяткі пыўска́кывылі? Вы ня то што цігра, а вуўчынка́ ла́дныга увідзьця — і ў вас душы ў пяткі пыўска́кыюць.

**Душа-чалавек.** *Пра вельмі добрага, спагадлівага.* Кірей душа-чылавек, а яны пыіжджáюць па ім, як самі хочуць. Ён душа-чылавек, ня то што хто-небудзь другей.

**Душа як не выскачыць** (як не выпрыгніць), *буд., пр. Пра моцнае біццё сэрца (ад стомы, спалоху).* У мяне і січáс душа як ня вы́скычыць, так піріпужáўся. Сколька прабег, дык душа як ня вы́прыгніць. Іду́, стáла, во так во я, а во так ён,— у мяне душа як ня вы́скычыла.

**Душою балець.** *Вельмі турбавацца, непакоіцца.* Наш брігадзір дужа харошый, ён зы ўся́кыю мелыч душою балеіць. *Працягл.-фінальн.* **Душою набалець.** Адам дужа ныхызя́йнічыў, набалеў душою: усё цякець, плувець, а яго як і ні кысáіцца.

**Душою і целам.** *Поўнасцю.* Душою і целым стыяць зы яго. Я можа ня меншы цябе душою і целым балею. Аддан сваім друзья́м душою і целым.

**Душою красавацца.** *Жыць прывольна, бесклапотна.* А ты думыіш, я дужа красу́юся душою? — не, так, сь сірядзі́нкі ны пылаві́нку жыву́. Зу мужуком душою крусувáлыся. *Непаўн.* **Душою пакрасавацца.** Абея душою пукрусувáліся, большы такея вы́гыды ня будзіць. *Працягл.-фінальн.* **Душою накрасавацца.** Жыць будзіць, толька душою ні ныкрасу́іцца. Душою нукрусувáліся ў такой роскышы.

**Душою не вінават.** *Чысты і ў думках.* Я ні пірят кім душою ні вінувáт, што вы ка мне чэпіціся. Ныпрáсна гаворіця ны Мацьвея, ён душою ні вінувáт. **Душою вінават.** Каб жа ён хуць душою вінуват быў.

**Душу выкладаць** (выкладываць). *Усё аддаваць; гаварыць чэсна, да канца.* Душу́ выклыдáла на іх, дык ці тэя ту́ібні паймýць ці ацэнюць. Душу́ ім выклыдáй, і то ці паверюць хуць раз. Чужэя дзеці, а глядзіць іх луччы чым сваіх, пряма душу выклáдывыіць. Большы я душу ім выклáдывыць ні стану, ні даждуцца. *Зак.* **Душу выкласць.** Усё, што було, аддылá, а душу́ я вам ужо ня вы́клыду. *Працягл.-фінальн.* **Душу навыкладаць** (навыкладываць). Нывыклыдáюць душу, што самі астáнуцца галы́м галенічкія. Ай, пірістáнь ты, Галя нывыклáдыіць душу, ат яе дажджэсься.

**Душу класць** (лажыць, пакладаць). *Самаадданa заступацца.* Адзін зы днаго душу кладу́ць, тыкая ў іх друж-

ба. Клім зы Сірьгяёнкыў душу ложыць, дыгадзілі нечым. А чаго за іх ста́ніць хто душу пыклыда́ць, самі тварілі, самі ніхай і расхлёбывыюцца. *Зак.* **Душу пакласць** (палажыць). Тэй ду́мыў, што Шурка зы яго душу пыкладзець, а Шурка ўзяў і саўсім ні прішоў. Ны слыва́х, ка́жыцца, душу паложыць, а на дзелі хвастом вільнець.

**Душу** (дух) **раняць** (раніць). *Быць вельмі адданым; шкадаваць.* Па кім ты душу рыня́іш, ці варт ён добрыга слова да́йжа. Зь дзіця́мі бува́іць — па іх душу роніш, а яны ў перья увыбра́ліся — паехылі і забы́лі. Дух рыня́ў зы Анькыю, а іна ўзіла́ і за́муж выйшла. Пы сына́х іна дух роніць, кажный дзень пла́чыць.

**Душу** (дух) **цяраць.** *Празмерна шкадаваць, клапаціцца.* Із-за нейкыга шлэпыря я ні стала б так бегыць, душу́ ціря́ць. Ці свой, ці чужэй, ніхай саўсім нізнакомый, Мархва адзіна́кыва пы кажным дух ціря́іць. *Зак.* **Душу** (дух) **пацяраць.** Бегыіць, піріжыва́іць, усіх жа́лка, усім ба хацелыся паможч, а тут у саміх нічога асобінныга німа,— пряма душу пыціря́ла. С клопытымі, з заботымі дух пыціря́іць.

**Душу на ладонь класць** (лажыць, выкладаць, выкладываць). *Ва ўсім прызнавацца; старацца.* Каб я ды яшчэ ду́шу ны ладонь табе клаў,— за што, зы якоя, скажы. Так ужо стыря́іцца, пряма душу ны ладонь ложыць. Ці душу́ ны ладонь выклыда́й, ці маўчы́ — адна́ ла́ска. Ты яму душу ны ладонь выкла́дывый, нічога ні пыспыгыда́іць. *Зак.* **Душу на ладонь пакласць** (палажыць, выкласць, вылажыць). Душу ны ладонь пыкла́сць ён ні пыкладзець, а рыскыза́ць, як було,— рыска́жыць, бріха́ць ні ста́ніць. Во нягож, душу табе січас ны ладонь пылажу́. Што ні скажы́, зьдзелыіць, ён душу́ ны ладонь вы́клыдзіць — так стыряіцца. Душу ны ладонь яму вылыж — дайжа вухым ні пывядзець.

**Душу пасвіць.** *Жывіцца ледзь-ледзь.* Неік жа трошку жывець, пасець душу. Жысьць мыя́ абыча́йныя, душу́ пасу́, а зьесьць дужа нічога ні магу. *Непаўн.* **Душу папасвіць.** Айдзе душу пыпа́сьвіў, там і ла́дна. Пойдзіць, то там, то там душу́ пыпасець. *Законч.* **Душу прапасвіць.** Душу прыпа́сьвіў лета, ну й ла́дна, чаго ты большы хочыш. *Працягл.-фінальн.* **Душу напасвіць.** Айдзе душу ні ныпа́сьвіў, абы сыт быў.

**Душу ўкладаць** (укладываць). *Рабіць старанна, самааддана, з вялікай любоўю.* Так любіў што-небудзь зь дзеріва дзелыць, кажыцца б, дзень і ноч сядзеў, і ўва ўсё душу́ ўклыда́ў. Чэсныя былі людзі, душу ўкла́дывылі, дзелылі, як сабе. *Зак.* **Душу ўкласць.** У любоя дзела, зы якоя ні бярецца, гатоў душу ўклaсьць.

**Душы не чуць.** *Бязмежна любіць.* Яны душы́ адзін у другі́м ня чуюць. Душы ў дзяўчонкі ня чу́іць, і ма́сьліць яе, і гла́дзіць, і носіць, на ву́ліцу ку́хтыіць усяго ўся́кыга, каб іі зустудзілыся, каб ні зыхыладзілыся.

**Дым стаўбом** (каромыслам), *неадабр. Пра беспарадак, неразбярыху; пра накуранасць.* Ня йдзі, у іх там дым стаўбом: сыбіраюць жа меншыга у Маскву. Там дым каромыслым у хаці, носа некуды ўсу́нуць, а тут ты яшчэ бу́дзіш вісець нуд душою.

**Дыхаць на ладан.** *Быць блізка да смерці.* Што ат яго хацець, кылі ён ды́шыць ны ла́дын. Зыбяры сабе ету шкурбаці́ну, я ўжо дышу́ ны ла́дын, яно мне ні к чаму́.

**Дыхнуць некалі.** *Пра адсутнасць вольнай часіны, вялікую занятасць спешнай працай.* Тут дыхну́ць некылі, усё пря́ма гарі́ць, а ты мне пры я́гыды. Што ён мышару́іцца ны дваре, мне лі печы дыхну́ць некылі.

**Ездзіць вярхом** (вярха). *Выкарыстоўваць у сваіх інтарэсах, папіхаць.* Ета такей чылавек пупа́ўся, што езьдзюць вярьхом — і маўчы́ць, на мне ні паезьдзілі б. Цяперя с такіх рук ня скора вы́круціцца, будуць езьдзіць вірьха́ сколька захочуць. *Час.* **Паездзіць вярхом** (вярха). Ніхай ні ра́дыіцца, як паезьдзюць вярьхом, будзіць глядзець, як вы́рвыцца. Паезьдзілі вірьха́, а каб цярьпеў, і сяньня б езьдзілі. *Законч.* **Ат'ездзіць вярхом** (вярха). Пупа́ўся ў іхныя кыкаты́, дык ат'езьдзілі вярьхом. Ду́мыў, аку́ріўся, пыжывець, а яны як зыпряглі́, як усьселі, — ат'езьдзілі вірьха́. *Працягл.-фінальн.* **Наездзіцца вярхом** (вярха). Сам прішоў у рукі: наця мяне, — наезьдзюцца цяперя вярьхом, будзіць помніць зяці́. Вы ны Пынасу і так наезьдзіліся вірьха́.

**Ездзіць на чужой шыі** (спіне). *Жыць за кошт іншых.* Есьлі сыбіра́лыся езьдзіць ну чужой шыі, то нечыга було зыіўля́цца. Ня ўчы езьдзіць ну чужой сьпіне. *Абмеж.*

**Паездзіць на чужой шыі** (спіне). Ні с тваім, брат, вумом паезьдзіць на чужой шыі. У нас ну чужой сьпіне дужа ні паезьдзіш. *Законч.* **Ат'ездзіць на чужой шыі** (спіне). Ат'езьдзілі ну чужой шыі уволю, і ўсё неік удывáлыся ну дурня́к жыць. Сколька яны ат'езьдзілі ну чужы́х сьпі́ных, дык лу́ччы і ні ўспымінáць. *Працягл.-фінальн.* **Наездзіцца** (даездзіцца) **на чужой шыі** (спіне). А таго наезьдзіўся ну чужой шыі, што ўсе глядзелі і цярьпелі. Наезьдзіцца ну чужой сьпіне, прі́дзіць урема, пыжалеіць, ды нызáд ня верніць. Ну чужой шыі даезьдзіцца нядоўга. Даезьдзіўся ну чужой сьпіне, сыгнáлі, цяперя ходзіць — і ў вочы людзям сты́дна гля́нуць. *Гл.* Е х а ц ь н а ч у ж о й ш ы і.

**Ездзіць на чужым** (чужом) **гарбу** (карку). *Жыць за кошт іншых.* Езьдзіць ну чужы́м гарбу вам ні ўдáсца, ні надзейціся. Ну чужы́м кáрку лю́бюць езьдзіць, а свой пыцстáвіць — дык нісмáшна. Ні прівучáй езьдзіць ну чужом кáрку, ніхай ву́чуцца свой кусок хлеба дыбывáць. *Абмеж.* **Паездзіць на чужым** (чужом) **гарбу** (карку). Чаго там гываpíць, паезьдзілі ну чужом гарбу. Толька й глідзяць, каб ну чужы́м кáрку паезьдзіць. *Законч.* **Ат'ездзіць на чужым** (чужом) **гарбу** (карку). Ат'езьдзілі ну чужы́м гарбу — хвáціць, самі пывазі́ця. Пыря́дышна ат'езьдзілі ну чужом гарбу́. Ду́мыіш, мала ат'езьдзілі ну чужом кáрку? — ета цяперя хрістовымі дзіця́мі прікі́дыюцца. *Працягл.-фінальн.* **Наездзіцца** (даездзіцца) **на чужым** (чужом) **гарбу** (карку). Нечыга адгывáрівыцца, наезьдзіўся ну чужом гарбу і маўчы́. Наезьдзіліся лáдна ну чужы́х кáркых, былі сволычы, большыя некуды. Даезьдзіўся ну чужым гарбу, апусьці́ў кры́льля, маўчы́ць. А даезьдзіціся ну чужом карку, і ны вас прі́дзіць ікаянібудзь пірялома. *Гл.* Е х а ц ь н а ч у ж ы м г а р б у.

**Еле-еле душа ў целе.** *Пра слабога, ледзь жывога.* Што тут спрáшывыць: во жыву́ елі-елі душá ў целі. Якей жы́ціль зь Лявона, так, елі-елі душá ў целі.

**Елькіна ахрана,** *гумар. Пра нікудышную варту.* Сыбрáлыся ўжо елькіна ахрáна, тáры ды бáры. Во, елькіна ахрáна ідзець. Сыбірáй сваю елькіну ахрáну. Ты ныкыраву́ліш, будзіць елькіна ахрана. О Паходжанне выразу наступнае. У дарэвалюцыйны час у Мсціславе жыла гандлярка Хася з мужам Елькам. У іх звычайна было дватры работнікі, якія працавалі па гаспадарцы і неслі

ахоўную службу. У розны час працавалі розныя работнікі, але заўсёды падбіраліся такія, якія вызначаліся добрай сілай і стараннасцю, маглі б уціхамірыць п'яных гуляк. Пры ўзнікненні гэты выраз азначаў строгую варту, але з цягам часу трансфармаваўся і набыў супрацьлеглае значэнне з экспрэсіўным адценнем жартоўнасці.

**Есць вачамі.** *Глядзець аддана.* Сядзелі збоку ац стылá і прáма елі яго вычáмі. Пыдзівісь-ка, аж ядуць вычáмі Кузьмінка.

**Есць жыўём** (жыўцом). *Здзекавацца, бясконца папракаць і лаяць, даводзіць да адчаю.* Ня буду ні судзíцца ні рядзíцца, нада атыйцíць пы-харошыму, і есьць жыўём ніхто нікога ня будзіць. Самі ж Люську жыўцом елі, а прішлá ў хату спывідáць мяне. *Зак.* **З'есць жыўём** (жыўцом). Яны б яе жыўём зьелі, каб маглí. Зьелі жыўцом мыладýху, а дзеўка, дзеўка была: і пявýньня, і плясýньня, і ну гульнé, і ны работу, і на ўсё. *Множн.* **Паесць жыўём** (жыўцом). Дужа гáдкія людзі, гатовы ўсіх жыўём паесьць. Каб прімелі, жыўцом ба Трахімывых паелі і ні аблізнýліся б дайжа.

**Есць** (кусаць) **губы й зубы.** *Вельмі шкадаваць, перажываць.* Ці яны ж дýмылі, што так палýчыцца, яны ж абоя тады елі гýбы й зýбы. Цяперя сколька хочыш гýбы й зýбы кусáй, зрáзу нада було дýмыць, як жыць. *Зак.* **Паесць** (пакусаць, пераесць) **губы й зубы.** Вохкылі, ікытáлі, губы й зубы паелі: нашто мы так дзелылі. Ты як апомнісься, губы й зубы пукусáіш с такíмі рызгаворымі. Піряела гýбы й зýбы: нашто мне так було гыварíць, большы ён ня верніцца. *Узмацн.* **Накусаць губы й зубы.** Я ета знаю, што нукусáлі губы й зубы, ды позна апомніліся.

**Есць поедам.** *Сварыцца беспярапынна і здзекліва.* Сь первыга дня, як прішлá, пычáлі есьць поідым. *Зак.* **З'есць поедам.** Там ніхто ні ўжывець, ніхай зылытáя будзіць — зьядуць поідым. *Множн.* **Паесць поедам.** Поідым ба паелі ўсіх чы́ста, каб толька самім рускушувáцца.

**Есць чужэй** (чужый) **хлеб.** *Жыць за кошт іншых.* Чаго я паеду, есьць чужэй хлеб я ні хачý, я йшчэ магу сыма якей кусок заробіць. Лю́біш ты есьць чужый хлеб, ну чужой шыі ехыць. *Непаўн.* **Паесць чужэй** (чужый) **хлеб.** Паеў чужэй хлеб і хвáціць, на свой пырá садзíцца. Сколька паеў чужы́й хлеб, а ўжо глядзíць, каб ны яго і дáльшы работылі.

**Етага яшчэ не хватаець,** *цяп., пр. Пра нежаданую і непрыемную нечаканасць.* Ну, наліця лужу пысярёд хаты, етыга яшчэ ні хвытáіць. Будуць яны мне вылежывыцца, а я на іх сьпіну́ гнуць, етыга яшчэ ні хвытáла мне ту́тыцька.

**Ету** (сію) **мінуту** (мінутачку, секунду, секундачку). *Зараз, у гэты момант.* Ету міну́ту ідзі, ня жджы, пакуля дождж хля́ніць. Ету міну́тычку садзі́сь і скорінька едзь. Дзелый ету сікунду, ныпымінáць большы ня буду. Не, тыкі праўда паслу́шный, што ні скажы́, ету сікундычку паслу́хыіць. Сію міну́ту зьбегыю, я січáс. Каб сію мінутычку пашоў! Як скызáў, ён сію сіку́нду стаў зыпрігáць. Сію сіку́ндычку сыбірáйся.

**Етый свет.** *Навакольнае, зямное жыццё.* Як ні жывець хто, а етый сьвет кідáць нікому ня хочыцца. Тэй сьвет — тады тоя й будзіць, нада на етым сьвеці пажы́ць.

**Етымі днямі.** *У бліжэйшы час; нядаўна.* Каб вы́рвылыся, схадзі́ла б етымі дня́мі, ды ні знаю, нада сьвірепку зьбірáць. Пецьку пыбядзі́лыся етымі дня́мі: у кынáву з мытацы́клым уляцеў, гыварілі, трябух шшывáлі.

**Ехаць на чужой шыі** (спіне). *Жыць за кошт іншых.* Ці вам ішчэ ні ныдаела ехыць ну чужой шы́і? Хырашо було ехыць ну чужой сьпіне, ды злáзіць прішлося. *Абмеж.* **Праехаць** (праехацца) **на чужой шыі** (спіне). Лоўка праехыў Сямён ну чужой шыі. Зыхацеў праехыць ну чужой сьпіне, ды ні ўдалося. Толька й глядзíць, каб праехыцца ну чужой шыі. Лю́біць праехыцца ну чужой сьпіне, ды вазíць ніхто дужа ня хочыць.

**Ехаць на чужым** (чужом) **гарбу** (карку). *Жыць за кошт іншых.* Ехылі б і ехылі ну чужы́м гарбу, самíм ру́кі мырáць няхота. Чаму ж ні рыздряхцець, калі ўсю жы́зьню ну чужом гарбу едзіць. Ну чужом карку ехыць було хырашо, ды зьлезьць пыпрасілі. *Абмеж.* **Праехаць** (праехацца) **на чужым** (чужом) **гарбу** (карку). Дужа ўжо, дужа хочыцца ім праехыць ну чужом гарбу́. Вот гультáй, дык гультáй: праехыў ну чужом карку і даволін. Цяперь такоя редка бувáіць, каб удалося ну чужом гарбу праехыцца. Абы праехыцца ну чужы́м карку, а большы яго нічога ні іньцірісу́іць. Праехыўся ну чужом карку — пынырáвілыся, толька не, мне ні ўсьсядзіш. *Гл.* Ехаць на чужой шыі.

**Жаўтаротый птушанёнак.** *Нявопытны, малады.* Куды́ яго жаніць: жыўтаротый птушанёнык. Айдзе табе дабіцца чаго, такому жыўтаротыму птушанёнку.

**Жаць** (цісnуць, нажымаць, націскаць) **на ўсе педалі,** *жарт. Спяшацца, энергічна дзейнічаць, прыкладаць шмат сіл.* Ну-ка жмі на ўсе піда́лі, ішчэ пасьпеіш етый хвосьцік дабры́нкыць. Ці́сьніць Хвёдыр на ўсі піда́лі, усюдых пасьпець хочыць. Есьлі ду́мыіш дыбіва́цца спра́вык, ныжыма́й на ўсе піда́лі, ніхай хто сы стыршыною пыгаворіць. Ныціска́йця, хлопцы, на ўсе піда́лі, вецір пытхва́ціцца і вашы капёшкі рызьнясець к чорту. *Зак.* **Нажаць** (націснуць) **на ўсе педалі.** Умеіць, кылі нада, ныжа́ць на ўсе піда́лі, і ў яго ўсё пулуча́іцца. Ні ляні́ся, наці́сьні на ўсе підалі, тут таго пня адзін корінь айдзе дзяржы́ць. *Аднакр.* **Жамануць** (цісканyць) **на ўсе педалі.** Каб жыману́лі на ўсе підалі, і дабеглі б ды дажджу́. Цісканíця на ўсе підалі, скарей дзела пойдзіць.

**Жвачку жваць** (цягнуць), *неадабр. Гаварыць надакучліва, зацягваючы размову.* Ай, кінь ты жва́чку жваць, ляж дый сьпі. Во ця́гніць і ця́гніць жва́чку, ныдаеў большы некуды. Як пычалі цягнуць жвачку, дык я і вы́ліжылыся, і заснула, а яны ўсё трілюдзілі пра нешта.

**Жданкі праесць.** *Прачакацца.* Мы жда́лі, жда́лі і жда́нкі праелі. Усе жда́нкі праеў, паку́ля вас дыжда́ўся.

**Ждаць** (дажыдаць) **ласку** (ласкі), *іран. Спадзявацца на паляпшэнне адносін.* Дырма́ вы жджыцё ла́ску ат Мітрыхва́на, ета путні́на ішчэ та́я. Жджы ла́скі, дажджэсься, ён усігда́ зьверім глядзіць. Якую ім цяперя ласку дыжыда́ць, са́мі сябе зыпаску́дзілі і ўсё. Што, сядзіш, яшчэ адной ла́скі дыжыда́іш? *Зак.* **Даждацца** (даждаць) **ласку** (ласкі). Ці табе ні гывары́лі, якую ты ла́ску дажджэсься. Ласкі ат Ісая нялёхка було дыжда́цца: ну людзя́х ён як чылавек, а ў сям'е — зьверь. Дыжда́ў ла́ску: што сам дзелыў, то й нызад пулуча́іш. *Рэзульт.* **Выждаць ласку** (ласкі). Максім — тэй самый, ат каго можна ласку вы́ждыць. Зыхацелі вы́ждыць ласкі ат Лыўрінёнка. *Узмацн.* **Прыждаць** (прыждацца) **ласку** (ласкі). Ат Міці ла́ску ні пріжджэш, я знаю. Ат каго яны ду́мыюць пріжда́ць ласкі, ад Гаўрілы? — во дзіва дык дзіва. Цяжола пріжда́цца ат іх ласкі, есьлі яны глядзець ны цябе ня хочуць.

**Ждаць** (дажыдаць) **пуця.** *Спадзявацца на змяненне ў лепшы бок.* Мы пуця́ жда́лі, ажно во якей пуць пулучы́ўся. Дыжыда́ю пуця, а ці дажду́ся — хто ж яго зна́іць. *Зак.* **Даждацца** (даждаць) **пуця.** Я ж ду́мыла, пуця якога даждуся з ма́льца, дык дыжда́лыся: кароўку за рогі і ны быза́р. Ні дажджэш ты пуця зь етыга чылавека, пра двор ён і ня ру́піцца. *Рэзульт.* **Выждаць пуця.** Хочыш ты пуця вы́ждыць ад Будзінка́, з дурука́ дурноя плувець. *Узмацн.* **Прыждаць** (прыждацца) **пуця.** Во якога пуця я пріжда́ла, ці паду́мыў ба хто, што з Марініныга хлыпца́ бысяк вы́йдзіць. Каб пріжда́цца пуця з ма́лыга, тады б я была спакойна.

**Ждаць** (дажыдаць) **у** (з) **мора пагоды.** *Спадзявацца дарэмна.* Чаго табе ждаць у моря пагоды, прыдыва́й ха́ту і едзь. Што мне у вас ждаць з моря пагоды, пывылаку́ся як-небудзь. Нечыга дыжыда́ць з моря пагоды, нада сыбра́цца ды ехыць скарей. *Зак.* **Даждацца** (даждаць) **у** (з) **мора пагоды.** Чаго ён там аста́ўся — дыжда́цца у моря пагоды? Дажджэсься з моря пагоды, вы́рьвіш у Ільлі і капейку, і дзьве. З нашым брігадзі́рым дажджэш у моря пагоды, хочыш і бяз дроў ны зіму аста́нісься. Я пулучы́ў ла́ску, дыжда́ў з моря пагоды. *Рэзульт.* **Выждаць у** (з) **мора пагоды.** Ну, вы́ждылі ў моря пагоды, ці вам ні гывары́лі, што нада скарей ду́мыць. Калі хочыш вы́ждыць з моря пагоды, астыва́йся, а мы пяшком пойдзім. *Узмацн.* **Прыждаць** (прыждацца) **у** (з) **мора пагоды.** Як хацелі, так і пулучылі, пріжда́лі у моря пагоды. Сядзі́ця, сядзі́ця, пріжджыцё з моря пагоды. Пыбягі́м, яй-богу пыбягі́м, ато пріжджомся ў моря пагоды. Ай, ні гывары́, пріжда́ліся з моря пагоды, дуракі́ былі, што раншы ні пару́піліся.

**Жджы, дзесятачка ўляціць,** *іран. Пра безнадзейнасць атрымаць.* Што, жджэш? — ну, жджы, жджы, дзіся́тычка ўляці́ць. Раз паехыў у зыработкі, то жджы, дзіся́тычка ўляці́ць.

**Жыватом качацца.** *Хварэць на жывот.* Сколька ўремя кыча́іцца жыватом, і німа́ ніякыга улуччэньня. *Непаўн.* **Жыватом пакачацца.** Во я два гады́ таму́ пыкыча́ўся жыватом, каб ты толька знаў. *Законч.* **Жыватом адкачацца.** Жыватом аткыча́ўся ета ўремя, нейкыя ўродзі успаленія прізныва́лі. *Працягл.* **Жыватом пракачацца.** Такей і воддых у яго быў: пріехыў і жыватом прыкыча́ўся пасьці́

месіц. *Працягл.-фінальн.* **Жыватом накачацца.** Крепка жыватом ныкычáлыся, нейкія і колькі хвытáлі, і пыткáчывылыся нешта, і резыла, і балела — усяго було.

**Жывая душа.** *Нешта жывое.* Узьбегла ны бызáр, каб была жывáя душá — нікагенічка, адзін старíк сядзеў з рáкымі. Летым прайдзí пы дзяреўні — жывэя душы ня ўвíдзіш, усе на полі ці ну лугý.

**Жывая рана.** *Нешта балючае.* Рызьвярцелі, глянулі тоя плячо — пряма жывáя рáна, і зукруцíлі скарей. Ні ладонь, а жывая рана, хуць зьверьху й ня дужа што вíдна.

**Жывая** (свежая) **капейка.** *Бягучы заробак.* А тыкі й прівы́к, каб жывáя капейка былá ў рукáх. Есьлі мысьціравэй чылавек, у яго ўсігдá сьвежыя капейка ў рукáх.

**Жывога места не астацца.** 1. *Пра бязмернасць фізічнага пакарання.* Ты мне толька забíся с крю́чча, зрежу на горькыя я́блыка, жывога места ні стáніцца. 2. *Пра бруднае, запэцканае.* Так пірімáзыліся, што жывога места на іх ні астáлыся. *Незак., рэдкаўж.* **Жывога места не аставацца.** 1. Ці помніш, сколька разоў, бувáла, ён так цябе сьсякець, што жывога места ні астаецца. 2. Кажный дзень нейдзі настолька вымáзыюцца, што жывога места ні стаецца.

**Жывога места не кінуць** (не аставіць). *Моцна збіць.* Ну пыдажджы́, дай толька дыбрáцца, жывога места ня кíну. Пачýў, што ры́бу трёс з другíмі, злавíў, так сьсек, што жывога места ні астáвіў. *Незак., рэдкаўж.* **Жывога места не кідаць** (не астаўляць). А табе меншы пыпыдáла,— бáцька ж ны табе жывога места ні кідáў. Сьпірвá цярьпíць, доўга цярьпíць, а ўжо як вы́відзіць сь цярьпенія, жывога места ні стыўля́іць.

**Жывога места няма,** *цяп., пр., буд.* 1. *Пра вельмі пабітага.* Вíдзілі мы яго: жывога места німá. З бальшэя вісычынí ля́снуўся, зрáзу на íм жывога места ні було. Дадзíм дык дадзíм, жывога места ня бýдзіць. 2. *Пра бруднага, запэцканага.* Ты ж пыглядзí ны сябе, ны каго ты паходж — жывога места німá. Прішлí ў грязі па вýшы, жывога места ні було.

**Жывога слова не чуць.** *Жыць зусім адзінока, замкнута.* Паеду, к сваім зьежджу, ато сяджý тут, жывога сло-

ва ня чу́ю. Сядзі́ш адзі́н, што пень, жывога слова ня чу́іш. *Зак.* **Жывога слова не пачуць.** За ўсю нядзелю жывога слова ні пачу́ў.

**Жывое дзела.** *Разумная, карысная справа.* Ні люблю́ валы́нку цягну́ць, мне каб було жывоя дзела. Тут хуць жывоя дзела, а там што — ні работа, ні гульта́йства.

**Жывот** (дух) **падвадзіць** (падцягываць). *Вельмі хацецца есці.* Мне дык ужо жывот падводзіць, знаць, уремя ла́дныя. Нябось, жывот пыцьця́гывыіць, садзісь-ка за стол. Уремя ўжо ла́дна прыскачы́ла, дух падводзіць, аж пад ложычкыю сьсецць. Ні знаю, як ты, а мне ўжо духі́ падводзіць. Пайдзём-ка піряку́сім, нешта духі пыцьця́гыіць. *Зак.* **Жывот** (дух) **падвесць** (падцягнуць). Садзісь-ка ды піріхваці́ хуць крупені, жывот, нябось, пыдвяло зы такую дарогу. Што, пыцьцягну́ла жывот? — я ж гываріла, вазьмі́ якую скарі́нку ў кырма́н. Дух пыдвядзець, дык сыма лезь у печ дый нылівай — пряма вун гаршчонычык крупені, а г боку бульба ту́шыныя стаіць. Знаю, што духі́ пыдвяло, дык жа і ў мяне нічога с сабою німа́. Нам усім духі пыцьцягну́ла, а ты тут рузмундыкыіш. *Усеаг.* **Жываты** (духі) **пападвесць** (пападвадзіць, пападцягнуць, пападцягываць). Што, жываты́ здорыва пыпыдвяло за еткій дзень? Ні бярі́ця, ні бярі́ця, жываты́ пыпадводзіць — рады бу́дзіця худзь ба раз грызну́ць. Жываты́ як пыпыцьця́гніць, і зывыля́шчыю б скарі́нку сагры́зьлі. Папомніця маё слова, што жываты́ пыпыцьця́гывыіць, як сыба́кым, раз ня слу́хыіця. Пыпыдвяло нам духі, а сядзім, пікнуць баімся. Знаю, што духі пыпыдвадзіла, ну ніха́й, другей раз ня будуць такімі хра́брымі. Бярі́ця што ў су́мку, духі як пыпыцьця́гніць, то й речкі ні захочыця. Прібеглі — духі пыпыцьця́гывыла, дай скарей есьць хуч чаго. Січас, канешня, ня хочуць, а як духі пыпыцьцягывыіць, тады б грызнулі, ды ня будзіць нічога.

**Жывот** (жывоцікі) **рваць,** *груб. Моцна крычаць, рагатаць.* Чаго ты жывот ірьвеш, дужа сьмешныга нічога німа. Жываты́ на сені рва́лі ўвесь дзень, во і ўся работа. Хва́ціць жывоцікі рваць, за косы бярі́ціся. *Зак.* **Жывот** (жывоцікі) **парваць.** Там усігда сьмеху — жывот пырваць можна. Столька ўжо ў іх вісялосьці, пряма жывоцікі пырва́ць було. Схадзі́ця, пыглядзі́ця, жывоцікі пырьвіцё. *Працягл.-фінальн.* **Жывот** (жывоцікі) **нарваць.** *Нырва́ў* я лі іх жывот, цэлыя камедзія была, луччы чым ція́тыр

якей. Ці нырвáлі жывоцікі, ці ўсё яшчэ рызьбірáіць, зьдзіржáцца ня можыця.

**Жывым хараніць.** *Лічыць загінуўшым.* Ні хыраніця вы хуць жывы́м яшчэ рáншы ўреміні. *Зак.* **Жывым пахараніць** (схараніць). Мы ўжо свайго былі жывым пыхыранілі, а тады ён прісла́ў пісьмо—во рáды былі. Былі́ жывы́м схыранілі, а ён бісь пісьма, бізь нічога грім у хáту ўрáньні.

**Жывэя** (жывой) **душы не ўстрэціць** (не ўвідзець). *Не ўбачыць нідзе нікога.* Там настолька глуш, што дзень бу́дзіш хадзі́ць і жывэя душы ня ўстреціш. Прайшоў дзяреўню с кынцá ў канец і жывэя душы ня ўві́дзіў. Не, мы ні́йдзе жывой душы ня ўстрецілі, кусты́ і кусты́.

**Жывэя** (жывой) **душы не найціць** (не знайціць). *Не ўбачыць нідзе нікога ў выніку пошукаў.* Сколька хадзі́лі, дайжа гукáлі, і жывэя душы ні найшлі́. Хто тут што паможыць, калі січáс жывэя душы нійдзе ні знáйдзіш. Сьмела прайдзі́ усьцяж сколька хочыш, і жывой душы ні нáйдзіш. Ніхай сьцігáюцца, яны там жывой душы ні знáйдуць.

**Жывэя** (жывыя) **мошчы.** *Надзвычай худы.* Аж стрáшна глядзець, пря́ма жывэя мошчы, нада ж так схудзець чылавеку. Ув́ідзіла Аксюту — жывы́я мошчы, ажно спужáлыся.

**Жызні** (жысці) **не даваць.** *Прыставаць, чапляцца, надакучаць.* Кінуў, пашоў, а цяперя жы́зьні ні даець, як што, так і чыпля́іцца. Ну пря́ма жы́сьці ні даю́ць, настолька ныдыідáюць. *Зак.* **Жызні** (жысці) **не даць.** Калі на што узьвя́ліцца, жы́зьні ні дасьць, пакуля свайго ні даб'ецца. Мыксіміня́ты ёй жы́сьці ні даду́ць, усё ўремя будуць мсьціць.

**Жызні** (жысці) **не знаць. Не мець жыццёвага вопыту.** Па сьвету яны ні шылáліся, жы́зьні ні знáлі, паетыму так і пулучы́лыся. Што вам ат яго хацець, кылі ён жы́сьці ні знáіць. *Зак.* **Жызні** (жысці) **не ўзнаць** (не ўвазнаць). Ты сам жы́зьні ні ўзнаў, а зьбірáісься другі́х учыць. Вы так гаворіця аттаго, што жы́зьні ні ўвызнáлі. Пецька жысьці яшчэ нісколька ні ўзнаў. Такімі будуць, пакуля жы́сьці ні ўвызнáюць, а як жысьць пулумáіць, тады асьціпіня́цца.

**Жылы** (жылле) **рваць,** *груб.* 1. *Многа і цяжка працаваць.* Чаго я ны тваіх харошых буду жылы рваць. Не ўжо, хвáціць жы́льля рваць, ніхай самі рвýцца. 2. *Моцна крычаць.* Жы́лы рвáлі нечыга, аж кусты рызьлігáліся. Жы́льля рьвець, усё дно як яго там хто зы лантýшша хвытáіць. *Непайн.* **Жылы** (жылле) **парваць.** 1. Мы ж цігáлі усё ўся́кыя, жылы пырвáлі, а што за ета пулучы́лі. Пырвáлі жы́льля ны чарцей уся́кіх, дáйжа ны такíх, што слова добрыга ні вáрты. 2. Ніхай жылы парвýць, унíмуцца, сьцíхнуць. Пырвáў троху жыльля і сьціх,— хрáкцір такей у чылавека, што спакойна ня можыць. *Працягл.-фінальн.* **Жылы** (жылле) **нарваць** (дарваць). 1. Ух, жылы нырвáлі, сохі стáвіўшы, цяжолыя работа. Нырьвіцё тут жыльля, пакуль троху рашчы́сьціця. Усё хвытáў, каб большы другíх, так і дырвáў жы́лы. Дырвáў жы́льля, што кычáіцца цяперя гылавешкыю. 2. Ці ныкрічáўся, жыльля ці нырвáў, ай яшчэ гырлáць будзіш? Дарьвеш жылы, дыгырлыпáніш мне, што я мігым унімý. Прішоў нілáіный, а пойдзіш аблáіный, во й дарьвеш жыльля.

**Жылле-пажылле.** *Усё цела.* Нешта балíць усё жы́лляпáжыльля, ці прістыў айдзе, ці што. Вы́пырíць ба січáс жы́льля-пáжыльля, чáрычку б тады ўзяць ды спаць зываліцца.

**Жырна будзіць,** *буд.; пр. Пра жаданне звыш меры.* Калі табе яшчэ аддывáць пацьцёлка, то жы́рна бýдзіць. Жы́рна було б пулучáць аднамý столька зрáзу.

**Жырный кусок.** *Нешта прывабнае, спакуслівае, вялікае.* Паўлюк усігда пыглідáіць, каб жы́рный кусок атхвацíць сабе. Сваё ўсё прутрубíў, а цяперь ба ўзноў нада жырный кусок. Глядзíць, каб жырнейшый кусок быў, айдзе зря касíць ні стáніць.

**Жырыкі точаць,** *неадабр.; цяп., пр., буд. Пра свавольства, балаўства, юрлівасць.* Віджу, што цябе жы́рікі точуць, нада успыкáівыць. Успакою, калі жы́рікі точуць, места німá. О-о, цябе даўно жырікі тачы́лі, доўга спакою ні було. Сколька ж яго жы́рікі тачы́ць будуць, сыны вы́рысьлі ураўне з бацькым. *Непайн.* **Жырыкі патачылі,** *пр., буд.* Жы́рікі пытачы́лі яго, пытачы́лі, ну абрузумíўся. Сьпірвá жы́рікі троху паточуць, а тады ўспакоіцца, возьміцца за вум. *Законч.* **Жырыкі адтачылі,** *пр., буд.* Не, Мішка ня тэй, саўсім ня тэй, аттачы́лі жы́рікі. Ну што ж,

атточуць жырікі, пірябесіцца, і пыцішэіць, і пувумнеіць. *Працягл.-фінальн.* **Жырыкі натачылі,** *пр., буд.* Сколька іх жырікі нытачы́лі, большы некуды. Ці наточуць вас калі-небудзь жырікі, што ны гылывáх усё ходзіця.

**Жыць барынам.** *Мець поўны дастатак.* Дзім'ян жыў бáріным, што яму атхадзíла калі. *Зак.* **Пражыць барынам.** Ні разу ні нырвáўся, ні ўзяў на сілу, ні пувулнувáўся,— пражы́ў бáріным. *Непаўн.* **Пажыць барынам.** Пыдажджы́, дай агледзіцца, можа калі і я пажыву́ бáріным. *Пачын.* **Зажыць барынам.** Во, ён зыжывець бáріным, абыдрáніц етый. *Законч.* **Аджыць барынам.** Чаго ім у жысьці ні хвытáла, ці кускá хлеба ні було, ці чаго, аджылí баріным. *Працягл.-фінальн.* **Нажыцца барынам.** Віктыр нажы́ўся баріным, а табе так ні ўдáсца.

**Жыць з мазаля.** *Карыстацца сваімі працоўнымі здабыткамі.* Мы ўвесь век жылі з мызыля́, ні глядзелі, каб хто зы нас ці ны нас дзелыў. *Зак.* **Пражыць з мазаля.** Пру Кузьму ні талку́йця, ён пражы́ў з мызыля́ ды яшчэ й брытáм, і сястре сколька пымыгáў. *Непаўн.* **Пажыць з мазаля.** Як пыжывіцё з мызыля́, тады ўзнáіця, што кусок хлеба стоіць, а сядзець зы бáцькыю — лёхка руссуждáць.

**Жыць прыпяваючы.** *Мець поўны дастатак.* Чаго ім ня быць глáдкімі і разу́мнымі, жыву́ць пріпіваючы. *Непаўн.* **Пажыць прыпяваючы.** У Ку́дрічых яны пыжылí пріпівáючы, чаго ім, скажы́, ні хвытáла.

**Жыць сваім вумом.** *Мець свае погляды, перакананні, быць незалежным у жыццёвых планах.* Слу́хыць, хто што гаворіць, нáда, ну жыць нада сваíм вумом. *Зак.* **Пражыць сваім вумом.** Ніхай сабе што ні гаворюць, а мы прыжылí сваім вумом, нікога ня слу́хылі і зналі, што дзелыць. *Непаўн.* **Пажыць сваім вумом.** Як пажывець сваім вумом, дык скарей пызнáіць, што і к чаму. *Працягл.-фінальн.* **Нажыць сваім вумом.** Многа ныжылá сваім вумом: тая лыскатну́ла: ні варí есьць,— і ні вáріць.

**Жыць святым духам.** *Існаваць, нічога не атрымліваючы.* Сьвяты́м ду́хым жыць ня бу́дзіш, нада зырыбля́ць патроху. *Зак.* **Пражыць святым духам.** А што, Лубузоўна прыжылá сьвяты́м ду́хым, ці што? *Непаўн.* **Пажыць святым духам.** І ты, ду́мыю, ні сыгласíсься пажы́ць сьвяты́м ду́хым. Сьвяты́м ду́хым доўга ні пыжывеш.

**Жыць чужым вумом.** *Трымацца чужых поглядаў.* Ні було ў цябе ні разу нічога і ня бýдзіць,— а ўсё з-зы таго, што ты жывеш чужы́м вумом. *Зак.* **Пражыць чужым вумом.** Чужы́м вумом ні прыжывеш, сымамý дýмыць нада. *Непайн.* **Пажыць чужым вумом.** Чужым вумом пажы́ў, убядзíўся, ці прáўду мы табе кызáлі? *Працягл.-фінальн.* **Нажыць** (дажыць) **чужым вумом.** Ныжывеш чужым вумом, чаго ні нýжывеш, а бяды нýжывеш. Вíдзіш, ды чаго дыжылí чужым вумом, а ці ім жа хто плоха жылáў у дваре.

**За адзін шаг.** *Вельмі блізка.* Прабеглі ваўкі зы адзін шаг ат мяне, я стыяў, а яны во так бігáць, метрыў пяць, ні дáльшы. Зы адзíн шаг стыялі адзін ад другога і ня ўвíдзіліся.

**За адною капляю.** *Ледзь-ледзь.* Зы адною кáплію ні пыляцеў у калодзіж. Адурювáіць карова саўсíм: зы адною кáплію на рогі ні пысадзíла.

**За адным заходам.** *Адразу.* Зы адны́м ба заходым і быракоў нада б дыстáць, нашто два разы студзíць погріб. Купíў усяго зы адным заходым, каб лíшніга ні цігáцца.

**За бацькавай спіною.** *У доглядзе, без клопатаў, на сродкі бацькоў.* Зы бáцькывый сьпіною руссуждáць лёхка. Гудувáўся зы бáцькывыю сьпіною, а цяперя за што бярецца, дык рýкі ні туды́ слýжуць.

**Забіваць за бузан.** *Тузаць здзекамі і прыніжэннем чалавечай годнасці.* Вун пыглядзí, што ш Шýрікым дзелыюць: саўсíм зыбівáюць зу бузáн. *Зак.* **Забіць за бузан.** А таго забíлі зу бузáн, што сь первыга дня пыддáўся і пыддáўся і цяперя нíякыга празору ня вíдзіць. *Множн.* **Пазабіць** (пазабіваць) **за бузан.** Ны сваю гылаву пашлí, іх там пызабíлі зу бузáн, слова скызáць ні даюць. Есьлі апýсьцюць вýшы, то зы паўгода іх пызыбівáюць зу бýзан.

**Забіць** (злавіць) **двух зайцаў,** *звыч. іран. Выканаць дзве справы адначасова.* Я тýта дýмыў забíць двух зáйцыў, ды ні пулучы́лыся ні з бýльбыю, ні з горыдым. Бярíся за што-небудзь адно, ато зловіш двух зайцыў,— і вуўкá за хвост схвáціш.

**Заблудзіцца ў трох соснах.** *Не разабрацца ў простым.* Усё рысталкýй і можа ны дарожку вы́відзь, ён жа такей,

што заблу́дзіцца ў трёх сосных. *Незак., рэдкаўж.* **Блудзіць у трох соснах.** Ну што ж ты, так і будзіш блудзі́ць у трёх сосных?

**Забубённая галовушка** (галовухна). *Пра бесклапотнага, безразважлівага.* Зубубённыя галовушка ў чылавека, хто б ета рісрну́ў астывацца біс каровы с такою плоймыю. Зубубённыя твыя галовушка, што ж ты гылышта́ньнікыў на сьвет пуска́іш аднаго за дным, хто ім кусок хлеба заробіць. Зубубённыя галовухна Санька, нічога ён ні жалеіць, ні ап чым ні клапоціцца.

**Забываць дарогу.** *Пераставаць наведваць.* Ты нешта пасьледнія ўремя дайжа зубува́ць дарогу к нам стаў. *Зак.* **Забыць дарогу.** Ай, я дык ужо і дарогу забы́ла к сваі́м, нада б калі зайці́ць. *Узмацн.* **Пазабываць дарогу.** Пузубува́ла ты к нам дарогу, ну й ладна, ні зыхадзі́. Усе ка мне дарогі пузубува́лі, як мяне й на сьвеці німа.

**Забываць сябе.** *Пераставаць звяртаць на сябе ўвагу.* Канешня, дзіцям пымыга́ць нада, ну й сябе ж зубува́ць саўсім нілізя́. *Зак.* **Забыць сябе.** Нешта ты забы́ла сябе саўсім, мыгла́ ж ба што і купі́ць, і спра́віць. *Узмацн.* **Пазабываць сябе.** За етым лёным пузубува́лі сябе, хацелыся ж скарей зь ім рышшчыта́цца.

**Забываць хлеб-соль.** *Праяўляць няўдзячнасць.* Ніхырашо зубува́ць людзкея хлеб-соль, успомні-ка, як яны цябе дыглідáлі, падзьдзержывылі. *Зак.* **Забыць хлеб-соль.** Не, табе забыць Лыўрінёнкыў хлеб-соль нільзя, яны ж цябе ад голыду спыса́лі.

**Забягаць перад** (пярод, напярод, наперад), *іран. Паддобрывацца з разлікам на прыхільнасць.* Зыбіга́лі, зыбіга́лі яму перід і нечым ні ўла́дзілі. Пірі́ста́ньця вы так зыбіга́ць пярёд, дайжа з боку глядзець сты́дна. Сколька яны зыбіга́лі ныпярёд Мыкрідзіня́тым, чуць ні ліза́лі іх. Усё ж стыря́іцца зуслужы́ць ла́ску, зыбіга́іць наперід. *Зак.* **Забежч перад** (пярод, напярод, наперад). Чаго ён так стыря́іцца забежч ім перід, нечым жа прімáсьлілі. Ну што, забег пярёд?— так і нада, ня будзь еткім прыспалі́тным. Так і глядзі́ць, каб забежч ныпярёд. Ні стыря́йся ты чорту етыму наперід забежч, зь ім ні сталку́ісься. *Непаўн.* **Пазабягаць перад** (пярод, напярод, наперад). Лю́біць пызыбіга́ць перід, чаго там гывары́ць. Пызыбіга́ла пярёд, пызыбіга́ла і ві́дзіць: нічога ні пулу-

ча́іцца. Ого, сколька яны піряць Цітым пызыбіга́лі нырярёд! Доўга ныпярёд ні пызыбіга́іць, апомніцца. *Працягл.-фінальн.* **Назабягаць** (дазабягаць) **перад** (пярод). Ці чу́іш, як нызыбіга́лі перід свайму стыршыну́, як аць сябе іх гнаў. А нызыбіга́юць пярёд: чым-нібу́дзь ні ўла́дзюць — і рыссва́рюцца. Так ужо ныха́льна лез к ныча́льству і дызыбіга́ў перід: ня зьдзелылі сторыжым. І Сярёжка дызыбіга́іць перід, нічога ня вы́бігыіць у Стыхвана.

**Забягаць упярод** (уперад). 1. *Спяшацца, парушаць паслядоўнасць.* Дзелый і дзелый, як усе, зыбіга́ць упярёд нечыга. Усігда́ уперід зыбіга́іць, ду́мыіць, што ён лу́ччый работнік. 2. *іран. Паддобрывацца з разлікам на прыхільнасць.* А я гляджу́, чаго яны так Максіму упярёд зыбіга́юць. Зыбіга́іць уперід, ду́мыіць ла́скі ў яго вы́служыць. *Зак.* **Забежч упярод** (уперад). 1. Забежч упярёд ні стыря́йся і ацстыва́ць ні нада. Вун забег уперід: глядзіця, якей я праворный. 2. Таго, знаць, брігадзі́рым зьбіра́юцца вы́брыць, дык за́гыдзя забегла яму упярёд. Забег пірід Ісаім уперід, а тэй ны яго і глядзець ня хочыць. *Непаўн.* **Пазабягаць упярод** (уперад). *Паддобрыцца.* Зь вясны пызыбіга́ў упярёд, тады відзіць, што нічога ня вы́бігыіць, і пірістаў. Ніхай пызыбіга́іць уперід, папоіць троху.

**Завадзіцца з паўабарота,** *неалаг., іран. Хутка прыходзіць ва ўзбуджаны стан.* Сямёніху доўга рыспыля́ць ні нада: заводзіцца с пыўабарота. *Зак.* **Завесца з паўабарота.** Сяньня ж ты нешта завёўся с пыўабарота.

**Завадзіць валынку** (каніцель), *неадабр. Праднамерана зацягваць справу.* Ні зывадзі́ валы́нку, пытпішы́ і ніхай людзі ідуць. Ахотычка табе ўзноў зывадзі́ць кыніцель. *Зак.* **Завесць валынку** (каніцель). Яму каб толька завесьць валынку, а дзела ніхай стаіць. Як зывяду́ць кыніцель, дык будзіць ета дзела месіцымі цягну́цца.

**Завадзіць у тупік.** *Ствараць становішча разгубленасці ці безвыходнасці.* Іна мяне сваімі саветымі ужо трі разы зывадзі́ла ў тупі́к. *Зак.* **Завесць у тупік.** Ну што ж, ён завёў у тупік, а ты выбіра́йся, як сам зна́іш. *Множн.* **Пазавадзіць** (пазавесць) **у тупік.** Яны пызывадзі́лі нас у тупі́к сваімі абішча́ньнімі: то адно гаворюць, то другоя. Глядзі́ця, так пызывяду́ць у тупі́к, што ня будзіця знаць, як вы́брыцца.

**Заварачываць аглоблі,** *груб. Ісці назад, вяртацца.* Ці ду́мыіш ты зывыра́чывыць аглоблі, ці хочыш, каб хырашэнька пыпрасілі. *Зак.* **Завярнуць аглоблі.** Пыдыйшоў, пыстыяў, нешта паду́мыў, паду́мыў і зывярну́ў аглоблі. *Множн.* **Пазаварачываць аглоблі.** Скора пызывыра́чывылі аглоблі, нешта нісма́шна ста́ла ў цёткі, ці ні скыза́ла што пач шэрсьць.

**Заварываць кашу** (пятрушку), *неадабр. Пачынаць турботную справу, рабіць вялікі клопат.* А ра́зьві я хацеў зыва́рівыць ету ка́шу, само неік пулучы́лыся. Як я ду́мыю, тут нехта лешчынскій зыва́ріiць пятру́шку. *Зак.* **Заварыць кашу** (пятрушку). Зыварі́ў кашу, цяперіцька ні рысхлібаіць, ні зна́іць, як вы́лізьць. Ты зыва́ріш пятру́шку, а я рызьбіра́йся,— не, так, брат, ня пойдзіць. *Множн.* **Пазаварываць кашу** (пятрушку). Яны с цэльлю пызыва́рівылі такую кашу, каб сухі́мі вы́йціць з вады́. Раз сыйшлі́ся, то абіза́цільна пызыва́ріюць пятрушку, яны мысьцяры́. *Працягл.-фінальн.* **Назаварываць кашу** (пятрушку). Нызыва́ріiш кашу, што табе калі-небудзь проста даду́ць і хырашо. Вот відзіш, як Міця нызыва́рівыў пятру́шку.

**Завідкі бяруць,** *цяп., пр., буд. Робіцца зайздросна.* Дужа за́відкі Сьцёпычку бяру́ць, што ў цябе цілівізыр ёсьць. Тых усігда́ за́відкі бра́лі ціряшчу́р, кажыцца б, паелі людзей. Купля́й ты што хочыш, мяне за́відкі браць ня будуць. *Зак.* **Завідкі ўзялі,** *пр., буд.* Ат тваі́х грібоў ажно за́відкі ўзя́лі, нада ж пупа́сьць такіх і столька ныпароць. Столька вы́йгрыць ны лыцярейку, дык любога за́відкі возьмуць.

**За вочы.** *У адсутнасці.* Я за вочы гываріць ні люблю, калі нада будзіць, я прі ім скажу́. За вочы нешта тріпа́нуў і ўзбудура́жыў усіх.

**За вуха не атвесць** (не адцягнуць). *Вельмі смачна.* Пялетыіць кра́сныя ва́ріва, так што за ву́ха ні атвядзеш. Ніхай раску́шыіць, за ву́шы ні атвідзіцё. Каб ты толька адну ложку папробывыў, цябе б за вуха ні аццягну́ў. **За вуха атвесць** (адцягнуць). Як апселі міску, як прільну́лі, за вуха атвесьць нільзя було. За вуха атвесьць папробуй ат куліша́ — ні аццягніш, так лю́біць.

**Завязаць гора вяровачкаю.** *Перастаць звяртаць увагу на непрыемнасці.* Што ты будзіш век убіва́цца, зывяжы́ ты горя вярёвычкыю. Гурюва́ла, піріжыва́ла, ды хва́ціць,

зывізáла горя вярёвычкыю. *Незак., рэдкаўж.* **Завязываць гора вяровачкаю.** Наўчыўся зывя́зывыць горя вярёвычкыю, ці гарю́й, ці плач — ета ня помышч.

**Завязываць свет** (вочы, галаву). *Станавіцца прычынаю беспрасветнага жыцця.* Вот зывя́зыіць дзеўкі сьвет, а на што ня жэніцца. Абрузумі́ся ты, нашто табе зывя́зывыць сабе сьвет. Зывя́зыіш ты сабе вочы, толька і ўсяго, хвáцісься, ды позна будзіць. Я ні стаў ба зывя́зывыць гылаву зь еткіх гадоў. *Зак.* **Завязаць свет** (вочы, галаву). Зывізáў дзеўкі сьвет на ўсю жы́зьню, а цяперь кінуў і паехыў. Зывя́жыш вочы, тады ні разьдзелыісься. Зывізáла сабе гылаву́, на што ён ны якога тэй зяць быў, дык во ня́нчыся зь ля́лькыю. *Узмацн.* **Пазавязываць свет** (вочы, галаву). Пызывя́зывылі сьвет адзін другому і лáюцца, сь сябе выходзюць. А хто ж вам пызывя́зывыў вочы, ета ціріс сваю дýрысьць так вам лáдна цяперь. Пызывя́зывылі дýрым голывы і пашлі́, што ім.

**Загаварываць зубы.** *Адцягваць увагу размовамі; падманваць.* Пыдыйшлі́ ўтраíх, двоя дывáй зыгывáрівыць зубы, а трецьцій, ві́джу, пычынáіць шáріць пы калёсых, дык я іх пугаўём. Ты зыгывáрівый зубы дзіцёнку, а я ўжо ні дзіцёнык. *Зак.* **Загаварыць зубы.** Пыдыйшлі́, зыгывáрілі зубы, а ззаду папёрлі мяшочык. Мне зýбы ні зыгаворіця, яны ў мяне ні быля́ць. *Узмацн.* **Пазагаварываць зубы.** А куды вы глядзелі, што вам зубы пызыгывáрівылі. *Працягл.-фінальн.* **Назагаварываць** (дазагаварываць) **зубы.** Нызыгывáрііць зубы, што кылікá палýчыць у мяне. Хвáціць, дызыгывáрівыла зубы, цяперя пірістáніць і большы ня будзіць.

**Заганяць запасы,** *неадабр. Набываць на будучае.* На чорта б ім ужо такея зыпасы зыгыня́ць. *Зак.* **Загнаць запасы.** Апстроіцца апстроіўся нічога сабе, а зыгнáць зыпасы бальшэя ён ні зыгнáў. *Узмацн.* **Пазаганяць запасы.** Якея яны дужа зыпáсы пызыгыня́лі, кылі ны стале во пыц скáцірсьцю абглодычкі ліжаць. *Працягл.-фінальн.* **Назаганяць** (дазаганяць) **запасы.** Нызыгыня́ў зыпáсы, успакоіўся, на ўсё махнýў рукою. Дызыгыняў зыпáсы, што нічога ні нáда стáла, а думыў жа ўсё пызыгрібаць.

**Заганяць у вугал.** *Перамагаць у славесным паядынку, у спрэчках.* Я нявýчыный іх, вучоных, зыгыня́ю у вýгыл. *Зак.* **Загнаць у вугал.** Зыгнáлі яго у вýгыл, так што і скызáць нечыга. *Узмацн.* **Пазаганяць у вугал.** Так ужо

ты й пызыгыня́ў у ву́гыл, яны ж у дзесіць разоў большы зы цябе ўчы́ліся. *Працягл.-фінальн.* **Назаганяць** (дазаганяць) **у вугал.** Храбрі́ўся дужа: усё знаю і любога у вугыл зыганю́, а нешта простыя спрасі́лі — і лу́пыіць, нызыгыня́ў у вугыл. Як спрасі́лі, айдзе Турцыя, дык стаіць і ні знаіць, во й дызыгыня́ў у вугыл.

**Заганяць** (уганяць) **у бутылку** (бутылачку), *іран. Прапіваць.* Што айдзе ні заробіць, усё чы́сьцінька зыгыня́іць у буты́лку. І зырыбля́ў ладна, і зыгыня́ў у буты́лычку дужа хырашо. Можа б табе дос угыня́ць у буты́лку усё. пыдря́д? Як жа яны прыжыву́ць так, што ўгыня́юць у буты́лычку, якую капейчыну ні заробюць. *Зак.* **Загнаць** (увагнаць) **у бутылку** (бутылачку). А Хрітонічка, ну як жа ты кыня загоніш у буты́лку? — Дыва́й аб зыкла́д, што ў два шчоты зыганю́. Прыда́ў клець і зыгна́ў за месіц у буты́лычку. Сколька чаго увыгна́ў у буты́лку, ён ба мог азылаці́цца. Чу́лі мы, чу́лі, што й пасьледнія тряхолінкі увыгна́ў у буты́лычку. *Узмацн.* **Пазаганяць** (паўганяць) **у бутылку** (бутылачку). Пызыгыня́лі ўсё ў бутылку, цела прікры́ць нечым. У буты́лычку пызыгыня́юць, ікая капейка ні зывядзецца, на ета і ўчыць ні нада. Доўга тым п'янчу́жкым пыўгыня́ць у бутылку што толька хочыш, што паццэлюцца пупа́сьць. Ці ні пыўгыня́лі вы ў буты́лычку пасьледнія рублі? Большы дывай, сныбжай большы, яны і касьцюмчыкі і плашчыкі пыўгыняюць у бутылычку.

**Заганяць** (уганяць) **у гроб** (магілу). *Даводзіць да смерці.* Вы мяне у гроб зыгыня́іця сваімі дура́мі. Пычалі там зыгыня́ць у магі́лу, дык яны шашкі́ ў мяшкі́ і ну другу́ю кварці́ру. Яе пря́ма угыня́іць у гроб сьвякрова, піліць і піліць ны ка́жным шагу́. Каго ж вы сталі угыня́ць у магілу? *Зак.* **Загнаць** (увагнаць) **у гроб** (магілу). Пыдзіржа́лі у рука́х і зыгна́лі ў гроб. Такей прыкля́тый чылавек, ён жа цябе у магі́лу загоніць. Увыгна́лі у гроб чылавека ні за што. Ідзі, умі́ша́йся, і цябе у магілу угонюць. Пупа́лыся ў такую сям'ю, што ўвыгна́лі ў магілу. *Узмацн.* **Пазаганяць** (паўганяць) **у гроб** (магілу). Ты што, хацеў ба пызыгыня́ць іх у гроб? — не, глядзі, парьвесься. Табе б дужа хацелыся нас у магілу пызыгыня́ць. Такея зьвярю́гі уцале ў гроб пыўгыня́ць могуць. Пыўгыня́ў у магілу,— сьпірва́ адну, а ўсьлед другу́ю.

**Загваздка ў калёсы,** *неадабр. Пра няўмеку, ні на што няздатнага.* Будзіш увесь век за́гвыздкыю ў калёсы.

Спра́шывыіш, хто ён?— за́гвыздка ў калёсы. Ні ў аглоблі, ні ў атосы, толька за́гвыздка ў калёсы.

**Заграбаць жар чужымі рукамі,** *неадабр. Рабіць пры пасрэдніцтве іншых.* Ныра́вілыся б табе зыгрібаць жар чужы́мі рука́мі. *Зак.* **Загрэсць жар чужымі рукамі.** Загрёб жар чужы́мі рука́мі і рад. *Непаўн.* **Пазаграбаць жар чужымі рукамі.** Тады Платон пызыгрібаў жар чужымі рукамі, і вот жа, скажы ты, тыла́ніла неік увесь век. *Працягл.-фінальн.* **Назаграбаць** (дазаграбаць) **жар чужымі рукамі.** Нызыгрібаіць жар чужымі рукамі, мінецца тыкая ла́вычка. Дызыгрібаў жар чужымі рукамі, скычарёжыўся ўвесь, саўсім бізь дзьвіжэнія.

**За гробам.** *Пасля смерці.* Мы ўжо с табою толька, верна, за гробым устрецімся. Што за гробым, мяне ні іньцірісу́іць, тут нада пажы́ць.

**Задаваць тон.** *Быць завадатарам у справах.* Рузуха́бістый хлопіц, вы ўсякім дзелі зыдаець тон. *Зак.* **Задаць тон.** Тут нада чылавек з гылавою, каб тон мог зыда́ць, а ты што, будзіш рот разі́нуўшы глядзець. *Непаўн.* **Пазадаваць тон.** А што ж, Іван пызыдываў тон, самый первый хлопіц быў. *Законч.* **Адзадаваць тон.** Пятрок скора адззыдаець тон, і чу́тна яго ня будзіць. *Працягл.-фінальн.* **Назадаваць тон.** Нызыдыва́лі ўжо твае зічыча́ні тон, каму там було зыдыва́ць.

**Задаваць храпавіцкага,** *жарт. Спаць з асалодай.* Крепка зыдаець хрыпавіцкага, хуць с пу́шкі над ім стрілля́й — ні пачу́іць. *Зак.* **Задаць храпавіцкага.** А вун пойдзіць, зыда́сьць хрыпаві́цкыга, што яму атходзіць.

**За два** (тры) **шагі.** *Вельмі блізка.* Ён прыляцеў лі мяне зы два шагі. Я ўчора зы два шагі́ ад гібілі быў. За трі шагі стыя́ў лі цябе і ня ўві́дзіў.

**За двумя зайцамі гнацца.** *Адначасова брацца за розныя справы.* Тут ён зу двумя́ за́йцымі гоніцца і прыгыда́іць. Ні на́да було зу двумя́ за́йцымі гна́цца. *Зак.* **За двумя зайцамі пагнацца.** Зу двумя за́йцымі пыгна́ліся і ні прыдзіржа́лі ні пацьцёлка, ні авец. Зу двумя́ за́йцымі пагонісься — ні аднаго ня зловіш.

**Задзіраць нос,** *неадабр. Ганарыцца, зазнавацца, важнічаць.* І Пынаська пыча́ў зыдзіра́ць нос у новых лыпця́х. Ні зыдзіра́й нос, ні зыдзіра́й, не ш чыга. *Зак.* **Задраць**

**нос.** Зыдра́ў нос, што кіім ні дыста́ніш,— як жа, новыя боты узьдзеў. *Множн.* **Пазадзірацъ насы.** Пызыдзіра́лі насы — ні пуцступі́ся, фынбаронымі зьдзелыліся куды там. *Працягл.-фінальн.* **Назадзірацъ** (дазадзірацъ) **нос.** Што, нығынарі́ўся, нызыдзіра́ў нос? Сьпірва́ адзін, а ўсьлед і другей дызыдзіра́лі нос. *Гл.* *Драць нос.*

**Задзірацъ хвост,** *іран. Пачынацъ ганарыцца.* Хвост-то зыдзіра́іць, толька пыхва́стыцца дужа нечым. *Зак.* **Задрацъ хвост.** Во як зыдраў хвост, ідзець і дайжа ні глядзі́ць ні на кога. *Множн.* **Пазадзірацъ хвасты.** Пызыдзіра́лі хвасты́, уталону ніякыга ні на́йдуць. *Законч.* **Адзадзірацъ хвост.** Пракопчыкыў адзыдзіра́ў хвост, і духу нійдзе ня чуць. *Працягл.-фінальн.* **Назадзірацъ** (дазадзірацъ) **хвост**. Було ўремя, ды прайшло, нызыдзіра́ў хвост, а цяпер клопыты ды клопыты. Такея многія былі, кыза́лыся, ўходу ня будзіць, а дызыдзіра́іць хвост і ўсё.

**Задзяваць амбіцыю,** *кніжн., іран. Кранаць гонар.* Ні гыварі ты так, ні гыварі, ато яму зыдзіва́іць амбі́цыю,— а я й ні так яшчэ скажу́. *Зак.* **Задзець амбіцыю.** Ві́дзіш, рышшылапу́ціўся — амбі́цыю задзелі.

**Заднім вумом разумен,** *неадабр. Пра запозненае ўсвядамленне.* За́днім вумом разу́мін любэй можыць быць, а ты сьпірва́ паду́мый, што і як вы́йдзіць. Цяперь ты стала заднім вумом разу́мна.

**Заднім чыслом.** *Пасля таго як зроблена, адбылося.* Ніхай напі́шыць спра́ўку за́днім чыслом і ўсё. Нешта пачу́ствывылі, за́днім чыслом квіта́нцыі пірядзелыць хацелі. Я хырашо ні знаю, што там і як дзелылі, толька заднім чыслом нешта патпісывылі, піряпісывылі.

**Заднія мыслі.** *Патаемныя намеры.* У іх усігда нейкія за́днія мы́сьлі. Німа ў мяне ніякіх за́дніх мы́сьліў, што ты пляцеш ніізьвесна што.

**Задрацъ** (адкінуць) **ногі,** *жарт. Памерці.* Як зыдзяру́ ногі, тады ты пыска́чыш, узна́іш, як аднаму́ жыць. Ці ня ногі ты аткі́нуць прігатовіўся? *Незак.* **Задзірацъ** (адкідаць, адкідываць) **ногі.** Прішла́, знаць, пыра мне ногі зыдзіра́ць. Не, аткіда́ць ногі ён саўсім ні зьбіра́іцца. Вун, відзіш, аткі́дывыіць ногі, пупадзьдзі́ху нада везьць. *Множн.* **Пазадзірацъ** (пазадрацъ, паадкінуць, паадкідаць, паадкідываць) **ногі.** Як вы тут ліпіцё, ногі ішчэ ні пызыдзіра́лі? Ай, каб пызыдра́ць ужо ногі, нешта ціга́цца па

сьвету ныдаела. Во мы пыаткі́нім ногі, а вы пыстыніцёся гыспыда́ріць. Скора пыткіда́ім ногі, кынча́іцца наш век. Дзяржы́цiся, што вы пыаткі́дывыіця ногі, і пысварі́цца некыму бу́дзіць.

**За душою** (*чыёю*). 1. *Па каго-н.* (*з'явіцца*). Мы зразу пыня́лі, што яны прішлі́ за Сонькіныю душою. Я ўжо чу́ствыю, што ты зы маёю душою явіўся. 2. *У наяўнасці пры сабе.* У мяне тэя кукурузы зу душою ні разу ні було. Іка́я табе гарелка, у нас яе зу душою німа.

**Заехаць** (з'ездзіць) **у зубы** (па зубах), *груб. Ударыць па твары.* Пацсу́нуўся — і заехылі ў зу́бы, кроўю падмы́ўся. Заедзіць пу зуба́х — і зьнясеш, што ты з дураком зьдзелыіш. Доўга Сахрону зьезьдзіць у зу́бы каму хочыш? Дужа быў хра́бір, паку́ліцька пу зуба́х ня зьезьдзілі, посьлі пыцішэў.

**Заехаць па карку** (загрыўку, у каршэнь), *груб. Ударыць па шыі.* Угывва́рівыць дужа ні ста́нуць, заедуць пы ка́рку і ўсё. Уня́ўся, як пы загрі́ўку заехылі, айдзе што й дзелыся. Нехта заехыў у каршэнь, дык ён пабег, большы ні ждаў.

**Зажымаць** (заціскаць) **у кулак** (кулаку). *Поўнасцю падпарадкоўваць.* Мы ві́дзім, што цябе ста́лі зыжыма́ць у кула́к, пад і́хнію ду́дку йграіш. Зыжыма́юць Стася ў кулаку́, дый крепка зыжыма́юць. Тут ужо ка́жныму ясна, што Шуріка вы зыціска́іця ў кулак. Зыціска́юць яго ў кулаку, пісн уць ні даюць. *Зак.* **Зажаць** (заціснуць) **у кулак** (кулаку). Лявон зыжа́ў Саўчынку у кула́к і цяперь ні выпуска́іць. Зыжа́лі ў кулаку, што дайжа ня пікніць. Есьлі чым-небудзь пупадзесься Кузьме, заці́сьніць у кулак, ня вы́пусьціць. Ні храбрі́ся, ні храбрі́ся, яны любога заці́снуць у кулаку. *Узмацн.* **Пазажымаць** (пазажаць, пазаціскаць, пазаціснуць) **у кулак** (кулаку). Пызыжыма́юць вас у кулак, як мы́шы, бу́дзіця пішчэць. Перш атпусьці́лі вожкі, а тады як пызыжыма́лі ў кулаку, што й агляну́цца ні пасьпелі. Нада було у кула́к пызыжа́ць, ато возіцца, угыва́ріiць. Іх даўно там пызыжа́лі ў кулаку. Так умеюць пыдыйці́ць мя́кка, з ла́скыю, а тады як пызыціска́юць у кулак — толька дзяржы́сь. Што вы ціръпіцё, есьлі вас так пызыціска́лі ў кулаку. У кулак пызаціснýлі, ну ім так і нада. Пызаці́снуць у кулаку́, дык ні надзейціся і вы́рвыцца.

**Закабункі выкідаць.** *Рабіць нечаканыя выпады.* Узноў зыкабу́нкі выкіда́іць, відна, тріпану́лі нешта на хвермі. *Зак.* **Закабункі выкінуць.** Ні зна́іш халеры, спунтрува́ўся — любэя зыкабу́нкі вы́кініць. *Узмацн.* **Закабункі павыкідаць.** Ні пасьледнія га́дысьць быў, пывыкіда́ў зыкабу́нкі. *Працягл.-фінальн.* **Закабункі навыкідаць** (давыкідаць). Нывыкіда́іць зыкабу́нкі, доўга я цярьпець ні ста́ну: с хаты і ў суд — ніхай разводзюць. Андрей дывыкіда́ў зыкабункі, большы ні ста́ніць выкіда́ць.

**Закалдованный круг.** *Пра заблытаную справу.* Пулучы́ўся нейкій зыкалдовынный круг, ніяк вы́брыцца ні магу́. Сядзіць як у зыкалдованым кругу, ні туды, ні сюды, тэя с аднаго боку жмуць, а етыя з другога.

**За кампанію.** *Разам з іншымі.* Зы кымпа́нію і я прісеў ны міну́тку, нялоўка було атка́зывыцца. Зы кымпа́нію цыга́н павесіўся.

**Закатываць вочы,** *асудж. Рабіць выгляд непрытомнага.* Ва́ліцца, зыка́тыіць вочы, глядзі, ўміра́іць,— а ніхай цябе, слова ні пы табе скыза́лі. *Зак.* **Закаціць вочы.** Брязь ны пасьцель і вочы зыкаці́ў — ня жыў, а тэя ні дуракі былі ды вядро вады ны гылаву́,— во пытхваціўся. *Узмацн.* **Пазакатываць вочы.** Ляглі́ і вочы пызыка́тывылі — во ўміра́юць. *Працягл.-фінальн.* **Назакатываць** (дазакатываць) **вочы.** У мяне скора нызыка́тыіць вочы, я адурюва́ньня вы́гыню. Дызыка́тывыла вочы, так яе адбры́лі, што дзіся́тыму зыка́жыць приду́рівыцца.

**Закідаць** (закідываць) **вудачку** (кручок). *Рабіць спробу разведаць, ці будзе вынік.* Пычалі́ мы зыкіда́ць ву́дычку, дык атмоўчывыіцца, нічога ні ка́жыць. Ісай зыкіда́ў крючок, відна, пры Аньку хацеў нешта ўзнаць. Увесь вечыр цыля́ў закі́дывыць ву́дычку, ды апсіка́ўся. Ні с тваім уменьнім крючок закі́дывыць. *Зак.* **Закінуць вудачку** (крючок). Закі́нуў ву́дычку, ду́мыў, ці рызгыда́ю-то я, што к чаму, ці не, а я ўжо забы́ў, пра што ён яшчэ ня ду́мыў. А ты вазьмі ды і закінь ім калі крючок пры быракі, як нічога ні знаіш. *Працягл.-фінальн.* **Назакідаць** (дазакідаць) **вудачку** (кручок). Нызыкіда́ў ву́дычку — сам пупа́ўся, што луччы ні приду́мыіш. Пыдажджы́-ка, у мяне ён нызыкіда́іць крючок, я атучу́. Во як ты ладна дызыкіда́ў ву́дычку. Цяперя Паўлюк дызыкіда́іць крючок, мы яго вы́відзім на чыстыю ваду.

**Закідаць** (закідываць) **зайца.** *Перагароджваць жаніху дарогу з мэтай узяць выкуп, калі ён едзе да нявесты.* Сколька раз мы за́йца хлопцымі зыкіда́лі — ні сышчыта́ць. Пойдзім глядзець: січас мыладому будуць зайца закі́дывыць. *Зак.* **Закінуць зайца.** Закі́нулі ім зайца усё чэсьці па чэсьці і хлеб-соль пылажылі, дык старэй адбыя́ріўся дзьвюмя буты́лкымі нейкія га́рі, як выда́, толька шчот што гарелка. *Працягл.-фінальн.* **Назакідываць** (дазакідываць) **зайца.** Ну што, нызакі́дывылі зайца, пучустува́лі вас як нада? Дызакі́дывыюць яны за́йца, што будзіць і за́іц, і лісі́ца зра́зу.

**Закідаць** (закідываць) **слова.** *Заступацца або хадатайнічаць у невялікай меры, выказваннем.* Дужа б я стаў зыкіда́ць слова за чорта, дык жа дзяцей жа́лка. Раншы ён, бувала, закі́дывыў слова зы сваіх, а цяперя не, прымаўчы́ць і ўсё. *Зак.* **Закінуць слова.** Ніхай ба хто-небудзь слова закі́нуў, дык усе мууўча́лі, як ня іх кыса́лыся. *Працягл.-фінальн.* **Назакідаць слова.** Клім нызыкіда́іць слова, дажджэсься ат яго засту́пы.

**Закідываць граззю.** *Чарніць, знеслаўляць.* А ні выду́мывыйця вы, ні парі́ця лухты́, хто яго там закі́дывыў гря́зьзю,— сам улез луччы некуды. *Зак.* **Закідаць граззю.** Закі́дылі чылавека грязьзю, а цяперя па́льцымі торкыюць усе: вун тэй, вун тэй. Ні ўгадзі́ адзін раз у чом — зыкіда́ючь грязьзю. *Узмацн.* **Пазакідываць граззю.** Што зуслужы́лі, то й пулучы́лі: пызакі́дывылі грязьзю самі́х.

**Закладаць** (закладываць, заліваць) **за галстук,** *ірач. Выпіваць, напівацца.* Нечыга кызаць, зыклыда́іць зы га́лстук ла́дна, наўчы́ўся. Во былі кыза́нцы нейкія: два пріїжджа́лі, во ета зыкла́дывылі зы га́лстук. Зыліва́ць зы галстук умеіць, ну а што я зьдзелыю, кылі і ні кажы́ і ні гыварі ні слова. *Зак.* **Закласць** (заліць, залажыць) **за галстук.** Перш зыкла́лі зы галстук у Бедні, а тады тут дыба́вілі і саўсім зьвілі́ся. Як зальлець зы галстук, тады мя́ккій, добрый, хуць бярі і ды ра́ны пріклыда́й. Ты пылядзі́ш на іх, як заложуць зы галстук, тады другоя зыпяеш. *Узмацн.* **Пазакладываць** (пазаліваць) **за галстук.** Пызыкла́дывылі зы галстук так, што двору ні дыцягну́ліся, нучува́лі зы рыскыка́цістыю ігру́шыныю у копых. Як пызыліва́ючь зы галстук, тады ім зьдзержу ні бува́іць. *Працягл.-фінальн.* **Назакладываць** (назаліваць, дазакладываць, дазаліваць) **за галстук.** Нызыкла́дывыюць зы

галстук, што біш штаноў хадзіць будуць. Віджу, нызыліва́ў зы галстук, — ты ж апу́х ужо ат п'я́нства. Дызыкла́дывылі зы галстук — нейдзі заснулі як ніжывэя, а зь іх усё й пысьця́гывылі. Скора дызыліва́юць зы галстук: пыбіга́ць ны дарогу пызыча́ць.

**Закон не пісан,** *неадабр. Пра адсутнасць разумення правілаў прыстойнасці і паводзін.* Табе закон ня пісын што хочыш учудзі́ць. Дураку́ закон ня пісын. **Закон пісан.** Разьві табе закон пісын, што можна, што нілізя́,— што сту́кніць у гылаву́, то й тварі́ш.

**Закрадацца** (украдацца) **ў серца.** *Узнікаць міжвольна, непрыкметна.* Нешта ста́ла мне зыкрыда́цца ў серца, усё неік трівожуся, каб чаго ў іх тама ні случы́лыся. Бува́іць, што ўкрыда́іцца ў серца, сьпірва́ патрошку, а тады большы і большы. *Зак.* **Закрасца** (украсца) **ў серца.** Ай, табе нешта зыкра́лыся ў серца ныпра́сна, нічога там ні случы́лыся і ні случы́цца. Як што укра́дзіцца ў серца, ні даець спакою, тока і ду́мыю пра тоя.

**Закрываць** (прыкрываць) **лавачку.** *Спыняць дзейнасць (заганную, злачынную).* Нада зыкрыва́ць іхнію ла́вычку, пакуль ды кынца́ ўсё ні пырысьця́гывылі. Ужо трі разы́ вашу ла́вычку прікрыва́лі, большы хва́ціць цярьпець. *Зак.* **Закрыць** (прыкрыць) **лавачку.** Быў скылаці́ў сабе хеўру, пыча́лі дурець с пышані́чкыю, ну тут бы́йстра іх ла́вычку закры́лі. Доўга ім ныжыва́цца ні ўда́сца, скора прікры́юць іхнію ла́вычку.

**Залазіць** (залязаць) **у карман.** *Браць без дазволу або падманам чужое, красці.* А чаго яму було зыла́зіць у кылга́сный кырма́н, ні хвыта́ла ці што,— во й пулучы́ў сваё. С таго, што ты зыліза́іш у дзіржа́ўный кырма́н, многа ні пыкрасу́ісься. *Зак.* **Залезць у карман.** Ліванок залезьць у кырма́н можыць раз-два́. *Узмацн.* **Пазалазіць** (пазалязаць) **у карман.** Тут глядзі́ ды глядзі́, жыва пызыла́зюць у кырма́н. Такея ма́хырі пызыліза́юць у кырман, ні пасьпеіш агляну́цца.

**Залазіць** (залязаць, улазіць, улязаць) **у доўг** (даўгі). *Многа пазычаць.* Я б ні саветывыла табе зыла́зіць у доўг, выкру́чывыйся як-небудзь іна́чы. Пріві́клі вы зыліза́ць у доўг, ета дренныя прівы́чка. А чаго вам ула́зіць у доўг, аўцу ны калёсы і ны быза́р. Вот у доўг уліза́іць, а як будзіць рашшчы́тывыцца, саўсім ня ду́мыіць. У даўгі́ луччы

ні зыла́зіць, усё чу́ствыіш, як нешта вісіць ныт табою. Не, большы ула́зіць у даўгі я ня буду. А хто вас зыстыўля́ў улізáць у даўгі, канешня, цяпер аддывáць нада. *Зак.* **Залезць** (улезць) **у доўг** (даўгі). Залезьць у доўг проста і скора, а вылізьць ціжалей. Улезьць у доўг улез, а аддывáць нечым, кру́ціцца, ні знаіць, што дзелыць. А ну яе, с такою ку́плію: залезьлі ў даўгі, а чым аддáць — гылывá рузуря́іцца. Бярі, хуць улезіш у даўгі, зато вешч бу́дзіць. *Узмацн.* **Пазалазіць** (пазалязаць, паўлазіць, паўлязаць) **у доўг** (даўгі). Пызыла́зіць у доўг, а тады глядзі́ць, што ніяк ня можыць вы́круціцца. У доўг пызылізáлі па ву́шы, калі і рышшчытáімся, ні знаю. Пызычáй, ды глядзí: пыўла́зіш у доўг, што ня вы́бірісься. Калі ж вы так пасьпелі пыўлізáць у доўг? Сы страіцільствым дужа цяжола, пызыла́зілі ў даўгі — кругом пы сáмыя вушы. Пызылізáіця ў даўгі і нечым будзіць аддáць. Пыўлізáць у даўгі лёхка, ды выла́зіць зь іх тру́дна.

**Залазіць** (залязаць, улазіць, улязаць) **у душу.** *Паддобрывацца, заваёўваць давер.* Умеіць зыла́зіць у душу́, к каму́ хочыш клінкі пыдбярець. Сам віджу, што зылізáіць у душу́, і ніяк ні магу́ аткасну́цца. Ой, мáсьцір ула́зіць у душу́: чуць прінюхыўся і дывáй апхáджывыць. Нада було толька дзівіцца, як ён улізáў у душу́ к Мацьвею. *Зак.* **Залезць** (улезць) **у душу.** Ты яму сымаго чорта пыстáў, і к таму ў душу́ залезіць. Што, ўжо і к Сашку улезьлі ў душу. *Узмацн.* **Пазалазіць** (пазалязаць, паўлазіць, паўлязаць) **у душу.** Сколька там пабы́ў — месіц, і пызыла́зілі ў душу́: хвáліць іх — ні ныхвáліцца. Сам ні замеціш, як пызылізáюць у душу́ — настолька халерышныя людзі. Паслу́хылі мы: гарою за іх — пасьпелі пыўла́зіць у душу. Доўга ім умеючы пыўлізáць у душу.

**Залатая галава.** *Пра разумнага.* Што тут гываріць пры Цімоха, у чылавека зылытáя гылывá. Там хуць з зылатою гылавою пыстáў, дык с ума сойдзіць.

**Залатая душа.** *Пра добрага, спагадлівага, чулага.* У Танькі мужык — зылытáя душá, ува ўсім чы́сьцінька ёй пымыгáіць, дáйжа дзяцей памы́іць. Зылытая душа ў чылавека, іна ні жывець, а душою красуіцца толька.

**Залатое дно.** *Пра багатую крыніцу здабыткаў.* Скора рызбыгацелі Пуўлючонкі, усё роўна як зылатоя дно найшлі. Вы́чырпылі зылатоя дно, большы брацьнеткуль.

**Залатое серца.** *Пра добрага, спагадлівага, чулага.* Во ў каго було зылатоя серца — у Сахрона. Ніхай хуць зылатоя і рыззылатоя серца, дык с табою ніякій чорт ні ўжывець. *Гл.* З а л а т а я д у ш а.

**Залатэя** (залатыя) **горы.** *Празмернае багацце.* Раз ня ўстроіш як нада ці худзь ба троху пы-чылавечыскі, то й нечыга абішчáць зылатэя горы. А што я буду зылатэя горы зіця́м гатовіць, самі ніхай усё ныжываюць. Ты ду́мыіш, у мяне зылаты́я горы? Зылаты́х гор у нас німá, ну неік жа мадзеім.

**Залатэя** (залатыя) **рукі.** *Пра выдатнага майстра.* У Грішчанкоў у абоіх зылатэя рýкі, за што ня возьмуцца, работа гаріць. Зылаты́я рýкі былі ў Арьхіпа, а так неік зглумáчыўся і прыпáў.

**Залаціць ручку,** *іран. Плаціць за варажбу.* Нінка вун была, ікáя трілю́да ні зáйдзіць, усё зылацíла рýчку. *Зак.* **Пазалаціць ручку.** І ка мне зыхадзíла: пызылацí рýчку, усю прáўду рыскажý. *Працягл.-фінальн.* **Назалаціць** (дазалаціць) ручку. Нызылацíла рýчку: пінжачок ля́снуў, пымінáй як звáлі. Я цябе дызылачý ручку, путурю́ абеіх выражбітык, аж дрынчэць ногі будуць.

**Залівацца** (разлівацца) **салаўём,** *звыч. іран. Прыгожа гаварыць, шмат абяцаць.* Як сватыўся, дужа ўжо зылівáўся сылаўём, зылатэя горы абішчáў. Я гляджу: хто тут так рызьліваіцца сылаўём. *Зак.* **Заліцца** (разліцца) **салаўём.** Ён зальлецца сылаўём, ныгаворіць, толька вýшы разьвешывый. Ох, разьліўся сылаўём, глядзí, душу вы́клыдзіць. *Узмацн.* **Пазалівацца** (паразлівацца) **салаўём.** Меншый Саўкін пріііжджáў, пызылівáўся тут сылаўём. Абоя пырызьлівáліся сылыўя́мі, ну мне яны ні к чамý. *Працягл.-фінальн.* **Назалівацца** (наразлівацца) **салаўём.** Нызылівáцца сылаўём масьцір, каб хуць дзеся́тыя доля праўды была. Пырызьлівáўся сылаўём, у вушáх стаіць яго чуш.

**Залівацца** (разлівацца) **смехам,** *часта іран. Смяяцца моцна, раскацíста.* Стыя́лі кылы бані, аж зылівáліся сьмехым. Чаго яму так весіла, што рызьлівáіцца сьмехым. *Зак.* **Заліцца** (разліцца) **смехам.** Увідзілі, што я йду, і зыліліся сьмехым. Ай, як цябе рызьбірáіць, разьліўся сьмехым. *Множн.* **Пазалівацца** (паразлівацца) **смехам.** Як толька пымянýлі Надзьку, усе пызылівáліся сьмехым. Пырызьлівáліся сьмехым — на ўсю акрýгу чýтна.

**Заліваць** (запускаць) **за шкырку.** *Рашуча ўздзейнічаць, дапякаць.* Ён сердзіцца, дык яму яшчэ больш пыдда́юць, зыліва́юць за шкы́рку. Як ста́лі зупуска́ць за шкы́рку, с усіх бакоў дыпіка́ць. *Зак.* **Заліць** (запусціць) **за шкырку.** Што ты яму зальлеш за шкырку, есьлі длі яго ўсё, як ап сьценку гарох. Стах зупусьці́ў таму за шкы́рку, ён быў як успы́хнуў, ды нечыга дзелыць. *Працягл.-фінальн.* **Назаліваць** (назапускаць) **за шкырку.** А якей толк, што нызыліва́лі ім за шкы́рку? Зосіму вы нузупуска́лі за шкырку, а за свой карык дзяржысься.

**Заліваць** (запускаць) [сала] **за шкуру.** *Рашуча ўздзейнічаць, дапякаць.* Зь віду такей німудря́шчый, а зыліва́ць за шку́ру умеіць. Зупуска́й ім, зупуска́й за шку́ру, хуць пыдражні́. Тріхон умеў зыліва́ць са́ла за шкуру, як пад'есьць каго—ай-яй-яй. Як ста́лі зупуска́ць сала за шку́ру сымаму́, дык нісма́шна. *Зак.* **Заліць** (запусціць) [сала] **за шкуру.** Ну, тыкі зыліла́ за шкуру ся́ньня Уліта Сямёніхі, дыніла́. Лю́біць зупусьці́ць за шку́ру, як даймець каго, аж даволін. Прібег — кіпі́ць: зылілі́ ны ныря́дзі сала за шкуру, дый крепка. Во лоўка зупусьці́лі Міцю сала за шкуру. *Працягл.-фінальн.* **Назаліваць** (назапускаць) [сала] **за шкуру.** Нызыліва́іш за шку́ру — як зальлюць сымаму́, во будзіць іньцірესна. Такіх мысьцяроў саміх як нузупуска́юць за шкуру, што агляну́цца ні пасьпеіця. Ну як вы там нызыліва́лі сала за шкуру? *Гл.* З а л і в а ц ь  з а  ш к ы р к у.

**Залупляць хвост,** *іран., адзінк. Пачынаць ганарыцца.* Ішчэ ра́на зулупля́ць хвост, нос як нада пацьцерць ня ўмеіць. *Зак.* **Залупіць хвост.** Пыглядзіця вы ны яго — зулупі́ў хвост, кывалер-то еткій. *Множн.* **Пазалупляць хвасты.** А чаго яны пузулупля́лі так хвасты́, ніха́й ба у касе пыстыя́лі, як другея. *Законч.* **Адзалупляць хвост.** Да восіні толька пыігра́іць, а там адззулупля́іць хвост. *Працягл.-фінальн.* **Назалупляць** (дазалупляць) **хвост.** Мне тыкі ужо гывары́лі, што ён нузулупля́ў хвост. Як твае дзялы́, Ванічка, дузулупля́ў хвост, аці́х?

**Замазываць вочы.** *Падманваць.* Вун Холда быў —умеў зыма́зывыць вочы. *Зак.* **Замазаць вочы.** Во, ён чорту зыма́жыць вочы, а ня то Ганну ні пыдманець. *Узмацн.* **Пазамазаць** (пазамазываць) **вочы.** Ну ніха́й ба ж ета былі дзеці, ато ж узрослым пызыма́зылі вочы ху́жы, як дзіця́м. Дайжа й віхря́нцы пызыма́зывылі вам вочы?

*Працягл.-фінальн.* **Назамазываць** (дазамазываць) **вочы.** Пыхвáліціся посьлі, яны вам ішчэ нызымáзывыюць вочы. Айдзе йта твыя пляцёнычка, нешта гыварілі, ты дужа лоўка нейкім там вочы дызымáзывыў.

**Замазываць** (запіраць, зачыняць) **рот.** *Змаўкаць; прымушаць маўчаць.* Чаго йта мне зымáзывыць рот, у мяне ж ношык с плячэй ні зьнімáлі. Зыпірáць рот ты мне ня будзіш, ня с тым шчапíўся. Зычыняй рот, чулі мы твае песьні ні раз. *Зак.* **Замазаць** (заперць, зачыніць) **рот.** Ніхай толька папробыіць што скызáць, мы яму быйстра зымáжым рот. Як пымянýў яму зяці, дык сеў і рот зымáзыў, увесь вечыр слова ні прыраніў. Я ня ты, запрý яму рот, што ні я́ўкніць, я ні спужáюся цілятык пымянýць. Так зычыніла яму рот, што пыкрасьнеў і с хаты пашоў. Пыдажджы́-ка, дай я скажý, ён у мяне жы́ва змоўкніць, зачы́ніць рот.

**За маліну.** *Ахвотна, са смакам* (*з'есці*). Пыдажджы́, вы́хыртыісься — сухýю корку зы маліну зьясі. Горы ныпіклá, чугункí ныварíла, і ўсё зы маліну пашло.

**Замятаць сляды.** *Знішчаць улікі.* Ты толька слýхый, мала што яны рыскáзыюць, ета ж яны зымітáюць сьляды́, каб атвесьць аць сябе пыдазреньні. *Зак.* **Замесць сляды.** Зымялí сьляды́ так, што і ні дыкыпáісься ні да чога. *Узмацн.* **Пазамятаць** (пазамесць) **сляды.** Пызымітáюць сьляды́, што ніякій чорт ні разу ні пыткыпáіцца, дайжа носа ні патточыць. І так мы глядзець, і етык, толька што ж, пызымялí сьляды́, трясцу вазьміця.

**Замяць разгавор.** *Перапыніць размову.* Ісай хацеў зымяць рызгавор, пычынáў трілю́ду ўсякыю несьць, а яму ні дáлі. Як мы зайшлí, яны зымялі рызгавор.

**За некальствам.** *З-за нястачы часу.* Во так за некыльствым ніяк ня вы́біруся схадзíць к сваíм. Сколька ні зьбірáлыся, і ўсё за некыльствым ні схадзíла.

**За нескалька шагоў.** *Вельмі блізка.* Так зыгыварíліся, што прашлí за нескылька шагоў ат мяне і ні замецілі. За нескылька шагоў прабег ат мяне, я дайжа ні пасьпеў спужáцца, толька посьлі астыўбянеў.

**За нішто ніякае** (ніяканькае). *Без падстаў.* Зы нішто ніякыя тая лярва прічапíлыся і дывáй лáіць. Ну каб жа была прічы́на, ато зы нішто ніякынькыя мыціріком.

**Западаць у душу** (серца). *Заставацца моцна ў памяці.* Ты луччы падумый, айдзе яму дзеўкі ні зыпыдáлі ў душу: і з Лырьяныва ні вылáзіў, і ў Дуччычы бегыў, і ў Жыгалкых прыпыдáў, і айдзе яго ні було. Ёй толька мырякí ў серца зыпыдáюць, большы йна ні на кога ні глядзíць. *Зак.* **Запасць у душу** (серца). Зыпáла мне ў душý, як над ім зьдзівáліся, век ні забýду. Каму мелыч, а мне зыпáла ў серца — забыць ні магý. *Узмацн.* **Пазападаць у душу** (серца). Нечыга, ні аткáзывыйціся, я знаю, калі яны вам пызыпыдáлі ў душу. Можа яны ні так ужо і пызыпыдáлі ў серца, як ты дýмыіш.

**За памяццю** (*чыёй*). *Пры жыцці, на вяку.* Ішчэ зы нá шыю пáміцьцю з Балота коні выцягывылі вярёўкымі, а цяперя машы́ны езьдзіюць. Чаго толька ні було зы маёю пáміцьцю — і войны, і разрýхі, і пыжáры.

**Запісываць на лбу** (лбе). *Цвёрда запамінаць.* Ну, я на лбу запíсывыць ня буду, ішчэ ж ні разу ні зубувáў. Ці ён на лбе запíсывыіць, ці што? *Зак.* **Запісаць на лбу** (лбе). Ты ж мне глядзí, на лбу зыпішы́, што я табе прікызáла. Каб на лбе зыпісáў, дзень і ноч помніў! *Працягл.-фінальн.* **Назапісываць на лбу** (лбе). Во табе, ныэапíсывыў на лбу, узноў забы́ў.

**Заплюскываць** (заплюшчываць, закрываць) **вочы.** 1. *Не звяртаць увагі.* Нечыга заплю́скывыць вочы, дзелыюць дренна, дык і скажы. Ні на што ні абрышчáў унімáнія, на ўсё заплю́шчывыў вочы. Якей зь Мікоды рукувадзíціль, кылі ён на ўсё заплю́шчыіць вочы. Што ж ён вочы зыкрывáіць, дзелыіць від, як ня вíдзіць. Раншы быў лáдна ўзяўся, а посьлі пычаў ну любэя біспырядкі зыкрывáць вочы. 2. *Паміраць.* А галýбычка, а родні́нькыя мыя, а йна ж ны маіх руках заплю́скывыла вочы,— а стрыдáла, а мýчылыся, а кáрствывыла як. Пырá ўжо мне, знаць, вочы заплю́шчывыць. Не, вочы зыкрывáць я ішчэ ні зьбірáюся, нада унýкыў жанíць. *Зак.* **Заплюснуць** (заплюшчыць, закрыць) **вочы.** 1. Адзін ні слова, другей ні слова, што ж бýдзіць, калі ўсе заплю́сьнім вочы. Заплю́шчыў на ўсё вочы, тварíця, што хочыця. Закры́ў вочы на ўсе íхнія бізыбрáзіі. 2. Заплю́сну вочы, тады пызнáіш, як салодка біз мáткі аднамý на сьвеці. Верна заплю́шчыць вочы і Хрíсьцінка: дужа слáба. Сколька ўжо маіх равесьніц закры́ла вочы. *Множн.* **Пазаплюскываць** (пазаплюшчываць, пазакрываць) **вочы.** 1. Ніхай усё цякець, ніхай

усё гніець, яны пызаплю́скывылі вочы на ўсё. Узноў пызаплю́шчывыюць вочы, усё дно як так і нада. Зна́юць жа, што нада нывадзіць пыря́дык, а так нарошня пызыкрыва́лі вочы. 2. Нашы гады к канцу́ іду́ць, скора пызаплю́скывыім вочы. Што мы жывём: сілы німа, здароўя німа, аста́лыся пызаплю́шчывыць вочы. Там у мяне знакомых многа було, ну, ві́дна, ужо ўсе пызыкрыва́лі вочы. *Працягл.-фінальн.* **Назаплюскываць** (назаплюшчываць, назакрываць, дазаплюскываць, дазаплюшчываць, дазакрываць) **вочы.** 1. Ты нызаплю́скывыіш вочы, як Хутарцоў, хва́цісься, ды позна будзіць. Глядзі, бу́льбу ніва́жна кыпа́юць, нызаплю́шчывыіш вочы, як сымаго аштраху́юць. Можыш нызыкрыва́ць вочы, сымаго так узгреюць, што задзівісься. Зы пыря́дкым ні глядзеў, так і дызаплю́шчывыў вочы, што ўзя́лі і зьня́лі. Ні знаі́ш, што будзі́ць? — дызыкрыва́іць вочы і ся́дзіць ра́зым зь імі.

**Заплюснуўшы** (заплюшчыўшы) **вочы.** *Не раздумваючы.* Ежылі такую цану прідлыга́юць, аддыва́й заплю́снуўшы вочы, тут цягну́цца дужа німа за чым. Каб у мяне цёткі так жылі, як у цябе, я б заплю́шчыўшы вочы паехыў.

**За плячамі.** *У мінулым.* Што ты хва́лісься: ны заводзі год пыработыў, у мяне зы плі́ча́мі ша́хты і тыйга́ — і ні хва́стыюся.

**Запускаць руку** (лапу), *асудж. Красці, прысвойваць.* Прівы́к зупуска́ць руку́ у чужоя, дык во й атву́чуць. Ні нада було зупуска́ць ла́пы ў калхозный амба́р. *Зак.* **Запусціць руку** (лапу). Раз зупусьці́ў руку́ у чужоя — сайшло, другей раз сайшло, а на трецьцій раз і пупа́ўся.

**Запускаць руку** (лапу) **ў чужэй** (чужый) **ка̊рман,** *іран. Нажывацца; красці, прысвойваць.* Любіў зупуска́ць руку́ у чужэй кырма́н, ні прупуска́ў нічога. Дакуль жа ім зупуска́ць ла́пу ў чужэй кырма́н, ці ні хва́ціць цярьпець. Я ні зупуска́ў ла́пу ў чужы́й кырман, як твае сынкі. *Зак.* **Запусціць руку** (лапу) **ў чужэй** (чужый) **карман.** Так і прігліда́іцца, каб зупусьці́ць руку́ у чужэй кырма́н. Мішка ні пысьцісьня́іцца зупусьці́ць ла́пу ў чужы́й кырман. *Множн.* **Пазапускаць рукі** (лапы) **ў чужэй** (чужый) **карман.** Пузупуска́лі ру́кі ў чужы́й кырма́н і будуць ехыць цяперя. Толька й глідзя́ць, айдзе можна пузупуска́ць ла́пы ў чужэй кырма́н. *Працягл.-фінальн.* **Назапускаць** (дазапускаць) **руку** (лапу) **ў чужэй** (чужый) **карман.**

Што ж тут скáжыш: чаго дыбівáўся, то й пулучы́ў — нузупускáў руку́ ў чужэй кырмáн. Зьмітрачонкі ўжо нузупускáлі лáпы ў чужэй кырмáн, доўга цяперя будуць атвыкáць. Ну, дузупускáюць яны рукі ў чужы́й кырмáн, мінецца ім салодкыя жы́зьня.

**Зарабляць сваім гарбом.** *Набываць уласнаю працай.* Зырыбля́ць сваім гарбом ня хочыць, надзеіцца, што хтонебудзь зыбяспечывыць стáніць. *Зак.* **Заробіць сваім гарбом.** Што зароблю сваім гарбом, то й прыжыву́, зу чужы́м я ні ганю́ся. *Працягл.-фінальн.* **Назарабляць сваім гарбом.** Нызырыбля́іць сваі́м гарбом, будзіць заробліна, есьлі пасьледнія аторвіна урадзі́лыся.

**Зарубіць на насу** (лбу, лбе). *Цвёрда запомніць.* Зурубі́ сабе ны насу́, што пасьледнім чылавекым астáнісься, кылі так дзелыць будзіш. Раз зьдзелыў, а посьлі на лбу зурубі́ў і зарёкся. Пірідáй, ніхай на лбе зару́біць хадзі́ць туды. *Гл.* Запісываць на лбу.

**За свет.** *Надзвычай далёка.* За сьвет некуды заехыў, пышылáўся-пышылáўся і прікаці́ў нызáд.

**Заседжывацца ў дзеўках.** *Доўга не выходзіць замуж.* А што, яны ні заседжывыліся ў дзеўкых, абея ў дзівітнáццыць вы́скычылі. *Зак.* **Заседзецца** (засядзецца) **ў дзеўках.** Сёстры мыладзейшыя і пывыхадзі́лі, а йна заседзілыся ў дзеўкых, так і астáлыся. А якой ета хочыцца зысядзецца ў дзеўкых. *Множн.* **Пазаседжывацца** (пазаседзецца, пазасядзецца) **ў дзеўках.** Калі мае пызаседжывыліся ў дзеўкых, дык твае дужа хырашы́. К каму там іці́ць,— пызаседзіліся ў дзеўкых, па тріццыць гадоў. Ніхто ні браў, тога й пызысядзеліся ў дзеўкых. *Гл.* Аставацца ў дзеўках.

**Заскабіць руку** (палец, ладонь), *іран. Мець дачыненне да крадзяжу.* Ты ві́дзіш, Антон зыскáбіў руку́ лі сена, цяперя маўчы́ць як вады ў рот ныбрáўшы. Зыскáбіў там пáліц і Сярёжка, ён бязь етыга ня можыць. Ці ні зыскáбілі і вы ладонь умесьці зь Лівынкáмі?

**Засланяць свет** (вочы). *Пазбаўляць магчымасці правільна ўспрымаць, разумець.* Ён мне пяць гадоў зыслыня́ў сьвет, хвáціць. Табе ж ніхто ні зыслыня́ў вочы, мыглá выбірáць любога. *Зак.* **Засланіць свет** (вочы). Табе Толік зысланíў сьвет, і большы нікога ві́дзіць ня хочыш. Яму ўжо як заслоніць ікáя вочы, гатоў там днювáць і нучу-

ва́ць. *Узмацн.* **Пазасланяць свет** (вочы). Ці ім вочы пызыслыня́ла, ня відзюць, за кім гонюцца? Ніхай мыладэя ні пыніма́юць, дык і стары́м вочы пызыслыня́ла.

**За словам у карман не лезць** (не лазіць). *Быць знаходлівым, дасціпным у размове.* Мітрыхва́н за словым у кырма́н ня лезіць, так адбры́іць, толька дзяржы́сь. Ён у кырма́н за словым ні ла́зіць, зна́іць, што скыза́ць. **За словам у карман лезць** (лазіць). Ну, ты яшчэ хочыш, каб і я за словым у кырма́н лез. Хто ла́зіць за словым у кырма́н, Арцём? *Зак.* **За словам у карман не палезць.** Коля ў кырман за словым ні палез, так атвеціў, што тэй і рот зыма́зыў. **За словам у карман палезць.** А ты ду́мыіш Хведзя за словым у кырман палезіць?

**За смерцю** [толька] **пасылаць** (выпраўляць, адпраўляць), *неадабр. Пра павольнага, непаваротлівага.* Цябе ні ў ла́ўку, а за сьмерцю пысыла́ць. Яго толька за сьмерцю выпрыўля́ць, будзіць іціць як рызівон, ува ўсе бакі глядзець. Вас за сьмерцю атпрыўля́ць, асобінна дваіх, дык ныжывесься і ныдаесьць. Мікіціху толька за сьмерцю атпрыўля́ць, сь кім ня стреніцца, дзень прыстаіць. *Зак.* **За смерцю** [толька] **паслаць** (выправіць, адправіць), *рэдкаўж.* Цябе за сьмерцю пашлі́, дык жыць ныдаесьць. Вас каб толька за сьмерцю вы́прывіў, большы ніку́ды. Дзьве вярсты пуўдня́ будзіць іціць, яго за сьмерцю толька б атпра́віць.

**За спіною.** 1. *Таемна, без ведама.* Я пыніла́ зразу, што зы спіною дыгыва́рівыюцца, тады зывярну́лыся і пышла́: шапчы́ціся. Усё зьдзелылі у яго зы сьпіною. 2. *У мінулым* (*пражыта*). У мяне ўжо многа чаго зы сьпіною, быў я і ны вярьху́, і пыд нізом.

**Застраваць у горле.** *Міжволі траціць здольнасць сказаць, праглынуць.* Чаго там у цябе у горлі зыстряець, гывары́ ўжо. *Зак.* **Застраць у горле.** Гывары́, ці ў цябе словы у горлі зыстря́лі. Кусок у горлі зыстря́ніць, як паслу́хыіш яе ўпрёкі. *Множн.* **Пазастраваць у горле.** У іх там усё ў горлі пызыстріва́ла, яны слова скыза́ць ні маглі́. Ні ды яды було, іна ў горлі пызыстріва́ла.

**Засукаўшы рукавы.** *Старанна, энергічна.* Прінылягл́і зусука́ўшы рукавы́, дык ім тае работы ну пуўтыра́ чыса́.

**Засякаць урэмя.** *Запамінаць час.* Зысіка́й уремя, пыглядзі́м, калі верніцца. *Зак.* **Засеч урэмя.** Во зысякі́ ўремя

і праверь, паску́тыў скот і будзіць восім часоў дзіржа́ць ны адным месьці.

**За сямю замкамі.** *Надзейна, недаступна.* У Варычкі усігда ўсё схува́на зы сямю зымка́мі. Хут ты ат іх зы сямю зымка́мі хува́й, усё роўна вы́кыпыюць.

**За трыдзевяць зямель,** *кніжн. Надзвычай далёка.* Заехыў за трі́дзівяць зямель, калі яго цяперь нывясьціш. Гады два жыў тут, у Ходысых, а цяпера вун за трі́дзівяць зямель.

**Затыкаць горла** (глотку), *груб. Прымушаць маўчаць.* Мне ты зытыка́ць горла ня будзіш, я цябе дужа ні баюсь. Як аччы́сьціў хырашэнька, дык пірі́ста́ў зытыка́ць глотку. Пынас ёй усігда зытыка́ў глотку, ні дыва́ў слова скыза́ць. *Зак.* **Заткнуць горла** (глотку). Ты пыспрабу́й толька тріпані́ што-ніőу́дзь, жыва заткну́ горла. Луччы будзіць, есьлі заткнеш глотку. *Множн.* **Пазатыкаць** (пазаткнуць) **горлы** (глоткі). Пызытыка́йця горлы ды сядзі́ця, калі ніку́ды ня просюць. Ім нада пызытыка́ць глоткі, ціряшчу́р рызыйшлі́ся. Ні шулудзі́ціся, ні нада, і вам пызаткну́ць горлы. Пызаткну́лі глоткі і хырашо зьдзелылі, на іх ужо ніякія упра́вы ні було.

**Затыкаць дзіркі** (дзірку). *Задавальняць часова самыя вострыя патрэбы пры нястачы.* Ныдаела ўжо мне як горькыя редзька зытыка́ць дзі́рькі уся́кій раз то с адны́м, то з другі́м. *Зак.* **Заткнуць дзіркі** (дзірку). Айдзе ўжо мне дужа рускушува́цца, худзь ба заткну́ць дзірькі. Усё ніяк ні ла́дзіцца, адну дзірьку заткнеш, другая пыіўля́іцца. *Множн.* **Пазатыкаць** (пазаткнуць) **дзіркі.** Айдзе мне пры якея зыпа́сы ду́мыць, каб во хуць на первый случый пызытыка́ць дзі́рькі. У адным дзі́рькі пызаткнеш — глядзі́ш, у другі́м ні хвыта́іць. *Працягл.-фінальн.* **Назатыкаць дзіркі.** Нада неік табе іна́чы жыць, а так ірва́ць с аднаго места ў другоя — ні нызытыка́іш дзі́рькі.

**Затыкаць за пояс.** *Пераўзыходзіць ва ўсім.* Навум іх абоіх кругом зытыка́ў за поіс. *Зак.* **Заткнуць за пояс.** Кіріла заткнець цябе за поіс, у чым ты толька хочыш, ён жа чылавек, а ты што. *Узмацн.* **Пазатыкаць** (пазаткнуць) **за пояс.** Кудрі́ча́ні вас кругом даўно пызытыка́лі за поіс, кудрі́ча́ні — работнікі, а вы ж гультаі. Мы возьмімся ку́чыю — пызаткнём вас за поіс. *Працягл.-фінальн.* **Назатыкаць за пояс.** Ізыком ён нызытыка́іць за поіс, а як

да дзела да́йдзіць, то сьпіна́ зыбаліць, то ў каленіх зышчыміць, то пуд лупа́тку заколіць.

**За** (у) **адзін міг.** *Вельмі хутка.* Я б да тых Жыгалык зы адзін міг дабег. Толька скажы́, у адзін міг зьдзелыіць. У адзін міг нейкыя за́цьмінь узіла́ся, сьледу ня ві́дна.

**Захадзіцца ад слёз.** *Плакаць да канвульсій.* І я ўгыва́рівыла, і Машка рузувіря́ла — заходзіцца аць сьлёз: нашто мне цяперя жыць. *Зак.* **Зайціцца ад слёз.** Марья нічога, толька нахму́рілыся, а Вульляна зыйшла́ся аць сьлёз. *Узмацн.* **Пазахадзіцца** (пазайціцца) **ад слёз.** Пызыхадзі́цца аць слёз нада було ны такіх дзяўчонык гледзічы. І свае, і чужыя пызайшлі́ся аць сьлёз.

**Захадзіць у тупік.** *Трапляць у безвыходнае становішча.* Ён ужо ні раз зыхадзі́ў у тупі́к зь етымі сваі́мі дзіла́мі. *Зак.* **Зайціць у тупік.** Я пряма зайшоў у тупік с такою ку́плію-прыда́жыю. *Узмацн.* **Пазахадзіць** (пазайціць) **у тупік.** Ду́мылі, ду́мылі і ў тупі́к пызыхадзі́лі, ні зна́ім, як дальшы быць. Калі мы пыза́йдзім у тупік, што вам с таго.

**Заціскаць** (зажымаць) **рот.** *Прымушаць маўчаць.* Што яны мне зыціска́юць рот, пра́ўды быя́цца паслу́хыць. Мікілаіў быў — зыжыма́ў рот, і другога чорта вы́брылі— маўчы яму. *Зак.* **Заціснуць** (зажаць) **рот.** Мне тожа хацелі заці́снуць рот, ну я ня змоўчыў, даў атпор. Раншы вірідува́лі, а цяперь зыжаць рот ужо не, ні ўдаецца. *Множн.* **Пазаціскаць** (пазажымаць) **раты.** Пызыціска́лі ім раты, ні даюць пікнуць. А нада б ужо, каб хто пызыжыма́ў ім раты́, пряма ныха́лым бяруць. *Гл.* З а т ы к а ц ь г о р л а.

**Зацягываць пятлю** [на шыі]. *Ставіць у безвыходнае становішча.* Піліпёнкі зыця́гывыюць яму пятлю́ і зыця́гнуць, ускочыць, што ня вы́лізіць. Зразу цярьпела, глядзела, а тады чу́ствыю, што зыця́гывыюць пятлю́ на шы́і,— не, брат, з вамі ні ўжывеш. *Зак.* **Зацягнуць пятлю** [на шыі]. Зыця́гнуць яны ны табе пятлю, яй-богу зыця́гнуць,— і ня вы́скрібісься. Пятлю на шыі зыцягну́лі яму, пупа́ўся як белычка. *Множн.* **Пазацягываць** (пазацягнуць) **петлі** [на шыі]. Як жа вам ні пызыця́гывыюць петлі, ежылі вы самі голывы су́ніця. Петлі пызыцягну́ць умеюць, каб чаго добрыга. І пызыця́гывыюць петлі на шыі, раз самі пыцстыўля́юцца. *Працягл.-фінальн.* **Наза-**

**цягываць пятлю** [на шыі]. Вядзі сябе зь людзямі пычылавечыскі, ато нызыцягывыіш пятлю, што сам ускочыш. Мыкар ім нызыцягывыіць пятлю на шыі, так улезіць, што будзіць глядзець, як выскычыць.

**Зашыбаць капейку,** *звыч. неадабр. Зарабляць лёгкім шляхам.* Я, праўда, дужа ня верю, ну хваліўся, што зышыбаіць ладныю капейку. *Зак.* **Зашыбіць капейку.** Што Кіріла, глядзеў усігда, каб большую капейку зышыбіць. Капейку зышыбіць умеіць. *Непаўн.* **Пазашыбаць капейку.** У той пятрушкі ён пызышыбаў капейку, ладна хвытануў.

**Заядаць жызінь** (жызню, жысць). *Стварaць невыносныя ўмовы.* Міхалка зыідаў Домніну жызінь акынчацільна. Большы, наверна, ніхто ні цярьпеў, як Варка, так яны зыідалі ёй жызьню. Хваціць табе зыідаць маю жысьць, і ны парог большы ні пушчу, хуць пыт праслым начуй. *Зак.* **Заесць жызінь** (жызню, жысць). Пупалыся ў пекла, заелі тэя пріпадкі яе жызінь. У Мыкрідзёнкывых калі ні пы нырaву, зыядуць жызьню, жыць ні захочыш. Замуж так — с адным будзіш панствывыць, а пупадзецца такей, што жысьць заесць. *Узмацн.* **Пазаядаць жызінь** (жызню, жысць). Хто ж, калі ня вы, жызінь ім пызыідалі. Пызыідалі жызьню, і дзецца нікуды нільзя, зь дзіцямі ні так проста айдзе сунуцца. Пупаліся, што ні рады нічому, пызыідаюць жысьць ім сывяршэнна.

**Заяччая душа,** *гумар. Пра палахлівага.* Якей зь яго хлопіц?— заіччыя душа, увідзіць цялёнка — хочыш уцікаць кытанець.

**З белага свету.** *Невядома адкуль.* Сыбраўся, выпрывіўся: ні гарюй, матка, буду купацца ў грышах, а іўляіцца ціріз паўгода з белыга сьвету голым-галюсінькій, пірімяніцца німа ў што.

**Збівацца з ног.** *Вельмі стамляцца.* Дужа нада було так зьбівацца з ног,— столька выбігыць. *Зак.* **Збіцца з ног.** Знаіш, сколька я выхыдзіў, пакуль найшоў тваю капёшку, з ног зьбіўся. С тваім аб'ясьненьнім саб'есься з ног ходзючы. *Узмацн.* **Пазбівацца** (пазбіцца) **з ног.** Ішлі мы, ішлі пызьбіваліся з ног, а ніяк дайціць ня можым. Ніхай сходзюць, пысаб'юцца з ног, ці Рослыў блізкыя дарога.

**Збівацца з пуця** (пуці). *Ісці няправільным шляхам, страчваць правільную дарогу ў жыцці.* Раз пычаў зьбі-

ва́цца с пуця́, то й саб'ецца. Ён жа саўсім зьбіва́іцца с пуці́, нада пыгываріць ды ўнушы́ць хырашэнька. *Зак.* **Збіцца з пуця** (пуці). Зьбіўся с пуця́, а абразуміць ні було каму, так і прыпа́ў. Саб'ецца с пуці, тады плоха дзела, пакоціцца ўніз. *Множн.* **Пазбівацца** (пазбіцца) **з пуця** (пуці). Луччы цяперя глядзіця, як пызьбіва́юцца с пуця, трудна тады пірявучывыць. Чуць ні пызьбіва́ліся с пуці, цётка трошку пріехыла, удукува́ла. Пысаб'юцца с пуця́ і прыпа́лі, нада прідзержывыць, страмі́ большы. Чым на пуць стаць, дык пазьбі́цца с пуці́ лехчы. *Працягл.-фінальн.* **Назбівацца** (дазбівацца) **з пуця** (пуці). Во й нызьбіва́ўся с пуця,— сядзіць, а ты гываріў не, абрузуміцца. Саб'ецца раз ды другей раз саб'ецца, так і дызьбіва́іцца с пуця, вохыць бу́дзіця. І другей так дызьбіва́іцца с пуці, як первый, пы праторіный дарожкі пашоў.

**Збівацца з толку** (панталыку). *Губляцца, бянтэжыцца.* Я дык ста́ла с толку зьбіва́цца, што тут і як дзелыць. Ці пірістаў ты зьбіва́цца с пынталы́ку, ці ўсё яшчэ ня пры́дзіш у сябе? *Зак.* **Збіцца з толку** (панталыку). Зьбі́ўся с толку і ні знаю, у якей бок іціць, а тут туча ныдзьвіга́іцца. А ні мiша́й, мы й так зьбі́ліся с пынталыку. *Множн.* **Пазбівацца** (пазбіцца) **з толку** (панталыку). У такой зываруxі і ня хочучы пызьбіва́юцца с толку. Адзін адно трілюдзіць, другей другоя вярзець,— каго слу́хыць, так і пызьбіва́ліся с пынталы́ку. Ні пысаб'ёмся с толку, ня бойціся, самі скарей розвылку пыціря́іця. Ну што ты, вы́ступіў такей пуза́ч с адным, а Дзёмка з другім, і пазьбі́ліся ўсе с пынталы́ку.

**Збівацца са сну.** *Траціць сон.* Раз ні дасьпіш, другей раз ні дасьпіш, пычанеш зьбіва́цца са сну, і гылыва́ рызбаліцца, і будзіш хадзіць як сам ня свой. *Зак.* **Збіцца са сну.** Зьбі́ліся мы за ету нядзелю са сну, пряма хадзіць ня ўздоліім. *Узмацн.* **Пазбівацца** (пазбіцца) **са сну.** Учора ста́рый у поўныч пріехыў, а сяньня хлопцы сваё ўремя пірябілі, дык мы неік пызьбіва́лися са сну. За ета ўремя ажно са сну пазьбіліся, ныдаела пыдгатоўка ўся.

**Збіваць з пуця** (пуці). *Штурхаць на няправільны шлях.* Ты яго ні зьбіва́й с пуця, ён і сам пролыбку зна́йдзіць ці ў пятлю́ якую ускочыць. Ён і хлопіц як хлопіц, дык тэя ж Кындрацёнкі пычалі́ зьбіва́ць с пуці. *Зак.* **Збіць з пуця** (пуці). Васіль жа быў хлопіц-хлопіц, і красівый, і тылкавітый, а во неік улез у іхнію кымпа́нію, і

зьбі́лі с пуця́. Ага, саб'еш ты яго с пуці́, ма́лінькій ён, у яго розуму ны пяцёх такіх, як ты, хва́ціць. *Множн.* **Пазбіваць** (пазбіць) **з пуця** (пуці). Здру́жуцца с Санькыю, і тэй пызьбіва́іць іх с пуця. Пызьбіва́ць іх с пуці ляхчэй лёхкыга. Яны як вецір: куды пывярну́ў, туды й пашлі́,— есьлі іх пазьбілі с пуця, то куды вы са́мі глядзелі. Нечыга абіжа́цца: пазьбілі с пуця, самі шывяліця мызка́мі. *Працягл.-фінальн.* **Назбіваць** (дазбіваць) **з пуця** (пуці). Каб ня ты, Коля б зылаты́м хлопцым быў, ну ты мне нызьбіва́іш яго с пуця. Нызьбіва́лі с пуці, пакуля ні ўзя́ўся трошку за вум. А тэй лыпаву́хій дызьбіва́іць яго с пуці, дажджэцца ў мяне.

**Збіваць** (зразаць) **на горкае яблыка.** *Бязлітасна сячы.* Сколька раз цябе зьбіва́ў бацька на горькыя я́блыка, ты ж ні ка́ісься, пыряівеш і ўзноў зы сваё бяресься. Пряма зрізаіць на горькыя яблыка, як дыбярецца з ремнім. *Зак.* **Збіць** (зрэзаць) **на горкае яблыка.** Зьбіў ён учора свайго на горькыя яблыка зы сад, каб больш ні ла́зіў. На горькыя яблыка зрежу, есьлі яшчэ раз пачу́ю такоя. *Множн.* **Пазбіваць** (пазразаць) **на горкае яблыка.** Есьлі ўжо возьмуцца абоя, пызьбіваюць на горькыя яблыка. Іх даўно нада було на горькыя яблыка пызрізаць.

**Збіваць з толку** (панталыку). *Прыводзіць у замяшанне, разгубленасць.* Пірістаньь яшчэ ты зьбіва́ць с толку, я й так ні дыбяру́ся ды ладу. Ці Машка б сабе чылавека ні ныйшла, ці што, дык яе ж Васіль зьбіва́іць с пынталы́ку. *Зак.* **Збіць з толку** (панталыку). А нас, ду́мыіш, хто, тожа яны зьбілі с толку. Ну хто ж яго зьбіў с пынталыку, мы ж скыза́лі толька тоя, што чу́лі. *Узмацн.* **Пазбіваць** (пазбіць) **з толку** (панталыку). Нас Кіреівы пызьбіва́лі с толку, прібеглі: зыпріга́йця, едзьця, ужо ўсё кончына. Ніхто іх ні зь я́кыга пынталы́ку ні пызьбіва́ў, гывары́ць ім проста нечыга. Будзіця іх слу́хыць — узноў пысаб'юць с толку. Каб вы ні пазьбілі с пынталы́ку, ніхто б нічога і ні гывары́ў. *Працягл.-фінальн.* **Назбіваць з толку** (панталыку). Ну й нызьбіва́іць с толку, атла́ю дык атла́ю. Сколька яны мяне нызьбіва́лі с пынталыку, я ўжо ні сышчыта́ю дайжа.

**Збірацца** (сабірацца) **з духам.** *Перамагаць сябе, сваю нерашучасць, набірацца смеласці.* Ду́мыю ехыць, зьбіра́юся з ду́хым. Сыбіра́йся з ду́хым, січа́с твае кумы тут бу́дуць. *Зак.* **Сабрацца з духам.** Доўга ду́мыў, пакуля сы-

бра́ўся з ду́хым, ён цяжолый ны пад'ём. Пыдажджы трошку, дай сыбяруся з духым, тады пыраімся, як быць.

**Збірацца** (сабірацца) **з мыслямі.** *Абдумваць, узважваць думкі.* Доўга ж ты зьбіра́ісься з мы́сьлімі, зра́зу гывары́, ці паедзіш, ці не. Пашлі́, ато ён будзіць сыбіра́цца з мы́сьлімі цэлый год. *Зак.* **Сабрацца з мыслямі.** Чуць сыбра́ліся з мы́сьлімі посьлі такой устря́скі.

**Збіраць** (сабіраць) **кускі,** *уст. Жабраваць.* Піріц самыю тою вайною, імпірілісьці́чыскыю, дзяреўню вы́кыціла, дык хто трошку пріпя́ўся, а хто кускі́ збіра́ць пашоў. Зысыжа́ні дужа плоха жылі, кажныю вясну сыбіра́лі кускі́, як пыцяплела, так ідуць гужым і йдуць.

**З богам.** *Шчаслівa (як пажаданне).* Едзіця? Ну, з богым, глядзі́ця, каб там усё було ў пыря́дку.

**З божжаю міласцю,** *жарт. Як-небудзь, крыху.* Стынавіцісь-ка, з божжыю мі́лысьцю і паложыця гікта́р удзісіцяры́х. З божжыю мі́лысьцю ды с тваёю помышчу дык мы раз-два зьдзелыім.

**З боку.** *Як пастаронні, з ліку іншых; як для пастаронняга.* Мы ж утраі́х, ды яшчэ чылавекі чатырі з боку пыдыйшло, дык яны уціхамі́ріліся. Ну, а ты што ска́жыш, з боку ж яно відней.

**З боку прыпёку.** *Непатрэбны, лішні.* З боку пріпёку пріляпі́ўся, неік жа нялоўка гнаць. Якей ён свой, так, з боку пріпёку.

**Збор дружыны** (дружына). *Пра зусім рознае, выпадковае.* Каб хто путній быў, дык нікога, збор дружы́ны. Так, сыйшлі́ся збор дружы́на, некыму було ні пыкыма́ндывыць, ні сыргынізува́ць.

**Збор-каляда,** *неадабр. Пра зусім рознае, выпадковае.* Пыгываріць дайжа не сь кім було як нада, збор-кыліда́ ўся́кыя сыбра́лыся.

**З бору па сосенкі.** *Адкуль папала.* Сыбіра́лі з бору па сосінкі, атку́ля каток, атку́ля аглоблю. Пріняськлі́ троху сяго-таго з бору па сосінкі. Учора ўсё набоўкла, сяньня зьбіра́лі з бору па сосінкі, што надзець.

**Збываць з рук.** *Пазбаўляцца.* Хуць мы і ві́дзілі, што толку зь яго ні дажджэсься, ні помышчы, нічога, ну толька збува́ць жа з рук каму другому нялоўка — свыя кроў

як-ніяк. Перша зьбіра́ўся збува́ць з рук, а тады піряду́мыў: ніхай трошку пыткыча́іцца. *Зак.* **Збыць з рук.** Я ўжо рад, што збыў з рук клопыт свой, мне ныдаелі етыя мяшкі хужы горькія редзькі. Карову збу́дзіш з рук, а капля ж мылыка нада, ап сухом жа ня будзіш усё ўремя жыць. *Узмацн.* **Пазбываць** (пазбыць) **з рук.** Пузбува́ць усё з рук, а тады каб хадзіць ды прасіць усяго ўся́кыга — так я ні хачу́. Пазбы́ць з рук нядоўга, набыць трудней.

**Звадзіць вочы** (вачамі). *Засынаць на вельмі кароткі час.* Я трецьція судкі вочы ні зваджу́. Два разы сяньня лажы́лыся, дык ці я спала, толька выча́мі звадзі́ла. *Зак.* **Звесць вочы** (вачамі). Толька вочы зьвёў, яны ляп-ляп-ляп, узноў сон пірябілі. Якоя спаў, зьвёў толька выча́мі і ўсё. *Множн.* **Пазвесць вочы** (вачамі). К раньню трошку пызьвялі вочы, а ўсю ноч ні дыва́лі засну́ць, гырла́лі. Ніхай хуць выча́мі пызьвяду́ць,— столька ўремя ні спа́ўшы.

**Звадзіць дружбу.** *Рабіцца сябрамі.* Ня с тымі ты пыча́ў звадзі́ць дру́жбу, ды дыбра яны ні дывяду́ць. *Зак.* **Звесць дружбу.** Зьвялі дружбу, што шагу адзін біз другога ня сту́пюць. *Узмацн., рэдкаўж.* **Пазвадзіць** (пазвесць) **дружбу.** Спра́шывыіш, на чом дружбу пызвадзі́лі?— бульбу ношкымі ра́зым ціга́лі. Пызьвялі́ дружбу, сьпеліся, што вадою ні рызальлеш.

**Звадзіць** (звязываць) **канцы з канцамі.** *Ледзь задавальняць матэрыяльныя патрэбы.* Цяперь у мяне дзялы́ ныла́дзіліся, а трі гады етыя чуць звадзі́ла канцы́ с кынца́мі. Ікая раскоша, канцы с кынцамі троху зьвя́зывыю і ўсё. *Зак.* **Звесць** (звязаць) **канцы з канцамі.** Пыріт палу́чкыю дык ужо глядзі́ш, як зьвесьць канцы с кынцамі. Січа́с-то зьвіза́лі канцы с кынцамі, а дальшы як выкру́чывыцца, ні знаю. *Узмацн.* **Пазвадзіць** (пазвязываць, пазвесць, пазвязаць) **канцы з канцамі.** Тады туга пріхадзілыся, толька й глядзелі, як пызвадзі́ць канцы с кынцамі. Ду́мыіш, худзь ба канцы с кынцамі пызьвя́зывыць як. Ці мы на етый раз пызьвядзём канцы́ с кынца́мі?

**Звадзіць с ума.** *Вельмі моцна захапляць.* Ні звадзі ты с ума́ хуць яшчэ Верку, іна ж табе саўсі́м ні нада. *Зак.* **Звесць с ума.** Зьвіла́ ж нейкыя хлыпца́ с ума, саўсі́м зьвіла́, як вечыр, так і ля́снуў у Кылатовіна. *Усеаг.* **Пазвадзіць** (пазвесць) **с ума.** Жыгалыўскія дзеўкі пызва-

дзілі іх с ума. Гу́лі скора вас пызьвяду́ць с ума. *Працягл.-фінальн.* **Назвадзіць с ума.** Скелькіх Галька нызвадзіла с ума, паку́ля ну Кузьму ні нырва́лыся.

**Звадзіць у магілу** (гроб). *Даводзіць да смерці.* Ці вы ні зна́іця, ета ж тыка́я сім'я пыразітныя, яе пряма у магілу звадзілі. Я ёй ні раз гыварíла, кіда́й ты яго, ён жа цябе у гроб зводзіць. *Зак.* **Звесць у магілу** (гроб). Гарелка зьвіла́ у магілу, нягож ні гарелка, бязь меры вочы зылíва́ў. Во так будуць грызьць і грызьць, і зьвяду́ць у гроб. *Узмацн.* **Пазвадзіць** (пазвесць) **у магілу** (гроб). Матку, бацьку ня слу́хыіця, здароўя ні бірігіцё, пазводзіця самі сябе ў магілу. Адною грызьнёю у гроб пазводзюць. Ці ты хочыш ужо ў магілу пазьвесьць, ці што? Каб мыгла́, пызьвіла́ б нявестык у гроб, пірінасíць іх ня можыць.

**Звадзіць шчоты.** *Помсціць.* Антон звадзíць шчоты ні ста́ніць, ён ра́зым як вíхырь уськіпíцца, а тады цірізь мінуту як другей чылавек, забы́ў усё. *Зак.* **Звесць шчоты.** Глядзí, зытаíў злосьць, помсьлівый чылавек, зьвядзець калі шчоты. *Множн.* **Пазвадзіць шчоты.** Іх бойся ды бойся, дужа га́дкія, пазводзюць шчоты. *Працягл.-фінальн.* **Назвадзіць** (дазвадзіць) **шчоты.** Назводзіць шчоты, што сымаму́, я́к дураку́, ныда́юць, ныда́юць і пойдзіць бітый. Дызвадзіў Клімянок шчоты, у бальнíцы ляжы́ць.

**Зваліваццa з плеч** (плячэй). *Пераставаць быць цяжарам.* У нас ета біда́ ніяк ні зва́ліцца с плеч. Ка́б хуць ны мінуту зва́лівылыся с плячэй, худзь ба якей прады́х быў ат вашых клапот,— дык не. *Зак.* **Зваліцца з плеч** (плячэй). Я дык дужа-дужа рад, што мне етый клопыт с пырыся́тымі зваліўся с плеч. Бульба зва́ліцца с плячэй, рукі рызьвя́жуцца, тады і пад'едзім як-небудзь. *Узмацн.* **Пазваліваццa з плеч** (плячэй). Клопыты за клопытымі, адно зу другíм, ці ета калі с плеч пызва́ліцца, ці ні зваліцца ні ра́зу. Ня дужа дажджэсься, што пызва́ліюцца с плячэй заботы — ма́лых самíх нянч, а вы́рысьлі — за імі нянч, так уся жысьць праходзіць год за годым.

**Зваліваццa на плечы** (галаву). *Нечакана рабіцца прадметам клопатаў.* А мне, ду́мыіш, лёхка було, кылі такоя зва́лівылыся на плечы,— дычкіна́ біда́ ні адной маткі ні салодка. То адно зва́лівылыся ны гылаву, то другоя, то пятыя, то дзісятыя і пра ўсё нада було ду́мыць

і неік рішáць. *Зак.* **Зваліцца на плечы** (галаву). То адно звáліцца на плечы, то другоя, а ўсё атхлы́ну німа. Во яшчэ зваліліся ны гылаву́ госьці етыя, дыгыджáй і дыгыджáй.

**Званіць** (раззваніваць) **ува ўсе званы.** *Усюды і ўсім расказваць.* Званілі ж ува ўсе званы́ пы дзяреўні: во вы́гыніць, во вы́гыніць Сямён Тыцяну. Ты ду́мыіш, хто тут ходзіць, гаворіць — Мыланка і рыззвáнііць ува ўсе званы. *Пачын.* **Зазваніць ува ўсе званы.** Як зызванілі ува ўсе званы́, нібытта там случы́лыся ніізьвесна што. *Множн.* **Раззваніць ува ўсе званы.** Ну пыстыя́лі кылы мыгазіна, ну дык што, а тут рыззванілі ува ўсе званы: узноў сходзюцца. *Працягл.-фінальн.* **Названіць ува ўсе званы.** Нызваніў ува ўсе званы, даволін, тряпло?

**Званіць са ўсіх** (с усіх) **калаколен.** *Усюды і ўсім расказваць.* Пры мяне тожа званілі са ўсіх кылаколін, дык што, мяне ўбыло ці што? Есьлі людзям нечыга дзелыць, ніхай звонюць с усіх кылаколін. *Пачын.* **Зазваніць са ўсіх** (с усіх) **калаколен.** Нічога там ніякыга ні було, а во зызванілі ж са ўсіх кылаколін. У іх тыкая дзяреўня, што ны капейку увідзюць, а на руб набрешуць, зазвонюць с усіх кылаколін. *Множн.* **Раззваніць са ўсіх** (с усіх) **калаколен.** Летыся пры Машку рыззванілі са ўсіх кылаколін. Аўдзею толька пупадзіся ны язык, с усіх кылаколін раззвоніць.

**Званіць у** [разбітый] **лапаць,** *гумар., іран. Выяўляць паказную заклапочанасць, цікавасць, патрэбу.* Званілі ў ла́пыць, каб ты скарей іўляўся. Нягож, звáлі, званілі ў разьбітый ла́пыць,— так дыжыдáюць. *Зак.* **Пазваніць у** [разбітый] **лапаць.** Як у ла́пыць пазвонюць, тады пыбягіш, на злом гылавы пынясесься. Знаць жа у разьбітый лапыць пызванілі, кытану́ў. *Пачын.* **Зазваніць у** [разбітый] **лапаць.** Цябе там будуць ждаць зь ніцярьпеньнім, скора зазвонюць у лапыць. Зызванілі ў разьбітый лапыць, чаго ж ты сядзіш, можа пыслá прішлю́ць. *Законч.* **Адзваніць у** [разбітый] **лапаць.** Дырмá ты рáншы ня йшоў, ужо ж адзванілі ў лапыць. Ждаў, вот зря толька адзваніў у разьбітый лапыць, ато б ты яшчэ раз там ачыну́ўся. *Працягл.* **Названіцца ў** [разбітый] **лапаць.** Нызваніліся ў лапыць, аж мызалі нацёрлі — звáлі вас, а вы й ня чу́лі. Ай, у разьбітый ла́пыць нызваніліся, усё длі вас, длі вас, каб скарей беглі.

**Звання не астацца.** *Пра поўную адсутнасць.* Быля́ сім'я́, і дачок, і сыноў, а неік сьцёрлыся ўсё, дайжа зва́ньня ні асталося. Я цябе у пырашок сатру́, і зва́ньня ні аста́ніцца. **Звання астацца.** Каб хуць зва́ньня асталося таго клевіру. *Незак., рэдкаўж.* **Звання не аставацца.** Два тубуню́гі адзін за дным як пройдуць, дык травы зва́ньня ні астаецца.

**З ведама.** *Паведаміўшы, атрымаўшы згоду, дазвол.* Яны пашлі́ зь ведыма брігадзі́ра, ні са́мі сабою. Кылі што бяреш, нада браць зь ведыма.

**З веку** [вякоў]. *Заўсёды.* Зь веку яны шчыта́ліся са́мымі лу́ччымі у дзяреўні. Зь веку вякоў ня чу́лі, каб айдзе хто што ўкраў у нашым баку. Не, ні дура́к,— зь веку так.

**З веку да веку.** *Заўсёды.* Зь веку да веку гаду́й яго і трахту́й. Дура́чыўся зь веку да веку, ікая была жы́зьня.

**З веку ў век.** *Заўсёды.* Зь веку ў век чуткі хадзі́лі, што на тых сосных пыт Пірядніным руса́лкі жылі, а во й сосны парезылі, і русалык тых ніхто ня ві́дзіў.

**Звер зверам.** *Пра вельмі жорсткага.* Ходзіць увесь дзень зьверь зьверім: пірідалі, што я ўчора пыстыя́ла с Тырасым. А ўсігда зьверь зьверім, хра́кцір такей.

**З ветрам** (вецярком) **у галаве,** *неадабр. Дурнаваты.* Каб ты ня быў зь ветрым у гылаве, дык ня слу́хыў бы тріл́ю́ды ўся́кія. Паслу́хылі мы Аріні́ны руссуждзеніі,— а так, зь віцярком у гылаве, ды з ла́дным віцярком.

**З віду.** *Знешне.* Зь віду дзяржы́цца, а так ду́жа слаб. Ніхай сабе зь віду можа і ня дужа, а прыцыўна́я і ўмеюшчыя на што хочыш.

**З вока на вока.** *Без сведак.* Я хацеў ба с табою пыгыва́ріць, толька з вока на вока. Нешта з вока на вока дужа ўсё шушу́кыліся.

**З вугла ў вугал.** *Туды і назад у розных напрамках.* Ну што ты хлы́нкыіш з вугла́ ў ву́гыл, як прі́ту́льля німа, у погріб нада лезьць — і бульбы ў чугуны́ ні хва́ціць, і капу́ста кончылыся.

**З вуліцы.** *Выпадковы, невядомы.* Ні захочыш жа ты з ву́ліцы зяця браць? Пріцягну́ў нейкіх з вуліцы — сваты. Якей ён ня ёсьць, дык жа з вуліцы, яго ніхто ні зна́іць.

**З вумом** (розумам, галавою). 1. *Разумны.* Іван чылавек з вумом, ні ста́ніць ізыком тріпа́цца, як другея. Ні кажы ты, што Пёкла з розумым, снычáла цяўкніць, а тады ду́мыіць. Шаўчонык з гылавою, ня дужа яго пройдзіш. 2. *Разумна, падумаўшы.* Кылі бяресься дзелыць, дык дзелый з вумом. З розумым едзь, перш паду́мый, ці нада. Купляй з гылавою, абы-чаго ні бярі́.

**Звязываць** (звадзіць) **хахлы,** *неадабр. Даводзіць да сваркі.* Настолька лю́біць зьвязывыць хахлы́, калі пысваріць каго, аж расьцець тады. Аўдотка звадзі́ла хахлы, а яны, як дуракі́, гры́зьліся. *Зак.* **Звязаць** (звесць) **хахлы.** Не-а, тут Мацьвей звізаў хахлы, ён даўно ім хацеў адзьдзенчыць. Хахлы нарошня зьвяду́ць, а яны адна на дну сь сябе выходзюць. *Узмацн.* **Пазвязываць** (пазвязаць, пазвадзіць, пазвесць) **хахлы.** Нашто ён чырцям тым пызьвя́зывыў хахлы? За што яны пызьвіза́лі хахлы, чаго ні пыдзялі́лі? Абея хырашы, луччы некуды, пызвадзі́лі людзя́м хахлы́ і дужа давольны. Тыкая ўжо мысьцярі́ца пазьвесьць хахлы, што куды там! *Працягл.-фінальн.* **Назвязываць** (назвадзіць, дазвязываць, дазвадзіць) **хахлы.** Нызьвя́зыіць іна хахлы, дажджэцца, што с ка́жныя ха́ты турі́ць будуць. Мушчы́на, а як ба́ба дурна́я: сколька ён хахлы нызвадзі́ў — і тады рад, хахочыць. Максім так у мяне дызьвя́зыіць хахлы, што сам сябе ні пызна́іць. Ну й дызвадзі́ў хахлы, ах, хырашо як!

**Звярынае серца.** *Пра жорсткага.* Нада ж імець такоя зьвярі́ныя серца — свайго сына, родныю кроў, вы́гныць с ха́ты. Во ў каго зьвярі́ныя серца — у Косьціка.

**З гадамі.** *Праз пэўны час.* З гыда́мі увойдзіць у сілу, памошнік будзіць. Канешня ж, цяжола пірі́жыва́ць, ну з гыда́мі трошку забу́дзіцца.

**З гакам.** *Значна звыш меры, нормы.* Да Добрыга ат'етуля сем вёрст з га́кым. Шэсць гадоў з га́кым ацслужы́ў, усю вайну прайшоў.

**З галавою на плячах.** *Разумны, разважлівы, кемлівы.* Ісай быў з гылавою ны плічáх, і знаў усё і ўмеў, бувала, здзелыіць, што ні заду́мыіць.

**З галавы да ног** (пят). *Увесь.* Прівалокся гря́зный з гылавы́ да ног. Вы́мік з гылавы́ да ног, калі цяперя айдзе што дусушу́ся. Абдыла́ зь відра́ з гылавы́ ды пят, усяго чы́ста.

**З галавы на ногі.** *На сваё месца, у ранейшае, нармальнае становішча.* Зыйшла́ ды з гылавы́ на ногі там усё пыста́віла, ато було ні пыкыза́цца.

**З галавы** (памяці) **не ііціць** (не выхадзіць). *Увесь час думацца, памятацца.* Мне ўсё Мырьянка з гылавы́ ня йдзець: такея мукі пріні́ла. Як нагледзілыся я ны ра́ніных, як яны му́чыюцца і стрыда́юць, дык свой дзіцёнык з гылавы ні выходзіць: можа ён айдзе ляжы́ць увесь пабітый, увесь бальнэй. Я знаю, што Аркад у цябе с па́міці ня йдзець. Ні выходзюць с па́міці дзеці, каб чаго у іх там ні було.

**З галадком.** *Не поўнасцю пад'еўшы.* У сталовый ня тоя, што ў дваре: пірікусі́ць — пірікусі́лі, ну пашлі́ з гыладком. Піріїда́ць ніздарова, луччы, калі трошку з гыладком.

**Зганяць па сем** (сто) **патоў.** *Вымотваць, вымотвацца цяжкай працай.* Сем патоў я згыня́ць большы ня буду, сколька зьдзелыю, то й маё. Сам сьперіду ста́ніць, а вы дыгыня́йця, і пірідыхну́ць ні даець,— па сто патоў з нас згыня́ў. *Зак.* **Сагнаць па сем** (сто) **патоў.** Зь ніпрівы́чкі сем патоў згоніць, ста́ўшы ў касу́. Сто патоў з нас сыгна́ла, пакуля мы бузува́ліся і рысьцягну́лі кры́шу. Ныработыліся мы ся́ньня, што чэрці, па сто патоў з нас сыгна́ла.

**З гвалтам** [і крыкам], *неадабр. З цяжкасцю.* Толька з гва́лтым куды дашлесься яго. З гва́лтым узяў сані, ні аддаець і ўсё. Чаго йта ў іх з гва́лтым і крі́кым нада хамут браць, ці ета іх хамут, ці ба́цькі і́хніга.

**Згладжываць войстрыя вуглы.** *Змякчаць вастрыню рознагалоссяў.* Што там згла́джывыць войстрыя вуглы, ніхай хырашэнька раз пыгаворюць, праўду адны́ другі́м вы́скыжуць. *Зак.* **Згладзіць войстрыя вуглы.** Во табе й згла́дзіў войстрыя вуглы, толька большы агонь рыспалі́ў. *Узмацн.* **Пазгладзіць** (пазгладжываць) **войстрыя вуглы.** Каб як пызгла́дзіць у іхный жызьні войстрыя вуглы, ніхай ба спыкайней жылі. Айдзе яны табе пызгла́джывыюць войстрыя вуглы. *Працягл.-фінальн.* **Назгладжываць войстрыя вуглы.** Нызгла́джыіць ён войстрыя вуглы, толька яшчэ хужы абазьлі́ць.

**З года ў год.** *Кожны год, пастаянна.* З года ў год абішча́іць пріехыць і во ўжо сёмый раз едзіць.

**З голымі рукамі.** *Без падарункаў.* Як жа ты пойдзіш у атведзіны з голымі рукáмі. Стрáмна з голымі рукамі г дзіцям пріціць, купі хуць што трошку.

**З горла** (глоткі) **перць** (тарчэць, лезць, вылязаць, вылазіць), *груб. Пра празмернасць.* З горла прець усяго ўсякыга, а яшчэ б і хвытáлі, і нясьлі, і вылаклі — ня могуць нысытáцца. Ну, нагрэбся, большы некуды, з горла тарчыць. З горла ж лезіць атáва, не — мала, яшчэ паехыў. Насыціў-тыкі сваю жáднысьць, нічога ні нада стáла, з горла вылізáіць. Пычало ўсё з горла вылáзіць, ні нада большы. Ніхай з глоткі прець, усё рыўна мáла, ні хвытáіць, ішчэ плáкыць будуць. Вазіў, вазіў жэрдзя, тады дывай хвытáць колья, ныкрятыў лесу, што ён у яго з глоткі тарчыць. Столька нывылачыў усяго, што з глоткі стáла лезьць. У вас ужо з глоткі ці ні вылáзіць дабро? *Зак.* **З горла** (глоткі) **вылезць.** Чужоя з горла вылізіць, ніхай спыжывець хуць сваё. Во як бувáіць — дýмыў, цэлыга сьвету зь яго ні хвáціць, а тут з глоткі ўсё вылізла. *Пачын.* **З горла** (глоткі) **паперць** (палезць). Сьпірвá усё було мала, ні хвытáла ніяк, а тут ужо нагрэбся, што з горла папёрла. З горла палезіць, і то ўсё ня будзіць табе хвытáць. Нышáдыіцца, з глоткі папрець калі-небудзь. Усё хацелыся большы, усё дýмылыся, што мáла, а тут з глоткі палезла.

**З гразі ў князі.** *Пра вельмі хуткае ўзвышэнне.* Як ён скора пыдняўся — з грязі ў князі. Меціць з грязі ў князі, на меншыя ня хочыць.

**З гулькін нос,** *жарт. Вельмі мала.* Ікáя ж тут ідá, з гýлькін нос, сеў ба ды міску крупені умылаціў, а тады кусок мяса,— во ета, я знáю, ідá.

**Здаваць рад.** *Абы адбываць.* Проста здывáць ряд я ні хачу, а памошч я там нічога ні пымагý — ні пайдý. *Зак.* **Здаць рад.** Атпáсьвіў, здаў ряд, на дзьве нядзелі спакоін. Пысядзеў зы сталом, здаў ряд. *Узмацн.* **Паздаваць рад.** Дужа нам хацелыся вазіцца, пыздывáлі ряд і пашлі.

**З далёкім прыцэлам.** *З разлікам на будучае.* Хомка зыпрышáіць ні так сабе, а з далёкім пріцэлым. Ніхай шаг стýпіць, і то з далёкім пріцэлым. З далёкім пріцэлым гывaріў: а як жа, дынясýць.

**З дарогі.** *Пасля падарожжа, паходу, паездкі.* Ну што, налі ча́рычку з дарогі. З дарогі я ня проціў ба і пыліжа́ць.

**З дзевак.** *З часоў дзявоцтва.* Што зь дзевык прініслá, то дына́шыю, а з мужуком яшчэ пакуль нічога ні спра́віла. А ні плач, у цябе яшчэ зь дзевык ляжыць ды радзі́мца.

**Здзелаць сваё дзела,** *часта неадабр. Здзейсніць намеры.* Сьцёпка зьдзелыў сваё дзела, ён ні дура́к. Ві́дзіш, пыбылí — ужо зьдзелылі сваё дзела.

**Здзержу** (судзержу) **няма,** *цяп., пр., буд. Пра імклівасць, нястрымнасць.* Стой з выдня́мі сваімі, зьдзержу табе німа, як пыцягну́ хлыбазі́ныю, станіш. Су́дзіржу вам нійдзе німа, куды ні пашлю́, усюдых атліча́іціся. У Віктыра былі коні, зьдзержу ім ні було. Хырашо, што ўнялí троху, саўсім жа су́дзіржу ні було. Пыглядзі́ш, адз Зорькі вы́рысьціць жырябок — зьдзержу ня будзіць. І етыму су́дзіржу ня будзіць, як большыму.

**Здзержываць сябе.** *Утрымлівацца ад выяўлення пачуццяў.* Зьдзержывый ты сябе троху, чаго табе с ка́жным зыіда́цца. *Зак.* **Здзяржаць** (здзержаць) **сябе.** Нада було зьдзіржа́ць сябе, чаго було ны ражон лезьць. Ну разьві ж ён зьдзержыць сябе ня можыць, за што тут було сварíцца. *Гл.* Дзяржаць сябе.

**З дна марскога.** *Адтуль, адкуль амаль немагчыма.* Ты Сьціпана толька пыпрасí, ён з дна марскога што хочыш дыста́ніць. Ты можа толька з дна марскога ні дыстыва́ў.

**З дня ў дзень.** *Кожны дзень на працягу значнага часу.* Іна зь дня ў дзень ходзіць ны работу, дый стыря́іцца ні абы-як, аттуля і трудадні́. Як грібы прулузну́ліся, з дня ў дзень прыпыда́іць у куста́х.

**З другога цеста,** *жарт. Не падобны; іншай натуры.* Большый вы́літый тата, а меншый саўсім з другога цеста, і духым Аўласёнкывым ні па́хніць. Пецьку пыбядзíлыся, разьбіўся: трябух шшывалі, во табе й з другога цеста.

**З душою.** *Шчыра; старанна; па-чалавечы.* Каб атнёсься з душою, і ён ба саўсі́м другі́м быў. За што ні бярецца, усё дзелыіць з душою. Пыдыйшла́ з душою, ён усё й рыскыза́ў.

**З'едзь ідзець,** *цяп., пр., буд. Пра адсутнасць міру, нармальных узаемаадносін.* Каторый год між імі зьедзь ідзець і кынца́ ня відна. Доўга ішла зьедзь, усё адзін другога нечым пыдзьдзіва́лі, а тады гры́зьліся. І паверь мне, што ета зьедзь у іх ішчэ доўга будзіць іціць. *Зак.* **З'едзь пашла,** *пр., буд.* Посьлі хрісьці́н нешта пышла́ і пышла́ зьедзь. Есьлі ўжо зьедзь пойдзіць, то дыбра́ ня будзіць.

**З'есць грака** (шмяка), *жарт. Упасці, паваліцца.* Такога зьеў гря́ка, што чуць уста́ў. Гря́ка зьясі́ тут, аж дзіві́цца будзіш. Што, зьеў шмя́ка,— астарожній будзь, ні насі́ся на злом гылавы́.

**З'есць дулю,** *іран. Нічога не атрымаць.* У Хрісьцянкоў палу́чыць — ду́лю зьесьць і аблі́жыцца. Ду́мыў, ого, будуць яму горы ыкла́дзіны, ажно зьеў дулю.

**З'есць і не аблізнуцца.** *Не пад'есці, праглынуць у імгненне.* Сколька там було, зьелі і ні аблізну́ліся. Яму трі ху́нты кусюга́н кладзі́, тады хва́ціць, а скрылёк зьесьць і ні блізьнецца.

**З'есць** (праесць) **зубы.** *Набыць вялікі вопыт.* Зы пітна́ццыць гадоў зьеў зубы на кожых, толька ў рукі возьміць, і зразу ві́дзіць ікая. Я тут, можа, ў такіх дзіла́х зубы праеў, а ты зьбіра́ісься мяне ўчыць.

**З'есць разам пуд солі.** *Шмат зрабіць разам.* Бува́іць, ш чылавекым пуд солі ра́зым зьясі́ і то ды кынца́ ні раску́сіш. Нада ні адзін пуд солі разым зьесьць, каб чылавека пызна́ць.

**З'есць у бога цялёнка,** *жарт. Правініцца.* А ці Хведзя зьеў у бога цялёнка, што ён ста́ніць кла́ніцца пірід Гаўріліхыю. Яны ў бога цялёнка ня зьелі, ім нечыга душою кріві́ць.

**З'есць хваробу** (хваробы), *груб. Нічога не атрымаць.* Ня хочыш ка́шы, хваробу зьеж. Бярі, што даю́ць, ато хваробу зьясі́. То табе ні так, ета ня етык, ну хваробы зьеж.

**Зжываць** (зганяць) **са свету.** *Даймаць прыдзіркамі, ствараць невыносныя ўмовы.* Зы ірунду́ — зу курей пысварі́ліся і ўзя́ліся жжыва́ць чылавека са сьвету. Ніхай ба яны мяне папробывылі згыня́ць са сьвету, я б ім пыкыза́ў. *Зак.* **Зжыць** (сагнаць) **са свету.** П'яный кріча́ў, жжыву́ са сьвету, а прыцьвірязі́ўся: ты зна́іш, ты мой са-

мый луччый друг. Каго ты хочыш сыгна́ць са сьвету, ці ты забы́ў, што яны цябе, шчыта́й, узгудува́лі. *Узмацн.* **Пазжываць** (пазганяць) **са свету.** Ня то што вылантырі́ць пычану́ць, а гатовы пыжжыва́ць са сьвету. Яны даўно запоіныя, пызгыня́лі б са сьвету нас, каб маглі. *Працягл.-фінальн.* **Назжываць** (назганяць, дазжываць, дазганяць) **са свету.** Тады іх воля была, у, сколька яны ныжжыва́лі са сьвету. Дажджэсься, нызгыня́іш са сьвету, як сымаго пату́рюць,— такім-то выраці́лым задзелыўся. Што ж тут яшчэ хацець, ду́мыў ні разу уні́му ня будзіць, ажно дыжжыва́ў са сьвету. Дызгыняюць са сьвету, абрузумя́цца калі-небудзь.

**З жыру бясіцца,** *неадабр. Разгульнічаць.* Дзелыць жа нічога ні зыстыўля́юць, чаго ж ім ж жыру ні бясіцца. *Зак.* **З жыру збясіцца.** Каб пыстыя́ла сь сярпом дзень у дзень ды пыціга́ла во карзінкі, як мы, дык ба зна́ла, пачом хунт ліха, а так што ёй атхадзіла — ж жы́ру й зьбясілыся. *Пачын.* **З жыру ўзбясіцца.** Узьбясіўся ж жыру: кіда́іць Машку, пойдзіць к Каці,— ныжывець. *Непаўн., множн.* **З жыру пабясіцца.** Летыся пыбясіўся ж жыру, а сёліта пыцішэў.Усе яны пыбясіліся ж жыру, дзелыць жа ні за што ні бяру́цца.*Законч.* **З жыру адбясіцца.** Кузьмовіч ж жыру адбясіўся, хваціўся за розум. *Працягл.-фінальн.* **З жыру набясіцца** (дабясіцца). Тады яны вун як ныбясіліся ж жыру, воля была на ўсё. Дыбясіліся ж жыру, цяперя ду́мыюць, айдзе якей клок сена узяць, хуць карову вядзі ны быза́р.

**З-за вугла.** *Спадцішка, вераломна.* У вочы харошый, мя́ккій, хуць ды раны пріклыда́й, а з-зу вугла́ што хочыш га́ўкніць. Ткачонык лю́біць з-зу вугла́ ўкусіць.

**З заплюшчанымі** (закрытымі) **вачамі.** *Дасканала ведаючы.* Што тут іціць, тут з заплю́шчынымі выча́мі дойдзіш. Клубкі твае з закры́тымі выча́мі на́йдзіш: пыдыйшоў к сталу́ і бярі.

**З** (з-пад) **іголачкі.** *Зусім новае.* Пріїжджа́ў — пальто с іголычкі, касьцю́м быга́тый-быга́тый,— рызадзет, што куды́ там. Што ты гаворіш ношыный, пулушу́бык толька с іголычкі. Абоя рызадзеты с-пыд іголычкі, відна, ладна зырыба́тыюць. Ныпря́нут с-пыд іголычкі, як сяньня з мысьцярской.

**З зубоў ірваць** (вырываць), *асудж. Браць, забіраць нахабна.* Ай, пірістáнь ты ўжо ў чылавека з зубоў ірва́ць

етыя клачкі, ці ты йшчэ мала нагрёбся лісавэя травы́. Як ім ня сты́дна з зубоў вырыва́ць пасьледнія тря́пкі. *Зак.* **З зубоў вырваць.** Ня то што сваё ўсту́піць, а й чужоя з зубоў вы́рьвіць. *Узмацн.* **З зубоў павырываць** (павырваць, папавырваць). У сымаго нічога ні було дужа, а што й було, з зубоў пывырыва́лі. Лу́ччы ні пыка́зывый: ні агледзісься, як з зубоў павы́рвуць. Сіньнічка́ гудува́ў, жы́ціна якоя було і тряхольля трошку вісела — усё з зубоў пыпавы́рвылі.

**Зімою снегу не купіць** (не дакупіцца, не выпрасіць, не дапрасіцца), *асудж. Пра вельмі сквапнага.* Марінка тыка́я, што ў яе зімою сьнегу ня ку́піш. Хочыш ты грошы у Ільлёвых пазы́чыць, у іх сьнегу зімою ні даку́пісься. Ня йдзі́ця і ні страмі́цися, тама сьнегу зімою ня вы́прысіця. Што жа́дныcьць дзелыіць ш чылавекым: зімою сьнегу ні дапросісься. **Зімою снегу купіць** (дакупіцца, выпрасіць, дапрасіцца). Ты ў іх паспробый зімою сьнегу купі́ць. Такей, што зімою сьнегу вы́прысіць, і то нільзя. Снегу зімою дыпрасі́цца ня пробый, а ня то ныпря́тку дасьць табе.

**З калена выламываць.** *Даваць, даставаць, тое, што немагчыма зусім.* С калена выла́мывыць сьвердзіл я табе ня буду. *Зак.* **З калена выламаць.** Ці я табе с калена вы́лымыю тае сьвёклы, я сыма́ пызыча́ла ў Кыстылёўны. Ну, раз німа́, то с калена ня вы́лыміш. *Множн.* **З калена наламаць** (навыламываць, павыламываць). С калена ніхто ж ні нулума́іць інструменту, купі́ць нада, зыкыза́ць. Хто ж вам с калена нывыла́мывыіць пругоў, раз німа́, то німа́. Ра́зьві ты с калена пывыла́мывыіш, што абішча́іш. Есьлі німа, с калена ні пывыла́мывыюць.

**З камароў** (вераб'ёў) **нос,** *жарт. Вельмі малы.* Сам с кымароў нос, а выкамы́рівыіць нівісь як. Тут і ўзрослыга атамі́ць, за серца схва́ціць, а ета работнік с кымароў нос. Зь віряб'ёў нос пырасёнка, а гу́кыіць як бальшэй.

**З кандачка,** *неадабр. Не абдумаўшы.* С кындычка́ што зьдзелыіць, а тады — ай-яй-яй, што ж ета пулучы́лыся, я ж так ні хацеў.

**З капылля далоў.** *Паваліцца, злегчы.* Там ішоў нічога, а во тут, ужо ў празоріні, с капы́льля далоў. І я зыхвыра́ла, і ён с капы́льля далоў, печ прукурі́ць некыму. *Гл.* З н о г д а л о ў.

**З кваском.** *Кіславаты (пра яблык, грушу).* Бярі-ка пробуй во етыя с кваском, ты такея любіш. Мне яблыкі каб с кваском, салодкіх ні люблю.

**З кожы лезць** (вылязаць, вылазіць, вылузкывацца), *неадабр. Празмерна старацца.* Ніхай сабе, а ён с кожы лезіць, каб лішній трудадзень заробіць,— ну плоцюць жа нічога. Дужа я стáну с кожы вылізáць, сколька ёсьць, столька й лáдна, ці мне ў магілу браць. Нечыга мне с кожы вылáзіць, сколька зароблю, то й маё. С кожы вылýзкыіцца, так стыряіцца, кáжыцца б, увесь луг зыгріблá. *Зак.* **З кожы вылезць** (вылузнуцца). Каб толька сваім што здзелыць, с кожы вы́ліз ба. Я ж с кожы табе ня вы́лузнуся, і так зá дзінь у пень вы́білыся, нá ныч ніхай другея йдуць. *Узмацн.* **З кожы павылязаць** (павылазіць, павылезць, павылузкывацца). Так стыряюцца, так бярýць, глядзі што с кожы пывылізáюць. Глядзіця, толька с кожы ні пывылáзьця. Гатовы с кожы павы́лізьць, каб адно свайго дабіцца. Тут яны с кожы пывылýзкывыюцца, ну свайго ня ўстýпюць.

**З краю ў край.** *Усюды.* Нільзя нікýды выпрыўляцца, выдá с краю ў край. С краю ў край такея, як ты, ныўрáд ці растýць.

**З кукішам** (хвігаю) **носа** (шапкі) **не дастаць,** *іран. Пра вельмі ганарлівага.* У цябе ўжо с кýкішым носа ні дыстáць, ці ні рáна пычаў так зыдывáцца. Такей стаў гынарістый, што с кýкішым шáпкі ні дыстáніш. Раз вы́йшыў у нычáльства, у яго с хвігыю носа ні дыстáніш. Тады яны зямлі пыц сабою ня чýлі, с хвігыю шáпкі ні дыстаць було. **З кукішам** (хвігаю) **нос** (шапку) **дастаць,** *адзінк.* Паспробый с кукішым у яго нос дыстáць. Можа толька с кýкішым шапку дыстáніш. Так зывáжнічыў, што й с хвігыю нос ці дыстáніш.

**Зламя галаву,** *неадабр. Шпарка, імкліва; вопрамецйю; безразважна.* Дакрýціціся, кылі так носіціся злымя́ гылавý. Ні ляці злымя́ гылавý, можна спакойна йціць.

**З лет вон.** *Пра глыбокую старасць.* У молыдысьці ён быў склейный, што ня зьдзелыіць — як яечка, а цяперя ўжо зь лет вон.

**З лёгкаю душою.** *З чыстым сумленнем, без шкадавання.* Я прыдаю зь лёхкыю душою: ты ішчэ мылыкá пыясі. Ні знаю, гываріў, што йдзець зь лёхкыю душою.

**З лёгкай** (лёгкія) **рукі.** *Дзякуючы добраму прыкладу.* Так во зь яго лёхкый рукі мы й гаду́ім малошніц. Можа с твае лёхкія рукі пойдуць гудува́цца ла́дна.

**З лёгкім серцам.** *Шчыра, без трывогі.* Паехыла я аттуліцька зь лёхкім серцым. Вы́кыжыць зь лёхкім серцым каго хочыш, і дайжа ні зыбрыдзі́ць у яго нійдзе.

**З ліца.** *Са знешняга выгляду.* Зь ліца нічога, а як там ужывецца зь ёю, хто ж іх зна́іць. Зь ліца́ як зь ліца́, а худзь ба хра́кцір ла́дный.

**З лішнім** (лішкам). *Звыш меры, нормы.* А па-мойму яны ця́мюцца ужо зь лі́шнім. Заплоціш сотню зь лі́шнім, ня меншы. Тута ня пуд, тут пуд зь лі́шкым, ты ж вазьмі́ зы хахол, пыднімі́.

**Злосці не хватаць.** *Пра надыход абыякавасці ў злаванні.* Другей раз так дывяду́ць, што злосьці ні хвыта́іць. Ніякія злосьці ні хвыта́ла на тых бусурма́ныў, настолька яны душу выіда́лі. *Зак., рэдкаўж.* **Злосці не хваціць.** Ні ў кога б злосьці ні хваці́ла раз зы разым уніма́ць вас.

**Злэй** (злый) **на язык.** *З'едлівы.* К Кузьме толька пупадзі́ся, ён злэй ны язы́к. Коля быў злый ны язык, дужа, бува́ла, ні рашшу́ціцца.

**Злэй** (злый) **язык.** *Пра з'едлівага.* Найшлі́ся злэя ізыкі́, дынясьлі́, і каму ён так стаў колык. У Трахіма быў злый язы́к, ды яшчэ якей.

**З маё.** *Столькі, колькі я.* Пыжыві́ ды пыспыта́й з маё, тады пызна́іш, пачом хунт ліха. Вы́цірьпі з маё, а тады гывары́. Сядзець ды руссуждаць кажныму лёхка, а каб пірінясьлі з маё, тады б іначы гываріл пра ўсё.

**З макава зярэнца.** 1. *Вельмі маленькі.* Там і кумушок быў з ма́кыва зяренца, а зуб вы́крышыў. Радзі́ўся во такей, з ма́кыва зяренца. 2. *Вельмі мала.* Зьеў там з ма́кыва зяренца.

**З маладых гадоў.** *Ад самага дзяцінства.* З мылады́х гадоў пашоў па плотніству. Хы́рлііць з мылады́х гадоў, усё яму нідылі́га́іць.

**З маладых, ды ранній,** *неадабр. Пра спрытнага не па гадах.* Ты, я віджу, з мылады́х, ды ра́ньній, ра́ншы бацькі на шы́біницу лезіш.

**З маладых нахцей,** *рэдкаўж. Ад самага дзяцінства.* Вам цяперя ня тоя, што нам було, мы з мылады́х нахцей зы работу бра́ліся. З мылады́х нахцей г дзелу прівў́чаны.

**З малаточка,** *жарт. Новенькі.* У цябе ту́хлі з мылаточка. Рызадзеўся — усё з мылаточка, а зыдыва́ньня нямерныя.

**Змарозіць чапуху** (ярунду, чуш), *неадабр. Сказаць глупства, бязглуздзіцу.* Адзін якую чупуху́ змарозіць — і пашло гуля́ць ат ізыка́ к ізыку́: гыварі́лі, гыварі́лі. Ніхто там ні пірюстрюка́ў і ні зьбіра́ўся пірястрэць, ета змарозілі іруңду́. Змарозіць тую чуш мог толька Аксён, кромі яго ніхто б ні даду́мыўся.

**Зматываць вудачкі.** *Пакідаць месца.* Пыра́ зма́тывыць ву́дычкі, нечыга ждаць у моря пагоды. *Зак.* **Зматаць вудачкі.** Так скорінька змыта́ў ву́дычкі, што ніхто й ні зацеціў, айдзе й дзеўся. *Узмацн.* **Пазматываць** (пазматаць) **вудачкі.** Як нашы хлопцы пыдыйшлі́ яшчэ, яны жы́ва пызма́тывылі ву́дычкі. А я дзіўлю́ся, чаго б, ду́мыю, так скора яны пызмыта́лі ву́дычкі.

**З места ў кар'ер.** *Адразу.* Пыдыйшла́ і бяз доўгіх рызгаворыў зь места ў карьер: ці ду́мыіш з маёю дачкою сходзіцца? Ета зра́зу бяру́ць зь места ў карьер, ціріш час асты́нуць.

**З мухамі ў галаве,** *неадабр. Дурнаваты, бесталковы.* Што ат яго хацець, кылі ён з му́хымі ў гылаве. Пупа́ла сабе нейкыга з му́хымі ў гылаве, троху жыву́ць.

**Змяіный выпаўзень,** *абраж. Нягоднік, паскуднік.* Я тога зьмяі́ныга вы́пыўзьня і знаць ні хачу́. Пыцягну́ліся некуды з Мыланкіным зьмяі́ным вы́пыўзьнім.

**Змяя падкалодная,** *асудж. Злы, каварны чалавек.* Ты яшчэ ні зна́іш такея зьмяі́ пыткалодныя. Аксюта нысты́шчыя зьмія́ пыткалодныя, во хто йна.

**З налёту** (наскоку). *Раптоўна, не задумваючыся.* Тыяка мне з налёту, дык я ажно спужа́ўся. Чаго ён кідыіцца з налёту? Яны ду́мылі, з наскоку што зьдзелыюць,— ні ўдалося.

**Знаць меру.** *Устрымлівацца ад празмернасцей.* Вот ці зна́іш ты калі-небудзь і ў чом-небудзь меру? Ува ўсім уся́кім у первую вочырідзь нада знаць меру.

**Знаць** (панімаць) **толк.** *Добра разбірацца.* Пархвен знаў толк ў каровых, бувáла, толька гляніць і зразу скáжыць, ці купляць, ці не. А чаго ж, Ганна пынімáла толк у жызьні, ня то што ты. *Зак.* **Увазнаць** (пазнаць, паняць) **толк.** Айдзе глумакý увызнáць толк у чом-ліба. Ці пызнáў толк, як яны цябе надýлі? Пыняў толк, чаго г дзеўкым бегыюць.

**Знаць сабе цану.** *Высока ацэньваць свае якасці, весці сябе паважна.* Хведзька знáіць сабе цанý, ён ня пойдзіць, як другея, піць сь первым устречным. *Зак., рэдкаўж.* **Увазнаць** (пазнаць) **сабе цану.** Раз ты ўвызнáў сабе цану, то што й гываріць с табою. Што ж, яны пызнáлі цяперіцька сабе цанý.

**Знаць сваё места.** *Быць сціплым.* Я ўсігдá знáла сваё места, ня лезла, куды мне ні нáда. Яны збутурáжуцца к Полькі к Паўлыўні і пашлі гылыгалець, а я ўсігдá знáла сваё места.

**Знаць** [усе] **хады і выхады.** *Умець выйсці з любога становішча.* Ціхона ні прывядзеш ні ў чом, ён знáіць хады і выхыды зь любога пылажэнія. Ну глядзí, надзеімся толька ны цябе, ты знáіш усе хады і выхыды. Аціраўся лі пісарёў, с памошнікым круцíўся, дык знаў усе хады і выхыды.

**Знаць цану.** *Высока ацэньваць.* Ён усякый вешчы знáіць цанý, бірягець як нада. *Зак.* **Увазнаць** (узнаць, пазнаць) **цану.** Раншы ж усё табе жонка ні так, жонка ня етык, а цяперя увызнáў жонкі цану? У вайнý і скарінычкі узнáлі цану. У жызьні прíдзіцца пызнáць цану усямý.

**Знаць цану-меру.** *Паводзіць сябе сціпла.* А ты дýмыіш, твыя Пёкла знáла каму-небудзь цанý-меру? Нада знаць зыдáчым цанý-меру.

**З неба валіцца.** *Прыходзіцца, даставацца вельмі лёгка.* А па-твойму мне зь неба ўсё валíлыся? — я работыў ні пыклыдáючы рук.

**З неба** (луны) **зваліцца.** 1. *Прыйсціся, дастацца вельмі лёгка.* Есьлі рук ні пріложыш, само зь неба ні зваліцца. Каб з луны звалілыся, ні дажджэсься, нада і пыразмысьліць, і ні прыспаць, і пыпацець. 2. *Нечакана з'явіцца.* Табе госьці усё дно як зь неба звалíліся. Ты што з луны

зваліўся, ніжда́на-ніга́дына. 3. *Выявіць незразумелую недасведчанасць.* Ці ты зь неба зваліўся,— пры Сашку ужо ўсе даўно зна́юць. Пря́ма з луны́ зваліўся — ня чуў, што тут ізыка́мі ныбря́зкылі. *Узмацн.* **З неба пазваліваццa.** 1. Жджы, усё само сабою зь неба пызва́ліiцца. 2. То, буваіць, німа-німа, то як зь неба пызва́люоцца — усе разым. 3. Вы сяньня усё дно што зь неба пызва́лівыліся, пра ета даўно зна́юць усі.

**З небальшым.** *Крышку больш.* Було ў тым куску́ хунты трі з нібальшы́м. Так, на вока метрыў пяць зь нібальшы́м було, а што яны трілюдзюць?

**Зніжаць тон,** *звыч. іран. Гаварыць спакойней.* Нада зьніжа́ць тон, так рызгавор ні палу́чыцца, сам зна́іш. *Зак.* **Знізіць тон.** Зразу було слова яму ні гыварі, а тады патрошку-патрошку зьнізіў тон. *Множн.* **Пазніжаць тон.** Прі мне пызьніжа́лі тон, знаюць, што са мною ні сарву́ць ду́жа. Спірва, знаіш, як пыдняліся—с колым у глотку ня ўлезіш, толька посьлі пызьніжалі тон трошку.

**Знімаць паследнюю рубашку.** *Разараць.* Во совісьць— зьніма́ць пасьледнію руба́шку, а яны ж, уродзі, дайжа сваімі шчыта́ліся. *Зак.* **Зняць паследнюю рубашку.** Уся сім'я проклітыя, што зьні́муць пасьледнію рубашку, і бацька такей, і дочкі па ім пашлі. *Множн.* **Пазнімаць паследнія рубашкі.** Надзейся, што сваё ўсту́пюць,— з другіх пасьледнія рубашкі пызьніма́юць.

**Знімаць стружку,** *іран. Прабіраць, лаяць.* Як сталі зьніма́ць зь яго стру́жку, як ста́лі — круціўся, што ўюн ны гыря́чый скыўрадзе. *Зак.* **Зняць стружку.** Ты дажджэсься, што сь цябе яшчэ раз зьні́муць стружку, луччы некуды зьні́муць. *Непаўн.* **Пазнімаць стружку.** Як пызьніма́лі стру́жку, пірістаў гы́кыць, слова ска́жыць, дык рызьбяреш. *Працягл.-фінальн.* **Назнімаць стружку.** І стружку ныльніма́лі зь іх, і ўсёроўна цілiпня́мі аста́ліся, як былі.

**Знімаць шапку,** *звыч. іран. Паводзіць сябе дагодліва, лісліва.* Я відзіў, як ты зьніма́ла ша́пку піріц сва́тым. *Зак.* **Зняць шапку.** Што ж ты ня хочыш зьняць шапку пiрiт кумою, пызаві, пыста́ў буты́лычку. *Непаўн.* **Пазнімаць шапку.** Пызьнімалі шапку пірід Гаўрілыю, ду́мылі, што раднёю ста́нуць. *Працягл.-фінальн.* **Назнімаць шапку.** Сколька Мішка ныльніма́ў шапку піріц Саўкінымі, проста чу́да.

**З ног да галавы.** *Увесь.* У тванішчы з ног ды гылавы́, цякець, плувець зь яго. *Гл.* З г а л а в ы д а н о г.

**З ног далоў.** *Упасці, злегчы.* Ішоў, ішоў, а тады з ног далоў пысярёд дарогі, пря́ма ў пылі́, дык чуць аткáілі. Ету зіму́ Аксюта з ног далоў, дайжа ні пыднімáіцца.

**З ног на галаву.** *У беспарадак.* З ног ны гылаву́ там пірівярну́лі ўсё чы́ста, ні рызьбяресься, што ды чаго.

**З носа** (галавы). *З кожнага прысутнага.* Па трыя́чкі з носа ські́нуліся, пару паўлітрыў узялі, заку́скі троху дый вы́пілі. Пу рублёўкі з гылавы́, во й гырманíсту будзіць уволю.

**Зорак з неба не хватаць.** *Пра пасрэдныя здольнасці.* Твой Сямён зорік зь неба ні хвытáў. Зорік зь неба ён ні хвытáіць, ну чылавек хызя́йлівый, можна жыць.

**З-пад зямлі.** *Любым шляхам.* Ён такей праны́рлівый, с-пыдзь зямлі што хочыш дыстáніць. Ты ж ні с-пыдзь зямлі бяреш такея кохтычкі.

**З-пад палкі.** *Па прымусу.* С-пыт пáлкі толька што і зьдзелыіць. Ніхай вядро вады прінясець, і то толька с-пыт пáлкі.

**З-пад рук.** *У час патрэбы.* Каб у мяне так с-пад рук схвацíлі, я б тожа богу ні малíўся б.

**З-пад** [самага] **носа.** *З вельмі блізкай адлегласці.* С-пад носа схвацíлі,— хто й як, мы ні замецілі. С-пыц сáмыга носа уцёк аць цябе пацьцёлык, і ты стыя́ў, куды ж ты глядзеў.

**З паследняга** (паследніх сіл). *Прыкладаючы ўсе намаганні.* С пасьледніга стыря́ліся, каб дагресьць усё, ні кідáць ны зáўтря. С пасьледніх сіл выбівáліся, каб вы́ўчыць абоіх. Ця́гніцца с пасьледніх сіл, каб ад другíх ні астáцца.

**З паталка,** *неадабр. Без падстаў, не маючы ніякіх даных.* Наверна, ты с пытылкá ета ўзяў. С пытылкá гаворіць, большы ніатку́ля ён ні пачу́ў.

**З патрахамі.** *Поўнасцю.* Ён, каб прімеў, с пытрыхáмі б цябе прыглыцíў. Зыбрáлі ўсё с пытрыхáмі.

**З паўслова.** *Адразу, без доўгіх тлумачэнняў або размоў.* Пецька ўжо наўчы́ўся с паўслова пынімáць. С паўслова схвацíў, к чаму гаворіцца.

**З паходам** (хвосцікам). *Крышку звыш меры.* Зьвесілі, дык трі ху́нты с паходым. Ка́жыцца, нібыльша́я клу́мка, а пыцягну́ла два пу́ды с хвосьцікым.

**З пенаю** [кала рота]. *Горача, злосна, заўзята (даказваць, спрачацца)*. Сь пеныю дыка́зывыў, што тут ніхто ні вінува́т. Як пацскочыць Мутрунёнык сь пеныю кыла рота: нашто вы яго трогыіця.

**З перапою.** *У выніку ап'янення.* Сь піряпою дык двору ні пупа́ў, у Мільлянёнкыву пу́ню зываліўся і спаў тама ўсю ноч.

**З першага слова,** *адз., мн. Адразу, без доўгіх размоў.* Я сь первыга яго слова пыня́ў, што тут нешта ні так. Сь первых слоў ста́ла я́сна, што яго пыцстрыпалі́лі, і дужа пыцстрыпалі́лі.

**З першага ўзгляда.** *Па першаму ўражанню.* Мы сь первыга ўзгля́да апрідзялі́лі, што ён зы чылавек. Ідзі, ты яго сь первыга ўзгля́да пызна́іш.

**З першых рук.** *Непасрэдна.* А ты лу́ччы вазьмі́ ды зайдзі́ г Дзянісывым, там ты сь первых рук усё ўзна́іш. Ай, пірaку́пка хужы німа, калі што брацъ, то сь первых рук.

**З перцам** (перчыкам), *іран.* 1. *Дзёрзкі.* Сь перцым дзеўкі, кыла іх дужа ні паходзіш, ні пылыта́ісься. Ганна была сь перчыкым, угадзі́ць ёй було ого як тру́дна. 2. *Дзёрзка.* Яму пыкыза́лыся, што сь перцым скыза́ла, як узьня́ў шу́ры-бу́ры. Як ска́жыць што сь перчыкым, дык і крыць нечым.

**З петухамі.** *Вельмі рана.* Сь пітуха́мі як уста́нім, дык і ныпрядзёмся і печ вы́тыпім ды дня. Сяньня пыдня́ліся сь пітуха́мі. С курямі лажысь, сь пітухамі ўстывай.

**З прахладцаю.** *Без натхнення.* Тут ты нешта бяресься зы работу с прыхла́ццыю. С прыхла́ццыю устрецілі зя́ця, нечым ні дыгадзі́ў.

**З пустымі карманамі,** *радзей* **з пустым карманам** (карманом). *Бедны, без грошай.* І ўсігда́ будзіць с пусты́мі кырма́нымі, раз прыпіва́іць усё чы́сьцінька. С пусты́м кырма́ным дренна жыць. Сядзеў месіц с пусты́м кырманом: усю палучку рыскаціў з друзьямі, во й гываpі.

**З пустымі рукамі.** *Нічога не купіўшы, не ўзяўшы; нічога не дабіўшыся.* Ну як жа с пусты́мі рука́мі у атведкі

іціць, ня пойдзіш с пусты́мі рукáмі. Дзень прутрубі́ў і прі́шоў с пусты́мі рукáмі: ні дыждáліся стыршыны́.

**З пушкі не прабіць.** *Пра немагчымасць пераканаць.* Лявона ня то што чым дойміш, яго с пу́шкі ні праб'еш. С пу́шкі ні прабі́ў ба — такей зыкарю́злый. **З пушкі прабіць.** Ты яго с пу́шкі папробый прабіць. Можа толька с пушкі і праб'еш, і то ці ўдáсца.

**З пялёнак.** *З ранняга дзяцінства.* Калі хочыш, каб дзіцёнык дзіцёнкым быў, прівучáй яго к рабоці сь пялёнык. Ты, знаць, сь пялёнык бріхáць наўчы́ўся.

**З п'яных вачэй.** *У стане ап'янення.* Упёрся ў балота с п'я́ных вачэй, каб людзі ні нырвáліся ды ня вы́цігнулі— заліўся б.

**З ранніх,** *іран. Незвычайна развіты; празмерна спрытны, цікаўны.* Я віджу, ты з рáньніх ду́жа, усю́дых су́іш свой нос, куды ня просюць. З рáньніх жа ты, як мáтка твыя.

**З рання да змяркання.** *Усё жыццё.* Што тут скáжыш пра Доньку: гурювáла іна з рáньня ды зьміркáньня. Ні ўдылáся жы́зьня з рáньня ды зьміркáньня.

**З рота тарчэць.** *Пра вельмі нясмачнае.* Во сьпіклá хлеб дык сьпіклá, ён жа з рота тарчы́ць, кускá ні праглоціш.

**З рук.** *Прыватным чынам, у прыватніка, выпадковага гандляра.* З рук — пупáлыся ку́ртка — купі́ў, кáжыцца, ні плыхáя. Нашто табе з рук браць, такога дыбра і ў мыгазіні вáлым нывáліна.

**З рукамі атарваць.** *Купіць з вялікай ахвотаю.* Ты прыдывáць ня ўмеіш, у мяне з рукáмі атарву́ць. Толька узьніслá ны бызáр, чуць з рукáмі ні атырвáлі, рысхвытáлі ды чысначы́ны у міну́ту.

**З рукамі і нагамі.** *З вялікай ахвотай, усё цалкам.* С такі́мі пулушу́бкымі толька пыкажы́ся ны бызáр, з рукáмі і ныгáмі схвáцюць.

**З рук не спускаць.** *Падоўгу трымаць на руках.* Што ў цябе зы прівы́чка, што ты ні спускáіш мáлыга з рук. **З рук спускаць.** Худзь ба іна спускáла калі хлыпцá з рук, дык не, бянтэжыцца зь ім і бянтэжыцца, а ён як цяльпу́х.

**З рук** (плячэй, плеч) **далоў.** *Пра вызваленне ад абавязкаў, клопатаў.* Скарей ба нам з рук далоў ету вылакіту, худзь ба вальней уздыхнýлі. Адна забота с плячэй далоў, мукá ёсьць, а зáўтря нада у хворыст зьезьдзіць. Вы́брылыся, схадзіла, цяперя забота с плеч далоў.

**З рук у рукі.** *Непасрэдна.* Нада було пірідáць з рук у рýкі, яно б і ні прыпáла. Такея вешчы з рук у рукі аддаюць. Аддай з рук у рукі, дык будзіш спакоін.

**Зрушыцца** (стронуцца) **з мёртвай точкі.** *Прыйсці ў рух.* Што там чýтна, ці зрýшыцца тваё дзела зь мёртвый точкі? Калі стронулыся зь мёртвый точкі, то можа як пойдзіць скарей.

**Зрушыць** (стронуць) **з мёртвай точкі.** *Прывесці ў рух.* Калі Піліп возьміцца, ён зрýшыць зь мёртвый точкі, а бізь яго ні папхнеш. У райспалкомі мне пымаглí стронуць зь мёртвый точкі, а сільсавет толька вылакíціў.

**Зрываць** (сарвываць) **маску.** *Выкрываць.* Якýю ты зь яго будзіш мáску зрывáць, што ён — айдзе прывініíўся, ці мы ні знáім, хто ён такей,— ны вычáх вы́рыс. Ты ўмеіш сáрвывыць мáскі, во каб сь цябе сырвáць. *Зак.* **Сарваць маску.** Дужа ні храбрíся, нáйдуцца людзі, сь цябе сарвýць мáску. *Множн.* **Пазрываць** (пасарвываць) **маскі.** Што, хырашы́ стáлі, як маскі пызрывáлі зь іх. Даўно нада було пысáрвывыць маскі, ато й так доўга бушувáлі.

**Зрэзу няма,** *цяп., пр., буд. Пра вельмі добры ўраджай.* Лі Глубокія кынáвы жыта зрезу німá. Ці помніш, як ат Ільлёвыя мяжы́ гною ўбýхылі, пышаніца вы́рысла — зрезу ні було. Кылі пагода ні пыткычáіць, тут жы́ту зрезу ня будзіць.

**З сабакамі не найціць** (не знайціць), *неадабр. Пра вельмі добра схаванае.* Як схувáіць што, с сыбáкымі ні нáйдзіш. Яны схувáліся, што с сыбáкымі ні знайшоў ба.

**З секунды на секунду.** *Вось-вось.* Сь сікýнды ны сікýнду должын падбежч, я даўно пыслáла. Жджом сь сікýнды ны сікýнду, ды ўсё німа.

**З серадзіны на палавіну** (з серадзінкі на палавінку). *Ні добра, ні дрэнна, збольшага, пасрэдна.* Вот, сь сірядзíны ны пылавíну троху зьляпілі, пýнчына ж нейкыя пулучы́лыся. Яны ўсігда так дзелыюць, сь сірядзíнкі ны пылавíнку.

**З серца вырываць** (выкідаць). *Прымушаць сябе забыць.* Так ужо ты будзіш і сь серца яго вырыва́ць. Раз так дзелыіць, то й сь серца выкіда́й, дужа яго жалець, чорта, на́да. *Зак.* **З серца вырваць** (выкінуць). А ты ду́мыіш мне Сярьгея лёхка було сь серца вы́рвыць? С хаты вы́гыню і сь серца вы́кіну, раз так атносіцца. *Узмацн.* **З серца павырываць** (павыкідаць). Саветывыць лёхка, а толька як ты пывырыва́іш сь серца, столька ўремя пражы́ўшы ўмесьці. Клыпаці́ла, гурюва́ла, біспакоілыся — хва́ціць,— сь серца пывырыва́ла і большы дайжа ня ўспомню.

**З серцам.** *У злосці.* Мала што ў жы́зьні бува́іць, калі можа і сь серцым ска́жыш. Бу́ркнуў сь серцым і пашоў скарей.

**З толкам.** 1. *Разумны.* Максім с толкым чылавек, абычаго ні тріпанець. 2. *Разумна.* Во ета, я віджу, с толкым зьдзелына. Ты ж с толкым рыскажы́, чылавек жа ні зна́іць тут нічога, первый раз.

**З тры корабы,** *неадабр. Вельмі многа* (*нагаварыць*). Ныплялі́ ўся́кія лухты́ с трі корыбы. Во прі́дзіць Аўсей, ён ныгаворіць с трі корыбы.

**З трэцціх рук.** *Праз іншых.* Мы пачу́лі ужо с трецьціх рук. Што там узна́іш с трецьціх рук, айдзе пра́ўда, айдзе ніпра́ўда.

**Зуб за зуб.** *Пра непрыязныя ўзаемаадносіны.* У Высіля с Хомкыю ужо даўно зуб за зу́б ідзець. Неік пычалося зуб за́ зуб, і цяперя адзін другому на сьлед ні нуступа́юць. Ці ета сяньня толька так зуб за́ зуб, у іх пашло с прошлыга года.

**Зуб на зуб не пападаець,** *цяп., пр. Пра змерзлага да дрыготкі.* Укацілыся у хату, дык у мяне пря́ма зуб на зу́б ні пыпыда́іць. Куды яму яшчэ на холыд, ён трёсься толька што, зуб на́ зуб ні пыпыда́ў. *Зак.* **Зуб на зуб не пападзець.** Пірікалеіць у пла́шчыку, у яго зуб на́ зуб ні пупадзець.

**Зубы лупіць** (скаліць), *груб. Смяяцца здзекліва.* Нічога тут сьмешныга німа́, вам каб толька зу́бы лупі́ць. Стыя́лі там збоку, ска́лілі нешта зу́бы. *Непайн.* **Зубы палупіць** (паскаліць). А ніхай, палу́пюць зубы ды пыця́гнуцца, а ўспыка́івыючы сьмеху толька надзелыіш. Есьлі яны пыска́лілі зубы, дык што мне ат таго зьдзелылыся. *Пра-*

*цягл.-фінальн.* **Зубы налупіць** (наскаліць, далупіць, даскаліць). Нулупілі зубы — ляцелі сь сянец тыршма носым. Адзін ужо ныскáліў зубы — рявець, цяперя твыя вочырідзь. А во так зубы дулупíў, што стыяў паўвечыра ў вуглý. Дыскáліш ты ў мяне зубы, узноў палýчыш, што на той нядзелі було.

**Зубы паламаць** (абламаць, паламіць, абламіць, зламаць, зламіць). *Пацярпець няўдачу.* Са мною табе ні зь Дзімідзёнкым, зубы пулумáць можыш. Не, на мне ты зубы аблумáіш скора. Глядзí, глядзí, храбрец, зубы пыламíць тут можна. Зь Лявоным ты мíгым зубы абломіш, ета ні сь Цімошыхыю хвытáцца. Ні знáю, як тут пуцступíцца, злумáць зубы тут злумáіш. Гыварíла, ён будзіць дзелыць, што захочыць, а тут зламíў зубы. *Узмацн.* **Зубы паабламаць** (паабламываць, паабламіць, паабламлíваць). Цяперя хрáбры, што тэй дзяржы́ць іх, а паедзіць — скора зубы пыаблумáюць. Чаго хацелі, таго і дыждáліся, пыаблáмывылі зубы і ня пікнуць большы. Пабломюць зубы і твае вогірі, дугуляюцца с агнём. Сам увíдзіш, як пыблáмлівыюць зубы, нядоўга астáлыся ждаць.

**Зубы прадаваць,** *неадабр.* 1. *Попусту, бязмэтна знаходзіцца.* Мыланка там, вíдзіла, зубы прыдывáла, тарчэла кылы шумінічáнь. 2. *Смяяцца беспрычынна.* Стыяў ба, зубы прыдывáў і большы нічога.

**Зубы ціснуць,** *цяп., пр. Пра задзірлівыя паводзіны.* Есьлі зу́бы цíснуць, мы іх табе скора прарвдзім. Сашку даўно зубы цíснулі, усё нíйдзе ні було угамоньня. Зу́бы ў яго, вíдна, цíснулі, што лі іх пыхадзíлі с кулукáмі.

**Зубы** (язык) **часаць,** *неадабр. Балбатаць.* Сідзяць пыд Аўдотычкіныю хáтыю, зубы чэшуць. Ап каго яны тáмыцька ізыкí чысáлі? *Непаўн.* **Зубы** (язык) **пачасаць.** Пычысáлі зубы і пыцягнýліся тэй у тэй бок, а тэй у другей. Язык пычысáла і йдзі печ тапíць, ато й к абедзьдзю ні заслоніш. *Законч.* **Зубы** (язык) **адчасаць.** Пакуль зубы ні аччэшуць, ны вярёўкых іх ні рысьцягніш. Да поўнычы, знаць, сядзелі, во ізыкí аччысáлі. *Працягл.-фінальн.* **Зубы** (язык) **начасаць** (дачасаць). Нычысáлі зубы, што большы некуды. Ці нычысáў язык сы сваíмі ніныглядными, узноў ны каго-то напелі? Ніхай, ніхай, дачэшуць зубы, ні палýчыцца ні тут нічога, ні там ні радзíмца ня вы́бігыюць. Ты дачэшыш язык ікрáз так, як Хвядора сы сваёю кумою.

**З ходу.** *Адразу, без асаблівых цяжкасцей.* С ходу рэшыць любую зыдачу,— такей пынятлівый. Нашы ў сорык трецьцім с ходу піряйшлі Сож і пашлі дальшы.

**З храбрага дзесятка,** *звыч. іран. З самых рашучых.* Ты, канешня, с храбрыга дзісятка: зайца увідзіш і кытанеш уцікаць.

**З цяжолым серцам.** *З прадчуваннем нядобрага.* Сь цяжолым серцым еду я сяньня ў лес. Як сам пріччуствывыў бяду: гываріў, сь цяжолым серцам выпрыўляюся.

**З чужога пляча.** *Не ўласнае (пра адзенне).* Дзед вун рыскызывыў, што ён дайжа пыд вянец ныдзіваў пінжак ш чужога пліча. Ш чужога пліча мне ня дужа што падойдзіць.

**З чужых слоў.** *З размовы іншых.* Ну й што, што я гывварю ш чужых слоў, а есьлі ета праўда. Ні прівучайся гываріць ш чужых слоў, сваёю гылавою думый.

**З чыстай совесцю** (душою). *Без граха на душы.* Мне абманывыць незычым, паетыму я і гывару ш чыстый совісьцю. Я ж к табе ш чыстыю душою, нашто мне ўгаць. Каб рыскызаў усё, як було, і паехыў ба ш чыстыю душою.

**З чыстым серцам.** *Шчыра, адкрыта, даверліва.* Я зразу пынілá, што тут ён ш чыстым серцым гаворіць. Аддам, думыю, усё ду мутузінкі, ніхай ш чыстым серцым буду.

**З якой** (якея) **нагі скакаць** (танцаваць), *звыч. іран. Пра неабходнасць папярэдняга разліку ў дзеяннях, паводзінах.* Тут ужо я ні знаю, зь якой нагі скыкаць піряд ім. Ніяк апрідзяліць ня можыць, зь якея нагі скыкаць пірiц сваёю ніныглядныю кралію, нулюбувацца ня можыць. Ну, зь якой жа нагі ты тунцувала пірідзь зіцямі? *Непайн.* **З якой** (якея) **нагі паскакаць** (патанцаваць). Хто ж тама угледзіць, зь якея ты нагі пыскачыш пірiц стыршыніхыю. Мы дык зразу відзілі, зь якой нагі ён пытанцуіць. Як пріехыла, ны задніх лапкых хадзілі, ні знали пряма, зь якоя нагі путунцуваць піряд ёю.

**Зялёная вуліца.** *Свабодны шлях.* Куды ня пойдуць, усюдых ім зялёныя вуліца, іх дужа увыжаюць. Во ідуць вогірі, дывай ім зялёныю вуліцу.

**Зямля гаворыць,** *цяп., пр., буд. Пра шырокае распаўсюджанне чутак.* Каго ён у Кудрічых прайціць хочыць,

кылі тут пры яго сыма зімля́ гаворіць. Як сыйшліся, як сьпеліся, пра іх тады зімля́ гываріла. Ды Аўдотычкіных вушэй ніхай толька што да́йдзіць, зімля́ будзіць гываріць. *Пачын.* **Зямля загаварыла,** *пр., буд.* Ну, яны ж і дзелылі, чаго ні вытвыря́лі, тады пряма зімля́ зыгываріла. Есьлі Пятрок прiедзіць, узноў скру́ціцца с Анькыю, апяць зімля зыгаворіць.

**Зямля пад нагамі гарыць,** *цяп., пр., буд. Пра невыноснае становішча.* Што ж ты дзелыіш і як ты ду́мыіш, у цябе ж зімля́ пыд ныга́мі гаріць. Нада, каб у іх ува ўсіх зімля́ пыд ныга́мі гарела, каб ны ка́жным шагу́ па́льцымі ты́кылі са ўсіх бакоў. Ні пірістаніця так дзелыць, зімля́ ў вас пыд ныга́мі будзіць гарець.

**Зямля пад нагамі шатаецца,** *цяп., пр., буд. Пра хісткае, ненадзейнае становішча.* Відзілі яго, ці даўно фонбароным хадзіў, а цяперь зімля́ пыд ныга́мі шыта́іцца. У іх даўно зімля́ пыд ныга́мі шыталыся, ета храбріліся толька. Зімля будзіць пыд нытамі шыта́цца, а яны ні пыка́юцца, як тваріли, так і тваріць будуць. *Пачын.* **Зямля пад нагамі зашаталася,** *пр., буд.,* Як зышыта́лыся зімля пыд ныга́мі, тады хваціўся за розум, бягіць: «Што дзелыць?» Есьлі ўжо зышыта́іцца зімля пыд ныга́мі, заві нас, мы прідзім на помышч. *Аднакр.* **Зямля пад нагамі пашатнулася,** *пр., буд.* Раншы Зьмітраковых було ні пыткалу́піш, сядзелі крепка, ета посьлі ў іх зімля́ пыд ныга́мі пышатну́лыся. Ні стаў ждаць, паку́ля зімля́ пыд ныга́мі пышатнецца, пачу́ў — ды́мым па́хніць, і ў пуць.

# СЛОЎНІК
## (словы з ілюстрацыйных прыкладаў)

**Аббіцік** *м.* Гладыш з абабітымі краямі. *Чуць ліпіць аббіцік, бярі яго астарожна дзьвюмя рукамі зьнізу.*

**Абгадаць** (абгыдаць) -а-ю, -а-іш; *зак.* Набыць пры сціплых матэрыяльных магчымасцях.

**Абглодычак** (абглодычык) *м.* Абгрызеная драўляная лыжка.

**Адпраць** (атпра́ць) -р-у́, -р-е́ш; *зак.* 1. Закончыць перыць; адмыць перучы. *Яны ж мне пымыга́лі, ну й я на той нядзелі атпяру́ Ганьні. Настолька заношына, што ня толька ацьцерць, а й атпра́ць ні атпяреш.* 2. *перан.* Пабіць.

**Адчысціць** (аччы́сьціць) -шч-у, -ц-іш; *зак.* 1. Адчысціць. *Дзёгыць ныўряд ці аччы́сьціш чым.* 2. *перан.* Моцна пабіць, налаяць. *Ва́рычка цябе яшчэ аччы́сьціць, толька пупадзесься ёй на вочы.*

**Акурыцца** (аку́ріцца) -р-юся, -р-ісься; *зак.* Асталявацца на сталае жыхарства пасля доўгіх блуканняў.

**Атаміць** -м-іць; *зак.* Змарыць. *Нешта мяне так атаміла, ні магу дух пірявесьць.*

**Барстваваць** (ба́рствывыць) -вы-ю, -вы-іш; *незак.* Жыць па-панску. *Я ж піклу́юся, і ў грязь, і ў холыд цягну́ся, а ты ба́рствыіш за мною.*

**Батракаваць** (бытрыкыва́ць) -ку-ю, -ку-іш; *незак. іран.* Прыслугоўваць, працаваць на іншых.

**Баярыць** (быя́ріць) -р-ю, -р-іш; *незак. гумар.* Працаваць; дзейнічаць. *Паехыла, дык быя́рій месіц адзін, а айдзе ж ён дзеніцца.*

**Біндзюгай** (біньдзюгай) *м. асудж.* Гультай; лодыр; вісус.

**Бяды** *прысл.* У крык, у лямант. *Пёкла бяды́, чаго ты ні пріходзіш. Дужа бяды́ стыршына́ ны рыбаловый на тых: зыста́ўлю работыць.*

**Вараціцель** (выраціціль) *м. іран.* Кіраўнік, галава.

**Вертаглаз** (віртыгла́з) *м.* і *ж.* Балаўнік, распуснік, сарвігалава. *Такея віртыгла́зы, ня слу́хыюць яе ні ка́плі.*

**Віліна** *ж.* Крывуліна, скрыўленне.

**Вопаўзкам** (вопыўзкым) *прысл.* Паўзком. *Пы быразёнкі вопыўзкым, вопыўзкым і ў кусты́.*

**Выказаць** (вы́кызыць) -ж-у, -ж-ыш; *зак.* 1. Выказаць, сказаць. *Ішчэ ня ўсё я табе вы́кызыў, калі-небудзь дыба́ўлю.* 2. Выдаць. *Суседка цябе й вы́кызыла, большы ніхто.*

**Выкалатырыць** (вы́кылытыріць) -р-ю, -р-іш; *зак. неадабр.* Аббегаць, выбегаць.

**Вырвас** (вы́рвыс) *м. неадабр.* Балаўнік, распуснік. *Па кім етый вы́рвыс зыда́ўся?*

**Гукаць** (гу́кыць) -ы-іць; *незак.* Трывожна, неспакойна рохкаць.

**Гэрчык** *м.* Той, хто можа падкусіць, зрабіць непрыемнасць. *Ух, быў гэрчык, толька й глядзеў, каго сь кім зьвесьць.*

**Даступный** *прым.* 1. Даступны. 2. Прабіўны, настырны. *Ра́зьвітыя была́, дасту́пныя, усяго мыгла́ дабіцца.*

**Дахвальства** (дыхва́льства) *н. неадабр.* Выхваленне. *Зыда́ч, як у цябе, ды дыхва́льства цярьпець ні магу.*

**Дзікавацца** (дзікува́цца) -ку-юся, -ку-ісься; *незак.* Дзівавацца, глядзець са здзіўленнем. *Дзелыіця, што людзі толька дзіку́юцца.*

**Дыгалы** (ды́гылы) *мн. груб.* Ногі. *Вы́стывюць ды́гылы, што глядзець бры́дка.*

**Журжа** *ж. неадабр.* Мажная гультаяватая жанчына, якая попусту траціць энергію. *Вун дзьве журжы, к рабоці ні прітуркыць.*

**Жырыстый** (жы́рістый) *прым.* Сыты; тлусты, доўга кормлены. *Хырашо укармілі, жы́рістый кыба́н.*

**Жыціна** 1. *ж.* Адно сцябло жыта. *Жыціна к жыціні— во й сноп.* 2. *н. пагардл.* Жыта (зерне і расліны).

**Завальняць** (зывыльняць) -я-ю, -я-іш; *незак.* Забараняць. *Хто ж яму зывыльняў купляць тулўпчык?*

**Задачы** (зыдáчы) *мн. неадабр.* Задаванне. *Каму толька іх зыдáчы ня збрыдзілі.*

**Закласць** (зыкласьць) -лад-у, -ладз-еш; *зак.* 1. Закласці. 2. Пачаць, пачацца. *Як зыклáла з раньня мальбоны, к вечыру ці сьціхніць.*

**Закубрыць** (закýбріць) -р-ю, -р-іш; *зак. жарт.* Узяць з сабою; уцягнуць у якую-н. справу. *Закýбрілі нашых у рістырáн, пывялі.*

**Закупацца** (зукупáцца) -а-юся, -а-ісься; *зак.* Змокнуць, ходзячы па роснай траве, кустах. *Зукупáліся у ріхáх посьлі дажджý.*

**Заматаць** (зымытáць) -а-ю, -а-іш; *зак.* 1. Заматаць. 2. Завярцець. *Пýгыю як джыгнý, ён як зымытáіць хвастом і ні зь места.* 3. *перан.* Скруціць.

**Запаіць** (зыпаíць) -а-ю, -о-іш; *зак.* Закупіць, поячы гарэлкай. *Ня то етыга атряху, любога чорта запоюць.*

**Запеляскацца** (зыпіліскáцца) -шч-ýся, -шч-ысься; *зак.* Змокнуць, намокнуць. *Зыпіліскáліся ны сáжылкі с палотнымі.*

**Запоеный** (запоіный) *дзеепрым.* Закуплены гарэлкай. *Я зрáзу пыняў, што ён запоін.*

**Заступа** 1. *ж.* Абарона. 2. *м.* і *ж. жарт.* Абаронца. *Сьціхні, сьціхні, застýпа твыя ідзець. Увідзіў сваю застýпу, рад.*

**Захватацца** (зыхвытáцца) -а-юся, -а-ісься; *зак.* Заматацца, стаміцца, беручыся за некалькі спраў адразу. *Зы рáньня зыхвытáісься сь печчу, пряма амягніш.*

**Захвацістый** (зыхвáцістый) *прым.* З шырокім захватам (пра серп).

**Зацьмень** (зáцьмінь) *ж.* Часовае пацямненне; часовая страта свядомасці. *Стáла зáцьмінь пірід гразою, хуць сьвет палі. Урімінáмі зáцьмінь находзіць, ціряіць сызнáнія.*

**Зацэліць** -і-ю, -і-іш; *зак.* Застацца цэлым, некранутым. *С такімі атлётымі дзеўкі, дýмыіш, зацэліюць?*

**Збутура́жыцца** -ж-ыцца; *зак.* Збіцца ў кучу; набіцца ў памяшканне.

**Зглума́чыцца** -ч-уся, -ч-ысься; *зак.* Змарнавацца, прапасці. *Ні так многа чаго й було, алі й тоя зглума́чылыся.*

**Каенчыць** -ч-у, -ч-ыш; *незак.* Мучыцца, стагнаць. *Другей месіц каенчыць з рукою, і ня йдзець на ўлуччэньня.*

**Какаты** (кыка́ты) *мн.* Кіпцюры; вялікія ногці.

**Карчэць** -э-ю, -э-іш; *незак.* 1. Мерзнуць. 2. Гібець у працы, надрывацца. *Яны ў грыша́х купа́ліся біззаботна, а ты карчэў, каб капейку заробіць.*

**Кастрывый** (кастрі́вый) *прым.* 1. Кастрывы. *Кастрівыя пінька́, ні к чорту годныя.* 2. Няўжыўчывы, сварлівы.

**Кахлянка** (кыхля́нка) *ж.* Кафляная печка.

**Красень** *м. іран.* Здаравяк. *Кыча́іцца красень пы крыва́ці, ны работу не, ні пытхва́цін.*

**Красняк** (крысьня́к) *м. іран.* Здаравяк. *Крысьняк разьдзелыўся — у воз зыпрігай, тріццыць пудоў пыцягніць.*

**Лянцёха** (ляньцёха) *ж. неадабр.* Няўмелая, нязграбная, гультаяватая жанчына.

**Лярва** асудж. 1. *м.* і *ж.* Гультай, абібок. *З рук вон ля́рва стаў, сам ны сябе ляніцца зьдзелыць.* 2. *ж.* Распусная жанчына.

**Масць** (масьць) *ж.* 1. Колер шэрсці каня. 2. Разрад карт. *Адна чо́рныя масьць пыдыйшла.* 3. Лекавая мазь.

**Машаравацца** (мышырыва́цца) -ру-юся, -ру-ісься; *незак.* Праяўляць энергію ў дзеянні, разыходзіцца, шумець.

**Машараваць** (мышырыва́ць) -ру-ю, -ру-іш; *незак. Гл.* Машаравацца. *Чаго ён узноў мышару́іць, хто яму ні ўла́дзіў?*

**Набоўкнуць** -н-іць; *зак.* Набрацца вадой.

**Наброхацца** (набрёхыцца) -ы-юся, -ы-ісься; *зак., груб.* Напіцца (звыч. вады).

**Нажадацца** (ныжа́дыцца) -ы-юся, -ы-ісься; *зак. асудж.* Здаволіцца, беручы, хапаючы, цягнучы. *Відзіш, ныжа́дыліся, большы нічога ні нада.*

**Накашаляць** (ныкышыля́ць) -я-ю, -я-іш; *зак. неадабр.* Нарабіць беспарадку. *Накідыіць, ныкышыля́іць, заверніцца і пойдзіць, а каб упыря́ччыць — не, другей бяріся.*

**Напаяць** (ныпыя́ць) -я-ю, -я-іш; *зак.* 1. *спец.* Напаяць. *Хырашо тапор ныпыя́лі.* 2. Моцна высеч.

**Нарт** *м.* і *ж. неадабр.* Назола, упарты. *Нада ж такім на́ртым быць, як прістаніць, як ныв́яжыцца — ні таб'есься.*

**Насцігаць** (нысьціга́ць) -а-ю, -а-іш; *незак.* 1. Даганяць. *Ста́лі нысьціга́ць, дык ён у кусты.* 2. Прымушаць, дабівацца. *Доўга нысьціга́лі, каб я ім аўцу́ завёз.*

**Насытацца** (нысыта́цца) -а-юся, -а-ісься; *зак. груб.* Здаволіць прагнасць. *Не, яй-богычку, етыга ня бу́дзіць, каб яны ды нысыта́ліся калі.*

**Наўдобу** *прысл.* Нібы, быццам бы. *Наўдобу Мыкар, ды, ка́жыцца, ня ён.*

**Наярыжыць** (ныяры́жыць) -ж-у, -ж-ыш; *зак.* Падбухторыць. *Мы знаім, хто цябе ныярыжыў так.*

**Незбалазь** (незбылызь) *ж.* Ахвота. *Іка́я вам незбылызь грязь іціць мясіць.*

**Ніціць** -ч-у, -ц-іш; *незак.* Скручваць ніткі ў некалькі столак. *Усё посьлібедзьдзя сядзелі ўдзьвюх, ніцілі.*

**Няўрома** (няўрёма) *м.* і *ж. неадабр.* Вельмі неакуратны. *Чаго ж ты еткій няўрёма, айдзе ня сту́піш, прібірай зы табою.*

**Пабядзіцца** (пыбядзі́цца) -дз-іцца; *зак.* Прыйсціся, давесціся.

**Павыхлянуць** (павы́хлінуць) -н-іць; *зак. лаянк.* Павыйсці.

**Падлежч** -г-у, -ж-ыш; *зак.* 1. Легчы побач праз пэўны час. *Я і ня чу́ла, калі ты пыдлігла́ ка мне.* 2. *жарт.* Узяцца, прыняцца.

**Паднуцкываць** (падну́цкывыць) -вы-ю, -вы-іш; *незак. неадабр.* Падбухторваць. *Ён усё мяне падну́цкывыў выступа́ць.*

**Падшчасціць** (пычшчасьці́ць) -ц-іць; *зак.* Добра ўдацца.

**Пазнячок** (пызьнячок) *м.* Позна народжаны (пра жывёлу). *На́ зіму пызьнячкоў ні дай бог, ні хачу́.*

**Пайка** *ж.* Участак. *Чуць спра́віліся, ужо ў пріцімкых дыка́шывылі па́йкі.*

**Папервасці** (папервысьці) *прысл.* Спачатку; раней. *Папервысьці яны дужа юціліся к нам.*

**Паразітный** (пыразітный) *прым.* Дрэнны, нягодны.

**Паскутаць** (паску́тыць) -ы-ю, -ы-іш; *зак.* Сагнаць у цесны гурт.

**Пасцю** (па́сьцю) *прысл. асудж.* Адкрыта, адчынена; недароблена. *Дзьвері па́сьцю, вокны па́сьцю і ў ха́ці ні жывэя душы.*

**Патурала** (путура́ла) *м.* і *ж. неадабр.* Папіхач. *Так і ню́хыіць, каб найціць сабе путура́лу.*

**Паязджаць** (пыіжджа́ць)-а-ю, -а-іш; *незак.* Папіхаць. *На мне пыіжджа́ць ня цэльціся, я ськінуць магу́.*

**Перастракаць** (пірюстрюка́ць) -а-ю, -а-іш; *незак.* 1. Сустракаць са зламыснымі намерамі. 2. *іран.* Дагаджаць. *Пірюстрюка́іць сваіх сватоў, ні зна́іць, чаго ім паднесьць.*

**Перахалопіць** (піріхалопіць) -пл-ю, -п-іш; *зак.* Перабраць меру. *Тут вы сы сваімі ізыка́мі піріхалопілі, пудду́рілі вас і ўсё выпытылі.*

**Перахлябістый** (піріхля́бістый) *прым.* Высокі тонкі.

**Подрасні** (подрысьні) *мн.* Падросткі. *Відзіш, ужо ла́дныя подрысьні вы́кычыліся, гадоў пы чаты́рныццыць.*

**Попад** (попыд) *м.* 1. Пакаранне. 2. Гібель. *Якей ета попыд ны ціпля́т нывалі́ўся?*

**Празор** *м.* Свабоднае месца накшталт шчыліны; прасвет. *Лі плітня́ ў цябе кылы бярёзык ла́дный празор.*

**Празорына** (празоріна) *ж.* Свабоднае месца накшталт шчыліны. *Айдзе іка́я празоріна была, усё дрыва́мі зыкла́ў.*

**Прайціць** прайду, пройдзіш; *зак.* 1. Прайсці. 2. Падмануць, перахітрыць.

**Пракавуліна** (прыкаву́ліна) *ж.* Маленькі завулак, пад'езд да двара. *Кінуў калёсы у прыкаву́ліні.*

**Пралузнуцца** (прулузну́цца) -н-ецца; *зак.* Вырасці, паказацца (пра плады). *Ужо й гурочкі прулузну́ліся, і сыла́т ішчэ ёсьць.*

**Прасол** *м.* Ра́сол. *На-ка паку́швый, якей прасол сма́шный.*

**Пратрубіць** (прутрубі́ць) -бл-ю, -б-іш; *зак.* 1. Пратрубіць. 2. *перан. неадабр.* Растраціць, змарнатравіць.

**Прыбудушчый** (прібу́душчый) *прым.* Будучы, надыходзячы. *Ны прібу́душчыя лета ні я буду, што ў Мінск зьежджу.*

**Прынароднямя** (прінароднямя) *прысл.* У прысутнасці іншых, адкрыта, ня таячыся.

**Прыпутаць** (пріпу́тыць) -ы-ю, -ы-іш; *зак.* 1. Спутаць спехам. *Пріпу́тыў пывадком, ён сла́біенькій і пырва́ўся.* 2. Злавіць, заспець.

**Прыстаўкі** (прістыўкі) *мн. неадабр.* Вычваранне, прыстаўленне. *Я тваіх прістывык доўга цярьпець ня буду.*

**Прышлі** (прішлі) *прысл.* Лепш, зручней. *Вам ба прішлі новыю хату ныпыта́ць.*

**Пупёлашкі** (пупёлышкі) *мн.* Маленькія, недаразвітыя плады; завязь. *Ну гуркі сёліта ня год, пупёлышкі койайдзе ліжа́ць па нохцю.*

**Путній** *прым.* Здольны, дзелавы. *Каб жа пу́тній чылавек быў, ато ж ніпуцьцё пасьледнія.*

**Путніна** *м.* і *ж. неадабр.* Балаўнік. *Ох, путніна, німа ны цябе піряломы.*

**Путніца** *м.* і *ж. неадабр.* Балаўнік.

**Пуццё** (пуцьцё) *неадабр.* 1. *н.* Толк, лад. 2. *м.* і *ж.* Балаўнік. *І мыя́ такоя пуцьцё, як твой.*

**Пялетаваць** (пялетывыць) -ывы-ю і -ы-ю, -ывы-іш і -ы-іш; *незак.* Есці з апетытам, прагна. *Ныработыіцца, дык пялетыіць толька пыдыва́й.*

**Равануць** (ріваньу́ць) -н-у, -н-еш; *зак.* 1. Раўнуць. *Уродзі у тым баку ріваньу́ла, схадзі-ка пыглядзі лі копык.* 2. *перан.* Заплакаць.

**Раздрахцець** (рыздряхцець) -е-ю, -е-іш і -ц-іш; *зак. неадабр.* Растаўсцець, растлусцець.

**Раллё** (ральлё) *неадабр.* 1. *н.* Беспарадак. *Айдзе ты ў етым ральлі як рызьбяресься ці найдзіш што.* 2. *м.* і *ж.* Няўмека, неакуратны.

**Раскакацістый** (рыскыкáцістый) *прым.* Сукаваты, развесісты.

**Раскаціць** (рыскаціць) -ч-у, -ц-іш, *зак.* 1. Раскаціць. *Дурáчыліся і рыскацілі бярьвеньня.* 2. *перан.* Моцна парэзаць. *Рыскаціў ладонь ды касьці, кылі зыжывець цяперя.* 3. *неадабр.* Растраціць.

**Распекаваць** (рысьпікувáць) -у-ю, -у-іш; *зак.* Адкрыць (бутэльку, банку). *Я ні знаю, як рысьпікувáць ету банку.*

**Распятый** (рысьпя́тый) *прым. неадабр.* Раскрыты, расчынены; недароблены.

**Рассядацца** (рысьсідáцца) -а-юся, -а-ісься; *незак.* 1. *неадабр.* Рассядацца. 2. Трэскацца. *Во калі, ат кліна стала рысьсідáцца калода.* 3. *асудж.* Крычаць. *Паслýхый-ка, чыя то етык рысьсідáіцца, аж поля тряшчыць.*

**Расхадовый** (рысхадовый) *прым.* Неэканомны. *Такей рысхадовый: мáтка дылá болі сотні грошы — усё рыскаціў.*

**Расчацца** (рышчáцца) -ан-уся, -ан-есься; *зак.* Пачаць. *Рышчáліся сь сенцымі і ні пасьпелі накрыць, так зызімувáлі.*

**Расчынацца** (рышчынáцца) -а-юся, -а-ісься; *незак.* Пачынаць. *Дужа ні саветыю рышчынацца з банію.*

**Расчысляць** (рышчысьля́ць) -я-ю, -я-іш; *незак.* Меркаваць, разважаць, думаць. *Мы рышчысьля́лі так, што етый чылавек пыгарэліц, выбіўся, угасьціў.*

**Росць** (росьць) растý, расьцеш; *незак.* 1. Расці. 2. Атрымліваць задавальненне. *Ты, я віджу, расьцеш, што табе лішнія ношычка пірíпáла.*

**Састаўляцца** (сыстыўля́цца) -я-юся, -я-ісься; *незак.* 1. Састаўляцца. 2. Будаваць, будавацца.

**Скаверкаць** (скаверкыць) -ы-ю, -ы-іш; *зак.* 1. پеракрыўляць. 2. Сапсаваць. *Там нічога дужа путнога ні було, алі ж і тоя скаверкылі.*

**Скачарожыцца** (скычарёжыцца) -ж-уся, -ж-ысься; *зак.* Сагнуцца. *Саўсім скычарёжыўся, спіны рыспря́міць ня можыць.*

**Склейный** *прым.* Умелы; панятлівы. *Склейный хлопіц, усё відзіць ны хаду́ і схва́тыіць.*

**Скружы́ць** -ж-у́, -ж-ыш; *зак.* Злёгку прасеяць рэшатам, каб адыходы аказаліся зверху.

**Следачок** (сьлідачок) *м. гумар.* Апошні. *Ты первый, ён другей, а я ўжо сьлідачок.*

**Сляпуючы** (сьляпу́ючы) *прысл.* Не бачачы. *Уляцей у ямку сьляпу́ючы.*

**Спантравацца** (спунтрува́цца) -ру́-юся, -ру́-ісься; *зак.* Прывыкнуць, звыкнуць, узяць за звычай. *Спунтрува́лыся ціга́цца с ха́ты ў ха́ту.*

**Спіць** (сьпіць) сап'ю, сап'еш; *зак.* 1. Спіць. *Вяршкі з гырлачоў сьпілі.* 2. Выпіць.

**Страднік** *м. часта іран.* Мучанік. *Жа́лка глядзець на тых коні ны стра́днікыў — месюцца галодныя лі балота.*

**Страллё** (стрaltльлё) *н.* Прымітыўная зброя; стрэльба.

**Стыль** *ж.* Холад, халадэча. *Стыль, што ня вы́трывыць, хуць зьніз ныдзіва́й.*

**Сухоцце** (сухоцьця) 1. *м.* і *ж.* Вельмі худы. *Такей сухоцьця, што глядзець німа на што, адны косьці.* 2. *н.* Худзізна.

**Таўморыцца** (таўморіцца) -р-юся, -р-ісься; *незак.* 1. Тоўпіцца. *Нешта лі аборка таўморіліся ра́ньня.* 2. Вазіцца, кешкацца.

**Ткаць** -а́-ю, -а́-іш; *незак. неадабр.* 1. Торкаць; саджаць. *Нашто ён тка́іць ішчэ вербы, тут і так за́цінь усігда́.* 2. Даваць. *Дыва́й мне ткаць у рукі нейкія прясну́шкі: паку́шый.*

**Туібень** (ту́ібінь) *м. асудж.* Гультай. *Расьцець пасьледнім ту́ібнім.*

**Туркнуць** -н-у, -н-іш; *зак.* Прыкрыкнуць. *Ту́ркні, ніхай скарей зьбіра́іцца.*

**Узыйграць** -а́-ю, -а́-іш; *зак. іран.* 1. Бурна разбушавацца. 2. Моцна захацець.

**Укаснуцца** -н-у́ся, -н-есься; *зак.* Умяшацца (звыч. не да месца). *Усігда́ ўкасьнецца, як ня просюць.*

**Укласць** (уклáсьць) -д-у, -дз-еш; *зак.* 1. Укласці. 2. Моцна пабіць. *Уклáлі яму лáдна, ня скора забýдзіць.* 3. Моцна стаміць.

**Укухтываць** (укýхтывыць) -ы-ю, -ы-іш; *зак.* Хутаць.

**Уміць** уміш; *незак.* Думаць, разважаць. *Ці ýмяць яны, што зь естым скатом дзелыць будуць.*

**Умыкаць** -á-ю, -á-іш; *незак.* Умешваць. *Ні ýмыкáй ты яшчэ мяне у етыя дровы.*

**Упаяць** (упыяць) -я-ю, -я-іш; *зак.* 1. Упаяць. 2. Моцна высеч. *Дыганю — дык упыяю пýгі.*

**Ускрыць** -ы-ю, -ы-іш; *зак.* 1. Раскрыць, выкрыць. *Каб сáмі ні прізнáліся, ніхто б ня ýскрыў.* 2. Патрывожыць, узагнаць.

**Усхупіцца** -пл-юся, -п-ісься; *зак.* Усхадзіцца; растрывожыцца. *Усхýпіліся, глядзім, а тут нічога й німа.*

**Хісць** (хісьць) *ж.* Прыхільнасць. *Ні було ў нас к ім хісьці ні рáзу.*

**Цель.** *м.* Цяленне. *Карова пятым целім — ета сáмыя мылако.*

**Цяжаль** (цяжыць і ціжáль) *ж.* Цяжар. *Ціжáль пынасіў, дык у сьпіне ламоты.*

**Чэгнуць** -н-у, -н-іш; *незак.* 1. Чэзнуць. 2. Моцна хацець. *Аддáй ты яму калёсікі, ніхай ён ня чэгніць.*

**Шабуціла** (шубуціла) *м.* Буян, крыкун, дэбашыр. *Калі-то ён быў шубуціла ого якей.*

**Шалудзіцца** (шулудзіцца) -дж-уся, -дз-ісься; *незак. неадабр.* Задавацца. *Мне і глядзець праціўна, як ён стáніць шулудзіцца.*

**Шаламша** (шылымшá) *м.* і *ж. іран.* Недалёкі, няўмелы, нязграбны. *К прукурору сходзіць тыкая шылымшá,— нічога ніЙдзе ні даб'ецца.*

**Шапярня** (шыпірня) *м. гумар.* Старыя. *Ікáя молыдзіж, адна шыпірня астáлыся ў дзярэўні, век дыжывáць.*

**Шумуха** *ж. гумар.* Шум, неразбярыха. *Мы дýмылі ушчáць шумýху, ды ні пулучылыся.*

**Ягліць** -л-іць; *незак.* Карцець, хацецца. *Узноў вам ягліць злáзіць у мідунічкі.*

**Язышлівый** *прым. неадабр.* Балбатлівы, сварлівы. *Іна дужа язышлівыя, за ўсю дзярэўню.*

# ЗМЕСТ



*Юрченко Георгий Федорович.* **И катится и валится. Устойчивые словосочетания в говоре Мстиславщины.** На белорусском языке. Издательство «Наука и техника». Минск, Ленинский проспект, 68.

Рэдактар *М. Дубоўская.* Мастацкае афармленне *Л. Усачова.* Тэхнічны рэдактар *Г. Якубоўская.* Карэктар *Н. Сілко.*

АТ 07029. Здадзена ў набор 15/X-71 г. Падпісана да друку 20/I-72 г. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Друк. арк. 9,0. Ум. друк. арк. 15,1. Уч.-выд. арк. 14,3. Выд. заказ 194. Друк. заказ 943. Тыраж 1100 экз. Цана 70 к. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржкамітэта Савета Міністраў БССР па друку. Мінск, Ленінскі праспект, 68.